


**ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ**
**«МІЖНАРОДНАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ БЕЛАРУСІСТАЎ»**




**ФІЛАЛАГІЧНЫ ФАКУЛЬТЭТ**
**БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ЎНІВЕРСІТЭТА**



**ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА**
**НАН БЕЛАРУСІ**




**ПОЛЬСКІ ІНСТЫТУТ**
**У МІНСКУ**

БЕЛАРУСІКА
ALBARUTHENICA

**38**

# БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІЯ
## МОЎНЫЯ, ЛІТАРАТУРНЫЯ, ГІСТАРЫЧНЫЯ І КУЛЬТУРНЫЯ
# СУВЯЗІ

**Да 220-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча**

**Зборнік навуковых артыкулаў**
**па матэрыялах Міжнароднай навуковай канферэнцыі**
**Мінск, 21–23 чэрвеня 2018 г.**

**МІНСК**
**БДУ**
**2018**

УДК 008(476+438)(082)
ББК 74(4Беи)
Б43

*Серыя заснавана ў 1993 годзе*



Рэцэнзенты:
доктар філалагічных навук, прафесар *М. Р. Прыгодзіч;*
доктар філалагічных навук, прафесар *Л. Д. Сінькова*

Пад рэдакцыяй
кандыдата філалагічных навук *І. Э. Багдановіч*;
кандыдата філалагічных навук *М. І. Свістуновай*

Выданне ажыццёўлена пры падтрымцы Польскага Інстытута ў Мінску.

**Беларуска-польскія** моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя
Б43 сувязі : Да 220-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча: зб. навук. артык. па матэрыялах Міжнар. навук. канф. ; Мінск, 21–23 чэрвеня 2018 г. / пад рэд. І. Э. Багдановіч, М. І. Свістуновай. — Мінск: БДУ, 2018. — 440 с.: [8] с. іл. — (Беларусіка = Albaruthenica; Кн. 38).

ISBN 978-985-7119-17-2.??

Зборнік прысвечаны 220-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча і актуальным праблемам польска-беларускага ўзаемадзеяння ў галіне моўных, літаратурных, гістарычных і культурных сувязей. Яго складаюць артыкулы, заслуханыя ў якасці навуковых дакладаў і выступленняў на Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Беларуска-польскія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі: да 220-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча», праведзенай Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў 21–23 чэрвеня 2018 г. у Мінску. Асобны раздзел у зборніку прадстаўляюць матэрыялы круглага стала, які адбыўся падчас гэтай канферэнцыі і быў прысвечаны вядомым польскім даследчыкам-беларусістам Антаніне Абрэмбскай-Яблоньскай і Юзафу Абрэмбскаму.

Зборнік разлічаны на беларускіх і польскіх навукоўцаў-гуманітарыяў, беларусістаў і славістаў іншых замежных краін, усіх зацікаўленых праблемамі культурнага паграніčча і культурнага дыялогу паміж беларускім і польскім народамі ў гісторыі і сучаснасці.

**УДК 008(476+438)(082)**
**ББК 74(4Беи)**

ISBN 978-985-7119-17-2??

# ДА 220-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ АДАМА МІЦКЕВІЧА

**Андрэй Акушэвіч**
(Акадэмія паслядыпломнай адукацыі, Мінск, Беларусь)

## АДАМ МІЦКЕВІЧ ЯК ДЗІЦЯЧЫ АЎТАР

У сучасным адукацыйным і культурна-асветніцкім дыскурсе назіраецца пазіцыянаванне шматграннай асобы Адама Міцкевіча і як дзіцячага аўтара. У навуковай класіфікацыі адрозніваюць тры віды твораў дзіцячай літаратуры: 1) творы, наўпрост адрасаваныя дзецям; 2) напісаныя для дарослых творы, якія знайшлі водгук у дзяцей і ўвайшлі ў кола дзіцячага чытання; 3) творы, прыдуманыя дзецьмі [1, с. 19–20]. Тэксты, у якіх у якасці герояў прысутнічаюць дзеці, тэксты пра дзяцей і/ці для навучання дзяцей можна знайсці сярод узораў творчасці розных культурна-гістарычных эпох. Фальклорная аснова, казачнасць, містычнасць і гульнявы пачатак у творах рамантыкаў спрыялі звароту да іх дзіцячай аўдыторыі, аднак «было б заўчасным аб’явіць рамантыкаў бацькамі-заснавальнікамі дзіцячай літаратуры ў яе сучасным траічным значэнні. Яны толькі ўнеслі ў паняцце другі кампанент — літаратуру для дзяцей, арыентаваную на фальклорную “дзіцячую” казку і дзіцячую гульнявую выдумку» [1, с. 26]. Існуюць складанасці і з падзелам літаратуры на дарослую і дзіцячую, бо «строга вызначыць адрасацыю тэксту часта немагчыма: або пісьменнік не пакінуў канкрэтнага ўказання аб гэтым, або містыфікаваў абставіны нараджэння свайго дзіцячага шэдэўра, або “дзіцячым” тэкст стаў па волі рэдактараў і выдаўцоў. Мноства прычын можа стварыць “дзіцячую” ці “дарослую” рэпутацыю тэксту, маркіраваць яго сацыялагічна» [1, с. 23–24].

Сёння вучоныя актыўна вывучаюць дзяцінства як сацыякультурны феномен (гл.: [6; 12] і інш.). Амерыканскі даследчык Нэйл Постман «у якасці ключавога адрознення паміж дзецьмі і дарослымі лічыць пісьменнасць, якая распаўсюдзілася ў сувязі са з’яўленнем кнігадрукавання» [12, с. 8]. Калі адштурхнуцца ад гэтага тэзіса, то імклівае развіццё тэхналогій, станаўленне

сучаснай візуальнай культуры павінны размываць гэта адрозненне і весці да знікнення дзяцінства ці прынамсі яго значнай трансфармацыі, што не можа не ўплываць на прачытанне дзіцячай літаратуры як з боку непаўналетніх, так і дарослых. Таксама нельга ігнараваць несупадзенне «гарызонтаў чакання» чытачоў XIX, XX і XXI стагоддзяў, на чым акцэнтаваў увагу Г. Р. Яўс (гл.: [15]), і звязаныя з гэтым межы дапушчальнасці дарослага свету ў дзіцячы.

У актуальнай вучэбнай праграме па беларускай літаратуры для ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі ў 9 класе прапануецца вывучэнне паэмы А. Міцкевіча «Гражына» ў межах раздзела «Рамантызм як вядучы літаратурны напрамак». Вучні павінны ведаць змест, сэнс і мастацкія асаблівасці названага твора, кароткія звесткі пра жыццё і творчасць аўтара, яго сувязь з Беларуссю [4, с. 106]. Асобны артыкул А. Міцкевічу прысвечаны і ў адпаведным вучэбным дапаможніку [3, с. 95–100], дзе навучэнцам прэзентуецца пэўны вектар разумення твора: «ёсць яшчэ адна прычына нелюбові Літавора да Вітаўта — звычайная чалавечая зайздрасць»; «І Літавор рашаецца на здраду: заключае таемную дамову з крыжаносцамі, каб нечакана, калі сцямнее, разам рушыць на Вітаўта»; «княгіня рашаецца на адважны ўчынак. Нічога не кажучы князю, адсылае ні з чым крыжацкіх паслоў, і калі абражаныя крыжаносцы пайшлі ў наступ на Наваградскі замак, сама ўзначальвае княжацкую дружыну»; «перад намі тыповы рамантычны твор — з выключнымі героямі, выключнымі абставінамі» [3, с. 97–98]. У дадзеным выпадку паэма «Гражына» выступае не ў якасці ўласна дзіцячай літаратуры, а як элемент адукацыйнага літаратурнага канона ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі: творчасць А. Міцкевіча разам з апавяданнямі Яна Баршчэўскага са зборніка «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» становіцца прыкладам рамантызму ў літаратуры. Пры гэтым варта ўлічваць наступную заўвагу Жанны Некрашэвіч-Кароткай: «Для ўсталявання літаратурнага канона мае значэнне такая пазіцыя рэцыпіента, якая звязана з каштоўнаснымі арыентацыямі, што дазваляюць прыпісаць тэксту тое ці іншае значэнне» [11, с. 7]. У вучэбных праграмах па беларускай літаратуры папярэдніх гадоў (II і III ступень агульнай сярэдняй адукацыі) прысутнічалі і іншыя творы А. Міцкевіча: балады «Свіцязь» і «Свіцязянка», паэма «Пан Тадэвуш», урывак з верша «Бульба» [7, с. 4, 7]. У польскіх вучэбных праграмах (podstawa programowa) славуты паэт прадстаўлены шырэй: прапануюцца да вывучэння яго вершы, санеты, балады, паэмы «Дзяды», «Конрад Валенрод», «Пан Тадэвуш» (гл.: [29; 31] і інш.).

У вучэбным дапаможніку «Беларуская дзіцячая літаратура» (Мінск, 2008) падчас размовы аб творчасці Яна Чачота, прыдатнай для дзіцячага чытання, узгадваецца А. Міцкевіч, аднак асобнай гаворкі аб значэнні гэтай асобы і яго творчасці для развіцця беларускай дзіцячай літаратуры не ідзе: «Значную ролю ў гісторыі літаратуры адыгралі чачотаўскія балады <…> — творы, што ўзніклі на досвітку польскага рамантызму і, магчыма, паслужылі штуршком для паэзіі Адама Міцкевіча» [2, с. 49]. Успамінаецца паэт і ў працах, пры-

свечаных гісторыі польскай дзіцячай літаратуры: «Рамантызм, які зрабіў верш адным з асноўных жанраў лірыкі, адразу аказаў уплыў на паэзію для дзяцей. Дзіця як любімая тэма рамантычнай балады з'явілася ў "Powrocie taty" Міцкевіча — творы, які <…> мог разглядацца пры адборы чытання ў якасці сурагату рамантычнага верша» [34, с. 291–292]; «У дзіцячай літаратуры з'яўляецца, прынамсі з дзевятнаццатага стагоддзя, — своеасаблівы феномен сямейнасці (zjawisko familiarnośći). Вядомыя майстры, напрыклад, Яховіч, Канапніцка і сам Міцкевіч, як аўтар баек, звярталіся да гэтай вобласці аўтакрэацыі ў сувязі з канкрэтнымі сямейнымі падзеямі, звязанымі з выхаваннем ўласных дзяцей» [17, с. 14].

У польскамоўнай кнігавыдавецкай практыцы ў якасці твораў для дзяцей прапаноўваюць байкі, балады і дыдактычныя аповеды («powiastki») А. Міцкевіча. Спынімся на асобных выданнях. У 1893 г. была надрукавана кніга баек Міцкевіча, дзе ў прадмове адзначалася: «Некаторыя з баек, як пазначыў майстар паэзіі, перакладзеныя. Гэта сціпласць вялікага паэта. Называць іх "наследаваннямі" было б, напэўна, таксама несправядліва. Ідэя сапраўды чужая, аднак уся бліскучая дасціпная форма бясспрэчна належыць нашаму паэту. Дастаткова параўнаць шматлікія пераклады баек Лафантэна, каб ацаніць, як далёка адышоў Міцкевіч ад усіх астатніх, прынамсі адносна найлепшых перакладаў з французскага байкапісца» [18, с. 4]. Перастварэннем Лафантэна выступаюць байкі «Chłop i żmija», «Zając i żaba», «Pies i wilk», «Koza, kózka i wilk».

У «Бібліятэчцы народных універсітэтаў і школьнай моладзі» ў 1919 г. выйшлі байкі і дыдактычныя аповеды («powiastki») славутага творцы, пры гэтым некаторыя з апошніх у выданні 1893 г. аднесены да баек, а менавіта «Golono, strzyżono», «Żona uparta». Змест зборніка 1919 г. мае наступны выгляд: «Pies i wilk», «Przyjaciele», «Zając i żaba», «Koza, kózka i wilk», «Chlop i źmija», «Król chory i lisy», «Żaby i ich króle», «Osiel i pies», «Lis i kozieł», «Trójka koni», «Tchórz na wyborach», «Dzwon i dzwonki», «Pchła i rabin» (bajki); «Popas w Upicie», «Golono, strzyżono», «Żona uparta», «Krolewna Lala i król Bobo», «Pan baron» (powiastki) [20].

У серыі «Наша бібліятэка» ў 1927 г. пабачылі свет байкі паэта, да якіх залічылі і творы «Król Bobo i Krolewna Lala», «Golono, strzyżono». У прадмове з гэтай кнігі падкрэсліваецца яе адукацыйнае прызначэнне: «Байкі Міцкевіча, з якіх 12 найцікавейшых падаём тут для выкарыстання ў школах і сярод моладзі, з'яўляюцца байкамі ў значнай ступені самастойнымі» [21, с. VII]; «Байкі Міцкевіча — гэта прыемная і павучальная навука (lectura)» [21, с. VIII]; «Большая частка баек геніяльнага паэта вучыць аднак таму, што можа прыдацца кожнаму чалавеку ў розных жыццёвых абставінах» [21, с. VIII]. Да тэкстаў у дадзенай кнізе прыводзяцца тлумачэнні.

Творы А. Міцкевіча выходзяць і з адмысловымі ілюстрацыямі, што недвухсэнсоўна падкрэслівае мэтавую аўдыторыю такіх выданняў. Гэта мы бачым

і ў кнізе «Байкі» (Варшава, 1987) [19]. Адрасат твораў А. Міцкевіча можа дэклараваацца ўжо на вокладцы, пра што гаворыць выданне «Міцкевіч — дзецям» (Варшава, 1995), дзе прапанаваны байкі (сярод якіх ёсць павучальныя аповеды) і балады «Powrót Taty», «Trzech Budrysów», «Pani Twardowska» [22]. Цікавасць выдаўцоў часта выклікае апошняя з названых балад, якая ў Польшчы неаднаразова выдавалася адмыслова для дзіцячай аўдыторыі (гл.: [23; 24] і інш.). Магчыма, гэта звязана і з выхадам у 1955 годзе мультыплікацыйнага фільма з той жа назвай (рэж. Л. Маршалэк) [28]. Існуе анімацыйная экранізацыя і балады «Свіцязь» («Świteź»; рэж. К. Поляк, 2010) [33].

На польскіх інтэрнэт-рэсурсах, разлічаных на бацькоўскую аўдыторыю, тэксты А. Міцкевіча ўключаюцца ў пералік твораў для дзіцячага чытання (гл.: [26; 32; 35] і інш.). У інтэрнэт-крамах асобныя кнігі пісьменніка адназначна маркіруюцца як дзіцячая літаратура («literatura dziecięca», «dla dzieci», «książki dla dzieci i młodzieży», «6–9 lat» і г. д.) з дапамогай тэгаў і тэматычных раздзелаў (гл.: [16; 27; 30] і інш.).

Акрэсленую сітуацыю мэтазгодна звязваць і са станаўленнем польскага адукацыйнага літаратурнага канона ўстаноў адукацыі. Павучальнасць баек і дыдактычных аповедаў, фальклорнасць, казачнасць і містычнасць балад, значэнне асобы А. Міцкевіча ў гісторыі літаратуры — усё гэта спрыяла ўключэнню твораў славутага аўтара ў кола дзіцячага чытання, пазіцыянаванню іх як дзіцячых.

У анталогіі польскай дзіцячай паэзіі ў перакладзе на беларускую мову «Каляровая карова» (Мінск, 2007) прадстаўлены і тэксты А. Міцкевіча, а менавіта: «Сябры», «[Голены, стрыжаны]» і «Смерць палкоўніка», якія аднесены ўкладальнікам да раздзела «Дыдактыка». У біяграфічных звестках пра паэта з гэтага выдання знаходзім наступны заклік: «Таму чытайма найвялікшага Міцкевіча нашым дзецям, перадавайма з яго творчасцю духоўную спадчыну нашага краю, бо прадстаўленыя вершы сапраўды звязаны з мясцовымі легендамі, а верш “Сябры”, напісаны паэтам у 1829 г., канкуруе жывасцю мясцовай показкі, яскравасцю расповеду з вядомай у расійскай сістэме дзіцячай дыдактыкі гісторыяй “Два таварышы”, якую вялікі Леў Талстой, народжаны ў 1828 г., як бы няпоўна паўтарае за Міцкевічам толькі праз сорак гадоў» [5, с. 38]. Ва ўступным артыкуле з самага поўнага (на момант публікацыі) выдання на беларускай мове твораў выхадца з Наваградчыны Кастусь Цвірка не гаворыць пра адносіны паэта да дзіцячай літаратуры [10, с. 5–34].

Байкі, дыдактычныя аповеды і балады А. Міцкевіча на беларускую мову перакладалі Анатоль Астрэйка, Рыгор Барадулін, Аляксей Зарыцкі, Кандрат Крапіва, Уладзімір Корбан, Янка Купала, Серж Мінскевіч, Васіль Сёмуха і інш. У 1955 г. выбраныя творы А. Міцкевіча ў перакладзе на рускую мову былі надрукаваны ў Дзяржаўным выдавецтве дзіцячай літаратуры Міністэрства асветы РСФСР [8].

Беларускі вучоны Вольга Праскаловіч адзначае: «зацікавіць, захапіць вучняў “залатой палічкай” можна толькі ў тым выпадку, калі самі творы актуальныя з пазіцыі сённяшняга дня, а методыка іх вывучэння будзе арыгінальнай, выключнай, нечаканай, нават эфектнай» [13, с. 48]. Таксама даследчыца называе навуковыя крытэрыі адбору зместу навучання беларускай літаратуры: цэласнае адлюстраванне ў змесце навучання мэты і актуальных задач літаратурнай адукацыі; навуковая і практычная значнасць (забеспячэнне развіцця ключавых кампетэнцый); адпаведнасць складанасці зместу навучання рэальным вучэбным і псіхолагаўзроставым магчымасцям вучняў; адпаведнасць аб’ёму зместу навучання часу, які адводзіцца на вывучэнне прадмета згодна з вучэбным планам [14]. Разам з тым трэба памятаць аб свецкім характары беларускай адукацыі, аб маральнасці і выхаваўчым аспекце літаратуры. У сувязі з гэтым сёння праблематычна ўявіць у беларускай адукацыйнай прасторы баладу «Пані Твардоўска», падзеі якой адбываюцца ў карчме, дзе ўсе шчыра гуляюць, а галоўны герой спрабуе ўратавацца ад нячыстай сілы і робіць гэта дзякуючы жонцы, што паказана ў вельмі сумніўным святле (гл.: [10, с. 96–100; 23]). Для ілюстрацыі прывядзём першыя чатыры радкі названай балады:

Jedzą, piją, lulki palą,
Tańce, hulanka, swawola;
Ledwie karczmy nie rozwalą,
Cha, cha! chi, chi! hejża! hola! [23, с. 3].

Вылучым асобныя творы А. Міцкевіча, якія разам з тымі, што ўжо пападалі ў вучэбныя праграмы, могуць быць запатрабаваныя ў беларускім адукацыйным працэсе, у тым ліку на I ступені агульнай сярэдняй адукацыі, прынамсі ў якасці «пазапраграмнага» чытання. Глыбокі сэнс мае невялікая байка «Dzwon i dzwonki».

**Dzwon i dzwonki**

Dzwonki razu jednego świegotały z wieży
Do dzwona, który w piasku pod kościołem leży:
«Widzisz, bracie, choć mniejsi, jak śpiewać umiemy;
Cóż tobie po wielkości, gdyś głuchy i niemy?»
«O głośni braciszkowie! — dzwon smutny zaszeptał,
Dziękujcie plebanowi, że mię w piasek wdeptał» [18, с. 21].

Выбітным байкапісцам Кандратам Крапівой зроблены пераклад дадзенага твора на беларускую мову, які атрымаў загаловак «Звон і звонікі» [9, с. 165]. Пасля чытання і абмеркавання гэтага тэксту можна перайсці да размовы аб званарскім мастацтве і сакральнай архітэктуры Беларусі. Таксама ў якасці

дадатковага задання чытачам мэтазгодна пашукаць аналогіі і адрозненні паміж творам А. Міцкевіча і байкай Івана Крылова «Слон і Моська».

Перспектыўная ў адукацыйным плане байка «Lis i kozioł». Хітры ліс, палюючы на гуску, папаўся ў пастку — студню, але не разгубіўся ў складанай сітуацыі і знайшоў выйсце:

Lis wnet spuścił pysk na dno, udając, że pije,
Cmoka mocno, głośno chłepce
I tak sam do siebie szepce:
«Oto mi woda! Takiej nie piłem, jak żyję!
Smak lodu, a czysta cudnie!
Chce mi się całemu spłókać,
Ale mi ją szkoda zbrukać,
Szkoda!
Bo co też to za woda!»
Kozioł, który tam właśnie przyszedł wody szukać:
«Ej!» — krzyknął z góry — «ej ty ryży kudła!
Wara od źródła!»
I hop w dół. Lis mu na kark, a z karku na rogi,
A z rogów na drąg — i w nogi [21, с. 7–8].

Чытачам будзе карысна абмеркаваць паводзіны ліса і казла, падумаць над мараллю байкі, падабраць іншыя творы, у якіх у вельмі складанай сітуацыі героі не апускалі рук і выходзілі пераможцамі (сярод варыянтаў адказаў могуць быць наступныя: Л. Панцялееў «Дзве жабкі», Джулія Дональдсан «Груфала» і інш.). Пасля размовы аб тым, што вельмі часта за жывёламі ў казках і байках замацаваныя пэўныя характарыстыкі, можна паразважаць над праблемай стэрэатыпаў у рэальным жыцці. Названы твор А. Міцкевіча на беларускую мову пераклаў У. Корбан [10, с. 180–181].

Байка «Przyjaciele» (ці, паводле анталогіі «Каляровая карова», верш) мае выразны выхаваўчы патэнцыял. Двое сяброў Мешак і Лешак сутрэлі мядзведзя. Лешак узлез на дрэва і не дапамог Мешку, які ўпаў на зямлю як нежывы. Мядзведзь панюхаў апошняга і не крануў. Завяршаецца гісторыя наступным чынам:

Dopieroż Mieszek odżył… — «Było z tobą krucho!»
– Woła kum — «szczęście, Mieszku, że cię nie zadrapał!
Ale co on tak długo tam nad tobą sapał,
Jakgdyby cóś miał powiadać na ucho?» —
«Powiedział mi», rzekł Mieszek, «przysłowie niedźwiedzie:
Że prawdziwych przyjaciół poznajemy w biedzie» [21, с. 38–39].

Пад назвай «Сябры» дадзены твор на беларускую мову пераклалі Кандрат Крапіва [9, с. 167–168] і С. Мінскевіч [5, с. 39]. Гэты тэкст дазваляе паразважаць над пытаннем «Каго можна назваць сапраўдным сябрам?» З мэтай развіцця даследчых здольнасцей можна параўнаць аповед А. Міцкевіча з «Двума таварышамі» Л. Талстога.

Сярод баек у згаданым вышэй выданні 1927 года знаходзіцца твор «Ludzie na czystem polu», які вядомы таксама пад назвай «Przypowieść emigracyjna» (гл.: [25, с. 423]):

**Ludzie na czystem polu**

Ludzie na czystem polu stawili dom nowy,
Opodal z ropuchami kłóciły się sowy.
Rzekła sowa: to dla mnie budują pokoje, —
A ropucha ziewnęła: moje to są, moje!
Rzekł człowiek: sowy dotąd żyły w rozpadlinach,
A ropuchy w pogniłych ścianach i szczelinach,
My budujem podłogę czystą i dach nowy,
A gdzież tam będzie miejsce dla żab i dla sowy? [21, с. 23]

Як байку («Людзі на чыстым полі») гэты тэкст пераклаў Анатоль Астрэйка [9, с. 173]. Чытачы могуць паразважаць аб актуальнасці гэтага твора і паспрабаваць аргументавана даказаць, якое жанравае азначэнне для яго будзе больш слушным: байка ці прыпавесць. На прыкладзе дадзенага тэксту можна паказаць у якой ступені на разуменне твора можа ўплываць яго загаловак.

Такім чынам, у сучасным адукацыйным і культурна-асветніцкім дыскурсе і Беларусі, і Польшчы А. Міцкевіч пазіцыянуецца таксама як дзіцячы аўтар. Яго асобныя байкі, балады і дыдактычныя аповеды маюць пэўны патэнцыял для выкарыстання ў адукацыйным працэсе, аднак пры гэтым трэба ўлічваць патрабаванні да твораў такога кшталту, неаднолькавасць «гарызонтаў чакання» чытачоў розных культурна-гістарычных эпох і краін, а таксама асаблівасці фарміравання адукацыйнага літаратурнага канона ўстаноў адукацыі.

## Літаратура


1. Арзамасцева, И. Н. Детская литература: учебник для студентов высш. проф. образования / И. Н. Арзамасцева, С. А. Николаева. — 5-е изд., испр. — М.: Издат. центр «Академия», 2008. — 576 с.
2. Беларуская дзіцячая літаратура: вучэб. дапам. / А. М. Макарэвіч [і інш.]; пад агул. рэд. А. М. Макарэвіча, М. Б. Яфімавай. — Мінск: Выш. шк., 2008. — 688 с.
3. Беларуская літаратура: вучэб. дапам. для 9-га кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. і рус. мовамі навучання / В. П. Рагойша [і інш.]; пад рэд. В. П. Рагойшы. — Мінск: Нац. ін-т адукацыі, 2011. — 320 с.

4. Вучэбныя праграмы для ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай і рускай мовамі навучання і выхавання. Беларуская мова. Беларуская літаратура. V–IX класы / М-ва адукацыі Рэсп. Беларусь. — Мінск: Нац. ін-т адукацыі, 2017. — 116 с.
5. Каляровая карова: анталогія польскай дзіцячай паэзіі / уклад. і пер. [з пол.] І. Кур'ян. — Мінск: І. П. Логвінаў, 2007. — 346 с.
6. Куруленко, Э. А. Детство как социокультурный феномен / Э. А. Куруленко // Изв. Самар. науч. центра Рос. акад. наук. — 2012. — Т. 14, № 2 (3). — С. 838–844.
7. Ляшук, В. А. Вывучэнне творчасці Адама Міцкевіча ў школе: дапам. для настаўнікаў устаноў, якія забяспечваюць атрыманне агул. сярэд. адукацыі з беларус. і рус. мовамі навучання з 12-гадовым тэрмінам навучання / В. Я. Ляшук. — Мінск: Аверсэв, 2003. — 110 с.
8. Мицкевич, А. Избранные произведения / А. Мицкевич. — М.: Детгиз, 1955. — 520 с. — (Школ. б-ка. для сред. шк.).
9. Міцкевіч, А. Выбраныя творы: [пер. на беларус. мову] / А. Міцкевіч. — Мінск: Дзярж. выд-ва Беларус. ССР, Рэд. маст. літ., 1955. — 270 с.
10. Міцкевіч, А. Выбраныя творы: пер. з пол. / А. Міцкевіч; уклад., прадм. і камент. К. Цвіркі. — Мінск: Беларус. кнігазбор, 2003. — 640 с. — («Беларус. кнігазбор»: маст. літ.).
11. Некрашэвіч-Кароткая, Ж. В. Вывучэнне даўняй беларускай літаратуры ў кантэксце праблемы літаратурнай кананізацыі / Ж. В. Некрашэвіч-Кароткая // Журн. Белорус. гос. ун-та. Филология. — 2018. — № 1. — С. 5–13.
12. Поливанова, К. Н. Детство в меняющемся мире / К. Н. Поливанова // Современная зарубежная психология [Электронный ресурс]. — 2016. — Т. 5, № 2. — С. 5–10. — Режим доступа: http://psyjournals.ru/files/82357/jmfp_2016_n_2_Polivanova.pdf. — Дата доступа: 01.09.2018.
13. Праскаловіч, В. У. Змест вучэбных праграм па літаратуры: тэарэтыка-метадалагічнае абгрунтаванне адбору і структуравання / В. У. Праскаловіч // Роднае слвоа. — 2013. — № 3. — С. 46–49.
14. Праскаловіч, В. У. Навучанне літаратуры і выхаванне літаратурай / В. У. Праскаловіч / Нац. адукац. партал [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://www.adu.by/en/135-aktualnaya-informatsiya/1493-navuchanne-litaratury-i-vykhavanne-litaraturaj.html. — Дата доступу: 01.09.2018.
15. Яусс, Г. Р. Досвід естетичного сприйняття і літературна герменевтика / Г. Р. Яусс; пер. з німец. Р. Свято і П. Таращук. — Київ: Основи, 2011. — 624 с.
16. Bajki. Adam Mickiewicz // Lubimyczytać.pl. — Pobrano z: http://lubimyczytac.pl/ksiazka/119836/bajki. — Dostęp: 01.09.2018.
17. Gradkowski, H. Czym jest literatura dziecięca?: (poradnik metodyczny) / H. Gradkowski. — Jelenia Góra: Karkonoska Państwowa Szkoła Wyższa w Jeleniej Górze, 2013. — 236 s.
18. Mickiewicz, A. Bajki / A. Mickiewicz. — Warszawa: Nakładem T. H. Nasierowskiego, 1893. — 38 s.
19. Mickiewicz, A. Bajki / A. Mickiewicz. — Warszawa: Nasza księgarnia, 1987. — 36 s.
20. Mickiewicz, A. Bajki i powiastki / A. Mickiewicz. — Wyd. nowe. — Warszawa [etc.]: Nakład Gebethnera i Wolffa, 1919. — 42 c. — (Biblioteczka Uniwersytetów Ludowych i Młodzieży Szkolnej; 128).

21. Mickiewicz, A. Bajki: (utwory wybrane) / A. Mickiewicz. — Lwów: Warszawa: Kraków: Wydawnictwo Zakładu Narod. im. Ossolińskich, 1927. — VIII, 39 c. — (Nasza bibljoteka; № 18).
22. Mickiewicz, A. Mickiewicz — dzieciom / A. Mickiewicz; ilustrował A. Gołębiowski. — Warszawa: Ludowa Spółdzielnia Wydawnicza, 1995. — 77 s.
23. Mickiewicz, A. Pani Twardowska: Ballada / A. Mickiewicz; ilustrował Z. Rychlicki. — Warszawa: Nasza Księgarnia, 1984. — 32 s.
24. Mickiewicz, A. Pani Twardowska i inne bajki / A. Mickiewicz. — Kraków: Zielona Sowa, 2006. — 44 s.
25. Mickiewicz, A. Poezje / A. Mickiewicz; wydanie przygotował S. Pigoń. — Lwów: Nakład Gubrynowicza i syna,1929. — T. 1: Poezje rozmaite <1817–1854>. — 528 s.
26. Najnowsze wierszyki // eDziecko.pl. — Pobrano z: http://www.edziecko.pl/czas_wolny/0,85819.html. — Dostęp: 01.09.2018.
27. Pani Twardowska: Ballada / A. Mickiewicz // Toruński Antykwariat Księgarski. — Pobrano z: http://antykwariat-torun.pl/pl/p/Pani-Twardowska-Ballada-Adam-Mickiewicz-/17454. — Dostęp: 01.09.2018.
28. Pani Twardowska. Studio Filmów Rysunkowych (Bielsko-Biała); reżyseria: L. Marszałek; autor ballady: A. Mickiewicz // Internetowa Baza Filmu Polskiego (filmpolski.pl). — Pobrano z: http://www.filmpolski.pl/fp/index.php?film=428819. — Dostęp: 01.09.2018.
29. Podstawa Programowa — Język Polski — Szkoła Podstawowa — Klasy IV–VIII / Ministerstwo Edukacji Narodowej. — Pobrano z: https://men.gov.pl/wp-content/uploads/2016/11/podstawa-programowa-%E2%80%93-jezyk-polski-%E2%80%93-szkola-podstawowa-%E2%80%93-klasy-iv-viii-.pdf. — Dostęp: 01.09.2018.
30. Powrót taty // Ceneo.pl. — Pobrano z: https://www.ceneo.pl/17586#tab=click_scroll. — Dostęp: 01.09.2018.
31. Rozporządzenie Ministra Edukacji Narodowej z dnia 30 stycznia 2018 r. w sprawie podstawy programowej kształcenia ogólnego dla liceum ogólnokształcącego, technikum oraz branżowej szkoły II stopnia // Dziennik Ustaw Rzeczypospolitej Polskiej; Ministerstwo Edukacji Narodowej. — Pobrano z: http://www.dziennikustaw.gov.pl/DU/2018/467/. — Dostęp: 01.09.2018.
32. Spis tekstów // Dzieci OnLine. Zabawa i Edukacja. — Pobrano z: http://www.dziecionline.pl/maluch/bajki.htm. — Dostęp: 01.09.2018.
33. Świteź. Studio Human Ark; reżyseria: K. Polak; autor ballady: A. Mickiewicz // Internetowa Baza Filmu Polskiego. — Pobrano z: http://www.filmpolski.pl/fp/index.php?film=4224128. — Dostęp: 01.09.2018.
34. Waksmund, R. Od literatury dla dzieci do literatury dziecięcej: (tematy — gatunki — konteksty) / R. Waksmund. — Wrocław: Wydawnictwo Uniwersytetu Wrocławskiego, 2000. — 442 c. — (Acta Universitatis Wratislaviensis; № 2275).
35. Wiersze dla dzieci // Wiersze.juniora.pl. — Pobrano z: http://wiersze.juniora.pl/mickiewicz/mickiewicz_l01.html. — Dostęp: 01.09.2018.

**Разалія Александровіч**
(Нацыянальны інстытут адукацыі, Мінск, Беларусь)

# «CZY ALLAH… TĘ LATARNIĘ ZAWIESIŁ ŚRÓD NIEBIOS OBWODU?»: ТАТАРСКІЯ ЗОРАЧКІ НА НЯБЁСАХ ТВОРЧАСЦІ АДАМА МІЦКЕВІЧА

На працягу стагоддзяў людзі размяжоўваюцца між сабой тэрыторыямі, ідэалогіямі, рэлігіямі. Але незалежна ад гэтага нашмат старэйшы Сусвет рухаецца па сваім коле, а Сонца і Зоркі свецяць аднолькава ўсім.

Іяхіму Лялевелю, свайму настаўніку, на чые лекцыі заўсёды збіраліся слухачы і які падтрымліваў арыентальны накірунак сваіх вучняў, Адам Міцкевіч прысвяціў верш з нагоды адкрыцця курса лекцый па агульнай гісторыі ў Віленскім універсітэце 6 студзеня 1822 г.:

A tak, gdzie się obrócisz, z każdej wydasz stopy,
Żeś znad Niemna, żeś Polak, mieszkaniec Europy.
A słońce Prawdy wschodu nie zna i zachodu;
Równie chętne każdego plemionom narodu…[18, с. 305]

Сёння Міцкевіча хочуць бачыць сваім не толькі палякі і беларусы, але ўкраінцы, рускія, татары, яўрэі і многія іншыя народы і дзяржавы. На працягу двух стагоддзяў, калі лічыць ад часу з'яўлення ў Вільні двух зборнікаў Адама Міцкевіча (1822 і 1823 гг.), сусвет яго паэзіі належыць чалавецтву, кожны асобны прадстаўнік якога знаходзіць для сябе тое, што асабіста яго саграявае, падбадзёрвае, натхняе.

## Чым блізкія Міцкевіч і татары?

Дзіўна было б, каб нашчадкаў «літоўскіх татараў» (агульны — ад часоў Вялікага Княства Літоўскага — этномім для татарскай супольнасці сучасных Польшчы, Літвы і Беларусі) не закранулі балады і паэмы, напісаныя паводле народных паданняў і жыцця мясцовай шляхты, не павялі за сабой на далёкую прарадзіму «Крымскія санеты», не прывабілі яго «касыды з арабскага», не адгукнуліся цеплынёй асобныя словы (цюркізмы, арабізмы, крымскія тапонімы[1])…

[1] Тапонімы ўключаны ў назвы большасці санетаў: «Stepy Akermańskie», «Cisza morska (na wysokosci Tarkankut)», «Widok gór ze stepów Kozłowa», «Bakczysaraj», «Bakczysaraj w nocy», «Bajdary», «Ałuszta w dzień», «Ałuszta w nocy», «Czatyrdah», «Droga nad przepaścią w Czufut-Kale», «Góra Kikineis», «Ruiny zamku w Bałakławie», «Ajudah».

Міцкевіч блізкі татарам па-просту ўжо таму, што ён — наш зямляк. Па краіне, у якой (калі лічыць ад пасялення ў 1397 г. па запрашэнні Вітаўта) татары на час нараджэння Міцкевіча пражывалі каля 400 гадоў. І па Навагрудку і Навагрудчыне, дзе татарская абшчына была адной з самых шматлікіх у Рэчы Паспалітай[1].

Калі Міцкевічы пасяліліся ў Навагрудку, была тут драўляная мячэць, узведзеная пасля выдання апошнім каралём Польшчы Станіславам Аўгустам прывілея 1792 г. Храм татараў-мусульман паўстаў у 1796 г. на схіле вуліцы, накіраванай у бок Валеўкі, Свіцязі, Завосся. У самым першым доме па Валеўскай вуліцы[2], побач з цэнтральнай плошчай, стаяў дом сям'і Міцкевічаў. Напэўна ж, цікаўныя шкаляры Адам і Ян (Чачот) лёгка дабягалі да будынка мячэці, а значыць, і да Татарскай вуліцы, на канцы якой месціўся мізар (татарскія могілкі). А што тычыцца Вільні, месца вучобы Міцкевіча і яго сяброў, то там была Татарская вуліца, якая сфарміравалася ў сярэднявечным горадзе, а ў пачатку XIX ст. была брукаванай і вяла ў бок прадмесця Вільні — Лукішак, дзе жылі татары і была мячэць[3].

У мемуарах, якія напісаны Францішкам Міцкевічам пад уплывам малодшага брата Адама і яго сябра Эдварда Адынца і якія ахопліваюць навагрудскія падзеі 1800–1812 гг., знаходзім водгук аб татарах: «Яны мелі пэўныя прывілеі, што захаваліся і пасля далучэння да Расійскай імперыі: не давалі рэкрутаў, не плацілі з залежных душ падаткаў, альбо на вечных чыншах, арэндах, альбо на ўласнай валоцы зямлі седзячы <…> Гэты народ незвычайна патрыятычны. Ён вядомы сваёй сардэчнасцю, кожны з іх нічым не здрадзіць веры. Не было выпадку, каб за злачынствы, крадзёж судзілі татарына <…> акуратныя, працавітыя, смелыя, спрытныя, яны непахісна верныя свайму слову і рашэнню» [Цыт па: 6, с. 44].

Калі казаць аб патрыятызме татарскіх воінаў у змаганнях за незалежнасць, то Францішак і яго брат маглі чуць пра гэта у тым ліку і ад бацькі. Мікалай Міцкевіч, які ўсё жыццё марыў аб вызваленні Польшчы ад «рускага іга», удзельнічаў у паўстанні пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. У гэтым паўстанні чынны ўдзел прымалі і татарскія фарміраванні. Мяркуем, бацька паэта

---

[1] Напрыклад, на тэрыторыі яшчэ нядаўняй Рэчы Паспалітай у 1817 г. сярод 1571 жыхароў Навагрудка жыло 319 татараў, сядзібы якіх у асноўным месціліся па вуліцах Спартовай, Татарскай, Мячэтавай, Аб'яздовай, у гарадскіх ваколіцах Пярэсека і Кубарка.

[2] На гэтым месцы па цяперашняй вул. Леніна, д. 1 знаходзіцца музей Адама Міцкевіча, адрас рэканструяванай у 1997 г. мячэці — вул Леніна, д. 28.

[3] На вуліцы Татарскай у д. 20 з 1911 г. дзейнічала друкарня Марціна Кухты. 14 верасня 2016 г. на будынку, які стаіць на перакрыжаванні з праспектам Гедыміна, была адкрыта дэкаратыўная сімвалічная шыльда з назвай вуліцы на крымска-татарскай мове.

быў дасведчаны і ў тым, што ўраджэнец Лоўчыцаў са знакамітага татарскага роду генерал Юзэф Беляк на пачатку чэрвеня 1794 г. узначаліў сфарміраваны ў Гродне корпус войска літоўскага [8].

Юзаф Беляк без перабольшвання быў у Рэчы Паспалітай адным, а ў некаторых выпадках і адзіным генералам, які меў здольнасць прымаць найлепшыя рашэнні, умеў разумна ацэньваць сітуацыю. Пры гэтым у генерала было палкае сэрца патрыёта. Сэрца старога генерала спынілася падчас паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі [7, с. 14].

Падчас паўстання аддалі свае жыцці многія прадстаўнікі татарскага народа; загінуў у маладым узросце палкоўнік Якуб Ясіньскі, паэт-рамантык, татарын па паходжанні, «польскі якабінец»[1]. У паэме Міцкевіча «Пан Тадэвуш» (1834) пры апісанні сядзібы звяртаюць на сябе ўвагу партрэты на сцяне (*«Сцены быццам селі, аднак партрэты даўнія на іх віселі»*). Падбор партрэтаў не выпадковы — гэта дзеячы польскага нацыянальна-вызваленчага руху. Сярод іх — Ясіньскі:

Далей Ясіньскі, юны прыгажун схмурнелы,
А поруч Корсак, сябра неадступны смелы —
Сякуць на шанцах Прагі маскалёў заўзята,
А Прага ўжо навокал полымем абнята [11, с. 309].

## Арыенталізм Адама Міцкевіча

Ці можна лічыць, што на час падарожжа па Крыме Усход быў Міцкевічу невядомы і нецікавы? Усход прываблівaў многіх прагрэсіўных людзей з Еўропы. Праз Усход выразней быў заўважны трагізм еўрапейскай культуры, што адлюстравана ў творах «Гяур»[2] Байрана, «Заходне-ўсходні кілім» Гёте, «Персідскія лісты» Мантэск'ё. У каментарах да «Санетаў» Міцкевіч у якасці выкарыстаных крыніц указвае: «West-Östlicher Divan» Гётэ (1819), «Geschichte der schönen Redekünste Persiens» Хамера (1818), «Collectanea z dziejopisów tureckych» Сянькоўскага (1824), «Chrestomatie Arabe» Сільвестра дэ Сасі (1806, 1826).

Таксама цяжка ўявіць, што Міцкевіч нічога не ведаў пра мусульманскую веру і што ніколі не трымаў у руках Каран. Тым больш, што ў 1787 г. па загадзе Кацярыны ІІ у друкарні Шнора ўпершыню ў Расійскай імперыі быў надрукаваны поўны арабскі тэкст Свяшчэннай кнігі мусульман. Каран быў

[1] Якуб Ясінскі (1761–1794) — камендант Вільні, потым генеральны камандуючы паўстанцкімі войскамі ВКЛ, пад яго кіраўніцтвам войскі занялі Вільню. Загінуў пры абароне Прагі (прадмесця Варшавы), калі 4 лістапада 1794 г. расійскае войска пад камандаваннем Суворава знішчала разам з вайскоўцамі і цывільнае насельніцтва.

[2] Пазней Міцкевіч пераклаў гэтую паэму Байрана.

надрукаваны адмыслова адлітым для гэтай мэты шрыфтам Пецярбургскай акадэміі навук, які адлюстроўваў пісьмо мулы Усмана Ісмаіла, аднаго з лепшых каліграфаў[1], і пераўзыходзіў усе арабскія шрыфты, якія існавалі тады ў друкарнях Еўропы[2]. Гэты фаліянт, вядома, быў у бібліятэках, магчыма, і прыватных — напрыклад, у Ляляверя ці Храптовічаў.

У 1790 г. у Санкт-Пецярбургу ў рускім перакладзе Міхаіла Вяроўкіна выйшла «Кніга Аль-Каран араўляніна Магамета»[3], перакладзеная з французскага перакладу Андрэ дэ Рые «La Coran…», які меў вялікую папулярнасць.

Нельга не ўзгадаць і Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна[4]. Каран у перакладзе М. Вяроўкіна знаходзіўся ў бібліятэцы Праскоўі Аляксандраўны Осіпавай, гэтым выданнем пасля вяртання ў 1824 г. з высылкі з Крыму карыстаўся Пушкін пры стварэнні паэтычнага перакладу фрагментаў 33 сур — знакамітых «Подражаний Корану»[5].

Існавалі спробы перакладу Карана і на польскую мову. Гэтаму спрыялі філаматы, асабліва тыя, хто меў дачыненне да Навагрудчыны. Калі ў 1824 г. спецыяльнай дзяржаўнай камісіяй было прынята адпаведнае рашэнне, то перакладчыкамі пажадалі стаць ксёндз Дзіянісій Хлявінскі і Ігнацій Дамейка. Узяліся за пераклад яны недзе ў 1828 г., а ў сярэдзіне наступнага года Дамейка ад імя навагрудскіх татараў падпісаў дамову з віленскім выдаўцом Тэафілам Глюксбергам. Ёсць меркаванні, што пераклад здзяйсняўся па французскім выданні «La Coran…». Першыя паведамленні аб перакладзе з'явіліся ў 1828–1830 гг. у лістах Дамейкі з Заполля ў маскоўскую высылку Ануфрыю Петрашкевічу [4]. Мяркуем, што Міцкевічу было вядома пра пераклад, які рабілі сябры.

Тут мы павінны прывесці сенсацыйнае (асабліва для татарскай супольнасці) паведамленне, якое зрабіла Ёанна Пухальская (Joanna Puchalska, Польшча) у сваім артыкуле аб дакументах (якія цудам захаваліся!) з ма-

---

[1] У музеі ў Навагрудку і ў музеі Міцкевіча ў Стамбуле захоўваюцца аўтографы паэта, выкананыя арабскай вяззю ў даволі добрай каліграфіі.

[2] Резван, Е. Коран Екатерины // Журнал «60 параллель». — 2007. — № 4 (27), декабрь.

[3] Книга Аль-Коран аравлянина Магомета, который в шестом столетии выдал оную за ниспосланную к нему с небес, себя же последним и величайшим из пророков Божиих / Автор перевода М. И. Верёвкин. — СПб., 1790.

[4] Дарэчы, Пушкін высакародна ставіў Міцкевіча вышэй за сябе.

[5] На пэўны час з-за непаразумення з бацькам Пушкін з Міхайлаўскага пераехаў у суседняе Трыгорскае, ён не без жартаў заўважаў: «Принужден был бежать из Мекки в Медину». У лісце да брата Льва ў Пецярбург паэт паведамляў: «Я тружусь во славу Корана и написал еще кое-что». У лісце ёсць просьба даслаць яму кнігі, у тым ліку кнігу І. М. Мураўёва-Апостала «Путешествие по Тавриде в 1820 году» (СПб., 1823). Гэтай самай працай карыстаўся і А. Міцкевіч пры стварэнні «Крымскіх санетаў».

ёнтка яе продкаў у Чамброве[1]: «Zbierane przez pokolenia, dziś gratka dla historyka, szczęśliwie przetrwały pierwszą wojnę światową, następnie — jakimś cudem — dwie fazy wojny bolszewickiej i dopiero sowieccy partyzanci w 1943 r. o mało nie unicestwili archiwum wraz z dworem — bo sam dwór udało im się spalić do szczętu. Ocalone z pożogi przez ostatnią dziedziczkę Marię Karpowiczową, przewiezione zostało do Polski centralnej i leżało sobie spokojnie na strychu, jako że po wojnie nikt nie miał głowy do tych spraw. Dopiero niedawno dokumenty ujrzały światło dzienne. Szukałam w nich głównie śladów Adama Mickiewicza i potwierdzenia, że Czombrów to pierwowzór Soplicowa, i wtedy doszło do zaskakującego odkrycia. Otóż wśród rodzinnych papierów przechował się napisany eleganckim, wręcz dekoracyjnym charakterem manuskrypt — fragment polskiego tłumaczenia Koranu… [23, с. 101].


Rozdział 100.
Rumaki
wydany w Mecce zawiera 11 wierszy.
w Imie łaskawego i miłosiernego Boga.
Na Konie w zawod biegące
Na Konie, które ziemię nogą kopią, i krzesą iskry
Na tych, którzy się z rana ćwiczą się w jeżdżeniu
Które wzruszaią pył biegiem raptownym;
Które przebiegaią roty nieprzyiaciół;
Człowiek niezawodnie niewdzięczny iest swojemu Panu
On sam iest Swiadkiem swey niewdzięczności
Żądza złota pożera go
Kiedy przyidą wzbudzić umarłych, z grobow ich
I gdy odkryią co było ukrytem w sercach
Czyż niewie że Bóg pozna wszystkie sprawy
Rozdział 101.
Dzień okropności
wydany w Mecce zawiera 8 wierszy.
w Imie łaskawego i miłosiernego Boga
Dzień okropności! dzień straszliwy!
Kto może ciebie odmalować?
Dnia tego ludzie są rozproszeni iak szarańcza
Góry podobnemi staną się do iedwabiu rozmaicie ufarbowanego i będą unosić się w powietrzu iak para
Ten którego uczynki będą mieć wagę, używać będzie szczęśliwości
Ten którego uczynki będą lekkie, zostanie pogrążony w przepaści
Kto tobie da wyobrażenie przepaści?
Jest to ogień naygorętszy.

◊ *Мал. 1. Аркуш з фрагментам рукапісу «чамброўскага» Карана. З прыватнага архіва*

У сваім выступленні на навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай 220-годдзю з дня нараджэння Міцкевіча «Адам Міцкевіч — талент, непадуладны часу» (г. Навагрудак, 5 кастрычніка 2018 г.) пані Пухальская выказала меркаванне, што фрагмент Карана на польскай мове мог належаць Яну Чачоту. З добрай ласкі цяперашняй уладальніцы мы атрымалі ад яе фотаздымак аднаго рукапіснага аркуша Карана, які і змяшчаем тут (мал. 1).

## «Бачыў Усход у мініяцюры»

Пасля судовага працэсу над удзельнікамі аб'яднанняў філаматаў і філарэтаў для Міцкевіча была прызначана месцам высылкі Адэса, куды ён прыбыў 17 лютага 1825 г. Адбылося гэта праз паўгода пасля таго, як скончылася высылка Пушкіна. Воляй лёсу атрымалася так, што абодва геніі прайшлі аднымі сцежкамі яшчэ да першай сустрэчы ў Маскве. Абодвум крымскія ўражанні:

[1] Чамброва знаходзіцца ў Гродзенскай вобласці, Навагрудскім раёне; у Чамброўскім маёнтку ў 1928 г. здымалі першую, нямую, экранізацыю «Пана Тадэвуша».

паветра, горы, мора, сустрэчы з «жыхарамі тутэйшымі»[1] далі штуршок для стварэння паэтычных шэдэўраў.

Паміж 22–25 ліпеня 1825 г. Міцкевіч з Адэсы здзейсніў кароткую «вылазку» ў Акерман. Паехаў ён разам з мясцовым памешчыкам К. Мархоцкім, на хутары якога Любамілы быў створаны першы варыянт санета «Акерманскія стэпы» — першага ў крымскім цыкле з 18 вершаў.

У хуткім часе Міцкевічу было прапанавана падарожжа па Крыме. Паэта суправаджалі генерал Вітт са сваім спадручным Бошнякам, Караліна Сабаньская (дарэчы, з ёю падарожнічаў па Крыме і Пушкін) з братам Генрыхам Ржавускім і адным з арандатараў маёнткаў Сабаньскіх.

Пазней з Масквы 7 (19) студзеня 1827 г. Міцкевіч напіша Лялевелю: «…Я бачыў Крым… Таптаў я хмары на Чатырдаху… Спаў на сафах Гірэяў і ў лаўровым гаёчку гуляў у шахматы з ключнікам Хана. Бачыў Усход ў мініяцюры».

У канцы 1825 г. Міцкевіч атрымаў дазвол выехаць у Маскву. Паміж прыездам у Маскву 25 снежня і перадачай у цэнзуру рукапісу санетаў 20 кастрычніка 1826 г. не прайшло і года. У верасні 1826 г. прыехаў з Міхайлаўскага ў Маскву Пушкін. Паміж 28 верасня і 24 кастрычніка адбылася першая сустрэча двух паэтаў. Шляхі нядаўніх выгнаннікаў сышліся і аб'ядналіся. У зборніку «Стихотворения Александра Пушкина» 1826 г. цэнтральнае месца занялі «Подражания Корану». 28 кастрычніка 1826 г. рукапіс Міцкевіча ўхвалены цэнзарам М. Качаноўскім і ў снежні з друкарні Маскоўскага ўніверсітэта выйшлі «Sonety Adama Mickiewicza».

Другі раз санеты былі выдадзены ў Пецярбургу з невялікімі аўтарскімі праўкамі ў складзе двухтомніка «Poezye Adama Mickiewicza» (1829), куды таксама былі ўключаны новыя творы «з арабскай» (Шанфары, Альматэнабі, Фарыс) і пераклад санета «Від гор са стэпаў Казлова» на мову фарсі М. Д. Тапчы-Башы. Пры жыцці паэта санеты змяшчаліся ў зборах твораў, якія выходзілі ў Парыжы (1828, 1838, 1844), Пазнані (1828, 1832, 1833), Варшаве (1832, 1833).

Амаль адразу пасля першага выдання 1826 г. з'явіліся пераклады. Але яшчэ да таго, як санеты былі надрукаваны, у Міцкевіча ўзнікла жаданне дапоўніць зборнік дадаткам з перакладам санета «Від гор са стэпаў Казлова» на адну з самых старадаўніх і паэтычных моваў — фарсі (персідскую). Пераклад выканаў Мірза Джафар Тапчы-Башы (у рускай традыцыі — Топчибашев), першы выкладчык персідскай мовы ў Пецярбургскім універсітэце. Сябра Міцкевіча па Віленскім універсітэце і вучань Тапчыбашава Аляксандр Ходзька падрыхтаваў для яго паслоўны пераклад з польскай мовы на персідскую

[1] Паўтараем «жыхар тутэйшы» следам за Ірынай Багдановіч, якая выкарыстоўвае гэты выраз у перакладзе санета «Чатырдах», у Міцкевіча — *muślemin*.

[21, с. 252]. Па тэхнічных прычынах санет не быў падрыхтаваны для друку так, як задумаў Міцкевіч, таму быў змешчаны ў другім выданні.

31 сакавіка 1827 г. сябра-філамат Францішак Малеўскі ў сваім дзённіку запісаў, што «Вяземскі скончыў свой пераклад санетаў. Нельга праявіць большую, чым ён, асцярожнасць ў перакладзе. Дзмітрыеў, Баратынскі прыцягваліся для паправак» [22, с. 1147]. А ў красавіку 1827 г. часопіс «Московский телеграф» змясціў увесь крымскі цыкл у перакладзе Пятра Вяземскага, які добра ведаў польскую мову і дбайна выканаў пераклад у прозе.

Аб уражанні, якое зрабілі на рускую публіку санеты, Міцкевіч сам распавядаў у лісце да сябра: «Амаль ва ўсіх альманахах (альманахаў тут выходзіць мноства) фігуруюць мае санеты: яны маюцца ўжо ў некалькіх перакладах <…> Я ўжо бачыў рускія санеты у духу маіх».

У асяроддзі Пушкіна і Вяземскага, нярэдка з іх падтрымкі, узнікалі новыя пераклады, у тым ліку сляпога паэта Івана Казлова[1]. Яго пераклад санета «Widok gór ze stepów Kozłowa»[2] шматразова перавыдаваўся (1828, 1829, 1833, 1834) як адзін з лепшых перакладаў. Праўда, Іван Казлоў даў санету назву «Вид гор из степей **Козловских**», магчыма, каб не было таўталогіі назвы стэпаў і яго прозвішча.

Пераклады санетаў, зробленыя І. А. Буніным у 1901–1902 гг., сталі класічнымі, аб чым сам Бунін пісаў у аўтабіяграфічных нататках: «К этому времени (90-е годы) относится мое увлечение некоторыми вещами Мицкевича, особенно его крымскими сонетами <…>: ради Мицкевича я даже учился по-польски» [14, с. 252–263]. С. Бэлза асабліва вылучае пераклад «Чатырдаха», які выканаў Уладыслаў Хадасевіч і які «превосходит все существующие переводы этого сонета, в том числе и бунинский» [3].

## Асаблівасці перакладу санетаў (на некалькіх прыкладах)

### «Stepy Akermańskie»

Першыя чатыры радкі самага першага з крымскага цыклу санетаў паглынаюць і заварожваюць, асабліва таго, у чыёй крыві жыве памяць пра стэп, яго бясконцасць, пах яго траў і «пах» волі:

Wpłynąłem na suchego przestwór oceanu,
Wóz nurza się w zieloność i jak łódka brodzi;
Śród fali łąk szumiących, śród kwiatów powodzi,
Omijam koralowe ostrowy burzanu [12, s. 68].

---

[1] З І. Казловым Міцкевіч пасябраваў пад канец сваёй высылкі ў Пецярбургу.

[2] *Казлоў* — старадаўні *Гезлёў*, потым *Еўпаторыя*. Адзін з адрасоў пражывання Міцкевіча ў Крыме: Еўпаторыя, вул. Караімская, 53.

Дазволім змясціць тут толькі два пераклады першай страфы на рускую (ён быў ранейшы) і беларускую мовы:

Выходим на простор степного океана.
Воз тонет в зелени, как челн в равнине вод,
Меж заводей цветов, в волнах травы плывет,
Минуя острова багряного бурьяна.

*Перевод И. Бунина*

Ўязджаю на прастор сухога акіяну.
Воз гіне ў зелені, як чайка на вадзе;
У хвалях шумных траў, між кветкамі брыдзе,
Мінаючы кусты калючага бур'яну.

*Пераклад У. Жылкі*

Наколькі блізка ўспрынялі перакладчыкі гэты твор, можна зразумець пры параўнанні розных перакладаў гэтага санета. Мы ж абіраем толькі адзін радок:

*Omijam koralowe ostrowy burzanu* (А. Міцкевіч);

*Минуя острова колючего бурьяна* (А. Майкоў);

*Плыву меж островов коралловых бурьяна* (І. Куклін);

*Минуя острова багряного бурьяна* (І. Бунін);

<…> *Астравы пулятага бур'яну* (Р. Барадулін).

Азначэнні *калючы*, *каралавы*, *баграны*, *пуляты* апісваюць расліну татарнік. Міцкевіч наведаў Акерманскія стэпы якраз у час, калі квітнеў татарнік. Татарнік калючы (лац. onopordum acanthium) адносіцца да сямейства астравых і вядомы пад назвамі *чартапалох* (памылкова), *калючнік*, *цар-Мурат*, *басурманская трава*, *дзядоўнік* і інш. Татарнік ад пачатку цвіцення ў сярэдзіне чэрвеня да сярэдзіны жніўня распускаецца пяшчотнымі ружовымі кветкамі, аточанымі калючымі лістамі. Прамое сцябло расліны і лісце ўсаджана частымі дробнымі шыпамі. Распаўсюджаная ў прычарнаморскіх стэпах расліна калючкамі чаплялася за коней і таму трапіла паўсюль, куды сягалі татарскія вершнікі.

**«Widok gór ze stepów Kozłowa»**

Міхаіл Лермантаў, які ў сваіх творах апяваў Каўказ, зрабіў пераклад адзінага санета Міцкевіча — «Вид гор из степей Козлова». З 26 лютага па канец красавіка 1838 г. Лермантаў служыў у лейб-гвардыі Гродненскага гусарскага палка, які стаяў у Наўгародскай губерні [9, с. 206, 255]. Ён звярнуўся з просьбай зрабіць падрадковы пераклад з польскай мовы да аднапалчаніна карнета Міхаіла Аляксандравіча Краснакуцкага (1819–1891). Лермантаў здолеў выказаць той самы выраз здзіўлення, які натуральны ў вуснах «сына Усходу». Гэта і вынік ўважлівага чытання Лермантавым артыкула Бялінскага аб вершах Бенядзіктава і паэтычнага перакладу сляпога паэта Казлова. Блізкасць двух вершаў (Казлова і Лермантава), асабліва ў першай частцы, заўважная: Лермантаў нават паўтарае памылку Казлова, які прыняў польскае *łuna* за *луну*: пажар Царграда ў Міцкевіча азначае заход сонца (калі яго промні адбіваюцца ад вяршыні Чатырдаха і яна на пэўны час становіцца чырвонай),

а ў Казлова і Лермантава атрымалася ноч. Абодва паэты замест традыцыйных 14 санетных радкоў стварылі верш з 23 (Казлоў) і 24 (Лермантаў) радкоў. У Казлова атрымалася на адзін радок меней, бо замест завяршальнага ў Міцкевіча ўздыху *Aa!!* (у Лермантава ён складаецца з аднога *А!..*), ён укладае ў вусны Пілігрыма не ўздых, а працяг слоў Мірзы:

Я видел спящий гром в туманной колыбели,
И над чалмой моей горела в небесах
Одна уже звезда, — и был то…
ПИЛИГРИМ
Чатырдах!

Нельга не звярнуць увагу на выбар транслітарацыі пры перадачы слоў-сімвалаў: у дыялогу Пілігрыма і Мірзы ў Міцкевіча двойчы з вуснаў Пілігрыма гучыць імя *Alla**h***, назва гары перадаецца як *Czatyrda**h***; у Казлова адзін раз *Алла* (такую форму выкарыстоўваюць Вяземскі і Пушкін) і *Чатырда**х***; у Лермантава — *Аллах* і *Бог*, *Чатырдаг*. Беларуская перакладчыца «Крымскіх санетаў» Ірына Багдановіч падае назву як «**Краявід** гор са стэпаў Казлова», ужывае двойчы форму *Ала**х*** і назву гары *Чатырдаг*.

## Мірза і Пілігрым — як героі санетаў

Звернемся да радкоў з артыкула В. Бялінскага «Стихотворения Владимира Бенедиктова» (1835), дзе знакаміты крытык гаворыць пра верш Бенядзіктава «Утёс»[1]: «Очень понятно, что автор хотел выразить здесь идею *величия в могуществе*; но здесь идея не сливается с формою; ее не чувствуешь, но только догадываешься о ней». А далей узгадваецца Міцкевіч: «Мицкевич, один из величайших мировых поэтов, хорошо понимал это великолепие и гиперболизм описаний, и потому в своих “Крымских сонетах” очень благоразумно прикидывался правоверным музульманином; и в самом деле, это гиперболическое выражение удивления к Чатырдаху кажется очень естественным в устах поклонника Мугаммеда, сына Востока» [2].

У прыведзеным выказванні прыцягвае ўвагу зварот да «Крымскіх санетаў» і да самога Міцкевіча як аднаго «из величайших мировых поэтов». Звяртаюць нашую ўвагу і формы *му**з**ульманін* і *Чатырда**х***. Мірза, ад імя якога напісаны санет, — *поклонник Мугамме**д**а, сына Востока*[2]. Трэба меркаваць, што Бялінскі ўважліва і пранікнёна пазнаёміўся з першым перакладам санетаў П. Вяземскім, а, магчыма, і з арыгінальным тэкстам санетаў. І ўслед за аўтарам і перакладчыкам паўтарыў такое напісанне. Міцкевіч у сваіх каментарах да

[1] Па матывах А. Міцкевіча У. Бенядзіктаў у 1839 г. (праз 4 гады пасля крытыкі В. Бялінскага) напісаў вершы «Бахчысарай», «Горы», «Чатырдах».

[2] Намі вылучана шрыфтам перадача польскамоўнага вымаўлення. — *Р. А.*

санета «Бахчысарай у начы» (выкарыстоўвае тлумачэнне Восіпа Сянькоўскага[1] пры характарыстыцы мячэцяў) і ўжывае форму *muzułmańskich*. Неабходна адзначыць, што такога вымаўлення прытрымліваюцца на Наваградчыне многія татары старэйшага ўзросту і сёння. Ужывае Міцкевіч і такія формы слоў як *Tatarowie*, *Mahometanow*.

Як вядома, «Крымскія санеты» маюць прысвячэнне «Таварышам Крымскай вандроўкі» (дарэчы, слова *таварыш* — цюркізм). Але размову лірычны герой вядзе не з прыхаванымі за прысвячэннем асобамі. Яго таварыш — Мірза[2]. Гэта не проста звычайны праваднік, які ведае дарогу, — гэта чалавек адукаваны, дыялог з якім цікавы і павучальны, што з'яўляецца выдатным рашэннем Міцкевіча. Дыялог узнікае не адразу, а толькі ў пятым па ліку санеце «Від гор са стэпаў Казлова», які завяршаецца ўсклікам Пілігрыма *А-а!!*. Міцкевіч тлумачыў аднаму са сваіх сяброў, што *А-а!* выказвае толькі здзіўленне Пілігрыма смеласцю Мірзы і цудамі, якія ўбачыў на вяршыні. Па-ўсходняму трэба было б сказаць, што Пілігрым пры гэтых словах паклаў у вусны палец здзіўлення[3].

Аб паважлівым стаўленні да Мірзы сведчыць і тое, што ад яго імя напісаны тры санеты: «Магілы гарэма» (санет IX), «Гара Кікінеіз» (санет XVI) і самы «ўсходні» санет «Чатырдах» (санет XIII). У санеце «Магілы гарэма» Міцкевічам пазначана: *Мірза да Пілігрыма*, а у двух другіх проста *Мірза*.

Адзначым, што санет XIV носіць назву «Пілігрым», санет XV «Дарога над прорвай у Чуфут-Кале» пабудаваны на словах Мірзы, якому даверліва адказвае Пілігрым словамі чалавека, які спасціг таемнае: *Mirzo, a ja spójrzałem!..* [12, с. 98].

Міцкевіч робіць ашаламляльную падмену, якую сам і агаворвае ў заўвагах: у санеце «Чатырдах» у ролі, якую трэба было выконваць герою ўсход-

---

[1] Восіп Юліян Сянькоўскі (1800–1858). Нарадзіўся ў маёнтку Антокаль паблізу Вільні, вучыўся ў Віленскім універсітэце. У 1819–1821 гг. падарожнічаў па Блізкім Усходзе і паўночна-ўсходняй Афрыцы (Турцыі, Сірыі, Егіпце), вывучаў культуру, геаграфію, этнаграфію, даўніну, мовы, стаў паліглотам. Заснавальнік расійскага ўсходазнаўства. Каля 25 гадоў займаў кафедру ўсходніх моў Пецярбургскага ўніверсітэта.

[2] *Мурза*, *мірза* (ад перс. *эмір-задэ* — 'сын эміра, князя'). 1. У Іране тытул членаў манаршага дома (ставіцца пасля імя) або чыноўнік, сакратар (ставіцца перад імем); 2. У цюркскіх мусульманскіх народаў з XIII ст. словам *мурза* называліся буйныя феадалы, кіраўнікі асобых ордаў і родаў. У беларускіх татар *мурза* — прадстаўнік шляхецкага саслоўя. У некаторых выпадках слова *мурза* стала часткай прозвішча, як напрыклад, *Мурзы-Мурзічы* (Паводле: Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. — Т. 5. — Мінск: БелЭН, 2000. — С. 241).

[3] Міцкевіч запазычыў выраз *паклаў у вусны палец здзіўлення* з кнігі В. Сянькоўскага, якой карыстаўся падчас працы над «Санетамі» [24, s. 263].

няй міфалогіі Рамегу, выступае архенёл Гаўрыіл. У мусульман гэтаму імю адпавядае Джабраіл (Джыбрыль), які шануецца мусульманамі як галоўны з анёлаў, найбольш набліжаны да Алаха; у Каране ён узгадваецца як ахоўнік Мухаммада, «ён спускаўся з неба і быў настолькі вялікі, што захіляў усю прастору паміж небам і зямлёй».

## «Люблю, зачараваны, Аюдаг, табою / З вяршыні пазіраць…»

Завяршае крымскі цыкл санет «Аюдаг». Міцкевіч прысвяціў яго таму, хто пасяліўся ў Крыме як прыстанку для супакаення ад кахання без адказу — Густаву Алізару, маладому паэту і рамантыку, закаханаму ў Марыю Раеўскую, як і Міцкевіч у сваю Марылю Верашчака.

Наш зямляк Валенцій Ваньковіч пасля выхаду ў 1826 г. «Крымскіх санетаў» так быў уражаны (асабліва апошнім санетам «Аюдаг»), што задумаў сваё, стаўшае амаль яго візітоўкай, палатно «Адам Міцкевіч на скале Аюдаг». Напісанне карціны пазначана 1828 г. Але можна меркаваць, што мастак пачаў сваю працу адразу пасля выхаду санетаў, бо ўжо на самым пачатку 1828 г. 4 (16) лютага Аляксандр Ходзька ў лісце з Пецярбурга да Антонія Эдварда Адынца паведамляў: «Ваньковіч зрабіў партрэт Адама маслам, у натуральную велічыню, у **крымскай**[1] бурцы, абапёртага на скалу («Люблю я, абапёршыся на скалу Аюдага») [16, с. 346]. Паэт адчувае сябе нашмат больш вольным, чым усяго некалькі месяцаў таму, чым нават пад ветразямі на караблі, калі на поўныя грудзі было адчуванне: *Lekko mi! rzeźwo! lubo! wiem, co to być ptakiem* [12, с. 72].

Цікава, што некаторы час карціна захоўвалася ў карціннай галерэі палаца Манюшкаў у Смілавічах, дзе мелася татарская абшчына. Выпіска з «Журнала прысутнасці Мінскага губернскага праўлення» ад 28 чэрвеня 1856 г. сведчыць, што памешчыцы Паўліна і Эўрэстына Манюшкі саступілі на вечныя часы пляц на пабудову Смілавіцкай магаметанскай мячэці [13].

Калі некаму з татараў пашчасціла ўбачыць паэта ў крымскай бурцы на фоне скалы, ці не адчулі яны тугу па сваёй прарадзіме? Ці не стаў для іх яшчэ больш блізкім той, хто стварыў непераўзыдзенае адчуванне стэпу, мора, гор, архітэктуры Крыма, а праз іх адчуванне пахаў, людзей… Аюдаг — гэта завяршэнне падарожжа (сапраўднага ці паэтычнага). Пілігрым ўжо зазірнуў праз шчыліну сусвету, ён быццам бы слухае тое, што не ўсе могуць пачуць, і даверліва гаворыць Мірзе:

---

[1] Вылучана намі. — *Р. А.* Пры апісанні карціны сучаснікі ўжываюць азначэнне *каўказская* бурка. Магчыма, гэта вынік асацыяцыі са створаным у 1837 г. Лермантавым «Аўтапартрэтам у каўказскай бурцы».

Mirzo, a ja spójrzałem! Przez świata szczeliny
Tam widziałem — com widział, opowiém — po śmierci,
Bo w żyjących języku nie ma na to głosu [12, c. 98].

## «Шанфары», «Альматэнабі», «Фарыс»

Яшчэ да водгукаў у расійскай і польскай прэсе Міцкевіч пісаў Ляпевелю: «<…>пусціў свае санеты ў выведкі. Калі яны будуць сустрэты годна, буду мець намер ствараць нешта больш шырокае з усходнім смакам; калі ж усе гэтыя мінарэты, намазы, ізаны і да таго падобныя барбарскія гукі не будуць успрыняты добразычліва вытанчаным слыхам класікаў, то <…> будзе мне прыкра, але пісаць я буду» [1, с. 377].

Крыху пазней пасля першага выхаду «Крымскіх санетаў» былі створаны касыды «z arabskiego»: «Шанфары» і «Альматэнабі»[1], а таксама «арабская» паэма «Фарыс»[2]. Разам з «Крымскімі санетамі» «Фарыс» і «Шанфары» ўвайшлі ў двухтомнік, выдадзены ў Пецярбургу ў 1829 г. Але ў студзені 1829 г. Адынец ужо паспеў надрукаваць «Фарыс» у альманаху «Melitela». Цыпрынус (Пржэцлаўскі) прысутнічаў пры заканчэнні Міцкевічам напісання паэмы «Фарыс», пачатай і скончанай у адзін дзень, і адразу прачытаў гатовы твор, у рукапісе якога былі выпраўлены ўсяго два словы. Касыда «Фарыс» уражвала чытачоў парывам у бясконцую даль, адчуваннем волі, бязмежнага шчасця волі, якія сыходзілі ад няспыннай энергіі вершніка, вобраз якога поўны глыбокага значэння. «Фарыс» быў перакладзены на рускую мову так хутка, як і напісаны — за адзін год чатыры разы! Пазней Арсеній Таркоўскі пераклаў і касыду «Шанфары», і касыду «Альматэнабі»[3].

---

[1] «Almotenabbi. Z arabskiego, według tłumaczenia Lagranża». Касыда ў перакладзе У. Бенядзіктава была змешчана ў пасмяротным, падрыхтаваным з удзелам дзяцей Міцкевіча, выданні: Сочиненія А. Мицкевича. — СПб.: Типографія М. О. Вольфа, 1882. — Т. I. — С. 236.

[2] «Farys. Kasyda na cześć Emira Tadż-ul-Fechra ułożona, Janowi Kozłów na pamiątkę przypisana». Эмір Тадж-уль-Фехр — Вацлаў Ржэвускі, польскі падарожнік і паэт, вандраваў па Усходзе ў 1817–1820 гг.

[3] Такім чынам, творы прайшлі шлях ад арабскай-французскай-польскай да рускай мовы. Касыду «Фарыс» Міцкевіч стварыў на падставе французскага перакладу дэ Сасі. Пазней ён атрымаў ад Сянькоўскага падрадковы пераклад на польскую мову з разгорнутымі навуковымі каментарамі. Міцкевіч з ўдзячнасцю прыняў дапамогу навукоўца і, скарыстаўшыся ёю, пастараўся па магчымасці выправіць тэкст свайго перакладу. Сянькоўскі змясціў спагадлівую рэцэнзію ў «Библиотеке для чтения» (1835, т. XI, «Литературная летопись», июнь, с. 2–3), дзе шкадаваў, што «читатели этого журнала не посвящены в тайны поэтической фразеологии персиян и турков» і адзначаў, што

## Канстанцінопаль: апошняе месца на жыццёвым шляху Міцкевіча



◊ *Мал. 2. Юліуш Козак. Адам Міцкевіч у Турцыі*

Імкненне дзейнічаць на карысць радзімы не пакідала Міцкевіча. У студзені 1847 г. ён шчыра паведамляе брату Францішку: «Мне трэба будзе яшчэ шмат зрабіць, і калі Бог прадоўжыць маё жыццё, ты яшчэ не аднойчы, дарагі брат, будзеш, магчыма, здзіўлены маёй дзейнасцю ці трывожыцца за мяне» [20, с. 110].

У 1853 г. Турцыя аб'явіла вайну Расіі. У 1855 г. паэт і патрыёт выехаў у Канстанцінопаль у якасці пасланца французскага ўрада. У лагеры пад Бургасам быў створаны Польскі легіён для барацьбы з царскай Расіяй, аднадумцаў чакаў Міхал Чайкоўскі, які ўжо паспеў прыняць турэцкі сан і тытул Садык-паша. У легіён уваходзілі выхадцы з земляў, якія адышлі да Расійскай імперыі пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, гэта былі ўдзельнікі паўстанняў 1794 і 1830–31 гг., вайны 1812 г. З Польскага легіёна хто загінуў у баях, каго забрала эпідэмія, хто вырашыў працягваць свой шлях інакш, а частка накіравалася на Каўказ і далучылася да імама Шаміля, войскі якога ўжо амаль чвэрць стагоддзя супрацьстаялі Расіі.

У Канстацінопалі Міцкевіч жыў у квартале Галата, затым у махаллі Пера. У Пера пачаў пісаць драму, героем якой быў Якуб Ясіньскі. Драма засталася незавершанай [10, с. 41].

За месяц да сваёй смерці Міцкевіч пісаў з Канстанцінопаля, што некаторыя мясціны гэтага горада здаліся яму «цалкам падобнымі на вуліцы майго роднага гарадка ў Літве» [5, с. 146].

Так сталася, што паэт раптоўна памёр у Канстанцінопалі падчас эпідэміі халеры. Але ці ад самой халеры? Магчыма, яго смерць з'явілася вынікам

---

«с этой фразеологией надобно свыкнуться долгим общением, чтобы постигнуть всю ее силу и изящность, — так она несходна с тем, что мы, западные, называем поэтическими формами». Сянькоўскі адзначаў, што рускі вершаваны пераклад «не дает даже понятия о содержании подлинника».

палітычных інтрыг? У сувязі з гэтым па дывізіі султанаўскіх казакаў са славян камандзірам быў аб'яўлены загад аб трохмесячнай жалобе. 30 снежня 1855 г. накрытую чорным сукном труну з забальзамаваным целам усталявалі на падводзе, у якую была запрэжана пара валоў. За падводай ішлі эмігранты з былой Рэчы Паспалітай, а таксама балгары, баснійцы, сербы, харваты, чарнагорцы, армяне, туркі, грэкі, габрэі, албанцы, італьянцы, французы [10, с. 41]. На іх шляху з вакольных мячэцяў у вызначаны для малітвы час даносілі гукі азана…[1] Душа паэта была ўжо высока, там дзе над усімі адзіны Бог. Смерць спасцігла яго 26 лістапада 1855 г. у няпоўныя 57.

Гэта ўжо стала традыцыяй: крымскія татары ў блізкія да 18 траўня дні здзяйсняюць узыходжанне на гару Чатырдах. У 2016 г. на яе вяршыні ўсталявалі Мемарыяльную пліту ў памяць ахвяр дэпартацыі крымска-татарскага народа ў 1944 г. Цяпер штогод памінальная малітва гучыць пад небам Крыма. Магчыма, нехта прачытае там і самы ўсходні з міцкевічавых санетаў — «Чатырдах», першыя радкі якога практычна не патрабуюць перакладу:

Drżąc muślemin całuje stopy twej opoki,
Maszcie krymskiego statku, wielki Czatyrdachu!
O minarecie świata! o gór Padyszachu! [12, с. 94]

## Літаратура


1. Адам Мицкевич. Собрание сочинений: в 5 т. / Под ред. Д. Д. Благого, М. Ф. Рыльского (гл. ред.) и др. — Т. 5. Публицистика. — М., 1954. — 860 с.
2. Белинский, В. Г. Собрание сочинений: в 3 т. / В. Г. Белинский. — Т. 1. Статьи и рецензии. 1834–1841 / Под общ. ред. Ф. М. Головешченко. — М., 1948. — 800 с.
3. Бэлза, С. К истории русских переводов Мицкевича / С. Бэлза // Советское славяноведение. — 1970. — № 6. — С. 67–73.
4. Вуйтик, З. Филомацкий перевод Аль-Корана для Новогрудских татар / Збигнев Вуйтик; пер. с польского И. М. Александровича // Байрам. — 1995. — № 1. — С. 62–63.
5. Гайба, М. Вобраз радзімы ў перапісцы Адама Міцкевіча / М. Гайба // Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры: матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі (Мінск, 7–11 верасня 1998 г.): Беларусіка=Albaruthenika; кн. 11. — Мінск, 1998. — С. 142–146.
6. Гайба, М. Сэрцу мілая Айчына: Вобраз радзімы ў жыцці і творчасці Адама Міцкевіча / М. Гайба. — Баранавічы, 2008. — 112 с.
7. Грыгор'еў, М. Войска ВКЛ ад Сасаў да Касьцюшкі (1765–1794) / М. Грыгор'еў. — Мінск, 1994. — 168 с.
8. Думін, С. Беларускія татары: Мінулае і сучаснасць / С. Думін, І. Канапацкі. — Мінск, 1993. — 206 с.
9. Елец, Ю. История лейб-гвардии Гродненского гусарского полка. 1824–1896: в 2 т. / Ю. Елец. — Т. I. — СПб., 1890. — 514 с.


[1] У Пера азан мог быць чутны з мінарэтаў мячэцяў Аюба і султана Ахмеда.

10. Мірачыцкі, Л. Светлым ценем Адама Міцкевіча: Эміграцыя з Наваградчыны / Л. Мірачыцкі. — Мінск, 1994. — 63 с.
11. Міцкевіч, А. Пан Тадэвуш, або Апошні наезд у Літве. Шляхецкая гісторыя з 1811 і 1812 гг. у дванаццаці кнігах вершам / Агул. рэд., прадм. Я. Янушкевіча; Уклад. У. Гілеп і інш.; Пер. на бел. мову П. Бітэля; Пер. на рус. мову С. Мар (Аксёнавай); Камент. В. Рагойшы, Я. Янушкевіча. — Мінск, 1998. — 880 с.
12. Міцкевіч, А. Санеты — Sonety / Уклад. У. Мархеля; пер. з пол. У. Мархеля, І. Багдановіч. — Мінск, 1988. — 158 с.
13. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. — Ф. 299, воп. 1, спр. 454, л. 1068.
14. Русская литература XX века. 1890–1910 / Под ред. С. А. Венгерова. — Кн. 7. — М., 1915. — 205 с.
15. Сочинения А. Мицкевича / А. Мицкевич. — СПб., 1883. — Т. II. —416 с.
16. Філаматы і філарэты. Зборнік / Уклад., перакл. пол. твораў, прадмова, бібліяграф. даведкі пра аўтараў і каментар. К. Цвіркі. — Мінск, 1998 — 400 с.
17. Ципринус (О. А. Пржецлавский) // Калейдоскоп воспоминаний. — 1872. — № 2. — С. 13.
18. Do Joachima Lelewela // Сочинения А. Мицкевича / А. Мицкевич. — СПб., 1882. — Т. I. — S. 305.
19. Mickiewicz, A. Dzieła / A. Mickiewicz. — T. XIV. — Cz. 1. — Warszawa, 1955. — 639 s.
20. Mickiewicz, A. Dzieła / A. Mickiewicz. — T. XV. — Cz. 2. — Warszawa, 1955. — 703 s.
21. Mickiewicz, Wł. Żywot Adama Mickiewicza / W. Mickiewicz. — T. I. — Poznań, 1929.
22. Przewodnik naukowy i literacki. — Lwów, 1898.
23. Puchalska, J. Koran w Soplicowie. Tajemnicza historia pewnego manuskryptu / J. Puchalska // Życie Tatarskie. — 2014. — № 39 (116). — S. 99–105.
24. Sękowski, J. Collectanea z dziejopisów tureckich rzeczy, do historii Polski służących / J. Sękowskiю. — T. II. — Warszawa, 1825. — 308 s.

---

**Ірына Багдановіч**
(Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, Мінск, Беларусь)

## МАТЫЎ ВАНДРОЎКІ І РАМАНТЫЧНЫ ВОБРАЗ ГЕРОЯ-ВАНДРОЎНІКА Ў ТВОРЧАСЦІ АДАМА МІЦКЕВІЧА І ЯГО ПАСЛЯДОЎНІКАЎ

Рамантызм прынёс у літаратуру вобраз новага героя — вандроўніка, які ўтварае тыпалагічны шэраг падобных герояў па аналогіі з іншымі тыпалагічнымі вобразамі рамантычных герояў: бунтара-адзінкі, мсціўцы, нешчаслівага каханка, высакароднага злачынцы ды інш. Свой пачатак падобныя героі еўрапейскага рамантызму бяруць у творчасці Дж. Г. Байрана,

Ф. Шылера, В. І. Гётэ, уплыў якіх адчувальны на ўсёй літаратуры еўрапейскага, у тым ліку славянскага рамантызму. Не выключэнне тут і рамантычная традыцыя, якая склалася ў літаратуры беларуска-польскага культурнага памежжа, распачатая ад творчасці Адама Міцкевіча. Рамантычны герой-вандроўнік адрозніваецца ад папярэдніх герояў старажытнай «падарожнай» літаратуры («хаджэнняў», «перагрынацый»). Найперш адрозніваецца мэтай вандроўкі, бо сама вандроўка для рамантычнага героя заўсёды была той ці іншай формай «уцёкаў». Мэта ж падарожнікаў старажытнай літаратуры была амаль заўсёды рэлігійна-адарацыйная, спалучаная з пазнаваўчым адкрыццём іншых краінаў і земляў, а таксама з маральна-дыдактычнымі ўрокамі падарожжа. Узорамі такой «падарожнай» прозы можна лічыць, напрыклад, добра вядомыя творы Ігнацыя Смаляніна і Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі.

Рамантычны герой-вандроўнік — герой неўладкаванага сэрца, які вымушаны ў падарожжы ратаваць сябе: ад руціны паўсядзённасці прыватнага або грамадскага жыцця; ад небяспекі праследу; у выніку канфлікту, выкліканага пэўнай жыццёвай сітуацыяй. Ва «ўцёках» рамантычны герой мусіць шукаць рэалізацыі сваіх памкненняў да «сапраўднага жыцця», да жыцця ў руху, а не ў стагнацыі, застоі. Гэта таксама і рэалізацыя ўнутранай патрэбы бунту супраць рэчаіснасці як выніку так званага рамантычнага «двухсвецця», або разрыву ўяўлення і наяўнага становішча рэчаў. Рамантычны герой-вандроўнік «байранічнага» кшталту — гэта амаль заўсёды мяцежны дух, які ратуецца вандроўкай, які пакідае радзіму ў пошуку лекаў для загаення ранаў душы або ў знак пратэсту супраць задушлівай грамадскай атмасферы. «Пошук буры» — ягоная мэта, кажучы словамі вядомага расійскага паэта-рамантыка.

## Вобраз Пілігрыма ў творчасці Адама Міцкевіча

Узорам і прыкладам для наступнага мадэлявання рамантычнага вобраза героя-вандроўніка, несумненна, быў твор Дж. Г. Байрана «Паломніцтва Чайльд Гарольда», якім захапляўся і Адам Міцкевіч. Ужо ў ранні, беларуска-літвінскі, перыяд творчасці, у 1823 г., Міцкевіч стварыў бліскучы пераклад найвядомейшага ўрыўку з гэтай паэмы «Pożegnanie Czajld Harolda» («Развітанне Чайльд-Гарольда»). Менавіта з гэтага ўрыўку матыў вандроўніцтва пачынае гучаць ў творчасці паэта, а ў далейшым акалічнасці ўласнага лёсу нададуць гэтаму матыву новыя нюансы гучання. Аднак ужо ў перакладзе-перастварэнні Міцкевіч асаблівым чынам акцэнтуе тыя моманты, якія супадаюць з яго ўласнымі перажываннямі. Развітанне байранаўскага героя з родным краем не поўнае мукі і горычы, бо нішто тут не трымае яго, у адрозненне ад пажа і збраяносца-гайдука, якіх ён кліча за сабой у вандроўку і пераконвае іх вызваліцца ад усіх прывязанасцяў, што звязваюць іх з родных краем: любоў да бацькоў, уласная сям’я. Міцкевіч жа асаблівым чынам вылучае і падкрэслівае матыў безнадзейнага кахання, што становіцца апошнім штуршком

для ўцёкаў героя: «Чаму я павінен плакаць? Па кім і дзеля каго? // Калі ніхто [там, у айчыне] па мне не плача?» — так разважае герой, прымаючы рашэнне добраахвотна пакінуць родную зямлю. Таму толькі карабель пад узнятымі ветразямі ратуе героя; ён «не дбае, да якіх берагоў прыплыве, абы назад не плысці». Такім чынам, уцёкі байранаўскага героя — гэта ў пэўным сэнсе дзёрзкі выклік сітуацыі, жаданне змяніць яе, змяніць уласны лёс, бо тут наступіў разлад у яго душы, ён перажывае спустошанасць сэрца і па ўласным жаданні выпраўляецца ў невядомасць, каб пазбавіцца гэтага разладу, напоўніць сэрца новымі адчуваннямі шляхам небяспекі, рызыкі, выпрабаванняў, пошукам экзотыкі. Па сведчанні А. Э. Адынца, Міцкевіч плакаў і знепрытомнеў, калі чытаў яму свой пераклад, асабліва радкі: *«Teraz po świecie błądzę szerokim // I pędzę życie tulacze. // Czegoż mam płakać? za kim i po kim?// Kiedy nikt po mnie nie płaczę»* [9, s. 221].

Міцкевіч тады яшчэ, безумоўна, не ведаў, але геніяльна прадчуваў, што і яго ў будучыні чакае вымушанае туляцтва, якое дадасць новыя акцэнты ў стварэнне рамантычнага вобраза героя-вандроўніка і ў яго дачыненні з пакінутай радзімай. Перш за ўсё, гістарычнай рэальнай падставай для такога вобраза стане ссылка паэта па справе філаматаў і тыя перажыванні, якія спазнае ён, будучы ссыльным, нявольнікам Расійскай імперыі, а затым эмігрантам, жыхаром славутых еўрапейскіх сталіц і гарадоў — Дрэздэна, Рыма, Парыжа, Лазанны. Народзіцца і аформіцца гэты асаблівы рамантычны вобраз героя-вандроўніка — як вобраз Пілігрыма — у 1825 г. падчас крымскай вандроўкі Міцкевіча, і менавіта Пілігрым стане лірычным героем усяго цыклу пад назвай «Крымскія санеты». А затым, у 1832 г. у Дрэздэне, вобраз трансфармуецца ў прасякнуты месіянскім духам ідэйны рух «польскага пілігрымства», мэта якога — будучае вызваленне айчыны. Літаратурнай рэалізацыяй гэтай ідэі стануць «Кнігі народа польскага і польскага пілігрымства» і сугучныя ім некаторыя сцэны III часткі паэмы «Дзяды» (1832).

Такім чынам, назіраецца істотная розніца паміж героем паэмы Байрана, які без вялікага смутку пакідае айчыну, і героем-вандроўнікам Міцкевічавых твораў. Пілігрым з «Крымскіх санетаў» — вымушаны выгнанец, якому баліць думка пра айчыну, а яна сакралізуецца ў яго ўяўленні, набывае статус «святой зямлі». Айчына — валадарка яго дум, мэта вандроўкі Пілігрыма. Менавіта гэта паэт засведчыць і ў адным з вершаў лазанскага цыклу 1839–1840 гг. «Gdy tu mój trup…» («Калі мой труп…»): *«Я маю край, айчыну маіх думак…»*. Немагчымасць вярнуцца ў айчыну прыносіць герою пакуты і выпрабаванні, асацыюецца са страчаным раем. Пілігрым Міцкевіча — гэта мастацкая алегорыя чалавека, які ідзе, чалавека ў заўсёдным руху. Гэта *Homo viator*[1] — новы чалавек, герой свайго часу, мэта якога дасягнуць збаўлення шляхам вызвалення айчыны. Менавіта такім выпісаны рамантычны герой-вандроў-

[1] Homo viator (лац.) — чалавек-падарожнік.

нік Міцкевіча — Пілігрымам, заблуканым на раздарожжах, у вымушаным выгнанні, які няўхільна крочыць да «святой зямлі», да айчыны-мары, каб збавіць і збавіцца.

Каталіцкае веравызнанне Міцкевіча, відавочна, наклала адбітак на яго светаўспрыняцце, а рамантызм актуалізаваў і зрабіў запатрабаванымі хрысціянскую асацыятыўнасць і сімволіку яго творчасці. Найбольш раннім з твораў Міцкевіча, дзе пастуляваліся філаматцкія ідэі, была песня «Hej, radością oczy błysną», якая друкуецца цяпер у беларускіх зборніках перакладаў Міцкевіча як «Песня [Адама]». Гэты твор стаў гімнам сяброўству, даверу, служэнню айчыне. Апяваючы пачуццё радаснага ўзвышанага сяброўства, у якім няма «ліслівасці, хітрасці, кпінаў», аўтар заклікаў да шчырага даверу ў адносінах, бо толькі пачуцці і жаданні адкрытых сэрцаў стануць аб'яўленнем святых праўдаў жыцця: *«Braterstwa ogniwem spięci, // Zdejmijmy z serca zasłonę, // Otwórzmy czucia i chęci. // Święte, co tu objawione!»* [9, s. 61].

Толькі з такімі адкрытымі сэрцамі можна пераступіць парог *«вечнага храма»* (адно са значэнняў слова *przybytek* мае кніжную трактоўку 'храм, святыня' і менавіта ў гэтым сэнсе яго выкарыстаў у вершы Міцкевіч). Якія ж «святыя рэчы» знаходзяцца ў гэтым храме? Гэта храм «айчыны, навукі, цноты (дабрачыннасці)», якія ў вершы праз выкарыстанне сімволікі «храма» сакралізуюцца і складаюць адмысловую філаматцкую этычную «трыяду», яна двойчы паўтараецца ў тэксце. Гэта мэта, якой годна прысягаюць сябры, і гэта ідэал, да якога ім трэба дайсці: *«Дойдзем, хоць прыкрая дарога, // Калі брат брату падасць руку, // Бо нам і неба дапамагае, // І мужнасць, праца і згода!»*. Тыя, хто знайшоў сябе ў гэтым сяброўстве, мусяць помніць і зважаць на заяўленыя правілы («Статуты»), быць вернымі сваёй прысязе: *«Pomni na przysięgę swoją // I w każdej chwili żywota // Niechaj ci na myśli stoją // Ojczyzna, nauka, cnota»* [9, s. 62]. Аб'яўленыя такім чынам тры «святыя рэчы» для філамата ствараюць ідэал, якому належыць служыць. Але, па-сутнасці, гэты ідэал мае даўнюю рыцарскую традыцыю, заглыбляецца ў этыку сарматызму з уласцівым сармацкай ментальнасці культам *айчыны, веры і свабоды*.

Міцкевіч вырас у сям'і, дзе спавядаліся гэтыя старашляхецкія рыцарскія ідэалы, паважалася права, а «Статут Вялікага Княства Літоўскага» і Канстытуцыя 3 мая 1791 года лічыліся вяршэнствам законаў. Аднак у рэальнасці гэта ўсё было ўжо страчанай спадчынай. Аб яе вяртанні і новым адраджэнні краю марыла першае (і наступныя) паднявольнае пакаленне шляхецкіх дзяцей, якія стануць філаматамі, удзельнікамі будучых паўстанняў 1830 і 1863 гг.

Шляхецка-рыцарская эпоха за чвэрць стагоддзя перад філаматамі адышла, як вядома, у гісторыю разам з разабранай на часткі ў 1795 г. Рэччу Паспалітай. Горыч паражэння і стратаў, якую перажылі іх бацькі, перадалася філаматам, яны адчувалі сябе новым пакаленнем, якому ад нараджэння накінута няволя. Ад іх учынкаў, іх салідарнасці залежала будучыня айчыны, яе вольнасць. Дзеля гэтых святых ідэалаў трэба было гартаваць свае творчыя сілы і дух, набываць веды і бачыць маральныя карані зла. Духоўныя і этычныя традыцыі,

выпрацаваныя годнымі продкамі, набывалі асаблівую каштоўнасць і значнасць. Яны набывалі статус абсалютных духоўных каштоўнасцяў. У «Песні [Адама]» яшчэ няма той ідэі змагання, якая з’явіцца ў «Одзе да маладосці». Але ўжо тут ёсць новы ідэал рыцара — рыцара духу, які спавядае ідэалы сяброўскага яднання, братэрства дзеля вялікай патрыятычнай мэты, у якой рэалізуецца Боскі запавет любові. На гэтым трымаецца рыцарская этыка філаматаў, супрацьпастаўленая панаванню няволі — «прыкрай дарозе» гвалту, несправядлівасці і ўціску. З усяго гэтага філаматы, як новыя рыцары духу, пакліканы выбавіць сваю айчыну. Прастата, шчырасць, адвага — каштоўнасці, выпрацаваныя культурай і этыкай продкаў, становяцца важнымі чыннікамі ўзаемаадносін і для маладога пакалення.

Высылка па справе філаматаў доўжылася для Міцкевіча амаль пяць гадоў: з кастрычніка 1824 па май 1829 гг. Падчас яе адбылася і крымская вандроўка, якая дала паэту моцны творчы імпульс і стварыла глебу для новага асэнсавання сябе як пілігрыма-выгнанніка і айчыны як далёкай і недасяжнай «зямлі абяцанай», злучыцца з якой можна толькі ў духу. Якія прыгожыя і дабрадайныя мясціны Міцкевіч не зведваў бы, ён заўсёды вылучаў айчыну як сціплы, някідкі, але найдаражэйшы край. Канцэнтрацыяй падобных ідэй і вобразаў стаў чатырнаццаты санет крымскага цыклу «Пілігрым»:

Зямля дастаткаў і красотаў пад нагамі,
Дзе неба яснае, без ценю аблачыны.
Чаму ж адсюль імкнецца сэрца ў далячыні,
Дзе мілы край, што кліча даўнімі часамі?

Літва! Твае лясы больш вабяць галасамі,
Чым салаўі Байдар, Сальгірыі дзяўчыны,
Там весялейшы я хадзіў дрыгвой айчыны,
Чым тут цытрынавымі райскімі садамі.

Я так далёка! І падлеглы так спакусам;
Чаму, ўспамінам развярэджаны, ўздыхаю
Па той, якую і цяпер яшчэ кахаю?

Яна ў краі, што я пакінуў пад прымусам.
Ці згадвае мяне? — у зорак я спытаю, —
Ці там сляды мае занесены ўжо друзам?

*(Пераклад наш. — І. Б.)* [7, с. 97]

Важны тут вобраз Пілігрыма, які вымушаны вандраваць па чужых краінах, але ў думках ён крочыць да сваёй Айчыны, як да святой зямлі, будучы адарваны ад яе прымусам і жорсткім лёсам. Такі вобраз — *Homo viator* як

Пілігрым у пошуках Айчыны — стане ключавым у разуменні лёсу чалавека, выгнанніка з роднага краю. У дрэздэнскі перыяд Міцкевіч менавіта так будзе ўспрымаць усіх сваіх суайчыннікаў, шматлікая колькасць якіх апынулася ў Заходняй Еўропе пасля паразы паўстання 1830–1831 гг.

Вельмі важным вобразам, злучаным з вобразам Пілігрыма, у творчасці Міцкевіча, пачынаючы з ранняга яе этапу, стане Нёман і ўвесь прынёманскі край як сімвал вялікай, але страчанай радзімы, да якой пастаянна ірвалася сэрца паэта на эміграцыі. Асабліва ярка будзе бачна гэта ў паэме «Пан Тадэвуш» — прызнанай эпапеі народнага (старашляхецкага) жыцця. «Любаснае ўзнаўленне знаёмых з дзяцінства малюнкаў вясковага жыцця і захопленае апісанне прынаваградскіх краявідаў у «Пане Тадэвушы» стварала ілюзію адбытай вандроўкі на радзіму, вяртала да духоўнага здароўя <…>, — вельмі тонка заўважаў даследчык і перакладчык твораў Міцкевіча Уладзімір Мархель. — Паэма «Пан Тадэвуш» была задумана і творча здзейснена на вяршыні настальгічнага памкнення Міцкевіча да старон бацькаўшчыны і надзеі ў прышлую магчымасць спаткання з радзімаю, здзейснена на вяршыні паэтавага «пачуцця і веры» [6, с. 90– 91]. Такім чынам, паэма «Пан Тадэвуш» была насамрэч здзейсненай, увасобленай *інтэнцыяй* вяртання Пілігрыма ў «зямлю абяцаную», духоўнага спачыну ў ёй.

## Матыў падарожжа ў творчасці Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і Уладзіслава Сыракомлі

Матыў вандроўкі і тэма вандроўніцтва, стрыжнем якой стануць таксама адносіны з родным краем, айчынай, будуць важнымі і для паслядоўнікаў Міцкевіча — пісьменнікаў беларуска-польскага літаратурнага памежжа ў сярэдзіне XIX ст. У 1850-я гады гэты матыў набывае краязнаўчыя акцэнты, актуальнай робіцца тэма пазнання самой Беларусі, якая раптам убачылася як нязведаная, невядомая краіна, якую трэба даследаваць, адкрыць, хоць літаратурныя героі нарадзіліся і выраслі менавіта тут. Так, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч у другой частцы паэмы «Літаратарскія клопаты» (1856 г.), якая мае назву «Падарожжа на Беларусь», апісвае паездку свайго героя з фурманам-беларусам Яцакам у Шчары (Шчароўскі двор), адкрываючы пад час гэтай паездкі Беларусь у тапаграфічным і гістарычным зрэзе. Каларытную адметнасць Яцака пісьменнік падкрэслівае часта ўжыванымі ў яго мове беларускімі выразамі «бадай вас» і «паночку»; а сама дарога становіцца прадметам апісання. Перад вачыма падарожных паўстаюць краявіды, гарады і мястэчкі, дзе яны прыпыняюцца «на папас»: Смалявічы, Жодзіна, Барысаў, Лошыца. У дарозе адкрываюцца старонкі гісторыі гэтых мясцінаў, іх упадак і былая слава, а ў ходзе іх узнаўлення становіцца вядомай і шляхецкая радаводная гісторыя самога Яцака, продкі якога паходзілі ад татараў: родапачынальнікам быў Мурза Туганоўскі, «званы потым Бараноўскім», які праз нязгоду з ханам пакінуў родны край і

знайшоў прытулак на Літве, быў ацэнены каралём Янам Трэцім і за адвагу атрымаў маёмасць «каля Бярэзіны». Пасля род збяднеў і, нягледзячы на шляхецкі радавод, трапіў у аднадворцы, а сам Яцак ужо «ліў пот, сярмягай простаю прыкрыўшы плечы» [3, с. 272]. Раскрывае ў такім жа ключы — ад славы да ўпадку — аўтар і «шляхецкую» гісторыю горада Барысава:

Вось і Барысаў, горад колісь слаўны, людны
З-за валаў-насыпаў глядзеў на нас аблудна.
Літоўскі Вітаўт гэтаю хадзіў дарогай,
Тут з арміяй сваёю Жыгімонт спаткаўся,
Тут доблесны Баторы з ворагам змагаўся,
Тут кесар франкаў страціў войска вельмі многа.
Было тут шмат падзей геройскіх і крывавых!
Зірні, які цяпер той гарадок каравы.
Вітай, Барысаў, места поўнае балота,
З хацін тваіх былых глядзіць на нас галота
Герояў-галышоў рассеянае Юды,
Какетліва твае нас запрашаюць бруды,
Калыска даўняй славы! <…>

*(Пераклад Пятра Бітэля)* [3, с. 272]

Такім чынам, тэма вандроўніцтва раскрываецца ў краязнаўча-пазнавальным ключы, набывае «даследчыя» акцэнты, якія прыносіць з сабою ўжо новая эстэтычная фармацыя пазітывізму, хаця рамантычныя рысы яшчэ адчувальна прысутнічаюць і ў гэтым часе, робячы больш разнастайным і багатым на адценні літаратурны дыскурс. Даследаванне роднага краю — вось ідэальная мэта вандроўкі і літаратурнага героя Уладзіслава Сыракомлі ў празаічных нарысах «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах» (1853 г.): Беларусь тут адкрываецца як *terra incognita*, як неспазнаная зямля, знаёмая і родная, але ж і невядомая, «замкнёная» ў гістарычным забыцці. Яе трэба «адкрыць», запаліць на ёю ліхтар пазнання. Менавіта на гэтым пазнанні-адкрыцці зрабіў акцэнт аўтар у прадмове да твора: «Будзем даследаваць тут гісторыю, народныя звычаі, словам, усё, што просіцца нам на пяро, а паколькі выбралі мы вельмі невялікую прастору для вандроўкі, хочам паказаць, што кожны закутак краю, хоць бы на першы погляд і не ўяўляе ён нічога надзвычайнага, можа быць прадметам даследаванняў, а даследаванні такога роду не могуць быць для нас бескарыснымі, бо не ўсе мы добра ведаем сваю зямлю…» [8, с. 175].

Параўнаў сябе аўтар нарысаў тут таксама з вобразам «старога пілігрыма», які апавядае пра любасныя мясціны свайго маленства не дзеля таго, каб, як жабрак, выпрасіць яшчэ большае падаянне, але «без ніякага тайнага разліку мы выплачваем наш доўг ваколіцы, у якой жылі» [8, с. 175]. Заканчвае свае даследча-пазнавальныя падарожныя нарысы пра Беларусь Сыракомля вер-

шам «Pielgrzym w kresu wędrówki» / «Пілігрым у канцы вандроўкі», у якім у рамантычна ўзвышаным ключы падводзіць рысу сваёй вандроўкі:

Вось, нарэшце, і абыйшоў я, радзіма,
Гарады твае, вёскі з кіем пілігрыма.
Блізка бачыў я вежы касцёлаў, крыніцы,
Падзямельныя склепы твае, камяніцы,
І каб мне пахваліцца хоць чым было можна,
Ўзяў я памятак колькі у ранец дарожны:
Частку нёманскай хвалі, камень даўняе вежы,
Завушніцу з магілы, з дрэва лісцік свежы…

*(Пераклад Кастуся Цвіркі)* [8, с. 320]

Пілігрым даў абяцанне: узяўшы кій пілігрыма, зведаць-спазнаць свой родны край, узяць з яго «памяткі», пакласці іх у *sakwę wędrownicza* (торбу вандроўніка) і пайсці ў свет, каб распавесці пра свае родныя мясціны іншым людзям, «пахваліцца» сваім краем, дзе быў шчаслівы. Таму ён узяў з сабой *«Garstkę wody niemnowej i gruz starej wieży, // Z grobowca kość nadgniła; z pola kwiatek świeży»*. Уздоўж і ўшыр стары пілігрым абышоў нёманскую старонку і пры ігрушы на родным полі сеў адпачыць, аглядаючы пражыты шлях перад новай далёкай вандроўкай, развітваючыся з родным краем, набіраючы ў грудзі яго паветра, каб быць моцным у будучых падарожжах далёка ад радзімы: *«O, strony mego serca! O, strony domowe! // Kiedy mię wicher życia daleko wyrzuca, // Niech na zapas powietrze zagarnę stąd w płuca, // Niechaj mi wzdyma piersi, niech je w głębi noszę»* [10, s. 101].

Вобразу радзімы ў вершы нададзены рамантызаваны арэол узнёсласці, у адрозненне ад больш ранняга верша Сыракомлі *«Z wrażeń poleskiej podróży» // «Уражанні з палескай вандроўкі»* (1850 г.), у якім паэт маляваў вобраз заняпалай, убогай краіны, дзе пануе галеча і нядоля, а таксама ўяўнае безнадзейнае чаканне шчасця: *«W bagnie, piasku i borze, // Przy jeziora odnodze, // Siedzi wioska w pokorze, // Jako żebrak przy drodze* <…>« [10, s. 95]. Паэт апісвае жыхароў вёскі ў льняной сярмязе альбо абдёртых, з пячаткаю нэндзы, дыму і сажы на тварах; яны жывуць у згнілых хацінах, пакрытых «замест даху лахманамі з чароту і саломы». Аднак буслы, што звілі гняздо на страсе, успрымаюцца як вестуны шчасця. Гэты мясцовы забабон, варажба аб шчасці, скептычна успрымаецца лірычным вандроўнікам, які робіць выснову, нібы выносіць прысуд: *«Wróżba wróżbą na wieki, // A niedola niedolą!»* [10, s. 96]. Безнадзейна гучыць і канцоўка верша: *«Człowiek głupszy od dzieci — // Szczęścia czeka i czeka; // A nim słońce zaświeci, // Rosa oczy wypieka»* [10, s. 96].

Такім чынам, у прыведзеным вышэй вершы вынікам уражанняў ад вандроўкі быў акцэнтаваны заняпад, аднак пры ўсім скептыцызме вандроўніка-назіральніка ў мясцовым людзе жыве надзея на добрую вестку аб шчасці. Тут

паэт ужывае алегорыю: неба прышле буслоў, каб «нішчаць вужынае племя»; і хоць ізноў далей гучыць скептычная думка: «не ў птушыных тое сілах — усім вужам знесці галовы!» — усё ж людзі не пазбаўляюцца сваіх надзей.

## У пошуку адроджанай Беларусі: *Homo viator* Янкі Купалы і Уладзіміра Дубоўкі

Матыў героя-вандроўніка, які шукае згубленую айчыну, у новым, мадэрнісцкім дыскурсе ўзновіцца на пачатку ХХ ст. у творчасці Янкі Купалы, які акцэнтуе ўвагу на гістарычных шляхах Беларусі і яе нацыянальным адраджэнні. Прыдатнай эстэтычнай формай стаў для Купалы сімвалізм: менавіта сімвалісцкую вобразнасць і сугестыўнасць скарыстаў Янка Купала ў вершы «Паязджане» (1918 г.), дзе стварыў вобраз вясельнай дружыны, якая заблукала ў бездарожжы і не можа ніяк выбіцца на ясны шлях: *«Распаўзлася па абшары // Сцюжным пухам, сцюжнай марай // Папаўзуха-завіруха — // Злога духа злыбядуха…*»; а ў гэтай беспрасветнай завірусе — *«У бездарожжа, ў беспристанне // Едуць-едуць паязджане*… [4, с. 52]. У гэтым вершы ў сімволіка-алегарычнай вобразнай форме Купала зашыфраваў думку аб нявызначанасці гістарычнага шляху Беларусі ў рэчаіснасці таго часу: верш напісаны ў самым канцы 1918 г., па заканчэнні Першай сусветнай вайны, калі многія народы вызваліліся таксама ад нацыянальнага ўціску і сталі на шлях адноўленай дзяржаўнасці. Беларусь жа заставалася ў сферы ўплыву іншых краін, перажывала панаванне розных акупацыйных рэжымаў, а яе нацыянальная эліта не мела дастатковых ваенна-эканамічных сілаў, каб замацаваць у рэальнасці абвешчаную ў сакавіку гэтага ж года незалежнасць. Таму купалаўскія «паязджане» — гэта новы сімволіка-алегарычны вобраз вандроўнікаў да роднага краю, якія шукаюць яго ў гістарычнай бездаражы. «Знойдзены» ж родны край будзе тады, калі стане свабодным і незалежным. Такая зашыфраваная думка Купалавага верша і менавіта ў такім ключы абнаўляецца ў яго творчасці матыў падарожжа.

Вобраз «паязджанаў» — вясельнай дружыны — ў гэтым вершы арганічна вынікаў з папярэдняга вобразу «Маладой Беларусі» ў аднайменным вершы, датаваным 1906–1912 гг., у якім паэт стварыў гімн новай Беларусі, што адраджаецца, каб заняць «Свой пачэсны пасад між народамі». Аднак заняцце такога «пасаду» адсоўвалася ў гістарычнай «завірусе-папаўзусе» 1918 года. Пазней, у 1924 г., у паэме «Безназоўнае» Купала вернецца да вобразу маладой «вясельніцы» (ізноў жа алегорыі Беларусі ў кароткі перыяд беларусізацыі 1920-х гг.), дасць зразумець, што ягоныя «паязджане» ўсё ж выбраліся на дарогу і ўжо — *«Спраўляюцца заручыны // Вясельніцы засмучанай // З вясёлым жаніхом»* [5, с. 124]. Але ці будзе шчаслівая «маладая Беларусь» у гэтым шлюбе? Ужо ў канцы таго ж 1924 г- паэт дасць сімвалічны адказ на гэтае пытанне ў апошніх радках верша «…О так! Я — пралетар!..»: *«Адно… не*

*збыў яшчэ ўсіх бед: Мне сняцца сны аб Беларусі!*» [4, с. 124]. Такім чынам, «падарожжа» да Беларусі з бездаражы завірухі пагрузілася ў «бяду», ці «сон», а значыць ізноў апынулася ў сферы невядомасці і нявызначанасці.

Арыгінальна разважаў у 1920-я гг. на тэму вандроўніцтва як пошуку шляхоў гістарычнага і дзяржаўнага адраджэння роднага краю і паэт-узвышэнец Уладзімір Дубоўка.

У вершы «Сцежка» (1924) паэт стварае сваё бачанне будучыні Беларусі і выказвае наступнае жаданне, падкрэсліваючы пры тым, што «не жадае ад жыцця замнога»: *«…Хай Беларусь, мой занядбаны край, // Напорным крокам йдзе сваёй дарогай: // На Ўсходзе ясныя агні гараць. // А там — вядзі хоць на зламанне шыі, // А не — цябе самое павяду. // У песнях пабудую свой трыкліні, // На лозах ніцых кіну сум-жуду»* [1, с. 83]. Такім чынам, у 1924 г. Дубоўка, як і Купала ў паэме «Безназоўнае», яшчэ злучаў геапалітычную будучыню Беларусі з перспектывай «ясных агнёў» на ўсходзе, менавіта да такога ўсведамлення вяла «сцежка» лірычнага героя верша.

У 1927 г. справа выглядала ўжо не так празрыста і адназначна. Цяпер весці сябе лірычны герой даручае не «сцежцы», што «віецца» наўпрост на ўсход, а «*скалечанаму* (у адным з варыянтаў аўтографу *атручанаму*) сэрцу», а мэта вандроўкі лірычнага героя — «легчы на каменне», стаць ахвярай сёння, каб прыйшлі новыя пакаленні і жылі «у харастве камун» (гэта значыць у сапраўднай еднасці, якая ёсць шчасцем). Заўважым, што Дубоўка ў гэтым і іншых вершах не ўжывае слова *камунізм*, а менавіта *камуна*, якое адсылае да лацінскага слова *komunia* і мае менавіта сакральны сэнс яднання, злучанасці (у Хрысціянстве — гэта злучанасць з Хрыстом у часе Эўхарыстыі). Алюзія на хрысціянскую Святую Камунію таксама надае ў вершы Дубоўкі адпаведную сакральную ўрачыстасць матыву ахвяры дзеля будучых пакаленняў, якую мусіць прынесці лірычны герой, *Homo viator* Дубоўкі, у гэтым сваім новым падарожжы, ідучы за «скалечаным сэрцам»:

І прыйдуць новыя на свет наш пакаленні,
Якія будуць жыць у харастве камун.
І вось чаму кажу — таму, таму
Не шкода згінуць, легчы на каменне.
Бо там, за горамі гадоў, падзеі,
Якія знаць не будуць нашых мук…» [1, с. 157]

Верш, як можна заўважыць, яскрава адсылае да пафасу і ідэй Міцкевічавай «Оды да маладосці», у якой Міцкевіч таксама разважаў пра ахвярнасць шляху свайго маладога пакалення дзеля будучай «заранкі свабоды». Заўважым, што паміж абодвума вершамі адлегласць часу крыху больш за сто гадоў… Такім чынам, гаворка вядзецца ізноў пра выкананне свайго паклікання цяпер ужо новым пакаленнем маладых людзей, якія, як некалі філаматы, гатовыя на ахвяры дзеля служэння айчыне, вызвалення яе ад «розных ліхадзееў».

Матыў падарожжа стане фактычна сюжэтаўтваральным у паэме Дубоўкі «Штурмуйце будучыні аванпосты». Гэтая паэма (легендарны «Камбайн»), напісаная ў 1929 г., ужо не трапіла на старонкі часопіса «Узвышша» з-за хвалі рэпрэсій. У паэме створаны вобраз цягніка, які ідзе «ад Оршы да Унечы», а Пасажыр і Кандуктар становяцца галоўнымі героямі — суразмоўцамі ў творы, прадстаўляючы кожны сваю ідэйную пазіцыю адносна сучаснасці і будучыні Беларусі. Важную ролю ў творы адыгрываюць літаратурныя ўстаўкі, сярод якіх для нас цікавы найперш пераклад Дубоўкам верша-фрагмента «Развітанне Чайльд Гарольда» з вядомай паэмы Байрана, які ў свой час пераклаў і Адам Міцкевіч, аб чым гаворка вялася вышэй. Дубоўка фактычна палемізуе з англійскім паэтам пры дапамозе гэтага перакладу. Байран з'яўляецца ў творы як літаратурны персанаж, які ад свайго імя прамаўляе развітальны маналог Чайльд Гарольда. Дасканалы пераклад Дубоўкі на беларускую мову, такі ж, як і Міцкевіча на польскую, дакладна ўзнаўляе твор ва ўсіх яго падзейных элементах (кліканне пажа і гайдука, якім шкада пакідаць айчыну, бо кожны мае прычыну, каб заставацца дома). «Сэр Чайльд» аднак зводзіць гэта на нішто, яго самога нішто не грэе ў айчыне, а вабіць толькі рамантыка падарожжа, прага навізны ўражанняў і адчуванняў. Яму адзінока і няўтульна ў родным краі, але прычына гэтага — асабісты душэўны дыскамфорт, а не знешнія абставіны:

З сабою сонца прынясе
У золку новы дзень.
Вітацьму неба, воды ўсе,
Айчыну толькі не.
Ачаг мой счах, а замак мой
Зазнаў самоты лёс.
Зрастае вал дзікой травой,
Ля брамы вые пёс [1, с. 347].

Герой расчараваны ва ўсіх зямных уцехах і радасцях, ён не пакідае нікога ў родным краі, па кім бы сумаваў сам і хто б сумаваў па ім. Таму: *«Мой карабель, імкні мяне // Праз пенны перакат. // Абы ў якой быць старане, // Каб толькі не назад»* [1, с. 349]. Яго вабіць нязведаная і «абы-якая» чужына, якая ёсць сэнсам яго руху, яго ўцёкаў. Далей лірычны герой паэмы Дубоўкі заўзята палемізуе з Байранам, крытыкуе яго пазіцыю, як бессэнсоўную: *«Джордж Байран! Вы йшлі бараніць // не грэкаў, а грэцкія міты. // Вяла вас антычнасці ніць // на поўдзень, у лаўры спавіты…// Джордж Байран! Мінула даўно // ўся гэна рамантыка ваша, // а з грэкамі туркі ўадно // для кухань лаўровы ліст важаць… // Джордж Байран! Каб ведалі вы // пра нашай краіны нядолю, // здратаваныя паплавы // і ў корань стаптанае поле…»* [1, с. 349–350]. Як можна заўважыць, Дубоўка пераводзіць размову ў план гаротнага, неўладкаванага становішча Беларусі, аднак ні ён, ні яго сябры па «Узвышшы» не

збіраюцца ўцякаць з айчыны, а гатовы ахвярна служыць яе адраджэнню. Увасабленне мары аб нацыянальным адраджэнні гучала яшчэ ў папярэдняй паэме Уладзіміра Дубоўкі «І пурпуровых ветразей узвівы», апублікаванай ў 1929 г. у часопісе «Узвышша». Паэт звяртаўся да сяброў, «супольнікаў у працы», — да свайго пакалення, як некалі да сяброў-філаматаў у філамацкіх вершах звяртаўся Адам Міцкевіч, і канстатаваў: *«У час нялёгкі выйшлі мы ў дарогу, // кагорту нашу ксцілі навальніцы. // Байкушы розныя ўздымалі скогат, — // імкнуліся прымусіць нас спыніцца. // А мы ішлі з імпэтам віратлівым, // а мы ішлі няспынна і упарта. // І пурпуровых ветразей узвівы // трымалі курс на сонечнае заўтра»* [1, с. 246].

Праз год Дубоўка будзе рэпрэсаваны як «вораг народа» і да сваёй рэабілітацыі ў 1957 г. стане вязнем Гулагу, распачаўшы вымушаную дваццацісямігадовую «вандроўку» па месцах высылкі, лагераў і «вечнага пасялення». Яго лірычны герой, *Homo viator* у падарожжы да Беларусі, — сапраўды «ляжа на каменне», куды вяло яго «скалечанае (атручанае) сэрца», дзеля «зямлі абяцанай» для будучых пакаленняў, якія «знаць не будуць нашых мук». Яго герой выканае сваё вандроўніцкае пакліканне, ягоная ахвярнасць не будзе дарэмнай, бо ягоны рух адбываўся дзеля свабоды, дзеля знішчэння ўсякага прыгону «над духам, над сэрцам, над чынам» [1, с. 350].

## Падсумаванне

Матыў падарожжа і рамантычны вобраз героя-вандроўніка ў творчасці Адама Міцкевіча і яго паслядоўнікаў у XIX і пачатку XX стагоддзяў характарызуецца дынамікай развіцця і адрознасцю спосабаў мадэлявання вобразаў у залежнасці ад мэты вандроўкі і ўзаемаадносінаў героя-вандроўніка з родным краем — айчынай. Створаны рамантычным уяўленнем Байрана герой-вандроўнік, не задаволены руцінай паўсядзённага існавання, фактычна без асаблівых душэўных пакутаў і роспачы збягае з айчыны, выпраўляецца ў рамантычныя ўцёкі, каб абнавіць свае адчуванні і ўражанні, пазбавіцца ўнутранага дыскамфорту.

У творчасці Адама Міцкевіча вобраз вандроўніка набывае аблічча Пілігрыма, які страціў айчыну не па сваёй волі. Гэта вымушаны выгнаннік з айчыны, які ў думках вандруе да яе, як да «святой зямлі», з надзеяй вярнуцца ў яе, стаўшы свабодным і шчаслівым. Новыя акцэнты тэма вандроўніцтва набывае ў сярэдзіне XIX ст., калі ў літаратуры пачынаюць дамінаваць тэндэнцыі пазітывізму. Мэтай вандроўкі ў творах В. Дуніна-Марцінкевіча і У. Сыракомлі становіцца спазнанне, даследаванне айчыны-Беларусі, якая апынулася ў гістарычным і культурным нябыце і стала фактычна невядомай, ці малавядомай для сваіх жа насельнікаў. Знайсці «забраную» айчыну, вызваліць яе, убачыць вольнай і незалежнай у сям'і народаў — такія пошукі Беларусі і яе будучыні вядзе лірычны герой паэзіі Янкі Купалы ў першыя дзесяцігоддзі XX ст. на

хвалі нацыянальнага адраджэння. Лірычны герой-вандроўнік Уладзіміра Дубоўкі — гэта герой-летуценнік, які красамоўна сказаў пра сябе: *«Летуценнем прахаджу над краем // I загіну, быццам летуценне»* [2, с. 44]. Аддаць жыццё за айчыну, «легчы на каменне», ахвяравацца дзеля будучага шчасця новых пакаленняў, каб вітаць «творчыя ўзлёты айчыны», — такая мэта падарожжа летуценніка-вандроўніка У. Дубоўкі, што збліжае яго з лірычным героем «Оды да маладосці» А. Міцкевіча.

Такім чынам, на хвалі рамантызму ў творчасці А. Міцкевіча герой-вандроўнік, адарваны злым лёсам — вымушаным выгнаннем — ад Айчыны, пілігрымуе да яе ў сваіх думках, як да мары, ажыццявіць якую аднак немагчыма ў існуючай рэчаіснасці. Час пазітывізму змяняе акцэнты, і героі-вандроўнікі ў творах В. Дуніна-Марцінкевіча і У. Сыракомлі падарожнічаюць па самой роднай краіне, па Беларусі, з мэтаю яе найлепшага спазнання і «адкрыцця». У часе мадэрнізму, калі Беларусь уступіла ў кароткі перыяд нацыянальнага адраджэння, які змяніўся доўгім перыядам рэпрэсій, героі-вандроўнікі ў творах Я. Купалы і У. Дубоўкі ізноў адпраўляюцца ў падарожжа не *па* Беларусі, але *да* Беларусі, якая становіцца «сном», «летуценнем». Яны жывуць у айчыне, але яна ізноў становіцца краінай іх мары, а яе адраджэнне — мэтаю новай пілігрымкі.

## Літаратура


1. Дубоўка, У. Збор твораў у 2 тамах. Том 1. Вершы. Паэмы. Пераклады / У. Дубоўка. — Мінск: Лімарыус, 2017. — 484 с.
2. Дубоўка, У. Творы / У. Дубоўка, У. Жылка, Я. Пушча — Мінск: Мастацкая літаратура, 2016. — 726 с. (Серыя «Залатая калекцыя беларускай літаратуры»; т. 13).
3. Дунін-Марцінкевіч, В. Творы / В. Дунін-Марцінкевіч. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1984. — 527 с.
4. Купала, Я. Поўны збор твораў у 9 тамах. Том 4. Вершы, пераклады, 1915–1929 / Я. Купала. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1999. — 446 с.
5. Купала, Я. Поўны збор твораў у 9 тамах. Том 6. Паэмы, пераклады / Я. Купала. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1999. — 430 с.
6. Мархель, У. «Ты як здароўе…»: Адам Міцкевіч і тэндэнцыі адраджэння беларускай літаратуры / У. Мархель. — Мінск: Беларуская навука, 1998. — 125 с.
7. Міцкевіч, А. Санеты=Mickiewicz A. Sonety / А. Міцкевіч; уклад. У. Мархеля; пер. з пол. У. Мархеля, І. Багдановіч. — Мінск: Полымя, 1998. — 158 с.
8. Сыракомля, У. Добрыя весці: Паэзія, проза, крытыка / У. Сыракомля. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1993. — 526 с.
9. Mickiewicz, A. Wybór poezyj. Tom. 1. Opracował Czesław Zgorzelski. Wydanie szóste zmienione / A. Mickiewicz. — Wrocław-Warszawa-Kraków-Gdańsk: Zakład Narodowy imienia Ossolińskich, 1974 (Biblioteka Narodowa. Seria I. № 6). — 250 s.
10. Syrokomla, Wł. Wybór poezji. Opracował Wacław Kubacki / Wł. Syrokomla. — Warszawa: Ludowa spółdzielnia wydawnicza, 1961. — 592 s.

**Сяргей Кавалёў**
(Універсітэт імя Марыі Складоўскай-Кюры,
Люблін, Польшча)

# «ПАН ТАДЭВУШ» АДАМА МІЦКЕВІЧА НА БЕЛАРУСКАЙ СЦЭНЕ: ПАРАДОКСЫ РЭЦЭПЦЫІ

Беларускі тэатр на дзіва доўга не звяртаўся да творчасці Адама Міцкевіча. У 60–80-я гг. XX ст., калі польскія і літоўскія рэжысёры з поспехам ставілі «Дзяды», іх беларускія калегі больш цікавіліся Славамірам Мрожекам, чым сваім славутым земляком з Наваградчыны. Беларускі тэатр адкрыў для сябе Міцкевіча толькі ў XXI ст., калі адзін за адным з'явіліся ажно тры спектаклі паводле «Дзядоў»: у Беларускім дзяржаўным тэатры лялек, у прыватным тэатры «Ч» і ў Брэсцкім дзяржаўным тэатры драмы і музыкі. Што праўда, з трох пастановак «Дзядоў» у Беларусі толькі адну ажыццявіў *беларускі* рэжысёр (Аляксандр Янушкевіч), дзве іншыя здзейснілі спецыялісты, запрошаныя з Літвы і Польшчы (Рамунэ Кудзманайтэ і Павел Пасіні).

Цалкам заканамерна, што першым творам Міцкевіча, які трапіў на беларускую сцэну, сталі менавіта «Дзяды» — драматычная паэма з гатовымі ролямі, якую можна адвольна скарачаць і інтэрпрэтаваць у залежнасці ад канцэпцыі рэжысёра і магчымасцяў тэатра (поўны тэкст «Дзядоў» быў увасоблены на сцэне толькі аднойчы — рэжысёрам Міхалам Задурам у Польскім тэатры ў Вроцлаве ў 2014 г., гэты спектакль доўжыўся 13 гадзінаў).

Але неўзабаве беларускі тэатр «замахнуўся» і на найвялікшы эпічны твор Міцкевіча: 15 студзеня 2014 г. на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы адбылася прэм'ера спектакля «Пан Тадэвуш» у пастаноўцы Мікалая Пінігіна. У беларускага гледача імя гэтага рэжысёра асацыіруецца найперш з пастаноўкамі беларускай класікі: «Ідыліі» і «Пінскай шляхты» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, «Тутэйшых» Янкі Купалы, «Сымона-музыкі» Якуба Коласа. Такім чынам, «Пан Тадэвуш» папоўніў шэраг знакавых для беларускай літаратуры твораў, увасобленых Пінігіным на купалаўскай сцэне, і яшчэ да прэм'еры выклікаў павышаную ўвагу публікі, тэатральных крытыкаў, культурнай эліты.

Задума пастаноўкі «Пана Тадэвуша» з'явілася ў Мікалая Пінігіна яшчэ ў Пецярбургу, дзе ён пражыў дзесяць гадоў, працуючы з 1998 па 2008 г. штатным рэжысёрам у Вялікім драматычным тэатры імя Г. А. Таўстаногава, і на ўласным вопыце адчуў, што такое расстанне з радзімай, чужое ментальна асяроддзе, лёс эмігранта. Там жа ён пазнаёміўся з перакладчыкам «Пана Тадэвуша» на рускую мову Святаславам Свяцкім і атрымаў ад яго ў падарунак кніжнае выданне перакладу, якое пазней забраў з сабой у Беларусь.

Узначаліўшы ў 2008 г. Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы, Пінігін у плане будучых пастановак бачыў і «Пана Тадэвуша», але толькі пасля рэканструкцыі будынка тэатра, у 2014 г. ажыццявіў сваю задуму. Сімптаматычна, што менавіта твор Міцкевіча стаў першай пастаноўкай, здзейсненай на рэканструяванай сцэне купалаўскага тэатра.

Упершыню я пачуў ад Пінігіна пра задуму паставіць спектакль паводле міцкевічаўскай паэмы ў 2010 г., калі пісаў для яго інсцэніроўку «Выкраданне Еўропы, або Тэатр Уршулі Радзівіл» на падставе трох п'ес Францішкі Уршулі Радзівіл. Увасобіць напаўзабытыя творы княгіні Радзівіл на сучаснай тэатральнай сцэне было маёй даўняй марай, і я ўдзячны Пінігіну, што ён адразу адгукнуўся на маю прапанову і паставіў дыхтоўны спектакль, прэм'ера якога адбылася 23 красавіка 2011 г. Пазней спектакль быў паказаны ў Нясвіжы, Лондане і да гэтага часу ўпрыгожвае купалаўскую сцэну даўшы пры нагодзе назву тэатральнай кавярні: «Асторыя Уршулі». Пасля завяршэння працы над «Выкраданнем Еўропы…» мы, як гэта традыцыйна бывае, дамовіліся праз пару гадоў зрабіць які-небудзь наступны сумесны праект, але вельмі неканкрэтна. І раптам усяго праз год Мікалай Пінігін звярнуўся да мяне з нечаканай прапановай: зрабіць інсцэніроўку «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча. Я вельмі здзівіўся, бо думаў, што «Пана Тадэвуша» Пінігін будзе рабіць тым самым спосабам, што і «Сымона-музыку»: як шэраг рэжысёрскіх малюнкаў-эцюдаў, глыбока асабістых і суб'ектыўных, не падпарадкаваных сюжэту, нанізваючы на нітку асацыяцый перлінкі-ўпрыгожванні ў выглядзе паэтычнага тэксту. Але аказалася, што жанр будучага спектакля рэжысёр вызначыў для сябе як «шляхоцкая гісторыя», а дзе гісторыя, там і сюжэт, таму перад вачыма гледача павінна прайсці сага-вендэта двух шляхецкіх родаў, Гарэшкаў і Сапліцаў, у поўным аб'ёме: ад трагічнай завязкі да шчаслівага фіналу.

Трэба прызнацца, спачатку прапанова Пінігіна выклікала ў мяне насцярожанасць, як і ўвогуле ягоная ідэя ставіць «Пана Тадэвуша». Мне давялося бачыць некалькі пастановак «Пана Тадэвуша» ў польскіх тэатрах, усе яны былі падкрэслена постмадэрністычныя: акцёры іранічна жанглiравалі цытатамі, вядомымі польскаму гледачу са школы, смела разбуралі стэрэатыпы рэцэпцыі хрэстаматыйнага твора, якія склаліся ў польскай культурнай традыцыі на працягу двух стагоддзяў. Пінігінская пастаноўка мелася быць першым у Беларусі тэатральным увасабленнем «Пана Тадэвуша», і ў адрозненні ад польскага гледача беларускі глядач, за рэдкім выключэннем, паэму не чытаў, а славутыя польскія гарэлкі «Сапліца» і «Пан Тадэвуш» ніколі не піў…

Ствараючы арыгінальныя п'есы на падставе беларускай літаратуры XVI–XIX стст. («Трышчан&Іжота», «Чатыры гісторыі Саламеі», «Стомлены д'ябал», «Тарас на Парнасе» і інш.), я меў поўную творчую свабоду як аўтар і даволі фрывольна абыходзіўся з тэкстам, не пакідаючы часам у п'есе ні радка з арыгіналу (п'еса «Тарас на Парнасе» напісана прозай) альбо выкарыстоўваючы фрагменты класічнага тэксту толькі ў якасці эпіграфу

(«Трышчан&Іжота»). У выпадку з «Панам Тадэвушам» такі падыход быў немагчымы: аўтарам павінен быў застацца Адам Міцкевіч, гледачы мусілі ўбачыць на сцэне менавіта «Пана Тадэвуша», а не адвольную фантазію «на тэму», задачай драматурга былоператварыць вялікі вершаваны твор (каля 400 старонак) у распісаную па ролях інсцэніроўку на 50–60 старонак, захаваўшы дух шляхецкага эпасу XIX стагоддзя і разам з іншымі стваральнікамі спектакля прыўнесці новы, беларускі погляд на класічны твор, які пакуль што ў большасці чытачоў-гледачоў асацыіруецца выключна з польскай літаратурай.

Але ўрэшце амбітная задума Мікалая Пінігіна ўвесці «Пана Тадэвуша» ў беларускую культурную прастору мяне захапіла і я ўзяўся за працу над інсцэніроўкай, якая працягвалася амаль год. Канчатковы вынік працы выглядаў наступным чынам. Пачыналася і заканчвалася інсцэніроўка Пралогам і Эпілогам, у якіх прысутнічаў вобраз Паэта і вобраз Дзяўчыны-эмігранткі. У Пралогу Паэт чытаў Дзяўчыне вядомы фрагмент сваёй лекцыі ў Колеж дэ франс пра беларускую мову, а ў Эпілогу яны разам спрабавалі пачуць у Парыжы голас Літвы (як у санеце «Акерманскія стэпы»), і ў метафізічнай прасторы чулі дзіцячыя галасы, якія дэкламавалі славуты пачатак «Пана Тадэвуша» (*Літва! Бацькоўскі край, ты як здароўе тое…*) на трох мовах: польскай, беларускай, літоўскай (у спектаклі Эпілог заменены відовішчнай сцэнай разбурэння Трыумфальнай аркі).

Даўшы веры радкам паэмы, што Зоська да выхаду ў свет увесь час бавіла з сялянскімі дзецьмі, я прыйшоў да банальнай высновы, што размаўляла яна з імі па-тутэйшаму і надзяліў гераіню некалькімі народнымі песенькамі, каб падкрэсліць беларускі каларыт паэмы. Пры нагодзе ўсвядоміў сабе, што Зосьцы, за якой увіхаюцца і Тадэвуш, і Граф, — усяго 13 гадкоў і ў паэме Міцкевіча рэплік у галоўнай гераіні няшмат.

Мікалая Пінігіна ў паэме Міцкевіча прыцягвала найперш тэма Радзімы і настальгія па сармацкай Літве, якая беззваротна сышла ў нябыт яшчэ ў XIX ст. Мяне найбольш зацікавіла тэма вайны 1812 г., якая для беларусаў — не ў першы і не ў апошні раз у гісторыі — аказалася братазабойчай. Шляхта з энтузіязмам ўступала ў шэрагі арміі Напалеона, успрымаючы паход на Маскву як барацьбу за свабоду і незалежнасць Рэчы Паспалітай. А ў шэрагах расійскай арміі ім супрацьстаялі дзясяткі тысяч беларускіх сялян, прымусова забраных у рэкруты напярэдадні 1812 г. Таму ў інсцэніроўцы з’явіліся тры ўстаўныя сцэны: 1) набор у рэкруты; 2) галашэнні сялянак па забітых сынах (у спектаклі дзве гэтыя сцэнкі па-майстэрску зведзены ў адну); 3) адступленне польска-літоўскіх харугваў напалеонаўскай арміі.

Па-за ўвядзеннем вышэйзгаданых сцэнак (пераважна пластычна-музычных і паралельных з асноўным дзеяннем) я прынцыпова не ўмешваўся ў міцкевічаўскі тэкст (у перакладзе Язэпа Семяжона, найбольш зразумелым для сучаснага гледача), скараціўшы яго да шасцідзесяці старонак, старанна

захаваўшы сюжэт і раздаўшы некаторыя аўтарскія маналогі і лірычныя адступленні героям паэмы.

Увасабляючы на купалаўскай сцэне «Пана Тадэвуша», Мікалай Пінігін імкнуўся не толькі данесці да гледача ідэю твора, але і даць яму магчымасць атрымаць асалоду ад паэтычнага слова, пакінуўшы досыць вялікія вершаваныя маналогі і дыялогі герояў. Яшчэ адной важнай задачай было паказаць вобраз аўтара паэмы як не толькі польскага, але і беларускага Генія. У якой ступені рэжысёру, драматургу, мастаку, кампазітару і акцёрам удалося выканаць гэтую задачу, а ў якой — не, паказвае дыскусія, што разгарнулася на старонках беларускай прэсы адразу пасля прэм’еры «Пана Тадэвуша».

Спектакль выклікаў шырокі рэзананс, падагрэты скандалам з забаронай міністрам культуры Барысам Святловым сцяга з Пагоняй ў фінальнай сцэне (на генеральнай рэпетыцыі сцяг прысутнічаў, а на афіцыйнай прэм’еры — не). Даўно ўжо ніводны беларускі спектакль не збіраў столькі водгукаў і рэцэнзій, аўтарамі якіх былі не толькі прафесійныя тэатральныя крытыкі, але і журналісты, пісьменнікі, грамадскія дзеячы.

У цэнтры дыскусіі апынуліся: 1) паэма Міцкевіча; 2) яе драматургічная інсцэніроўка; 3) спектакль у пастаноўцы Пінігіна.

Многія ўдзельнікі дыскусіі адзначалі складанасць эпічнай паэмы Адама Міцкевіча для тэатральнага ўвасаблення і яе незразумеласць для беларускага гледача.

Тэатральны крытык Аляксей Стрэльнікаў у спецыфіцы літаратурнага матэрыялу бачыць прычыну пэўнай статычнасці спектакля: «На маю думку, тут ёсць віна самога Міцкевіча. Спрэчкі няма, “Пан Тадэвуш” адзін з найбольш славутых твораў рамантызму, але што можа з гэтага твора ўзяць для інсцэніроўкі тэатр? Тэатр, які мы любім і цэнім, жывіцца гісторыяй. А тут… Сюжэт паэмы не сказаць, каб просты, але калі прыглядзецца, ён з сябе ўяўляе хітрае спляценне з некалькіх вельмі простых сюжэтных ліній. Пакахаў адну, потым пакахаў іншую. Крыўдзілася-крыўдзілася, і прабачыла. Ненавідзіў-ненавідзіў, і таксама прабачыў. Паэму Міцкевіча часта параўноўваюць з “Яўгенам Анегіным”, але Пушкін быў больш удалы, памясціўшы ў інтэр’еры сваёй энцыклапедыі дваранскага побыту, сапраўдную трагічную гісторыю кахання, якая лёгка становіцца падставай і для опернага лібрэта, і для сучаснай галівудскай экранізацыі» [8].

Пісьменніца Марыя Мартысевіч назвала паэму Міцкевіча «чужой пастараллю»: «Рыхтуючыся да пастаноўкі, купалаўцы шматкроць дэкларавалі, што маюць на мэце падкрэсліць: Адам Міцкевіч — таксама і наш класік. На жаль, гэтую місію трупа хутчэй праваліла. Пасля купалаўскага “Пана Тадэвуша” задаешся пытаннем: а ці такі ўжо ён наш — гэты Міцкевіч? Асноўная загвоздка, магчыма, у тым, што “Пан Тадэвуш” — твор занадта адназначны, каб быць беларускім. Гэта месцамі смешная, месцамі сумная — але пераважна дабрадушная казка, якую Міцкевіч напісаў пра сваё дзяцінства і юнацтва

на Litwie. <…> Баюся, праўда ў тым, што аўтэнтычны “Пан Тадэвуш” не адлюстроўвае той нацыянальнай драмы, якую паспрабаваў пабачыць між радкоў Мікалай Пінігін» [5].

Дасведчаны тэатральны крытык Таццяна Арлова звяртае ўвагу на цяжкасці, звязаныя з вымаўленнем і ўспрыманнем вершаванага тэксту: «Выказвацца даводзіцца вершамі. Доўгія тэксты могуць моцна напружваць гледачоў, якія пачалі прывыкаць да знакаў і метафар і кепска арыентуюцца ў сюжэце. <…> Бянтэжыць няўменне большасці акцёраў мысліць у вершаванай форме і перакідваць думкі ў глядзельную залу. Часам здаецца, што кожны акцёр проста чытае вершы, не ўступаючы ў дыялог з партнёрам і не спяшаючыся дамагчыся камунікацыі з глядзельнай залай. Магчыма, прычына ў тым, што знікла практыка работы на сцэне з вершамі. Няма яе і ў тэатральных ВНУ. Ёй трэба вучыцца. Ёю трэба валодаць» [1].

Тэатральны аглядальнік і блогер Дзяніс Марціновіч таксама звяртае ўвагу на праблему адаптацыі вершаванага тэксту і лічыць пабудаваныя рэжысёрам мізансцэны занадта статычнымі: «На маю думку, галоўнай супярэчнасцю “Пана Тадэвуша” стала праблема трансфармацыі тэксту паэмы. Гэты жанр, дзе амаль няма дыялогаў і рэплік герояў, адзін з самых складаных для тэатра. <…> Паколькі выразнай рэжысёрскай інтэрпрэтацыі паэмы няма, галоўным у пастаноўцы становіцца класічны тэкст Міцкевіча. Дадам, што пры слабой распрацоўцы мізансцэн у “Пане Тадэвушы” пануе статыка. Таму момантамі пастаноўка ператвараецца ў звычайнае дэкламаванне паэмы» [6].

А вось тэатральны крытык і супрацоўнік «Радыё-Свабоды» Вячаслаў Ракіцкі, наадварот, лічыць, што з рэжысёрскага пункту гледжання спектакль зроблены амаль дасканала: «Выразныя, зноў жа, стрыманыя, ляканічныя мізансцэны, яны амаль самадастатковыя. Часам аж да такой ступені, што нібыта і Міцкевічаў тэкст не патрэбны, ня тое, што акторская гульня. Некалькі сцэнаў увогуле вызначаюцца зьместавай і эстэтычнай завершанасьцю, дасканаласьцю, нібы спэктакль у спэктаклі, які можна паказваць асобна» [7].

Наступным «камнем преткновения» для крытыкаў стала драматургічная інсцэніроўка паэмы. Большасць рэцэнзентаў лічаць яе недастаткова радыкальнай.

Тэатральны крытык Людміла Грамыка катэгарычна сцвярджае: «На мой погляд, першапачатковая памылка — у інсцэніроўцы Сяргея Кавалёва, у яе абсалютнай драматургічнай нячуласці, нягібкасці, у няўменні выразна акрэсліць фабулу. Можна, канешне, паставіць спектакль і наперакор законам тэатра, але ў такім выпадку дзеля чаго нам столькі слоў?» [4].

Высока ацэньваючы пінігінскі спектакль, Вячаслаў Ракіцкі адзначае пры гэтым недахопы інсцэніроўкі: «Аўтар інсцэніроўкі Сяргей Кавалёў добра зьбіў падзеі у гісторыю, але яны не зацэмэнтаваліся ў сюжэт, бо паміж імі не пакінутае паветра для таго самага цэмэнту. А цэмэнтам магло стаць Міцкевічава слова, яго паэзія, якая прагучала б больш эфэктна, чым малюнкі» [7].

Марыя Мартысевіч выказвае смелую прапанову: «На мой погляд, аўтар інсцэніроўкі мог бы смялей канвертаваць твор у драматургію. Калі б сцэнар пісала я, то, напрыклад, пераказала б прозай усе дыялогі, пакінуўшы дэкламацыю толькі ў лірычных водступах, якіх, дарэчы, у пінігінскай пастаноўцы амаль не было» [4].

Як гэта ні парадаксальна, наракаючы на заганы інсцэніроўкі і адсутнасць цікавых рэжысёрскіх знаходак у спектаклі, крытыкі адзінагалосна называюць найлепшымі якраз тыя сцэны, якіх няма ў паэме Міцкевіча і якія былі прыдуманы драматургам альбо рэжысёрам спектакля.

«Найбольш моцнымі ў пастаноўцы з'яўляюцца пачатак і фінал. У пралогу "забранзавелы" Паэт (Павел Харланчук), да якога завітвае Дзяўчына-эмігрантка (Валянціна Гарцуева), літаральна на вачах нараджаецца наноў і думкамі пераносіцца ў любую Літву», — піша Дзяніс Марціновіч [6].

Пачатак спектакля спадабаўся журналісту Сямёну Букчыну, які адзначаў узровень акцёрскага майстэрства: «… нават дробны эпізод можна сыграць выпукла, як гэта зрабіла Валянціна Гарцуева ў невялічкай ролі Дзяўчыны-эмігранткі, якая спасцігае сэнс вядомых словаў Паэта пра беларускую мову» [2].

У захапленні ад першай сцэны спектакля быў пісьменнік і заўзяты тэатрал Уладзімір Арлоў, які вылучыў таксама сцэну з рэкрутамі: «І бліскучы пачатак! Паэт-выгнаннік з двума валізамі, якія служаць яму і крэслам, і пісьмовым сталом. Яшчэ, па-мойму, проста геніяльная сцэна з рэкрутамі, якая для мяне стала адной з кульмінацый спектакля» [3].

Устаўная сцэнка з рэкруцкім наборам аказала вялікае эмацыянальнае ўздзеянне на ўсіх, хто пісаў пра спектакль.

Вячаслаў Ракіцкі: «Прыкладам, сапраўднай рэжысэрскай пэрлінаю можна назваць сцэну набору тутэйшых сялянаў у рэкруты расейскага войска, якое эфэктным тэатральным прыёмам становіцца для іх магілай» [7].

Марыя Мартысевіч: «Сцэна выпраўкі маладых сялян у царскае войска — пад бабскі хор, які з возу гарлае рэкруцкую песню — кранае за жывое і не адпускае нават праз некалькі дзён пасля спектакля» [5].

Аляксей Стрэльнікаў: «Сцэна рэкруцкага набору ў спектаклі, у якой пад галашэнне мамак маладых хлопцаў забіраюць у салдаты, становіцца, напэўна, самым моцным эмацыянальным момантам спектакля, на фоне якога амурныя прыгоды Пана Тадэвуша здаюцца зусім ужо недарэчнымі» [8].

Таццяна Арлова акрамя сцэны з рэкрутамі вылучае таксама відовішчны фінал: «У той жа час у спектаклі знойдзены такія кранаючыя за душу моманты, як вярбоўка рэкрутаў і разбурэнне сцяны замка ў фінале. Яны нікога не пакідаюць абыякавым і выклікаюць у гледачоў пачуццё яднання з тэатрам» [1, с. 13].

Знаны паэт Уладзімір Някляеў як бы падагульняе агульныя ўражанні: «Мне спадабаўся пачатак спектакля, калі Міцкевіч з'яўляецца ў вобразе помніка, — гэта сцэна трымае. Калі рэкруты, толькі-толькі пабраўшыся ў войска, адразу

апускаюцца пад зямлю — гэта таксама моцная метафара. І фінал у спектаклі зроблены бліскуча. Увогуле, у “Пане Тадэвушу” шмат знаходак, якія значна перабольшваюць усе недахопы…» [3].

Відовішчны фінал спектакля, на думку крытыкаў, мае глыбокі гістарычны падтэкст і адрознівае трагічны па гучанні спектакль Пінігіна ад рамантычна-сентыментальнай паэмы Міцкевіча:

«Фінал спектакля — заклік адмовіцца ад рамантычных ілюзій. Жаўнеры, якія ўступілі ў войскі Напалеона пад сваімі нацыянальнымі сімваламі (дарэчы, пасля грамадскага прагляду з харугваў знікла “Пагоня”), вяртаюцца дадому разбітымі.

Замак, які ўвасабляў сабой сімвал дзяржаўнасці, пачынае гарэць. Дождж загасіў агонь, таму будынак застаецца ацалелым. Яго руіны нагадваюць стан многіх беларускіх замкаў. Такі фінал увасабляе канец старой Літвы і першыя крокі да новай Беларусі», — канстатуе Дзяніс Марціновіч [6].

«І няўжо адсутнасць пэўнай харугвы перакрывае той трагічны фінал, калі ў полымі рушацца сцены старога палаца? <…> Так, рушыцца, гарыць старая Літва-Беларусь. Гэта вам не сентыментальныя ўспаміны пра маляўнічыя пагоркі і ўтульныя старыя шляхецкія сядзібы. Гэта рушыцца пераемнасць пакаленняў, традыцый, культуры. Скончылася ідылія (sielanka, як азначыў міцкевічаўскі твор Чэслаў Мілаш)», — эмацыянальна ўзрушваецца Сямён Букчын [2].

Адразу пасля прэм’еры некаторыя тэатральныя крытыкі назвалі пінігінскага «Пана Тадэвуша» архаічным па форме і неактуальным па змесце спектаклем.

Ларыса Цімошык з расчараваннем сцвярджае: «“Пан Тадэвуш” пастаўлены так, як яго маглі б паставіць у ХІХ стагоддзі, з якога ён родам (хіба што сучасныя магчымасці сцэны дазваляюць карыстацца тэхнікай і відэапраекцыяй). <…> Гэта тэатральная пастаноўка паводле класіка Міцкевіча. І пра тое, як любілі Радзіму ў ХІХ стагоддзі. <…> Гісторыя і нічога апроч гісторыі. Хоць і хацелася, каб праз гэтую гісторыю падаваліся развагі пра тое, што значыць патрыятызм у ХХІ стагоддзі» [9].

Алена Мальчэўская салідарная з калегай: «У спектаклі няма відавочнай сувязі з днём сённяшнім, зразумелага адказу на пытанне, чаму сучаснаму беларусу ў 2014 годзе трэба ўспомніць гэту гісторыю, у чым яе актуальнасць? Чаму менавіта ў гэты момант рэжысёр звяртаецца да паэмы?» [4].

Таццяна Арлова выказваецца больш дыпламатычна: маўляў, актуальныя ідэі ў спектаклі ёсць, але звычайнаму гледачу яны не зразумелыя: «У спектаклі купалаўцаў ёсць патаемныя знакі, гэтаксама як былі яны ў жыцці выдатнага паэта і ў яго паэме. Тэатр імкнецца распавесці пра нас, колішніх і цяперашніх, апеляваць да часоў будучых. Як і ў іншых работах Пінігіна, узнімаюцца сцягі, нікнуць, прастрэленыя кулямі, пабітыя часам. <…> Мне думаецца, што нека-

торыя ідэі цікавага рэжысёрскага замыслу пакуль што цяжкія для шараговага гледача, хоць яны прыводзяць у захапленне знаўцаў айчыннай гісторыі» [1].

Аднак іншыя тэатральныя крытыкі, а асабліва журналісты і пісьменнікі, наадварот, назвалі пінігінскую інтэрпрэтацыю «Пана Тадэвуша» вельмі смелай трактоўкай класічнага твора, актуальнай менавіта для Беларусі. І звязана гэта з тэмай вайны 1812 г., якая ў спектаклі купалаўцаў паказана інакш, чым у паэме Міцкевіча. Пінігін не гераізуе паход Напалеона на Маскву, а ўзнаўляе на сцэне трагедыю сваёй Бацькаўшчыны ў вайне, якая для беларусаў стала, фактычна, грамадзянскай.

Марыя Мартысевіч: «“Пан Тадэвуш” — праніклівы гімн страчанай Літве, канцэнтраваная настальгія. Адам Міцкевіч і Мікалай Пінігін як творцы супадаюць у тым, што абодва горача любяць сваю радзіму. Але на гэтым, бадай, усе супадзенні заканчваюцца. Бо быць творцам, значным для сённяшніх беларусаў, — гэта апераваць як мінімум падвойным кодам. Беларуская штодзённасць, мары, памкненні — урэшце, дух народа ніколі не ўкладваліся ў адназначныя схемы. Беларус — гэта па азначэнні супярэчліва. І найяскравей гэта прадэманстравала тэма вайны 1812 года ў інтэрпрэтацыі Мікалая Пінігіна. Для шляхты часоў Адама Міцкевіча, як і для сучасных палякаў, паход Напалеона на Маскву — безумоўна вызвольны чын, які меў на мэце вярнуць незалежнасць былой Рэчы Паспалітай. <…> Мікалай Пінігін разбурае гэтую ідылію, ствараючы ці не самыя моцныя інтэрлюдыі ў гісторыі беларускага тэатру. Ён навязліва нагадвае недасведчаным пра тое, што падчас напалеонаўскіх войнаў беларусы дэ факта біліся з беларусамі» [5].

Аляксей Стрэльнікаў: «Пан Тадэвуш і граф Гарэшка адпраўляюцца служыць Напалеону, перажываюць рэдкую хвіліну салодкай перамогі (часовай, Пінігін зрабіў гэты кавалак спектакля вельмі стрыманым, нават іранічным) і шчасця, і нарэшце церпяць паразу. І гэтая параза ўспрымаецца балюча, як нешта асабістае. Рускія войскі выратавалі сваю радзіму, а пан Тадэвуш са сваёй развітаўся гэтак жа, як Міцкевіч» [8].

Вячаслаў Ракіцкі: «Гэта той пэрыяд гісторыі, які фальсыфікаваўся і працягвае фальсыфікавацца сучаснымі ідэолягамі на карысьць расейскай вялікадзяржаўнай міталёгіі пра гэтак званую айчынную вайну 1812 году. Тэатар аднаўляе гістарычную праўду, расказваючы пра спадзяваньні нашай шляхты на Напалеона ў сваім вызваленьні з-пад расейскай акупацыі. Ён пра тое, што разьяднанасьць згубная, а пераадоленьне амбіцыяў, пыхі на грунце патрыятызму вядзе да еднасьці, якая перамагае ворагаў. Апісаныя Міцкевічам падзеі, сьведкам якіх ён быў і якія выкінулі яго ў эміграцыю, ёсьць важным урокам і для сучасных беларусаў. <…> Разам з тэатрам усьлед за Міцкевічам мы задумваемся, што і калі мы страцілі, дзе карані патрыятызму і якая яго прырода, асэнсоўваем сваю гісторыю, у тым ліку і ва ўмоўным ладзе — дзе і якой магла б быць сёньня Беларусь» [7].

Сямён Букчын: «…Спектакль Купалаўскага тэатра патрабуе ад гледача інтэлектуальных намаганняў. Палац гарыць, але сама пастаноўка Пінігіна спрабуе аднавіць памяць і тым самым будаваць мост паміж адлеглымі часамі <…> Мікалай Пінігін паставіў свой спектакль для беларускай аўдыторыі, для людзей, якія і гавораць, і імкнуцца гаварыць па-беларуску, ва ўсякім выпадку не цураюцца беларускай мовы. Але адначасова гэта і спектакль-напамінанне пра Беларусь, пра складанасць яе нацыянальна-гістарычнага шляху тым, хто ўвогуле недасведчаны ці замала ведае пра гэты шлях» [2].

Уладзімір Някляеў: «Лічу, што гэта зноў творчая ўдача Мікалая Пінігіна. Наогул, пасля "Пана Тадэвуша" я стаўлюся да Пінігіна яшчэ з большай павагай, бо ў тых умовах, у якіх сёння існуе ён сам, тэатр і Беларусь, увогуле ўзяцца за гэтую тэму і паспрабаваць яе падняць — гэта шмат чаго вартае! <…> Дарэчы, я ў абавязковым парадку завёў бы на гэты спектакль усю нашу апазіцыю хаця б дзеля аднаго эпізоду: дзе непрымірымыя ворагі, у якіх справа даходзіць ледзь не да бойкі і крывавых разборак, адмаўляюцца ад усялякіх дзеянняў у гэтым накірунку цераз магчымасць разам паспрыяць волі і незалежнасці Айчыны. Вось гэта і ёсць грамадзянскасць! Сапраўдны, а не дэклараваны патрыятызм!» [3].

Па рознаму ацэньваючы ідэйны змест і мастацкі ўзровень купалаўскага спектакля «Пан Тадэвуш», і прыхільнікі спектакля, і суровыя крытыкі адзначаюць важную асветніцкую місію пінігінскай пастаноўкі, пазітыўны ўплыў на фарміраванне гістарычнай і культурнай ідэнтычнасці беларусаў, значэнне для папулярызацыі творчасці Адама Міцкевіча ў шырокіх колах грамадства.

Аляксей Стрэльнікаў падкрэслівае: «Інсцэніраваць паэму Міцкевіча — гэта амбіцыйны крок, яго мэта — пашырыць арэал беларускай культуры, шанец заявіць свае правы на твор, які распавядае гісторыі людзей, што жылі на беларускай зямлі. "Пан Тадэвуш" наўрад ці ўспрымаецца масава творам беларускім і пра Беларусь. І спектакль на сцэне Купалаўскага мае на мэце звярнуць увагу грамадскасці на гэты твор. <…> Менавіта на гэтым спектаклі мне адчулася, якая вялікая прывілея мець такую далучанасць да вялікіх ідэй, мець шанец выйсці за межы ўласнай правінцыйнасці. Нязвыклае адчуванне» [8].

Дзяніс Марціновіч аб'ектыўна прызнае: «Рэакцыя на спектакль паказала, што многія гледачы гатовы згадзіцца і на такі варыянт, што сам факт беларускай тэматыкі і патрыятычнага духу прыносіць ім радасць. Калі ўспрымаць "Пана Тадэвуша" выключна як асветніцкі праект — гэтага дастаткова» [6].

Марыя Мартысевіч, якая досыць крытычна ацаніла спектакль, тым не менш адзначае: «Мікалай Пінігін сёння — больш чым рэжысёр. Гэта стратэг і ідэолаг нацыянальнай культуры, якой яе бачыць асвечаная частка беларускага грамадства. Інтэлектуал, якому ёсць што сказаць і якога — што і як ён не гаварыў бы — цікава слухаць» [5].

А Сямён Букчын згадвае, як перад напісаннем артыкула вырашаў пазычыць у бібліятэцы паэму Міцкевіча, каб яшчэ раз перачытаць: «Пайшоў у бібліятэку па пераклад Язэпа Семяжона, выданы “Мастацкай літаратурай” чатыры гады таму ў серыі “Школьная бібліятэка”. Няма, кажуць бібліятэкары, разабралі, шмат запытаў ад чытачоў. І ўспомніліся словы Вайды падчас нашай гутаркі ў Кракаве: “Калі пасля прагляду майго фільма нехта перачытае твор Міцкевіча, я буду задаволены”. Я не ўпэўнены, што па кнігу прыходзілі гледачы купалаўскага спектакля. Але ж нейкая інфармацыйна-зацікаўленая хваля была» [2].

Узноўленая на старонках гэтага артыкула зацятая дыскусія адлюстроўвае не толькі парадоксы рэцэпцыі канкрэтнай мастацкай з’явы — пастаноўкі «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча на купалаўскай сцэне, але і living рознае стаўленне ў тэатральных і пісьменніцкіх колах да такіх паняццяў як *патрыятызм*, *Айчына*, *гісторыя*. Разам з тым гэтая дыскусія яшчэ раз прадэманстравала наколькі супярэчлівымі, а часам і супрацьлеглымі бываюць ацэнкі мастацкага твора рознымі крытыкамі, у залежнасці ад палітычных перакананняў, культурнага далягляду, эстэтычных поглядаў.

Я згодны з многімі крытычнымі заўвагамі ў адрас інсцэніроўкі «Пана Тадэвуша». Сапраўды, філалагічны *піетэт* перад класічным творам і павага да аўтара перашкаджалі драматургу больш радыкальна «канвертаваць» паэзію ў драматургію (хаця ніколі б не пагадзіўся перапісваць паэму Міцкевіча прозай). Таксама, як і Таццяна Арлова, я перакананы, што «мінуў час па-вучнёўску старанных інсцэніровак. Сённяшняя рэжысура перастаўляе акцэнты, узмацняе адны сюжэтныя лініі і перакрэслівае іншыя. Цяпер у тэатры важныя не ілюстрацыя класікі, а інтэрпрэтацыя яе. Гэта вядзе да абнаўлення каштоўнага, але архаічнага музейнага экспаната і прыцягвае цікавасць гледачоў» [1, с. 13].

З іншага боку, згадваю словы выдатнага паэта і дасведчанага тэатральнага гледача Уладзіміра Някляева, сказаныя адразу пасля першага прагляду «Пана Тадэвуша»: «Думаю, “Пан Тадэвуш” будзе вельмі добра ўспрымацца. У зале падчас закрытага прагляду была вельмі своеасаблівая публіка — ім было патрэбна толькі ўсё супергеніяльнае і без аніякіх недахопаў. А тым, хто не будзе думаць, правалiў Пінігін спектакль ці не правалiў, добра спрацавалі мастак з кампазітарам ці дрэнна, спектакль павінен спадабацца» [3].

Мінула чатыры гады пасля прэм’еры спектакля. У чэрвені 2014 г. беларускі «Пан Тадэвуш» быў з поспехам паказаны ў Парыжы ў зале на 700 гледачоў. У студзені 2018 г. Беларускае тэлебачанне (канал «Беларусь-3») прысвяціла пінігінскаму «Пану Тадэвушу» спецыяльную перадачу з цыклу «Тэатр у дэталях» (вядучая Наталля Бібікава), што здараецца з найлепшымі, знакавымі спектаклямі беларускіх тэатраў. «Пан Тадэвуш» Адама Міцкевіча стала ўвайшоў у рэпертуар Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. За гэты час некаторыя іншыя спектаклі, якія з’явіліся ў беларускіх тэатрах пазней за «Пана Тадэвуша» і якімі захапляліся тэатральныя крытыкі, бясследна зніклі з рэпертуару, не пратрымаўшыся нават некалькі сезонаў.

Хочацца скончыць гэты артыкул трапным выказваннем пра пінігінскага «Пана Тадэвуша» Аляксея Стрэльнікава: «Мы не прызвычаіліся да таго, што спектакль можа не быць цалкам самадастатковым мастацкім творам, але менавіта ў выпадку эпічнай паэмы, энцыклапедыі шляхецкага жыцця такое мае сэнс. Тэатр імкнецца выйсці за межы сваёй забаўляльнай функцыі і стаць часткай жыцця. Мне бачыцца вельмі яўна, што гэты спектакль пастаўлены на дзесяцігоддзі. Менавіта таму ў мяне не выклікае занепакоенасці пэўныя хібы спектакля. У яго будзе час саспець, расквісці. У яго ёсць падставы для развіцця. А ў нас ёсць падставы для аптымізму» [8].

## Літаратура

1. Арлова, Т. Якімі будзем праз два стагоддзі? «Пан Тадэвуш» паводле Адама Міцкевіча / Т. Арлова // Мастацтва. — 2014. — № 2. — С. 12–13.
2. Букчын, С. Аднаўленне памяці пра Літву–Беларусь / С. Букчын // Народная воля. — 2014. — 3 сакавіка [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://krytyka.by/by/page/reviews/teatr-ahliady/13932. — Дата доступу: 10.09.2018.
3. Коктыш, М. З «Панам Тадэвушам!» / М. Коктыш // Народная воля. — 2014. — 31 студзеня.
4. Лук’янава, А. Крытыкі пра «Пана Тадэвуша»: недахопы і расчараванні / А. Лук’янава [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://news.tut.by/culture/383620.html. — Дата доступу: 12.09.2018.
5. Мартысевіч, М. Дайце Пінігіну дагаварыць / М. Мартысевіч // Новы час. — 2014. — 20 студзеня [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://krytyka.by/by/page/reviews/teatr-ahliady/13732. — Дата доступу: 12.09.2018.
6. Марціновіч, Д. «Пан Тадэвуш», або Што важнейшае — асветніцтва ці мастацтва? / Д. Марціновіч [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://nn.by/?c=ar&i=120879. — Дата доступу: 10.09.2018.
7. Ракіцкі, В. Гімн страчанай Літве / В. Ракіцкі [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://www.svaboda.org/a/25233423.html. — Дата доступу: 14.09.2018.
8. Стрэльнікаў, А. Прэм’ера спектакля «Пан Тадэвуш»: Брама да вольнасці / А. Стрэльнікаў [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://krytyka.by/by/page/reviews/teatr-ahliady/13707. — Дата доступу: 13.09.2018.
9. Цімошык, Л. Вендэта наваградскага гатунку / Л. Цімошык // Звязда. — 2014. — 18 студзеня.

**Таццяна Кохан**
(Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, Мінск, Беларусь)

# АДАМ МІЦКЕВІЧ ЯК АДРАСАТ ПАЭЗІІ ЯНА ЧАЧОТА

Ян Чачот быў агульнапрызнаным «дударом» таварыства філаматаў, ён актыўна ўдзельнічаў у святкаванні імянінаў сваіх сяброў, пісаў творы прынагоднай паэзіі, значны пласт якой — віншаванні, адрасаваныя А. Міцкевічу, ці так званыя «Адамовыя» («Adamowe»). Тэксты гэтых віншаванняў, найперш 1818–1819 гг., старанна запісваліся А. Петрашкевічам, часам і самім Я. Чачотам, а ў 1922 г. былі надрукаваны Я. Чубэкам у 2-х томнай «Паэзіі філаматаў» («Poezja Filomatów») [3; 4]. Большасць твораў, адрасаваных А. Міцкевічу, можна аднесці да жанру паслання. Першапачаткова жанр паслання шырока выкарыстоўваўся пры зваротах да дзяржаўных дзеячаў па грамадскіх, рэлігійных і палітычных пытаннях («высокае пасланне»). Вытокі беларускага літаратурнага паслання трэба шукаць у такіх празаічных творах, як «Пасланне да Фамы прасвітара» Клімента Смаляціча, ананімных парадыйна-сатырычных «Прамове Мялешкі» і «Лісце да Абуховіча» і інш. У XIX ст. узрастае роля аўтара і аўтарскага свету, таму надзвычайную папулярнасць, асабліва ў асяроддзі рамантыкаў, набывае сяброўскае пасланне, якое знаходзіць сваё выражэнне пераважна ў паэтычнай форме (прыгадаем хрэстаматыйныя пушкінскія пасланні Дэльвігу «Мы рождены, мой брат названый…», «Любовью, дружеством и ленью…», «Прими сей череп, Дельвиг…»). Папулярнасць сяброўскага паслання ў многім тлумачылася малой кананізаванасцю жанру, прынцыповай няўстойлівасцю формы, свабодай выказвання думак, эклектычнасцю. Фармальнай жанравай прыкметай паслання з'яўляецца тое, што яно ў большай ці ў меншай ступені імітуе ліст, звернуты да канкрэтнай асобы, г. зн. з'яўляецца адрасным, у змесце паслання даволі часта прасочваецца сувязь з пэўнымі гістарычнымі або біяграфічнымі падзеямі, а таксама могуць прысутнічаць пажаданні і просьбы. Па форме пасланне — маналог, які складаецца са звароту, асноўнай часткі і заключэння.

Першыя **«Адамовыя»** пазначаны снежнем 1818 года, змяшчаюць у сабе некалькі твораў Чачотавага аўтарства — уласна **«Адамовыя» («Adamowe»)**, **«Спеў Лешэк і Гаворэк» («Śpiew: Leszek i Goworek»)**, **«Антокальскую прагулку» («Antokolska przechadka»)** і **«Вершык да Адама» («Wierszyk do Adama»)**. Уласна **«Адамовыя»** маюць драматызаваны характар, адкрываюцца наступнай рэмаркай: «*Odprawiły się roku 1818 grudnia (31) v. s. w pałacu jenerała Paca w oficynie. Był zrobiony z papieru transparencik, wyobrażący po jednej stronie bezmien, na którym zawieszone ukazywały się różnych pism, rozbieranych przez Adama, tytuły; po drugiej stronie, pod drzewkiem palmowem siedzących dwoje gieniuszków grających na fletniach, nad drzewkiem zaś jaśniał*

*napis Oktawa albowiem dla wyjazdu Adama do Solecznik Wielkich na kilka dni świąt Bożego Narodzenia biesiada nasza nie mogła się w dzień święta Adamowego odbyć. W pośrodku transparentu oświeconą była cyfra Adamowa.*

*Po wprowadzeniu Adama, nie wiedzącego o tych aparatach, do izby, w której urządzone były, krzyknęliśmy: "Vivat Adam! Vivat Oktawa!"*» [4, с. 33].

З дапамогай рэмаркі Я. Чачот уводзіць чытача ў кантэкст свята: апісвае час, месца і іншыя акалічнасці дзеяння, пасля прэамбулы Т. Зан пачаў чытаць: «*Hruk, stuk, puk, grom…*» [4, с. 33], але ініцыятыву раптоўна перахапіў Я. Чачот, каб першым павіншаваць свайго даўняга школьнага сябра, нягледзячы на тое, што была папярэдняя дамова, паводле якой Т. Зан распачынае свята, а Я. Чачот выступае напрыканцы: «*Ułożyliśmy się z Zanem: / On miał być początkiem fety, / Ja miałem być końca panem / I przynieść wiersze na wety*» [4, с. 34].

Ён просіць прабачэння ў Тамаша за сваё раптоўнае рашэнне, твор набывае рысы імправізацыі: «*Ale wybacz mi, Tomaszu, / Że jak często na kiermaszu / Od targu się odrzucają, / Inaczej się układają, / Tak ja dzisiaj z tobą czynię / I bez żadnej muszę rady / Potargać nasze układy*» [4, с. 34]. Для сябе ён знаходзіць нетрывіяльнае апраўданне: «*A to dla tego jedynie: / Jakiemby na mnie okiem spozierał Adamek*» [4, с. 34].

Відавочна, А. Міцкевіч для Я. Чачота не толькі блізкі сябра, але і вельмі аўтарытэтны дарадца, таму Я. Чачот прыводзіць міцкевічаўскае меркаванне (тое, што ў рыторыцы называецца адсылка да аўтарытэту): «*Rzekłby: "A gdzież przyjaciel, z którem w jednej szkole / Lataliśmy po fórtkach, korytarzach, bramach, / Łowiąc jedno z popowkich rodzajów pacholę, / Czyniąc na niego ręką bohaterski zamach; / Wielkie dusze, nikczemnym brzydząc z uśmiechem, / Na głos dzwonka biegliśmy do klasy z pośpiechem. / Tam naznaczone lekcje dzieląc między siebie, / Gdy jeden o wakcyny rozprawiał potrzebie, / Inny o Sandarakach, ten Tatamahace, / Ów opieał naddziadów bohatyrskie prace, / Tamten wałił Strojnowskich, których nie rozumiał, / A został celującym i najlepiej umiał. / Kto, jak ja z Janem, zwrotnym pracując językiem, / Odurzył profesorów, i tak durnych, krzykiem"?*» [4, с. 34].

Адам таксама становіцца своеасаблівым суразмоўцам, Я. Чачот ад імя А. Міцкевіча прыводзіць факты супольнай біяграфіі, згадвае прыватныя дэталі, зразумелыя толькі адрасату і адрасанту, а таму патрабуюць каментароў і адмысловага дэшыфравання. Міцкевічаўскі зварот да Я. Чачота надае твору дыялагічнае гучанне, імяніннік нібыта правакуе да шчырай размовы, бо іначай: «*Myśliłby jeszce Adam, że ja zapomniałem…*» [4, с. 35], паэт пералічвае агульныя ўспаміны, стварае фікцыянальны свет, старанна ўзнаўляе перажытае. Пры такой надзвычанай ролі А. Міцкевіча ў жыцці Я. Чачота, апошні нібыта апраўдваецца за сціпласць свята, у той жа час дае напаўжартаўлівую характарыстыку сябру: «*A tyś nie policmejster, ani horodniczy*» [4, с. 35] і пералічвае тое, што яны з сябрамі па розных прычынах не змаглі зрабіць: «*Nie zabiliś my w puszczach cieciorki, ni głuszcza, / Ktorych leśnicy łowczym w podarunku dają, / Nie jesteśmy kramarze i nie wleczem kawy, / Nie sprawiamy ci*

*balów, teatrów, wystawy, / Bo żaden z nas intratnych włości nie dziedziczy; / Miasta nie oświecamy, bo nie w naszej mocy, / A tyś się w poczet Pawlich bąkartów nie wmieszał; / Do Hrybisyek nie możem wieźć ciebie w karocy, / Bo każdy z nas po błocie piechtą tu pośpieszał*» [4, с. 35–36].

Сапраўды, шыкоўныя святы не па кішэні простым студэнтам. Аднак, нягледзячы на такую сціпласць імпрэзы, аўтар падсумоўвае: «*Więc czemże cię obdarzym? Jakiż węzeł spleciem? / Wiem… Czem chata bohata, tem ci budzieć rada*» [4, с. 36].

Адзіны магчымы прыемны падарунак у такой сітуацыі — шчырыя вершы, якія нараджаюцца з хуткасцю снежнай завеі: «*Jak zawieja śniegami, tak my wierszem mieciem*» [4, с. 36]. Я. Чачот адносіць такога кшталту віншавальную паэзію да мадрыгалаў: «*Jakie się takie, choć złe, madrygały składa*» [4, с. 36]. Паэт просіць А. Міцкевіча прыняць вершы, «*choćby niskiej ceny*» [4, с. 36], альбо спыніць прамоўцаў «*gdy ci zaskrzeczym zbytecznie*» [4, с. 36]. Я. Чачот, сцвярджае, што нягледзячы на неадпаведнасць узроўню віншавальнай паэзіі надзвычай высокім маральным і творчым якасцям А. Міцкевіча, сябры яго шчыра любяць, як Пілад Арэста [4, с. 36]. Гэты выраз Я. Чачот пазычыў з старажытнагрэчаскай міфалогіі, паводле якой стрыечныя браты, Арэст і Пілад, злучаныя цесным і бескарыслівым сяброўствам, былі гатовыя нават ахвяраваць жыццём адзін дзеля другога.

Такім жа шчырым паўстае сяброўства з больш блізкай гісторыі. Я. Чачот стварыў паэтычную версію легенды Лешэк і Гаворэк з прысвячэннем «*Adamowi Napoleonowi w dzięń jego imienin przez siebie poświęcony*» [4, с. 40]. Твор — сапраўдны паэтычны маніфест шчырай прыязні і бясконцай вернасці і самаахвярнасці. Паэт пераказвае прыгожае летапіснае паведамленне пра князя Лешэка і яго дарадцу — ваяводу Гаворэка. Князь Лешэк быў гатовы адмовіцца ад ўлады дзеля свайго сябра, а той у сваю чаргу падаўся ў выгнанне, каб захаваць за Лешэкам права на трон: «*Zniewoleni sercem, cnotą, / Wszyscy kochać będą Leszka. / Bądź szczęśliwym, a z ochotą / Goworek wśród pustyń mieszka*» [4, с. 42]. Як і ў многіх творах, прысвечаных гераічным старонкам мінулага, апісанне знешняга ходу падзей — толькі штуршок для творчага пошуку, генерыравання абагульняючай этычнай і філасофскай думкі. У паэтычным запале Я. Чачот прамаўляе: «*Przyjaźn, co życie słodzisz, / Świat obdarzasz szczęściem samem, / Panuj, gdzie cnotę znachodzisz. / Połącz mię wiecznie z Adamem!.. / Niechaj czucia twe w nas żyją. / Póki serca nasze biją; / Mogąli czuć, gdy ustaną, / I tam się nie splamią zmianą*» [4, с. 43].

Верш «Антокальская прагулка» — літаратурная рэфлексія, у якой Я. Чачот раскрывае сакрэты сваёй творчай лабараторыі, дзе толькі еднасць з прыродай дорыць натхненне: «*Poszedłem na Antokol: gotowa kantata. / I cóż więcej porodzić? — pomyśliłem sobie / Czy młode nasze wspólnie zbyte wspomnieć lata? / Czy wystawić go w laurów kwitnących ozdobie? / Czy pochlebnym tonikiem wielkość jego śpiewać. / Przeznaczeń górnych ciągnąć pod pióro koleje? / Czy do*

*sławy i cnoty i lutni zagrzewać? / Czy na cześć jego sprawić rymarskie turnieje? ...*» [4, с. 45].

Як бачым, паэт скрупулёзна прадумвае тэматыку віншавання, якія аспекты ўзаемаадносінаў з А. Міцкевічам агучыць у паэтычным тэксце. Дарэчы, большасць з агучаных тэзісаў паэт сапраўды разгарнуў у віншаваннях.

Цэнтральны вобраз верша «Антокальская прагулка» — вобраз Адама, улюбёнага сябра, паэт не скупіцца на добрыя словы, называе А. Міцкевіча «*nasze kochanie*» [4, с. 46], «*O nasz kochanku i Feba*» [4, с. 46]. Відавочна, што ў вачах Я. Чачота яго сябра — увасабленне цнотаў і дабрачынасцяў, тым не менш аўтар верша гаворыць: «*Znamy Adama: pocóż cnót jego spis czytać?*» [4, с. 46], але не ўтрымліваецца і ўхваляе паэтычны талент: лютня Міцкевіча грае па першым жаданні, музы сядзяць і на пёры, і ў пёры: «*A wiersz bohaty płynie, jak rzeka, jak morze…*» [4, с. 46]. Вобраз Адама Міцкевіча (Адамка, брата, брата Адама) адносіцца да важных структураўтваральных і канцэптуальна значных элементаў мастацкага цэлага.

Наступная імпрэза, святкаваная 24 снежня 1819 г., рыхтавалася адразу для двух імянніннікаў — Адама Міцкевіча і Тамаша Зана, мае адпаведную назву **«Adamowe i Tomaszowe»**. Паводле меркавання Я. Чубака, захавалася большасць твораў, прачытаных на ўрачыстасці, сярод якіх пяру Я. Чачота належаць наступныя: **«Верш беларускі на прыезд Адама» («Wiersz białoruski na pryjazd Adama»)**, **«Прывітанне Адама» («Powitanie Adama»)**, **«Апалон на калядаванні» («Apolo po kolędzie»)**.

«Верш беларускі на прыезд Адама Міцкевіча» пачынаецца з уступу, які грунтуецца на фальклорнай традыцыі велічальных песень. Як і ў большасці падобных песень, вобраз Адама падвышаецца, ідэалізуецца: «*Jedziesz, mileńki Adam, / Hladzecie, a oń, a oń; / Da jon charaszenki sam, / Pad niom waranienki koń, / Załatom pojas ziaja, / Aż ad blesku snih taja. / Na szapcy siny baran, / Chtoby dumau, szto jon pan! / Tak adzet charaszenko, / Jedzie, jedzie bordzienko. / Hajda*» [4, с. 201–202]. Паэт выкарыстоўвае традыцыйныя фальклорныя прыёмы: эпітэты і вобразныя азначэнні (*mileńki, charaszenki, waranienki*), паўторы (*jedzie, jedzie*), воклічы (*Hajda!*). Тое, што ў ролі адрасата выступае сябар паэта, гэта дазваляе шырока ўводзіць гутарковыя інтанацыі: «*Da każyż, ci zdarou sam? / Da jak się tabie dzieja? / Ci zausiody byu wiasiol? / Hawary, jona uspieja, / Tymczasom nakryci stoł*» [4, с. 202]. Я. Чачот у паэтычнай форме агучвае праграму сустрэчы, своеасаблівым чынам празаізуючы сферу высокага: «*Budziam jeści kaubasy, / Smacznu harylaczku pić, / Peśń wazmiom na halasy / I budziam wiesiało żyć, żyć etc*» [4, с. 202]. У гэтых радках прасочваецца ўплыў анакрэантычнай паэзіі, што апявае радасць бесклапотнага жыцця, пачуццёвыя асалоды, усёахопную весялосць. Разам з такімі жыццясцвярджальнымі матывамі паэт закранае і даволі балючую для яго тэму расстання, што мае біяграфічную аснову, звязаную са знаходжаннем А. Міцкевіча ў Коўна: «*Bez ciebie usio tut smutno / Pa tabie płacze haj, / I reczki pływuć mutno, / U żałobie*

*uwieś kraj*» [4, с. 202]. Нават традыцыйныя вобразы сонейка, салаўя, ружы, лілеі, якія з'яўляюцца ўвасабленнем хараства, страчваюць сваю прыгажосць: «*Nie tak nam sonka jasno / Bliszczyć jak ciebie niet. / Radaści iszczem na prasno; / Uwieś nam niemił świet, / Slawiej nie tak nam pieja. / Roży nie pachnie cwiet, / Nie tak nam bieła laleja, / Kali ciebie tut niet»* [4, с. 202]. Матыў расстання шчыльна звязаны з радасцю ад вяртання сябра. Завяршае верш традыцыйная частка сяброўскага паслання — просьба да Адама: «*Nasz ty milenki Adam, / Nasmuciuże ty nas dość, / Naharadzi smutok nam / I budź u nas douho hość*» [4, с. 202].

«Прывітанне Адама» — музычнае прывітанне, якое змяшчае некалькі сольных партый і харавыя спевы. Твор пачынаецца з вітання, якое добра передае святочны настрой: «*Otóż teraz pora sama / Witać miłego Adama / Są buteleczki w kąciku / W porządnym stawione szyku / Iskrzy się w nich wdzięczny gach, / Zalotny, wymowny Bach…*» [4, с. 203]. І ў гэтым творы сэнсавай дамінантай з'яўляецца радасць ад сустрэчы: «*Witajże więc, towarzyszu, / Z kowieńskich krain przybyszu!/ Graj tu dzisiaj gościa rolę / W przyjaciół twych czułych kole! / O, lubyż ty u nas gość / Czekaliśmy na cię dość*» [4, с. 204]. Я. Чачот зноў прапануе ў якасці падарунка вершы: «*Przyjmij od nas tę ucztеczkę / Jako słabą zwiastuneczkę / Tej miłości, której dla cię / Serca nasze pełne, bracie. / A teraz do łyk i ham / Przystępuj, bracie Adam!*» [4, с. 204] Як бачым, своеасаблівымі Loci Communes у многіх вершах, прысвечаных Адаму Міцкевічу, з'яўляюцца матывы суму па сябру і радасці з нагоды вяртання, матывы вершаў як падарункаў і просьбы пагасцяваць.

«Апалон на калядаванні» («Apolo po kolędzie») — калядная містэрыя, якая складаецца з двух актаў, кожны з якіх мае дзве сцэны. Героямі твора з'яўляюцца антычныя багі Апалон і музы (Эрата, Талія, Каліопа, Мельпамэна, Эўцерпа) і філаматы Адам (Адам Міцкевіч), Тамаш (Тамаш Зан), Ян (Ян Чачот), Божыдар (Тэадор Ладзінскі), Ануфр (Ануфры Петрашкевіч), Юзэф (Юзаф Яжоўскі), Яраш (Францішак Геранім Малеўскі), Эразм (Эразм Палюшынскі). У кульмінацыйнай сцэне сустрэчы багоў і філаматаў акцэнтуюцца пісьменніцкія здольнасці сяброў таварыства: «*Jest tu Tomasz, co śpiewał tabakiery skony. / Czułem i elegii co ujmuje tony; / Ballady, jamb wesoły, słodkie tryolety / Jednają mu nazwisko prawego poety. / Jest Józef, co tłómaczył Horacego ody, / Jarosz dał na Berszu zdatności dowody. / Jest Onufry, na wiejskim grywający flecie, / Jest stworzyciel Małgosi…*» [4, с. 270]. Найвышэйшую ацэнку атрымлівае паэзія А. Міцкевіча: «*Przedziwny śpiew! myśl piękna! poezya ista! To musi doskonały jaki być lutnista*» [4, с. 268].

У паэтычным даробку Я. Чачота захаваліся творы, што не ўвайшлі ў адпаведныя вершаваныя цыклы, аднак, прысвечаны А. Міцкевічу. У снежні 1819 г. Я. Чачот напісаў да дня нараджэння Адама Міцкевіча паэму **«Тыртэй»** («Tyrtej»), у якой прапанаваў свой міфілагізаваны вобраз паэта, галоўнымі прыкметамі якога робяцца надзвычайная таленавітасць, цвёрдая грамадская пазіцыя. У гістарычна няпросты перыяд нараджаецца новы тып мастака-

змагара. Менавіта кульгавы школьны настаўнік Тыртэй сваімі песнямі змог ўзняць баявы дух спартанцаў: «*Tyrtej mężne Spartańczyki / Do boju pieniem zagrzewał*» [3, с. 90]. У паэме Я. Чачота Тыртэй — А. Міцкевіч, задача якога абудзіць годнасць народа, весці яго да перамогі: «*Adamie, będziesz w nasze wojowniki / Wdziękiem twej lutni męstwo, stałość wlewał. / Na to cię wielki dar Feba bogaci, / Nie dawał secom twożyć się w przygodzie / I mężnych chwałę uwiecznił braci!*» [3, с. 91] Тыртэйская паэзія — паэзія чыну, калі творца актыўна ўмешваецца ў жыццё краіны, заклікае сваіх землякоў да змагання супраць ворагаў.

**«Верш на выздараўленне Адама»** («Wiersz na ozdrowienie Adama») напісаны 4 мая 1819 г. з нагоды выздараўлення А. Міцкевіча, верш вызначаецца даволі нетыповай для XIX ст. страфічнай будовай: «*Pegaza / dosiędę, / będę / po światu / bez hiatu, / od polusa / do polusa / dając susa, / głosił, / roznosił, / wesele, / jakie czują przyjaciele, / że Adam / zdorow już*» [3, с. 36]. Форма верша была запазычана Я. Чачотам з твора «Uwagi o śmierci niechybney wszystkim pospolitey, wierszem wyrażone» ксяндза Ю. Бакі. Спарадзіраваны Я. Чачотам стыль твора ў хуткім часе распаўсюдзіўся сярод філаматаў і ў жартаўлівых імянінных віншаваннях, і ў карэспандэнцыі [5, с. 145].

Да твораў dubia (аўтарства якіх не вызначана) належыць твор **«Мусіў я сягоння рана устаць…»** («Musiu to ja siahonnia rana ustać»). На V Кангрэсе даследчыкаў Беларусі ў Коўне (2–4 кастрычніка 2015 г.) Л. Баршчэўскі паведаміў, што беларус з Іркуцка А. Кухта выявіў у кнізе Ф. Г. Духніса невядомы беларускамоўны верш Я. Чачота. А. Кухта даслаў гэты верш А. І. Мальдзісу для атрыбуцыі [2, с. 97]. У 2016 г. А. Мальдзіс выступіў з сенсацыйным паведамленнем пра тое, што знайшоўся беларускамоўны верш А. Міцкевіча, гэту гіпотэзу падтрымаў К. Цвірка [1]. Аўтар сенсацыйнай знаходкі прывёў транслітараваны кірылічным пісьмом верш «Мусіў я сягоння рана устаць…» і яго копію лацінкай. Калі ўчытацца ў змест твора, можна заўважыць, што ёсць пэўныя коды, якія дапамагаюць у атрыбуцыі: 1) «*Musiu to ja siahonnia rana ustać*» — на маю думку, так гавораць людзі, якія чакаюць гасцей, а не самі едуць ў госці; 2) «*Sztob-to ja na świecie byu karalom!*» [2, с. 100] сугучны (выпадкова?) з Чачотавым радком «Быў я колісь кавалём»; 3) словы «*Tob ja tabie szto niadielu wiaczarom / Spraulauby bankiet charoszyj*» [2, с. 100] цалкам упісваюцца ў кантэкст папярэдніх віншаванняў, у якіх Я. Чачот выказаў жаль з нагоды немагчымасці як след павіншаваць свайго дарагога сябра з-за адсутнасці грошай; 4) у гэтым вершы, як і ў многіх вершах Чачотавага аўтарства, напрыклад, як у вершы «Бедны чалавечак» («Biedny czlowieczek») са зборніка «Песні вясковага гаспадара» («Pieśni Ziemianina»), прасочваецца своеасаблівы культ ежы: «*Ad miasa tresnuu-by tabie pup, / Masła piuby pounaj tarelkaj, / I kaszu jeuby z tonkich hreckich krup*» [2, с. 100]; 5) у гэтым творы, як і ў многіх Чачотавых віншаваннях, адчуваюцца фальклорныя ўплывы.

Тым не менш, у тэксце ёсць радкі, якія пярэчаць таму, каб адназначна назваць Я. Чачота аўтарам згаданага твора:

1) радок «*A jak pryszlib twaje imianiny*». Сапраўды, рыхтуючыся да імянінаў А. Міцкевіча, напісаць так было б дзіўна, калі б не кантэкст «*Sztob-to ja na świecie byu karalom!*», бо на момант напісання твора аўтар не кароль, адпаведна, ён не меў магчымасці гэтыя імяніны справіць як след, але ўжо наступныя былі б адзначаны па-каралеўску: «*Kupiuby tabie miodu dwie tarełki; / Kupiuby parasia z skacinaj / I pounuju plaszku harełki*»;

2) радкі «*A jak moj malczyk kryczać pirastau*» і «*Wojt kryknuu pad aknom*», як сведчыць М. Хаўстовіч, указваюць на тое, што наратар — малады бацька і прыгонны селянін. Я. Чачот не быў жанаты, не меў дзяцей і быў шляхціцам. Аднак літаратурная творчасць (асабліва на беларускай мове) — гульня, у якой часта шляхціц апранаў на сябе сялянскую вопратку, як, напрыклад, у «Яжовых імянінах».

У той жа час, прафесар М. В. Хаўстовіч спачатку выказаў меркаванне, што твор мог напісаць хтосьці з віцебскіх паўстанцаў 1831 г., але не адмаўляе ў магчымасці версіі, што твор напісаў хтосьці з філаматаў, аднак не А. Міцкевіч і не Я. Чачот, пра што сведчаць, найперш, моўныя асаблівасці твора [2, с. 99]. Аднак, на маю думку, Ф. Г. Духніс мог карыстацца неаўтарскім спісам твора з адпаведнай моўнай апрацоўкай, бо ў іншым выпадку сярод філаматаў трэба шукаць таго, хто б карыстаўся сярэднебеларускімі гаворкамі. Аднак беларускамоўных віншаванняў, акрамя Я. Чачота, больш ніхто з філаматаў не пісаў. Адпаведна выявіць і параўнаць такія тэксты не ўяўляецца магчымым.

Такім чынам, Я. Чачотам быў напісаны шэраг твораў, прысвечаных Адаму Міцкевічу («Верш на выздараўленне Адама», паэма «Тыртэй», «Верш на прыезд Адама», «Верш Адаму Міцкевічу» і інш.). Адметнасцю вершаў, прысвечаных Адаму Міцкевічу, з’яўляецца высокая ступень набліжанасці аўтара да адрасата, на што паўплывала іх сяброўства, агульнае дзяцінства, вучоба. Паэт звяртаецца да свайго сябра, аднадумца, што накладае адбітак на змест і эмацыйны фон твораў. Пры іх стварэнні Я. Чачот кіраваўся самымі высокімі этычнымі нормамі, бачыў у сяброўстве саюз духоўна злучаных людзей, аб’яднаных агульнымі пачуццямі, ідэаламі, памкненнямі. Творы насычаны непадробнымі эмоцыямі, шматлікімі ўспамінамі, фактамі з жыцця паэтаў, сюжэтнымі дамінантамі могуць быць асоба адрасата і паказ жыццёвых калізій, звязаных з ёй (як у вершы «Едзе міленькі Адам», «Верш на выздараўленне Адама»), развагі пра гістарычны лёс радзімы і ролю творцы ў гісторыі («Тыртэй»). Пісьмовы зварот да суразмоўцы дае магчымасць эстэтычнага асэнсавання такіх важных анталагічных праблем, як паэзія, лёс, сяброўства, творчасць, гісторыя, Радзіма, чалавек, свет.

«Працах Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсітэту» (№ 16, с. 79–103)[1]. Артыкул складаецца з дзвюх частак: І частка — «Некалькі слоў аб беларусізмах у філёматаў у іх польскіх творах» (с. 79–89), датавана 5 студзеня 1927 г.; ІІ частка — «Асабліvасьці нашае мовы ў беларускіх філёмацкіх творах Яна Чачота» (с. 80–103), датавана 20 студзеня 1927 г. [14]. Як вынікае з дат 5 і 20 студзеня 1927 г., артыкул рыхтаваўся яшчэ ў папярэдні год (ці гады). Першая частка артыкула была ў той жа год перавыдадзена Беларускім дзяржаўным выдавецтвам пад назвай «Увагі аб мове філёматаў» (Менск: 2-я друкарня БДВ, 1927. 13 с.). Па сутнасці, гэта самастойны адбітак першай часткі артыкула, надрукаванага ў «Працах Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсітэту». Гэтыя два артыкулы, а таксама артыкул пад назвай «Таварыства філёматаў (Некаторыя цікавыя рысы аб'яднаньня маладых пісьменьнікаў у Вільні, больш чымся за сталецьце перад нашаю эпохаю)», апублікаваны ў двух сшытках часопіса «Маладосць» у студзені і ў лютым 1927 г., а таксама публікацыя «Ян Чачот (1797–1847)» у газеце «Савецкая Беларусь» ад 24 верасня гэтага ж года, былі прымеркаваны да 110-га юбілею таварыства філаматаў і 80-й гадавіны з дня смерці Яна Чачота. Леў Цвяткоў быў вельмі дасведчаным філолагам і паказаў сябе ў гэтых публікацыях і як эрудзіраваны літаратуразнавец, і як назіральны і ўдумлівы лінгвіст. Заўважым, што асоба Льва Цвяткова, яго навуковая дзейнасць, жыццё і трагічны лёс усё яшчэ патрабуюць вывучэння і асэнсавання і павінны заняць адпаведнае ім месца ў гісторыі беларускай філалогіі і навукі ў цэлым.

Артыкул «Увагі аб мове філёматаў» Л. Цвяткоў пачынае з дастаткова вялікай цытаты — слоў польскага гісторыка літаратуры, бібліёграфа і мовазнаўца Габрыэля Корбута пра мову А. Міцкевіча, якія прагучалі ў 1925 г. на з'ездзе польскіх гісторыкаў у Познані. Відаць, што словы Г. Корбута пра неабходнасць вывучэння штодзённай мовы паэта, якая адрозніваецца ад «карэнна-польскай» сваёй «правінцыйнасцю» і без ведання якой нельга зразумець «псыхолёгію» песняра і мову яго паэзіі, знайшлі жывы водгук у думках і самога Л. Цвяткова. Далей ён, спасылаючыся на назіранні таго ж Г. Корбута і дадаючы ўласныя заўвагі, піша, што польскія каментатары, не ведаючы беларускай мовы, часта адносяць да індывідуальна-аўтарскіх моўных асаблівасцей тыповыя беларусізмы ў мове А. Міцкевіча ([*młodość*] *durna*, *tusza*, *czerkieski*, *matecznik*). Л. Цвяткоў размяжоўвае штодзённую і літаратурна-пісьмовую мову паэта і робіць заключэнне пра неабходнасць іх глыбокага вывучэння, а таксама падкрэслівае патрэбу вывучэння мовы больш шырокага сацыяльна-культурнага асяроддзя, у якім жыў паэт, — не толькі мовы ўласна А. Міцкевіча, але і яго найбліжэйшага атачэння, перад

[1] Артыкул перавыдадзены ў: Леў Цьвяткоў. Увагі аб мове філёматаў // ARCHE Пачатак. — 9 (130). — 2014. — С. 138–175.

усім мовы філаматаў [14, с. 79–81]. Далейшы змест артыкула якраз і прысвечаны беларускім асаблівасцям (лексічным, фанетычным і граматычным) у мове філамацкіх твораў. У прыватнасці да найбольш цікавых беларусізмаў у мове А. Міцкевіча Л. Цвяткоў адносіць наступныя: «*Boryczki*, *busiak*, *hlaczek*, *kraska*, *kudry*, *łaszczyć się*, *kował* (замест нармальн. польск. *kuł*), *rozkaraczony*, *siaki-taki*, *w niezdrowym humoru*, *rozziawić* (беларускае “разьзявіць”, тады як па-польску павінна быць *rozdziawić*), ды жартлівае *nadniemońskim*» [14, с. 88].

Аўтар артыкула выказвае ўласнае назіранне, пра тое, што «ў процантных адносінах Адам Міцкевіч і Нупрэй Петрашкевіч даюць ня менш, а, мо’, й крыху больш беларусізмаў, чымся Зан і Чачот» [14, с. 88].

Як навуковец-філолаг Леў Цвяткоў валодаў сярод іншых і такімі выдатнымі здольнасцямі, як пільная ўвага да формы і зместу паасобнага слова і ўменне рабіць глыбокія, маштабныя высновы. У заключэнні першай часткі свайго артыкула, абапіраючыся на прыведзеныя назіранні над асобнымі словамі, формамі і выразамі, ён піша:

*<…> бясспрэчнаю зьяўляецца сувязь філёматаў з беларускім народам. Якая была гэта сувязь: ці толькі бытавая (уплыў на філёматаў з боку жывое народнае гаворкі і фальклёру ў выніку іх дробна-шляхоцкага пахаджэньня і доўгага жыцьця на вёсцы), ці, мо’, нават і ідэялёгічная ў пэўным сэнсе (natione Poloni, gente autem Alborutheni), — гэтага я пакуль-што вырашыць не магу.*

*Тут патрэбны доўгія, усебаковыя досьледы. Я-ж меў сваёю мэтаю зьвярнуць увагу на неабходнасьць такіх дасьледзінаў, бо бяз іх шмат чаго няяснага застанецца ў гісторыі нашае бацькаўшчыны і яе літаратуры* [14, с. 89].

Такім чынам, калі паважаны У. І. Мархель у 2003 г. (як, дарэчы, і ва ўзгаданых публікацыях 1998 г.), пісаў пра тое, што беларускае міцкевічазнаўства яшчэ толькі робіць першыя крокі [7, с. 7], то возьмем на сябе смеласць звярнуць увагу на тое, што даследаванні канца мінулага і пачатку гэтага стагоддзяў — гэта ўжо ***другія «першыя крокі»***, а самы першы раз думкі пра беларускі складнік у творчасці А. Міцкевіча і іншых мясцовых пісьменнікаў, што пісалі па-польску, роўна як і першыя спробы навуковага абгрунтавання такіх думак, у айчыннай філалогіі прагучалі яшчэ ў канцы 1920-х гадоў у працах Льва Цвяткова, Вацлава Ластоўскага (прыгадаем яго артыкул «Тодар Дастаеўскі і Адам Міцкевіч, сыны крывіцкага народнага генія» (Крывіч. 1926. № 1(11). С. 79–81)), верагодна, і некага з іншых тагачасных навукоўцаў.

Яшчэ і сёння цяжка асэнсаваць і ўсвядоміць, якія непапраўныя страты панесла беларуская філалогія з-за рэпрэсій 1930-х гадоў. Леў Цвяткоў быў расстраляны 28 лістапада 1937 года ў Смаленску. Плённа распачатае ім даследаванне мовы філаматаў, у тым ліку і А. Міцкевіча, перапынілася на многія дзесяцігоддзі.

Пасляваенная савецкая лінгвістыка мовай класіка польскай літаратуры, фактычна, не займалася, пра што выразна сведчыць, напрыклад, бібліяграфічны раздзел зборніка «Адам Міцкевіч і Беларусь» (1997), выдадзенага да

200-гадовага юбілею з дня нараджэння паэта [1]. І толькі ў канцы 1990-х гадоў, калі ўсё больш настойліва сталі гучаць галасы беларускіх літаратуразнаўцаў, якія сцвярджалі лучнасць творчасці А. Міцкевіча з літаратурнымі і грамадска-культурнымі працэсамі, што адбываліся на Беларусі ў XIX ст., і якія адзначалі ўплыў яго асобы і творчасці на беларускую літаратуру наступнага стагоддзя, узнікла неабходнасць па-новаму, так бы мовіць, «праз прызму беларускасці», паглядзець на мову самога А. Міцкевіча. Аднак беларускія мовазнаўцы большую ўвагу надаюць не мове арыгінальных твораў А. Міцкевіча, а моўным асаблівасцям іх беларускіх перакладаў. Колькасць публікацый на гэтую тэму вымяраецца, хіба, не адной сотняй; існуюць і асобныя кандыдацкія дысертацыі: Рускіх Анастасія Сяргееўна «Переводческие корреляты польских производных имен существительных в русском и белорусском языках: структурно-семантический аспект (на материале поэмы А. Мицкевича “Пан Тадэуш” и ее переводов на русский и белоруский языки» (2009), Хазанава Кацярына Львоўна «Моўнае вар’іраванне перакладаў Янкі Купалы» (2000). Безумоўна, гэта вельмі важны лінгвістычны напрамак, у межах якога мова самога паэта выступае апасродкавана, праз індывідуальнае ўспрыняцце і мастацкае пераўвасабленне тым ці іншым перакладчыкам. Такое становішча ў айчыннай лінгвістыцы абумоўлена існаваннем досыць вялікай колькасці перакладаў твораў паэта (І. Багдановіч, Р. Барадулін, П. Бітэль, А. Брусевіч, В. Дунін-Марцінкевіч, А. Ельскі, Я. Купала, М. Лужанін, С. Мінскевіч, М. Скобла, Я. Семяжон, М. Танк, Б. Тарашкевіч, К. Цвірка), што ў сваю чаргу сведчыць пра яго ўплыў на беларускую літаратуру. І. Багдановіч у манаграфіі «Авангард і традыцыя. Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння» (2001) адзначае:

*Духоўна-эстэтычнае поле Міцкевічава ўплыву было настолькі магутным, што ў ім знаходзіўся так ці інакш кожны з айчынных творцаў. Уплыў праяўляўся ў іх творчасці як алюзіі, рэмінісцэнцыі, наследаванне матываў і вобразаў, як жанравая інварыянтнасць, інтэртэкстуальнасць. Пастаянным і зацікаўленным было імкненне перакласці Міцкевіча на беларускую мову, або, што больш дакладна, — перастварыць Міцкевіча па-беларуску, каб яго творы прыйшлі «пад кожную сялянскую страху», як пісаў той жа А. Ельскі, перафразуючы радкі Міцкевічавага раманса «Дудар»* [2, с. 24].

Непасрэдна да разгляду мовы твораў А. Міцкевіча з кола беларускіх лінгвістаў звярнуўся **Г. А. Цыхун**. Яму належыць артыкул пад назвай **«Мова Адама Міцкевіча ў рэгіянальным аспекце»**, які быў надрукаваны ў 1998 г. у зборніку «Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры» [13].

Адзначыўшы, што асновай мовы твораў А. Міцкевіча выступае польская мова, аўтар артыкула заўважае, што шэраг слоў быў уведзены ў польскую літаратурную мову дзякуючы паэту і належыць да «т. зв. *усходняга культурнага дыялекту*, які сфарміраваўся яшчэ ў сярэднія вякі ў выніку паланізацыі верхніх слаёў Вялікага Княства Літоўскага пры пэўным удзеле (звычайна

колькасна нязначным, але ўплывовым) выхадцаў з карэннай Польшчы» [13, с. 323]. Падкрэсліўшы такім чынам гістарычную пераемнасць і закрануўшы ўмовы функцыянавання гэтага культурнага дыялекту і суадносіны яго з літаратурнай польскай мовай, далей аўтар ілюструе іх на прыкладах з твораў А. Міцкевіча. Г. А. Цыхун слушна звяртае ўвагу на тое, што такія адзінкі часам уводзяцца паэтам пры дапамозе слоў тыпу *zwany*, *nazywają*, што такія беларусізмы трапілі хутчэй за ўсё праз фільтр культурнага дыялекту, у якім паспелі прайсці першую адаптацыю (гаворка пра фанетычныя і акцэнтныя змены) [13, с. 324]. Асобную ўвагу аўтар артыкула звяртае на тыя беларусізмы, фанетычная форма якіх была захавана паэтам, і гаворыць пра тое, што, верагодна, гэта можа тлумачыцца жаданнем падкрэсліць мясцовы каларыт [13, с. 324]. Адносна часткі падобных прыкладаў Генадзь Апанасавіч выказвае цікавую заўвагу: «У іншых выпадках гэта звязана, магчыма, са старым характарам запазычання ў польскую літаратурную мову і ў сувязі з гэтым семантычным адасабленнем усходнеславянскага запазычання і польскага слова, параўн. *czereda* і *trzoda* <…> або *ożyna* і *jeżyna* <…>» [13, с. 324–325]. Разважаючы далей на гэтую тэму, аўтар адзначае, што ў тэкстах А. Міцкевіча прысутнічае ўяўная архаізацыя, «выкліканая тым, што ў тагачасную польскую літаратурную мову ўводзілася інавацыя з “dialektu kulturalnego”, якая ўзнікла ў выніку “перастварэння” беларускай лексемы, што па форме супадала з архаізмам, вядомым у гісторыі польскай мовы», і таксама прыводзіць адпаведныя ілюстрацыі: *młódź* побач з *młodzież*, *zawżdy* побач з *zawsze*, а таксама *ociec* і магчымае *wyraj* [13, с. 325]. Верагодна, такая архаізацыя прызначалася для рэалізацыі паэтам мастацкіх мэтаў, на што і звяртае ўвагу аўтар артыкула. Не абмінуў увагай Г. А. Цыхун і такія папулярныя ў філалагічным асяродку беларусізмы з Міцкевічавых твораў, як *świerzop*, *matecznik*, *cary*, *iść w grzyby* [13, с. 326–327]. Адсылаючы зацікаўленых да першакрыніцы — публікацыі Г. А. Цыхуна, адзначым толькі каштоўнасць выказаных ім назіранняў, якія ўлічваюць ужо існуючыя навуковыя здабыткі і абапіраюцца на дыялекталагічныя дадзеныя, іншым разам з выхадам на агульнаславянскі фон.

У заключэнні аўтар артыкула робіць выснову пра тое, што творы А. Міцкевіча адлюстравалі складаную моўную сітуацыю, што існавала ў той час у літаратурна-пісьмовай сферы Беларусі і для якой вылучаюцца «тры моўныя ўзроўні, у межах якіх функцыянавалі розныя ідыёмы — т. зв. polszczyzna literacka, polski dialekt kulturalny і беларускае фальклорна-моўнае кайнэ» [13, с. 327–328]. Што тычыцца непасрэдна мовы твораў А. Міцкевіча, то прадстаўленыя ў ёй беларускія элементы, адпаведна аўтару артыкула, «трапілі туды, прайшоўшы праз фільтр польскага культурнага дыялекту. Крыніцай іх было фальклорна-моўнае кайнэ і непасрэдна беларускія гаворкі» [13, с. 328].

Пераказ асноўнага зместу і высноў публікацыі Г. А. Цыхуна абгрунтаваны тым, што, па-першае, з яго бачна, у якім напрамку могуць ісці беларусістычныя даследаванні мовы твораў паэта, а па-другое, у айчыннай лінгвістыцы,

здаецца, гэта ці не адзіная асобная праца аб мове А. Міцкевіча (публікацыя Л. Цвяткова была прысвечана філаматам). Падкрэсліваем яшчэ раз, што дастаткова распрацаваны напрамак даследавання мовы перакладаў твораў А. Міцкевіча тут мы не разглядаем.

Лічым, што на рахунак беларускага міцкевічазнаўства правамерна адносіць усе навуковыя здабыткі, створаныя па-беларуску ці беларусамі, у тым ліку за межамі Беларусі.

Калі ў сучаснасці, дзякуючы намаганням літаратуразнаўцаў, мы нарэшце прызнаем, што творчасць А. Міцкевіча — гэта прыклад і ўзор польскамоўнай плыні беларускай літаратуры, то неабходна прызнаць, што, напрыклад, праца Станіслава Станкевіча **«Pierwiastki białoruskie w polskiej poezji romantycznej»** (Вільня, 1936), за якую яму была прысвоена ступень доктара філасофіі ў галіне польскай і славянскай літаратуры і без спасылкі на якую не абыходзіцца ніводнае сур'ёзнае даследаванне творчасці А. Міцкевіча, мае непасрэднае дачыненне і да беларускага міцкевічазнаўства.

**Станіслаў Станкевіч** (1907–1980) — палітычны дзеяч, выдавец, публіцыст, пісьменнік (псеўданімы *Язэп Каранеўскі*, *Алесь Крыга*, *Дзівасіл*), літаратуразнавец. Народжаны на Беларусі, выхаванец Віленскай беларускай гімназіі і Віленскага ўніверсітэта, аўтар публікацый па беларускай літаратуры, удзельнік розных у большай ці меншай ступені нацыяналістычных грамадскіх аб'яднанняў, С. Станкевіч, безумоўна, быў беларусам. Непрыняцце савецкага ладу жыцця і актыўная дзейнасць супраць яго, асабліва падчас працы бурмістрам Барысава ў 1941–42 гг. і пазней у эміграцыі, абумовілі тое, што савецкая навука старанна ігнаравала як самога С. Станкевіча, так і яго навуковую дзейнасць, па-простэу зрабіўшы выгляд, што іх не існуе. Дагэтуль спасылкі на **працы** С. Станкевіча ў беларускіх навукоўцаў досыць рэдкія. Разыходжы выраз пра тое, што, маўляў, гісторыя ўсё расставіць па сваіх месцах, пакуль што не спраўджваецца — адносна асобы С. Станкевіча ўсё яшчэ вядуцца спрэчкі. У гэтай сувязі можна прыгадаць, скажам, дыскусію 2013 г. у часопісе «Arche»: артыкул Дзяніса Нарэля «Ці патрэбна нам праўда пра доктара Станіслава Станкевіча?» (http://news.arche.by/by/page/science/historya-navuka/11719) і адказ на яго Аляксандра Пашкевіча «Праўда нам патрэбна. Але ці настолькі яна відавочная?» (http://news.arche.by/by/page/reviews/navuka-ahliady/11720).

Навука ўжо па самой сваёй сутнасці павінна быць апалітычнай і неідэалагізаванай, чаго асабліва цяжка дасягнуць у гуманітарнай сферы. У гэтым сэнсе праца С. Станкевіча, прынамсі ў той яе частцы, якая датычыцца мовы паэта, выглядае вольнай ад непажаданых уплываў. І калі аўтар сцвярджае беларускае паходжанне той ці іншай формы, слова ці выразу, то пры гэтым ён абапіраецца на рэальныя факты і аўтарытэтныя навуковыя меркаванні.

Паспрабуем сцісла апісаць змест працы С. Станкевіча «Pierwiastki białoruskie w polskiej poezji romantycznej» з тым, каб вызначыць яе месца ў,

прама скажам, небагатым наробкамі беларускім міцкевічазнаўстве. У далейшым выкладзе будзем карыстацца перакладам польскамоўнай працы С. Станкевіча на беларускую мову, які быў апублікаваны пад назвай **«Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі»** (Вільня, Беласток, 2010) [11].

У склад адной з найбольш папулярных крыніц па даследаванні творчасці А. Міцкевіча ўваходзіць асобны **VIII раздзел «Мова Міцкевіча»**, на пачатку якога аўтар, як і іншыя даследчыкі, адзначае, што мова польскага паэта ўтрымлівае багата беларускіх элементаў у галіне граматыкі і лексікі, якія паходзяць з мясцовых народных гаворак і якімі была насычана мова мясцовай шляхты. С. Станкевіч заўважае: паэт свядома ўводзіць такія элементы, каб падкрэсліць «сваю лакальную адметнасць», што ў сваю чаргу азначае неабходнасць вывучэння мовы як мастацкага сродку. Аўтар раздзела ўзгадвае працы К. Ніча, Ст. Дабжыцкага, на якія ён абапіраецца, а таксама акрэслівае крыніцы свайго даследавання [11, с. 144].

**Частка А. З’явы ў галіне фанетыкі.**

На пачатку гэтай часткі аўтар заўважае, што вывучэнне «правінцыйных» асаблівасцей мовы ў галіне фанетыкі значна ўскладняе непаслядоўнасць арфаграфіі А. Міцкевіча і, як бачна з наступнага тэксту, па магчымасці стараецца звяртацца да першакрыніц, скрупулёзна адзначаючы словы, выпраўленыя ў наступных выданнях твораў паэта [11, с. 144]. Такі падыход, адзіна правільны пры даследаванні фанетычных асаблівасцей, досыць часта ігнаруецца даследчыкамі мовы А. Міцкевіча, што вядзе да скажэння навуковых назіранняў і высноў.

С. Станкевіч прыводзіць наступныя беларускія фанетычныя асаблівасці, выяўленыя ў творах А. Міцкевіча: пераход *э* ў *а* (*rdzawieć*, *rdzawieje*), суфікс -*ek*- замест -*ik*- (*duszeczka*), пераход *śl* у *szl* (*szlesz*, *poszlij*), а таксама *śń* у *szń* (*zauszniczki*), памякчэнне *z*, *s* перад мяккімі зычнымі, асабліва ў прыстаўках (*źwiędła*, *wźmiankę*, *nieźmiernie*), цвёрды *n* замест *ń* перад наступным цвёрдым зычным, што вядзе да замены на пісьме *ę* і *ą* на *en* і *on* (*łancuchem*, *skonczył*, *koncem*), беларускае фанетычнае афармленне маюць словы *jaźmin*, *gark*, *garlo*, а таксама *czyscowy* і формы ўскосных склонаў назоўніка *czyściec* (*w czyscu*) [11, с. 145–147]. Свае назіранні і высновы аўтар падмацоўвае спасылкамі на дыялекталагічныя звесткі і фальклорныя творы.

**Частка Б. Асаблівасці ў галіне марфалогіі.**

У гэтай частцы шмат увагі нададзена формам роднага склону адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду. Аўтар заўважае, што адны з іх у творах А. Міцкевіча выступаюць пераважна з канчаткам -*а*, у той час, як у польскай мове адпаведныя словаформы маюць канчатак -*u*: *niebokręga*, *klasztora*, *stoła*, *proga*, *dwora, lasa*, *roka*, *płota*; іншыя — наадварот: маюць канчатак -*у* там, дзе ў польскай мове выступае канчатак -*a*: *cieniu*, *duchu*. Наступная граматычная пазіцыя назоўнікаў, што прыцягнула ўвагу даследчыка, — месны склон

адзіночнага ліку: *po światu*, *w domie*. Далей гаворка пра формы назоўнага і вінавальнага склонаў множнага ліку накшталт *świecy*, *oczki*, *człony*, *cudy*. З ліку займеннікаў беларускамоўныя асаблівасці адзначаны аўтарам для формаў *ten samy*, *pewny*. Пра дзеяслоўныя формы С. Станкевіч заўважае, што сярод іх няшмат такіх, якія з упэўненасцю можна аднесці да «правінцыялізмаў», — гэта асобныя формы дзеясловаў *czerpać* (*czerpa*, *czerpając*, *czerpający*), *tupać* (*tupa*), *biec* (*biegę*, *biegą*). Як і ў папярэдняй частцы, тут падаюцца прыклады адпаведных беларускіх словаформаў [11, с. 148–149].

**Частка В. Род і лік.**

У гэтай частцы пададзены назоўнікі, якія адрозніваюцца ад суадносных польскіх граматычнымі катэгорыямі роду: *obręcz*, *białek*, *kartofla*, *opłatka*, ці ліку: *sieńi*, *mozgy*, а таксама прыводзяцца аналагічныя факты беларускай мовы [11, с. 149–150].

**Частка Г. Асаблівасці ў галіне сінтаксісу.**

Зразумела, што ў гэтай частцы пададзены сінтаксічныя канструкцыі з твораў А. Міцкевіча, якія аўтар даследавання адносіць да беларускамоўных. Гаворка ідзе пра «ўжыванне непераходных дзеясловаў як пераходных» (маюцца на ўвазе формы дзеясловаў *wiedzieć*, *podobać*, *patrzeć*), блытаніну ва ўжыванні зваротных і незваротных формаў дзеясловаў: *przypominać*, *upodobać*, *życzyć*, *zbrzydzić* без *sobie*, аднак: *się podchmieli*, *traskały się*, *rozdzwiawiwszy się*, *stuka się*, *się nie spęka*, *spękała się* [11, с. 150–151].

Даволі падрабязны каментарый суправаджае назіранні над выкарыстаннем А. Міцкевічам формаў дзеясловаў *boleć* і *kosztować*. Акрамя таго, што аўтар прыводзіць прыклады з вершаваных твораў і карэспандэнцыі паэта, ён таксама падае прыклады і з Л Кандратовіча, Я. Ходзькі, Т. Зана, Я. Чачота, А. Петрашкевіча, прыводзіць і абвяргае меркаванне Л. Маліноўскага пра літоўскі ўплыў у гэтых выпадках, пагаджаецца з думкай А. Валіцкага пра несумненнае беларускае ўздзеянне [11, с. 151].

Такі ж грунтоўны аналіз суправаджае апісанне канструкцый «*być* + лагічны суб’ект у форме давальнага склону» або «*być* + лагічны суб’ект у форме роднага склону з прыназоўнікам *u*» замест «*mieć* + граматычны суб’ект у форме назоўнага склону». С. Станкевіч прыводзіць адпаведныя беларускія прыклады, а таксама меркаванне адносна іх паходжання С. Дабжыцкага і К. Ніча [11, с. 152].

«Надзвычай характэрнай асаблівасцю сінтаксісу Міцкевіча» называе аўтар даследавання ўжыванне пасля дзеяслова інфінітыва, які замяняе залежны сказ або назоўнік (*On odwyknął oddychać*) [11, с. 152–153].

Канструкцыі, якія ў агульнапольскай мове ўжываюцца без прыназоўніка, а ў А. Міцкевіча выступаюць з прыназоўнікам *u* (*I pytała u gości*), аўтар адносіць да праяў беларускага моўнага ўплыву, таксама як і канструкцыі з прыназоўнікам *w* з вінавальным склонам замест *do* з родным (*Weszli w zamek*) [11, с. 153].

Далей С. Станкевіч пярэчыць Г. Турскай, якая выказала думку, што канструкцыі з прыназоўнікам *na* замест *w* (*na żyсіи*) былі пераняты з рускай мовы (Г. Турска пісала пра мову Я. Ходзькі), і звяртае ўвагу на тое, што даданыя сказы, якія пачынаюцца з *póki*, у мове А. Міцкевіча часта выступаюць без адмоўя *не*, што можна лічыць верагодным правінцыялізмам [11, с. 153–154].

**Частка Д. Слоўнік.**

Гэта частка ўяўляе сабой алфавітны паказальнік слоў, якія аўтар лічыць беларусізмамі ў мове А. Міцкевіча. Усяго слоўнік змяшчае 77 адзінак. Слоўнікавы артыкул утрымлівае загаловачнае слова, яго польскамоўны адпаведнік, падборку прыкладаў з твораў паэта, а таксама прыклады з беларускага фальклору ў зборах А. Сержпутоўскага, М. Федароўскага, Я. Чачота, П. Шейна і інш., слоўніка І. Насовіча. Часта падаюцца заўвагі пра тое, што гэтае ж слова сустракаецца ў Т. Зана, А. Петрашкевіча, Я. Ходзькі, Я. Чачота [11, с. 154–160]. Слоўнік карысны не толькі тым, што ўяўляе сабой падборку Міцкевічавых беларусізмаў, але і ўдакладненнямі і каментарыямі аўтара, якія абапіраюцца на вартыя даверу крыніцы, яго ўласнымі высновамі.

Такім чынам, без перабольшання можна сказаць, што на сённяшні дзень раздзел «Мова Міцкевіча» [11, с. 144–160] у працы С. Станкевіча «Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі» з'яўляецца найбольш поўным, сістэматызаваным па моўных узроўнях і абгрунтаваным навуковым даследаваннем. І нягледзячы на тое, што яно выйшла ў 1936 г. па-польску, ёсць усе падставы для таго, каб лічыць яго набыткам не толькі польскай, але і беларускай філалогіі і міцкевічазнаўства.

Яшчэ адзін дзеяч беларускай дыяспары, чыё імя стала даступна навуковаму супольніцтву толькі ў постсавецкі час, — **Сымон Брага** (Вітаўт Тумаш, 1910–1998) — вядомы перадусім як заснавальнік і старшыня Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку (ЗША), гісторык і скарыназнавец.

У працы Сымона Брагі **«Міцькевіч і беларуская плынь польскае літаратуры»** (Нью-Ёрк, 1957) ёсць асобны раздзел «Беларушчына ў Міцькевічавай мове», у якім аўтар абгрунтоўвае беларускасць прозвішча самога Міцкевіча, выводзячы яго ад «народнага імя *Міцька*», прыводзіць словы паэта пра беларускую мову, выказаныя ім на лекцыях па славянскай літаратуры, заўважае, што беларусізмаў шмат сустракаецца ў пачатковай творчасці паэта, але насычаны імі і больш познія творы, падае асобныя прыклады лексічных і сінтаксічных беларусізмаў [3, с. 10–12]. С. Брага ўзгадвае і дыскусію паміж літаратурнымі крытыкамі і паэтам адносна выкарыстання ім «правінцыялізмаў», а таксама дае сваю ацэнку гэтаму з улікам гістарычнай перспектывы: адзначае, што беларусізмы ў творчасці паэтаў-рамантыкаў або засталіся элементамі індывідуальнага стылю, або былі перанятыя ў польскую літаратурную мову і ўзбагацілі яе [3, с. 12–13]. Аўтар прыходзіць да высновы, што ў А. Міцкевіча прадстаўлены моўныя, фальклорныя, бытавыя, сюжэтныя і краявідныя беларускія элементы, якія не проста ствараюць пэўны каларыт,

але арганічна зрасліся з творчасцю паэта, неадлучныя ад яе, і без разумення гэтага немагчыма разуменне і самога паэта, яго творчасці [3, с. 17].

Гаворачы пра беларускае міцкевічазнаўства нельга абмінуць увагай замежную беларусістыку. Вышэй ужо згадвалася пра навуковыя працы польскіх беларусістаў, прысвечаныя мове перакладаў твораў А. Міцкевіча.

Вельмі вартасная публікацыя, аб’ектам вывучэння ў якой выступае мова А. Міцкевіча, — артыкул шаноўнага прафесара **Эльжбеты Смулковай** пад назвай **«Беларускія элементы ў творчасці Адама Міцкевіча»**, які быў надрукаваны таксама, як і ўзгаданы артыкул Г. А. Цыхуна, у зборніку «Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры» ў 1998 г.

Адзначыўшы падыходы, у межах якіх можна весці гаворку пра беларускія элементы ў творчасці А. Міцкевіча, а таксама неабходнасць «змясціць паэта ў грамадска-палітычную і культурную атмасферу таго часу» [10, с. 316], Э. Смулкова вылучае два аспекты, у якіх адбывалася ўздзеянне беларускай народнай культуры на А. Міцкевіча: а) фальклорны, сюжэтны, б) чыста моўны [10, с. 316]. Аўтар справядліва заўважае, што выявіць беларускія элементы ў мове твораў паэта дастаткова проста і часткова гэта ўжо зроблена. Але намнога больш складана вызначыць, пранікалі гэтыя элементы непасрэдна з мясцовых беларускіх і літоўскіх гаворак, ці мова сацыяльнага асяроддзя, у якім рос і выхоўваўся будучы паэт, была імі моцна прасякнута. Аўтар артыкула прызнае існаванне «дастаткова аднароднай спецыфічнай польскай рэгіянальнай культуры, якая адрознівалася больш па сацыяльных (саслоўных), чым па нацыянальных прыкметах і якая была ўзбагачана беларускай і літоўскай культурамі» [10, с. 316]. Пры гаворцы пра мову паэта аўтар звяртае ўвагу на тры моманты: 1) адрозненне размоўна-гутарковага і пісьмова-літаратурнага маўлення А. Міцкевіча (нагадаем, што пра гэта ўзгадваў і Л. Цвяткоў), 2) неаднароднасць крыніц беларусізмаў у мове паэта, якія маюць рэгіянальнае паходжанне і выяўляюцца на агульнапольскім моўным фоне, 3) неабходнасць вызначэння стылістычных функцый беларускамоўных элементаў і адмежавання іх ад спантанных — «натуральных кампанентаў мовы» [10, с. 317]. Прафесар таксама прыводзіць прыклады беларусізмаў з паэмы «Пан Тадэвуш» і гаворыць пра тое, што «гэты твор па-ранейшаму чакае сваёй мовазнаўчай манаграфіі» [10, с. 320]. Заключная частка артыкула прысвечана адлюстраванню матываў беларускага фальклору ў творчасці А. Міцкевіча.

Прафесар Смулкова ў разгледжанай публікацыі фактычна акрэсліла найважнейшыя мовазнаўчыя напрамкі даследавання мовы А. Міцкевіча: дыялекталагічны, функцыянальна-стылістычны, сацыялінгвістычны.

І застаецца выказаць спадзяванне на тое, што гэтыя лакуны ў беларускім мовазнаўстве паступова будуць запаўняцца.

## Літаратура

1. Адам Міцкевіч і Беларусь = Adam Mickiewicz a Białoruś: год Адама Міцкевіча: [зборнік артыкулаў: да 200-годдзя з дня нараджэння / Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны пры Міністэрстве адукацыі РБ, Польскі інстытут у Мінску, Беларускі фонд культуры ; уклад. В. Грышкевіч ; навук. рэд.: А. Мальдзіс, Т. Нягодзіш]. — Мінск: Цэнтр імя Ф. Скарыны, 1997. — 317 с.
2. Баргановіч, І. Авангард і традыцыя. Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння / І. Багдановіч. — Мінск: Беларуская навука, 2001. — 387 с.
3. Брага, С. Міцькевіч і беларуская плынь польскае літаратуры / Беларускі інстытут навукі і мастацтва. — Нью-Ёрк, 1957. — 32 с.
4. Брусевіч, А. А. Фактары беларускай культуры ў торчасці Адама Міцкевіча / А. А. Брусевіч. — Гродна: ГрДУ, 2008. — 135 с.
5. Еўмяньноў, В. І. Адам Міцкевіч і духоўна-эстэтычныя пошукі ў літаратуры Беларусі XIX ст. / В. І. Еўмяньноў. — Магілёў: МДУ, 2009. — 160 с.
6. Лойка, А. А. Адам Міцкевіч і беларуская літаратура / А. А. Лойка. — Мінск: Выдва Белдзяржуніверсітэта, 1959. — 132 с.
7. Мархель, У. І. Шлях да Беларусі: Адам Міцкевіч — прадвеснік адраджэння беларускай літаратуры / У. І. Мархель. 2-е выд., дапрац. — Мінск: Беларуская навука, 2003. — 121 с.
8. Мінскевіч, С. Л. Паэма Адама Міцкевіча «Дзяды» і беларуская літаратура XIX — пачатку XX стагоддзя: аўтарэф. … дыс. канд. філал. навук: 10.01.01; 10.01.03 / С. Л. Мінскевіч; Белар. дзярж. ун-т. — Мінск, 2010. — 25 с.
9. Міцкевіч, А. Выбраныя творы: Пер. з пол. мовы / А. Міцкевіч; уклад., прадм. і камент. К. Цвіркі. — Мінск: Бел. кнігазбор, 2003. — 637 с.
10. Смулкова, Э. Беларускія элементы ў творчасці Адама Міцкевіча / Э. Смулкова // Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры: матэр. міжнар. навук. канф. (Мінск, 7–11 верасня 1998 г.) / [рэдкал.: А. Мальдзіс (гал. рэд.) і інш.]. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 1998. — С. 315–322.
11. Станкевіч, С. Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі / С. Станкевіч. — Вільня [Вільнюс]: Інстытут беларусістыкі; Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, 2010. — 211 с. (Пераклад выдання: Pierwiastki białoruskie w polskiej poezji romantycznej / Stanisław Stankiewicz. — Wilno: Wydawnictwa Towarzystwa Pomocy Naukowej im. E. i E. Wróblewskich, 1936.)
12. Цвірка, К. Адам Міцкевіч: Вялікі пясняр Беларусі / К. Цвірка. — Мінск: Харвест, 2018. — 63 с.
13. Цыхун, Г. Мова Адама Міцкевіча ў рэгіянальным аспекце / Г. Цыхун // Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры: матэр. міжнар. навук. канф. (Мінск, 7–11 верасня 1998 г.) / [рэдкал.: А. Мальдзіс (гал. рэд.) і інш.]. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 1998. — С. 323–328.
14. Цьвяткоў, Л. Увагі аб мове філёматаў / Л. Цьвяткоў // Працы Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсітэту. — 1927. — № 16. — С. 79–103.

**Beata Siwek**
(Katolicki Uniwersytet Lubelski Jana Pawła II, Lublin, Polska)

# «DZIADY» ADAMA MICKIEWICZA W NOWYCH REALIZACJACH TEATRÓW POLSKICH I BIAŁORUSKICH

«Dziady» Adama Mickiewicza należą do najważniejszych polskich utworów dramatycznych. Od czasu ich powstania inscenizowano je wielokrotnie, a każda kolejna realizacja teatralna wywoływała ożywione dyskusje na temat tego, jak i czy w ogóle wystawiać na scenie Mickiewiczowski tekst. Najważniejsze inscenizacje «Dziadów» doczekały się również interesujących, wieloaspektowych opracowań monograficznych [2; 12].

Warto przypomnieć już na samym wstępie, że literacka historia «Dziadów» jest dość złożona. «Dziadów» część II powstała w Kownie na przełomie 1820–1821 roku i ogłoszona w drugim tomie «Poezji». Rozpoczyna ją znane motto z Szekspirowskiego «Hamleta»: «*Są dziwy w niebie i na ziemi, o których nie śniło się waszym filozofom*» [13, s. 13].

Jak zauważa Alina Witkowska, dramat ten kontynuuje moralną problematykę ballad, która tutaj została przez Mickiewicza bardziej rozbudowana i powiązana z tradycyjnymi wschodniosłowiańskimi elementami obrzędowymi: «Powołanie do istnienia mocą magicznego obrzędu nadzmysłowa rzeczywistość "Dziadów" podporządkowana jest prawom moralnym obowiązującym człowieka jako reprezentanta rodzaju oraz człowieka jako członka społeczności. Stąd na "tajnym obrzędzie" pojawiają się dusze dzieci, które nie zaznały w życiu goryczy, przeto nie mogą być zbawione, nie dopełniły bowiem swej kondycji ludzkiej niezbędnym doświadczeniem cierpienia» [27, s. 253]. Zasadniczą część utworu poprzedza wiersz «Upiór», a kończy — brzmiąca niczym refren — replika Chóru: «*Gdzie my z nią, on za nią wszędzie. Co to będzie, co to będzie?*» [13, s. 36]. Ważną postacią tej części dramatu jest milczące Widmo, które — podobnie jak Upiór — pełni rolę postaci łączącej tę część z IV częścią «Dziadów».

«Dziady» część IV pisane był przez Mickiewicza w latach 1821–1822. Centralną postacią utworu jest Gustaw, indywidualista, romantyczny kochanek. Porzucony przez ukochaną kobietę, doświadczający udręki miłosnego cierpienia i zazdrości, decyduje się na śmierć samobójczą.

Bez wątpienia najbardziej intrygującą częścią «Dziadów» jest część III, powstała w Dreźnie w 1832 roku [27, s. 267] i uznana wkrótce za arcywzór polskiego dramatu romantycznego, dwukrotnie publikowana w krótkim odstępie czasowym — w roku 1832 jako czwarty tom zbioru «Poezje» oraz rok później w oddzielnym wydaniu.

Utwór ten nawiązuje do idei mesjanizmu, koncentruje się na zagadnieniu sensu polskiej walki narodowowyzwoleńczej i idei męczeństwa w imię ojczyzny, łącząc je jednocześnie z problematyką metafizyczną, obudowaną wokół związku świata duchów z działaniami człowieka i przekonaniu o ingerencji Boga w dzieje świata [24, s. 136]. Centralnymi postaciami dramatu są Konrad i Ksiądz Piotr, który posiadł zdolność przewidywania dziejów Polski. Wyrażone w słynnym monologu Konrada wątpliwości i roszczenia skierowane wobec Stwórcy, nawiązujące do mistycyzmu niemieckiego teozofa Jakuba Boehmego, tak cenionego przez Mickiewicza [15, s. 116–117], stanowią najbardziej niepokojący i tajemniczy fragment tekstu. Konrad nie umie pogodzić tradycyjnego obrazu Boga — ojca wszelkiego stworzenia, najwyższego dobra, z obrazem zła, jakie dostrzega w świecie. Próbuje zatem wymusić na Bogu odpowiedź [15, s. 132]. Zdaniem Wiktora Weintrauba, III część «Dziadów» stanowi przykład zuchwałego rozbicia tradycyjnej struktury dramatycznej, co rodzi wątpliwości, czy możemy ten utwór jeszcze nazywać dramatem [25, s. 24].

W «Dziadach — Widowisku» (część I) pojawia się postać Guślarza i motyw obrzędu cmentarnego. Zostaje tu wprowadzona ponadto postać Dziewicy-marzycielki, romantycznej natury oraz podmioty zbiorowe — Chór młodzieży i Chór młodzieńców. Ta porzucona przez Mickiewicza z niewiadomych przyczyn w fazie kilku scen część «Dziadów», zdaniem Aliny Witkowskiej, jest dokonaniem wielkim i niezbędnym dla pełniejszego zrozumienia «Dziadów» kowieńsko-wileńskich [27, s. 254].

«Dziady» nie ukazały się na scenie teatralnej za życia autora[1]. Dopiero w roku 1865 fragmenty II części dramatu posłużyły Stanisławowi Moniuszce do wykonania kantaty Widma.

31 października 1901 roku w Teatrze Miejskim w Krakowie miało miejsce pierwsze przedstawienie, przygotowane przez Stanisława Wyspiańskiego, w którym połączone zostały wszystkie części Mickiewiczowskiego tekstu. Wilhelm Feldman w artykule «Stanisław Wyspiański o inscenizacji Dziadów» tak oto pisał o tej realizacji: «Wprowadzenie "Dziadów" na scenę w Krakowie jest wypadkiem dla literatury i teatru polskiego tak ważnym, że słusznie — i świadczy to o wysokiej kulturze duchowej Krakowa — obudził tu głębokie zajęcie. Żadna ze sztuk przedstawionych w ciągu ostatnich lat kilku nie gromadziła tak licznej publiczności, nigdy może Kraków nie widział dzień po dniu owego rzadkiego w teatrach naszych ogłoszenia: teatr wyprzedany» [5, s. 14].

---

[1] Przed 1835 rokiem epizod z IV części «Dziadów» został wykorzystany do występu monodramatycznego Seweryna Malinowskiego.

Reżyserii dramatu Mickiewicza podejmowali się tak znaczący mistrzowie polskiej sceny, jak Leon Schiller[1], Jerzy Grotowski, Mieczysław Kotlarczyk, Aleksander Bardini, Jerzy Kreczmar, Konrad Swiniarski, Włodzimierz Staniewski, Jerzy Grzegorzewski[2].

Jedną z najgłośniejszych była realizacja Kazimierza Dejmka na scenie Teatru Narodowego w Warszawie z 1967 roku, nie tylko z uwagi na wspaniałą oprawę muzyczną (większość obrzędu dziadów była śpiewana, a scena Balu u Senatora została oparta na motywach menueta), ale też doskonałą obsadę aktorską (rolę Gustawa-Konrada grał Gustaw Holoubek) [12, s. 42] i pierwszą w teatralnej historii «Dziadów» pełną ekspozycję Wielkiej Improwizacji [16, s. 111–112]. Spektakl ten, z uwagi na żywiołową reakcję publiczności, która odczytała sztukę w perspektywie społecznej, stał się nolens volens przedstawieniem politycznym. Władze wkrótce zakazały przedstawień, a sam reżyser, w którym z czasem zaczęto dostrzegać bohatera antycznej tragedii, «jakiegoś polskiego Edypa intuicyjnie rozpoznającego swoje przeznaczenie i desperacko próbującego oddalić je od siebie, by ulec na końcu jego nieuchronności» [12, s. 33], stracił fotel dyrektora Teatru Narodowego.

Zdaniem Michała Rosenberga, wyreżyserowany przez Kazimierza Dejmka spektakl łączył wiele sprzeczności. Był jednocześnie postępowy, plebejski, patriotyczny i — z uwagi na problemy zawarte w Mickiewiczowskim tekście — antyrosyjski [18, s. 329].

Warto podkreślić fakt, że najnowsze realizacje Mickiewiczowskich «Dziadów», zarówno białoruskie, jaki polskie, zostały stworzone przez reżyserów o nowatorskim, eksperymentalnym podejściu do teatru.

Uwagę naszą skierujemy na cztery spektakle: «Teatru Cze» w reżyserii Ramune Kudzmanajte (premiera: 17 kwietnia 2013 roku, czas trwania: 120 minut), Brzeskiego Akademickiego Teatru Dramatu w reżyserii Pawła Passiniego (premiera: 12 września 2015 roku, czas trwania: 120 minut), Teatru Polskiego we Wrocławiu w reżyserii Michała Zadary (premiera: 20 lutego 2016, czas trwania 14 godz. z siedmioma przerwami) oraz Teatru Narodowego w reżyserii Eimuntasa Nekrošiusa (premiera: 10 marca 2016, czas trwania: 3 godz. 45 minut).

Należy zaznaczyć, że ograniczenia objętościowe artykułu nie pozwalają na wnikliwą analizę powyższych przedstawień, a raczej na uchwycenie kierunku interpretacji Mickiewiczowskiego tekstu oraz wybranych aspektów jego teatralnej recepcji.

---

[1] L. Schiller wyreżyserował cztery spektakle. Pierwszy odbył się we Lwowie (1932), kolejne w Wilnie (1933), w Warszawie (1934) i w Sofii (1937).

[2] Jerzy Grzegorzewski podjął się dwukrotnie realizacji Mickiewiczowskiego tekstu. W 1987 roku w Teatrze Studio w Warszawie (tytuł spektaklu: «Dziady–Improwizacje») oraz w 1995 roku w Teatrze Starym w Krakowie (tytuł spektaklu: «Dziady–Dwanaście Improwizacji»).

Nowe spojrzenie na Mickiewiczowskie «Dziady» zostało zaprezentowane w realizacji białoruskiego «Teatr Cze» (biał. «Тэатр Ч», założony w Mińsku w 2013 roku). Już premierowe przedstawienie przygotowane przez Ramune Kudzmanajte zakończyło się kilkunastominutową owacją na stojąco, a pojawiające się tuż po przedstawieniach premierowych teksty krytyczne nie pozostawiały wątpliwości, że oto mamy do czynienia z ważnym i doskonale wyreżyserowanym spektaklem teatralnym, w którym problematyka Mickiewiczowska współbrzmi z problemami naszych czasów. «Spektakl, na który czekaliśmy prawie ćwierć wieku! Nowa legenda teatru białoruskiego», «To przedstawienie stało się sensacją w kulturze teatralnej» [28] — takie głosy pojawiały się już po pierwszych przedstawieniach. W interpretacji litewskiej reżyser Mickiewiczowskie «Dziad*y*» stają się tekstem odwołującym się do najważniejszych aspektów życia białoruskiego: braku wolności słowa, swobody twórczej, brak poszanowania dla symboliki narodowej, poszukiwania tożsamości, unieważniania pamięci narodowej i tradycji. Do rangi symbolicznej i najbardziej zapadającej w pamięć sceny spektaklu urasta ta, w której dwa anioły rozciągają na scenie biało-czerwono-białe sznurki, które odwołują się w sposób oczywisty nie tylko do kolorystyki opozycyjnej flagi białoruskiej, ale też mają znaczenie szersze. Kolor biały symbolizuje śmierć, kolor czerwony życie. Zestawione razem charakteryzują nam samo życie, w którym trudne, a nierzadko traumatyczne przeżycia przeplatają się z chwilami radości i spokoju. Jak zauważa Michaś Skobła w rozmowie z Romanem Podolaką, aktorem «Teatru Cze», sznurki te umożliwiają też swobodne utkanie czegoś ze swojej wyobraźni [30]. W spektaklu romantyczne uczucia przeplatają się z okrutną ironią i silnymi emocjami związanymi z tradycyjnym obrzędem słowiańskim dziadów. Miłosna historia Gustawa i Maryli, wprzęgnięta w historyczne wydarzenia, przywodzi na myśli inne wielkie utwory literatury światowej i wielkie literackie miłości (Romeo i Julia, Dante i Beatrycze, Salvador Dali i Gala).

Andriej Czorny, założyciel «Teatr Cze» tak wypowiadała się o przedsięwzięciu: «Мицкевич обращается к теме национального языка, бытия и сознания. К сожалению, это до сих пор очень актуально для Беларуси. Зритель может провести много аналогий с современностью. Хотя сегодня, если можно так выразиться, белорусский язык в тренде. Его начинают популяризовать, но поздновато как-то» [30]. Czorny podkreśla ponadto, że w jego rozumieniu «Dziady» Mickiewicza to dramat mistyczny, trudny w odbiorze. Z tego też względu prace nad adaptacją trwały wiele lat, długo też szukano reżysera, który umiałby przekazać w sposób metaforyczny, z estetycznym wyrafinowaniem utwór na język sceny. Zapewne nie bez znaczenia dla scenicznego kształtu przedstawienia był fakt, że przed premierą spektaklu reżyser wraz z grupą aktorów jeździł w rodzinne strony Mickiewicza, do Nowogródka i Zaosia, odbywał konsultacje z pracownikami muzeum Mickiewicza w Wilnie. Poskutkowało to także wieloma interesującymi historiami o polskim poecie, znajomością licznych nowych faktów z jego biografii [30].

W spektaklu wzięli udział znani aktorzy białoruskiej sceny — Swietłana Anikiej, Jelena Sidorowa, Roman Podolako, Julia Kaduszkiewicz, Aleksandr Szarow, Andrej Sawczenko, Dmitrij Jesieniewicz. Warto dodać, że pozostali artyści zaangażowani w sceniczną adaptację «Dziadów» to osoby uznane już w świecie teatralnym: kompozytor — Faustas Łatenas (wśród jego osiągnięć są kompozycje do «Wujaszka Wani» i «Eugeniusza Oniegina» Teatru im. Wachtangowa czy «Tartifa» realizowanego w teatrze na Małej Bronnej), kostiumolog — Nadieżda Gultajewa (jej autorstwa są także kostiumy do znanych spektakli innego litewskiego reżysera Eimuntasa Nekrošiusa «Trzy siostry», «Nos», «Hamlet», «Otello», «Faust»), scenograf — Marius Jacowskis. Spektakl był pokazywany na Litwie, w Gruzji, w Ukrainie, we Włoszech, w Polsce, a także w kliku miastach na Białorusi, m. in. w Grodnie, w Mińsku i w Homlu, Odtwórca roli Gustawa-Konrada — Roman Podolako otrzymał na Międzynarodowym Festiwalu teatralnym Vasara w Druskiennikach w 2013 roku nagrodę za najlepszą rolę męską.

Ważne miejsce wśród teatralnych interpretacji Mickiewiczowskiego dzieła zajmuje też zapewne spektakl «Dziady. Twierdza Brześć» Brzeskiego Akademickiego Teatru Dramatu (biał. Брэсцкі акадэмічны тэатр драмы) w reżyserii Pawła Passiniego, który został zrealizowany przez zespół netTheatre z aktorami Brzeskiego Akademickiego Teatru Dramatu przy wsparciu Instytutu Adama Mickiewicza. Autorką scenariusza jest Patrycja Dołowy. Premiera spektaklu odbyła się w 12 września 2015 roku podczas dwudziestej edycji festiwalu «Biała Wieża», a premiera polska — 17 października tego samego roku podczas festiwalu Międzynarodowe Konfrontacje Teatralne w Lublinie. Przekładu dramatu z języka polskiego dokonał doskonale nam znany z wielu innych dokonań translatorskich Sierż Minskiewicz. Sam reżyser tak tłumaczy swoje przedsięwzięcie: «Musimy zacząć szukać wspólnego języka z Białorusią. Trzeba zrobić porządek z pamięcią, z naszymi zmarłymi, bez tego nie można żyć, oddychać, powstać jako naród» [11]. Warto przypomnieć, że Passini już wcześnie podjął się wystawienia Mickiewiczowskiego dramatu w Teatrze Lalki i Aktora w Opolu. W rozmowie z Maciejem Świerczyńskim reżyser przyznał, że dopiero przygotowania do opolskiego wystawienia «Dziadów», pozwoliły mu poznać, ten — wydawało by się — znany dobrze jeszcze ze szkolnej lektury tekst: «W trakcie prac nad spektaklem czułem, że nie znam go w ogóle […]. Dzieło Mickiewicza ma w sobie ogromną moc» [22].

Bez wątpienia na uwagę zasługują zastosowane przez Passiniego rozwiązania scenograficzne i sposób montażu poszczególnych scen. Początkowy podział na scenę i widownię ustąpił miejsca nowym rozwiązaniom. Passini zaprosił widzów bliżej sceny, zmuszając niejako do aktywnego uczestnictwa w obrzędzie. Reżyser wykorzystał obrotową scenę, która pokryta była świeżą ziemią i papierem mającym imitować śnieg. Na scenie ukryte były różnorodne rekwizyty o symbolicznym znaczeniu. Fabule nadał charakter opowieści detektywistycznej, której akcja dzieje się w niewielkiej wiosce gdzieś na Polesiu. Przeprowadzane jest śledztwo, którego celem jest odnalezienie osób zaangażowanych w spisek przeciwko caro-

wi. Głównym bohaterem spektaklu jest poeta-wędrowiec, przypominający nieco w swojej strukturze szekspirowskiego Hamleta, poszukującego odpowiedzi na fundamentalne egzystencjalne pytania. Jednakże — jak sugeruje tekst spektaklu — odpowiedzi na nie znają tylko zmarli. A zatem nawiązanie mistycznego kontaktu z nimi, poprzez sprawowanie tradycyjnego obrzędu dziadów, umożliwia osobom żyjącym usłyszeć zmarłych, zrozumieć ich życiowe losy, przebaczyć ich winy i pozwolić im oczyścić w ten sposób swoje dusze od przygniatającego ciężaru.

Spektakl Passiniego dość szybko zyskał sobie uznanie i polskiego, i białoruskiego odbiorcy, o czym świadczą liczne recenzje pojawiające się po przedstawieniach premierowych, podkreślające nowatorstwo zastosowanych przez reżysera środków artystycznego wyrazu. W jednej z nich czytamy: «Нечаканы быў пачатак спектакля: адразу ж пасля пралога акцёры правялі гледачоў на сцэну і пасадзілі на расстаўленыя па крузе лаўкі. Цікавая знаходка рэжыссёра — разгарнуць дзеянне ў “кіпе” са снегу (белай паперы) і чорнай зямлі. Закрыты паперай чарназём, усё больш і больш прабіваючыся наверх, наводзіў гледача на думку, што жыццё хуткаплыннае, жорсткае, і яно вельмі часта хавае светлыя памкненні герояў. Але ў той жа час на сцэне непрыкметна нараджаецца і расце ўсепераможнае адчуванне сілы чалавечага духу. Узнікае перакананне: толькі моцная асоба здольная не страціць сваю чалавечую сутнасць» [29].

Passini połączył w swoim spektaklu tekst Mickiewiczowski z tragicznymi wydarzeniami XX wieku. Stworzył, swoisty «bolesny seans zbiorowej pamięci» [7, s. 81]. Wyraźnie pobrzmiewają tu echa II wojny światowej i pojawiają się odniesienia do epoki stalinowskiej. Włączenie do spektaklu wspomnień z czasów okupacji Polaków, Białorusinów, Żydów i Rosjan narzucało jednocześnie konieczność wprowadzenia do spektaklu wypowiedzi w czterech różnych językach: białoruskim, polskim, rosyjskim i jidysz. Fakt ten w rozmowie z Agnieszką Sural Passini tłumaczy w następujący sposób: «Wszystkie te języki funkcjonowały na tych terenach. I w Brześciu też były takie oczekiwania wobec Polski i Polaków, że nie zapomnieliśmy. Jest tam poczucie, że z Polską trzeba mieć więzi. Na przykład zadano mi pytanie, dlaczego Zosia w “Panu Tadeuszu” tak mało mówi? Wiesz dlaczego? Bo Zosia lepiej niż po polsku mówi po tutejszemu, czyli w ówczesnym języku białoruskim, i się tego wstydzi» [21].

Krytyka bardzo szybko okrzyknęła też spektakl Passiniego spektaklem symbolicznym: «Bardzo ważny i symboliczny spektakl», «doskonały przykład tego, jak połączyć tradycję z nowoczesnością, jak należy wystawiać klasykę w dzisiejszych czasach», «jeden z najbardziej niezwykłych spektakli» [3]. Jest to w istocie spektakl o pamięci, o czym zresztą mówi sam Passini: «Gusła, to, co się dzieje u Senatora, to, co się dzieje w planie indywidulanym Gustawa, te wszystkie sprawy są związane z tym, że trzeba zrobić porządek z pamięcią […] Trzeba zrobić porządek z relacjami ze swoimi zmarłymi. Jeżeli tego porządku nie ma, to nie można żyć, nie można funkcjonować. I nie można stać się na nowo» [3]. Warto nadmienić, że kategoria pamięci jest kategorią fundamentalną dla Mickiewiczowskiego tekstu.

Doskonale problem ten zanalizował Krzysztof Trybuś w artykule «Rytuał i pamięć w Dziadach» [23].

Jak trafnie zauważa lubelski teatrolog Jarosław Cymerman, w «Dziadach» Mickiewicza elementami spajającymi wszystkie części jest postać Gustaw-Konrada oraz obrzęd dziadów. W spektaklu Passiniego rezygnacja z tego pierwszego spoiwa sprawiła, że «wytłumione zostały wątki związane z odkupieńczą misją, mesjanizmem» [1], a wyakcentowana rola obrzędu: «Obrzęd dziadów, dzięki któremu dochodzi do wyznania grzechów i wyrównania win, zamyka spektakl, wychodzą spośród uczestników obrzędu, są wśród, a może i wewnątrz nich. Gromada ubrana w lniane stroje z poprzyszywanymi czerwonymi wstążeczkami, koloratka i zawieszone na szyi księdza ręce z książką, jakieś marynarskie wdzianko i czarna suknia, rytm zaklęć i guseł — wszystko ta razem przywodzi na myśl spektakle Grotowskiego, Kantora, Gardzienic, a także wcześniejsze Passiniego (przede wszystkim "Odpoczywanie", "Kukłę" i "Kryjówkę"). Cała ta maszyneria teatralna wprawiona w ruch została jednak nie po to, by dać możliwość delektowania się znawcom intertekstualnymi korespondencjami, ale po to, by przypomnieć, że zaproponowana przez Mickiewicza formuła radzenia sobie z doświadczeniem zła, cierpienia i śmierci wcale się nie wyczerpała, a niepokojące Gromadę Widmo wciąż nie znika, pomimo płonącej gromnicy, zaklęć i święceń» [1].

Passini wyakcentował w swoim spektaklu świadomość wspólnej ziemi, którą postrzega jako ziemię cierpiącą, krwawiącą, noszącą w sobie całą historię doświadczonej najróżniejszymi wydarzeniami przestrzeni. Zdaniem reżysera, dla Białorusinów jest to bardzo ważna sprawa, bo oni dopiero teraz budują swoją tożsamość, konstruują świadomość białoruskiej literatury, zastanawiając się, co to właściwie znaczy być Białorusinem? W tym procesie dziedzictwo Mickiewicza jest niezmiernie ważne [10].

Do najbardziej znaczących realizacji «Dziadów» Mickiewicza powstałych w ostatnich latach należy również spektakl wyreżyserowany przez Michała Zadarę w Teatrze Polskim we Wrocławiu, w którym połączone zostały motywy z wszystkich części dramatu. Jak zaznacza Dariusz Kosiński w artykule «Dziady Zadary to już klasyka», prace nad wystawieniem wszystkich części dramatu Mickiewicza w jednym spektaklu rozpoczęły się już w 2010 roku. W roku 2014 reżyser wystawił pierwszą, drugą i czwartą część oraz utwór «Upiór», poprzedzający część drugą, a rok później wyreżyserował część trzecią. Do ostatecznej, pełnej wersji spektaklu dodał jeszcze «Ustęp» i «Objaśnienia» [8]. Polski teatrolog podkreśla ponadto, że o sile «Dziadów» Zadary świadczy fakt, że reżyser zdjął z utworu patos: «Tekst zagrany w całości nagle jest o człowieku, który o coś walczy, w tym przede wszystkim o siebie. […] To egzystencjalny i metafizyczny dramat, ale nie w sensie patriotycznym» [8]. Zdaniem Kosińskiego to spektakl, o którym będzie się dużo mówiło, myślało i pisało, do którego trzeba wracać [8].

Przyjęty przez Michała Zadarę kierunek interpretacji Mickiewiczowskiego tekstu pozwala przypuszczać, że «Dziady» w swym literackim kształcie stanowią

на розных узроўнях. Па-першае, калі паэт разважае пра свайго папярэдніка, то гэта, бясспрэчна, непаўторны дыялог двух мікракосмасаў, спасціжэнне недасяжнага і невытлумачальнага. Для Тэадора Буніцкага Адам Міцкевіч — зорка першай велічыні, узор сапраўднага Паэта, да асобы і спадчыны якога ён звяртаўся не раз, пачынаючы ўжо з першых творчых крокаў. Па-другое, у Т. Буніцкага прасочваецца прамое ці ўскоснае асэнсаванне і выкарыстанне твораў А. Міцкевіча, што можа разглядацца як свядомая светапоглядная і мастацкая ўстаноўка (на ўзроўні матываў, вобразаў, топасаў, алюзій, рэалій і інш.). Па-трэцяе, можна канстатаваць наяўнасць (выпадковых ці не) дыяхронных супадзенняў, нават у біяграфіі паэтаў: абодва ўвабралі атмасферу легендарнага горада, закончылі Віленскі ўніверсітэт імя Стэфана Баторыя, калідорамі якога хадзілі Міцкевіч і яго сябры-філаматы… Грамадска-культурная і літаратурная дзейнасць, у якой браў чынны ўдзел Т. Буйніцкі, нагадвала філамацкую мадэль у гэтай галіне: пісьменнік быў адным з стваральнікаў і ўдзельнікаў літаратурна-мастацкага клуба «Smorgonia» (у яго ўваходзілі ў розны час К. І. Галчынскі, В. Гулевіч і інш.), «Klubu Intelektualostów», належаў да акадэмічнага «Klubu Włóczęgów», члены якой здзейснілі не адну краязнаўчую вандроўку на памежныя польска-беларуска-літоўскія рэгіёны. Т. Буйніцкі прымаў актыўны ўдзел у пасяджэннях віленскіх «Śród Literackich» (1927–1939), на якіх адной з асноўных тэм дыскусій з’яўляліся постаць і творчасць А. Міцкевіча (за ўвесь перыяд існавання — прыкладна дваццаць), літаратура рамантызму. На гэтых імпрэзах, якія праводзіліся пэўны час ў «Celi Konrada» даўняга легендарнага кляштара базыяльнаў (месца дзеяння адной са сцэн трэцяй часткі «Дзядоў»), артысты, вядомыя і не зусім, часта дэкламавалі вершы А. Міцкевіча, выконвалі песні на яго словы. У 1935–37 гг. Т. Буйніцкі з’яўляўся адным з рэдактараў квартальніка «Środy Literackie». Дарэчы тут будзе прыгадаць і той факт, што адным з выкладчыкаў Т. Буйніцкага, арганізатарам і ідэйным натхняльнікам літаратурных серад быў знакаміты прафесар, вучоны-славіст, ураджэнец слаўнага мястэчка Ракава Мар’ян Здзяхоўскі, які ў сваіх працах не раз звяртаўся да асэнсавання месца і ролі А. Міцкевіча ў плыні гісторыі і літаратуры і мог так ці інакш паўплываць і на ўспрыманне гэтай асобы «апошнім бардам ВКЛ». І цалкам заканамерна, што Т. Буйніцкі ў 1939 г. за сваю грамадска-культурную і творчую дзейнасць атрымаў прэмію філаматаў г. Вільні.

У 1929 г. у калектыўным зборніку віленскіх паэтаў «Patykiem po niebie» [4], праўда, яшчэ ў рэжыме канфрантацыі з папярэдняй традыцыяй (сітуацыя гістарычна і тыпалагічна паўтаральная) 18-гадовы Тэадор сцвярджаў сваю праграму цалкам у рэчышчы агульнай тагачаснай атмасферы віталізму: «Uważam, że treścią naszego bytowania jest radość życia. Kocham życie i cieszę się życiem. Niech żyje życie!». Малады паэт разам са сваімі паплечнікамі не прымаў ранейшую традыцыю актыўнага служэння літаратуры Радзіме, адсюль і ўзніклі такія радкі, у якіх прысутнічала палеміка, рэжым своеасаблі-

вага «прыцягнення-адштурхowання» і ў дачыненні да творчасці А. Міцкевіча (у прыватнасці, яго «Оды да маладосці»):

**Wstęp do poematu**

Oto jest patos życia szerokich przestrzeni,
Okrzyk serc wiecznie młodych, nie zwarzonych klęską

Zyć! Arterie nabrzmiały energią i tlenem,
ramiona się rozwarły do szalonych lotów,
każda minuta bycia ma wartość bez ceny
i spada w czarną przeszłość garsciami klejnotów [4, s. 23].

Ці яшчэ прыклад:

Młodość oślepia oczy wypryskiem magnezji,
pcha do czynów olbrzymich i radosnych grzechów —
słońce jest wielką banią płonącej poezji —
ziemia — grzmiącą kasksdą humoru i śmiechu! [4, s. 23]

Але далей вектар творчых пошукаў Т. Буйніцкага пойдзе ў іншым кірунку, можна сказаць, больш зямным, традыцыйным і блізкім яго паэтычнай натуры. Адзначым у кантэксце прадмета нашай праблематыкі і тое, што многія пісьменнікі-ўраджэнцы беларуска-польскага памежжа (шырэй — і літоўскага) ўспрымалі гэтыя землі і ў ХХ ст. як Літву гістарычную — прастору Вялікага Княства Літоўскага, бо, перафразуючы выказванне У. І. Мархеля, была яшчэ дзейснай ідэя «рэтраспектыўнага дзяржаўнага патрыятызму», а насельніцтва памежных тэрыторый «не пазбавілася гістарычных уяўленняў пра сваю першасную радзіму, пра сваю тутэйшасць» [1, с. 42]. Па гэтай прычыне многія вершы Т. Буйніцкага тэматычна звязаны менавіта з гістарычнай Літвой, краем дзяцінства і юнацтва, і Вільняю, чым паэт падтрымліваў міцкевічаўскую традыцыю паэтызацыі «крэсаў» як своеасаблівага топаса.

Т. Буйніцкі звярнуўся да апетай паэтам-прарокам Літвы, блізкай і дарагой яму, у праграмным вершы «LITWO, ojczyzna moja», у якім ажываюць вядомыя літоўска-беларускія краявіды, вобразы-сімвалы, замацаваныя ў літаратуры рамантызму і свядомасці чытачоў. Літва ва ўяўленні Т. Буйніцкага знаходзіцца ў гістарычным кантэксце ВКЛ як адметная сацыякультурная прастора — шматэтнічная і полікультурная. «Czy białoruski, czy litewski kraj?» — пытаецца аўтар. Т. Буйніцкі ў гэтым творы ўслаўляе менавіта такую Літву-айчыну:

LITWO, ojczyzna moja. Żarliwie i prosto
powtarzam słowa naszego pacierza.
Ziemio nieżyzna bławatków i ostów,

Białych kościołów na płaskich wybrzeżach.
nieba smutnego i szerokich mgieł,
jezior, szumiących trzcinami [2, s. 158].

Але гэтую ідылічную карціну парушаюць драматычныя матывы і апакаліптычныя карціны, а пры яе апісанні ў вершы ў Т. Буйніцкага дамінуе лірыка-драматычны дыскурс:

LITWO. Suchymi gorzkimi wargami,
którym brakuje wiary i nadziei,
szepczę i wołam twe imię, twą nazwę,
a wiatr głęboki topolami chwieje
i klaszcze w liście pochylonych drzew.

Po głodnych drogach idących w ugory
domów zapadłych w trumnę zgniłych ścian
bydło powraca do domu wieczorem,
a wielkie słońce jak czerwony dzban
na gęste chmury leje żywą krew [2, s. 158].

Прысутнасць менавіта такой вобразнасці было абумоўлена як ідэйнамастацкай праграмай згуртавання «Жагары», так і прадчуваннем ваеннай небяспекі ў Еўропе, крызіснай сітуацыі ў Польшчы, якая не абмінула і гэты цудоўны край.

Т. Буйніцкі як паэтычная індывідуальнасць ўзрастаў у сілавым полі канцэптаў рамантычнай традыцыі (культ малой радзімы, гістарычнай Літвы, увага да фальклорнай спадчыны і інш.). У яго творчасці сустрэнем шмат беларуска-літоўскіх рэалій, сюжэтаў і матываў, якія адметна сфарміравалі паэтычны свет А. Міцкевіча і ператварыліся з цягам часу ў свядомасці чытачоў у вобразы-сімвалы: Нёман, навагрудскія руіны, Налібоцкая пушча, Свіцязь, Беразіна, масты Гродна і інш.

Пасля прачытання некаторых вершаў Т. Буйніцкага дасведчаны чытач абавязкова прыгадае спадчыну слаўнага сына Навагрудчыны. Вось, напрыклад, алюзія, амаль цытатна суадносная са знакамітай баладай А. Міцкевіча «Свіцязь»:

Zatrzymaj konie. Widzisz te lasy dalekie?
Z drogi podnosi kłąb kurzu przywiany oddech jeziora.
W brzęku pszczół, w woni lip, w cieniu kasztanów i klonów
Białe ściany, białe ganki dworu [2, s. 158].

Параўнаем з міцкевічаўскім творам:

Ktokolwiek będziesz w nowogródzkiej stronie,
Do Płużyn ciemnego boru
Wjechawszy, pomnij zatrzymać twe konie,
Byś się przypatrzył jezioru [3, s. 32].

А вось яшчэ адзін вобраз, канон якога быў сфарміраваны творчасцю вялікага паэта — вобраз Нёмана («Niemnie, domowa rzeko moja»), але ён у сучаснай Буйніцкаму рэчаіснасці не адпавядае рамантычнаму ідэалу і становіцца прычынай расчаравання для лірычнага героя:

Czekałem na ten Niemen niby na kochankę —
Śniłem, że będzie modry, ciepły, w słońcu cały.
Popołudnie przyniosło srogą niespodziankę:
Nad szarym, mętnym Niemnem pieści chmur zwiasały.

Wygrażały podbiałom, rosnącym na plaży,
Histerycznym rybitwom, nerwowym jaskółkom,
Gdy ja łykałem ślinkę zawiedzionych marzeń
Ostatnią mdłą sardynkę przegryzając bułką [2, s. 87].

У творах Т. Буйніцкага, з аднаго боку, не без уплыву эстэтычных стратэгій А. Міцкевіча назіраем ашчаднае мастацкае эксперыментаванне, якое не падрывала сутнасных асноваў традыцыйнага польскага вершавання: у новых сацыякультурных умовах і літаратурнай парадыгме эксперыментаванне ішло больш па лініі зместу. А з другога — Т. Буйніцкі ў сваёй творчасці часцей аддаваў перавагу сілабічнай і сілабатанічнай сістэмам вершавання, а таксама ўлюбёнаму класікам трынаццацісkладовіку.

Гэта цудоўна можна убачыць на прыкладзе вядомага верша Т. Буйніцкага «Міцкевіч» (1940), які напісаны трынаццацісkладовікам і ў якім прысутныя матывы і вобразы-сімвалы, што выразна вядуць свой радавод з багатай міцкевічаўскай спадчыны, але відавочна вырастаюць з драматычнай сучаснасці:

Śnieg zawiał wszystkie drogi. Stanęły jeziora.
I tylko dymi czarna woda oparzelisk.
Suchy wiatr dyszy ciężko w nieruchomych borach
I bije w struny sosen prostach jak obelisk [2, s. 152].

Дарога, шлях, падарожжа, вандроўка — важныя матывы, канцэпты лірыкі А. Міцкевіча і Т. Буйніцкага. Але ў ваенны час яны атрымалі дадатковую канатацыю — гэта выгнанне, бяздомнасць, беспрытульнасць:

Śnieg zawiał wszystkie drogi. Dlatego tak trudno
Odszukać tej serdecznej, która wszystkie łączy

Drogi — do miast nieobcych i do puszcz bezludnych,
Najbliższej dla nas słabych, smutnych i tęskniących [2, s. 152].

Знакамітае міцкевічаўскае служэнне рамантычным ідэалам вызвалення краіны, падпарадкаванне творчасці ідэям патрыятызму, самаахвярнасці і гуманізму набываюць новае гучанне, калі над малой радзімай А. Міцкевіча з трох бакоў навісла небяспека, якая пагражае забыццём, ганьбай гістарычнай і нацыянальнай памяці:

Oto kraj lat dziecinnych na trzy klucze z lodu
Zamknięty, otoczony mrożnych burz powiewem.
Tam nad Niemnem szeroko rozciągnione pola
I Świteź jasno świeci w ciemnym borze Płużyn.
W Soplicowie dziś pusto. Zrąbano topole
I nie wrócił Tadeusz z dalekiej podróży [2, s. 152].

Змест і пафас гэтага верша Т. Буйніцкага прымушаюць згадаць і яго драматычны лёс:

Lecz śnieżyce i burze zawiały nam tropy,
Na lód jeziorny księżyc kładzie martwe błyski —
A bruk miłego miasta parzy nasze stopy,
Jak kiedyś parzył Twoje twardy bruk paryski [2, s. 153].

Своеасаблівым творчым разрахункам, падсумаваннем творчага вопыту, прадчуваннем драматычнага жыццёвага скону гучыць верш Т. Буйніцкага 1940 г. «Czy młodość miałaś piękną, czy po prostu durną?». Паэт, дасягнуўшы Хрыстовага ўзросту, кідае позірк на мінулае, асэнсоўвае яго і зноў жа робіць гэта, як можам пераканацца ўжо па першаму радку твора, праз зварот да творчасці А. Міцкевіча (у прыватнасці, да яго верша са знакамітага «лазанскага цыклу» «Połały się łzy me czyste, rzęsiste»):

Czy młodość miałaś piękną, czy po prostu durną?
Wpleć temat medytacyj w sonetów girlandy,
Choć czujesz się w ich karbach niby słoń z Ugandy,
Któremu w cyrku nogę obują w cotturno.

Te czwórki pełnych rymów mają coś z wokandy
Trybunalskiej (pamiętasz: «Putrament z Pikturną,
Z Odyńcami Mikiewicz, z Kwileckimi Turno»)
I tchną staroświecczyzną chyba z czasów Wandy [2, s. 142].

У гэтым вершы Т. Буйніцкі наследуе асноўнай эмоцыі твора А. Міцкевіча, праўда, з праекцыяй на свой лёс, не без іроніі ўзгадвае эмацыянальныя парывы

маладосці. Асуджае іх паэт з вышыні гадоў ці не? Хутчэй за ўсё, гэта самаасуджэнне з перспектывы свайго веку і драмы гісторыі, якая распачалася на яго вачах, а яшчэ — разважанне над магчымымі жыццёва-лёсавымі арыенцірамі:

I powitać dojrzałość, jak młodość powtórną,
Znalazłszy nową słodycz w zatrutym cukierku.

Urodziła się w jednej, zgasła w drugiej wojnie
Młodość, może za wczesna, a może spóźniona.
Co za temat, poeto? Tu stary świat kona,
Tu nowy pełnią blasków obdarza cię hojnie.

O, poeto młodości, o, więdnący zgniłku,
Graczu pełen wahania nad ostatnią kartą! [2, s. 144]

Як у свой час абагульняў-прадбачыў А. Міцкевіч, так і Т. Буйніцкі асэнсоўваў-прадбачваў, і, сапраўды, беспамылкова — гэта была «ostatnia karta», назва якой жыццё! Як вядома,ён быў забіты напрыканцы вайны пры нявысветленых абставінах. Так загінуў Паэт, так сыходзіла з гісторыка-літаратурнай авансцэны чарговая творчая генерацыя, узгадаваная пад зоркай славутага навагрудчаніна.

Такім чынам, мы пераканаліся, што асоба і творчасць А. Міцкевіча трывала ўвайшла ў мастацкую свядомасць Тэадора Буйніцкага, засведчыўшы свой уплыў на розныя яе складовыя — ад цытавання да алюзій і рэмінісцэнцый, ад філасофіі да паэтыкі. Прычым роднасць творчых светаў проста не можа не ўражваць. Творы Т. Буйніцкага, нягледзячы на падзейную прывязку да XX ст., выразна знаходзяцца ў магнетызме рамантычнай традыцыі XIX ст. — неўміручай паэтычнай спадчыны аўтара «Пана Тадэвуша».

## Літаратура


1. Мархель, У. Прысутнасць былога: Нарысы, артыкулы, эсэ / У. Мархель. — Мінск: Беларус. навука, 1997. — 192 с.
2. Bujnicki, T. Wiersze wybrane / T. Bujnicki. — Warszawa: Czytelnik, 1961. — 396 s.
3. Mickiewicz, A. Wiersze / A. Mickiewicz. — Warszawa: Czytelnik, 1998. — 564 s.
4. Patykiem po niebie. Poezje Teodora Bujnickiego, Kazimierza Hałaburdy, Anny Kompielskiej, Wacława Korabiewicza. — Wilno, 1929. — 67 s.
5. Teodor Bujnicki — ostatni bard Wielkiego Księstwa Litewskiego / red. nauk. i wstęp Tadeusz Bujnicki. — Białystok: Książnica Podlaska, 2012. —264 s.

# ЮЗАФ І АНТАНІНА АБРЭМБСКІЯ — ДАСЛЕДЧЫКІ БЕЛАРУСІ

**Эльжбета Смулкова**
(Варшаўскі ўніверсітэт, Варшава, Польшча)

## ПРАФЕСАР АНТАНІНА АБРЭМБСКА-ЯБЛОНЬСКА Ў СВЯТЛЕ КАРЭСПАНДЭНЦЫІ З БЕЛАРУСІ[1]

Прафесар Антаніна Антонаўна Абрэмбска-Яблоньска, арганізатарка і аўтар беларусазнаўчых даследаванняў у Польшчы пасля Другой сусветнай вайны, памерла 19 лістапада 1994 года. Яе багатая карэспандэнцыя, у тым ліку з Беларусі, здадзена на захаванне ў архіў Варшаўскага ўніверсітэта і змешчана пад шыфрам AUW Sp. 37 (далей указваюцца нумары адпаведных папак; у нашым даследаванні выкарыстаны папкі 76, 79, 80 і 81). Трэба адзначыць, што пры некаторых беларускіх карэспандэнтах знаходзім копіі адказаў Антаніны Антонаўны, надрукаваныя на машынцы, і ў некалькіх выпадках можна прасачыць поўны абмен думкамі ў канкрэтных справах, аб якіх вядзецца ліставанне.



◊ *Антаніна Абрэмбска-Яблоньска. 1950-я гг.*

Карэспандэнцыя паміж вучонымі ці іншымі заслужанымі людзьмі, мала яшчэ выкарыстоўваецца ў беларусістыцы, хаця шляхі ў гэтым кірунку пракладзены Міхасём Скоблам «Лістамі з Зэльвы» Ларысы Геніюш (2013, Гародня–Wrocław). М. Скобла параўноўвае іх значэнне з гістарычнымі летапісамі. Фактычна, прыватнае ліставанне вельмі папаўняе нашы афіцыйныя веды. Дакладна датаваныя лісты сведчаць, калі адбываліся апісаныя дзеянні ці здарэнні, у якіх знешніх ці

[1] У артыкуле выкарыстаны фотаздымкі з архіва прафесара Эльжбеты Смулковай.



◊ *Дыялекталагічныя даследаванні супрацоўнікаў і студэнтаў кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Антаніна Абрэмбска-Яблоньска стаіць за інфарматаркай, з якой размаўляе Эльжбета Смулкова. Мужчына ў гарнітуры — Мікалай Бірыла. 1957 г., в. Ляўкова*

ўнутраных умовах, псіхалагічна характарызуюць людзей, папаўняюць веды аб матывацыі дзеянняў творцаў, аб цяжкасцях і радасцях творчага працэсу, паказваюць чалавечы воблік людзей навукі.

У захаваным ліставанні А. Абрэмбскай-Яблоньскай налічваецца 18 карэспандэнтаў з Беларусі, ад кожнага з якіх захавалася ад некалькіх да больш за дзясятак лістоў. Найбольш лістоў захавалася ад Янкі Саламевіча і Юзэфы Фларыянаўны Мацкевіч. Тэматыка гэтых лістоў канцэнтруецца вакол навуковых праблем, абмену кнігамі, узаемных падзяк за розныя канкрэтныя дзеянні, інфармацыі пра асабістыя жыццёвыя здарэнні і розных святочных віншаванняў.

Ніжэй пастараюся на прыкладзе пяці выбраных карэспандэнтаў (усіх няма магчымасці ахапіць у адным артыкуле) коратка ахарактарызаваць супрацоўніцтва А. Абрэмбскай-Яблоньскай з беларускімі гуманітарыямі. Абмяркуем перапіску з М. В. Бірылам, М. Р. Суднікам, Ю. Ф. Мацкевіч, Н. А. Тарашкевіч (Масква) і У. Дубоўкам.

**1. Мікалай Васільевіч Бірыла** нарадзіўся 10 верасня 1923 г. у вёсцы Скварцы Дзяржынскага раёна, памёр 30 верасня 1992 г. у Мінску; выдатны анамаст, фанетыст і лексіколаг Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР. Першы выкладчык беларускага мовазнаўства на кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта ў 1956–1958 гг. Разам з А. Абрэмбскай-Яблоньскай выступіў рэдактарам «Падручнага польска-беларускага слоўніка», выдадзенага ў Варшаве ў 1962 г.



◊ *Сям'я Абрэмбскіх: брат Юзаф, Антаніна Яблоньска, маці Марыя з Галайскіх, сястра Марыя Сцебярова. 1951 г.*

У лісце ад 22 снежня 1958 г. Мікалай Васільевіч піша пра сваю вялікую занятасць пасля вяртання ў Мінск, але знаходзім там і такія словы: «*вельмі хочацца ведаць што ў Вас. Я з прыемнасцю і цеплынёй успамінаю працу на Вашай Кафедры. Гэтыя прыемныя ўспаміны застануцца ў мяне на заўсёды. Шкадую толькі, што мала дапамагаў Смулковай і Базылюк (хаця асаблівай патрэбы ў гэтым не было, аднак можна было штокольвек зрабіць)*» (тут і далей пры цытаванні захаваны аўтарскі правапіс і пунктуацыя. — *Э. С.*).

У адказ М. Бірыла атрымаў ліст Антаніны Антонаўны ад 7 чэрвеня 1959 г. Цытую яго цалкам па машынапіснай копіі, якая знаходзіцца ў архіве.

*Szanowny Panie Profesorze,*

*Mam w tej chwili list Pana, taki bliski i serdeczny, z końca grudnia i wstyd pomyśleć, że do tej pory nie znalazłam chwili, by udzielić Panu wiadomości o nas wszystkich. Przede wszystkim muszę powiedzieć, że ciągle bardzo serdecznie wszyscy tu Pana wspominamy i będziemy szczerze radzi, jeśli się urzeczywistni nasze zaproszenie Pana do Warszawy na jesieni. Tymczasem trochę szczegółów o Katedrze i Pracowni.*

*Bardzo spóźniony przyjazd wykładowców białoruskich przyspieszył przekształcenie profilu studium filol. białoruskiej na wzór studiów slawistycznych. Dzięki temu studenci I roku tego nie stracili, z historią literatury białoruskiej nadążą, wykłady z historycznej gramatyki białoruskiej odbędą dopiero na roku III. Wielkie utrudnienie z rozwojem Katedry spowodował w tym roku brak normalnych zajęć białoruskich na początku. No, i kłopoty z młodą kadrą. Rektor naciska*




◊ *Антаніна Абрэмбска-Яблоньска каля ўваходу ў першую сядзібу Кафедры беларускай філалогіі ў рэктарскім будынку на Кракаўскім Прадмесці. Варшава, 1968/69 навучальны год*

*na przyśpieszenie przewodów kandydackich Barszczewskiego i Smułkowej. Nie ma możności urządzenia Barszczewskiego w Warszawie (on ma dobre mieszkanie w Łodzi), a zdrowie Smułkowej nie rokuje szybkiego tempa w jej studiach, a tak ładnie zaczęła się rozwijać jej praca w Mińsku, i u nas w Pracowni. Teraz wszystkie te tematy zawisły w powietrzu. Czekamy poprawy jej serca. W najlepszym razie może wróci Ela do Mińska w sierpniu.*

*W Pracowni naszej na Foksal 10 prace idą bardzo zwolnionym tempem. Jesień i pierwsze miesiące zimowe poświęciliśmy na ostatnie korekty V tomu „Ludu Białoruskiego» oraz na rewizję ostateczną maszynopisu t. VI przekazanego drukarni w marcu b.r. Potem p. Glinka poszedł na urlop niewykorzystany jeszcze w roku zeszłym, a ja zostałam z Kondraciukiem i p. Petruczynik, którzy rozpisywali materiały zebrane latem i jesienią. Pomagało nam w tym pięcioro studentów z III roku. Od początku czerwca p. Glinka znów jest w terenie, Kondraciuk wykończa rozpisywanie ostatnich punktów i znów w perspektywie trochę dalszych punktów, głównie na północy Białostocczyzny. Wycieczki dialektologicznej w tym roku nie robię, bo II rok nie wysłuchał do końca zarysu dialektologii białoruskiej u p. Żurawskiego, i zaprawy do tego nie miał. Na przyszły rok zrobią to oba roczniki: dzisiejszy I i II. Kondraciuk pracuje całą zimę u nas na pracach zleconych i zapisał się na III rok filologii białoruskiej. Od jesieni dostanie etat w Pracowni Białoruskiej PAN.*

*Wydawnictwo «Wiedzy Powszechnej» otrzymało zgodę Ministerstwa Finansów na umowę z Panem. Całą zimę i wiosnę, aż do tej chwili trwa niezmiernie żmudna praca nad «dopinaniem na ostatni guzik» maszynopisu Słownika polsko-białoruskiego. Cała redakcja techniczna, a nieraz i sprawy merytoryczne. Do tej chwili ciągle jeszcze mam z tym do czynienia. Mam jeszcze przeczytać ostatnich 40 kart litery Z i całość będzie gotowa do produkcji. Przygotowany [jest] wstęp od Wydawnictwa i od nas informujący o układzie i sposobie podania materiału. Haseł będzie ok. 40.000. W związku z tym możemy liczyć na większe honorarium*

*redaktorskie. Po oddaniu całości Słownika (Lidia Holewińska siedzi nad tym już nie tylko dniem, ale i nocą) będzie nam się należeć 50 % honorarium, t. zn., że otrzymamy łącznie z 25 % wypłaconymi Panu ok. 75 % całości. W ciągu czerwca nastąpi obliczenie tych pieniędzy, podział należności między mnie i Pana, i chciałabym wiedzieć od Pana, jak postąpić z należną Panu sumą. Czy da Pan komu upoważnienie do podjęcia tych złotych, czy też mają leżeć w kasie Wiedzy Powszechnej aż do Pana przyjazdu jesienią.*

*W toku pracy redakcyjnej nagromadziło się trochę pytań do Pana o przykłady białoruskie, ale to przekażemy Panu razem z korektą szpaltową. Wydawnictwo wkłada w to ogromnie wiele starania. Ładny druk, ładna obwoluta, wewnątrz okładki mapki Białorusi i Polski.*

*Tylko mnie te wszystkie prace trochę wyczerpały. Leżę chora na czwartą już grypę w tym roku. Niema rady trzeba odpocząć latem.*

*Kończę tę długą relację serdecznym pozdrowieniem dla Pana i Jego Żony i … do niedługiego może spotkania w Warszawie A. O-J.*

27 чэрвеня 1959 г. Мікалай Васільевіч адказвае на гэты ліст і адначасова пасылае А. Абрэмбскай-Яблоньскай спіс назваў для слоўніка з інфармацыяй: «*Я імкнуўся, каб былі прадстаўлены назвы важнейшых арганізацый дзяржаўнай, грамадска-палітычнай, культурнай і гаспадарчай сфер дзейнасці, назвы найбольш агульныя і часта ўжывальныя. Якія ўзяць, рашайце самі*». Пасля гэтага ліставанне крыху стрымліваецца, не ўлічваючы навагодняга віншавання 1962 г., да 16 сакавіка 1963 г., калі М. Бірыла з Душнік інфармуе А. Абрэмбскую-Яблоньскую, што ён знаходзіцца на міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай агульнаславянскаму атласу пад рэдакцыяй Р. І. Аванэсава. А 27 сакавіка паведамляе, што 4 і 5 красавіка будзе ў Варшаве, «*Рубэн Іваныч адпусціў*», і асабіста атрымае ганарар за слоўнік. Захаваная карэспандэнцыя М. В. Бірылы спыняецца на навагодніх пажаданнях 1967 г.

**2. Міхаіл Раманавіч Суднік** нарадзіўся 8 лістапада 1910 г. у вёсцы Пецюлёва Полацкага раёна Віцебскай вобласці, памёр 19 снежня 1995 г. у Мінску. Беларускі мовазнавец, спецыяліст па лексікалогіі і лексікаграфіі, арфаграфіі і тэрміналогіі, гісторыі беларускага мовазнаўства. У 1957–1983 гг. быў дырэктарам Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР.

Захавалася даволі багатае ліставанне дырэктара М. Судніка з прафесарам А. Абрэмбскай-Яблоньскай. На працягу дваццаці гадоў (1958–1978) было даслана 11 віншавальных паштовак (на адной з іх — знаёмыя мне подпісы амаль усіх супрацоўнікаў Інстытута) і 9 лістоў. На два лісты ёсць копіі адказаў Антаніны Антонаўны. Карэспандэнцыя сведчыць пра інтэнсіўны абмен кнігамі і запрашэнне прафесару А. Абрэмбскай-Яблоньскай друкавацца ў акадэмічных выданнях Беларусі. І фактычна ў спісе яе прац знаходзім тры публікацыі, там надрукаваныя:

1. Да гісторыі нармалізацыі беларускай літаратурнай мовы // Беларускае і славянскае мовазнаўства / АН БССР. — Мінск, 1972. — С. 21–26.

2. Даследаванне беларускай мовы ў Польшчы // Беларуская лінгвістыка. — Вып. 2. — 1972. — С. 5–14.

3. Аб адной польска-беларускай паралелі (польскае *latoś* ‘сёлета’, беларускае *летась* ‘у мінулым годзе’) // Беларуская лінгвістыка. — Вып. 9. — 1976. — С. 16–19.

Першы захаваны ліст М. Судніка да А. Абрэмбскай-Яблоньскай датаваны 20 красавіка 1958 г. У ім знаходзіцца падзяка за прывезеныя М. Бірылам кнігі і інфармацыя, што тым жа шляхам Мікалай Раманавіч пасылае ў адказ два экзэмпляры 4-га выпуску «Прац Інстытута мовазнаўства» і будзе пасылаць наступныя.

На гэты ліст ёсць адказ А. Абрэмбскай-Яблоньскай ад 7 чэрвеня 1959 г. Ніжэй цытую па захаванай копіі:

*Wielce Szanowny Panie Dyrektorze,*

*Korzystam z okazji wyjazdu p. Żurawskiego do Mińska, by przekazać za jego pośrednictwem 2 książki dla Instytutu Językoznawstwa BAN (c.d. Słownika Staropolskiego i zesz. XVII Biuletynu Polskiego Towarzystwa Językoznawczego), a prócz tego osobno dla Pana V tom «Ludu Białoruskiego» Federowskiego. Będę bardzo rada, jeśli pieśni te okażą się przydatne Panu w Jego pracy.*

*Oprócz tego chciałam Panu i całemu kolektywowi Instytutu podziękować jak najgoręcej za tyle serdecznej opieki i przyjaźni okazanej asystentce naszej Pracowni, Elżbiecie Smułkowej.*

*Jest to moja wielka troska — jej stan zdrowia i wynikłe z tego zahamowania w toku jej studiów, w rozwoju Katedry i w zajęciach naszej Pracowni przy Polskiej Akademii Nauk. E. Smułkowa pozostaje ciągle jeszcze na zwolnieniu chorobowym: leczy się w domu. Poprawa przychodzi bardzo powoli. Dlatego nie przewidujemy, żeby mogła wyjechać do Mińska w ciągu czerwca lub lipca. Ona sama obiecuje sobie powrócić do Mińska na sierpień. Ale ten termin zależeć jeszcze będzie od zgody lekarzy.*

*Rok obecny nie był u nas pomyślny dla spraw filologii białoruskiej. Spodziewam się jednak, że przyszły rok akad. przyniesie odmianę. Istotną podporą w zajęciach Katedry jest przyjazd doc. M. Łazaruka i k.n.fil. A. Żurawskiego.*

*Proszę przyjąć, Panie Dyrektorze, wyrazy mego głębokiego poważania i wdzięczności*[1]

Захаваліся яшчэ два лісты дырэктара М. Судніка да прафесара А. Абрэмбскай-Яблоньскай з 1959 г.: ад 27 чэрвеня і 29 верасня. Першы ліст — гэта адказ на вышэй цытаваны ліст Антаніны Антонаўны, у якім аўтар дзякуе за кнігі, высока ацэньвае «Lud Białoruski» (т. V: Pieśni). Са свайго боку — пасылае «Курс сучаснай літаратурнай мовы (Сінтаксіс)» і «Інструкцыю па збіранню матэрыялу для складання абласных слоўнікаў беларускай мовы».

[1] Копія ліста не дапісана — *Э. С.*

АКАДЭМІЯ НАВУК БССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА
імя ЯКУБА КОЛАСА



АКАДЕМИЯ НАУК БССР
ИНСТИТУТ ЯЗЫКОЗНАНИЯ
имени ЯКУБА КОЛАСА

Минск, 72, Ленинский проспект, 66, тел. 3-88-85

№ ________ «5» жніўня 197I г.

Глыбокапаважаная

Антаніна Антонаўна!

Шчыра дзякую Вам за пісьмо, якое я сёння атрымаў. З яго я даведаўся, што Вы згодны напісаць артыкул для нашага штогодніка. Чытачам Беларусі, ды і не толькі Беларусі, вельмі цікава будзе даведацца, якія праблемы беларускага мовазнаўства распрацоўваюцца вучонымі Польшчы, як развіваецца беларусыстыка ў Вас.

Хачу паведаміць Вам, што кніга, якая так доўга затрымалася ў друку /я маю на ўвазе кнігу да юбілею К.К.Крапівы/, у гэтым годзе павінна выйсці.

Жадаю Вам найлепшых поспехаў у працы і добрага адпачынку.

Сёння вярнулася Юзэфа Флярыянаўна Мацкевіч з дыялекталагічнай экспедыцыі і перадае Вам сардэчнае прывітанне. Сёння ж мы збіраемся яе віншаваць з поваду 60-годдзя з дня нараджэння і 25-годдзя навуковай дзейнасці. Робім гэта з спазненнем на некалькі дзён, таму што яна была ў ад'ездзе /афіцыйна яе дзень нараджэння 27-га ліпеня/.

Усе мы шлём Вам свае пачуцці павагі і ўдзячнасці і пажаданне добрага здароўя!

/М.Р.СУДНІК/

Минск, тип. им. Франциска (Георгия) Скорины. Зак. 840 Тир. 2500 1/8-5001/16

◊ *Мал. 1. Ліст М. Судніка да А. Абрэмбскай-Яблоньскай, 5 жніўня 1971 г.*

M. Sudnik

Праф. А.А.Абрэмбскай-Яблонскай

Глыбокапаважаная Антаніна Антонаўна!

Прабачце, калі ласка, за затрымку адказу на Ваша пісьмо. Мне хацелася грунтоўна праверыць усе магчымыя крыніцы, дзе можна было чакаць, што сустрэнецца цікавячая Вас з'ява -- ужыванне падвойных зычных тыпу "бязрыббе", "куппё", "надворра" і інш. У гэтай сувязі мы ўважліва праверылі картатэку гістарычнага слоўніка беларускай мовы і фундаментальную картатэку сучаснай беларускай мовы, але, на жаль, не знайшлі патрэбных Вам прыкладаў. З гэтага прыходзіцца зрабіць вывад, што Б.А.Тарашкевіч не меў пад рукамі канкрэтных пісьмовых крыніц /акрамя матэрыялаў Шэйна, Раманава/, у якіх адзначалася б гэта з'ява, а ў сваёй Граматыцы карыстаўся прыкладамі з дыялектаў; пра гэта я ўжо пісаў Вам. Бо цяжка сабе ўявіць, каб у 1918 годзе і пазней падваенне губных б, п і плаўнага р адлюстроўвалася ў пісьмовых крыніцах, а затым раптам знікла.

Не давяраючы картатэкам, я яшчэ раз пераглядзеў даследаванні па беларускай мове 1918-1930 гадоў /Я.Ф.Карскі "Белорусская речь" 1918 г., П.А.Бузук "Спробы лінгвістычнай геаграфіі Беларусі" 1928 г. часопіс "Родная мова" №№ 1-2, 3-4, 5 за 1930 год і інш. І ўсё ж не сустрэў ніводнага выпадка, каб даследчыкі прыводзілі з пісьмовых крыніц прыклады падваення адзначаных гукаў. Праф. Бузук у сваёй кнізе "Спробы лінгвістычнай геаграфіі Беларусі" робіць абагульняючы вывад аб тым, што губныя зычныя ў сувязі з іх ацвярдзеннем у беларускіх гаворках, не выклікаюць асіміляцыі наступнага j; таму амаль ва ўсіх беларускіх дыялектах захоўваецца злучэнне губнога з j, прычым між імі яшчэ чуваць галосны ірацыянальны гук, блізкі да ъ: б'ю, п'ю /=бъjу, пъjу/.

Што да злучэння р з наступным j, то ў беларускіх дыялектах, дзе існуе мяккае р, -- адзначае праф. Бузук, -- гэта р часам падаўжаецца: перьря, звярьрё і інш. Але зноў жа гэта ў дыялектах, а не ў пісьмовых крыніцах. Падобнае сцвярджэнне знаходзім і ў "Беларусах" Я.Ф.Карскага /гл. т. І, вып. І, стар. 296, 1955 г./.

Як бачыце, пошукі безвыніковыя. Але гэта, напэўна, сведчыць аб тым, што з'ява падваення губных і плаўнага р не характэрна для беларускай літаратурна-пісьмовай мовы.

Усяго Вам найлепшага!

Дырэктар Інстытута
мовазнаўства імя Якуба Коласа
АН БССР М.Р.СУДНІК

13/XI-78 г.

◊ *Мал. 2. Ліст М. Судніка да А. Абрэмбскай-Яблоньскай, 13 лістапада 1978 г.*

Дарагая Эльжбета Казіміраўна!

Перасылаем Вам аўтарскія экземпляры пятага тома Слоўніка пагранічча, якім завяршаецца шматгадовая вялікая праца, якая згуртавала наш судружны калектыў. Кожны з укладальнікаў уклаў у гэта выданне часціню сваей душы, сваіх сіл і намаганняў дзеля таго каб зберагчы народнае слова, перадаць звесткі аб ім наступным пакаленням. Гэта і помнік нашай судружнасці і творчага супраўніцтва.

Бягучы год быў вельмі цяжкі для мяне -- хвароба, страта зроку, аперацыя, зцяжкасцю магу прачытаць што-небудзь толькі пры дапамове лупы, у дадатак да ўсяго гэтага -- галаўны боль. Адна ўцека -- унукі, іх чацвёра Адзін вучыцца ў мединстытуце, двое -- школе, самы старшы ўжо працуе, у будучым годзе збіраецца жаніцца.

Прыміце самыя добрыя пажаданні і прывітанні ад мяне, маёй сям"і і супрацоўнікаў нашага Інстытута.

4 снежня 1986 г. Ю. Мацкевіч

◊ *Мал. 3. Ліст Ю. Мацкевіч да Э. Смулковай*

**Між іншым,я выпадкова выявіў,што І лістапада 1842 г. Ян Баршчэўскі напісаў быў <u>тры вершы</u> прысвечаныя невядомай пакуль што дзяўчыне,бландынцы.**

**Гэта падкрэсляе словы паважанага п.Ст.Тад.Грабоўскага наконт сямейных спраў Яна Баршчэўскага.У кожным разе цяпер можна сказаць,што ў 1842 г. ён заляцаўся да нейкай слічнай панны,але не мог быць жанатым.**

**Пасылаю Вам томік беларускага выдання Байрана.Прашу прыняць яго ад мяне як знак вялікай пашаны.**

**Прашу перадаць мае найлепшыя пажаданні і сардэчнае прывітанне Вашым калегам і калежанкам па катэдры.**

Уладзімір Дубоўка

◊ *Мал. 4. Фрагмент ліста У. Дубоўкі да А. Абрэмбскай-Яблоньскай, 6 кастрычніка 1963 г.*

Толькі што прынеслі з пошты Ваш дарунак—монографію Рудзінскага. Нават з першага пагляду бачу, што рускае выданне, якім я карыстаўся, вельмі скарочана. Калі мая скромная праца—"Салюс популі"—пабачыць свет, абавязкова прышлю Вам, шаноўная пані Антаніна....

Яшчэ раз жадаю Вам найлепшага здароўя, усяго самага светлага ў Вашым жыцці, вялікага плёну і творчых поспехаў у працы Вашай.

15/XI 63 Ул. Дубоўка

◊ *Мал. 5. Фрагмент ліста У. Дубоўкі да А. Абрэмбскай-Яблоньскай, 15 лістапада 1963 г.*

20-03-1965 г.

Дарагая і сардэчна паважаная пані Антаніна!

Вельмі ўдзячны Вам і Вашым сатаварышам па працы за добрыя пажаданні, за высокую ацэнку маёй працы па шэкспіраўскіх санетах.

Сёння я пасылаю на Ваша імя двухтомнік маіх выбраных твораў — у знак маёй вялікай сардэчнай пашаны да Вас, да Вашае высокародные працы ў галіне філалагічнае — непасрэдна звязанай з маёй роднаю моваю і культураю.

Творы ў гэтых маіх кнігах — няроўныя. Я цешу сябе надзеяй, што хоць невялікая частка іх будзе Вам да спадобы.

Разам з гэтым пасылаю Вам пару экз. кнігі санетаў для таго, каб Вы, сардэчна паважаная пані Антаніна, маглі даць іх у карыстанне замест свайго экземпляру.

Перадаю Вам найлепшыя свае пажаданні і ў жыцці і ў працы, прашу перадаць мае сардэчныя прывітанні Вашым супрацоўнікам.

З вялікаю пашанаю да Вас
Уладзімер Дубоўка

◊ *Мал. 6. Ліст У. Дубоўкі да А. Абрэмбскай-Яблоньскай, 20 сакавіка 1965 г.*

Знаходзяцца там таксама словы шкадавання, што Эльжбета Смулкова так цяжка захварэла ў Мінску, але і спадзяванні, «*што наша добрае жаданне прыдасць ёй сіл, бадзёрасці і паможа перамагчы хваробу*». М. Суднік таксама перадае ў лісце прывітанні прафесару Звалінскаму, Міровічу і Смулковай. Ліст ад 29 верасня 1959 г. афіцыйна адрасаваны прафесару А. Абрэмбскай-Яблоньскай як загадчыку беларускага сектара Інстытута славяназнаўства Польскай акадэміі навук (Pracownia Białoruska Zakładu Słowianoznawstwa PAN) у адказ на яе паведамленне аб паляпшэнні здароўя Э. Смулковай і яе прыездзе ў кастрычніку. Міхаіл Раманавіч выражае радасць і ўпэўнівае Антаніну Антонаўну, што будзе зроблена ўсё, каб Э. Смулкова магла добра працаваць. Разам з гэтым ён пасылае «Правілы пунктуацыі» і «Дыялектны слоўнік» Ф. Янкоўскага. Лісты 1968 г. (28 красавіка) і 1969 г. (25 студзеня) маюць характар святочных віншаванняў.

Вышэй прыведзены копіі двух лістоў М. Судніка 1971 г. і 1978 г. (мал. 1, 2). Яны свабодна чытаюцца, таму няма неабходнасці іх аналізаваць. Аднак хачу звярнуць увагу ў першым лісце на выказанае шанаванне дырэктара да Юзэфы Фларыянаўны Мацкевіч і на яго жаданне дапамагчы нам павіншаваць яе з юбілеем. У другім лісце павагу да аўтара выклікае яго дакладнасць у праверцы фактычнага матэрыялу на запыт А. Абрэмбскай-Яблоньскай пра тое, ці сустракаюцца ў беларускай літаратурнай мове дыялектныя формы тыпу *бязрыббе*, *надворра*.

Захавалася копія адказу А. Абрэмбскай-Яблоньскай на ліст М. Судніка ад 13 лістапада 1978 г.:

*Wielce Szanowny Panie Dyrektorze,*

*Dawno nie pisałam. A powinnam była podziękować Panu za odpowiedź w sprawie dialektalnej formy* ***nadvorra*** *i za daną mi bibliografię. Nie mam wątpliwości co do gwarowego charakteru tego typu form, czego dowodem były materiały gwarowe otrzymane z Instytutu Językoznawstwa BAN. Ale i takie dialektyzmy mogą się przypadkiem znaleźć w druku. Słownik literacki języka białoruskiego ich nie uwzględni. Mimo to w jakichś źródłach drukowanych figurują. Nadesłano mi jeden taki przykład, ale nie mogę się na nim opierać ze względów chronologicznych — pochodzi z roku 1940.*

*Bardzo dziękuję za nadesłany «Etymologiczny słownik języka białoruskiego» t. I. Przyszedł bardzo w porę. Właśnie mnie interesował białoruski przymiotnik* ***bukaty — bukaty kam'eˆń****. Szkoda, że redaktorzy Słownika go nie dodali, choć Dal o nim wspomina dla słownictwa zach.-ruskiego…*

*Pragnę Panu powiedzieć, ze przez Smułkową otrzymałam od córki Pana, Tamary Sudnik tomik tez i artykułów z grudniowej moskiewskiej Konferencji etnolingwistycznych kontaktów bałto-słowiańskich. Uderza w nich wielka ilość uczestników zjazdu (czynnych), obfitość materiałów i konsekwentne rozwijanie przyjętych założeń etnogenetycznych Bałtów i Słowian. O córce Pana dochodzą*

*mnie wyrazy wysokiego uznania tak co do jej prac naukowych, jak i zalet charakteru. Szczerze gratuluję.*

*Czy otrzymał Pan oba zeszyty «Słownika staropolskiego» za rok 1978 zeszyt 2 i 3 (= 49, 50)? Gdyby nie doszły do Pana, prosiłabym o wiadomość.*

*Łaczę wyrazy głębokiego poważania i najlepsze pozdrowienia A. O-J.*

**3. Юзэфа Фларыянаўна Мацкевіч** нарадзілася 27 чэрвеня 1911 г. у вёсцы Ухлё Чашніцкага раёна Віцебскай вобласці, памерла 24 лістапада 2003 г. у Мінску. Беларускі мовазнавец, спецыяліст у галіне дыялекталогіі і гісторыі мовы, доктар філалагічных навук (1963), член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР (1969), заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). У 1950–1986 гг. загадвала сектарам дыялекталогіі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР. З'яўлялася навуковым супрацоўнікам Інстытута з 1945 г.

Захавалася яе 28-гадовае ліставанне з прафесарам А. Абрэмбскай-Яблоньскай, пачынаючы ад 25 мая 1962 г. па 23 жніўня 1990 г., у колькасці 25 змястоўных лістоў. Тэматыка лістоў пераважна навуковая, утрымлівае інфармацыю пра тое, што робіцца па беларускаму мовазнаўству ў Мінску і ў Варшаве; пра канкрэтнае навуковае супрацоўніцтва і актыўны абмен кнігамі. Гаворка ішла таксама пра асабістыя і сямейныя справы, здароўе … Нармальна, як паміж разумеючымі адзін аднаго людзьмі — сябрамі. Для аўтаркі гэтага артыкула, якая добра ведала абедзвюх вучоных жанчын, гэта не дзіва. Абедзве яны былі ў многім падобныя. Да самазнішчэння адданыя навуцы, прыхільныя да людзей і вельмі самакрытычныя.

Спынімся на канкрэтным навуковым супрацоўніцтве, аб якім гаворыцца ў карэспандэнцыі.

Ужо першы датаваны ліст Ю. Мацкевіч (25 мая 1962 г.) — гэта яе падзяка за супрацоўніцтва над супольным з прафесарам А. Абрэмбскай-Яблоньскай і Ганнай Мурашка артыкулам «O niektórych gramatycznych osobliwościach gwar białoruskich (w związku z projektem ogólnosłowiańskiego atlasu językowego)» («Slavia Orientalis», R. XI (1962), s. 79–108).

Падобная справа ў лісце ад 1 лютага 1965 г., у якім Юзэфа Фларыянаўна просіць, каб яе артыкул прафесар А. Абрэмбска-Яблоньска адаслала з праўкамі, з тым каб можна было яго перапісаць і пасланць чысты варыянт на друк.

У навагодняй святочнай картачцы (недатаванай) ёсць запрашэнне ад Юзэфы Фларыянаўны для Антаніны Антонаўны і яе супрацоўнікаў прыняць удзел у апрацаванні «Слоўніка беларускіх гаворак Паўночна-Заходняй Беларусі», які сектар дыялекталогіі Інстытута мовазнаўства намераны рыхтаваць з дыялектолагамі з Літвы. У выніку гэтага супрацоўніцтва, на якое мы ахвотна пагадзіліся, узнік 5-томнік (1979–1986) беларускай дыялектнай лексікі беларуска-польска-літоўскага памежжа. Перасылку чарговых выпускаў спалучалі лісты Юзэфы Фларыянаўны і падзяка Антаніне Антонаўне за добрую ацэнку слоўніка. А пры аўтарскіх экзэмплярах пятага, апошняга, выпуску прыйшла

карэспандэнцыя і да мяне, якую падаю тут для лепшай характарыстыкі асобы Ю. Мацкевіч (мал. 3).

Супрацоўніцтва паміж вучонымі ажыццяўлялася яшчэ ва ўзаемным выказванні сваіх думак (рэцэнзій, поглядаў і рэкамендацый) на навуковыя працы сектара дыялекталогіі БАН і кіруемых А. Абрэмбскай-Яблоньскай польскіх навуковых пляцовак: Pracowni białoruskiej Zakładu Słowianoznawstwa PAN i Katedry Filologii Białoruskiej Uniwersytetu Warszawskiego. Напрыклад, у лісце Юзэфы Фларыянаўны ад 30 чэрвеня 1969 г. знаходзяцца такія словы: «*Глыбока паважаная Пані Прафесар! Наш калектыў вельмі ўдзячны Вам за цёплае сардэчнае пісьмо, за тую высокую ацэнку, якую выказалі Вы аб нашай скромнай рабоце Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак, хацелася б, каб яна сапраўды заслугоўвала такой ухвалы*».

А ў лісце ад 5 снежня 1971 г. з радаснай інфармацыяй аб тым, што «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» атрымаў Ленінскую прэмію за 1971 г., ёсць адначасова падзяка Антаніне Антонаўне «*за змястоўную, пазітыўную ацэнку Атласа ў рэцэнзіі [Slavia Orientalis, R XVI (1968) NR 2, S. 181–186], а таксама на Лінгвістычную геаграфію, што спрыяла гэтай узнагародзе*».

Погляды Юзэфы Фларыянаўны на навуковую дзейнасць прафесара А. Абрэмбскай-Яблоньскай выражаны, між іншым, у лісце ад 12 мая 1968 г. У гэтым лісце Юзэфа Фларыянаўна дзякуе за ліст ад 20 красавіка, просіць прабачэння, што затрымалася з адказам, бо была вельмі занята падрыхтоўкай да друку «Лінгвістычнай геаграфіі і групоўкі беларускіх гаворак». Друк, аднак, адклалі на наступны год, таму што «*ў гэтым годзе мы не сабралі патрэбнага тыражу* (sic!). *Наш калектыў навуковых супрацоўнікаў выказвае Вам вялікаю падзяку за тую павагу і прыязныя адносіны, што Вы праявілі многа раз. Пры Вашым непасрэдным намаганні і падтрымцы на польскай мове выйшаў цэлы шэраг артыкулаў па беларускаму мовазнаўству, у некаторых з іх ёсць і Ваш асабісты ўдзел, не кажучы ўжо о такіх капітальных работах па беларускай дыялекталогіі як Атлас Беласточчыны, што складаецца пад Вашым кіраўніцтвам*».

Многія лісты абедзвюх карэспандэнтак, датаваныя і недатаваныя, сведчаць аб інтэнсіўным абмене кнігамі і бібліяграфічнай інфармацыяй, а таксама ведамі пра тое, над чым актуальна працуюць кіруемыя імі калектывы супрацоўнікаў. 7 снежня 1967 г. Юзэфа Фларыянаўна інфармуе, што цяпер будуць працаваць галоўным чынам над «Агульнаславянскім лінгвістычным атласам» і што так будзе ў найбліжэйшыя гады, а пасля працы яна займецца ўнукамі, старшы з якіх мае трэці годзік, а малодшы — другі.

Ліст, у якім Ю. Мацкевіч выказвае свае спачуванні з-за хваробы А. Абрэмбскай-Яблоньскай і адначасова першы раз піша пра ўласныя цяжкасці са зрокам і сэрцам, не датаваны. Можна меркаваць, што ён адносіцца да 1970 г., бо ў ім гаворыцца, што 2 ліпеня 1970 г. адбудзецца абарона доктарскай ды-

сертацыі М. В. Бірылы «Беларуская антрапанімія». А кнігу пад такой назвай Ю. Мацкевіч пасылала Антаніне Антонаўне з лістом ад 26 сакавіка 1970 г.

У папцы з карэспандэнцыяй ад прафесара Ю. Мацкевіч захавалася толькі адна машынапісная копія ліста прафесара А. Абрэмбскай-Яблоньскай са снежня 1973 г. Цытую цалкам:

*Szanowna i Droga Pani Profesor,*

*Jestem obsypana darami od Pani. Doprawdy nie wiem jak mam dziękować, ale także jestem ogromnie zawstydzona, bo nie wiem jak i nie wiem czym mogę się odwdzięczyć za tyle wspaniałości. Słodycze zjedliśmy w Katedrze i w Pracowni filologii białoruskiej, koniak oczekuje sposobnej okazji, część książek przekazuję do biblioteki i do jednej recenzji, perfumy trudno rozdzielić. Zatrzymajmy się na książkach. Droga Pani Profesor, tych nigdy nie za dużo. Ja również mogę nimi służyć, ile tylko i jakich będzie Pani potrzebować. Wysyłam teraz prof. Sławskiego «Słownik etymologiczny języka polskiego» tomu IV zeszyt 4. Proszę napisać czy otrzymała Pani zeszyty wcześniejsze 1–3? Jeśli jakich brakuje niezwłocznie doślę. Dołączam też monografię ze słowotwórstwa wschodniosłowiańskiego. Tematyki tak dziś często podejmowanej u nas. Dziękuję za wiadomości o Pani pracach i o pracach sektora dialektologii. Moi uczniowie kierują teraz placówkami białoruskimi: dr Smułkowa na uniwersytecie, dr Glinka w Zakładzie Słowianoznawstwa PAN. Ja pozostaję z nimi w stałym kontakcie i prowadzę seminaria dla aspirantów, mam 6 osób w grupie.*

Даволі частая карэспандэнцыя сямідзясятых гадоў. Захаваліся яшчэ некалькі лістоў з падзякай за кнігі і бібліяграфію і з інфармацыяй пра працы сектара («Лексічны атлас беларускіх народных гаворак», «Тураўскі слоўнік», «Агульнаславянскі лінгвістычны атлас», «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе паграніčча», «Мікратапанімія Беларусі»). Пасля гэтага часу ліставанне відавочна зменшылася. Святочную картачку на Божае нараджэнне і навагоднія пажаданні на 1980 г. Юзэфа Фларыянаўна напісала па-польску ўжо вельмі дробненькім почыркам. Пасля гэтага ў захаванай карэспандэнцыі маем ліст ад 25 кастрычніка 1984 г. друкаваны на машынцы, не ўручную, як падзяку за «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча ў перакладзе Браніслава Тарашкевіча. Ёсць у ім таксама інфармацыя, што стараюцца паменшыць аб'ём «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак» не праз страту колькасці карт, а шляхам змены тэхнікі сродкаў выражэння; закончылі працу над пятым выпускам «Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе паграніčча», які праз год выйдзе з друку. Як вядома, слоўнік выйшаў у 1986 г.

Наступны ліст, датаваны 3 лютага 1985 г., таксама машынапісны, з уласнаручным подпісам.

І два апошнія захаваныя лісты за 1990 г. — ад 5 ліпеня і 23 жніўня. Першы журботны ліст інфармуе пра страту зроку і моцны галаўны боль:

*Гэта ўжо не навуковая праца, калі асноўнай думкай з'яўляецца як, якую прыняць абезбольваючую таблетку. На дрэннае здароўе ўплывае факт затрымкі друку Лексікалагічнага атласа: больш за 2 тысячы карт ілюстраваных агромным лексічным матэрыялам — рэзультат 25 лет вельмі крапатлівай працы вялікага калектыва супрацоўнікаў, затрачана многа сіл і грашовых сродкаў — такая капітальная праца не выдаецца, не можа стаць здабыткам навукі і культуры! Мне асабліва горасна, што я дарэмна патраціла здароўе і зрок.*

*Жадаю Пані добрага здароўя, бадзёрага настрою і ўсяго прыемнага ў жыцці.*

(Там жа Юзэфа Фларыянаўна дзякуе за лекі. Машынапіс, уласнаручны подпіс.)

І апошні:

*Шаноўная і дарагая Пані прафесар! Дзякую за каплі прывезеныя Марысяй [Чурак]. Акуліст прызнаў, што вельмі памоцныя і фактычна працэс утраты зроку стрыманы. Для мяне і гэта дасягненне, радасць, хоцьбы бачыць сцежку прад сабой. Пані Марыся раскажа аб нашых жыццёвых умовах. Зыходзячы з абставін вымушана паслаць толькі «горкае зелле». Кажуць, што і яно ў невялікіх дозах са шклянкай гарбаты карысна для здароўя. Жадаю Вам і Вашым родным і блізкім моцнага здароўя і энэргіі.* (Машынапіс, уласнаручны подпіс.)

Магу шчыра сказаць, што сустрэча і асабістыя кантакты з гэтымі дзвюма аўтарытэтнымі асобамі, ліставанне якіх вельмі коратка характарызую ў гэтым артыкуле, было і ёсць недасягальным узорам ў маім жыцці.

**4. Ніна Аляксандраўна Тарашкевіч —** другая жонка Браніслава Тарашкевіча, жыла ў Маскве. Выданне ў Польшчы Тарашкевічавага перакладу «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча стала магчыма дзякуючы таму, што Ніна Тарашкевіч передала кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта ксераграфічную копію, падрыхтаванай да вывазу ў Маскву пры абмене Б. Тарашкевіча, рукапіснай копіі арыгінала перакладу, зробленай Лявонціем Ліманоўскім, былым вучнем Беларускай гімназіі ў Радашковічах. Тэкст перакладу, падрыхтаваны Антанінай Абрэмбскай-Яблоньскай і супрацоўніцамі кафедры Ганнай Багроўскай, Тэрэсай Ясіньскай-Соха, Зофіяй Скібіньскай-Харыла, Эльжбетай Смулковай, у 1981 г. быў здадзены ў друк у выдавецтва «Поезежэ» (Ольштын) і ў 1984 г. выйшаў з друку. Грунтоўны ўступны артыкул з моўным каментарыем і высокай ацэнкай перакладу напісала прафесар А. Абрэмбска-Яблоньска.

Шэсць лістоў Ніны Тарашкевіч да А. Абрэмбскай-Яблоньскай у перыяд з 19 кастрычніка 1979 г. па 8 ліпеня 1984 г. папаўняюць нашы веды пра яе старанні аб захаванні памяці пра Б. Тарашкевіча. У першым лісце яна дзякуе за падрыхтоўку перакладу да публікацыі і выказвае спадзяванні, што ён будзе надрукаваны раней за мінскі. Інфармуе, што ў Вільні з яе ўдзелам і ў прысутнасці высокіх прадстаўнікоў літоўскай навукі адкрылі мемарыяльную

дошку ў гонар Б. Тарашкевіча. Ніна Аляксандраўна з гэтай нагоды прысутнічала таксама на цікавым дакладзе пра Б. Тарашкевіча, зробленага другім сакратаром гарсавета Вільні. Паказалі ёй і горад. Ніна Аляксандраўна мяркуе, што ў параўнанні з Літвой і Польшчай Беларусь мала зрабіла для захавання памяці пра Б. Тарашкевіча. Яна скардзіцца, што яшчэ ў 1957 г. перадала выдавецтву «Мастацкая літаратура» рукапіс перакладу, але і дагэтуль там нічога не зрабілі, не зважаючы на тое, што ў 1966 г. выйшла кніга Арсеня Ліса пра Б. Тарашкевіча.[1]

Сярод лістоў Ніны Аляксандраўны знаходзіцца блакнот навагодніх віншаванняў Антаніны Антонаўны на 1980 г. Прафесар А. Абрэмбска-Яблоньска 2 красавіка 1980 г. (02.04.1980 адзначана на картачцы Н. А.) робіць заўвагу, што друк «Пана Тадэвуша» затрымліваецца не па грашовых прычынах: «*Это зависит даже не от издательства, а от типографии, которая переживает сейчас реорганизацию в печатании научных работ*». Цяжка меркаваць, ці гэтак Антаніна Антонаўна сапраўды думала, ці гэта быў такі дыпламатычны адказ на запытанне жонкі Б. Тарашкевіча. «У народзе» хадзілі чуткі, што выдавецтва «атрымала загад» затрымаць выданне да выхаду мінскай публікацыі.

У лісце ад 25 снежня 1980 г. Ніна Аляксандраўна выказвае спадзяванне, што «Пан Тадэвуш» хутка ўжо будзе надрукаваны — да 90-гадовага юбілею ад нараджэння Браніслава Тарашкевіча. Мінск, на жаль, слаба рыхтуецца. Былі планы назваць яго імем вуліцу і нейкі інстытут, але нічога не рэалізавана. Вінаваты 1937 год! «*А ведь несколько поколений Белоруссов учились по его грамматике!*». Улады вырашылі абмежавацца толькі некалькімі артыкуламі.

У лісце ад 23 чэрвеня 1981 г. Ніна Тарашкевіч спачувае з нагоды «*событий в Польше*» і піша, што 90-годдзе з дня нараджэння Б. Тарашкевіча не будуць святкаваць шырока.

Пад датай 8 ліпеня 1984 г. прафесар А. Абрэмбска-Яблоньска атрымала ад Ніны Тарашкевіч аптымістычную падзяку за атрыманы сігнальны экзэмпляр перакладу: «*Книга прекрасно издана, со вкусом оформлена, и сам переводчик остался бы, думаю, очень и очень доволен. Спасибо Вам за доброе отношение к нему, к его памяти, к высокой оценке его перевода, выполненного в тяжелых условиях панской Польшы*. <…> *P. S. Какое счастье, что над выпуском перевода работал такой эрудит, как Вы!*».

На заканчэнне ліставання пра апошнюю навуковую працу прафесара Антаніны Абрэмбскай-Яблоньскай зацытую, як яна сама тлумачыць, чаму ўзялася за выданне Тарашкевічавага перакладу «Пана Тадэвуша»:

*Wydania białoruskiego przekładu «Pana Tadeusza» podjęliśmy się z kilku powodów. Najistotniejszy był ten, że tłumaczenie B. T. jest pierwszym pełnym*

[1] У карэспандэнцыі прафесара А. Абрэмбскай-Яблоньскай захоўваецца ліст Арсеня Ліса ад 12.07.1984 з падзякай за экзэмпляр перакладу «Пана Тадэвуша».

*przekładem «Pana Tadeusza» na język białoruski. Drugim, równie istotnym, względem było to, że Taraszkiewiczowski przekład wspomnianego dzieła jest dokumentem historycznym. Jego język różni się od współczesnego białoruskiego języka literackiego. Jest to białoruszczyzna północno-wschodnich ziem II Rzeczypospolitej Polskiej lat dwudziestych i trzydziestych naszego stulecia. Normy gramatyczne i ortograficzne tej białoruszczyzny odbiegają w różnych szczegółach od obowiązujących w Białorusi Radzieckiej, słownictwo zaś jest nasycone oprócz rysów dialektalnych licznymi polonizmami (przy niewielkim udziale języka rosyjskiego. Taraszkiewiczowski przekład «Pana Tadeusza» jest pomnikiem języka białoruskiego z okresu «Naszej Niwy», z doby ścisłych kontaktów z językiem polskim i kulturą polską. Jest to przekład ze wspólnej gleby kultury polskiej i kultury białoruskiej ziem Wileńszczyzny (s. VII).*

*<…>*

*W ogólnym podsumowaniu stwierdzić można, że do rąk czytelnika trafia przekład «Pana Tadeusza» na język białoruski, dokonany wiernie, ale przy tym indywidualnie, z niepowtarzanymi innowacjami wersyfikacyjnymi, z wyczuciem klimatu epoki i środowiska, ludzi i wydarzeń, z wykorzystaniem bogatego zasobu słownictwa białoruszczyzny literackiej okresu naszoniwskiego i z akcentami gwarowymi świadomie nadającymi znamiona regionalności — jakby geograficznej lokalizacji poematu. Naturalność i codzienność języka (ani śladu tu nie ma silenia się na poetyckość i wyszukaność stylu) oddaje wiernie zamysł Mickiewicza w jego poemacie, adresonym do naj szerszych rzesz czytelniczych.*

*Nie każdy przekład «Pana Tadeusza» na inny język obcy potrafi temu sprostać [s. LVI].*

**5. Уладзімір Дубоўка** нарадзіўся 15 чэрвеня 1900 г. у вёсцы Агароднікі Віленскага павета (цяпер у Пастаўскім раёне Віцебскай вобласці), памёр 20 сакавіка 1976 г. у Маскве. Беларускі паэт і літаратурна-грамадскі дзеяч. У 1930 г. беспадстаўна арыштаваны і асуджаны на 5 гадоў. У 1937 г. пазбаўлены волі на 10 гадоў. Рэабілітаваны 15 лістапада 1957 г.

У AUW захоўваюцца тры лісты У. Дубоўкі да прафесара А. Абрэмбскай-Яблоньскай: два машынапісныя — ад 6 кастрычніка (мал. 4) і 15 лістапада 1963 г. (мал. 5). і адзін, напісаны ўласнаручна, ад 20 сакавіка 1965 г. (мал. 6).

У першым лісце ад 6 кастрычніка 1963 г. з Масквы У. Дубоўка звяртаецца з просьбай удакладніць, ці Станіслаў Манюшка быў «*у СПецярбургу, скажам, 27 лістапада 1842 г.*». Акрамя гэтага аснаўнога пытання ёсць яшчэ другое: «*Ці быў жанаты (і менавіта ў 1842 г.) ЯН БАРШЧЭЎСКІ, Калі быў, як імя ягонае супругі, якога яна стану, пажадана ведаць яе фамільнае прозвішча. Тое ж самае ў дачыненні да Рамуальда Друцкага-Падбярэскага і Вінцэнта Рэўта. Ці няма выпадкова іхніх партрэтаў і гдзе яны апублікованы?*» А ўсё гэта У. Дубоўку патрэбна «*для майго драматычнага эцюда з жыцця пецярбургскіх і віленскіх дзеячоў культуры саракавых гадоў мінулага сталецця*».

Далей аўтар ліста скардзіцца, што, жывучы ў Маскве, перагледзеў усё, што можна, і не знайшоў адказаў.

Ужо 15 лістапада 1963 г. У. Дубоўка шле падзяку Антаніне Антонаўне за грунтоўную і змястоўную даведку і піша:

*<...> Бачыўшы такую Вашу вялікую добразычлівасць, я лічу сваім абавязкам сказаць больш ясна, якая літаратурная праца прымусіла мяне турбаваць Вас.*

*У сувязі з 150-м з дня нараджэння Т. Г. Шаўчэнкі, я надумаў быў распрацаваць тэму — спатканне Т. Г. Шаўчэнкі з беларускімі паэтамі таго часу, пра якое пісаў некалі нябожчык Р. Зямковіч (маючы на ўвазе Я. Баршчэўскага, Р. Падбярэскага і В. Рэўта). Вывучаючы матэр'ялы, звязаныя з той эпохай, я сустрэўся з фактам падарожжа выдатнейшага польскага кампазітара Станіслава Манюшкі ў Пецярбург і якраз тады, калі адбываліся тыя спатканні менавіта — у канцы 1842 года. Гэта спакусіла мяне скарыстаць такі выдатны выпадак для таго, каб ажывіць іхняе спатканне прысутнасцю такога выключнага дэмакрата. Мяркую, што быўшы ў Пецярбургу, Манюшка напэўна спатыкаўся з імі ці праз Баршчэўскага, ці ў Вельгорскіх, вядомых мецэнатаў і аматараў музыкі, дзе, дакладна вядома, Шаўчэнка бываў не рэдка.*

*Твор мой закончаны. Называецца ён «Salus populi». Калі мяне звінавацяць, што Ст. Манюшка не ўдзельнічаў у тым спатканні, дык я адкажу так. — І. Е. Рэпін намаляваў сваю вядомую карціну «Спатканне славянскіх кампазітараў», на якой, як Вам вядома, паказаны Ф. Шапэн і Ст. Манюшка. Тым часам, у ліку ўсіх змешчаных на той карціне кампазітараў ёсць і такія, якія ў тым часе яшчэ ў пялёнках былі. А я, калі паграшу — дык толькі на пару тыдняў.*

*Паўтараю — твор мой закончаны. Вам вялікая, шчырая падзяка за даведку, якая вельмі дапамагла мне глянуць больш свядома на ўсю падзею.*

Падаю заканчэнне гэтага ліста, якое можна лёгка прачытаць (мал. 5).

Паводле «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (т. 3, Мінск, 1996, с. 306), твор У. Дубоўкі «Salus populi» быў надрукаваны толькі ў 1994 г. Чаму так доўга чакаў выхаду завершаны твор выдатнага паэта?

* * *

У заключэнне можна сказаць, што ўсе карэспандэнты прафесара Антаніны Абрэмбскай-Яблоньскай ставіліся да яе з пашанай і сімпатыяй. Яна таксама аддзячвала ім добразычлівасцю. Валер Каліноўскі змясціў у сваёй кнізе такія словы аўтаркі гэтага артыкула: *«Гэта быў гуманіст высокай клясы, прадстаўнік пакаленьня польскіх пазытывістаў, чалавек, які так добра ставіўся да людзей... Яна вельмі сур'ёзна ставілася да Беларусі — да краіны і да народу. Яна мела яшчэ нейкія дзіцячыя ўспаміны зь Беларусі, бо яе бацька быў даверанай асобай вялікіх земляўласьніцкіх колаў, кіраваў іхнымі*

*маёнткамі, і яна ў дзяцінстве доўгі час правяла пад Слонімам, яна памятала гучаньне мясцовай гаворкі беларускай мовы. Яна мне пра гэта расказвала. Як такі адкрыты гуманіст яна мела глыбокае адчуваньне пэўнай гістарычнай несправядлівасьці да беларусаў. Ёй было важна, каб Беларусь ужо пасьля распаду СССР магла разьвівацца самастойна. Гэта была яе пазыцыя, а не заява напаказ. Яна яшчэ засьпела незалежную Беларусь і ўспрыняла яе вельмі пазытыўна»*[1].

Апошняе слова пакідаю за Антанінай Абрэмбскай-Яблоньскай, якая ў некралогу Казіміра Ніча, свайго настаўніка ў мовазнаўстве і шматгадовага сябра, напісала:

*Многім падаецца, што каб стаць навукоўцам, трэба для гэтага спэцыяльна нарадзіцца. Што да здольных людзей зьбіраньне ляўраў само прыходзіць. Гэта поўная няпраўда. Ёсьць прынамсі тры абавязковыя ўмовы для здабываньня навуковых ляўраў: сапраўднае бескарысьлівае замілаваньне, цяжкая праца, здольнасьць да самакрытыкі.*[2]

---

**Генадзь Цыхун**
(Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, Мінск, Беларусь)

## ПА СЛЯДАХ СЛАВІСТЫЧНЫХ РОСШУКАЎ АНТАНІНЫ І ЮЗАФА АБРЭМБСКІХ

Антаніна і Юзаф Абрэмбскія пакінулі значны след у славістыцы ў шырокім яе разуменні, і ў прыватнасці — у беларусістыцы. Асабліва ў апошняй, дзе на фоне шматлікіх прац замежных даследчыкаў, у якіх часам неўсвядомлена прысутнічае вялікадзяржаўны дух «русского мира», настальгія па «Крэсах» ці «валынская экспансія», навуковыя працы Абрэмб-

---

[1] Каліноўскі, В. Пані Эльжбета. Гісторыя адной прыязьні / Валер Каліноўскі. — Смаленск, 2016. — С. 81–82.

[2] Цыт. па: Obrębska-Jabłońska, A. Kazimierz Nitsch 1874–1958 // Śladami żywego języka: wybór pism / Antonina Obrębska-Jabłońska. — Warszawa, 1993. — S. 243–244. Пераклад: Каліноўскі, В. Пані Эльжбета. Гісторыя адной прыязьні / Валер Каліноўскі. — Смаленск, 2016. — С. 82.

скіх вылучаюцца выключнай аб'ектыўнасцю ў адносінах да беларускай мовы, этнаграфіі і культуры.

Нельга не прызнаць вялікія арганізацыйныя заслугі Антаніны Абрэмбскай-Яблоньскай, якая пасля Другой сусветнай вайны прыклала намаганні для стварэння беларусістычных цэнтраў у Польшчы, актывізавала працу ў галіне беларуска-польскай лексікаграфіі, дыялекталагічнага і анамастычнага вывучэння гаворак і ўласных назваў Беласточчыны, працягу далейшага выдання выключна каштоўных запісаў Міхала Федароўскага і многа іншага. З другога боку, здзіўляе своеасаблівы «Палессецэнтрызм» у навуковай дзейнасці (гаворачы па-польску — «szczególna pasja») Юзафа Абрэмбскага, сінтэтычнасць яго даследаванняў Палесся, дзе акрамя этнасацыялагічных, этнаграфічных, этнагеаграфічных і культуралагічных фактаў усебакова разглядаюцца і лінгвістычныя матэрыялы. І тут трэба адзначыць выключныя заслугі Эльжбеты Смулковай і Ганны Энгелькінг у падрыхтоўцы і выданні прац Антаніны Абрэмбскай-Яблоньскай і Юзафа Абрэмбскага [12; 18; 19; 20].

Зразумела, што ў адным выступленні нельга ахапіць усе аспекты навуковай дзейнасці Абрэмбскіх. Як відаць з назвы выступу, я спынюся толькі на некаторых з кірункаў, якія найбольш блізкія мне і закранаюць мае навуковыя інтарэсы. У дзейнасці Антаніны Абрэмбскай-Яблоньскай — гэта паходжанне слоў, а ў дзейнасці і росшуках Юзафа Абрэмбскага — Палессе і Македонія як зоны захавання архаічных з'яў. Магчыма, гэта не самыя важныя у іх росшуках тэмы, але ў іх яны паказалі сябе як арыгінальныя даследчыкі і выдатныя славісты.

Да гэтага часу працягвае нас цікавіць прапанаваная А. Абрэмбскай-Яблоньскай этымалогія макратапоніма *ашчазнік* (*aščaznik*), які аўтарка разглядае як гібрыднае ўтварэнне на Беласточчыне. Перш за ўсё пра само паняцце «гібрыднае ўтварэнне» («formacja hybrydalna»), якое звычайна ў этымалогіі не ўжываецца. Фактычна гутарка ідзе пра *кантактную інавацыю* на моўным сумежжы, побач з т. зв. *пранікненнямі*[1]. *Утварэнне aščaznik* А. Абрэмбска-Яблоньска тлумачыць праз «kontakty białoruskiej ludności z dworem» («Stąd przenikały niektóre polskie terminy»), у выніку чаго на базе польскага *ostrzężyny* ('ажыны', вядомага на Палессі ў форме *стругвіны* 'ажыны з чырвонымі пладамі' [2, с. 61]) узнік гібрыд *aščaznik* — «formacja hybrydalna o polskiej podstawie fonetycznej *ostrzęż-* i białoruskim sufiksie *-nik*» [18, с. 341].

---

[1] Тэрмін *пранікненне* актыўна ўжываў Віктар Мартынаў, які спецыяльна падрэсліваў адрозненне паміж запазычаннем і пранікненнем: «Заимствования вызываются социальным и культурным влиянием, проникновения — контактами, определяемыми географической смежностью» (больш падрабязна гл.: [10; 11]). Польскія лінгвісты выкарыстоўваюць тэрміны *przeniknięcie* [22; 23; 15] і *nawiązanie* [21].

Пра нешта падобнае гаварыў на беларуска-польскім сімпозіуме ў Мінску ў 1975 г. Станіслаў Глінка, які запісаў ад мясцовага жыхара на тэрыторыі Беласточчыны назву вераб'ёў па-польску *grobia*, разглядаючы яе як інавацыю на базе беларускага *гороб'е* [9, с. 71], параўн. гродзенскае *гараб'е, відаць, вясну пачулі, чуяш як чырыкаюць?* [8, с. 260]. У гэтым выпадку беларускае дыялектнае слова выступае з польскай фанетыкай. Іншы выпадак дэманструе Мікола Лобач у беластоцкай гаворцы, дзе мясцовае *павук* 'назва ткацкага ўзору (<**pąkъ*)' ператварылася пад уздзеяннем польскай мовы ў *палук* у выніку ідэнтыфікацыі беларускага спалучэння *ву* і польскага *ł* [5, с. 271]. Зрэшты, для беластоцкага *aščaznik* можна прапанаваць і цалкам беларускую версію паходжання, маючы на ўвазе зафіксаванае на Тураўшчыне *шчызье/шчыж'е* 'паднятыя пры аранні скібы зямлі' (<*шчыга* 'пласт раллі') [7, с. 345]), хаця пры гэтай версіі застаюцца пэўныя фармальныя цяжкасці (замена карэннай галоснай *ы* на *а* і інш.). Аднак называнне мікратапонімам поля падтрымлівае гэтую версію. Але з улікам грунтоўнай распрацоўкі як лінгвістычных, так і пазалінгвістычных аспектаў, этымалагічная версія Антаніны Абрэмбскай застаецца найбольш верагоднай.

Выдадзеныя і яшчэ не выдадзеныя працы Юзафа Абрэмбскага сведчаць, што ў яго асобе славянская этналогія і этнаграфія мела арыгінальнага і вельмі глыбокага даследчыка шырокага профілю. Здзіўляе яго моўная падрыхтоўка, якая дазваляла свабодна арыентавацца ў народнай культуры такіх далёкіх славянскіх арэалаў як Палессе і Парэчча (Поречие) у Македоніі. Дарэчы, застаецца няясным, ці выпадкова аўтар даследаванняў засяродзіўся на апошнім рэгіёне ў Македоніі, маючы на ўвазе ідэнтычны рэгіён на Палессі каля Давыд-Гарадка. Выдатная моўная падрыхтоўка дазваляла яму запісаць у арыгінальным выглядзе шматлікія назвы і тэксты, якія адлюстроўваюць усе бакі жыцця даследаваных рэгіёнаў. Параўн. напрыклад, запісы міфа аб забойстве старых у падрыхтаваным да друку пад кіраўніцтвам Г. Энгелькінг рукапісе Юзафа Абрэмбскага «Macedonia» і пераклічку яго з адпаведнымі міфамі, адзначанымі ў Беларусі, Сербіі і іншых славянскіх рэгіёнах. Аналіз македонскага і параўнальнага матэрыялу прыводзіць Юзафа Абрэмбскага да высновы: «Śmierć i pojęcia o śmierci różne w różnych kulturach. Całość systemu pokazuje nam, że nie ma zabijania żywych» [20, c. 138].

У запісах з Палесся выключную цікавасць уяўляюць сюжэты з так званым «смехаўём» — традыцыйным прадстаўленнем у камічным святле жыхароў пэўных мясцовасцяў, параўн. традыцыйныя сюжэты «серп=змяя», «удод, якога вялі па кладцы, а самі ішлі ўброд», «трава на страсе і спосабы яе выкарыстання» і падобныя. Ежы Бартміньскі для іх называння выкарыстоўвае пабытавае *kozsałki-opałki*, або больш навуковае *świat na opak* [14, с. 27]. Цікава, што адны і тыя ж абсурдныя формулы распаўсюджаны на значнай славянскай тэрыторыі, параўн. польск. *iskra wpadła do wody, zapalila rzeczkę* [13, с. 29], якая прысутнічае ў запісаным Юзафам Абрэмбскім у трансфармаваным вы-

глядзе сюжэце пра сабаку, абкручанага саломай і падпаленага, не гаворачы ўжо аб сюжэце пра серп, які атаясамліваўся са змяёй, зафіксаваным Далем, а ў выніку некрытычнага атаясамлівання выпадкова трапіў з такім значэннем у этымалагічны слоўнік праславянскай мовы [6, с. 288–290].

Выключную каштоўнасць маюць запісаныя Юзафам Абрэмбскім этнонімы на Палессі і ў Македоніі, а таксама спробы іх этымалагізацыі на базе асаблівасцяў мовы, адзення, традыцыяў, параўн. *гэцякі*, *гэтуны*, *колікачы*, *хацюны*, *торбачы*, *коснықы* і падобныя. Сярод этымалагічна няясных застаюцца такія як *шымшылі* або *сегачы*. Апошняе аўтар звязвае з моўнымі асаблівасцямі, аднак у зносцы са спасылкай на Дваракоўскага этнонім выводзіцца з *siehacz* ‘світка’, не зафіксаваным у лексікаграфічных крыніцах на Палессі і няясным па паходжанні [19, с. 208]. Хутчэй больш пераканаўчая сувязь з маўленнем, прысутная ў Ю. Абрэмбскага — ад указальнага займенніка *се* ‘вось, гэта’.

Акрамя этнонімаў у працах Абрэмбскага фіксуюцца і некаторыя апелятывы, адсутныя ў лексікаграфічных крыніцах і ў этымалагічных слоўніках. Маю ўвагу прыцягнула слова *timobra* ў гаворках за Сцвігай, не адзначанае ў «Тураўскім слоўніку» і «Лінгвістычным мікраатласе Тураўшчыны». Паляшук з Сарненшчыны канстатуе: *«U ich timobra, a u̯ nas pobratymo»* [19, с. 206]. Цёмнае слова. У якасці магчымай версіі можна суаднесці з групай слоў з пачатковым *ці-*, параўн. *ціцеперся* ‘нядаўна’, *цімала* ‘многа’, *цівосе* ‘даўно’, укр. *чимало* ‘многа’, канец слова можа быць «расшыфраваны» як ‘брат’ (*<*ti mo(j) brat*?) з шырока вядомай у славян алегра-формай *бра*/*bra* [3, с. 174; 16, с. 152].

У назіраннях Юзафа Абрэмбскага ўражвае незвычайна дакладнае і ўсебаковае азначэнне некаторых паняццяў, як напрыклад палескага *спор* (дазволю сабе працытаваць у перакладзе частку такога азначэння): «Ён не з’яўляецца натуральнай уласцівасцю рэчаў ці дзейнасці людзей, але <…> незвычанай асаблівасцю, наднатуральнай, вынікам сакральных дзеянняў ці магічных прыёмаў, прадуктам ці атрыбутам чалавека, які знаходзіцца ў зоне сакральнай прыхільнасці ці магічнага спрыяння <…> крыніцай якіх з’яўляецца не столькі індывідуальнасць чалавека, колькі сямейная ці родавая прадвызначанасць яго лёсу» [1, с. 151].

Аднак на фоне мовазнаўчых і звязаных з імі этнічных спекуляцый адносна Палесся капітальнае значэнне маюць высновы Юзафа Абрэмбскага ў яго працы «Polesie»: «Lingwistyka nie jest w stanie dostarczyć obiektywnych kryteriów podziału etnicznego w strefie dialektów przejściowych <…> Jest to granica lub pas pograniczny cech o wątpliwej legitymacji w obrębie ustalonej systematyki języków, nie jest to granica etniczna *par excellence*» [19, с. 250]. Для абгрунтавання гэтых высноў рашаючае значэнне мае наступнае сцверджанне: «Палессе лічым архаічным арэалам, у пэўным сэнсе рэзерватам архаічнай народнай культуры, набольш блізкім адпаведнікам праславянскай народнай культуры» [19, с. 253].

І канчатковае заключэнне прапанаванага аўтарам рашэння праблемы: «У праблеме этнічных адрозненняў лінгвістычная перспектыва застаецца неістотнаю і прыводзіць да памылковых, катэгарычных сцверджанняў; з той жа прычыны неістотныя і этнагеаграфічная ці этнаграфічная перспектывы. Істотная толькі сацыялагічная перспектыва, якая даследуе гэтую з'яву ў плашчыні тых адрозненняў, якія праводзіць само насельніцтва… <…> З этнічнага гледзішча мы можам чакаць адасаблення Палесся, з аднаго боку, ад тэрыторыяў Валыні ды верхняй Беларусі, а з іншага боку — этнічнага падзелу, які праходзіць праз сярэдзіну Палесся ў паралельным (шыротным) кірунку» [1, с. 196].

## Літаратура


1. Абрэмбскі, Юзаф. Народ без бацькаўшчыны / Юзаф Абрэмбскі // Arche. — № 3 (102). — 2011. — С. 137–220. (Пераклаў з польскай мовы Андрэй Берасьнеў паводле: Obrębski, J. Polesie. [Studia etnosocjologiczne. T. 1] / Red. nauk. i wstęp A. Engelking. — Warszawa: Oficyna Naukowa, 2007. — S. 186–275.)
2. Беларуска-ўкраінскія ізалексы: матэрыялы для абмеркавання. — Мінск: [б. в.], 1971.
3. Воўк-Левановіч, О. В. Важнейшыя рысы гаворкі вёскі Татаркавічы і гаворак ваколічных вёсак / О. В. Воўк-Левановіч // Запіскі аддзела гуманітарных навук Інстытута беларускай культуры. Працы класа філалогіі. — Менск, 1928. — Т. 1. — Кн. 2. — С. 147–219.
4. Лінгвістычны мікраатлас Тураўшчыны / А. А. Крывіцкі [і інш.]; уклад.: Ф. Д. Клімчук [і інш.]; навук. рэд. Г. А. Цыхун. — Мінск: Беларуская навука, 2016.
5. Лобач, Мікола. Этналінгвістычныя працэсы і традыцыйная бытавая тэрміналогія на беларуска-польскім этнічным паграніччы / Мікола Лобач // Studia polsko-litewsko-białoruskie: praca zbiorowa / pod red. Jerzego Tomaszewskiego, Elżbiety Smułkowej i Henryka Majeckiego. — Warszawa: PWN, 1988. — S. 249–282.
6. Страхов, Александр. Б. Праславянизм *čьrvъ / *čŕ̥vь и его анекдотический источник / Александр Б. Страхов // Palaeoslavica. — 2013. — T. XXI. — № 2. — С. 288–290.
7. Тураўскі слоўнік: у 5 т. / Склад. А. А. Крывіцкі [і інш.]. — Т. 5. — Мінск: Навука і тэхніка, 1987.
8. Цыхун, Апанас. Скарбы народнай мовы: з лексічнай спадчыны насельнікаў Гарадзенскага раёну: [А—Я] / Апанас Цыхун; [укладальнік, аўтар прадмовы І. Буднік]. — Гародня: Гарадзенская бібліятэка, 2014.
9. Цыхун, Г. А. Міжнародны сімпозіум «Беларуска-польскія ізалексы» / Г. А. Цыхун // Беларуская лінгвістыка. — 1976. — Вып. 9. — С. 69–72.
10. Цыхун, Г. А. Адносна лінгвістычнага тэрміна «пранікненне (тэрміналагічнае эсэ) / Г. А. Цыхун // Научные чтения, посвященные Виктору Владимировичу Мартынову: сборник научных трудов. Выпуск 2. — Минск: РИВШ, 2015. — С. 53–56.
11. Цыхун, Г. Прастора мовы. Моўныя сувязі. Гісторыя слоў: выбраныя працы / Генадзь Цыхун; уклад. Я. В. Волкава; уступ. арт.: М. П. Антропаў, С. М. Запрудскі. — Мінск: Беларуская навука, 2018.

12. Barszczewska, Nina. Słownik nazw terenowych północno-wschodniej Polski. T. 1–2 / Nina Barszczewska, Jadwiga Głuszkowska, Teresa Jasińska, Elżbieta Smułkowa. — Warszawa: UW, 1992.
13. Barszczewska, Nina. Indeks nazw gwarowych do Słownika nazw terenowych północno-wschodniej Polski / Nina Barszczewska, Jadwiga Głuszkowska, Teresa Jasińska, Elżbieta Smułkowa. — Warszawa: UW, 1995.
14. Bartmiński, Jerzy. Świat na opak, czyli o granicach normy w kulturze ludowej / Jerzy Bartmiński // Slavische Geisteskultur: Ethnolinguistische und philologische Forschungen. Teil 1 — Славянская духовная культура: этнолингвистические и филологические исследования. Часть 1 / Zum 90. Geburtstag von N. I. Tolstoj — К 90-летию со дня рождения Н. И. Толстого / Ed. Anatolij A. Alekseev, Nikolaj P. Antropov and Anna Kretschmer. — Frankfurt am Main, Berlin, Bern, Bruxelles, New York, Oxford, Wien, 2016. — S. 27–39. (Philologica Slavica Vindobonensia. Bd. 2.)
15. Gołąb, Zbigniew. O pochodzeniu Słowian w świetle faktów językowych / Zbigniew Gołąb / Przekład Maria Wojtyła-Świerzowska. — Kraków: Universitas, 2004.
16. Loma, Aleksandar. Mundartliche Gliederung des späten Urslavischen und frühe slavische Stammesbildungen / Aleksandar Loma // Prasłowiańszczyzna i jej rozpad. Eds. Jerzy Rusek, Wiesław Boryś. — Warszawa: Energeia, 1998. — S. 143-160.
17. Obrębska-Jabłońska, Antonina. Polsko-białoruska formacja hybrydalna / Antonina Obrębska-Jabłońska // Studia indoeuropejskie: Ioanni Safarewicz septuagenario ab amicis, collegis, sodalibus animo oblatum gratissimo. — Wrocław: Zakład Narodowy im. Ossolińskich, 1974. — S. 147–152. (Prace Komisji Językoznawstwa. №. 37).
18. Obrębska-Jabłońska, Antonina. Śladami żywego języka. Wybór pism / Antonina Obrębska-Jabłońska; red. E. Smółkowa. — Warszawa: UW, 1993.
19. Obrębski, Józef. Polesie. Studia etnosocjologiczne. T. 1. / Józef Obrębski; Red. naukowa i wstęp A. Engelking. — Warszawa: Oficyna Naukowa, 2007.
20. Obrębski, Józef. Macedonia (projekt «Macedońskie Porecze w 80 lat po badaniach Jozefa Obrębskiego. Antropologiczne studium ciągłości i zmiany», realizowany w latach 2011–2015. Głowny wykonawca: Anna Engelking). (Wydruk.)
21. Rembiszewska, Dorota Krystyna. Nawiązania czy pożyczki na pograniczu polsko-wschodniosłowiańskim? — Cz. II / Dorota Krystyna Rembiszewska, Janusz Siatkowski // Rocznik Slawistyczny. — T. LXVI. — 2017. — S. 27–63.
22. Walczak, Bogdan. Z teorii i metodologii badań nad zapożyczeniami leksykalnymi (zapożyczenia i przeniknięcia) / Bogdan Walczak // Wokół polszczyzny dawnej i współczesnej. / red. B. Nowowiejski. — Białystok: Uniwersytet w Białymstoku, 2006. — S. 425–434.
23. Witczak, Krzysztof Tomasz. Zapożyczenia i przeniknięcia a zagadnienie substratu. Przyczynek do teorii kontaktów językowych (na przykładzie leksyki pragermańskiej) / Krzysztof Tomasz Witczak // Kontakty języka polskiego z innymi językami na tle kontaktów kulturowych / pod red. Jolanty Maćkiewicz i Janusza Siatkowskiego. — Wrocław: Wiedza o Kulturze, 1992. — S. 79–85. (Język a kultura. T. 7).

**Радаслаў Калета**
(Варшаўскі ўніверсітэт, Варшава, Польшча)

# ПРАФЕСАР АНТАНІНА АБРЭМБСКА-ЯБЛОНЬСКА ВАЧАМІ МАЛАДЫХ ПАКАЛЕННЯЎ ДАСЛЕДЧЫКАЎ КАФЕДРЫ БЕЛАРУСІСТЫКІ ВАРШАЎСКАГА ЎНІВЕРСІТЭТА

Як прадстаўнік маладога пакалення паланістаў і беларусістаў я па зразумелых прычынах не мог асабіста ведаць прафесара Антаніну Абрэмбску-Яблоньску (1901–1994) — заснавальніцу польскай беларусістыкі, стваральніцу і першую загадчыцу (1956–1971) кафедры беларускай філалогіі, якая распачала працу ў Варшаўскім універсітэце ў 1956 г. (перайменавана ў кафедру беларусістыкі[1] ў 2005 г.). Менавіта тут я маю гонар працаваць і ў пэўным сэнсе крочыць па слядах даследчыкаў папярэдніх пакаленняў. Сляды прафесара А. Абрэмбскай-Яблоньскай — гэта не толькі яе навуковая спадчына (пра яе ніжэй), але і яе асоба — поўная цеплыні, зычлівасці і тактоўнасці. У бібліятэцы кафеды беларусістыкі можна знайсці кнігі з асабістымі прысвячэннямі прафесара А. Абрэмбскай-Яблоньскай яе супрацоўнікам. У адным з такіх прысвячэнняў ёсць і падзяка за ўдзел у арганізацыі практыкі студэнтаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта [27, с. 393]. Сярод шматлікіх абавязкаў прафесар А. Абрэмбска-Яблоньска знаходзіла час на важныя драбніцы, якія шмат кажуць пра яе падыход і стаўленне да іншых. Гэтаму, безумоўна, варта вучыцца наступным пакаленням, якім нярэдка ў сённяшнім бурлівым віры жыцця не стае часу на дробязі. Тут варта прывесці цудоўнае выказванне прафесара А. Абрэмбска-Яблоньскай: «Многім здаецца, што, каб стаць навукоўцам, трэба ім адмыслова нарадзіцца. Што здольныя людзі

[1] Трэба, дарэчы, узгадаць разыходжанні наконт даты заснавання кафедры. З аднаго боку, можна знайсці інфармацыю (паводле звестак Ніны Баршчэўскай [2, с. 483]), што кафедра была заснавана ў 1956 г. як навучальная ўстанова беларускай філалогіі, а ў 1977 г. распараджэннем рэктара Варшаўскага ўніверсітэта № 18 ад 30 верасня 1977 г. была пераўтворана ў кафедру беларускай філалогіі. З другога боку, Эльжбета Смулкова дае інфармацыю, што ў 1956 г. адзінка была створана як самастойная кафедра беларускай філалогіі, а як навучальная ўстанова (польск. zakład) беларускай філалогіі дзейнічала да структурнай рэформы факультэта ў 1968–69 навучальным годзе, калі былі створаны Інстытут рускай, украінскай і беларускай філалогіі, кіраўніком якога тады быў прафесар Пшэмыслаў Зваліньскі [11, с. 102; 10, с. 75]. Падобныя разыходжанні датычацца і даты нараджэння прафесара А. Абрэмбскай-Яблоньскай. Адны крыніцы падаюць годам яе нарадэжння 1902 [2, с. 483], другія — 1901 [41, с. 13].

атрымліваюць лаўры само сабой. Нічога падобнага. Каб здабыць навуковыя лаўры, існуюць прынамсі тры абавязковыя умовы: шчырае і бескарыслівае захапленне, старанная праца, здольнасць да самакрытыкі» (пераклад наш — *Р. К.*) [32, с. 243]. Дадзеную цытату я мог бы прывесці як эпіграф да майго артыкула, бо гэтыя словы не страцілі актуальнасці, а наадварот — сёння гэта трэба настойліва нагадваць, паколькі мы жывём у часы інтэрнэту, які спакушае нас да своеасаблівай навуковай нядобрасумленнасці — выкарыстання чужых прац без пазнакі крыніц або без праверкі іх на дакладнасць. Значнасць праблемы падкрэсліваецца вывучэннем у шматлікіх установах дысцыпліны «ахова інтэлектуальнай уласнасці», што павінна тлумачыць сутнасць плагіяту, які, на жаль, шмат у каго не выклікае аніякіх маральных сумненняў. Маладыя даследчыкі часта хочуць вельмі хутка зрабіць кар'еру, маюць прэтэнцыёзную пазіцыю і лічаць, што ўсялякія дасягненні ім проста прызначаны ці да іх можна лёгка дайсці, абмінаючы цяжкую і старанную працу. Часта яны зайздросцяць іншым, чыя цяжкая праца прывяла да поспеху, замест таго, каб узяцца за ўласную працу і дасягнуць чарговай прафесійнай мэты. Безумоўна, жыццёвы і прафесійны падыход прафесара А. Абрэмбскай-Яблоньскай варты пераймання. Гэта выдатнае сведчанне годнасці, добрасумленнасці і сапраўднага захаплення абранай справай. Уласна таму на пачатку свайго выступлення я ўзгадваю менавіта гэты этычны кодэкс навуковай працы, бо мяркую, што ён з'яўляецца падмуркам усякай чалавечай дзейнасці, без якой добрая навуковая праца немагчымая.

Прафесар А. Абрэмбска-Яблоньска займалася дыялекталогіяй, гісторыяй і культурай польскай мовы, русістыкай і беларусістыкай у шырокім славянскім кантэксце. У галіне беларусістыкі, акрамя дыялекталогіі, яна займалася моўным польска-беларуска-літоўскім памежжам, гісторыяй беларускай мовы і анамастыкай. Яе навуковыя працы добра абгрунтаваныя і напісаныя жывой мовай. Сярод шматлікіх публікацый трэба ўзгадаць працы, прысвечаныя «Слову пра паход Ігараў», і чатырохтомнік «Беларускі народ» з апрацаваным рукапісным фальклорным матэрыялам Міхала Федароўскага [19, с. 56; 41, с. 16]. У 1962 г. быў апублікаваны «Падручны польска-беларускі слоўнік» пад рэдакцыяй А. Абрэмбскай-Яблоньскай і М. Бірылы. У 70-я гг. XX ст. быў апублікаваны артыкул прафесара А. Абрэмбскай-Яблоньскай «Аб стандартызацыі беларускай літаратурнай мовы», у якім аналізаваліся новаўвядзенні ў беларускай мове, скасаваныя ў 30-х гг. XX ст. Таксама важнай працай з'ўлялася апрацоўка і выданне з навуковымі каментарамі «Пана Тадэвуша» ў перакладзе на беларускую мову, зробленым Б. Тарашкевічам. Прафесару А. Абрэмбскай-Яблоньскай таксама належаць артыкулы ў галіне дыялекталогіі: «Пра некаторыя граматычныя асаблівасці беларускіх гаворак» (1962), «Дыялекталагічная праблематыка славісцкіх даследаванняў на Беласточчыне» (1964), «Запісы гаворак Беласточчыны з моўнымі каментарамі» і «Атлас усходнеславянскіх гаворак Беласточчыны» (1980) [41, с. 16]. Частку тэкстаў

прафесар уключыла ў зборнік сваіх выбраных сачыненняў пад назвай «Слядамі жывой мовы» [32], які змяшчае працы па паланістыцы і славістыцы, а таксама бібліяграфічны спіс 122 прац, апублікаваных на працягу 1924– 1984 гг.

Навуковая спадчына прафесара А. Абрэмбскай-Яблоньскай сапраўды багатая і, што не менш важна, мае свой працяг у працах наступных даследчыкаў. Усё гэта — заслуга самой А. Абрэмбскай-Яблоньскай, яе адносінаў да супрацоўнікаў і вучняў. Яна асабіста паклапацілася пра працяг даследаванняў у галіне беларусістыкі, падрыхтаваўшы кадры для навуковай і педагагічнай працы. Яе вучні: Эльжбета Смулкова, Ядзвіга Глушкоўска, Тэрэса Ясіньска і Станіслаў Шадыка — на працягу многіх гадоў займаліся развіццём варшаўскай беларусістыкі, як навукі, так і дыдактыкі.

Прафесар А. Абрэмбска-Яблоньска ўваходзіла ў склад рэдкалегій такіх навуковых часопісаў, як «Даследаванні ў вобласці польскай і славянскай філалогіі» («Studia z Filologii Polskiej i Słowiańskiej») і «Acta Baltico-Slavica», у якіх і сёння публікуюцца маладыя варшаўскія беларусісты (напр., Міраслаў Янковяк, Радаслаў Калета).

Даследаванні, распачатыя прафесарам А. Абрэмбскай-Яблоньскай, дагэтуль працягваюцца. Фальклtechарыстычна-дыялекталагічная праца знайшла сваё адлюстраванне ў двухтомным «Слоўніку назваў мясцовасцей паўночна-ўсходняй Польшчы», выдадзеным калектывам супрацоўнікаў кафедры беларусістыкі ў 1992 г. [14]. Праз тры гады быў апублікаваны «Індэкс дыялектных назваў да “Слоўніка назваў мясцовасцей паўночна-ўсходняй Польшчы”» [15].

У 2012 г. выйшла ў Інстытуце славістыкі Польскай акадэміі навук манаграфія «Беларуская дыялекталогія» [16] пад аўтарствам сённяшняй загадчыцы кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта прафесара Ніны Баршчэўскай і выпускніка кафедры к.ф.н. Міраслава Янковяка. Выданне запаўняе істотную лакуну ў галіне польскага (і не толькі) апісання беларускіх гаворак, паколькі па-польску дагэтуль не існавала настолькі вялікай працы. Беларуская дыялекталогія дазваляе польскім даследчыкам (беларусістам, паланістам, славістам) пазнаёміцца з багаццем беларускіх гаворак і з сучаснымі моўнымі тэндэнцыямі Беларусі. У адным з раздзелаў манаграфіі апісваюцца беларускія гаворкі па-за межамі Беларусі: у Літве, Латвіі, Украіне, Расіі і Польшчы, — што пашырае абазначаны ў назве арэал і яшчэ больш падкрэслівае арыгінальнасць і ўсебаковасць аўтарскага падыходу да праблематыкі беларускіх гаворак, які робіць манаграфію наватарскай у параўнанні з папярэднімі працамі. Перад чытачом паўстаюць новыя метады даследавання дыялектаў і сучасныя тэндэнцыі беларускіх гаворак не толькі ў Беларусі, але і на памежных тэрыторыях. Незвычайна каштоўным дадаткам да кнігі з’яўляюцца каляровыя карты, выбраныя запісы гаворак, табліцы і графікі, па якіх можна лёгка зразумець паходжанне беларускіх дыялектаў і іх падзел. Цяжкая праца была адзначана, і яе аўтары былі ўзнагароджаны юбілейным медалём 80-годдзя Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

У 2016 г. кафедра беларусістыкі выдала трохтомную манаграфію «Моўная і культурная спадчына Падляшша» [29–31], у якой можна знайсці дэталёвае сацыялінгвістычнае апісанне рэгіёну і дыялекталагічныя запісы на тэму чалавека, сям'і, хаты і народнай творчасці. Гэта вяршыня чатырохгадовага даследчага праекта, мэтай якога было даследаванне білінгвістычнай супольнасці ва ўмовах шматкультурнага польска-беларускага памежжа і, адпаведна, польска-беларускай моўнай гістарычна-культурнай інтэрферэнцыі.

Дыялекталагічная і анамастычная спадчына пашыраецца таксама маладымі даследчыкамі: у 2017 г. магістр Вольга Трацяк абараніла кандыдацкую дысертацыю «Айконімы польска-беларускага памежжа» (на жаль, праца яшчэ не апублікавана).

Лексікаграфічныя даследаванні таксама знайшлі свой працяг. Спачатку быў выдадзены «Малы практычны слоўнік бізнесмена» Т. Ясіньскай-Сохі і Н. Панасюк, які складаецца з дзвюх тысяч артыкулаў, а пазней — «Слоўнік беларуска-польскі, польска-беларускі» Т. Ясіньскай і А. Барташэвіча (першае выданне — 15 тыс. артыкулаў, Варшава, 1996 [22], другое выданне — 20 тыс. артыкулаў, Варшава, 2007 [21]).

Вяршыняй лексікаграфічных дасягненняў стаў «Беларуска-польскі слоўнік» [40], выдадзены на кафедры ў 2012 г. Ён складаецца больш чым з 40 тыс. артыкулаў і з'яўляецца плёнам шматгадовай працы, а таксама працягам каштоўнага «Падручнага польска-беларускага слоўніка» пад рэдакцыяй А. Абрэмбскай-Яблоньскай і М. Бірылы (больш за 30 тыс. артыкулаў). За аснову новага слоўніка быў узяты «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» пад рэд. К. Крапівы (Мінск, 1977–1984) і «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы» пад рэдакцыяй М. Судніка і М. Крыўко (Мінск, 1996). Крыніцай найноўшай лексікі сталі тэрміналагічныя слоўнікі, навуковыя і навукова-папулярныя часопісы, перыядычныя выданні.

Таксама ў сваіх даследаваннях кафедра карысталася вузкаспецыялізаванымі слоўнікамі, што было патрэбна для грунтоўнага манаграфічнага даследавання беларуска-польскай міжмоўнай аманіміі («фальшывых сяброў перакладчыка») і падрыхтоўкі слоўніка асноўных поўных беларуска-польскіх амонімаў [24]. Акрамя таго, у галіне аманіміі к.ф.н. Р. Калетам былі прааналізаваны беларускія абрэвіятуры і скарачэнні [24, с. 98–103].

Узнятае прафесарам А. Абрэмбскай-Яблоньскай пытанне стандартызацыі беларускай мовы ў першай палове XX ст. (у прыватнасці ў 30-х гг.) знайшло сваё развіццё ў працах прафесара Н. Баршчэўскай, якая падышла да дадзенай тэмы з незвычайнага боку — з пазіцыі беларускай эміграцыі. У сваёй дысертацыі «Беларуская эміграцыя — абаронца роднае мовы» [1] аўтар разглядае эміграцыйныя працы, прысвечаныя беларускай мове, як адзін з галоўных чыннікаў нацыянальнай свядомасці ў кантэксце інтэнсіўнай русіфікацыі. Таксама разбіраецца становішча беларускай мовы ў розныя часы (ад нямецкай акупацыі і камунізму да сённяшніх дзён), між іншым, у галіне адукацыі.

У манаграфіі падрабязна апісваюцца малавядомыя здабыткі беларускай эміграцыі, і, да таго ж, напісана яна класічным правапісам (тарашкевіцай).

Разыходжанні паміж двума правапісамі на ўзроўні марфалогіі былі апісаны доктарам Р. Калетам у артыкулах, прысвечаных граматычным асаблівасцям розных часцін мовы: канчаткам назоўнікаў і прыметнікаў [5] [6], дзеясловам [7], скланенню займеннікаў і лічэбнікаў [4]. У іншых публікацыях былі разгледжаны спосабы транслітарацыі і транскрыпцыі беларускага алфавіта, выяўлены непаслядоўнасці ў правілах, прынятых у Польшчы, і прапанаваныя магчымыя спосабы ўніфікацыі раманізацыі беларускага алфавіта [3].

Даследаванні ў галіне беларускіх перакладаў «Пана Тадэвуша» на кафедры беларусістыкі працягнула вучаніца прафесара А. Абрэмбскай-Яблоньскай к.ф.н. Зоф'я Скібіньска [36], якая характарызавала пераклады М. Танка, С. Дзяргая [38] і Я. Семяжона [37]. Акрамя таго, З. Скібіньска аналізавала польскія пераклады твораў М. Багдановіча і Я. Купалы, у прыватнасці пераклады яго паэмы «Яна і я» [35] і верша «А хто там ідзе?» [39]. Перакладам Б. Тарашкевіча зацікавілася таксама доктар Тэрэса Хыляк-Шрэдар, якая прааналізавала фанетычную сістэму і арфаграфію перакладу «Пана Тадэвуша» [17] і выявіла флексійныя асаблівасці беларускай мовы [18].

Сярод малодшага пакалення навукоўцаў таксама ўзнімаюцца разнастайныя даследчыя тэмы. Дактарантка Марыля Хаўстовіч займаецца аналізам беларускай мовы ў сатырычных літаратурных помніках XVII ст. [13], а магістр Ганна Сівірска даследуе сучасныя ўзаемаабумоўленасці паміж беларускай мовай і нацыянальнай свядомасцю на прыкладзе маладых жыхароў Мінска [33]. Хутка магістр Вольга Старасціна абароніць кандыдацкую дысертацыю, прысвечаную Кітабу Яна Лебедзя, які яна раней аналізавала ў сваіх навуковых артыкулах (напр., [12]). А к.ф.н. Р. Калета ў артыкулах (напр. [9]) і асобнай манаграфіі [28] прааналізаваў асаблівасці польскай мовы беларусаў і цяжкасці, з якімі яны сутыкаюцца пры яе вывучэнні.

Трэба адзначыць, што з 1998 г. існуе кафедральны навуковы часопіс «Acta Albaruthenica», у якім друкуюцца навуковыя працы, прысвечаныя разнастайным праблемам беларусістыкі. Першы том выйшаў у Варшаве, а чатыры наступныя друкаваліся ў Мінску. З 2007 г. часопіс ізноў выдаецца на кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта. Некаторыя артыкулы даступныя ў інтэрнэце на сайце часопіса (www.albaruthenica.uw.edu.pl), які вядзецца на польскай, беларускай і англійскай мовах. Выданне такога аўтарытэтнага і шырокавядомага часопіса — вялікі навуковы крок для кафедры.

Чарговым крокам стала стварэнне ў 2015 г. на кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта Майстэрні беларусістычнай глотадыдактыкі (гл. http://kb.uw.edu.pl/pracownia-glottodydaktyki-bialorutenistycznej/), загадчыкам якой з'яўляецца аўтар гэтых слоў. Сёння беларусістычная глотадыдактыка перажывае свой рэнесанс. Яна з'яўляецца прадметам дыскусій на канферэнцыях, доказам чаго служыць прынамсі наяўнасць адпаведнай панэлі на

Міжнародным кангрэсе беларусістаў у 2010 і 2015 г. Самай буйной у 2015 г. была секцыя «Беларуская мова як замежная», а яе паседжанне стала чарговым імпульсам для развіцця гэтай галіны ў Польшчы і Беларусі. У Рэспубліканскім інстытуце вышэйшай школы і ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце праходзяць летнія школы беларусістыкі і працягваецца праца над сертыфікацыйнымі праграмамі беларускай мовы як замежнай. На кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта таксама праводзіліся падобныя інтэрдысцыплінарныя глотадыдактычныя даследаванні, таму яна актыўна ўдзельнічае ў падобных ініцыятывах і падтрымлівае іх, што праяўляецца таксама ў выданні новага падручніка па беларускай мове для палякаў [23]. Майстэрня беларусістычнай глотадыдактыкі, фармальна прыналежная да кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта, мае міжнародны і інтэрдысцыплінарны характар. У тым ліку яна супрацоўнічае з даследчыкамі Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы. Вынікі супрацоўніцтва з дапамогай сучасных тэхналогій становяцца даступнымі ў лічбавым фармаце, а таксама публікуюцца ў часопісе «Беларуская мова як замежная» (гл. http://kb.uw.edu.pl/bmz). Адна з мэт Майстэрні — аб’яднанне ўсіх, хто займаецца беларусістычнай глотадыдактыкай, таму да супрацоўніцтва запрашаюцца ўсе зацікаўленыя асобы. У Майстэрні даследуюцца цяжкасці ў вывучэнні беларускай мовы як замежнай. Таксама была выдадзена манаграфія, прысвечаная беларусістычнай глотадыдактыцы і моўным памылкам палякаў, якія вывучаюць беларускую мову як замежную [26]. У кнізе сцвярджаецца само існаванне такой навукі як беларусістычная глотадыдактыка. Гэта тэарэтычныя разважанні, якія дагэтуль не былі шырока апісаныя і нават не мелі сфармуляваных паняццяў і тэрмінаў у літаратуры, прысвечанай вывучэнню беларускай мовы як замежнай. Менавіта па гэтай прычыне ў кнізе прадстаўленыя розныя вызначэнні такой галіны навукі, як беларусістычная глотадыдактыка, а таксама ўпарадкаваная тэрміналогія, напр., было ўдакладненае значэнне тэрмінаў *глотадыдактыка*, *беларусістычная глотадыдактыка*, *родная мова*, *замежная мова*, *другая мова*, *успадкаваная мова*, адноўленая *мова* і г. д. у параўнанні з дэфініцыямі і тэрмінамі, якія ўжываюцца ў Польшчы, Беларусі і Расіі. Гэта наўмысныя спасылкі да т. зв. параўнальнай глотадыдактыкі, у кантэксце якой беларусістычная глотадыдактыка таксама дагэтуль яшчэ не вывучалася. У наступнай частцы працы прадстаўленыя вынікі анкетных даследаванняў, праведзеных сярод тых, хто вывучае беларускую мову як замежную ў розных гарадах і навукова-дыдактычных асяродках Польшчы. Даследаваліся таксама матывацыя і адносіны да вывучэння беларускай мовы, а таксама віды і роля стэрэатыпаў пра беларускую мову. Вынікі даследавання руйнуюць стэрэатыпны погляд, які дагэтуль існаваў на прадмет даследавання. Таксама прадстаўленыя глотадыдактычныя дапаможнікі, якія выкарыстоўваюцца ў навучанні/вывучэнні беларускай мовы. Іх колькасць і разнароднасць разбураюць стэрэатыпы пра

беларускую мову як пра нібыта непапулярную і сведчаць пра існаванне попыту на матэрыялы для вывучэння беларускай мовы як замежнай. У манаграфіі прадстаўлены агляд тыпалогіі моўных памылак замежнікаў, якія вывучаюць розныя мовы як замежныя. Гэтыя разважанні выяўляюць існаванне розных перспектыў у даследаванні моўных памылак, а таксама ўводзяць ў навуковы зварот аўтарскую тыпалогію моўных памылак, якой прысвечаны апошні раздзел манаграфіі. У ім прааналізаваныя памылкі палякаў, якія вывучаюць беларускую мову як замежную; прадстаўленая тыпалогія памылак разам з канкрэтнымі прыкладамі; апісаныя прычыны і вынікі памылак і іх уплыў на глотадыдактычны працэс. Гэтае пытанне таксама яшчэ не ўзнімалася раней у межах беларусістыкі на такім узроўні, хаця існуе шмат літаратуры на гэтую тэму для іншых моў. Дадзеная манаграфія запаўняе прагал ў беларусістычных даследаваннях у гэтай вобласці.

Такім чынам, у нашым невялікім артыкуле мы пастараліся прадэманстраваць, што даследаванні, распачатыя прафесарам А. Абрэмбскай-Яблоньскай, працягваліся і працягваюцца ў галінах фальклору, дыялекталогіі, анамастыкі, гісторыі беларускай мовы, перакладазнаўства і лексікаграфіі. Дыялекталагічныя даследаванні выйшлі за межы Беларусі і ахапілі беларускія гаворкі на тэрыторыі іншых краін: Літвы, Латвіі, Украіны і Расіі, — а перакладазнаўчыя ўвасобіліся ў апрацоўцы беларуска-польскай міжмоўнай аманіміі. Пашырыліся таксама даследаванні ў галіне сацыялінгвістыкі, якія ўключаюць апісанне дынамічнай моўнай сітуацыі ў Беларусі сярод маладога пакалення. З новых даследчых напрамкаў трэба адзначыць: 1) даследаванні, якія закранаюць беларускую эміграцыю, яе адносіны да беларускай мовы і моўных рэформ на радзіме, 2) аналіз беларускіх кітабаў і 3) даследаванні ў галіне глотадыдактыкі, якія праводзяцца ў межах Майстэрні і друкуюцца на старонках навуковага часопіса, пры гэтым выконваюцца яны як беларусамі, што вывучаюць польскую мову, так і палякамі, якія вывучаюць беларускую. Выданне двух асобных навуковых часопісаў: «Acta Albaruthenica» і «Беларуская мова як замежная» адлюстроўвае не толькі шматлікія дасягненні кафедры беларусістыкі, але і развіццё, а таксама паспяховую папулярызацыю яе навуковай спадчыны. У найбліжэйшых лінгвістычных планах — даследаванне беларускага медыйнага і палітычнага дыскурсу, стварэнне паралельнага беларуска-польскага корпусу і правядзенне (найлепш было б у змяшаных калектывах з беларускімі і польскімі навукоўцамі) параўнальных беларуска-польскіх даследаванняў у названых вышэй галінах. У 2016 г. кафедра беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта (заснаваная прафесарам А. Абрэмбскай-Яблоньскай у 1956 г.) адзначала 60-гадовы юбілей [25]. Спадзяёмся, што ў наступную круглую дату таксама будзе чым ганарыцца.

## Літаратура


1. Баршчэўская, Н. Беларуская эміграцыя — абаронца роднае мовы / Н. Баршчэўская. — Варшава, 2004.
2. Баршчэўская, Н. Дасягненні кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта / Н. Баршчэўская // Białorutenistyka Białostocka. — 2013. — Т. 5. — С. 483–489.
3. Калета, Р. Аб варыянтах раманізацыі беларускага алфавіта, якія функцыянуюць у Польшчы / Р. Калета // Беларуска-польскія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі: зб. арт.; пад рэд. І. Э. Багдановіч, М. І. Свістуновай; БДУ. — Мінск, 2016. — С. 105–117. (Беларусіка=Albaruthenica; кн. 37.)
4. Калета, Р. Адрозненні паміж тарашкевіцай і наркамаўкай на прыкладзе займенніка ды лічэбніка / Р. Калета // Studia i Szkice Slawistyczne. — 2013. — Т. XII. — С. 123–133.
5. Калета, Р. Асноўныя марфалагічныя адрозненні паміж наркамаўкай і тарашкевіцай / Р. Калета // Acta Albaruthenica. — 2007. — Т. 7. — С. 192–206.
6. Калета, Р. Выбраныя прыклады марфалагічнай дыферэнцыяцыі паміж двума правапіснымі стандартамі беларускай мовы / Р. Калета // Acta Albaruthenica. — 2008. — Т. 8. — С. 206–217.
7. Калета, Р. Некаторыя асаблівасці наркамаўкі і тарашкевіцы на прыкладзе выбраных пытанняў, звязаных з дзеясловам / Р. Калета // Linguodidactica. — 2013. — Т. XVII. — С. 81–92.
8. Калета, Р. Пра беларуска-польскіх «фальшывых сяброў перакладчыка» / Р. Калета // Acta Albaruthenica. — 2013. — Т. 13. — С. 135–144.
9. Калета, Р. Цяжкасці польскае мовы: памылкі беларусаў, якія вывучаюць польскую мову / Р. Калета // Arche. — 2010. — Т. 4. — С. 358–400.
10. Каліноўскі, В. Пані Эльжбета — гісторыя адной прыязьні / В. Каліноўскі. — Смаленск, 2016.
11. Смулкова, Э. Навукова-дыдактычная дзейнасць кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта / Э. Смулкова // Беларускі каляндар на 1970 год. — 1970. — № 14. — С. 91–103.
12. Старасціна, В. Арыенталізмы ў мове Кітаба Яна Лебедзя (другая палова XVIII ст.) / В. Старасціна // Acta Albaruthenica. — 2009. — Т. 9. — С. 271–285.
13. Хаўстовіч, М. «Прамова Мялешкі» і «Ліст да Абуховіча»: Праблемы перакладу на сучасную беларускую мову / М. Хаўстовіч // Acta Albaruthenica. — 2016. — Т. 16. — С. 169–178.
14. Barszczewska, N. Słownik nazw terenowych północno-wschodniej Polski. T. 1–2 / N. Barszczewska, J. Głuszkowska, T. Jasińska, E. Smułkowa. — Warszawa, 1992.
15. Barszczewska, N. Indeks nazw gwarowych do Słownika nazw terenowych północno-wschodniej Polski / N. Barszczewska, J. Głuszkowska, T. Jasińska, E. Smułkowa. — Warszawa, 1995.
16. Barszczewska, N. Dialektologia białoruska / N. Barszczewska, M. Jankowiak. — Warszawa, 2012.
17. Chylak-Schroeder, T. Kilka uwag o systemie fonetycznym i ortografii pierwszego pełnego przekładu «Pana Tadeusza» na język białoruski / T. Chylak-Schroeder // Studia z Filologii Rosyjskiej i Słowiańskiej. — 1992. — T. 21. — S. 97–105.

18. Chylak-Schroeder, T. Osobliwości w zakresie odmiany zaimka białoruskiego na podstawie tekstu białoruskiego tłumaczenia «Pana Tadeusza». Przyczynek do rozwoju normy literackiej języka białoruskiego / T. Chylak-Schroeder // Studia z Filologii Rosyjskiej i Słowiańskiej. — 1995. — T. 22. — S. 51–57.
19. Czurak, M. Nieopublikowane materiały językowe z archiwum Michała Fedorowskiego / M. Czurak // Język i kultura białoruska w kontakcie z sąsiadami. Studia poświęcone Antoninie Obrębskiej-Jabłońskiej w stulecie urodzin. — Warszawa, 2001. — S. 55–61.
20. Jasińska-Socha, T. Mały praktyczny słownik biznesmena / T. Jasińska-Socha, N. Panasiuk. — Warszawa, 1995.
21. Jasińska, T. Kieszonkowy słownik białorusko-polski, polsko białoruski = Кароткі слоўнік беларуска-польскі, польска-беларускі / T. Jasińska, A. Bartoszewicz. — Warszawa, 2007.
22. Jasińska, T. Słownik białorusko-polski, polsko białoruski = Беларуска-польскі слоўнік / T. Jasińska, A. Bartoszewicz. — Warszawa, 1996.
23. Jasińska-Socha, T. Język białoruski (poziom podstawowy i średnio zaawansowany) / T. Jasińska-Socha, przy współpracy T. Chylak-Schroeder i J. Głuszkowskiej-Babickiej; pod red. R. Kalety. — Warszawa, 2017.
24. Kaleta, R. Białorusko-polska homonimia międzyjęzykowa / R. Kaleta. — Warszawa, 2014.
25. Kaleta, R. Białoruś w dyskursie naukowym w roku jubileuszowym białorutenistyki / R. Kaleta // Białoruś w dyskursie naukowym. Lingwistyka, socjologia, politologia = Беларусь у навуковым дыскурсе. Лінгвістыка, сацыялогія, паліталогія = Belarus in Scientific Discourse. Linguistics, Sosciology, Political Science / red. R. Kaleta. — Warszawa, 2017. — S. 11–34.
26. Kaleta, R. Błędologia w glottodydaktyce białorutenistycznej / R. Kaleta. — Warszawa, 2018.
27. Kaleta, R. 20. rocznica śmierci Profesor Antoniny Obrębskiej-Jabłońskiej (1901–1994) — twórczyni i założycielki polskiej białorutenistyki / R. Kaleta // Acta Albaruthenica. — 2014. — T. 14. — S. 391–393.
28. Kaleta, R. Polsko-białoruska lapsologia glottodydaktyczna / R. Kaleta. — Warszawa, 2015.
29. Kulturowo-językowe dziedzictwo Podlasia. T. I. Opis socjolingwistyczny regionu na tle uwarunkowań historycznych / oprac. N. Barszczewska i M. Timoszuk. — Warszawa, 2016.
30. Kulturowo-językowe dziedzictwo Podlasia. T. II. Człowiek. Rodzina. Dom / oprac. M. Chaustowicz i N. Panasiuk. — Warszawa, 2016.
31. Kulturowo-językowe dziedzictwo Podlasia. T. III. Twórczość ludowa / oprac. M. Chaustowicz i N. Panasiuk. — Warszawa, 2016.
32. Obrębska-Jabłońska, A. Śladami żywego języka. Wybór pism / A. Obrębska-Jabłońska; red. E. Smółkowa. — Warszawa, 1993.
33. Siwirska, A. B. Język białoruski jako symboliczny element współczesnej świadomości narodowej (na podstawie badań przeprowadzonych wśród mieszkańców Mińska w przedziale wiekowym 18–30 lat) / A. B. Siwirska // «Зъ зычливости ку моеи отчизне»: Tom pamiątkowy dedykowany Profesorowi Mikołajowi Timoszukowi; N. Barszczewska, M. Chaustowicz (red.). — Warszawa, 2017. — S. 331–346.

На новым этапе ў XIV–XVIII стст. уплыў чэшскай мовы на ўсходнеславянскія мовы ажыццяўляецца ўжо пры іншых культурна-гістарычных умовах. Фарміраванне літаратурных нацыянальных моў спрыяла больш цеснаму і трываламу міжславянскаму ўзаемадзеянню. Асобнае месца сярод іншых літаратурных славянскіх моў займала чэшская мова. Пісьмовыя старачэшскія тэксты з'яўляюцца ўжо напрыканцы XIII ст. У наступным стагоддзі на аснове сярэднячэшскага дыялекту фарміруецца наддыялектны ідыём, які стабільна функцыяніруе ў пісьменнасці XV–XVI стст. [22]. На чэшскай літаратурнай мове развіваецца рэлігійная і свецкая літаратура, вядзецца справаводства, яна выкарыстоўваецца ў якасці сродку дыпламатычных зносін. Неаднаразова ў навуковай літаратуры адзначалася яе ўплывовасць і прэстыжнасць сярод іншых славянскіх моў, галоўным чынам сярод заходнеславянскіх. Напрыклад, вось што піша М. С. Трубяцкі: «…хоць кожная з сучасных заходнеславянскіх моў узнікла самастойна, прытым на аснове жывой гутарковай мовы, тым не менш усе яны звязаны паміж сабой вядомай агульнай літаратурна-моўнай традыцыяй. Але сувязь гэта не мае характару пераемнасці, аднак узаемнага ўплыву, прычым вытокам гэтага ўплыву з'яўляецца літаратурная мова чэшская…» [17, с. 139].

Польская мова, пачынаючы з X ст. і асабліва ў перыяд крышталізацыі яе літаратурнай нормы, знаходзілася пад прыкметным уплывам чэшскай мовы. Прыняцце хрысціянства ў Польшчы суправаджалася пранікненнем вялікай колькасці багемізмаў. У X–XII стст. фарміруецца польская рэлігійная тэрміналогія, аснову якой складаюць запазычанні з чэшскай мовы. Багемізмы з адміністрацыйнай сферы пачалі з'яўляцца ў XIII–XIV стст. Якраз тады пад чэшскай юрысдыкцыяй знаходзілася Сілезія, а ў самой Польшчы некаторы час уладарылі чэшскія каралі Вацлаў II і Вацлаў III. У XV ст. уплыў чэшскай мовы на польскую ўзрастае, галоўным чынам за кошт ваеннай, рэлігійнай, абстрактнай лексікі і навуковай тэрміналогіі. На апошнім этапе ў XVI ст. працэс запавольваецца. За ўвесь перыяд чэшскага ўплыву польская мова прыняла не менш за 1600–2000 слоў [15; 44; 45; 51]. Трэба сказаць, што роля чэшскай мовы ў развіцці польскай была дваякай. З аднаго боку, багемізмы ўзбагацілі польскі лексічны фонд на немалую колькасць слоў. З іншага боку, чэшская мова выконвала «ролю арбітра» ў выбары паміж малапольскімі і вялікапольскімі формамі для замацавання толькі адных у якасці літаратурных. «Характэрным з'яўляецца той факт, што ў польскай літаратурнай мове таго перыяду (XV–XVI стст. — *Г. А.*) перамагаюць або рысы вялікапольскія, або малапольскія, але амаль заўсёды яны адпавядаюць чэшскім», — адзначае Я. Сяткоўскі [15, с. 136].

З XIV ст. пачынаецца станаўленне таксама старабеларускай, старарускай і староўкраінскай літаратурных моў. Уплыў чэшскай мовы на ўсходнеславянскія адбываецца пры актыўным пасрэдніцтве польскай мовы. Б. Гаўранак слушна заўважае: «Пашырэнне чэшскай мовы, літаратуры і ўвогуле культуры

ў Польшчы <…> закранула не толькі слой этнічна польскі, але пачынаючы з часоў панавання Ягайлы, што прыпадае на канец XIV ст., усю новастораную польска-літоўскую дзяржаву, у выніку пад моцным прамым і непрамым уплывам апынуліся яе беларускія і ўкраінскія пасяленні» [34, с. 298]. Ваенна-палітычныя і культурна-асветніцкія сувязі паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Чэшскім каралеўствам у XV–XVI стст. суправаджаліся дыпламатычнай перапіскай, абменам пасольствамі, удзелам у агульных ваенных аперацыях, пашырэннем гусіцкіх ідэй на вялікакняжацкіх землях, навучаннем моладзі ў Карлавым універсітэце, выданнем першых беларускіх кніг Ф. Скарынам у Празе. Зразумела, што мова выконвала немалую ролю ў наладжванні грамадска-палітычных кантактаў. Акрамя таго, чэшская моўная традыцыя ўплывала на старабеларускую апасродкавана, напрыклад, праз пераклад і адаптацыю белетрыстычных, агіяграфічных і канфесіянальных тэкстаў («Троя», «Сказанне пра Сівілу-прарочыцу», «Аповесць пра Таўдала», «Кніга Товіта», зборнік «Рымскія дзяянні», «Жыціе Аляксея, чалавека божага», «Песня песням», нарэшце, дваццаць тры кнігі Бібліі ў перакладзе Ф. Скарыны) [1].

Многія багемізмы праніклі і замацаваліся ў старабеларускай мове пры пасрэдніцтве польскай мовы. Яшчэ ў мінулым стагоддзі А. Я. Супрун адзначаў, што «…беларуска-багемістычная праблематыка лексічных адносін змяшчае шмат спецыфічных і цікавых пытанняў, якія заслугоўваюць усебаковай распрацоўкі <…>», — і далей: «Значная ўвага павінна быць звернута на беларускія запазычанні з польскай мовы, у якой яны з'явіліся з чэшскай» [14, с. 120]. Сапраўды, пранікненне паланізмаў у старабеларускае пісьменства пачалося з канца XIV ст., інтэнсіўнасці дасягнула ў XVI–XVII стст. [5, 8]. У сваю чаргу польская мова працяглы час знаходзілася пад уплывам чэшскай моўнай традыцыі. Сярод паланізмаў, якія ўвайшлі ў старабеларускую мову, па ўсёй верагоднасці, апынуліся таксама багемізмы.

Працэс запазычвання лексем мог ажыццяўляцца пры пасрэдніцтве адной або некалькіх моў. У выпадку, калі чэшская мова была першакрыніцай, то слова замацоўвалася ў старабеларускай мове праз польскае пасрэдніцтва (*брама*, *внетъ*, *вспанялый*, *гойный*, *довтипъ*, *зацный*, *надеръ*, *неснаска*, *поневажъ*, *праца*, *чигати*, *упреймый*). Часцей, аднак, старачэшская мова сама выконвала ролю пасрэдніка. Першакрыніцамі маглі быць грэчаская і лацінская (*бискупъ*, *каплица*, *комжа*, *левартъ*, *коминъ*, *палацъ*, *преоръ*), раманскія (*башта*, *бурда*, *дека*, *павеза*), нямецкія мовы — старажытнаверхненямецкая, сярэдневерхненямецкая, старабаварская (*барва*, *едвабъ*, *малжонка*, *пончоха*, *реша*, *рынокъ*, *стодола*, *трамъ*, *цель*). Здаралася, што слова праходзіла праз дзве-тры мовы перад тым, як трапіць у чэшскую, адкуль праз польскую ўвайсці ў старабеларускую мову (*жолнеръ*, *кминъ*, *панцеръ*, *пижмо*, *тарасъ*, *шахи*). Разгледзім некалькі прыкладаў.

***Бaволна***, ***бавальна***, ***бавельна*** [6, т. 1, с. 173] 'бавоўна'. Ст.-польск. *bawełna*, *boutwol* пісьмова згадваюцца з 1437 г. [50, т. 1, с. 71], Я. Сяткоўскі адасабляе

ст.-польск. формы *bawełna* і *boumwol*. Апошнюю *boumwol*, зафіксаваную толькі аднойчы ў 1478 г. [50, т. 1, с. 71], ён слушна разглядае як прамое запазычанне з ням. мовы. Форму *bawełna* лічыць багемізмам: ням. спалучэнне галосных *au* (*ou*) было заменена ў чэш. мове галосным *a*, польск. мова гэту змену пераняла [25, с. 24]. На чэш. паходжанне ст.-польск. *bawełna* неаднаразова звярталі ўвагу іншыя даследчыкі [27, с. 18; 37, с. 336, с. 339, с. 344; 47, т. 1, с. 28; 40, с. 27; 41, с. 48–49; 38, с. 137, с. 338; 29, с. 42; 24, т. 1, с. 36–37; 26, с. 23]. Пісьмовая фіксацыя ст.-чэш. *bavlna* прыпадае на XIV ст. [31, т. 1, с. 30], у якасці першакрыніцы называецца ням. *Baumwolle* (словаскладанне *Baum* 'дрэва' і *Wolle* 'воўна') [31, т. 1, с. 30; 35, т. 1, с. 66; 36, с. 95], новав.-ням. *baumwolle*, *bāmwolle* [42, с. 78]. В. Махэк першапачаткова ўказваў на ням. крыніцу [40, с. 27], але пазней пісаў, што ў ням. і слав. мовы слова было запазычана з італ. мовы [41, с. 48–49]. Яго падтрымаў А. Банькоўскі, сцвярджаючы, што чэш. *bavlna* паходзіць са ст.-італ. *bavella* (<лац. *malvella*). Даследчык не падзяляе агульнапрынятай думкі аб запазычанні з ням. мовы, наадварот, разглядае ням. *Baumwolle* як запазычанне з чэш. [24, т. 1, с. 36–37]. Між тым, А. Я. Анікін робіць слушную заўвагу: італ. *bavella* вядома толькі з XVI ст., таму асцярожней будзе прыняць этымалогію аб нямецкім паходжанні чэш. слова [2, т. 2, с. 46].

Ва ўсх.-слав. мовах слова з'явілася ў XV ст.: ст.-бел. *баволна*, *бавальна*, *бавельна* засведчана ў пісьмовых помніках напрыканцы XV ст. [6, т. 1, с. 173], ст.-укр. *баволна* — у 1408 г. [12, т. 1, с. 82], ст.-рус. *баволна* — у XV ст. [11, т. 1, с. 62]. На польск. пасрэдніцтва для ўсх.-слав. моў указвае Я. Сяткоўскі [25, с. 24], В. Борысь удакладняе, што з польск. мовы слова было запазычана ў бел. і ўкр. мовы [26, с. 23]. Укр. *бавовна* замацавалася пры чэш.-польск. пасрэдніцтве [7, т. 1, с. 107; 47, т. 1, с. 28; 40, с. 27; 41, с. 48–49], рус. *бавовна*, *бавольник* пранікла праз укр. або бел. пасрэдніцтва з польск., папярэдне з чэш. мовы [19, т. 1, с. 101; 2, т. 2, с. 46–47]. Ст.-бел. адпаведнікі былі запазычаны з польск. мовы [4, с. 34; 5, с. 105; 8, с. 224]. ЭСБМ вылучае блізкія па значэнні і паходжанні словы *баваўна*, *бавоўна*, *бавэл*, *бавэлна*. Націск на першым складзе *ба́ваўна* сведчыць аб першапачатковым запазычанні з чэш. *bavlna*; націск на перадапошнім складзе *баво́ўна*, *бавэ́лна* ўказвае на польск. пасрэдніцтва (у польск. прыйшло з чэш. мовы); *ба́вэл* лічыцца трансфармацыяй слова **ба́вэлна*. [23, т. 1, с. 259–260].

***Коминъ*** [6, т. 15, с. 236] '1. Комін, 2. Камін', ***комина*** [6, т. 15, с. 235–236] '1. Камін, 2. Комін'. Ст.-чэш. *komín* датуецца сяр. XIV ст. [31, т. 2, с. 86], было запазычана з с.-в.-ням., ст.-ням. *kamīn* праз раман. пасрэдніцтва (італ. *camino*, лац. *camīnus*) з грэч. *kámīnos* [31, т. 2, с. 86; 35, т. 1, с. 177; 36, с. 250; 40, с. 216; 41, с. 271; 42, с. 319]. Ст.-польск. *komin* пісьмова засведчана ў 1395 г. [50, т. 3, с. 321–322]. Многія даследчыкі выказваюць думку аб тым, што польск. адпаведнік быў запазычаны падобным шляхам, як і ст.-чэш. *komín* [48, т. 2, с. 419; 27, с. 250; 47, т. 2, с. 384–385; 24, т. 1, с. 767; 26, с. 246]. Аднак існуе таксама

меркаванне, што ў ст.-польск. мове слова з’яўляецца багемізмам [37, с. 343; 40, с. 216; 41, с. 271; 25, с. 96–97]. Ст.-бел. *коминъ* зафіксавана ў к. XV ст. [6, т. 15, с. 236], *комина* — у 1622 г. [6, т. 15, с. 235–236], ст.-укр. *коминъ*, *комѣнъ* — у 1552 г. [13, т. 14, с. 208–209], ст.-рус. *комина* — у 1614 г. [11, т. 7, с. 262]. Ва ўсх.-слав. мовах запазычанне з’яўляецца паланізмам [47, т. 2, с. 384–385; 40, с. 216; 41, с. 271; 24, т. 1, с. 767; 25, с. 96–97]. Праўда, неабходна адрозніваць рус., укр. *ко́мин*, бел. *ко́мін* з націскам на першым складзе і рус. *ками́н*, бел., укр. *камі́н* з захаваннем ням. *а*. Я. Сяткоўскі звяртаў увагу на тое, што ў многіх славянскіх мовах вядома навейшае прамое запазычанне з ням. *Kamin*, якое захоўвае ням. *а* [25, с. 96–97]. Рус. *ками́н*, укр. *камі́н* запазычана з ням. мовы [19, т. 2, с. 174; 20, т. 8, с. 38–39; 21, т. 1, с. 374; 7, т. 2, с. 358–359], бел. *камі́н* — з рус. [23, т. 4, с. 223]. Што тычыцца ст.-бел. *коминъ*, то яго залічваюць да паланізмаў [23, т. 5, с. 94; 4, с. 163; 5, с. 96]. Рус. *ко́мин* замацавалася пры польск. пасрэдніцтве [19, т. 2, с. 302], укр. *ко́мин* — пры польск. ці чэш. пасрэдніцтве [7, т. 2, с. 536]. З улікам таго, што ў ст.-чэш. мове слова з’явілася раней, чым у ст.-польск., а таксама высноў некаторых даследчыкаў можна прыняць чэш.-польск. пасрэдніцтва для ст.-бел. *коминъ*.

***Пончоха***, ***панчоха***, ***пунчоха*** [6, т. 26, с. 329] ‘панчоха’. Чэш. *punčocha* паходзіць з ням. *Bundschuh* [35, т. 2, с. 305; 36, с. 405], с.-в.-ням. *buntschuoch*, бавар. *puntschuoch* [40, с. 407; 41, с. 499; 25, с. 250–251; 42, с. 572]. Храналагічна адносіцца да XVI ст. [25, с. 250–251; 42, с. 572]. Пісьмовая фіксацыя ст.-польск. *pończocha* прыпадае на першую пал. XVI ст. [49, т. 27, с. 234]. Належыць да багемізмаў [48, т. 4, с. 601; 37, с. 339, с. 343; 24, т. 2, с. 698; 26, с. 463; 25, с. 250–251]. Я. Сяткоўскі адзначае, што чэш. *punčocha* мае аўстрыйска-бавар. паходжанне, пра што сведчыць пачатковае *p-* замест *b-*, з чэш. мовы слова было запазычана ў польск., адкуль — у бел., укр. і рус. дыял. [25, с. 250–251]. У помніках страбеларускага пісьменства першымі былі зафіксаваны вытворныя *пончошка*, *пунчошка* — 1580 г. [6, т. 26, с. 329], пазней *пончоха*, *панчоха*, *пунчоха* — 1583 г. [6, т. 26, с. 329]. Ст.-укр. *панчохи* датуецца 1596 г. [7, т. 4, с. 280], *панчоха* — 1717–1753 гг. [16, т. 2, с. 83]. Ст.-рус. *панчохи* пісьмова згадваецца з 1642 г. [11, т. 14, с. 146]. Паводле М. Фасмера рус. *панчоха*, таксама ўкр. і бел. *панчоха*, замацаваліся праз польск. і чэш. мовы [19, т. 3, с. 200]. ЕСУМ пазначае, што ва ўкр. мову слова было запазычана пры польск. і славац. пасрэдніцтве [7, т. 4, с. 280]. У бел. мове слова з’явілася пры польск. [23, т. 8, с. 152] або чэш.-польск. пасрэдніцтве [4, с. 252; 5, с. 107].

Асобнае месца займаюць сярод запазычанняў чэшска-польскага паходжання т. зв. фанетычныя багемізмы [43, 45, 46]. Частка з іх належыць да лексічных багемізмаў, якія захавалі чэшскія фанетычныя рысы (*гойный*, *звлаща*, *обыватэль*, *праца*, *ручница*, *чигати*). Іншыя з’яўляюцца фанетычна счэхізаванымі ўласнапольскімі формамі (*благати*, *брама*, *владати*, *владаръ*, *владза*, *власный*, *ганьба*, *гардый*, *грабя*, *когутъ*, *обэцный*, *привлащати*, *хуть*),

якія А. Сячкоўскі называў «частковымі» або «паўбагемізмамі» [43]. Прааналізуем некалькі прыкладаў.

***Владати*** [6, т. 4, с. 7] ‘1. Уладаць, быць гаспадаром, уладальнікам чаго -н.; 2. Правіць, кіраваць, мець уладу над кім-н., чым-н., распараджацца, панаваць; 3. Дзейнічаць, рухаць часткамі свайго цела; 4. Умела карыстацца чым-н.’ Пісьмовая фіксацыя ст.-чэш. *vlásti* (1. ас. цяп. ч. *vladu*) прыпадае на XIV ст. [42, с. 783], узыходзіць да прасл. **volsti*, у 1 ас. ц. ч. — *voldǫ* [30, т. 18, с. 1067–1068; 40, с. 569; 41, с. 693; 42, с. 783–784] або прасл. асновы **vold-* [35, т. 2, с. 418; 36, с. 509]. Ст.-польск. *władać*, *włodać* засведчаны ў XV ст. [50, т. 10, с. 246] з паступовым выцясненнем *włodać* і замацаваннем *władać*. Уласнапольскай формай з’яўляецца *włodać* з рэфлексам *-ło-* у групе зычных *tolt*. Пад уплывам чэш. мовы ўсталяваўся рэфлекс *-ła-*, ст.-польск. *władać* суадносяць са ст.-чэш. *vládati*, належыць да фанетычных багемізмаў [30, т. 18, с. 1067–1068; 37, с. 343; 43, с. 143, с. 144; 32, с. 47; 33, с. 296, с. 297; 51, с. 311; 46; 45, с. 121–122; 26, с. 703–704; 25, с. 440–442]. Тым не менш, А. Брукнер называў формы з рэфлексам *-ła-* ў роўнай ступені польскімі як і формы з *-ło-*, за выключэннем такіх яўных запазычанняў, як *władyka*, *Władysław* [27, с. 625–626]. Праўда, пазней даследчык адзначае фанетычны ўплыў чэш. мовы [28, с. 191]. В. Махэк пісаў, што польск. *władać* з’яўляецца ц.-рус. [40, с. 569; 41, с. 693]. Я. Сяткоўскі не адмаўляе ўплыў чэш. і часткова ц.-рус. мовы, але бачыць стасоўна формы *władać*, якая заступіла ранейшую *włodać* «ўздзеянне дамашняй тэндэнцыі да ўтварэння ітэратываў з *-a-* (**włóść: włodać władać*) пад уплывам чэшскага ўзору, да таго ж само *vládati* было ў старачэшскай мове рэдкім, але ўплываць маглі багата засведчаныя *vládanie*, *vládnúti* і пад.» Адначасова ст.-польск. *władnąć*, на яго думку, замацавалася пад непасрэдным чэш. уплывам [25, с. 440–442]. Ст.-бел. *владати* датуецца 1547 г. [6, т. 4, с. 7], *владнути* — 1496 г. [6, т. 4, с. 12–13], ст.-укр. *владати*, *владат*, *владать* — 1566 г. [13, т. 4, с. 86–87], *владнути*, *владнутъ*, *владънути* — 1556–1561 гг. [13, т. 4, с. 90]. Укр. *владати* было запазычана з польск. або чэш. мовы [7, т. 1, с. 409]. Ст.-бел. *володати*, *володети*, *володеть* [6, т. 4, с. 139–140] з поўнагалоссем з’яўляюцца ўласнабеларускімі адпаведнікамі, якія развіліся з прасл. **volděti* [23, т. 2, с. 41–42]. Асобнай увагі патрабуе ст.-бел. *владети* [6, т. 4, с. 8]. Нягледзячы на семантычную тоеснасць са ст.-бел. *владати*, агульнае праславянскае паходжанне і наяўнасць рэфлекса *-ła-*, нельга ў ім бачыць уплыў чэш. фанетыкі. Ст.-бел. *владети* — стараславянізм, у якім адлюстраваўся паўднёваславянскі рэфлекс *-ła-*, параўн. ст.-рус. *владѣти* [11, т. 2, с. 211], рус. *владеть* — запазычанне са ст.-слав. мовы [30, т. 18, с. 1067–1068; 20, т. 3, с. 116; 18, т. 1, с. 156–157], з ц.-слав. [19, т. 1, с. 326], са ст.-балг. [21, т. 1, с. 123–124]

***Власный***, ***властный***, ***уласный***, ***уластный*** [6, т. 4, с. 22–25] ‘1. Уласны, свой, які належыць данай асобе; 2. Асабісты; 3. Законны, родны; 4. Сапраўдны, аўтэнтычны, праўдзівы; 5. Падуладны; 6. Уласцівы; 7. Даны, вызначаны,

пэўны; 8. У знач. наз. Уласцівасць’. Ст.-чэш. *vlastní* пісьмова засведчана ў XIV ст. [42, с. 783–784], этымалагічна звязана са ст.-чэш. назоўнікам *vlast*, паходзіць з прасл. субстантыва **volstь*, які ўзыходзіць да прасл. асновы **vold-* [35, т. 2, с. 419; 36, с. 509; 40, с. 569–570; 41, с. 693–694; 42, с. 783–784]. Ст.-польск. *własny* занатавана каля 1500 г., *włosny*, *włostny* — у 1423 г. [50, т. 10, с. 249–251]. Агульнапрынята меркаванне, што форма *własny* з рэфлексам *-ła-* з’яўляецца фанетычным багемізмам [28, с. 191; 38, с. 338; 32, с. 47; 33, с. 297; 43, с. 143, с. 144; 51, с. 311; 26, с. 704; 39, с. 33; 46; 25, с. 442–443]. Ст.-польск. *własny* пранікла ва ўсх.-слав. мовы. Ст.-рус. *властный (власный)* зафіксавана ў XVI ст. [11, т. 2, с. 219–220], ст.-укр. *власный* — у 1438 г. [12, т. 1, с. 181]. М. Фасмер лічыць слова *власный* запазычаннем з польск. мовы [19, т. 1, с. 327]. Каштоўнай з’яўляецца заўвага А. К. Шапашнікава «Ст.-рус. запазычанне з чэш. *vlastny* ‘ўласны’ пры магчымым пасрэдніцтве польск. *włastny*, *włostny*, *własny* (XV–XVI стст.) было з часам пераасэнсавана як рус.-цслав. вытворны прыметнік з суф. *-ьныи* ад *власть*. У выніку слова страціла зах.-слав. знач. «уласны, свой уласны»« [21, т. 1, с. 124]. Ст.-укр. *властный*, *власний* запазычаны з польск., магчыма, пад уплывам чэш. мовы [7, т. 1, с. 409]. Першая пісьмовая фіксацыя ст.-бел. *власный*, *властный*, *уласный*, *уластный* прыпадае на 1388 г. [6, т. 4, с. 22–25], па часе ранейшае, чым ст.-польск. адпаведнік. На падобную храналагічную неадпаведнасць звярнуў увагу даследчык С. Кохман [39, с. 33]. А. М. Булыка лічыць ст.-бел. *власный*, *властный* паланізмамі [4, с. 66], пазней звязвае з чэш.-польск. пасрэдніцтвам [5, с. 79]. Г. В. Пальцаў указваў на чэш.-польск. паходжанне бел. *уласны* [10, с. 120]. Уласнабеларускімі поўнагалоснымі формамі з’яўляюцца ст.-бел. *волостный*, *волосный* [6, т. 4, с. 143–144].

***Звлаща***, ***звласча***, ***звлашча*** [6, т. 12, с. 97–98] ‘1. Асабліва, галоўным чынам; 2. Тым больш; 3. У знач. часц. Менавіта, іменна; 4. У знач. часц. Нават’. Ст.-чэш. *(z)vláščě*, *zvlasti*, *v(z)láščě* зафіксавана ў XIV ст. [42, с. 813], утворана са спалучэння прыназоўніка **jьz* і прыметніка ў Р. скл. **volščь*, *válšč*, звязана з прасл. асновай *vold-tjь*, *vold-tjo-* [35, т. 2, с. 440; 36, с. 509; 40, с. 569; 41, с. 693; 42, с. 813]. Ст.-польск. *zwłaszcza*, *zwłaszcze* датуецца XV ст. [50, т. 11, с. 511–512]. А. Брукнер адзначаў: «У псалтырах *obłaszcze*, ‘уласна’, здаецца, з’яўляецца чэхізмам, параўн. наша *zwłaszcza*» [27, с. 625–626], Я. Сяткоўскі пазней таксама пісаў, што ст.-польск. *obłaszcze* [50, т. 5, с. 352] з’яўляецца запазычаннем са ст.-чэш. *obláščě*, *oblášťě* [25, с. 187]. Што тычыцца сцверджання А. Брукнера наконт «наша *zwłaszcza*», то падобнаму пярэчаць іншыя даследчыкі, называючы ст.-польск. *zwłaszcza*, *zwłaszcze* багемізмам [43, с. 140; 38, с. 136; 26, с. 747; 25, с. 489]. М. Басай указвае на захаванне рэфлекса *-ła-*, а само слова лічыць генетычна звязаным з прыметнікам *własny* [25, с. 489]. Ст.-бел. *звлаща*, *звласча*, *звлашча* занатавана ў 1443 г. [6, т. 12, с. 97–98], ст.-укр. *звлаща*, *зъвлаща*, *звласча* — у 1518 г. [13, т. 11, с. 114–115]. Відавочна, што ст.-бел. адпаведнік замацаваўся пры чэш.-польск. пасрэдніцтве [5, с. 201–202].

У перыяд з XIV па XVIII стст. старабеларуская мова, дзякуючы польскаму пасрэдніцтву, засвоіла вялікую колькасць слоў з розных моў, у тым ліку з чэшскай. Лексічны склад польскай мовы і яе літаратурная норма працяглы час знаходзіліся пад уплывам чэшскай моўнай традыцыі. Адначасова польская мова садзейнічала пранікненню лексем чэшскага паходжання ва ўсходнеславянскія мовы, перш-наперш, у старабеларускую і стараўкраінскую. Трэба адзначыць, што ў працэсе міжславянскіх запазычванняў польская мова была не толькі пасрэднікам паміж чэшскай і беларускай / украінскай мовамі, але пасрэднікам паміж заходнеславянскімі і усходнеславянскімі этнамоўнакультурнымі кангламератамі.

## Літаратура


1. Алексяевіч, Г. В. Чэшска-беларускія моўныя кантакты ў XV–XVI стст. / Г. В. Алексяевіч // Научные чтения, посвященные Виктору Владимировичу Мартынову. Сб. научн. трудов. Вып. V. — Минск: Право и экономика, 2017. — С. 126–134.
2. Аникин, А. Е. Русский этимологический словарь. — Вып. 1– 6 / А. Е. Аникин. — М.: Рукописные памятники Древней Руси, 2007–2012.
3. Андел, В. П. Из истории чешских лексических заимствований в восточнославянских языках / В. П. Андел // Slavica Tartuensia. Славянские литературные языки и историяграфия славяноведения. — Тарту: Тартуский государственный унив-т, 1988. — С. 80–89.
4. Булыка, А. М. Даўнія запазычанні беларускай мовы / А. М. Булыка. — Мінск: Навука і тэхніка, 1972. — 380 с.
5. Булыка, А. М. Лексічныя запазычанні беларускай мовы / А. М. Булыка. — Мінск: Навука і тэхніка, 1980. — 256 с.
6. Гістарычны слоўнік беларускай мовы. — Вып. 1–37 / пад рэд. А. І. Жураўскага / А. М. Булыкі. — Мінск: Беларус. навука, 1982–2017.
7. Етимологічний словник української мови. — Т. 1–6 / АН УРСР. Ін-т мовознавства ім. О. О. Потебні; ред. О. С. Мельничук. — Київ: Наукова думка, 1982–2012.
8. Лексіка старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы XIV — сярэдзіны XVI ст. / [ І. У. Будзько і інш.]. — Мінск: Беларус. навука, 2016. — 556 с.
9. Львов, А. С. О западнославянских словах в памятниках древнерусской письменности / А. С. Львов // Проблемы современной филологии / Акад. наук СССР. Отделение литературы и языка. — М.: Наука, 1965. — С. 199–203.
10. Пальцаў, Г. В. Агульныя словы чэшскага паходжання ў беларускай і польскай літаратурных мовах / Г. В. Пальцаў // Польские говоры в СССР / Акад. наук БССР, Ин-т языкознания. — Мінск: Наука и техника, 1973. — Ч. 1.: Исследования и материалы, 1967–1969 гг. — С. 120–131.
11. Словарь русского языка XI–XVII вв. — Вып. 1–28. — М.: Наука, 1975–2008.
12. Словник староукраїнської мови XIV–XV ст. — Т. 1–2. — Київ: Наукова думка, 1977–1978.
13. Словник української мови XVI — першої половини XVII ст. — Вип. 1–16. — Львів: Ін-т українознавства ім. І. Крип'якевича НАН України, 1994–2013.

14. Супрун, А. Я. Да пытання аб беларуска-іншаславянскіх лексічных сувязях (багемістычная праблематыка) / А. Я. Супрун // Праблемы беларускай філалогіі / БДУ ім. У. І. Леніна. — Мінск: Выд-ва БДУ імя У. І. Леніна, 1968. — С. 119–121.
15. Сятковский, Я. Воздействие чешского языка на формирование польского литературного языка / Я. Сятковский // Славянские культуры в эпоху формирования и развития славянский наций XVIII–XIX вв. — М.: Наука, 1978. — С. 134–136.
16. Тимченко, Є. Матеріалы до словника писемної та книжної української мови XV–XVIII ст. — Т. 1–2 / Є. Тимченко. — Київ — Нью-Йорк: Преса України, 2002–2003.
17. Трубецкой, Н. С. Общеславянский элемент в русской культуре / Н. С. Трубецкой // Вопросы языкознания. — 1990. — № 2. — С. 121–139. — № 3. — С. 114–134.
18. Черных, П. Я. Историко-этимологический словарь современного русского языка. — Т. 1–2 / П. Я. Черных. — М.: Рус. яз., 1999.
19. Фасмер, М. Этимологический словарь русского языка. — Т. 1–4 / М. Фасмер; пер. с нем. и доп. О. Н. Трубачёва. — М.: Прогресс, 1964–1973.
20. Шанский, Н. М. Этимологический словарь русского языка. — Вып. 1–8 / Н. М. Шанский. — М.: Изд-во Московск. унив-та, 1963–1982.
21. Шапошников, А. К. Этимологический словарь русского современного языка. — Т. 1–2 / А. К. Шапошников. — М.: Флинта, Наука, 2010.
22. Широкова А. Г., Нещименко Г. П. Становление литературного языка чешской нации / А. Г. Широкова, Г. П. Нещименко // Национальное возрождение и формирование славянских литературных языков. — М.: Наука, 1978. — С. 9–85.
23. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. — Т. 1–14 / рэд. В. У. Мартынаў, Г. А. Цыхун / Нацыянальная акадэмія навук, Істытут мовазнаўства. — Мінск: Беларус. навука, 1978–2017.
24. Bańkowski, A. Słownik etymologiczny języka polskiego. — T. 1–2 / A. Bańkowski. — Warszawa: Wydawnictwo Naukowe PWN, 2000.
25. Basaj, M., Siatkowski, J. Bohemizmy w języku polskim: słownik / M. Basaj, J. Siatkowski. — Warszawa: Wydział Polonistyki Uniwersytetu Warszawskiego, 2006. — 501 s.
26. Boryś, W. Słownik etymologiczny języka polskiego / W. Boryś. — Kraków: Wyd-wo Literackie, 2005. — 861 s.
27. Brückner, A. Słownik etymologiczny języka polskiego / A. Brückner. — Kraków: Nakład i własnośc Krakowskiej Spółki Sydawniczej, 1927. — 806 s.
28. Brückner, A. Zarys dziejów literatur i języków literackich słowiańskich / A. Brückner. — Lwów: K. S. Jakubowski, 1929. — 206 s.
29. Czarnecki, T. Pośrednictwo czeskie w staropolskich pożyczkach z niemieckiego / T. Czarnecki // Studia z filologii polskiej i słowiańskiej. — 1970. — T. 9. — S. 37–44.
30. Etymologický slovník jazyka staroslověnského. — Seš. 1–18 / red. E. Havlová, A. Erhart, I. Janyšková / Akademie věd České republiky, Ústav pro jazyk český. — Praha: Academia, Brno: Tribun EU. — 1989–2016.
31. Gebauer, J. Slovník staročeský. — D. 1–2 / J. Gebauer. — 2. nezměněné vyd. — Praha: Academia, 1970.
32. Havránek, B. Vývoj spisovného jazyka českého / B. Havránek // Československá vlastivěda, řada II. Spisovný jazyk český a slovenský. — Praha: Sfinx, 1936. — S. 44–48, 76–78.

33. Havránek, B. Vlivy spisovné češtiny na jiné jazyky slovanské v době feudalismu / B. Havránek // Studie o spisovném jazyce. — Praha: Nakladatelství Československé akademie věd, 1963. — S. 291–304.
34. Havránek, B. Expanse spisovné češtiny od 14. do 16. století / B. Havránek // Co daly naše země Evropě a lidstvu. 2. vydání. — Praha: Evropský literární klub, 1998. — S. 103–116.
35. Holub, J., Kopečný, F. Etymologický slovník jazyka českého. — D. 1–2 / J. Holub, F. Kopečný. — Praha: Státní nakladatelství učebnic, 1952. — 575 s.
36. Holub, J., Lyer, S. Stručný etymologický slovník jazyka českého se zvláštním zřetelem k slovům kulturním a cizím / J. Holub, S. Lyer. — Praha: Státní pedagogické nakladatelství, 1967. — 528 s.
37. Kleczkowski, A. Wyrazy niemieckie w staroczeskim i staropolskim / A. Kleczkowski // Symbolae grammaticae in honorem Ioannis Rozwadowski I. — Kraków: Drukarnia Uniwersytetu Jagiellońskiego pod zarządem Józefa Fillipowskiego, 1927. — S. 331–345.
38. Klemensiewicz, Z. Historia języka polskiego / Z. Klemensiewicz. — Warszawa: Wyd-wo Nauk. PWN, 2002. — 827 s.
39. Kochman, S. Studia nad słownictwem i frazeologią słowiańską / S. Kochman. — Opole: Wyd-wo Uniw-tu Opolskiego, 2005. — 356 s.
40. Machek, V. Etymologický slovník jazyka českého a slovenského / V. Machek. — Praha: Československá akademie věd, 1957. — 627 s.
41. Machek, V. Etymologický slovník jazyka českého / V. Machek. — 2. opravené a doplněné vyd. — Praha: Československá akademie věd, 1968. — 868 s.
42. Rejzek, J. Český etymologický slovník / J. Rejzek. — Voznice: Leda, 2015. — 824 s.
43. Sieczkowski, A. Próba klasyfikacji bohemizmów spotykanych w języku polskim / A. Sieczkowski // Slavia occidentalis. — Poznań: Komitet redakcyjny, 1960. — T. 20. — № 2. — S. 139–147.
44. Siatkowski, J. Význam českých jazykových vlivů pro formování spisovné polštiny / J. Siatkowski // Mezinárodní vědecká konference: Doba Karla IV. v dějinách národů ČSSR. Materiály se sekce jazyka a literatury. — Praha: Univ. Karlova, 1981. — S. 55–64.
45. Siatkowski, J. Czesko-polskie kontakty językowe / J. Siatkowski. — Warszawa: Wyd-wo Energeia, 1995. — 272 s.
46. Siatkowski, J. Bohemizmy fonetyczne w języku polskim, cz. I–II. — Pobrano z: http://docplayer.pl/22014107-Janusz-siatkowskibohemizmy-fonetyczne-w-jezyku-polskim.html. — Dostęp: 15.06.2018.
47. Sławski, F. Słownik etymologiczny języka polskiego. — T. 1–5 / F. Sławski. — Kraków: Nakładem Tow-wa Miłośników Języka Polskiego, 1952–1982.
48. Słownik języka polskiego. — T. 1–8 / Pod red. Jana Karłowicza, Adama Kryńskiego i Władyslawa Niedźwiedzkiego. — Warszawa: Nakładem prenumeratorów, 1900–1927.
49. Słownik polszczyzny XVI wieku. — T. 1–36 / komitet redakcyjny: St. Bąk [et al.]; In-t Badań literackich Polskiej Akademii Nauk. — Wrocław: Ossolineum: Wyd-wo PAN, 1966–2012;
50. Słownik staropolski. — T. 1–11 / red. S. Urbańczyk / Polska Akademia Nauk, Instytut Języka Polskiego. — Wrocław [etc.]: Ossolineum; Warszawa: Wyd-wo PAN, 1953–2002.
51. Stieber, Z. Świat językowy Słowian / Z. Stieber. — Warszawa: Państwowe Wyd-wo Naukowe, 1974. — 499 s.

## Спіс скарачэнняў

**бавар. —** баварскае; **бел.** — беларускае; **грэч. —** грэчаскае; **дыял.** — дыялектнае; **зах.-слав.** — заходнеславянскае; **італ.** — італьянскае; **к.** — канец; **лац.** — лацінскае; **нова-в.-ням.** — новаверхненямецкае; **ням.** — нямецкае; **пал.** — палова; **пач.** — пачатак; **польск.** — польскае; **прасл.** — праславянскае; **раман.** — раманскае; **рус. —** рускае; **с.-в.-ням.** — сярэдняверхненямецкае; **слав.** — славянскае; **славац.** — славацкае; **ст.-балг.** — старажытнабалгарскае; **ст.-бел.** — старабеларускае; **ст.-в.-ням.** — старажытнаверхненямецкае; **ст.-італ.** — старажытнаітальянскае; **ст.-ням.** — старажытнанямецкае; **ст.-польск.** — старажытнапольскае; **ст.-рус. —** старарускае; **ст.-слав.** — старaславянскае; **ст.-укр.** — стараўкраінскае; **ст.-чэш.** — старачэшскае; **сяр.** — сярэдзіна; **укр.** — украінскае; **усх.-слав.** — усходнеславянскае; **ц.-слав.** — царкоўнаславянскае; **ц.-рус. —** царкоўнарускае; **чэш.** — чэшскае.

---

**Таццяна Аліферчык**
(Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, Мінск, Беларусь)

## СУТЫКНЕННЕ ДВУХ ТАПАНІМІЧНЫХ ТЫПАЎ

Від тапанімічнай намінацыі па тыпах пасялення шырока распаўсюджаны на славянскай моўнай тэрыторыі. На Беларусі сярод айконімаў, якія матываваны апелятывамі, што абазначаюць тыпы пасялення, зафіксаваны наступныя:

сяло: *Селішча*, *Сяльцо*,
пагост: *Пагост*, *Пагост-Загародскі*,
двор: *Новы Двор*, *Дворац*, *Дворышча*,
хутар: *Хутар*, *Хутары*,
засценак: *Засценкі*,
фальварак: *Фальварак*,
стаў: *Ставішча*, *Ставок*,
калонія: *Калонія*, *Калонішкі* і г. д.

Такім чынам, назіраецца даволі распаўсюджаны спосаб фарміравання айконімаў шляхам тапанімізацыі апелятыва.

На беларускай тэрыторыі такія онімныя адзінкі звычайна не ўтвараюць ізадоксаў альбо асобнай лакалізацыі і размешчаны даволі раўнамерна. Асобна выдзяляюцца толькі два арэалы — арэалы распаўсюджання айконімаў *Слабада/Слабодка* і айконімаў *Воля/Волька/Вулька*. На тэрыторыі Беларусі

гэтыя групы онімаў лакалізаваны наступным чынам: на Заходнім Палессі і часткова на Панямонні лакалізаваны толькі онімы *Воля/Волька/Вулька* і вытворныя ад іх, на ўсёй астатняй тэрыторыі Беларусі — онімы *Слабада/Слабодка* і вытворныя ад іх.

Звычайна даследчыкі тапаніміі ў сувязі з пашырэннем на Брэстчыне айконімаў тыпу *Воля/Вулька* ўказваюць на польскамоўны кампанент/уплыў у тапаніміі Заходняга Палесся [1; 2, с. 11; 13, с. 109; 7, с. 98 і інш.]

Але калі выйсці за межы Беларусі і паглядзець на арэальнае размяшчэнне онімаў у міжславянскай перспектыве, то заходнепалескі «кавалачак» падаецца часткай цэлага масіву, а на тэрыторыі Беларусі відавочна сутыкненне двух тапанімічных тыпаў.

У цэнтральнай, паўночнай і ўсходняй частках Беларусі, балцкай тэрыторыі, а таксама на тэрыторыі Пскоўскай, Цвярской і часткова Ноўгарадскай абласцей Расіі распаўсюджаны онімы тыпу *Слабада/Слабодка*. У цэнтральнай, паўночнай і паўднёва-ўсходняй частцы Польшчы, заходняй частцы Беларусі, а таксама заходняй частцы Украіны лакалізаваны онімы тыпу *Воля/Вулька*. Пры гэтым на тэрыторыі цэнтральнай, паўднёвай і ўсходняй часткі Украіны і цэнтральнай Расіі назіраецца змяшэнне арэалаў распаўсюджання онімаў двух тыпаў.

Агульнапрынята сцвярджэнне, што «*слабада* <…> архаічны <…> тып пасялення. У перыяд феадалізму жыхары слабод карысталіся часовым звальненнем ад выплаты падаткаў. Засноўваліся яны абшарнікамі для пашырэння ворнай зямлі. У заходніх раёнах Беларусі (асабліва на Пінскім Палессі) такія пасяленні называліся Волямі, Вулькамі. Гэтыя назвы набывалі тыя вёскі, жыхары якіх вызваляліся (станавіліся вольнымі) на тэрмін ад 3 да 20 гадоў ад чыншу і павіннасцей з прычыны неўрадлівых земель, якія сяляне адмаўляліся апрацоўваць. Пазней слабодамі сталі называць невялікія пасёлкі гарадскога тыпу, дзе жылі галоўным чынам мяшчане і рамеснікі, якія пакінулі абшчыну і былі звязаны з сельскай гаспадаркай толькі часткова» [2, с. 11].

В. П. Лемцюгова, адзін з першых беларускіх даследчыкаў усходнеславянскай тапаніміі апелятыўнага паходжання, а менавіта намінацыі па тыпах пасялення, з улікам этнаграфічнай, гістарычнай, моўнай інфармацыі, адзначае, што адпаведна пісьмовым помнікам і гістарычным слоўнікам, *слабада* абазначала пасяленне на ўладальніцкай зямлі, насельніцтва якога вызвалялася ад залежнасці [6, с. 52].

У польскай этнаграфіі адзначана, што *волі* (*вулькі*) — пасяленні, насельніцтва якіх вызвалена ад павіннасцей альбо надзелена ільготамі на вядзенне гаспадаркі на пэўны час, г. зн. *вольніца* альбо *вольнізна* (*wolnizna*, старапольскае *lgota*). Прычым *вольніца*/*вольнізна* — гэта і вызваленне ад падаткаў, і землі, на якія распаўсюджваюцца ільготы, г. зн. фактычна — тып пасялення.

В. П. Лемцюгова даводзіць таксама, што *волею* або *слободою* ў XV–XVII стст. называліся заснаваныя на новым месцы невялікія пасёлкі, жыхары

якіх часова вызваляліся ад павіннасцей і падаткаў [7, с. 98]. «Як тып паселішча слабоды вядомыя яшчэ ў перыяд дафеадальнай Кіеўскай дзяржавы. З X ст. пра іх паведамляецца ў царкоўных установах і летапісах, але найбольш інтэнсіўна працэс складвання *слабод* як ільготных паселішчаў назіраецца ў XIV–XV стст. І калі ў канцы XV — пачатку XVI ст. у Паўночна-Усходняй Русі пачалі з'яўляцца прамысловыя і рамесныя слабоды, то заходнія і паўднёва-заходнія землі па-ранейшаму заставаліся раёнам з традыцыйна-сельскім тыпам слабод» [7, с. 349]. На ўсходнеславянскім моўным абшары назвы з асноваў *воля*, *волька* (*вулька*) сканцэнтраваны ў межах Беларусі і Украіны. Іх арэал мае свой працяг на тэрыторыі Польшчы [7, с. 98].

Неабходна падкрэсліць, што тапанімічныя слоўнікі ў гэтым жа кантэксце тлумачаць найменні *Воля* і *Слабада*.

П. М. Янко наступным чынам тлумачыць назву *Слобідська Україна* (*Слобожанщина*): «Гэтая тэрыторыя (гістарычная вобласць, у якую ўваходзілі сучасная Харкаўшчына, частка сучаснай Данецкай, Луганскай, Сумскай абласцей, а таксама паўднёвая частка Курскай, Белгарадскай і Варонежскай абласцей Расіі. — *Т. А.*) была заселена ў асноўным беглымі ад польскай шляхты і магнатаў з Правабярэжнай і Левабярэжнай Украіны сялянамі. Перасяленцы засноўвалі пасяленні — *слободы*, адкуль і ўзнікла назва» [14, с. 325].

У «Слоўніку геаграфічным Каралеўства Польскага…» адзначана больш за 1500 адзінак тыпу *Wola* [18, t. 13, s. 775–820] і *Wólka* [18, t. 13, s. 837–854], якія лакалізаваны на тэрыторыі паўднёвай, цэнтральнай, усходняй і часткова паўночнай Польшчы, Заходняга Палесся, а таксама заходняй часткі Украіны. Фактычна сучасны і тагачасны арэалы супадаюць. У гэтай жа лексікаграфічнай крыніцы адзначаны таксама онімы тыпу *Slabada/Slabodka* [18, t. 10, s. 795–808], прычым арэалы — сучасны і ранейшы — фіксацыі онімаў таксама супадаюць.

Р. Сінельнікаф адзначае, што найменне *Воля* і звязаныя з ім *Вулька*, *Воліца* і *Вольніца* паходзяць з XIII ст. у сувязі са спецыяльным вызваленнем ад даніны на пэўны час — від ільгот на гаспадаранне, які надаваўся ў сувязі з заснаваннем новага пасялення [19, с. 62]. Такія прывілеі надаваліся ў выпадку распрацоўкі новых няворных зямель альбо на каланізаваных землях. Аўтар адзначае, што *Волі*, *Вулькі*, *Воліцы* і *Вольніцы* распаўсюджаны на тэрыторыі Мазовіі і Малапольшчы.

У «Пскоўскім абласным слоўніку…» *Воля* як анамастычная адзінка не адзначана, але пададзена *воля* 'дарэформ. Свабода ад прыгоннай залежнасці' [11, т. 4, с. 141].

Г. П. Смаліцкая ў «Тапанімічным слоўніку Цэнтральнай Расіі» не падае назваў тыпу *Воля*, але адлюстроўвае онімы *Слабада*:

*Слобода*, *слободка*, *слободской* 'назвы вялікай колькасці населеных пунктаў у Цэнтральнай Расіі. Яны адлюстроўваюць асобны тып пасяленняў — слабаду, вядому на Русі і ў Расіі з XI па XVIII стст., якая мела свой вытворчы

профіль, што вызначаўся сацыяльна-эканамічнымі запатрабаваннямі княства, дзяржавы. У якасці стымулявання і развіцця вытворчасці насельніцтва слабод вызвалялася ад некаторых павіннасцей, падаткаў і г. д.' [10, с. 315].

Відавочна, што беларускія, рускія і польскія тапанімічныя лексікаграфічныя крыніцы аднастайна адлюстроўваюць пашырэнне і паходжанне айконімаў *Воля* і *Слабада*. Такая ж сітуацыя з пазначэннем лексем *воля* і *свабода/слабада* назіраецца ў гістарычных слоўніках.

У «Гістарычным слоўніку беларускай мовы» адзначана:

*Воля* (акрамя іншых значэнняў) 'вызваленне ад прыгоннай залежнасці або ад выканання розных павіннасцей' *за которымъ листомъ мелъ воли даной на чотыри годы* [3, т. 4, с. 175].

*Свобода*, *свебода* (акрамя іншых значэнняў) 'прывілея; вызваленне ад якіх-н. павіннасцей, абавязкаў' *тые свободы, волности им надаем* [3, т. 31, с. 130].

*Слобода* 'пасёлак, жыхары якога не былі прыгоннымі' *написано въ королевской грамоте, што тые слободы осажены отъ пятидесятъ летъ и далей ... ино то писано о слободахъ, которые на Кіевской ... земле засели* [3, т. 31, с. 425].

Незавершаны «Гістарычны слоўнік украінскай мовы» адзначае для лексемы *воля* (акрамя іншых значэнняў) 'слабада' маючы на ўвазе 'тып пасялення' [5, т. 1, с. 306–307].

У «Слоўніку стараўкраінскай мовы 14–16 стст.» зафіксаваны наступныя значэнні лексем:

*Воля* 'тимчасове звільнення новосельців від феодальних повинностей і податків' *О волі колі панъ которы(и) волю даеть* [9, т. 1, с. 196].

*Слобода* 'назва села у Київській землі' *Село Слобода а в томъ селе десять слоугъ на во(и)ноу идоуть* [9, т. 2, с. 352].

У «Слоўніку рускай мовы XI–XVII стст..» пададзены наступныя значэнні:

*Слобода* (акрамя іншых значэнняў) льгота, прывілея. *А не отъиматись отъ правежъ отъ сее каба(а)лы всякими царя великово княз(я) несудимыми грамотами, никняжецкыми, ни боярскими, ни слоб(о)дами, ни свияскимъ, ни Казанию, ни Чабаксарами*… [8, вып. 25, с. 91].

*Слобода* (акрамя іншых значэнняў) 1. Пасяленне ці група адміністратыўна звязаных паміж сабой пасяленняў, жыхары якіх атрымоўвалі розныя ільготы і часова вызваляліся ад выплаты падаткаў і павіннасцей; слабада. 2. Пасяленне тыпу слабады каля горада; прыгарад [8, вып. 25, с. 91–92].

Неабходна падкрэсліць, што *слабада* 'ільгота, прывілея' альбо 'вызваленне ад падаткаў' фіксуецца з сяр. XVI ст., а *слабада* як тып пасялення з к. XIV ст.

Пры гэтым для лексемы *воля* падаюцца розныя значэнні, але не адзначана 'ільготы, прывілеі' альбо 'вызваленне ад прыгоннай залежнасці або ад выканання розных павіннасцей', як і не адзначана семантыка 'тып пасялення'. Зафіксавана толькі наступнае значэнне:

*Вольница*. 1. Людзі з розных сацыяльных катэгорый, па прычыне існуючых сацыяльных адносінаў пастаўленыя па-за законам (пераважна аб прыгонных, якія ўцякалі на ўскраіны Маскоўскай дзяржавы). 2. Людзі, якія дабравольна паступілі на ваенную службу. [8, вып. 3, с. 16].

У «Слоўніку польскай мовы» С. Б. Ліндэ пазначае:

*Wola* месца пасялення, вольнае ад падаткаў на пэўны час; калонія [17, t. 6, s. 379].

*Wola* nomen proprium, уласнае імя вялікай колькасці пасяленняў пры мястэчках і вёсках [17, t. 6, s. 380].

*Swoboda* свабода ад падаткаў, слабада, слобода, слабодка, пасяленне, (са спасылкай на рускія крыніцы) [17, t. 5, s. 532].

Неабходна адзначыць, што этымолагі адзінадушны адносна паходжання лексем *слабада* і *воля* ў славянскіх мовах.

Паводле «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы»:

*Свабода* 'асабістая незалежнасць, самастойнасць; адсутнасць прыгнёту', 'свая воля, вольнасць', 'адсутнасць абмежаванняў', *свобода* 'воля, взваленне ад прыгону' і г. д. да прасл. **svoboda*, утворанага ад асновы **svob-* з суфіксам зборнасці *-da* і першасным значэннем 'сукупнасць родзічаў, сваякоў', г.зн. тых, хто жывуць сумесна [12, т. 12, с. 8–9].

*Слабада* гіст. 'у XI–XVI стст. сяліба вольных людзей, прадмесце', 'вялікае гандлёвае ці прамысловае сяло, пасёлак', памянш. *слабодка*; 'гаспадарчае пасяленне сялян, вызваленых ад прыгону, на пэўнай адлегласці ад сяла'. Укр., рус. *слобода*, ст.-рус. *свобода*, *слобода* 'тс', ст.-польск. *słoboda* 'невялікі пасёлак, пасяленне сялян'. Трубачоў першаснае тэрміналагічнае значэнне дэфінуе як 'сумесна жывучая роднасная група', якое потым зазнала значныя змены [12, т. 12, с. 170]. *Слабода* 'свабода, воля, вольнасць' ад прасл. **sloboda* [12, т. 12, с. 171].

Лексема *воля* па даных ЭСБМ распаўсюджана цалкам на славянскай моўнай тэрыторыі: у рускай, украінскай, беларускай, польскай, чэшскай, славацкай, балгарскай, македонскай, сербскай, харвацкай, славенскай і лужыцкіх мовах, а таксама ў ст.-рус., ст.-польск., ст.-слав. мовах. Роднасная лексемам балцкіх моў, а таксама ст.-нямецкай, ст.-індыйскай і іншых моў. Звязана са ст.-слав. *велѣти* [12, т. 1, с. 191].

Значэнне 'тып пасялення' не адзначана.

Паводле «Этымалагічнага слоўніка ўкраінскай мовы»:

*Слобода* 'вольнае ад павіннасцей пасяленне; частка горада паводле характару пасялення; вялікае пасяленне; частка сяла'; слобóди 'незаселеныя землі', слобідка 'частка горада паводле характару ранейшага пасялення; вялікае пасяленне' — прасл. *sloboda* вынік змены формы *svoboda* 'тс' [4, т. 5,с. 305–306].

*Свобода* 'свобода' — славянскае *свобода* да прасл. *svoboda*, **sveboda*; выводзіцца ад асновы *svob*ь 'свой' і наяўнай у ст.-слав. мове *свобьство*

(*собьство*) ‘асоба’; першаснае значэнне ‘стан вольнага, свайго члена роду’ [4, т. 5, с. 198].

*Воля* да прасл. *volja*, звязанага з чаргаваннем галосных з *velěti*, роднаснае з літ. *valia* ‘воля’ і інш. балц. мовамі [4, т. 1, с. 423].

Паводле «Этымалагічнага слоўніка польскай мовы»:

*Swoboda* з XVI ст. ад **svobъ/*svebъ* [16, s. 589].

*Wola* з XIV ст. з прасл. **velěti* [16, s. 707].

Такім чынам, можна зрабіць наступныя вывады:

1. Лексемы *воля* і *свабода* акрамя іншых значэнняў ужываюцца з сінанімічнай семантыкай ‘вызваленне ад падаткаў, наданне ільгот’. Даследчыкі выводзяць *слабода/слабада* з *свабода* з заменай *в* на *л.* Варыянт *Вулька* з моцна лабіялізаваным *о*, адпаведна, паходзіць ад *Воля*.

2. Усходнеславянскія слоўнікі (беларускія, украінскія, рускія) са значэннем ‘тып пасялення’ фіксуюць лексему *Слабада/Слабодка*. Польскія слоўнікі звычайна са значэннем тып пасялення, а далей і як уласную назву фіксуюць *воля/Воля*.

3. Некаторыя крыніцы з’яўленне «вольных пасяленняў» — пасяленняў, насельніцтва якіх вызвалялася ад выплат тагачасных падаткаў — адносяць да X ст. «З X ст. пра іх [слабоды — *Т. А.*] паведамляецца ў царкоўных уставах Уладзіміра, затым — у Лаўрэнцьеўскім, Суздальскім, Ноўгарадскім і Пскоўскім летапісах. У XI–XII стст. з’яўляюцца звесткі аб слабодах паўночна-заходняй ускраіны Русі, у XIII ст. — пра слабоды Галіцкага і Растова-Суздальскага княства» [6, с. 52]. У гістарычных дакументах паводле польскіх і ўкраінскіх мовазнаўчых слоўнікаў перыяд фіксацыі лексемы *воля* прыходзіцца на XIV ст., *свабода/слаба(о)да* — на XVI ст. У «Слоўніку рускай мовы XI–XVII стст.» адзначана, што *слабада* ‘ільгота, прывілея’ фіксуецца ад сяр. XVI ст., а *слабада* як тып пасялення ад к. XIV ст. Такім чынам, відавочна развіццё абстрактных значэнняў для кожнай з названых лексічных адзінак з канкрэтных паняццяў.

4. Перыяд ад X ст. можна лічыць пачаткам фарміравання старажытнай сістэмы падаткаў. Прычым першапачаткова тагачасныя падаткі — *дань* — якія збіраліся з падуладных плямёнаў, спрыялі фарміраванню цэнтралізаванай дзяржаўнай улады, напр., Кіеўскага княства. Акрамя гэтага, падаткі збіраліся з зямлі, альбо з кожнай гаспадаркі на зямлі. Паколькі ў X ст. і пазнейшы перыяд існавала вялікая колькасць неапрацаванай зямлі, магчыма прыняць, што для павелічэння плошчы апрацаванай зямлі новы пасяленні маглі вызваляцца ад выплат тагачасных падаткаў. Такім чынам, паводле паводле палітычных і сацыяльных умоў гістарычна існавалі падставы для з’яўлення «вольных» пасяленняў у абазначаны перыяд.

5. Паводле аналізу дэфініцый уласных найменняў дэнататамі ў абодвух выпадках выступаюць населеныя пункты, якія сфарміраваліся пры пэўных умовах (у выніку палітычных і сацыяльных змен, што адлюстравалася ў да-

лейшым у тым ліку на этнаграфічным узроўні), а жыхары былі вызвалены ад выплат падаткаў на пэўны час. Такім чынам, відавочна тэндэнцыя іменавання адной і той жа з'явы рознымі лексічнымі сродкамі на розных тэрыторыях з іх пераходам у анамастычны разрад (тапанімізацыя апелятыва).

6. Асобна неабходна падкрэсліць непарыўнасць традыцыі намінацыі на адпаведных тэрыторыях. Працэс надання асобных прывілей і вызвалення ад выплат падаткаў асобных пасяленняў цягнуўся прыблізна ад X(XIII) ст. да XVII–XVIII ст. Пры гэтым арэалы пашырэння адпаведных назваў не змяніліся.

7. Аналіз назваў «вольных» пасяленняў на славянскай моўнай тэрыторыі можа быць прадуктыўным з улікам распаўсюджання на заходнеславянскіх землях онімаў тыпу *Lechota*, *Lgota*, *Ligota*. Паводле В. Махэка *lhota* 'вольнасць, вызваленне', 'вызваленне новага насельніка на той час ад выплат падаткаў, як і пасяленне з такімі насельнікамі'. Славенскае *lehota*; пасяленні з назвамі *Lehota* і *Huta*[1] каля чэш. *Lhůta* [15, с. 266]. Прычым у В. Махэка не пададзены ў значэнні 'тып пасялення' *слабада і воля*, а для лексем *svoboda і vola* не адзначана 'вызваленне ад падаткаў, наданне прывілеяў' [15, с. 490, с. 572]. Гэты факт таксама пацвярджае канцэпцыю аб іменаванні «вольных» пасяленняў рознымі лексічнымі сродкамі на розных славянскіх тэрыторыях.

Такім чынам, онімы тыпу *Слабада/Слабодка* і *Воля/Волька/Вулька* — два тапанімічныя тыпы, якія на польскай і беларускай тэрыторыі супрацьпастаўлены, а на ўкраінскай і цэнтральнарасійскай тэрыторыі змешаны. Адпаведна, немагчыма гаварыць толькі пра польскамоўны ўплыў альбо кампанент у заходнепалескай тапаніміі ў сувязі з пашырэннем найменняў *Воля/Вулька*. Відавочна, онімы тыпу *Воля/Волька/Вулька* з'яўляюцца часткай вялікага масіву арэальнага распаўсюджання асобнага тапанімічнага тыпу.

## Літаратура


1. Аляхновіч, М. М., Леванцэвіч, Л. В. Польскамоўны кампанент у этнакультурнай прасторы Брэсцка-Пінскага Палесся / М. М. Аляхновіч, Л. В. Леванцэвіч // Беларуска-польскія культурна-моўныя ўзаемадачыненні: ад гісторыі да сучаснасці: зб. нав. арт. — Мінск, 2016. — С. 244–250.
2. Беларускае народнае жыллё. — Мінск: Навука і тэхніка, 1973.
3. Гістарычны слоўнік беларускай мовы. У 37 вып. — Мінск: Беларуская навука, 1984–2017 гг.
4. Етимологічний словник української мови. У 7 т. / редкол.: О. С. Мельничук та ін. — Київ: Наукова думка, 1983.


[1] Неабходна адзначыць, што на Беларусі таксама шырока распаўсюджаны айконімы *Гута*, але яны матываваны апелятывам *гута* 'шкляны завод' [7, с. 140]. Увогуле, онімы *Гута* часта сустракаюцца на ўсёй славянскай моўнай тэрыторыі, аднак этымалогія і матывацыя такіх адзінак можа быць рознай, таму, відавочна, немагчыма аб'ядноўваць іх у адну групу.

5. Історичний словнік українського язика. Т. 1. А–Ж. / зредагував проф. Е. Тимченко — Київ: Державне видавництво України, 1930. — 528 с.
6. Лемтюгова, В. П. Восточно-славянская ойконимия апеллятивного происхождения / В. П. Лемтюгова. — Минск: Наука и техника, 1983.
7. Лемцюгова, В. П. Тапонімы распавядаюць… Навукова-папулярныя эцюды / В. П. Лемтюгова. — Мінск, 2008. — 414 с.
8. Словарь русского языка XI–XVII вв. В 27 вып. / Институт русского языка им. В. В. Винградова РАН; гл. ред. Г. А. Богатова. — Москва: Наука, 1975–2002.
9. Словник староукраїнської мови XIV–XV ст. У 2 т. / редкол.: Д. Г. Гринчишин [та ін.]. — Київ: Наукова думка, 1977–1978.
10. Смолицкая, Г. П. Топонимический словарь Центральной России / Г. П. Смолицкая. — М.: Армада-пресс, 2002. — 416 с.
11. Псковский областной словарь с историческими данными. В 22 т. / под ред. Ивашко Л. А., Лутовиновой И. С., Тарасовой М. А. — СПб.: Изд-во С.-Петерб. ун-та, 1967–2013.
12. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы: У 17 т. / пад рэд. Г. А. Цыхуна. — Мінск: Беларуская навука, 1978.
13. Якубук, Н. Р. Тапанімія Пабужжа ў моўных адносінах / Н. Р. Якубук // Мова Брэсцка-Пінскага Палесся: зб. навук. арт. — Брэст, 2010. — С. 107–109.
14. Янко, П. М. Топонімічний словник України: Словник-довідник / П. М. Янко. — Київ: Знання, 1998. — 432 с.
15. Machek, V. Etymologický slovník jazyka českého a slovenského / V. Machek. — Praha: Nakladatelství Československé akademie věd, 1957. — 628 s.
16. Boryś, W. Słownik etymologiczny języka polskiego / W. Boryś. — Kraków: Wyd-wo Literackie, 2005. — 4600 s.
17. Linde, S. B. Słownik języka polskiego. T.1–6 w 7 vol / S. B. Linde. — Warszawa, 1807–1814.
18. Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. — Warszawa: nakł. Filipa Sulimierskiego i Władysława Walewskiego, 1880–1914.
19. R. S. [Roxana Sinielnikoff]. Nazwy miejscowe / R. S. — Poradnik Językowy. — 2000. — Z. 3. — S. 59–64.

**Ірына Гапоненка**
(Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, Мінск, Беларусь)

# БЕЛАРУСКАЯ І ПОЛЬСКАЯ АНАМАСТЫЧНАЯ ЛЕКСІКАГРАФІЯ: ДАСЯГНЕННІ І ПЕРСПЕКТЫВЫ

**0.** Адным з найважнейшых паказчыкаў развіцця любой галіны навукі з'яўляецца наяўнасць сістэматызацыйных зборнікаў, якія дэманструюць, што ў межах пэўнага навуковага адгалінавання ўтварылася аб'ёмная факталагічная база і сфарміраваліся метадалагічныя асновы даследавання матэрыялу. У лінгвістычнай сферы такім аб'ектыўным паказчыкам выступае фіксацыя той ці іншай часткі нацыянальнага лексікону ў слоўніках розных тыпаў.

Не прэтэндуючы на ўсеахопнасць, паспрабуем праз параўнальны аналіз лексікаграфічнай прадукцыі паказаць асноўныя дасягненні і перспектывы беларускай і польскай анамастыкі.

Зводныя дадзеныя па гэтай тэме можна знайсці, напрыклад, у першым томе энцыклапедычнага даведніка «Słowiańska onomastyka», які выйшаў ў рамках міжнароднага лінгвістычнага праекта ў 2002 г. Праект быў ініцыяваны Камісіяй славянскай анамастыкі Міжнароднага камітэту славістаў ў 1998 г. Але зыходзячы з энцыклапедычнага фармату выдання, прысвечанага раскрыццю ўсёй масы анамастычных аспектаў, поўнага пераліку анамастычных лексікаграфічных прац гэтае выданне не ўтрымлівае. Да таго ж ад часу яго выхаду ў свет прайшоў даволі значны час, і адпаведна прыведзены ў ім спіс публікацый аб'ектыўна храналагічна абмежаваны. Вялікі аб'ём бібліяграфічных звестак такога кшталту (у тым ліку найноўшых) сістэматызаваны ў шматтомным выданні «Bibliografia onomastyki polskiej» (размешчанай у прыватнасці на старонцы ПАН, гл. https://onomastyka.ijp.pan.pl/index.php?strona=bibl_onomastyka), дзе адлюстраваны і слоўнікавыя працы. У беларускай мове самым інфарматыўным у адзначаным сэнсе з'яўляецца выданне С. У. Шахоўскай «Беларуская анамастычная лексікаграфія» (2012). Акрамя таго, выявіць лексікаграфічныя працы па анамастыцы дапамагае аналіз іх інтэрнэт-фіксацыі.

## 1. Дасягненні анамастычнай лексікаграфіі

**1.1.** Беларуская анамастыка — грунтоўна распрацаваны навуковы аб'ект. Анамастычныя пытанні знаходзяцца ў кампетэнцыі Рэспубліканскай тапанімічнай камісіі пры НАН Беларусі і Тапанімічнай камісіі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь. Шэраг пытанняў таксама вырашаецца ў працэсе работы Анамастычнай камісіі пры Таварыстве беларускай мовы.

Заканамерным вынікам інтэнсіўных даследаванняў анамастычнай лексікі стала выданне вялікай колькасці профільных слоўнікаў, розных па функцыянальным прызначэнні, метадалагічных падыходах, канкрэтным аб'екце слоўнікавай сістэматызацыі. Беларуская анамастычная лексікаграфія прадстаўлена вялікай колькасцю крыніц, у якіх сістэматызаваны розныя тыпы онімаў: айконімы, мікратапонімы, урбонімы, гідронімы і інш.

У сферы **антрапаніміі** найчасцей слоўнікавай апрацоўцы падлягае такая іменалагічная разнавіднасць, як *асабовыя імёны*. На сённяшні дзень выйшаў ў свет шэраг слоўнікавых публікацый з гэтымі рэестравымі адзінкамі: «Слоўнік асабовых імёнаў» М. Р. Судніка (1965, 2-е выд., 2005), «Слоўнік асабовых імёнаў: беларуска-рускі і руска-беларускі» У. А. Сарокі (2000), «Слоўнік-даведнік асабовых імён» А. А. Станкевіч (2001), «Слоўнік беларускіх імёнаў» І. Я. Яшкіна (2009), «Слоўнік асабовых уласных імёнаў» Г. К. Усціновіч (2011), невялікія слоўнічкі Сымона Барыса «Беларускія імёны» (2001) і «Як у нас клічуць» (2010), «Слоўнік асабовых уласных імён» В. К. Раманцэвіч і У. М. Завальнюка (2017).

Беларускія *імёны і прозвішчы* лексікаграфічна апрацаваны ў шматтомным даследаванні М. В. Бірылы: «Беларуская антрапанімія. Ч. 1. Уласныя імёны, мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы» (1966); «Беларуская антрапанімія. Ч. 2. Прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі» (1969); «Беларуская антрапанімія. Ч. 3. Структура ўласных мужчынскіх імён» (1982).

У апошні час выразна выявіўся новы актуальны кірунак сучаснай беларускай анамастычнай лексікаграфіі — аналіз паходжання прозвішчаў і слоўнікавая фіксацыя прозвішчных этымалагічных распрацовак. Тут варта адзначыць, што хоць этымалагічны сектар у анамастыцы пачаў развівацца прыкладна з 70-х гадоў XX ст., але да сённяшніх дзён даследаванням па семантыцы адводзілася даволі сціплае месца. Сёння ж нашыя суайчыннікі актыўна шукаюць свае радаводныя карані і спрабуюць асэнсаваць культурную спадчыну. Адпаведна наяўных навуковых звестак становіцца недастаткова. У сувязі з гэтым было задумана стварэнне кнігі «Корни наших фамилий / Карані нашых прозвішчаў» (аўтары В. П. Лемцюгова, І. А. Гапоненка), што выйшла ў свет у 2018 г. У кнізе, якая не з'яўляецца слоўнікам у класічным разуменні (хутчэй яе можна ахарактарызаваць як зборнік этымалагічных нататак), раскрываецца зыходная ўтваральная база, структурная арганізацыя і семантыка больш трох тысяч прозвішчаў беларускіх грамадзян.

У цэлым у айчыннай анамастычнай лексікаграфіі прозвішчы значна радзей становяцца аб'ектам слоўнікавай апрацоўкі, нягледзячы на тое, што ў сучаснай беларускай трохчленнай іменалагічнай формуле прозвішча — гэта фактычна вядучы элемент, які нясе асноўную ідэнтыфікуючую і дыферэнцыяльную нагрузку і выконвае важныя грамадскія і прававыя функцыі.

Лексікаграфічнаму апісанню ў беларускай анамастыцы падлегла і такая разнавіднасць антрапонімаў як *псеўданайменні*. Яны сабраныя ў «Слоўніку

беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI–XX ст.)» (1983) Я. Саламевіча, «Слоўніку псеўданімаў і крыптанімаў эміграцыйных дзеячаў» А. Гардзіенкі, Н. Гардзіенка, Л. Юрэвіча (2008).

Беларускія слоўнікі **тапонімаў** ахопліваюць аб'ёмны матэрыял і асвятляюць яго ў самых розных аспектах. Сучасныя айконімы прадстаўлены ў «Слоўніку назваў населеных пунктаў» Я. Н. Рапановіча (1977–1986) па шасці абласцях Беларусі і ў нарматыўным даведніку «Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь» (2003–2010) таксама па ўсіх шасці беларускіх абласцях. Лакальная тапанімія занатавана, напрыклад, у «Слоўніку тапонімаў і адтапанімічных дэрыватаў у арэале захонепалескіх гаворак» З. М. Заікі (2001), у працах А. Ф. Рогалева, у якіх сабраныя геаграфічныя найменні Гомельшчыны (напрыклад, «Историко-топонимический словарь Ветковского р-на Гомельской области», 1992). Даследаванне тапанімічных этымалогій праводзіцца ў выданні В. А. Жучкевіча «Краткий топонимический словарь Белоруссии» (1974), у выданні В. П. Лемцюговай «Тапонімы распавядаюць» (2008).

*Мікратапанімія* Беларусі сістэматызаваная ў выданнях «Мікратапанімія Беларусі: матэрыялы» (1974), «Микротопонимя Мозырского Полесья» Г. А. Івановай (2007), «Слоўнік мікратапонімаў Магілёўшчыны» С. В. Клімуць і інш. (2004).

*Гідронімы* сабраныя ў выданнях «Блакітная кніга Беларусі: энцыклапедыя» (1994) і «Блакітны скарб Беларусі» (2007), Калінін М. Ю. «Водохранилища Беларуси: справочник» (2005).

*Урбонімы* Беларусі даследуе і лексікаграфуе ў сваіх працах Г. М. Мезенка (напрыклад, «Имя внутригородского объекта в истории: об урбанонимах Беларуси XIV — начала XX века», 2003).

У беларускай анамастыцы існуюць **рэгіянальныя** анамастычныя слоўнікі: «Анамастычны слоўнік Магілёўшчыны» В. І. Рагаўцова і С. В. Кечык, 2000, «Анамастычны слоўнік Гродзеншчыны» В. М. Ламакі (ч. 1 Мікратапонімы), 2005. Слоўнікавую фіксацыю атрымлівае і **анамастыкон асобных аўтараў**: Якуба Коласа – «Анамастычны слоўнік твораў Якуба Коласа» (1990), М. Багдановіча — «Словарь имен собственных в поэзии Максима Богдановича» Ю. А. Гурскай (1997), Янкі Купалы — «Слоўнік мовы Янкі Купалы», (т. 6, 2003), Францыска Скарыны — «Слоўнік мовы Скарыны» (т. 3: Анамастыка і тапаніміка, 1994). Акрамя таго, розныя групы онімаў сістэматызаваныя ў дадатках да кандыдацкіх дысертацыйных прац.

Такім чынам, можна канстатаваць, што ў беларускай анамастыцы найлепш лексікаграфаваны асабовыя імёны і сучасныя айконімы (апошнія да таго ж падлеглі дакладнай стандартызацыі).

**1.2.** У Польшчы анамастычная работа здаўна праводзіцца ў Анамастычнай камісіі пры мовазнаўчым камітэце ПАН, у склад якой уваходзяць анамасты з усяе Польшчы. Іх праца каардынуецца найперш Інстытутам польскай мовы ПАН у Кракаве — галоўным польскім анамастычным асяродку.

Польскія даследчыкі цалкам абгрунтавана сцвярджаюць, што «польская анамастыка мае шырокую матэрыяльную базу ў выглядзе разнастайна трактаванага і ў розных аспектах апрацаванага матэрыялу»[1].

У галіне **антрапанімії** адзначым наступныя польскія слоўнікі: S. Rospond «Słownik nazwisk śląskich» (1967), «Słownik staropolskich nazw osobowych» (1983–1985), J. Bubak «Księga naszych imion» (1993), «Słownik etymologiczno-motywacyjny staropolskich nazw osobowych» (1995–2000), K. Rymut «Słownik imion współcześnie w Polsce używanych» (1995), K. Rymut «Słownik nazwisk wspolczesnie w Polsce uzywanych» (тт. I–X, 1992–1994), «Księga nazwisk ziemi gdańskiej» (1998), гісторыка-этымалагічны слоўнік K. Rymut «Nazwiska Polaków» (тт. I–II, 1999–2001), «Nazwiska Pomorzan» (2000), H. Fros, F. Sowa, J. Grzenia «Nasze imiona» (2002); J. Grzenia «Słownik imion» (2002), L. Tomczak «Słownik odapelatywnych nazwisk Polaków» (2003), «Antroponimia Polski od XVI do końca XVIII wieku», red. A. Cieślikowa (2007–2016), R. Mrózek «Słownik motywacyjny antroponimów socjolektu młodzieżowego» (2007), L. B. Sudakiewicz «Słownik nazwisk mieszkańców Ziemi Złotowskiej» (2011–2012), «Słownik nazwisk mieszkańców Poznania XVI–XVIII wieku», red. I. Sarnowska-Giefing (2011–2014), I. Łuc «Słownik nazwisk mieszkańców południowego Śląska Cieszyńskiego XIX wieku» (2016) і інш.

У галіне **тапанімії** таксама спіс лексікаграфічных выданняў вельмі прадстаўнічы: «Nazwy miejscowe Polski: historia, pochodzenie, zmiany», red. K. Rymut, B. Czopek-Kopciuch, U. Bijak (2004–2017), E. Jakus-Borkowa, K. Nowik «Nazwy miejscowości w Polsce» (2010), «Słownik nazw wodnych Polski», red. K. Rymut i B. Czopek-Kopciuch (2012) і інш.

*Этымалагічны* кірунак польскай тапанімічнай лексікаграфіі прадстаўлены такімі выданнямі: K. Rymut «Nazwy miast Polski» (1987), S. Rospond «Słownik etymologiczny miast i gmin PRL» (1984), S. Rospond «Słownik etymologiczny nazw geograficznych Śląska» (1970–1991), M. Malec «Słownik etymologiczny nazw geograficznych Polski» (2003), «Słownik etymologiczny nazw geograficznych Śląska» red. S. Sochacka, t. 15, 16 (2011, 2014) і інш.

*Рэгіянальная* польская анамастыка зафіксавана ў наступных слоўнікавых выданнях: S. Warchoł «Nazwy miast Lubelszczyzny» (1964), E. Pawłowski «Nazwy miejscowości Sądecczyzny» t. 1, Nazwy miast, wsi, przysiółków oraz dzielnic miejskich i wiejskich (1971), D. Kopertowska «Nazwy miejscowe województwa kieleckiego: nazwy miast i wsi, nazwy części miast i wsi oraz nazwy alei, placów, ulic i osiedli mieszkaniowych» (1984), Z. K. Zierhofferowie «Nazwy miast Wielkopolski» (1987), D. Kopertowska «Nazwy miejscowe województwa

---

[1] Гл.: Słowiańska onomastyka. Encykłopiedia : T. 1 / pod redakcją Ewy Rzetelskiej-Feleszko i Aleksandry Cieślikowej przy współudziale Jerzego Dumy. — Warszawa–Kraków, 2002. — S. 96.

radomskiego: nazwy miast i wsi, nazwy części miast i wsi oraz nazwy osiedli mieszkaniowych, placów, alei i ulic» (1994), «Nazwy miast Pomorza Gdańskiego», red. H. Górnowicz i Z. Brocki, wyd. 2 popr. i poszerz. pod red. Edwarda Brezy i Jerzego Tredera (1999), M. Choroś, Ł. Jarczak, S. Sochacka «Słownik nazw miejscowych Śląska. Polsko-niemiecki i niemiecko-polski» (2015) і інш.

Пры параўнанні выглядае на тое, што ў беларускай анамастычнай лексікаграфіі назіраецца большы роскід у плане аб'ектаў слоўнікавага апісання, а ў аналагічнай польскай сферы больш грунтоўна прапрацаваны два асноўныя онімныя тыпы — тапонімы і антрапонімы, значна лепш апісаны прозвішчы і зроблены больш заўважальны акцэнт на гісторыка-этымалагічных лексікаграфічных апісаннях онімаў.

## 2. Перспектывы анамастычнай лексікаграфіі

**2.1.** У беларускай анамастычнай лексікаграфіі на сённяшні дзень на першы план выходзіць прыкладны аспект даследавання і навуковай апрацоўкі антрапонімаў, а менавіта стандартызацыя іх пісьмовай формы і лексікаграфічная фіксацыя нармалізаваных формаў. У першую чаргу гэта датычыць прозвішчаў — адзінак, якія надзелены важнымі грамадскімі і прававымі функцыямі. Пакуль што тэарэтычная і практычная праблема ўпарадкавання і кадыфікацыі правілаў перадачы беларускіх прозвішчаў на пісьме застаецца нявырашанай. У яе межах існуе цэлы шэраг складаных пытанняў па некалькіх напрамках.

Перш за ўсё вельмі актуальным з'яўляецца ўпарадкаванне нацыянальнага правапіснага афармлення беларускіх прозвішчаў. Ва ўмовах беларуска-рускага білінгвізму істотнае значэнне мае таксама вызначэнне нарматыўнай рускамоўнай формы беларускіх прозвішчаў. Да надзённых задач адносіцца і выпрацоўка правілаў запісу беларускіх прозвішчаў лацінскай графікай, паколькі ў апошні час разам з пашырэннем міжнародных кантактаў Беларусі як незалежнай дзяржавы беларускія прозвішчы сталі ўсё часцей трапляць ў лацінамоўныя тэксты. Пасля таго, як названыя ўзаемазвязаныя праблемы пісьмовай перадачы беларускіх прозвішчаў атрымаюць афіцыйнае вырашэнне, павінен быць створаны комплексны нарматыўны слоўнік-даведнік беларускіх прозвішчаў. Распрацоўка такога выдання распачатая навукоўцамі аддзела лексікалогіі і лексікаграфіі Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі і кафедры гісторыі беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. На сённяшні дзень картатэка будучага даведніка, сабраная па розных крыніцах, складаецца прыкладна з 220 000 адзінак.

Перспектыўным напрамкам выступае таксама лексікаграфічнае апісанне фактаў гістарычнай анамастыкі. Тут трэба згадаць «Анамастыкон "Нашай Нівы"», які мяркуецца змясціць у 5-м томе «Слоўніка мовы "Нашай Нівы"» (на сённяшні дзень выйшлі з друку тры тамы гэтага слоўніка, 2003–2015, чацвёрты рыхтуецца да выдання). Гэта, з аднаго боку, поўны збор анама-

стычнай лексікі, якая знайшла адлюстраванне ў тэкстах самай буйной і аўтарытэтнай беларускай газеты пачатку XX ст. — «Нашай Нівы», з другога боку, каштоўны гістарычны дакумент перыяду нацыянальнага адраджэння. Яго трэба разглядаць як першы вопыт асэнсавання і лексікаграфічнага ўпарадкавання анамастычнага матэрыялу адной асобна ўзятай пісьмовай крыніцы. «Анамастыкон» будзе складацца з двух тэматычных падраздзелаў: 1. Уласныя назвы геаграфічных аб'ектаў (населеных пунктаў, унутрыгарадскіх аб'ектаў, рэк, ручаёў, крыніц, штучных вадаёмаў і г. д.); 2. Уласныя асабовыя найменні (уласныя імёны, імёны па бацьку, прозвішчы, мянушкі і псеўданімы паасобна аўтараў і персанажаў). Кожная анамастычная адзінка пададзеная ў арыгінальным напісанні і пашпартызаваная. Ён мае самастойную навуковую вартасць як дапаможнік для вывучэння беларускай гістарычнай анамастыкі. Апрача таго, «Анамастыкон» утрымлівае багаты матэрыял па дыялекталогіі, гістарычнай геаграфіі, гісторыі быту і інш. і адпаведна ўяўляе цікавасць не толькі для моваведаў, але і для літаратуразнаўцаў, этнографаў, гісторыкаў, усіх тых, каго цікавяць пытанні беларускай анамастыкі. У рэчышчы гістарычнай анамастычнай лексікаграфіі складзены, але пакуль не выдадзены «Слоўнік старажытнай тапаніміі» І. Л. Капылова.

Яшчэ адзін важны кірунак — слоўнікавая фіксацыя рэгіянальнай анамастыкі па тыпу слоўнікаў В. І. Рагаўцова і В. М. Ламакі. На філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта плануецца выданне такога слоўніка паводле матэрыялаў, сабраных студэнтамі падчас дыялекталагічнай практыкі. Факталагічная база сабралася дастаткова прадстаўнічая і ёсць неабходнасць аформіць анамастычныя даныя ў выглядзе невялікага лексікаграфічнага выдання.

Несумненную перспектыву мае і ўкараненне камп'ютарных тэхналогій у лексікаграфію, у сувязі з чым варта ўзгадаць «Анамастычны слоўнік беларускай літаратурнай мовы XIX стагоддзя» Н. М. Сянкевіч (на базе корпуса тэкстаў электроннага «Канкарданса беларускай мовы XIX стагоддзя», 2015).

**2.2.** Пра перспектывы польскай анамастычнай лексікаграфіі меркаваць з боку, не знаходзячыся ўнутры працэсу, больш складана.

Вядучыя польскія анамасты (гл.: https://onomastyka.uni.lodz.pl/mkosco-mks/polska) указваюць, што да першачарговых анамастычных задач у Польшчы адносіцца слоўнікавая апрацоўка тэрміналогіі анамастыкі, у тым ліку з прыцягненнем даследчыкаў з іншых славянскіх краін і і навукоўцаў сумежных спецыяльнасцяў (картографаў, географаў, гісторыкаў). Перспектыўным таксама бачыцца стварэнне слоўніка імёнаў, якія абіралі для сваіх дзяцей палякі ў апошнія дзесяцігоддзі, што дапамагло б выявіць характар іменалагічнай моды і паспрабаваць ўстанавіць матывацыйныя асновы працэсу надання імя. Асаблівых жа навуковых высілкаў патрабуе развіццё рэгіянальнай анамастыкі, у тым ліку яе лексікаграфічнае апісанне, фіксацыя ўласных назваў, занатаваных у рукапісных гістарычных дакументах.

З публікацый польскіх даследчыкаў апошняга часу вынікае, што польскія анамасты ўшчыльную заняліся распрацоўкай такога цікавага аспекту, як уключэнне анамастычнага матэрыялу ў рэестр агульнамоўных слоўнікаў. У зборніку навуковых матэрыялаў «Слово и словарь» 2017 года[1] змешчана публікацыя Багуміла Гасека з Вроцлаўскага ўніверсітэта (гл. с. 218–220 зборніка), у якой падрабязна аналізуецца пытанне аб прэзентацыі онімаў у перакладным «Большом русско-польским» слоўніку пад рэдакцыяй Я. Ваўжынчыка (2004). Сярод станоўчых рыс называецца сам факт пашырэння рэестру за кошт анамастычных адзінак, што выводзіць анамастычную лексікаграфію на новы ўзровень, шырокі ахоп онімнай лексікі (прадстаўлены розныя групы онімаў), зварот да размоўных онімных формаў, што будзе важным для карыстальніка мовы, падача не толькі транслітараванага варыянта, але і дакладнага іншамоўнага адпаведніка (*Ваня–Wania*, *Janek*), што істотна для перакладчыкаў. Але такое слоўнікавае наватарства патрабуе і распрацоўкі адпаведнай лексікаграфічнай методыкі: вызначэнне прынцыпаў адбору адзінак (памяншальных форм у прыватнасці), прынцыпаў каментавання і ілюстравання, узгодненасць правай/левай часткі (рус. імя + імя па бацьку — пол. *Panie profesorze*, *Proszę pana*), лексікаграфічная апрацоўка прэцэдэнтных імёнаў (рус. *Иванов*, *Петров*, *Сидоров — Kowalski i Nowak*).

Уключэнне онімаў у неанамастычныя слоўнікі адзначаецца і ў беларускай лексікаграфіі, але спробы польскіх калег больш маштабныя, таму іх вопыт заслугоўвае вывучэння беларускімі лексікографамі.

У заключэнне адзначым наступнае. У 1980 г. выйшаў у свет зборнік «Перспективы развития славянской ономастики». У ім надрукаваны артыкул Н. У. Падольскай «Обзор ответов на анкету об ономастических словарях»[2], у якім сабраныя меркаванні спецыялістаў па анамастыцы адносна відаў на будучыню анамастычнай лексікаграфіі. Калі параўнаць тагачасныя планы з вынікамі, выяўленымі ў ходзе аналізу сённяшняга стану лексікаграфічнага апісання онімаў розных тыпаў, то можна канстатаваць, што пастаўленыя мэты не толькі выкананы, але і істотна перавыкананы. Адпаведна наспела патрэба творчага ўзаемазасваення беларускімі і польскімі анамастамі накопленага вопыту і неабходнасць стварэння новых перспектыўных планаў.

---

[1] Гл.: Слово и словарь. Vocabulum et vocabularium. Выпуск 15. Сборник материалов Международной научной конференции «Современные проблемы лексикографии» (Минск, 23–24 ноября 2017 г.). Минск, 2017.

[2] Гл.: Подольская Н. В. Обзор ответов на анкету об ономастических словарях // Перспективы развития славянской ономастики. — М.: Наука, 1980. — С. 244–249.

**Сяргей Запрудскі**
(Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, Мінск, Беларусь)

# ЯЎХІМ КАРСКІ ЯК ДАСЛЕДЧЫК ПОЛЬСКАГА ЎПЛЫВУ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ (НА МАТЭРЫЯЛЕ ПЕРШАГА ТОМА «БЕЛАРУСАЎ»)

## Уводзіны

Нягледзячы на тое, што Я. Карскі з'яўляецца айцом-заснавальнікам беларускага мовазнаўства, многія аспекты яго дзейнасці вывучаны яшчэ недастаткова. Да такіх належыць і тэма даследавання ім польскага ўздзеяння на беларускую мову.

З нагоды прадстаўлення заснавальнікам беларускай філалогіі Беларусі ў расійскім навуковым друку даследчыкі канстатуюць, што ён імкнуўся падкрэсліць самабытнасць беларускай гістарычнай і культурна-моўнай традыцыі. Адначасова, сцвярджаецца, трымаючыся пастулатаў школы «заходнерусізму», ён гэта рабіў у межах агульнарускага кантэксту [7, с. 17, 22]. У рамках гэтага кантэксту даўнія гістарычныя сувязі Беларусі з Польшчай ацэньваліся амаль выключна негатыўна, а беларускі адраджэнцкі рух трактаваўся як «польская інтрыга», інспіраваная пераважна асобамі, выхаванымі на польскай мове ў старашляхецкім асяроддзі і традыцыях [4, с. 140].

Я. Карскі выказаў свае думкі пра запазычанні з польскай мовы ў першым томе «Беларусаў» у 1903 г., калі ў расійскай навуцы захоўвала актуальнасць пытанне аб польскім складніку ў беларускай мове. Аднак гэта было не толькі акадэмічнае, але і ў значнай ступені грамадска-палітычнае зацікаўленне.

У нядаўна апублікаваным аглядзе «Вывучэнне паланізмаў у беларускім мовазнаўстве і стаўленне да іх (XIX ст. — 1930-я гг.)» М. Свістунова звярнула ўвагу на крытычныя адносіны аўтара «Беларусаў» да наяўнасці шматлікіх польскіх запазычанняў у старабеларускай пісьмовай мове. Што да паланізмаў у вусным беларускім маўленні канца XIX — пачатку XX ст., то, паводле аўтаркі артыкула, Я. Карскі лічыў, што народнай гаворцы «паланізмы не былі ўласцівы» [9, с. 42].

У пятым раздзеле першага тома «Беларусаў» аўтар падзяліў паланізмы на чатыры групы, вылучыўшы 65 «чыста польскіх слоў» і 84 словы-паланізмы, запазычаныя шляхтай. Акрамя таго Я. Карскі вылучыў 182 агульнавядомыя іншамоўныя запазычанні, для якіх польская мова магла быць пасрэдніцай, а таксама 108 паланізмаў, вядомых «каталіцкай Беларусі і галоўным чынам сярод беларускай шляхты» [9, с. 42]. Як бачым, за аснову класіфікацыі паланізмаў Я. Карскі ўзяў крытэрыі іх паходжання (уласна польскага або не) і ступені адаптаванасці беларускай мовай

Меркаванні Я. Карскага з нагоды паланізмаў у першым томе «Беларусаў» М. Свістунова кваліфікавала як «пачатак навуковага асвятлення ў беларускім мовазнаўстве запазычанай лексікі і непасрэдна паланізмаў» і прыйшла да вываду аб тым, што класік «зафіксаваў наяўнасць паланізмаў, акрэсліў іх прыблізны колькасны і якасны склад, вызначыў прычыны і ўмовы ўзнікнення, а таксама сферы іх функцыянавання» [9, с. 41–42]. Адносна прыведзеных Я. Карскім спісаў паланізмаў даследчыца адзначыла, што «гэта далёка не поўны пералік паланізмаў, якія бытавалі ў беларускай мове пачатку XX ст.» [9, с. 42].

## 1. Прэзентацыя запазычанняў Я. Карскім *vs* у сучасных працах

У першым томе «Беларусаў» Я. Карскі паставіў перад сабой амбіцыйную задачу даць агляд усіх відаў запазычанняў у беларускай мове. Польскія тэмы асэнсоўваліся ў томе ў некалькіх раздзелах. Аглядаючы ў першым раздзеле арэал рассялення беларусаў, са спасылкай на працы Я. Бадуэна дэ Куртэнэ і М. Федароўскага аўтар згадваў у тым ліку «беларуска-польскія» гаворкі захаду Беларусі [6, с. 38]. У другім раздзеле тома коратка абмяркоўваліся дачыненні радзімічаў з ляшскімі плямёнамі [6, с. 82], у трэцім раздзеле дапускалася, што дзеканне і зацвярдзенне *р* маглі ўзнікнуць у беларускай мове пад пэўным польскім уплывам [6, с. 98–99].[1]

У шостым раздзеле тома сярод іншага Я. Карскі сфармуляваў свае меркаванні адносна лёсу паланізмаў у беларускай мове пасля «ўз’яднання Беларусі з агульнарускім жыццём»: яны, на яго думку, страчваліся, замяняючыся агульнарускімі словамі [6, с. 165]. У сёмым і восьмым раздзелах навуковец пракаментаваў меркаванні некаторых сваіх папярэднікаў аб удзеле польскай мовы ва ўтварэнні беларускай мовы і яе развіцці. Дадзенае ў канцэнтраваным выглядзе, прадстаўленне паланізмаў і, шырэй, польскага ўплыву ў пятым раздзеле як у пэўнай меры нагадвае сучаснае, так і істотна адрозніваецца ад яго.

З аднаго боку, падобна да сучасных прац, Я. Карскі пераважна абапіраўся на храналогію запазычвання беларускай мовай розных відаў іншамоўнай лексікі. Украінізмы і літуанізмы, напрыклад, як найбольш старыя запазычанні беларускай мовы былі разгледжаны ім у чацвёртым раздзеле першага тома «Беларусаў» у рамках сюжэта пра канчатковае афармленне беларускай мовы ў Вялікім Княстве Літоўскім, што адпавядала агульнаму храналагічнаму падыходу да выкладання матэрыялу.[2]

[1] У пятым раздзеле працы Я. Карскі, аднак, даў больш строгую версію погляду на ўзнікненне дзекання, у якой уплыў польскай мовы адмаўляўся [6, с. 151–152].

[2] У трэцім раздзеле тома Я. Карскі разгледзеў «найстарэйшыя слоўнікавыя запазычанні» — фінскія і іранскія [6, с. 107–109], якія прыйшлі ў славянскую мову яшчэ

З другога боку, паланізмы таксама належалі да разраду старэйшых запазычанняў, аднак у чацвёртым раздзеле яны не разглядаліся. Паслядоўнасць разгляду Я. Карскім розных разрадаў запазычанняў (украінізмы, літуанізмы, паланізмы, багемізмы, гебраізмы, татарскія словы, кельтызмы, грэцызмы, лацінізмы, румынізмы, гоцкія словы), сам іх рэпертуар і, асабліва, іх ацэнка (найперш паланізмаў) істотна адрозніваюцца ад сучасных прац. Не падобна да сучасных прац пра сучасную беларускую мову, Я. Карскі ў пятым раздзеле разважаў таксама пра фанетычнае і граматычнае ўздзеянне польскай мовы на беларускую.

Калі гаварыць, пра прадстаўленне запазычанняў старабеларускага перыяду, то ў сучасных працах (абапіраемся на «Лексікалогію сучаснай беларускай літаратурнай мовы» 1994 г.) матэрыял разглядаецца ў наступнай паслядоўнасці: паланізмы, лацінізмы, германізмы, грэцызмы, цюркізмы, літуанізмы, царкоўнаславянізмы [8, с. 66–79]. Тут бачым істотную розніцу з тым, якія віды запазычанняў вылучаў Я. Карскі і ў якой паслядоўнасці ён іх разглядаў. Аўтар «Беларусаў» разгледзеў паланізмы толькі ў рамках пятага раздзела, які называўся «Беларусы разам з літоўцамі пад уладай Польшчы. Наплыў розных замежных слоў у беларускую гаворку».[1] У сучасных працах няма процістаўлення адаптаваных і неадаптаваных («шляхецкіх») паланізмаў і г. д. Гэта ўказвае на тое, што з часу Я. Карскага ў асэнсаванні запазычанняў і паланізмаў як іх складовай часткі ў беларускай навуцы адбыліся істотныя змены.

## 2. Навуковыя крыніцы, на якія абапіраўся Я. Карскі

Разглядаючы паланізмы ў шырокім сэнсе, у якіх польская мова выступала ў якасці мовы-пасрэдніцы (трэцяя і чацвёртая групы), Я. Карскі, магчыма, не столькі адштурхоўваўся ад нейкага спісу беларускіх слоў, паходжанне якіх ён меў вызначыць, колькі ішоў услед за наяўнай навуковай літаратурай па славянскай (у першую чаргу польскай) лексіцы, шукаючы ў ёй прыдатны матэрыял для этымалогій беларускіх слоў. Такімі навуковымі крыніцамі для навукоўца былі слоўнік польскай мовы С. Б. Ліндэ, два першыя тамы «Варшаўскага слоўніка», працы Ф. Міклашыча («Этымалагічны слоўнік славянскіх моў», «Чужаземныя словы ў славянскіх мовах», «Турэцкія элементы ў паўднёва-ўсходне- і ўсходнееўрапейскіх мовах»), Я. Карловіча («Слоўнік слоў чужога і менш зразумелага паходжання, што ўжываюцца ў польскай мове»), А. Брукнера («Цывілізацыя і мова»), А. Мацэнаўэра («Чужыя словы ў славянскіх мовах») і інш. Прыводзячы пэўныя словы, аўтар часам даваў спасылкі на крыніцы сваіх ведаў, але часцей абыходзіўся без такіх спасылак.

---

да ўзнікнення беларускай мовы.

[1] Тым не менш пры некаторых словах (*або, абы* і *ажбы, бачыць*) Я. Карскі рабіў пазнакі аб іх асабліва старажытным ужыванні ў беларускай мове.

Так, пры апісанні 290 слоў трэцяй і чацвёртай груп адсылкі на літаратуру ён даў толькі ў 51-м выпадку. Звычайна Я. Карскаму было важна проста пералічыць пэўныя словы; дакладная пашпартызацыя спасылак на канкрэтныя навуковыя працы або абмеркаванне этымалагічных версій не заўсёды ўваходзілі ў яго задачы.

Вылучэнне ўласна паланізмаў было больш цяжкай задачай, чым ідэнтыфікацыя паланізмаў у шырокім сэнсе. У пачатку мінулага стагоддзя этымалогія беларускай лексікі была распрацавана выразна горш за польскую. Акрамя таго, правядзенне міжславянскіх этымалогій у цэлым з'яўляецца больш складанай задачай у параўнанні з вызначэннем у нейкай славянскай мове неславянскіх слоў. Прыступаючы да апісання паланізмаў у вузкім значэнні, аўтар «Беларусаў» не даў ніякага спіса літаратуры, а пры прадстаўленні першай і другой груп (149-ці «чыста польскіх слоў») ён спаслаўся на разгляд гэтых слоў у навуковай літаратуры толькі пяць разоў (пры словах *багна*, *кобета*, *малимонка*, *спрытны* і *шата*) [6, с. 135–136, 138–139].

Пры гэтым у прысвечаным паланізмам раздзеле Я. Карскі цалкам абмінуў у якасці навуковых крыніц папярэднія беларусістычныя працы, у якіх у той або іншай ступені закранался пытанне польска-беларускіх лексічных дачыненняў. Так, ён не выкарыстаў брашуры Ф. Галатузава «Нататкі адносна беларускай гаворкі» 1852 г. і ніводнага разу не спаслаўся на звесткі аб паходжанні розных слоў, дадзеныя ў слоўніку І. Насовіча 1870 г.

Праца Ф. Галатузава фігуравала ў Я. Карскага ў аглядзе літаратуры аб беларускай народнай мове ў сёмым раздзеле тома ў якасці звычайнай бібліяграфічнай крыніцы, аднак як уласна навуковая праца яна разгледжана не была. Сярод іншага, у рамках гаворкі пра складовыя часткі беларускай мовы ў гэтай працы сцвярджалася, што «ў беларускай мове наяўны ў значнай меры элемент польскай мовы»; аўтар таксама прывёў спіс паланізмаў з 65 слоў і звярнуў увагу на ўплыў польскай мовы ў сінтаксісе [2, с. 41–43]. Цікава, што колькасць прыведзеных Ф. Галатузавым паланізмаў адпавядала колькасці паланізмаў, дадзеных у «Беларусах» у першай групе. Аднак гэта выпадковае супадзенне: рыхтуючы сваю манаграфію, аўтар «Беларусаў» яўна не карыстаўся працай «Нататкі адносна беларускай гаворкі». Нягледзячы на тое, што Я. Карскі даў многа шырэйшы спіс паланізмаў у параўнанні з Ф. Галатузавым, у спісе апошняга ёсць словы, адсутныя ў пераліках Я. Карскага.

Што да слоўніка І. Насовіча, то Я. Карскі ставіўся да яго даволі, калі не сказаць, вельмі крытычна і выкарыстаў яго толькі як крыніцу лексічнага матэрыялу, пры гэтым не заўсёды надзейную. На думку аўтара «Беларусаў», І. Насовіч змясціў у слоўніку «мноства незразумелых» або «лішніх слоў, зусім невядомых беларускаму народу, якія ўжываліся дзе-небудзь сярод беларускай шляхты, якая выхоўвалася ў езуіцкіх вучылішчах і духоўных уніяцкіх» [6, с. 165, 213]. Матэрыял для другой групы паланізмаў навуковец узяў менавіта са слоўніка І. Насовіча; ацэньваючы гэты матэрыял, ён напісаў, што

«ўсе такія словы не маюць ніякага дачынення да беларускай народнай мовы» [6, с. 139]. З нагоды таго, што ў слоўніку было дадзена, паводле Я. Карскага, многа лішніх, «шляхецкіх» слоў, пры кароткім разглядзе слоўніка І. Насовіча ў сёмым раздзеле манаграфіі аўтар «Беларусаў» змясціў спецыяльную заўвагу пра тое, што такія словы ў папярэднім пятым раздзеле першага тома «Беларусаў» ён не разглядаў. Папраўдзе, аднак, у гэтым раздзеле у рамках другой і чацвёртай груп аўтара «Беларусаў» прывёў 192 «шляхецкія» паланізмы. Навуковец праігнараваў аматарскія этымалогіі І. Насовіча, у якіх назіралася тэндэнцыя не пазначаць польскага паходжання многіх слоў, змяншаць абсягі нямецкага ўплыву на беларускую мову і, адначасова, павялічваць аб'ём літоўскага ўплыву на яе [5].

Я. Карскі ніяк эксплiцытна не прарэагаваў на меркаванне аб значным польскім уплыве на беларускую мову, выкладзенае ў прадмове да слоўніка І. Насовіча пецярбургскімі акадэмікамі. Ён, аднак, зрабіў гэта няяўным спосабам, неаднойчы выказаўшы ўласную думку аб нязначнасці польскага ўплыву на беларускую народную мову. Напрыклад, прывёўшы паланізмы ў вузкім значэнні, заснавальнік беларускай лінгвістыкі зазначыў, што ў народнай мове іх бытуе «толькі каля 65-ці» [6, с. 139]. У заключэнні разгляду лексікі Я. Карскі напісаў, што ў «звычайным» народным маўленні паланізмаў у слоўніку «параўнальна нямнога» [6, с. 150].

Апісваючы польскі ўплыў у фанетыцы, Я. Карскі быў не схільны выяўляць якія-небудзь рэгулярныя фанетычныя рысы паланізмаў. Зрэшты, ён напісаў пра словы з *дз* і *ц* (*походзае*, *уродзай*), з *ар* замест чаканага *ор* (*взгарда*, *мартвиць*, *парх*, *скарга*), з *іл* замест чаканага *ол* (*вильгота*, *пильноваць*), адзначыў формы з няпоўнагалоссем, аднак падкрэсліў, што падобныя назіранні датычацца «толькі асобных слоў і не сталі абавязковым законам хаця б для малой групы рускіх слоў». У асобных сітуацыях, пісаў Я. Карскі, выкарыстанне слоў з падобнымі фанетычнымі рысамі ўказвала на тое, што моўцы імкнуліся надаць свайму простаму маўленню «больш высакародны каларыт» [6, с. 150–151]. Пішучы пра марфалогію, Я. Карскі сцвярджаў, што выпадкаў польскага ўплыву на жывое маўленне ён «не ведае; наўрад яны ёсць і ў сінтаксісе» [6, с. 153]. У апошнім выпадку навуковец яўна адмаўляў рэальнасць, несумненна, вядомую яму, — калі не з уласных назіранняў, то паводле разгледжаных ім прац іншых даследчыкаў.

Можна дапусціць, што Я. Карскі абмінуў старую працу Ф. Галатузава і слоўнік І. Насовіча як навуковыя крыніцы ў тым ліку таму, што іх сведчанні аб моцным польскім уплыве на беларускую мову (у слоўніку І. Насовіча такая пазіцыя была выказана ў прадмове) ён не прымаў.

## 3. Спосаб ідэнтыфікацыі паланізмаў, узровень этымалагічнага аналізу

Паколькі лексіка ў цэлым не была важным аб’ектам зацікаўлення Я. Карскага, то можна меркаваць, што яго назіранні не грунтаваліся на папярэдняй сістэматычнай працы і моцна залежалі ад ступені распрацаванасці дадзенай тэмы ў наяўнай навуковай літаратуры. Толькі ў асобных выпадках (літуанізмы) навуковец мог абаперціся на грунтоўныя ўласныя папярэднія даследаванні, іншыя лексічныя запазычванні ён апісваў упершыню.

Пры тым, што ва ўводнай па сваім характары працы аўтар мог абмежавацца толькі пэўнымі ўсталяванымі ведамі, у шэрагу выпадкаў ён тым не менш падаў у сваіх спісах і тыя словы, у польскім паходжанні якіх ён сумняваўся. Я. Карскі не ўхіліўся ад абмеркавання спрэчных версій (*азардник*, *гультай*, *куртка*, *кутас*, *маруда*, *махлеваць*, *панчоха*) і часам прапанаваў свае ўласныя (*багна*, *келзаць*, *лик* — *личиць* — *личба*, *мурза*, *стужка*, *цыркаць*, *шарпаць*; *гамбиць*, *гамзаць*, *караскацца*). Пры гэтым некаторыя з гэтых версій маглі дапускаць, што тое або іншае слова ўвогуле не з’яўляецца паланізмам, ні ў вузкім сэнсе (напрыклад, *багна*, *кобета*, *спрытны*), ні ў шырокім (*гвалт*, *клёцки*, *панчоха*). Я. Карскі выразна ўсведамляў, што пытанне аб удзеле польскай мовы ў працэсе асваення беларускай мовай таго ці іншага запазычвання не з’яўляецца простым і двойчы зазначыў, што шэраг нямецкіх або яўрэйскіх слоў маглі быць запазычаны беларускай мовай, мінуючы польскае пасрэдніцтва [6, с. 134, 146].

Згодна з сучаснымі ведамі аб этымалогіі, прадстаўленымі ў «Этымалагічным слоўніку беларускай мовы», некалькі версій Я. Карскага аб польскім паходжанні беларускіх слоў аказаліся неабгрунтаванымі. Так, польскімі запазычаннямі ў беларускай ім былі патрактаваны праславянскія словы *багна*, *вапна*, *глей*, *гуз*, *матуз*. Таксама беспадстаўнымі аказаліся адзінкавыя версіі-сумненні аб няпольскім паходжанні некаторых слоў (напрыклад, *келзаць*). На фоне стану тагачасных этымалагічных даследаванняў гэта вельмі нязначныя пагрэшнасці.

У асобных выпадках можна сказаць, што Я. Карскі неакуратна паставіўся да этымалагізавання некаторых слоў. Напрыклад, пры разглядзе слова *багна*, ён аказаўся ў залежнасці ад выказанай у літаратуры версіі, згодна з якой слова *багна* можна супастаўляць з персідскім *багнá*. У сувязі з гэтым навуковец зацікавіўся найперш верагодным індаеўрапейскім паходжаннем беларускай лексемы, пракаментаваўшы супастаўленне з персідскім словам як верагоднае і прывёўшы літ. *bagná*. У дачыненні да суадносінаў бел. *багна* і пол. *bagno* аўтар «Беларусаў» заўважыў толькі, што можна думаць як аб беларускім запазычанні з польскай, так і аб польскім запазычанні з беларускай. Нягледзячы на тое, што Я. Карскі дадаткова даў спасылку на працу А. Мацэнаўэра, у якой прыводзіўся іншы славянскі (рускі, украінскі, верхнялужыцкі, ніжнялужыцкі)

і неславянскі матэрыял, а таксама сцвярджалася, што слова з такім значэннем хутчэй можа быць незапазычаным, гэты матэрыял і меркаванні пад увагу не былі ўзяты [6, с. 135]. Цікава, што ў некаторых іншых выпадках наяўнасць пэўных слоў у іншых славянскіх мовах трактавалася заснавальнікам беларускай філалогіі цалкам сур’ёзна, на гэтай аснове ён мог рабіць высновы аб магчымым незапазычаным характары некаторых беларускіх слоў (напрыклад, *лик*, *личиць*, *личба*). У выпадку разгляду Я. Карскім лексічных паланізмаў, якімі раней ён не займаўся, у яго натуральным чынам маглі сустракацца асобныя не вельмі акуратныя кваліфікацыі.

## 4. Ацэнкі Я. Карскім меркаванняў сваіх папярэднікаў

Несумненна, для аўтара «Беларусаў» было вельмі важна, што́ ў працах яго папярэднікаў пісалася пра адносіны беларускай мовы з польскай.

У адных выпадках (працы Д. Языкава, Я. Чачота, артыкул неназванага аўтара публікацыі ў газеце «День» у 1863 г.) Я. Карскі, бадай, салідарызаваўся з тымі ці іншымі поглядамі сваіх папярэднікаў. Напрыклад, у развагах Д. Языкава аб беларускай мове аўтару «Беларусаў» спадабалася заўвага аб тым, што беларуская мова папраўдзе зазнала меншы ўплыў з боку польскай, чым звычайна думаюць [6, с. 183]. У працах Я. Чачота ён звярнуў увагу на тое, што нібыта ўкладальнік «Вясковых песенек…» сцвердзіў, што беларускі народ зближаецца з польскім толькі дзякуючы дзеканню [6, с. 187].

Меркаванні некаторых аўтараў (В. Сопікава, Я. Бадуэна дэ Куртэнэ) Я. Карскі пракаментаваў нейтральна [6, с. 324, 366].

У іншых выпадках каментары былі, бадай, паблажліва-апраўдальныя. Так, з нагоды выразна супярэчлівых і часткова незразумелых з пункту гледжання вучоных пачатку XX ст. заўваг аб беларускай мове Я. Балхавіцінава, выказаных у пачатку XIX ст., Я. Карскі адзначыў толькі, што «польскі і літоўскі (беларускі) элементы ў заходнерускай гаворцы асабліва кідаліся ў вочы мітр. [апаліту] Яўгенію, вядома, у параўнанні з тагачаснай славена-расійскай літаратурнай мовай» [6, с. 181][1].

---

[1] Гэта быў каментар да наступных меркаванняў Я. Балхавіцінава: «Беларуская, з XIV стагоддзя ўтварылася ў Полацку і Смаленску са змяшэння славенарускай мовы з польскай і літоўскай… Беларуская была мовай двраякай, кніжнай і народнай. Кніжная перайшла і ў Кіеў, для кніг жа; але там народная мова і дагэтуль польска-славянская. Але беларуская (г. зн. пачынаючы ад Смаленска к Мінску і наогул у беларускіх губернях — Віцебскай і Магілёўскай) — народная мова была і ёсць маскоўска-польская з літоўскім вымаўленнем» [6, с. 181].

Думкі некаторых аўтараў XVII — канца XVIII стст. (Ю. Крыжаніча, І. Штрытэра) Я. Карскі працытаваў, але пакінуў без каментароў — незалежна ад таго, што часам яны маглі быць вельмі спецыфічнымі [6, с. 323].[1]

У іншых выпадках пэўныя меркаванні некаторых навукоўцаў (Ё. Х. Адэлунга, К. Калайдовіча, Ф. Галатузава, М. Палявога) пра польска-беларускія дачыненні заснавальнікам беларускай лінгвістыкі не былі працытаваны і абмеркаваны [6, с. 179–180, 325, 192].

Часам складана вызначыць дакладныя адносіны Я. Карскага да таго або іншага меркавання таго або іншага аўтара. Так, напрыклад, з нагоды вельмі крытычнага выказвання В. Бадзянскага аб старой пісьмовай беларускай мове («самая агідная сумесь, якую толькі можна сабе ўявіць») навуковец зазначыў, што такое суджэнне «вельмі рэзкае» [6, с. 326]. Падобная ацэнка не вельмі зразумелая ў святле той акалічнасці, што Я. Карскі сам называў старую беларускую літаратурную мову перыяду Рэчы Паспалітай «уродлівай» [6, с. 134], а яе выхад з ужытку трактаваў як яе «натуральную гібель», абумоўленую яе «крайніх межаў штучнасцю» і «перараджэннем» [6, с. 277–278].

Нарэшце, былі выпадкі, калі ці то з нагоды агульнага зместу выказвання пэўнага навукоўца, ці то з нагоды нейкіх яго асобных меркаванняў або выкарыстаных ім практык ацэнка Я. Карскага была выразна крытычнай. Так, напрыклад, аўтар «Беларусаў» яўна не падзяляў думкі С. Б. Ліндэ аб тым, што беларуская мова ўяўляла сабой «дыялект, вельмі набліжаны да польскай мовы». Аўтар «Беларусаў», несумненна, не адабраў і «старанняў» С. Б. Ліндэ «знайсці ў беларускай мове паболей польскіх слоў» [6, с. 324]. «Цьмянымі» ён лічыў меркаванні пра беларускую мову М. Грэча, які сярод іншага пісаў, што беларуская мова «складалася са слоў царкоўнаславянскіх, польскіх, лацінскіх»; «несур'ёзнай» аўтар «Беларусаў» назваў спробу М. Грэча называць «беларускай» адну з разнавіднасцей рускай літаратурнай мовы 1830-х, культываваную ў часопісе «Библиотека для чтения» [6, с. 184]. Як чалавек, заклапочаны дакладнасцю пісьмовай фіксацыі беларускіх народных твораў, ён несумненна крытычна паставіўся да практыкі змяншэння польскага ўплыву на беларускую мову, выяўленую пры выданні зборніка беларускіх песень П. Бяссонава [6, с. 210]. Я. Карскі лічыў, што ў апублікаваных запісах М. Дзмітрыева былі ў наяўнасці неўласцівыя беларускай мове рускія і польскія рысы [6, с. 207].

Не ва ўсіх выпадках ацэнкі Я. Карскага былі аб'ектыўнымі і паслядоўнымі. Напрыклад, яўна тэндэнцыйна ён ацаніў меркаванні наконт дачыненняў з

---

[1] Напрыклад, Я. Карскі пакінуў без каментара меркаванне Ю. Крыжаніча аб тым, што «беларусы» сказілі сваю мову на польскі лад; што ў беларускіх кіеўскіх кнігах сустракаецца «многа такіх скажэнняў і агіднасцей, якія нельга чытаць без агіды і ванітаў» [6, с. 323].

беларускай мовай польскай мовы С. Б. Ліндэ [3]. У асобных выпадках фактычна падобным выказванням розных навукоўцаў аўтар «Беларусаў» даў неаднолькавыя ацэнкі. Так, напрыклад, уклад у беларусістыку В. Сопікава (праца 1813 г.), у рамках якога мясцілася выказванне аб тым, што беларуская мова ўяўляла сабой сумесь «славенскай, рускай, польскай, а часткова і лацінскай» моў, Я. Карскі ацаніў станоўча [6, с. 323–324]. А фактычна падобная ацэнка М. Грэча 1822–1830 гг. (гл. вышэй), якая да таго ж у значнай меры наследавала выказванню В. Сопікава, аўтарам «Беларусаў» была кваліфікавана выключна крытычна [6, с. 184].

## 5. Амбівалентнасць прадстаўлення і ацэнак Я. Карскім паланізмаў

У адпаведнасці з установкамі расійскай навукі другой паловы XIX ст. Я. Карскі трымаўся меркавання, што беларуская мова была часткай рускай мовы. Аднак у гэтых рамках яму было важна падкрэсліваць яе асаблівы характар. Прынцыповымі ён лічыў пазіцыі, згодна з якімі чужаземны ўплыў у старой беларускай («заходнярускай») мове толькі ў нязначнай ступені закрануў фанетыку і марфалогію, а падчас узнікнення беларускай мовы яе асаблівасці развіліся самастойна, без пасрэдніцтва суседзяў [6, с. 336]. У 1893 г. адпаведныя тэзісы (восьмы і дзявяты) ён вынес на магістарскі дыспут. Сам факт таго, што ў «Беларусах» было выдзелена вельмі многа месца на апісанне разнастайных відаў запазычанняў беларускай мовы, мог трактавацца сучаснікамі так, што нібыта Я. Карскі разглядаў беларускую мову як самастойную. Уласна кажучы, так і было.

У сувязі з установкай падкрэсліваць самастойны статус беларускай мовы прымяняльна да «канстытутыўнага» перыяду гісторыі беларускай мовы, у чацвёртым раздзеле першага тома «Беларусаў» аўтар не толькі не напісаў пра моцны, але і пра любы польскі ўплыў на беларускую мову. Згодна з гэтай тэндэнцыяй, пра запазычанні з літоўскай і яўрэйскай моў таксама гаворыцца, што іх было вельмі мала [6, с. 121, 155]. А ў пятым раздзеле Я. Карскі ў «заспакойвальным» тоне ацаніў колькасць паланізмаў у сучаснай беларускай мове: «у народным беларускім маўленні, якое дайшло да нас, паланізмаў <…> не так многа» [6, с. 134].

З аднаго боку, падобныя ацэнкі ўяўляюць сабой праявы процістаяння Я. Карскага пашыранаму ў тагачаснай і, асабліва, ранейшай расійскай навуцы падыходу да беларускай мовы, згодна з якім яна лічылася «празмерна» насычанай паланізмамі або ўсяго толькі «сумессю» тых або іншых моў, адной з якіх была польская. З другога боку, такія ацэнкі працягвалі традыцыю (яе яркім прадстаўніком быў І. Насовіч), згодна з якой аб’ём польскага ўплыву на беларускую мову падаваўся ніжэйшым, чым ён быў напраўдзе.

Я. Карскі яўна дбаў аб прагрэсе ўспрымання беларускай мовы ў вачах расійскіх лінгвістаў, які мог залежаць ад таго, наколькі «рускай» або «польскай» падавалася беларуская мова. У сувязі з гэтым моцны польскі ўплыў на беларускую мову ён трактаваў негатыўна і прызнаваў яго толькі ў дачыненні да яе гісторыі. З-за ўздзеяння польскай мовы, піша навуковец, у часы Рэчы Паспалітай беларуская мова стала «вельмі штучнай і ўродлівай», а яе літаратурная разнавіднасць «стала на шлях паступовага яе выцяснення польскай мовай» [6, с. 134]. У згодзе з уяўленнямі мовазнаўцаў XIX ст. пра лёсы розных моў, Я. Карскі лічыў, што першапачаткова беларуская мова бытавала ў «чыстым» выглядзе [6, с. 133–134], аднак пазней, у перыяд інтэнсіўнага прытоку запазычанняў, «перарадзілася» [6, с. 277]. У духу лінгвістыкі свайго часу аўтар «Беларусаў» выключнае значэнне надаваў «натуральнаму», «аўтэнтычнаму» стану мовы, які ён знаходзіў адзіна ў рамках народнай мовы. Іншыя яе разнавіднасці — напрыклад, «шляхецкую» або літаратурную мову — ён лічыў нелегітымнымі.

Адстойваючы ў вачах сваіх чытачоў самабытную, не падобную да расійскай, версію беларускай мовы, у выніковых сваіх ацэнках адносна сучаснага стану мовы насуперак вымогам аб'ектыўнасці Я. Карскі, з аднаго боку, не толькі змяншаў, але і ледзь не адмаўляў польскі ўплыў на беларускую мову. Гэта ў значнай ступені былі аўтарытарныя ацэнкі навукоўца, які атрымаў прызнанне ў расійскай навуцы як кваліфікаваны даследчык беларускай мовы і мог дазволіць сабе фармуляваць «правільныя» (згодна з сучаснай тэрміналогіяй, «паліткарэктныя») ацэнкі на гэты конт.

З другога боку, будучы ў значнай ступені аб'ектыўным вучоным, аўтар «Беларусаў» шырока задакументаваў польскае ўздзеянне на беларускую мову. Сукупная колькасць прыведзеных ім паланізмаў (439) моцна перавышае колькасць разгледжаных запазычанняў любых іншых разрадаў (літуанізмаў — 77, татарскіх слоў — 55, гебраізмаў — 39) і складае дзве трэці ўсіх разгледжаных ім запазычанняў. Я. Карскі ўключыў пэўныя словы ў лік паланізмаў нават тады, калі ён сумняваўся, ці папраўдзе яны з'яўляюцца такімі (напрыклад: *багна*, *кобета*, *караскацца*, *келзаць*, *лик*, *личыць*, *личба*, *спрытны*, *стужка*, *цыркаць* і інш.), у тым ліку некаторыя такія, якія, як сам падкрэсліваў, «толькі з-за аднолькавага ўтварэння» супадалі з польскімі словамі (*або*, *абы* і *ажбы*). Для параўнання: у слоўніку І. Насовіча 1870 г. як паланізмы аўтарам былі пазначаны ўсяго толькі шэсць (*sic!*) слоў [1, с. 61]. Нават адмаўляючы наяўнасць паланізмаў у народнай мове, класік часам фармуляваў свае думкі такім чынам, што з іх была відаць значнасць польскага ўплыву на беларускую мову, параўн.: «варта здзіўляцца, што ў народным беларускім маўленні, якое дайшло да нас, паланізмаў яшчэ не так многа, як можна было б чакаць,назіраючы хаця б літаратурнае заходнярускае маўленне XVII–XVIII стагоддзяў» [6, с. 134].

## 6. Вылучэнне шляхецкай версіі беларускай мовы

Як відаць з вышэй прыведзенага, поруч з народнай версіяй беларускай мовы, якую Я. Карскі трымаў за ўласна беларускую мову, нямала ўвагі ён ўдзяліў таксама паланізмам, якія не сягнулі па-за рамкі шляхецкага ўжывання і не трапілі ў «звычайнае» народнае маўленне. У гэтых адносінах ён у некаторай ступені кіраваўся дадзенымі слоўніка І. Насовіча, які пры пэўнай, адносна невялікай, колькасці колькасці слоў пазначыў, што яны ўжываюцца ў асяроддзі шляхты. Яшчэ большую колькасць «шляхецкіх» слоў, на думку заснавальніка беларускай філалогіі, І. Насовіч уключыў у слоўнік без такіх пазнак. Заўвага аб ужыванні паланізмаў сярод шляхты была змешчана і ў прадмове рэдактараў-акадэмікаў да слоўніка І. Насовіча. З гэтых заўваг відаць сацыяльнае расслаенне беларускай мовы канца XIX ст. Калі, аднак, у слоўніку і. Насовіча пазнакі аб шляхецкім характары тых або іншых слоў былі нейтральнымі, то для Я. Карскага нейтральным было толькі «звычайнае» народнае маўленне. З аднаго боку, аўтар «Беларусаў» згадваў і адносна падрабязна апісваў паланізмы ў шляхецкім маўленні (у вылучаных ім другой і чацвёртай групах паланізмаў ён прывёў 192 словы). З другога боку, у сваіх ацэнках і кваліфікацыях Я. Карскі фактычна выводзіў шляхецкае маўленне за рамкі беларускай мовы.

Існаванне шляхецкай версіі беларускай мовы можна абвяргаць, грунтуючыся на пэўных метадалагічных падставах. У многіх выпадках было складана (калі не сказаць, немагчыма) дакладна вызначыць, наколькі шырока ўкараніўся ў розных разнавіднасцях беларускай мовы той або іншы паланізм. Несумненна, мяжа паміж шляхецкай версіяй беларускай мовы і народнай была лепш адчувальнай у тых выпадках, калі пад народнай версіяй разумелася толькі маўленне праваслаўнай часткі вясковага насельніцтва. У тых выпадках, калі параўнанне здзяйсняецца паміж шляхецкім маўленнем і маўленнем вясковага каталіцкага насельніцтва, правесці рэальную мяжу магло быць вельмі складана. Несумненна, Я. Карскі гэтыя і падобныя складанасці добра ўсведамляў і ў некаторых выпадках указваў на дзвюхмоўных носьбітаў беларускай мовы. так, пішучы ў першым раздзеле пра жыхароў Сувалкскай губерні, ён указваў, што, бывае, «беларусы-каталікі з інтэлігентным тварам тут стараюцца гаварыць па-польску; але дамашняй ужытковай мовай служыць чыста беларуская, з некаторым толькі запасам паланізмаў у слоўніку» [6, с. 37]. Аднак у пачатку XX ст. пара для сацыялінгвістычных даследаванняў яшчэ не прыйшла. Пазнейшая гісторыя паказала, што многія, патрактаваныя заснавальнікам беларускай лінгвістыкі як шляхецкія, словы сталі адзнакамі літаратурнай мовы, напрыклад: *авантура*, *аксамітка*, *амбарас*, *ахмістрыня*, *бамбіза*, *банкрут*, *бунт ‘звязак’*, *вабіць*, *вандраваць*, *вэрхал*, *віншаваць*, *войт*, *выжал*, *груба*, *дашчэнту*, *кавэнчыцца*, *караскацца*, *кукса*, *лямец*, *лярва*, *мантач*, *піскля*, *постаць*, *поўраз*, *рабаваць*, *раптам*, *рацыя*,

*слота*, *стрэнчыць*, *сцізорык*, *тапчан*, *фэст*, *шал*, *шата*, *шкарпэтка*, *шпацыр*, *шпік*, *эканом* і інш. На жаль, у наступных працах і сам Я. Карскі, і іншыя даследчыкі ўдзялялі недастаткова ўвагі сацыяльнаму расслаенню беларускай мовы пачатку XX ст., дзе, на нашу думку, было месца і для шляхецкай разнавіднасці беларускай мовы. Сярод іншага такая няўвага мела наступствам некаторыя нездавальняючыя кваліфікацыі адносна спецыфікі фарміравання беларускай літаратурнай мовы гэтага часу, пра якія мы будзем пісаць у будучых нашых публікацыях.

## 7. Заключэнне

Прадстаўленне запазычанняў і найперш паланізмаў у трактоўцы Я. Карскага было абумоўлена станам тагачаснай навукі, яго поглядамі на беларускую мову і яе гісторыю, а таксама на дачыненні беларускай мовы з польскай. Мелі значэнне таксама разуменне Я. Карскім таго месца, якое займала сярод розных разнавіднасцей народная мова, уводны характар першага тома «Беларусаў» да запланаванага больш спецыяльнага асвятлення гісторыі беларускай мовы, дыскурс аб беларускай мове ў тагачаснай расійскай лінгвістыцы і інш. У духу лінгвістыкі XIX ст. навуковец надаваў перабольшанае значэнне той акалічнасці, што на працягу сваёй гісторыі беларуская мова зведала перыяды інтэнсіўнага замежнага ўплыву. Меркаванні Я. Карскага аб паланізмах, засяроджаныя пераважна на іх ідэнтыфікацыі і іх ужывальнасці ў народнай і шляхецкай разнавіднасцях беларускай мовы, не могуць параўноўвацца з сучаснымі даследаваннямі, якія ў сукупнасці высвятляюць намнога шырэйшае кола пытанняў. Аднак аўтар «Беларусаў» адным з першых зрабіў спробу выявіць усе паланізмы ў беларускай мове і правёў іх класіфікацыю згодна з пэўнымі крытэрыямі. Несумненнымі заслугамі аўтара былі апора на навуковую літаратуру, увядзенне даследавання беларускай мовы ў шырэйшы славістычны і, часам, індаеўрапейскі кантэкст.

У сваіх выказваннях пра паланізмы Я. Карскі быў відавочна супярэчлівы. З аднаго боку, ён прызнаваў значны польскі лексічны ўплыў у рамках старабеларускага перыяду, прывёў небывала вялікія спісы паланізмаў сучаснай мовы і тым самым задакументаваў значны ўплыў польскай мовы на беларускую ў галіне лексікі. З другога боку, у духу школы «заходнерусізму» ён лічыў польскі ўплыў на беларускую мову непажаданым і часовым; аўтар «Беларусаў» адмаўляў яго наяўнасць у рамках сучаснай яму народнай мовы, якую ён лічыў адзінай прымальнай формай беларускай мовы. Я. Карскі прыпісваў значнае польскае ўздзеянне толькі шляхецкаму варыянту беларускай мовы.

## Літаратура

1. Гапоненка, І. А. Лексіка беларускай літаратурнай мовы XIX — пачатку XX ст. Асаблівасці станаўлення і развіцця / І. А. Гапоненка. — Мінск: БДУ, 2012. — 307 с.

2. Голотузов, Ф. Заметки касательно белорусского наречия / Ф. Голотузов // Беларускае мовазнаўства / уклад. М. Р. Прыгодзіч. — Мінск: БДУ, 2006. — С. 18–48.
3. Запрудскі, С. Беларусістычныя зацікаўленні Самуэля Багуміла Ліндэ / С. Запрудскі // Droga ku wzajemności. 50 lat białorutenistyki na Uniwersytecie Warszawskim. Redakcja naukowa Mikołaj Timoszuk i Mikołaj Chaustowicz. (Acta Albaruthenica 6). — Warszawa, 2007. — S. 382–395.
4. Запрудскі, І. М. Гісторыя беларускай літаратуры другой паловы XIX стагоддзя: асобы і творчыя лёсы / І. М. Запрудскі. — Мінск: БДУ, 2018. — 167 с.
5. Запрудскі, С. «Сербскі слоўнік» Вука Караджыча і «Слоўнік беларускай мовы» Івана Насовіча: падабенствы і адрозненні / С. Запрудскі // Зборник Матице Српске за славистику. — 93. — 2018. — С. 127–144.
6. Карский, Е. Ф. Белорусы: в 3 т. Т. 1. Введение в изучение языка и народной словесности / Е. Ф. Карский. — Минск: Беларуская энцыклапедыя, 2006. — 656 с.
7. Курцова, В. М. Прадмова да першага тома працы Я. Ф. Карскага «Беларусы» / В. М. Курцова, А. У. Унучак, І. У. Чаквін // Карский Е. Ф. Белорусы: в 3 т. Т. 1. Введение в изучение языка и народной словесности. — Минск: Беларуская энцыклапедыя, 2006. — С. 15–30.
8. Лексікалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы / рэд. А. Я. Баханькоў. — Мінск: Навука і тэхніка, 1994. — 463 с.
9. Свістунова, М. І. Вывучэнне паланізмаў у беларускім мовазнаўстве і стаўленне да іх (XIX ст. — 1930-я гг.) / М. І. Свістунова // Часопіс Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Філалогія. — 2017. — № 2. — С. 39–49.

**Ядвіга Казлоўская-Дода**
(Універсітэт імя Марыі Складоўскай-Кюры,
Люблін, Польшча)

# РАЗУМЕННЕ ТЭКСТУ Ў БЕЛАРУСКІМ ФІЛАЛАГІЧНЫМ ДЫСКУРСЕ[1]

## Уступ

Беларускія мовазнаўцы працяглы час кіруюць сваю ўвагу да рознага тыпу тэкстаў. На матэрыяле рукапісных і друкаваных рэлігійных, афіцыйна-дзелавых, мастацкіх твораў XIV–XVIII стст. гісторыкі мовы вывучаюць помнікі старабеларускай пісьменнасці; празаічныя і вершаваныя

[1] Аўтарам не разглядаецца паняцце *дыскурсу* як сіноніма тэксту. У дадзеным загалоўку *дыскурс* належыць разумець як ‘абарот, абіход’.

тэксты XIX ст. — крыніца лінгвістычных пошукаў пра новую літаратурную беларускую мову; дакументы справаводства, навуковыя і публіцыстычныя артыкулы, мастацкія творы, запісы гутарковага маўлення — матэрыял для стылістычнага аналізу. Акрамя таго, тэксты запісаў дыялектнага маўлення — гэта яшчэ і прадмет дыялекталогіі.

Ніхто не будзе пярэчыць факту, што простыя і разбудаваныя тэксты суправаджаюць чалавека ў моўнай супольнасці ад самага маленства: штодзённа яму спадарожнічае моўная плынь бацькоў, сваякоў, суседзяў, у выніку чаго дзіця пачынае засвойваць іх мову не як асобныя словы. Яшчэ ў дашкольным узросце яно безупынна чуе мову блізкіх — чуе менавіта тэксты, вучыцца іх разумець, паступова пачынае запамінаць і выкарыстоўваць у маўленні, спачатку — кароткія і менш складаныя, а з цягам часу — усё больш развітыя, інфарматыўныя і вобразныя; памыляецца і само выпраўляе свае памылкі. Калі ж звернемся да падручнікаў па мове, то выявім, што традыцыйна ўводзіцца спачатку гукавая характарыстыка мовы, падзел лексічнага складу на часціны мовы, іх словазмяненне і словаўтварэнне (марфалогія), падаецца інфармацыя пра словазлучэнне і сказ (сінтаксіс), тэксту ж не ўдзяляецца належнай увагі. У традыцыйным структурным падыходзе тэкст — гэта матэрыял для вывучэння асобных раздзелаў мовазнаўства.

Пра тое, што падыход да тэксту на ўзроўні вышэйшай філалагічнай адукацыі нязначна змяніўся, сведчыць між іншым, новы спецкурс, які з'явіўся ў беларускіх ВНУ ў 70-я гады XX ст. пад назвай «Лінгвістычны аналіз мастацкага тэксту»[1]. Лінгвістычны аналіз, побач з літаратуразнаўчым[2], стылістычным[3] і тэксталагічным[4], меў быць скіраваны, паводле вышэй згаданага курсу, на ўсё, што «звязана з семантыкай моўных элементаў, своеасаблівым іх ужываннем» [67, с. 25]. У 90-я гг. XX ст. шмат увагі лінгвістыцы тэксту прысвяціў славіст Адам Супрун [120], беларусіст Браніслаў Плотнікаў [97]. Апошнія змены ў адносінах да тэксту можна было назіраць між іншым на міжнароднай навуковай канферэнцыі на тэму «Тэкст у мове, маўленні, культуры», г. зв. X Супрунprofessional чытанні, праведзенай ў БДУ 4–5 лістапада 2016 г., падчас якой узнімаліся пытанні структуры фальклорнага тэксту (Талстая С. М.), культурнага фона тэксту (Корына Н.), этымалогіі слова як тэксту (Якубовіч М.), рэкламных тэкстаў (Важнік С.); закраналіся на ёй таксама

---

[1] Пазнейшая назва «Лінгвістычны аналіз тэксту» [67, с. 5–7].

[2] «Г. зн. разгляд праблематыкі, ідэйнага зместу, вобразаў, кампазіцыі, сюжэта, ацэнка твора як факта гісторыі і грамадскай думкі» [67, с. 5].

[3] Задача стылістычнага аналізу — «вызначэнне асаблівасцей аўтарскага стылю, прыёмаў індывідуальна-аўтарскага выкарыстання моўных сродкаў» [67, с. 31].

[4] «Тэксталагічны аналіз — гэта параўнанне розных рэдакцый аднаго і таго ж твора, аўтарскіх чарнавікоў, рукапісаў» [67, с. 14].

іншыя не менш цікавыя аспекты тэксту. Як вынікае з праграмы канферэнцыі, у яе межах разглядаліся не толькі вербальныя творы [101].

«Доўгі час лічылася, — заўважаюць Ежы Бартміньскі і Станіслава Небжэгоўска-Бартміньска, — што апісанні граматыкі мовы [якой-н. мовы — *Я. К.-Д.*] не могуць выйсці па-за межы сказа, паколькі менавіта на самых нізкіх узроўнях функцыянуюць выразныя правілы (…)» [6, s. 37]. Сёння, абмежаванне толькі да фанетыкі (з адзінкай *гук*), марфалогіі (адпаведна — *марфема*), лексікалогіі і фразеалогіі (*слова* і *фразеалагізм*) і сінтаксісу (*словазлучэнне* і *сказ*), лічыцца недастатковым. Усё больш мовазнаўцаў прытрымліваецца думкі, што над прыведзеным шэрагам моўных узроўняў знаходзіцца вышэйшы — тэкставы, які таксама характарызуецца сваімі правіламі (сінтаксічнымі, семантычнымі, інш.). Гэты ўзровень — накшталт іншых — мэтазгодным было б назваць тэксталогіяй (з адзінкай — *тэкст / выказванне*) [6, s. 37]. Польскія даследчыкі, абапіраючыся на ўведзенае Фердынандам дэ Сасюрам адрозненне абстрактнай моўнай сістэмы (фр. *langue*) ад рэальнага выкарыстання мовы ў канкрэтных выказваннях (фр. *parole*), суадносяць яго таксама з тэкставым ўзроўнем і прапануюць распазнаваць тыпы структуры тэкстаў, абстрактныя мадэлі тэкстаў (тэкстэм), падобна да таго, як адрозніваем канкрэтныя гукі, словы, сказы, з аднаго боку, і агульныя абстрактныя адзінкі: фанемы, марфемы, лексемы і мадэлі сказаў, з другога [6, s. 39–40].

Усё часцей тэкстамі цікавяцца не толькі філолагі, у сучасным свеце да іх «звяртаюцца прэсазнаўцы, спецыялісты ў галіне масмедый, рэкламы, тэатра, а таксама сацыёлагі, псіхолагі і палітолагі; з даўніх часоў праблемамі тэксту займаліся бібліісты і перакладчыкі» [6, s. 11]. Сёння, прынамсі ў польскай школьнай адукацыі, не раздзяляецца філалагічны падыход да тэксту на мовазнаўчы і літаратуразнаўчы, наадварот абодва яны інтэграваны — маецца адзіны школьны прадмет «*польская мова*» без падзелу на мову і літаратуру, а праграма на ўсіх узроўнях адукацыі «тэкстацэнтрычная» [6, s. 11].

## Мэта даследавання, метадалогія

Мэтай гэтага артыкула з’яўляецца агляд лексікаграфічных крыніц, а таксама тэрміналагічных слоўнікаў з пункту гледжання разумення паняцця *тэкст* спецыялістамі — асобамі, якія прафесійна займаюцца беларускай мовай, культурай, літаратурай. Карысна, на нашу думку, было б звярнуцца да разумення тэксту і звычайнымі карыстальнікамі беларускай мовы, але межы артыкула не дазваляюць гэтага зрабіць. Аўтары польскай «Тэксталогіі», «натхнёныя сучаснай антрапалагічна-культурнай і кагнітыўнай лінгвістыкамі (якія выйшлі па-за традыцыйныя межы структуралізму і заняліся даследаваннем моўнай карціна свету, суб’екта — аўтара выказвання, мэты выказвання, пункту гледжання і перспектывы суб’екта, прафілявання базавых стэрэатыпных уяўленняў у розных ідэалагічных публічных дыскурсах) — кіруюцца ў напрамку інтэграванага падыходу» (без падзелу на літаратуразнаўчы і лінгвістычны)»

[6, s. 12]. Яны «сістэматычна звяртаюцца да натуральнай гутарковай маўленчай практыкі і наіўных ведаў пра тэксты» [6, s. 12]. Вартасць наіўных ведаў пра навакольны свет ацанілі таксама спецыялісты ў галіне метадалогіі гуманітарных навук. Паводле прынцыпаў львоўска-варшаўскай лагічнай школы ў працэсе стварэння навуковых тэрмінаў павінен улічвацца «наіўны» (звычайны) спосаб разумення адпаведных слоў. Як сцвярджаў філосаф Тадэвуш Паўлоўскі, «пераўтварэнне недасканалых звыклых ведаў у навуковыя веды» — гэта адзін з важных пастулатаў развіцця навукі [15, s. 145].

У аналізе выкарыстана метадалогія люблінскай этналінгвістычнай школы, вядомая як кагнітыўная дэфініцыя [параўн.: 2–5].

## Лексікаграфічныя дадзеныя

Зыходным пунктам для нашых разваг будуць лексікаграфічныя працы мовазнаўцаў: гістарычныя, этымалагічныя, тлумачальныя, сінанімічныя і іншыя слоўнікі.

**Гісторыя ўжывання.** Назоўнік *тэкст* фіксуе «Падручны гістарычны слоўнік субстантыўнай лексікі» [91]. На наш погляд, у прадмове слоўніка пазначана істотная інфармацыя, менавіта: слоўнік змяшчае «шырокаўжывальную частку зарэгістраваных у картатэцы назоўнікаў, якая выконвала ў старабеларускі перыяд камунікатыўную функцыю. Не падаюцца словы вузкага пераважна кніжнага ўжытку <…>, а таксама іншамоўныя ўкрапванні <…>, што трапляюцца ў перакладных творах і захаваны для пэўных стылістычных мэт» [91, т. 1, с. 3]. Загалоўнае слова *текстъ* ‘тэкст’ ілюструецца наступным прыкладам: реч ... так то правдиваꙗ ꙗк текстъ єѵглии (Зборнік павучанняў пачатку XVII ст. / рукапіс Бібліятэкі Акадэміі навук Літвы) [91, т. 2, с. 365]. Трэба меркаваць, што першапачаткова *тэкст* разумелі як ‘фрагмент Бібліі’. Дарэчы, у слоўніку польскай мовы Багуслава Ліндэ зафіксавана тагачаснае значэнне лексемы *tekst* ‘словы, якія запісаны, галоўным чынам, фрагменты Святога Пісання’, а таксама юрыдычныя прыгаворы [13, t. 5, s. 662].

**Этымалогія.** Слова *тэкст* у беларускай мове — гэта, безумоўна, запазычанне. Паходзіць, як адзначае Аляксандр Булыка ў «Слоўніку іншамоўных слоў», ад лац. *textum* = сувязь, злучэнне — ‘тое, што напісана або надрукавана (напр. *тэкст рамана*, *тэкст дакумента*)’; ‘асноўная частка напісанага або надрукаванага без падрадковых заўваг, спасылак, каментарыяў’; ‘словы, на якія напісана музыка (напр. *тэкст песні*); друкарскі шрыфт, кегель якога роўны 20 пунктам (7,52 мм)’ [31, т. 2, с. 502].

У слоўніку знойдзем і словаўтваральныя дэрываты:

***Тэксталогія*** (ад *тэкст* + *-логія*) — раздзел філалогіі, які займаецца ўстанаўленнем дакладнага тэксту літаратурных помнікаў і гістарычных дакументаў для іх далейшага даследавання і навуковага выдання.

***Тэкстолаг*** (ад *тэксталогія*) — спецыяліст у галіне тэксталогіі.

***Тэкстуальны*** (ад *тэкст*) — які дакладна, літаральна передае тэкст; даслоўны [31, т. 2, с. 502].

***Кантэкст*** (лац. *contextus* = злучэнне сувязь) закончаная ў сэнсавых адносінах частка тэксту, якая дазваляе ўдакладніць значэнне кожнага слова, што ў яго ўваходзіць [31, т. 1, с. 600–601].

Аўтары «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы» мяркуюць, што назва *тэкст* магла быць запазычана непасрэдна з лац. *tekstus*, але лічаць, што больш верагодным з'яўляецца польскае пасрэдніцтва, у тым ліку і для рус. *текст* [135, т. 14, с. 322][1].

**Тлумачальныя слоўнікі.** Параўнаем азначэнні, змешчаныя ў трох слоўніках, выдадзеных у 70–90 гг. XX ст., разлічаных на шырокае кола чытачоў (усіх, хто цікавіцца беларускай мовай), і цытаты, што маюць месца ў «аднамоўным слоўніку з тлумачэннем слоў пры дапамозе прыкладаў іх выкарыстання», складзеным для навучэнцаў, якія засвойваюць беларускую мову як замежную (пач. XXI ст.):

**ТСБМ Баханькоў і інш. (1969/1990)** тлумачыць *тэкст* як 'тое, што напісана або надрукавана; частка моўнай плыні' (напр. *запісаць тэкст казкі*); 'два ці некалькі сказаў, звязаных паміж сабой па сэнсу ці з дапамогай якіх-н. моўных сродкаў' [125, с. 349].

**ТСБМ Крапіва (1977–1984)** падае наступныя дэфініцыі слова, якое нас цікавіць: *тэкст* **1.** 'тое, што напісана або надрукавана, напісаныя або сказаныя кім-н. словы, якія можна ўзнавіць, паўтарыць у тым жа выглядзе: *Запісаць тэкст казкі; З многіх паправак, зробленых рукой К. Чорнага на тэксце другога варыянта «Ірынкі», відаць, як шмат працаваў аўтар над гэтай драмай* (Кудраўцаў); *Выдаючы біблейскія тэксты, доктар лекарскіх і свабодных навук клапаціўся аб пашырэнні і ўдасканаленні асветы* (С. Александровіч); *Валя дрыжачымі пальцамі выняла з канверта ліст і ўпілася вачыма ў надрукаваны на машынцы тэкст* (Карпаў) // 'урывак з якога-н. твора славеснасці, прызначаны звычайна для навучальнай мэты: *Чытанне лацінскіх тэкстаў; Пераклад англійскага тэксту*. **2.** 'пісьмовы дакумент, акт і пад. у адрозненне ад заўваг, каментарыяў да яго' // 'асноўная частка набору без падрадковых заўваг, спасылак і пад.: *набраць тэкст корпусам, а зноскі петытам; зноска пад тэкстам*'. **3.** 'словы, на якія напісана музыка: *раманс Чайкоўскага, тэкст Фета; тэкст песні*'. 4. (спец.) 'шрыфт буйнога памеру (каля 8 мм). [ад лац. *textum* — сувязь, злучэнне] [126, т. 5, кн. 1, с. 571–572].

---

[1] Слоўнік падае наступную дэфініцыю: 'тое, што сказана, напісана або надрукавана і звязана сэнсам' [135, т. 14, с. 322]. Безумоўна, дэфініцыя загалоўнага слова не з'яўляецца галоўнай мэтай этымалагічнага слоўніка, аднак, трэба зазначыць, што ў ім таксама не канкрэтызуецца, як і ў раней выдадзеных тлумачальных, чым з'яўляецца «тое».

**ТСБЛМ Суднік, Крыўко (1996/1999)**: ‘словы, сказы, паслядоўна звязаныя па сэнсу, якія ўтвараюць пэўнае выказванне, твор, дакумент і пад., надрукаваныя, напісаныя ці адлюстраваныя ў памяці. ***Тэкст*** *апавядання*’; ‘асноўны матэрыял якога-н. твора, дакумента і пад. у адрозненне ад заўваг, каментарыяў да яго. *Зноскі занялі больш месца, чым сам* ***тэкст***’; ‘словы, на якія напісана музыка. ***Тэкст*** *песні*’; ‘шрыфт, буйнога памеру каля 8 мм’ (спец.), прым. ***тэкставы*** [124, с. 672].

**Слоўнік INSITU (2003)**, адрасаваны замежнікам, выкарыстоўвае назву *тэкст* і словаўтваральныя дэрываты ў канкрэтных прыкладах-ужываннях. Слова выступае ўжо ў прадмове даведачнага выдання: *Чытаючы цікавыя і пазнавальныя* ***тэксты*** *гэтага слоўніка, дзе няма ні аднаго перакладу слова на вашу родную мову, вы павінны самі вырашаць, здагадвацца, меркаваць, памыляцца і выпраўляць свае памылкі <...>. І, нарэшце, прыйдзе дзень, калі вы будзеце свабодна чытаць* ***тэкставую*** *частку нашага слоўніка <...> і пры гэтым усё дасканальна разумець: і сэнс* ***тэкста****, і значэнні слоў, і прыклады ўжывання правіл беларускай граматыкі, якія там сустракаюцца, і прыказкі, і прымаўкі.; Другая частка ўяўляе сабою зборнік разнародных хрэстаматыйных* ***тэкстаў*** *на беларускай мове <...>; <...> слоўнік дае прыклады выкарыстання слоў у звычайных «жывых* ***тэкстах****» беларускай мовы, а не ў спецыяльных разрозненых прыкладах, як гэта прынята ў існуючых слоўніках.* [9, с. 7–8]. *Выбар урыўкаў літаратурных* ***тэкстаў*** *у гэтай главе рабіўся з улікам таго, каб яны ў сваёй сукупнасці давалі разнастайныя словы, неабходныя для забяспячэння максімальнай паўнаты слоўніка*. [9, с. 350]. *Сінтаксіс <...> — гэта раздзел навукі аб мове, у якім вывучаюцца будова і значэнне словазлучэнняў, сказаў,* ***тэкстаў***. *Асноўныя адзінкі сінтаксісу — словазлучэнне, сказ,* ***тэкст***. [9, с. 403]. *Спісваючы* ***тэкст****, спісаўшы* ***тэкст***. [9, с. 415]. *Некаторыя дыялекты, а таксама ўстарэлыя словы, якія ўжывалі беларускія пісьменнікі мінулых гадоў, чытач можа сустрэць у* ***тэкставай*** *частцы гэтага слоўніка.* [9, с. 428].

Электронны слоўнік **«СКАРНІК»** падае дакладна такую ж дэфініцыю, як і ТСБМ Крапіва (1977–1984) [114].

Агляд азначэнняў загалоўнага слова *тэкст* прыводзіць да высновы, што гэтыя дэфініцыі ў значнай ступені дублююць адна адну, паўтараюць падобную інфармацыю. Адначасова трэба заўважыць, што ў іх не заўсёды дакладна акрэслена, чым з’яўляецца *тэкст*. Часам — гэта «тое» і толькі дадзены сказ дапамагае ў зразуменні семантыкі слова. У выпадку канкрэтызацыі — *словы*, *сказы* (*два ці некалькі сказаў*), *частка моўнай плыні, урывак твора* — яна вельмі адрозніваецца па значэнні, хоць і дазваляе меркаваць, што *тэкст* мае вербальны характар. *Словы*, *сказы*, *частка*, *урывак*, нідавочна, недастатковая інфармацыя, каб суаднесці іх з *тэкстам*, яны павінны ўтвараць *выказванне, твор, дакумент, моўную плынь* і г. д. — г. зн. большую цэласнасць. Зноў маем дачыненне з пэўнымі хібамі ў дэфініцыі, менавіта: на розных яе ўзроўнях

выступаюць тыя ж самыя словы (напр. *урывак твора* і *твор*). Вартая ўвагі лагічная або сэнсавая сувязь, якая *тэкст* характарызуе: *звязаныя па сэнсе* (*лагічна, семантычна, сэнсам*). Як вынікае з азначэнняў, *тэкст* мае свае граніцы (абмежаваны), але яго межы выразна не акрэслены — гэта больш, чым слова, але менш, чым нешта цэлае (урывак, фрагмент, частка і г. д.). Сучасныя слоўнікі інфармуюць аб пісьмовай і вуснай форме *тэксту*, але яшчэ не так даўно тэкстам лічылі толькі пісьмовы варыянт, вуснае выказванне трактавалася як маўленне, гутарка, гаворка, а яе запіс на магнітафоннай стужцы лічыўся матэрыялам, запісам гаворак[1]. Толькі транскрыпцыі дыялектных даных, гутарковага маўлення, надрукаваныя ў хрэстаматыях па дыялекталогіі, стылістыцы станавіліся тэкстамі[2]. Як вынікае з азначэнняў, *тэкст* (слова, якое трэба патлумачыць, лат. *definiendum*) — гэта прадукт (твор) пісьма (*напісаны*), друку (*надрукаваны*), хоць такія словы, пры дапамозе якіх тлумачыцца паняцце (лат. *definiens*), у слоўнікавых артыкулах не выступаюць. У некаторых азначэннях дададзена заўвага адносна адрознення паміж г. зв. *галоўным тэкстам* і зноскамі, спасылкамі, дадаткамі, папраўкамі, каментарыямі. У суседняй польскай мове толькі г. зв. «Віленскі слоўнік» (1861) падае гэтую характарыстыку, у іншых жа яна адсутнічае [16; гл. таксама параўнанне дэфініцый у: 6, s. 22–24].

**Славаўтваральныя дэрываты.** У беларускай мове на аснове каранёвай марфемы *тэкст* утварылася цэлае дэрывацыйнае гняздо вытворных, у асноўным гэта суфіксальныя прыметнікі і ўтвораныя ад іх назоўнікі. Зафіксаваны яны тлумачальнымі слоўнікамі:

**ТСБМ Крапіва (1977–1984)** [126, т. 5, кн. 1, с. 572]:

---

[1] Параўнаем прадмову і ўводзіны да «Беларускай дыялекталогіі” Эвеліны Блінавай і Еўдакіі Мяцельскай, у якой выступаюць, галоўным чынам, *запісы* (*на магнітафоннай стужцы*, *жывой народнай мовы*, *этнаграфічныя*, *фальклорныя*), *у запісах Е. Раманава*, *фальклорныя і дыялектныя крыніцы*, *дыялектныя і этнаграфічныя даныя*, *факты дыялекталогіі*, *дыялектны матэрыял*, *матэрыялы да слоўніка*, *у матэрыялах П. Шэйна* і г. д., толькі ў якасці выключэння раз выступіла: «запісы на слых звязных тэкстаў жывой гутарковай мовы, народных паданняў, казак, апавяданняў, прыказак, прымавак, розных выслоўяў” [26, с. 21–22]. Зазірнем і ў дапаможнік па «Стылістыцы беларускай мовы”, у якім занатавана *гутарковая мова, гутарковы стыль, дыялагічная мова, дыялог, мова ўрыўка*, але адсутнічаюць *гутарковыя тэксты* [139, с. 121–126].

[2] Інакш сітуацыя выглядае зараз, напрыклад, у «Хрэстаматыі па беларускай дыялекталогіі. Цэнтральная зона” дыялектныя *тэксты* выступаюць побач з дыялектныя *матэрыялы* [131, с. 3–6]. Тое ж можна сказаць пра гутарковае маўленне, напр. *50 тэкставых фрагментаў з дыялогаў і палілогаў*, *першая спроба навуковай публікацыі і CD-фіксацыі тэкстаў вуснага спантаннага гутарковага маўлення* і г. д. [параўн. 107, с. 11, 37 і інш.] або *з тэкстаў гутарковага стылю* і інш. [98, с. 621 і інш.].

***Тэкставы* 1.** ‘які мае адносіны да тэксту (у 1 і 2 знач.): *тэкставыя варыянты* // які змяшчае тэкст: *тэкставая фотатэлеграма*’. **2.** (спец.) ‘які з’яўляецца тэкстам (у 4 знач.): *тэкставы шрыфт* // выкананы тэкстам: *тэкставы набор*’.

***тэксталагічны*** ‘які мае адносіны да тэксталогіі: *Тэксталагічнае вывучэнне твораў Якуба Коласа; Важныя ўдакладненні (...) дае тэксталагічнае супастаўленнне «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх» паводле ўсіх вядомых спісаў* (Чамярыцкі)’.

***тэксталогія*** ‘галіна філалогіі, якая займаецца ўстанаўленнем дакладнага тэксту літаратурных помнікаў і гістарычных дакументаў для іх навуковага выдання’). [ад лац. *textus* — сувязь слоў, тэкст і *logos* — вучэнне].

***тэкстолаг*** ‘спецыяліст у галіне тэксталогіі’.

***тэкстоўка*** разм. ‘кароткі тлумачальны подпіс пад малюнкам, здымкам’.

***тэкстуальнасць*** ‘уласцівасць тэкстуальнага’.

***тэкстуальны*** 1 ‘тое, што і тэкставы’: *тэкстуальная блізкасць варыянтаў рамана*; 2. ‘які дакладна літаральна перадае тэкст, даслоўны’: *Пазней П. В. Уладзіміраў даказаў тэкстуальнае супадзенне Астрожскай бібліі з бібліяй Скарыны* (Алексютовіч).

**ТСБЛМ Суднік, Крыўко (1996/1999)** [124, с. 672]:

***тэксталогія*** — ‘галіна філалогіі, якая займаецца вывучэннем, праверкай і дакладным навуковым выданнем **тэкстаў** літаратурных і іншых твораў’, прым. **тэксталагічны**.

***тэкстолаг*** ‘спецыяліст у галіне тэксталогіі’.

***тэкстоўка*** ‘кароткі тлумачальны подпіс пад малюнкам, здымкам, карыкатурай: *Ён умеў пісаць з’едлівыя тэкстоўкі*’.

***тэкстуальны*** ‘які дакладна перадае **тэкст**, даслоўны: *тэкстуальнае супадзенне*’.

Прыметнік *тэкставы* пашырыў апошнім часам значэнне. Ужываеца ён, напрыклад, у словазлучэннях:

***тэкставы*** *працэсар* ‘праграма, якая забяспечвае рэдагаванне тэкстаў у камп’ютары з больш развітымі, чым у тэкставым рэдактары сродкамі фармаціравання, праверкай правапісу і іншымі сэрвіснымі магчымасцямі: *...Для Apple Macintosh гэта — Aldus PageMaker (праграма вёрсткі), Microsoft Word (**тэкставы** працэсар) і Microsoft Excel (электронная табліца)*’;

***тэкставы*** *рэдактар* ‘праграмныя сродкі, якія забяспечваюць увод у камп’ютар, захоўванне, прагляд, рэдагаванне, фармаціраванне і друк тэкстаў праграм і дакументаў: ***Тэкставы** рэдактар з падтрымкай розных кадыровак: ...Будзе нармальная маленькая утыліта для праверкі й добры RTF **тэкставы** рэдактар*’ [129, с. 285, 307, 370].

Засведчаны таксама прэфіксальныя і прэфіксальна-суфіксальныя вытворныя:

***кантэкст*** ‘закончаны ўрывак пісьмовай мовы (тэксту), які дазваляе вызначыць сэнс кожнага слова або выразу, што ў яго ўваходзяць’ [ад лац. *contextus* ‘цесная сувязь, злучэнне] [126, т. 2, с. 622]; ***кантэкст*** ‘закончаны ўрывак тэксту, які дазваляе вызначыць сэнс кожнага слова або выразу, што ў яго ўваходзіць.’ Слова ў кантэксце выяўляе значэнне // прым. ***кантэкстны*** і ***кантэкставы*** [124, с. 274];

падтэкст ‘думка, пачуццё, якія не выказаны непасрэдна, але ўгадваюцца ў мастацкіх дэталях, рэпліках персанажаў, у апісаннях прыроды, абстаноўкі, г. зн. стоеныя пад словамі тэксту’ [99, с. 482]. Падтэкст (кніжн.) ‘унутраны, прыхаваны сэнс тэксту, выказвання’ [126, т. 3, с. 572; 122, с. 418]. Падтэкст ‘Унутраны, скрыты сэнс якога-н. тэксту, выказвання’ Брыль многае гаворыць не толькі самім тэкстам мастацкага твора, але і яго падтэкстам. Д. Бугаёў [123];

***падтэкстоўка*** (спец.) ‘складанне тэксту для песеннай музыкі’, ‘тэкст, вершы для песеннай музыкі’ [124, с. 418]. ***Падтэкстоўка*** 1. ‘складанне тэксту для песеннай музыкі’; 2 ‘тэкст, вершы для песеннай музыкі’; 3. Тэкст для растлумачвання чаго-н.’ [126, т. 3, с. 572]. ***Падтэкстоўка*** (спец.) 1. ‘Складанне тэксту для песеннай музыкі; сам тэкст для яе’: *Ён лічыў, што стварыць падтэкстоўку намнога лягчэй, калі табе ўжо вядома музыка*. ЛіМ 2. ‘Тэкст для растлумачвання чаго-н. (пад малюнкам, карыкатурай і інш.)’: *Журналісцкая работа з гадамі, бадай, брала верх над паэзіяй. Я пісаў замалёўкі, нарысы, артыкулы, фельетоны, вершаваныя падтэкстоўкі.* І. Калеснік [123].

**Сінонімы.** У якасці блізкіх па значэнні да слова *тэкст* Сяргей Шведаў падае наступныя лексічныя адзінкі: *кантэкст, змест, тэкстоўка, падтэкст; дакумент, урывак, твор* і фразеалагізм *поўны тэкст* [133, с. 387]. Як сцвярджае сам аўтар, слоўнік «наўмысна пазбаўлен акадэмічнасці з мэтай лепшага ўспрымання карыстальнікамі сінанімічнага ланцужка» [133, с. 3], «прыкладны», «практычны дапаможнік» «разлічаны на школьнікаў, абітурыентаў і студэнтаў». Заўважым, падборка слоў у сінанімічным ланцужку адлюстроўвае вельмі розныя аспекты тэксту. Дамінантай, безумоўна, з’яўляецца загалоўнае слова *тэкст*, аўтар, аднак, не падзяляе прыведзеных слоў на раўнацэнныя і градуальныя сінонімы, таму чытач можа толькі здагадвацца, улічваючы іх значэнні і функцыі, якія з іх ідэаграфічныя (раўнацэнныя)[1], а якія градуальныя[2], калі мае адпаведныя пра тое веды.

---

[1] Г. зн. ‘прадстаўляюць змест рэаліі без асаблівых семантычных адрозненняў’ [98, с. 123].

[2] Г. зн. ‘выражаюць змест рэаліі з рознай ступенню праяўлення яе характэрнай рысы, могуць утвараць сінанімічныя ланцужкі, дзе кожнае наступнае слова ў большай ступені адпавядае агульнаму зместу’ [98, с. 123].

У якасці сіноніма прыметніка *тэкстуальны* даведнікі падаюць слова *даслоўны* [99, с. 303; 133, с. 397], а таксама *пунктуальны*, *літаральны*, напр. *тэкстуальны падыход* [133, с. 397].

**Фармальна падобныя словы.** Укладальнікі слоўніка амафонаў і амаформаў звяртаюць увагу на фармальнае падабенства слоў *тэкс* і *тэкст*:

***Тэкс*** ‘пазасістэмная адзінка лінейнай шчыльнасці для валокнаў і нітак: *Тэкс у нас выкарыстоўваецца з 1959 года*’.

***Тэкст*** ‘тое, што напісана або надрукавана. Пісьмовы дакумент. Словы песні: *Перад ім ляжаў тэкст апавядання*’ [115, с. 356].

**Тэкст у спецыяльных слоўніках і энцыклапедыях.** Паколькі адносіны да тэксту ў спецыялістаў розных гуманітарных (у тым і філалагічных) дысцыплін на працягу апошняга часу значна змяніліся, вартым было б асаблівасці перамен паказаць храналагічна.

Выдадзены ў 1979 г. «Паэтычны слоўнік» не засведчыў ані слова *тэкст*, ані *тэксталогія* [106]. «Слоўнік літаратуразнаўчых тэрмінаў» [1983], у якім відавочны як ідэалагічны, так і моўны ўплыў (бяспрэчна, рускай мовы), падае дэфініцыю слова *тэксталогія*. Назва *тэкст* у якасці загалоўнага слова ў дапаможніку адсутнічае, аднак ва ўступе ад складальнікаў знойдзем фрагмент:

У **тэксце** артыкулаў часам асобныя словы выдзяляюцца. Гэта абазначае, што дадзенае паняцце ці тэрмін тлумачыцца ў асобным артыкуле. [64, с. 4].

***Тэксталогія*** (ад. лац. *texstum* — ткань, сувязь і грэч. *logos* — слова) — дапаможная галіна навукі ў *літаратуразнаўстве*, якая займаецца вывучэннем тэксту, устанаўленнем галоўнай рэдакцыі твораў, а таксама тлумачэннем тэксту пры публікацыі. Тэксталогія вывучае гісторыю напісання твора з мэтай вызначыць час напісання (калі ён не вядомы) або аўтарства твора (у ананімных творах). Асабліва складаныя задачы гэтай навукі, калі яна даследуе старадаўнія тэксты, іх розныя варыянты, спісы. Тэксталогія займаецца гістарычным асэнсаваннем тэксту, яго крыніц і на падставе гэтага дае крытычны аналіз тэксту. Тэксталогія — крыніцазнаўчая база літаратурнай навукі. [64, с. 163].

Прыгаданы фрагмент дазваляе зрабіць выснову, што *тэкст* можна замяніць словам *твор*, *артыкул* (ці яго фрагмент) і г. д. — надрукаваная, апублікаваная паслядоўнасць слоў, звязаных сэнсам. Тэкст для літаратуразнаўцы мае пісьмовую форму, яна сталая, трывалая, пры перапісванні (перадрукоўцы) можа нязначна змяняцца (параўн. *варыянты* аднаго і таго твора). Як цэласнасць *тэкст* узнікае пры пэўных абставінах у канкрэтным часе, *тэксты* могуць быць сучасныя і даўнія (*гісторыя* напісання, *час* напісання), можа мець аўтара або быць ананімным (калі аўтар невядомы)[1], *тэкст* можа быць

---

[1] Пра «смерць аўтара» ў беларускім літаратуразнаўстве гл. і развагі Паўла Баркоўскага, які адводзіць аўтару ролю павітухі, што «дапамагае нарадзіцца цалкам ад яе адрознаму і вольнаму дзіцяці — тэксту» [24]. У сваю чаргу Юрася Барысевіча турбуе

аб’ектам даследавання (прыкладныя дзеянні ў адносінах да *тэксту*: вывучаць, тлумачыць, асэнсоўваць, аналізаваць). Наяўнасць у слоўніку тэрміна *тэксталогія* (і непасрэдна — *тэкст*), а таксама яе характарыстыка як «дапаможная галіна навукі ў літаратуразнаўстве» сведчаць пра нежаданне літаратуразнаўцаў «дзяліцца згаданай галіной з іншымі філолагамі, напр. мовазнаўцамі (параўн. таксама сучасныя выданні: [105, с. 267–268]).

Больш падрабязную інфармацыю пра *тэкст* знойдзем ў «Слоўніку лінгвістычных тэрмінаў» [1990]:

***тэкст*** (ад лац. *texstus* — тканіна, сувязь, пабудова) — напісанае, надрукаванае (выказванне, абзац, раздзел твора і г. д.) або выказанае вусна паведамленне, якое характарызуецца сэнсавай і структурнай завершанасцю, яго можна ўзнавіць, паўтарыць у тым самым выглядзе. Тэкст з’яўляецца аб’ектам спецыяльнага вывучэння ў лінгвістыцы тэксту.

***тэксталогія*** (лац. *texstus* — сувязь, тканіна, пабудова + logia — вучэнне) — галіна філалагічнай навукі, якая вывучае творы пісьменнасці, літаратуры, фальклору з мэтай крытычнай праверкі і ўстанаўлення дакладнага іх **тэксту** для іх далейшага навуковага вывучэння і выдання.

***тэкстуальны*** **—** які дакладна перадае які-небудзь **тэкст**, даслоўны. [121, с. 152].

На падставе дэфініцыі, у якой выразна называецца семантычная сувязь слоў *тэкст* — гэта *выказванне*, *абзац*, *раздзел* твора і г. д. (напісаныя, надрукаваныя) або *паведамленне* (вуснае), можна меркаваць, гэтая сувязь падпарадкаваная, аднак размытая — аўтарам цяжка вызначыць, што з’яўляецца гіперонімам слова *тэкст*. Звяртае ўвагу адрозненне ад карціны, прадстаўленай літаратуразнаўцамі, — яна ў форме (не толькі пісьмовае, але і вуснае выказванне). Каб прасачыць развіццё ўяўленняў пра тэкст у філолагаў, звернемся да пазнейшых прац у галіне беларускай лінгвістыкі. Тэрміны *тэкст* і *тэксталогія* трывала фіксуюць слоўнікі лінгвістычнай тэрміналогіі, напр. трохмоўны (беларуска-рускі-польскі і адваротны), выдадзены ў Беластоку ў 1994 г. [напр. 17, s. 17, 149]. У 1994 г. выходзіць у свет энцыклапедычнае выданне «Беларуская мова», у якім тэксту прысвечаны даволі вялікі артыкул аўтарства Браніслава Плотнікава. Пачынаецца ён словамі:

***тэкст*** — гэта вынік маўленча-мысліцельнай дзейнасці людзей, які фіксуецца ў вуснай ці пісьмовай форме. [100, с. 566].

Ужо з уступнага сказа вынікае, што вусная або пісьмовая форма — гэта толькі фіксацыя думак, якія раней узніклі ў галаве чалавека. Далей аўтар

---

не толькі літаратар, але і прысутнасць у літаратурным працэсе чытача: «галоўнай мэтай усіх літаратурных практыкаў павінен быць ня тэкст, а чалавек. Інакш кажучы, літаратурны твор мае эстэтычную, а таксама камэрцыйную каштоўнасць у той ступені, у якой ён можа быць пражыты аўтарам і чытачом» [25, раздзел «Тэкст і цела»].

падрабязна тлумачыць, чаму «звычайна пад тэкстам разумеюць менавіта пісьмовы прадукт» мысліцельнай дзейнасці людзей, характарызуе пісьмовае і вуснае паведамленне, прычым пісьмовае называе тэкстам на працягу ўсяго артыкула, а вуснае — часцей маўленнем. Выключэннем з'яўляецца сказ: «Вусны тэкст існуе толькі ў працэсе маўлення, пісьмовы тэкст застаецца на ўвесь час існавання матэрыялаў, на якіх ён напісаны» [100, с. 566].

Аўтар робіць націск на ролі тэкстаў наогул для гуманітарных навук, а асабліва для філалагічных:

(…) тэкст уяўляе сабой першасную данасць, невычэрпную крыніцу фактаў, цэлы свет, дзе ёсць свае спецыфічныя адзінкі, свая сістэма арганізацыі іх, свае правілы, дзейнічаюць разнастайныя заканамернасці і прынцыпы. (…) тэкст для філолагаў з'яўляецца тым, чым служыць для прадстаўнікоў прыродазнаўчых навакольная рэчаіснасць [100, с. 566].

Мовазнаўца адрознівае рукапісныя і друкаваныя тэксты, першыя звязвае з індывідуальнымі якасцямі канкрэтнай асобы, апошнія — часцей за ўсё ўзніклі на агульнанароднай мове і скіраваны да большай супольнасці чытачоў. Упершыню ў артыкуле заўважана, што *тэкст* існуе ў двух вымярэннях: як катэгорыя (агульная з'ява) і канкрэтны тэкст (дакумент, твор, артыкул і г. д.). Упершыню звяртаецца ўвага на тое, што тэксты не заўсёды звязныя, гэтая рыса характарызуе паводле аўтара сукупнасць пэўных моўных даных, напр. слоўнікі, спісы імён і г. д. [100, с. 566].

У чарговы раз у артыкуле *тэкст* атаясамліваецца з запісаным (надрукаваным) выказваннем: «тэкст побач з вусным маўленнем з'яўляецца адзінай крыніцай фактычнага матэрыялу» [100, с. 566], што сведчыць пра тое, на колькі трывалае гэта ўяўленне. Аўтар згаджаецца, што *тэксталогія* ўзнікла ў межах літаратуразнаўства і не мае намеру гэтаму пярэчыць. Заўважае, аднак, што нядаўна тэкстам як «самастойнай моўнай з'явай» заняліся мовазнаўцы ў межах маладой дысцыпліны — лінгвістыкі тэксту. Лінгвісты разглядаюць кампаненты (адзінкі) тэксту, узаемную сувязь паміж імі, семантыку тэксту. Яны звярнулі ўвагу на іерархічны характар тэксту: як у сэнсе структуры (напр. літара — слова — сказ — абзац — тэкст), так і значэння (напр. задума аўтара, знешняя рэчаіснасць, значэнне слоў, словазлучэнняў і сказаў, г. зв. фонавыя веды (прэсупазіцыі), якія «чытаюцца паміж радкоў тэксту»)[1]. Асобна аўтар затрымаўся на навуковых тэкстах, у якіх адрозніў дзве сэнсавыя лініі: сам тэкст публікацыі і спасылкі на літаратуру [100, с. 566]. Цікавым аспектам тэксту,

[1] Параўн. беларускую фразеалагічную ўстойлівую адзінку *адкрытым тэкстам* 'проста, шчыра, без хітрыкаў, не таячыся (гаварыць)'. Сін.: *вочы ў вочы*; *у адкрытую*; *у вочы сказаць*; *у лоб* (*у твар*) *гаварыць* [68, т. 2, с. 542]: *Паміж радкамі, а то і прамым тэкстам у дзяржаўных выданнях панавала беларускамоўная інтэлігенцыя, эліта, якая даводзіла, што чалавек на сваёй зямлі мусіць гаварыць толькі па-беларуску* [136].

парушаным у энцыклапедыі, з’яўляецца семіятычны — невербальныя тэксты (лічбы, формулы, сімвалы, малюнкі, фатаграфіі і г. д.), якія ў матэматычных, тэхнічных працах нясуць не меншую, калі не большую, інфарматыўную функцыю, чым вербальныя знакі [100, с. 566].

У адной з апошніх апублікаваных дэфініцый тэксту ў мовазнаўчых працах выступае новы элемент — адрасат, затое пра аўтара тэксту можна толькі здагадвацца:

***Тэкст*** — гэта мэтанакіраванае выказванне, якое мае свайго адрасата, прадукт творчасці канкрэтнага чалавека ў адпаведнай сітуацыі. Праз тэкст чалавек праяўляе сябе як асобу. А паколькі звязны тэкст выконвае камунікацыйную функцыю, з’яўляецца сродкам абмену думкамі (…) [82, с. 228].

Этнографы, этнолагі і фалькларысты здаўна запісваюць легенды, паданні, павер’і, абрадавыя рытуалы. Як вынікае з разваг калектыву аўтараў слоўніка навуковай і народнай тэрміналогіі «Восточнославянский фольклор», назву *тэксталогія* можна адносіць і да фальклорных твораў:

***Текстология фольклора, тэксталогія фальклору, текстологія фольклору*** — совокупность приемов и правил фиксации произведений фольклора (вербального, вербально-музыкального, танцевального, ритуально-игрового и т.д.), архивизации собранных материалов, расшифровки аудио- и видеозаписей, достоверной документированной публикации (включая академические и другие дефинитивные эдиции с комментариями и примечаниями) (…); ‘теория фольклорного текста, призванная обосновывать практическую текстологию фольклора, изучать полиэлементное (словесное, музыкальное и т.д.) воплощение произведений в синхронном, диахронном, в широком смысле историческом соотнесении с традицией (включая дискутируемую в науке проблему пратекста или прототекста (…)’ [42, с. 355–356].

***Текстология фольклора комплексная, тэксталогія фальклору комплексная, текстологія фольклору комплексна —*** ‘предлагает многомерность подхода к анализу и публикации произведений народного творчества, при котором словесный, музыкальный и драматический компоненты рассматриваются в их совокупности (…)’ [42, с. 357].

Амаль даслоўна паўтарае дэфініцыю *фальклорнай тэксталогіі* Лія Салавей у беларускамоўнай версіі ў выдадзенай напачатку XXI ст. энцыклапедыі беларускага фальклору:

сукупнасць правіл і прыёмаў па дакладнай фіксацыі твораў фальклору, іх атрыбуцыі, расшыфроўцы аўдыё- і відэазапісаў для захавання і карыстання (…) [111, т. 2, с. 637].

Калі ў мастацкай літаратуры вызначаецца канчатковы, кананічны тэкст, г. зн. «вызвалены ад памылак і скажэнняў», «тэкст белавога рукапісу, а калі яго няма — тэкст апошняй прыжыццёвай публікацыі твора» [105, с. 267–268], то ў фальклоры «адсутнічае адзін кананічны тэкст», «фальклорны твор існуе ў сукупнасці ўсіх варыянтаў-запісаў» [111].

## Наіўныя веды пра тэкст

Звычайная штодзённая канцэптуалізацыя рэальнасці з'яўляецца адным з асноўных пастулатаў антрапалагічнай лінгвістыкі, таму добра паразважаць пра тэкст не праз прызму слоўнікаў, а на падставе цытатаў з выказванняў носьбітаў мовы, у якіх гэтая назва выступае [6, s. 25]. Звычайнае разуменне *тэксту* можна рэканструяваць на аснове ўжывання слова *тэкст* і семантычна з ім звязаных слоў (*выказванне, твор, абзац, раздзел твора* і г. д.), словаўтваральных дэрыватаў, фразеалагічных адзінак і калакацый (фраземаў), якія зафіксаваны ў фрагментах выказванняў па-беларуску, апошнія можна знайсці ў корпусе беларускай мовы, засведчыць у рознага тыпу рэцэнзіях, зафіксаваць на інтэрнэт-сайтах.

Слова *тэкст*, як ужо падкрэслівалася, выводзіцца з лац. *textus* 'тканіна', якое ўтворана ад дзеяслова *texere* 'ткаць' [6, s. 26]. Роднасныя словы: *тэкстура*, *тэкстыль*, *тэкстыльшчык* [124, с. 672]. З тэрміналогіяй ткацтва сугучныя назоўнік *аснова*[1] і дзеяслоў *снаваць / аснаваць*:

*Песню вечную* ***снаваць***. *Аб чым з табою ўдваёчку* ***снавалі*** *думкі* (Я. Купала) — рус. *класть основу, сновать* [23, с. 294];

*(...) тэкст Дашкевіча — якасная аснова для мастацкага кінафільма* (У. Падгол) [90, с. 46];

*спецыфічныя сродкі тэкставай* ***сувязі*** (А. Лапкоўская) [65, с. 36].

Замацавалася ўяўленне пра *тэкст* як пра інфармацыю, якая звязана ў сэнсавую цэласнасць [74], напр. *т. паслядоўны, лагічны т., суцэльны т.,* іншыя прыклады:

заданне: *запішыце сказы так, каб атрымаўся* ***звязны*** *тэкст* [128];

*Размясціце абзацы так, каб атрымаўся* ***звязны*** *тэкст* (С. Лявоненка) [72];

*трошкі «загружаны»* ***сэнсава*** *тэкст, пабудаваны на асабістых уражаньнях* (А. Клімус) [62].

Звяртаецца ўвага на памеры тэксту, напр. *кароткі т.*, *невялічкі тэксцік, разбудаваны т.*, яго часткі: *кавалак т., фрагмент т., глава, раздзел, абзац* і г. д., на абагульненне некалькі тэкстаў, напр.

*не задумваў рабіць кнігу, але сабраліся тэксты* (К. Стаселька) [20];

*Кнігі зьмяшчаюць тэксты* (А. Дынько) [47].

Тэкст — гэта прадукт маўлення [65, с. 39]. Найчасцей слова *тэкст* спалучаецца з прыметнікам, які ўказвае на мову выказвання (запісу), яго стылістычную асаблівасць, тып або жанр тэксту. Паводле функцыянальна-стылістычнай прыналежнасці занатаваны наступныя тыпы тэкстаў: *мастацкі т.*; *публіцыстычны т. / газетны т.*; *літаратурны т.*; *навуковы т.; навукова-папулярны т.; дзелавы т.; юрыдычны т.; заканадаўчы т.; гістарычны т.; стыль тэксту; т. публіцыстычнага стылю; рэкламны т. для газеты* і г. д.

---

[1] Рус. *основа*, *основание*, *фабула*; *принцип*, *мотив* [23, с. 35].

[65, с. 38]. Адрозніваюцца тыпы тэкстаў паводле спосабу выкладу: *апавяданне*, *апісанне*, *разважанне* [80, с. 55]. Featured Рознароднасць жанраў мовы уплывае на прадуктыўнасць адпаведных назваў: *евангельскі т.* / *т. Евангелля*; *т. літаніі*; *т. літургіі*; *т. малітвы*; *т. прысягі; т. звароту да суайчыннікаў; т. дыктоўкі* / *дыктанта*; *т. экспертызы*; *тэксты хронікаў*; *тэкст прадстаўлення*; *т. ліста*; *т. рашэння; т. дакумента / статута / мемарандума / канвенцыі / даклада*; *т. рукапіса*; *т. інтэрв'ю; т. анекдота, т. песні, т. казкі* і г. д. Адрозніваюцца тэксты па форме: *вусны* або *пісьмовы (рукапісны, друкаваны) т.* [65, с. 39]; сярод тэкстаў мастацкай літаратуры выдзяляюцца *празаічны / вершаваны / драматычны т*. Залежна ад мовы назоўнік *тэкст* ужываецца з адпаведным прыметнікам: *старабеларускія тэксты*; *т. на рускай і беларускай мовах*; *перакладзіце тэкст*; *т. неперакладны*; *вызначце адрозненні паміж рускім і беларускім т.*; *царкоўнаславянскі т.*; *за арабскім пісьмом хаваецца беларускі т.; звыклы лацінскі т.; т. напісаны тарашкевіцай* і г. д. Істотная і характарыстыка мовы тэксту (выказвання), напр. *прыгожая*, *лаканічная*.

Тэкст важны для пэўнага адрэзка часу таксама атрымаў сваю назву, напр. *т. тыдня*; *раман стагоддзя*:

*Вельмі цікавы прыклад — творчасць Кузьмы Чорнага. Часам ён пісаў творы па сацыяльным заказе. А ўсё жыццё марыў напісаць «раман стагоддзя». Тыя тры раманы, якія маглі б імі стаць, так і засталіся незавершанымі…* (П. Васючэнка) [40] і г. д.

Фрагменты (кантэксты) сведчаць пра тое, што тэкст мае аўтара, напр.:

*Калі чытаеш кніжку, ты сядзіш у галаве чалавека, які яе напісаў, бо чалавек праз тэксты выказвае ўсяго сябе* (Г. Севярынец) [113].

Назва тэксту паводле аўтара мае форму словазлучэння з дапасаваннем або кіраваннем: *журналісцкі т.*; *т. пісьменніка і навукоўца*; *уласны т. рэпера*; *аўтарскі т.*; *народны т. песні; непадпісаны нікім т.* і г. д. Калі аўтар прыводзіць даслоўныя фрагменты з іншых тэкстаў, то ён іх *цытуе*. Вялікая колькасць цытатаў, ілюстрацыйнага матэрыялу, лічбаў, схем і г. д. не ўплывае станоўча на аўтарскі тэкст, напр.

*Баюся цытаваць, каб не* ***загрувашчваць*** *тэкст* (В. Мартыненка) [78].

*Каб не* ***загрувашчваць*** *нашу працу шматлікімі фактамі і тым самым не аддаляцца ад сутнасці пытання, прывядзём гатовыя вынікі аднаго з найноўшых даследчыкаў у галіне славянскага друку* (І. Дварчанін, пер. з чэш. Т. Кароткай) [45].

Тэкст ствараецца — гэта працэс. У працэсе ўзнікнення тэксту адбываюцца рознага тыпу дзеянні, якія выконвае аўтар: *пералічвае, дадае, ілюструе прыкладамі, абрывае думку, спасылаецца, стылізуе т.* і г. д. Здараецца, што ў тэксце паказваецца лагічнасць яго будовы і паступовасць пазнання прадмета, аб якім ідзе гаворка, які характарызуецца: *аўтар падае дэфініцыю, класіфікацыю, распавядае, даказвае, аргументуе, падсумоўвае* і г. д. Падкрэсліваецца,

што дзеянні аўтара мэтанакіраваны, напр. *інфармуе, сцвярджае, апавядае, апісвае, разважае, заўважае*.

Падрыхтаваны раней аўтарскі тэкст звычайна дапрацоўваюць: *папраўляць, рабіць карэктуру, рэдагаваць, укладаць* (з розных твораў аўтара) — як вынік: *канчатковы тэкст*. Рукапіс паддаюць камп’ютарнай апрацоўцы: *набіраць, вычытваць, друкаваць*. Перад тым, як вывесці на друк аб’ёмны тэкст, патрэбна прафесійная тэхнічная рэдакцыя: *рабіць склад, ламаць, вярстаць* і г. д.

Тэкст мае загаловак, у якасці прыкладу цытаты толькі з аднаго артыкула, размешчанага на сайце незалежных беларускіх экспертаў у галіне медый:

*моцнаму загалоўку павінен адпавядаць моцны тэкст*; *На класны загаловак чытач вядзецца, бы шчупак на блешню; Загалоўкі грымяць, як пустое вядро; Гучны загаловак быў бы апраўданы, калі б пад ім было разгорнута даследаванне гэтай сапраўды актуальнай праблемы*; *прэтэнцыёзныя загалоўкі; сенсацыйны загаловак; моцны загаловак; бездапаможныя, шэрыя, анемічныя загалоўкі; загаловак* (…) *супярэчыць зместу; загаловак у Сеціве мусіць чапляць, страляць, таму яму на карысць хвосткасць, а часам апраўданы і элемент правакацыйнасці* [130].

Гатовы тэкст можна *публікаваць, выдаваць, параўноўваць* з іншым, *інтэрпрэтаваць, каментаваць, тлумачыць, пераказваць*, пісаць да яго *план*, перадаваць яго *змест*, *перакладаць* на іншую мову. Можна тэкст *паўтараць, узнаўляць, ксерыць (рабіць копію)*.

Тэкст прызначаецца для іншага ўдзельніка акту камунікацыі — адрасата (слухача, чытача), які *ўспрымае або не ўспрымае т.; т. пакідае агіднае ўражанне; чытач знаходзіцца пад уражаннем т.; не да канца разумеючы т.; чытачы высока ацанілі (добра прынялі) т.; кніга карыстаецца поспехам у чытачоў.* Іншыя прыклады цытатаў:

*выклікалі ў чытача і слухача абвостранае, экзальтаванае ўспрыманне тэксту* [116];

*чытач стаецца тут у ролі клапатлівай маці, якая наглядае за кволым дзіцём, лашчыць ды выхоўвае яго да паўнавартаснага тэксту — адно чытач вызначае і адказны за тое, каб тэкст быў прачытаны як гэткі і быў гэтаксама зразумелы* (П. Баркоўскі) [24];

*Днямі слухач папрасіў патлумачыць паасобныя словы з Коласавай паэмы* (Ю. Бушлякоў) [35] і г. д.

На ўвагу заслугоўвае ацэнка тэксту. Яна можа быць станоўчая, нейтральная і негатыўная, напр. *дасканалы т.*, *выдатны т.*, *актуальны т.*, *цікавы тэксцік*, *смешны т.*, *мілы т.*, *кранальны т.*, *неблагі т.*, *складаны т.*, *надта складаны т.*, *просценькі тэксцік*, *банальны т.*, *сухі т.*, *пусты т.*, *моцны т.*, *феерычны т.* і інш.:

*Аптымісты лічаць, што і ў 90 можна пісаць* ***класныя*** *тэксты. Я думаю, што можна, і тэксты* ***неблагія****. Але* ***найлепшыя*** *тэксты чалавек піша да гэтага часу* (В. Акудовіч) [19];

***класныя*** *тэксты* (З. Прыгодзіч) [102, с. 32];

***добра напісаныя*** *тэксты* (С. Кавалёў) [58];

(…) *калі пра* ***шэры*** *і* ***незмястоўны*** *твор яшчэ і пішацца нецікава…* (І. Запрудскі) [52].

Тэкст не абавязкова вербальны, напр.

*«Жызэль» — адзін з самых старых балетаў, у якім захаваўся першасны* ***харэаграфічны тэкст*** (Д. Арцімовіч) [21, с. 11];

*мне ў свой час падумалася: калі мы нешта разумеем у дойлідстве (у свеце, які мы ствараем), то якія жаданні ў гэта ўкладзеныя? (…) калі гэта* ***тэксты архітэктурныя****, то як мы іх чытаем?* (Марозаў) [77];

*Дадзеная кніга — спроба маладога даследчыка прачытаць прачытаць* ***горад як*** *цалкавіты* ***тэкст*** (І. Ганецкая) [43].

**Метафары тэксту.** Як і пра іншыя прадметы ў свеце, пра *тэкст* таксама гаворым, выкарыстоўваючы вядомыя ўсім членам моўнай супольнасці метафары. Метафары дапамагаюць вызначыць, у катэгорыі якой рэчы ўяўляем пэўны *X* [6, s. 29].

Тэкст як **вынік працы** рамесленніка, скульптара:

*Кандрат Крапіва -* ***майстар слова*** *і пяра* (Д. Бабейкіна) [22];

***Майстар*** *вострага* ***пяра*** (А. Залеская) [51];

*Каб зразумець* ***літаратурнае «рамяство»****, я нават рэкамендаваў бы аўтарам-пачаткоўцам* ***напісаць*** *адзін-два раманы* ***па замове*** (П. Васючэнка) [40];

*я ўжо былы літаратурны крытык, бо кінуў гэтае* ***рамяство*** [66];

***Літаратурная майстэрня*** *Віктара Марціновіча* [71].

У значэнні ‘удасканальваць, паляпшаць’ [тэкст] засведчана:

*Нарэшце падышоў час, калі трэба было першы свой «****матэрыял****» паказаць сакратару.* [Максім] *доўга і старанна працаваў,* ***шліфаваў****, намагаючыся, каб першы твор атрымаўся як мага лепшы.* Машара. [шліфаваць, 114];

*Мне адразу падалася перспектыўнай* ***сувязь паміж матэрыялам паэзіі і скульптуры****,* ***паміж бронзай і словам*** *— адкуль і нарадзілася назва выставы. У бронзавых скульптурных работ і літаратурных твораў ёсць нешта агульнае:* ***і бронзу, і слова*** *трэба* ***адточваць****,* ***паліраваць****,* ***шліфаваць****.* (П. Вайніцкі) [38].

Тэкст як **будынак (будаўнічы матэрыял)**:

***структура*** *тэксту,*

*тэкст як* ***структура****,*

*тэкст* ***пабудаваны*** *ў выглядзе перапіскі паміж героямі* (Vinsent) [18];

*Для таго каб тэкст быў лагічны, ён павінен быць* ***пабудаваны*** *з улікам асноўных законаў логікі* [54, с. 180];

*Няўдалая і ўнутраная* ***структура*** *шмат якіх параграфаў. У выніку тэкст рассыпаецца на асобныя сюжэты, не ствараецца больш-менш цэласнай карціны сярэднявечнага Магілёва* (І. Ганецкая) [43];

*неабходна арганізацыя такой працы, калі на аснове атрыманых ведаў, выкарыстаных тэкставых узораў выпрацоўваліся практычныя ўменні маўленчай дзейнасці: **будаваць** уласны тэкст паводле звестак, правіл пра яго **будову**, стыль, тып, жанр* (В. Пархоменка) [95];

*праца закладвае **падмурак** для новых напрамкаў асэнсавання* (Н. Паляшчук, Э. Ярмоленка) [93, s. 284].

Тэкст як **тканіна**:

*тэкст **сатканы з** розных **фрагментаў**, як **дыван з рознакаляровых нітак*** (М. Мішчанчук) [85, с. 15];

*тэкст **сатканы** з цытат, што адпраўляюць да тысячы крыніц* (В. Караткевіч) [59, с. 40–42];

*Аўтар стварыў яркі, пералівісты, шматгучны і шматфарбны свет, **сатканы** пры дапамозе слоўных вобразаў* (В. Несцяровіч) [88, с. 15];

*З такіх абвяржэнняў рытмавага чакання празаічны тэкст **сатканы** скрозь* (І. Жук) [49, с. 153];

*Твор як бы сатканы з успамінаў жывых сведак* (В. Старычонак) [117, с. 368];

*Калі крыху больш падрабязна апісаць феномен Дашкевіча, то зазначу, што тэксты Дашкевіча **сатканы** з вобразаў* (У. Падгол) [90, с. 46];

*Як тэкст, так і музыка песні **сатканы** з самых здавалася б, розных і нават супрацьлеглых стылёвых **знітаванняў**, але ў гэткім выглядзе — **нітачка да нітачкі** — яны складаюць надзвычай цэласную кампазіцыю* (Н. Бунцэвіч) [32];

*Паэт (...) па-майстэрску **ўплёў** беларускія ўспаміны і асацыяцыі **ў габелен** французскіх уражанняў* (С. Кавалёў) [57, s. 339];

***суцэльны** тэкст,*

***звязны** тэкст,*

*Я. Купала (...) **уплятае** ў кантэкст двухсэнсоўныя выразы, вобразы, ацэнкі* (А. Макарэвіч) [75, s. 31];

*Этымалягічна слова «тэкст» азначае «тканка, тканіна» (параўнайце з словамі «тэкстыль», «тэкстура»). Аднак, калі раней гэтую **тканку** нязьменна лічылі пэўнай заслонай, за якой з большым ці меншым посьпехам хаваецца сэнс, нейкая праўда (мы тут амаль цытуем Раляна Барта), то сучасная філязофія, гаворачы пра гэтую тканку, падкрэсьлівае ідэю спараджэньня, паводле якой **тэкст ствараецца, выпрацоўваецца празь бясконцае пляценьне мноства нітак*** (А. Дынько) [47];

*Тэкст пісаўся **суцэльнай** арабскай **вяззю*** (А. Бутэвіч) [33];

*У **мастацкую тканіну** верша — За дахамі места памеркла нябёс пазалота... беларускі класік, ствараючы вобраз старажытнага горада, **уплятае** радок* (Н. Пазняк) [92, с. 137].

Тэкст як **цела**:

***корпус** тэкстаў*;

*Зміцер Вішнёў мяне раскрытыкаваў, сказаўшы: «Я з задавальненнем раскладу твой тэксцік **па костках**... (можна пры сустрэчы)». Тады я пакрыўдзілася, а зараз сама з задавальненнем расклала б той тэксцік **«па костках»**...* (А. Паплаўская) [94];

*насычайце тэкст дзеясловамі — гэта робіць яго **мускулістым*** [87].

Тэкст як **дзіця**:

*месца, дзе **нараджаўся** шэдэўр Караткевіча — Зьміцер Бартосік запрашае ў падарожжа ў санаторый «Юность» на Менскім моры, дзе Караткевіч пісаў «Зямлю пад белымі крыламі»* (З. Бартосік) [89].

Тэкст як **музычны твор**:

*Але яны ацэньваюць грамадскую думку. І, калі бачна, што гэтая думка не на іх карысць, спрабуюць **«змяніць пласцінку»*** (А. Волчак) [103];

*Можа б я таксама бяздумна **слухаў «чароўную дудку» прапаганды** і пляскаў у далоні* (С. Законнікаў) [50, с. 169];

*Тэкст **поліфанічны**, складаецца з галасоў і самога аўтара* (М. Мішчанчук) [85, с. 15];

***Мяняць** (змяніць, перамяніць) **пласцінку**. У адносінах да вуснага выказвання, калька з французскай мовы (changer le disque). 'пераключацца на новую тэму размовы': Кравец не толькі не падтрымаў яго, а нават падміргнуў, каб той мяняў хутчэй пласцінку. Толік адразу ж перавёў гаворку на іншую тэму (Л. Гаўрылкін. Матчына хата); Ну і язычок у цябе, Валя. Ці не пара пласцінку перамяніць? (Крапіва); У размову ўмяшаўся Пятро: — перамяніце пласцінку! Прысталі да чалавека — заручыны, запоіны... (М. Капыловіч). Склаўся шляхам метафарызацыі адпаведнага свабоднага словазлучэння, звязанага з ігрой на патэфоне, грамафоне, калі даводзіцца замяняць неўпадабаную пласцінку іншай.* [69, с. 108; 68, т. 2, с. 61].

Тэкст як **прастора**:

*Жаргонная лексіка, арго, вулічны слэнг, прастамоўныя выразы запоўнілі **тэкставую прастору*** (Н. Вавілава) [37, с. 130].

Тэкст як **дарога**:

***вандроўка** ўслед за аўтарам; чытачу прапануюцца **блуканні, вандроўка, шпацыр** па (...) ваколіцах беларускай літаратуры; **пройдземся** тым **маршрутам**, які нас цікавіць найбольш* (С. Кавалёў) [57, s. 338];

*Чытаючы любую кнігу, вы можаце адправіцца ў бясконцае **падарожжа**, на старонках вам будуць сустракацца розныя асобы, падзеі, канцэпцыі* (К. Стаселька) [21].

Тэкст як **рака**:

*тэкставыя **плыні*** (М. Мішчанчук) [85, с. 15].

Тэкст як **карціна (кінакарціна)**:

*Часам творы гэтыя **блішчэлі пекнымі барвамі** лірыкі (...). яны працавалі адрывачна: напісаў верш, паэму, кароткае апавяданне, драматычны эскіз, і годзе (...). асобны ўклад штодзённага жыцця нашага народа, які **рэльефна***

***адмалёваны** ў нашых народных песнях, казках, легендах, забабонах, пагаворках і інш., (...). Гэта ўсё **просіцца на палатно маляра**. Гэта так і чакае раманіста, які праз прызму сваёй дазорнасці і прыкмячання патрапіў бы даць нам **галерэю жывых тыпаў** у зграбным рамане* (З. Бядуля) [36];

*(...) Можна на кожным кроку даць у пісьменстве цэльны, самабытны беларускі тып, які пакуль што ў нашай літаратуры знаходзіцца **ў форме нарысаў, штрыхоў, сальветкаў**, дзе ўсё гэта аднабока і недакончана* (З. Бядуля) [36];

*прапануе ёмкі, востры **тэкст-замалёўку*** (Н. Вавілава) [37, с. 131];

*Сучаснай і зразумелай мовай аўтар **малюе вобраз Бога і Збаўцы хрысціян** і прадстаўляе Яго вучэнне* [83];

*На прыкладзе ўласнай сям'і, сваякоў і вяскоўцаў аўтар **малюе перад чытачамі агульную карціну сялянскага жыцця** першай паловы мінулага стагоддзя* ( А. Ярашонак) [140];

*А.Міцкевіч стварае **карціну**, яўна абапіраючыся на старажытныя ўяўленні беларусаў* (А. Брусевіч) [30, с. 118];

*я проста не валодаю адпаведнымі сінтаксічнасцямі, якія б дапамаглі выбудоўваць (хутчэй ў гэтым выпадку — **вымалёўваць**, бо ўвесь час было ўражанне, нібы я **ствараю нешта акварэльнае з выкарыстаннем натуральнай беласці паперы як бялілаў**) такі складаны сюжэт* (В. Марціновіч) [79, с. 6.];

*Дзівіўся і захапляўся назіральнасцю вялікага **мастака** слова, мілагучнасцю кожнае фразы, **лёгкасцю** і **празрыстасцю малюнкаў**. (...) **Малюючы** той ці іншы вобраз, тую ці іншую падзею, сцэну, ён раптам нібы забывае на законы эпікі* (Б. Сачанка) [112, с. 224–225].

*Рамачны тэкст атрымаўся ў мяне не тых **колераў**, якія былі ва ўсіх кніжках «Кнігазбору». Я ж пісаў не толькі прадмову, але і прамову, і замову. Я пісаў не толькі пра тэкст, а пра чалавека.* (А. Брусевіч) [29];

*Адзін тэкст **упісваецца** ў другі, адна гісторыя ў іншую* (М. Мішчанчук) [85, с. 15];

*Ці **бачу** я **кіно**, чытаючы тэкст?* (У. Падгол) [90, с. 46].

Тэкст як **люстра**:

*У рамане **адбіваецца** цэлае мора народнага жыцця* (З.Бядуля) [36].

Тэкст як **мроя, мара, сон, трызненне**:

трызніць, выдумляць і г. д.:

*«Падарунак для Адэлі» — **суплёт містычных**, часам іранічных, крыху жудкаватых, але часцей забаўных **гісторый** з жыцця людзей, якія атачалі аўтара ці **мроіліся яму** на мяжы другога і трэцяга тысячагодздзяў* (С. Кватоўскі) [60, с. 2];

*Гэты твор — **трызненне** паэта, яго залаты **сон**. Купала так марыў мець Яе сваёю, што Яна ўжо здавалася яму ягонай* (Н. Туміловіч) [127, с. 6, 8];

*Гэтае навуковае **трызненне** Ш(...)вай я перакажу двума сказамі* (М. Южык) [136];

*Усё астатняе **трызненне**, апісанае мовай пазамінулага стагоддзя* (В. Марціновіч) [79, с. 228].

Тэкст як **прылада (зброя)**:

*Чалавек піша важны, **востры**, захапляльны тэкст. Сьмелы тэкст* (С. Квяткоўскі) [61];

*прапануе (...), **востры** тэкст* (Н. Вавілава) [37, с. 131];

*кніга як **замах** на аўтарытэт класікаў* (С. Кавалёў) [57, с. 337];

*Нібыта такі тэксцік на сваім матэрыяле так сказаць нельга **забамбіць*** (Рудак) [108];

*Ты ўжо ведаеш гэты **прымітыўны** тэкст на памяць* (П. Місько) [81];

*Музыка й спевы добрыя, тэкст - **прымітыўны*** (Веравойша) [41].

Тэкст як **злачынец (вінаваты), гарэза (гуляе, хаваецца, губіцца)**:

*тэкст **выдаю на** ваш **суд*** (А. Строцаў) [118];

***за** мудрагелістым арабскім **пісьмом хаваецца** беларускі **тэкст*** (А. Бутэвіч) [32];

*У нашых плянах вярнуць у беларускі культурніцкі дыскурс тыя тэксты, якія **згубіліся** ў бязладзьдзі апошніх гадоў* (В. Мудроў) [86, с. 2.];

*Гэта геніяльны тэкст. Помню, як раздрукавала, перадавала сяброўкам. Бестселер… (...) Потым тэкст **згубіўся** ў кампутары, я шукала ў Сеціве і не магла адшукаць* (euga) [8]**.**

Тэкст як **ураджай**:

*манаграфія з’яўляецца **плёнам*** (…) *даследавання помніка даўняй беларускай перакладной літаратуры XVI ст*. (А. Бразгуноў) [28];

***Плады** творчай працы* [122];

*важна ўмець знайсці тую мяжу, якая дазволіць “адпускаць” **плады** сваёй творчай працы, каб даваць ім жыць самастойна* (Лепіхава) [70];

*нават «залатыя» серыі ў «Мастацкай літаратуры», дзе наменклатура **малоціць** свае **кнігі**, нашмат саступаюць «Полымю»* (М. Южык) [136].

Тэкст як **загадка**:

*Цяжка ўявіць, што за мудрагелістым арабскім пісьмом хаваецца беларускі тэкст, што праз чужую графіку **зашыфраваны** беларускія словы* (А. Бутэвіч) [34];

*літаратурны твор як **мастацкі шыфр*** (Васючэнка) [39, с. 73–74].

Тэкст як **посуд** (**сасуд**):

Вось ён, даволі ёмкі тэкст, амаль метадычка для адукатара “Вікі-адукацыя на факультэце Радыёфізікі, БДУ, 2016” [130]; ёмкі тэкст (Вавілава) [37];

***пусты** тэкст* [10], *вельмі дзіўны і **пусты** тэкст з кідкай назвай* [53];

*Праца Карбалевіча (720 старонак шчыльнага тэкста) ўражвае аб’ёмам скарыстанага матэрыялу з мэдыйнага архіву* (В. Акудовіч) [19];

*У кожным радку хочацца пасяліцца, кожным сказам захутацца — настолькі гэта дасканалы, **тонкі**, з’едліва-кранальны тэкст* (нік Kashagrechka) [11];

***сухі*** *збор тэкстаў* [44, s. 345];

*капірайтару на кожны* ***зляплены тэксцік*** *трэба мець дагавор* [12].

Тэкст як **страва**:

*вершаваныя, празаічныя, драматычныя тэксты* ***густа перасыпаны*** *геаграфічнымі найменнямі* (Кавалёў) [56, с. 7];

***свежы*** *тэкст* (М. Жбанкоў) [48];

***Гатовая*** *духоўная* ***страва****, падсунутая нам чужымі пануючымі ў нашым краі народамі, паслужыла прычынай таму, што нават нашым пісьменнікам здавалася і здаецца, што аб чым бы ні хацелі пісаць, дык усё акажацца перапевамі, усё ўжо нібы выкарыстана было другімі* (З.Бядуля) [36];

*Наконт тытулавання па бацьку ..* [Іван Мацвеевіч] *зараз жа расказаў* ***пікантны*** *анекдот*. (З.Бядуля) [126];

*Кожны гаварыў на той мове, якая яму падабалася. Але сам я прынцыпова стаў гаварыць толькі па-беларуску. І што цікава? Услед за мною на беларускую мову ўсё больш смела пачалі пераходзіць многія выкладчыкі. Адкуль што і ўзялося! І словы прыгадалі* ***каларытныя****,* ***сакавітыя****, і вымаўлялі іх чыста, правільна..* (З. Прыгодзіч) [102, с. 84];

*тэкст — гэта* ***аб'ект асалоды****, і, як любы іншы аб'ект асалоды, збліжаецца з задавальненьнямі паўсядзённага жыцьця, з* ***слодыччу ежы****, з храством краявіду, зь перахопленым раптоўным позіркам, з таямніцай голасу. Чытаньне — гэта прыгода, а ідэальная кніга — гэта кніга, дзе зьліваюцца асалода ад жыцьця і асалода ад тэксту* (А. Дынько) [47];

*(...) цяпер нават цяжка ўявіць сабе, каб школьнікі маглі так шмат чытаць. «****Запойна****» — вось напаўзабытае, але дакладнае слова. У гэтым сапраўды была нейкая амаль* ***фізычная залежнасьць****, нас было не адарваць ад кніг. (...) Тая* ***кнігазалежнасьць*** *засталася са мной назаўсёды, я наўрад ці ад яе калісьці пазбаўлюся. Дагэтуль* ***найвялікшай асалодай для мяне ёсьць добрая кніга*** *(...)* (А. Бахарэвіч) [26];

*Вымаўляючы купалаўскі* ***сакавіты*** *тэкст, гуляючы з бясконцым чарграваннем гэтых самых «г» і «ч», я* ***атрымоўвала сапраўдную асалоду*** (З. Прыгодзіч) [102, с. 21].

Тэкст як **экспанат (незнаёмы)**:

*не маюць магчымасці* ***пазнаёміцца з тэкстам*** *твора* (Н. Русецкая) [109, s. 336];

*прапануе (...)* ***тэкст*** *(...), пазнаёміўшыся з якім чытачы змогуць зрабіць уласныя высновы* (Н. Вавілава) [37, с. 131];

*ажывіць «****музейныя****»* ***тэксты*** (С. Кавалёў) [55, s. 288];

***тэксцік*** *Бахарэвіча* ***пакідае*** *агіднае* ***ўражанне*** (Паўловіч) [96, с. 149].

Тэкст як **прадмет механічнай апрацоўкі**:

*З'явілася ў мяне думка,* ***запіліць*** *артыкул пра гэты гарнізон* (У. Садоўскі) [110];

*Спачатку хацелася* ***запіліць*** *тэкст пра ўчорашні футбол, але ён будзе не пра футбол* [119];

*Вырашыў **запіліць** акаўнт з сучаснай архітэктурай ў Беларусі* [14];
*можна яшчэ апытанку **запіліць*** [7];
*Можа адмысловую тэму **запіліць**?* [84];
*На сайце СПБ пачалі **кляпаць** ананімкі* (М. Южык) [137];
*Гэта цяпер некаторыя аўтары **кляпаюць** так званыя тэксты за дзень-другі, у лепшым выпадку — за месяц. А раней пісаліся творы на працягу некалькіх гадоў* (З. Прыгодзіч) [102, с. 194] і г. д.

* * *

Апошнім часам публіцыст і перакладчык Андрэй Дынько выказаў гіпотэзу пра перспектыву «фізічнай абмежаванасці друкаванага тэксту», дакладней — яго «пераходу да віртуальнага», тэксту з антанімічнымі рысамі: адсутнасць пачатку і канца, бязмежнасць, хаатычнасць і г. д., не толькі вербальнага характару, але такі, які ўключае адначасова відэазапісы, фатаздымкі і г. д.:

*Ад друкаванага тэксту, фізічнага тэксту кнігі, адбыўся пераход да віртуальнага кампутарнага тэксту. Ад тэксту — пераход да гіпэртэксту, які ўжо не валодае шматлікімі ключавымі характарыстыкамі друкарскай культуры* [47].

Пра меншую ролю друкаваных тэкстаў у параўнанні з медыямі, напр. тэлебачаннем выказваліся даследчыкі і раней, аднак, як нам здаецца, гэтая перспектыва на сённяшні дзень заўчасная. Нязменная ж роля належыць вусным тэкстам — складнікам штодзённай камунікацыі паміж людзьмі.

## Вывады

Разуменне тэксту беларускімі філолагамі, як паказвае агляд, прайшло і далей рухаецца па складаным шляху. Уплыў на яго зрабілі як перадумовы, у якіх развівалася беларуская гуманістыка, так і новыя дасягненні ў замежнай гуманітарнай думцы. У лінгвістыцы зазначыўся адыход ад тэксту выключна як фактычнага матэрыялу для вывучэння моўных катэгорый і адзінак (ад гука да сказа), што ў выніку прывяло да разумення яго як адзінкі даследавання, як самастойнай моўнай з’явы. Надалей актуальным застаецца зацікаўленне, у першую чаргу, да вербальных тэкстаў, аднак апошнім часам усё часцей навукоўцы кіруюць увагу да невербальных знакаў, што стварае новую даследчую перспектыву.

Катэгарызацыя тэксту, найперш у працах спецыялістаў, але таксама і людзей, якія да тэксту маюць дачыненне як чытачы, слухачы або аўтары індывідуальных тэкстаў, выяўляе шмат яго аспектаў. Яна складаная і шматпланавая, семантычна больш багатая, чым слоўнікавыя дэфініцыі. Як даводзіць аналіз цытатаў, тэкст — гэта прадукт думак, маўлення, пісьма, друку аўтара. У разгледжаных фрагментах адзначаецца прысутнасць аўтара, што выконвае вызначанае пастаўленай мэтай дзеянне, накіраванае на вынік — прадукцыю,

якая прызначана адрасату (слухачу, чытачу). Гэта дае магчымасць разглядаць тэкст як частку моўнай камунікацыі, дазваляе адыйсці ад аўтаноміі мовы, дае падставы характарызаваць тэкст антрапалагічна. Носьбіт мовы стварае тэкст для іншага носьбіта мовы, каб перадаць пэўную інфармацыю. У залежнасці ад таго, якая мэта выказвання, змяняюцца або мадыфікуюцца яго характарыстыкі. Ва ўяўленнях пра тэкст прысутнічаюць м.ін. наступныя рысы: сувязь (тканіна), цэласнасць (будова), рэзультат (плён), абмежаванасць (вобраз), функцыя (прылады/барацьба–зброя), падкрэсліваецца дынаміка стварэння тэксту (выканаўца, напр. майстар, ткач, будаўнічы, кухарка дзейнічае: тчэ, будуе, шліфуе) і г. д.

## Літаратура


1. Aksamitau, A. Słownik frazeologiczny białorusko-polski / A. Aksamitau, M. Czurak. — Warszawa: Wydawnictwo SOW, 2000. — 260 s.
2. Bartmiński, J. Definicja kognitywna jako narzędzie opisu konotacji słowa / J. Bartmiński // Konotacja / J. Bartmiński i in. ; pod. red. J. Bartmińskiego. — Lublin: Wydawnictwo UMCS, 1988. — S. 169–185.
3. Bartmiński, J. Definicja semantyczna: czego i dla kogo / J. Bartmiński, R. Tokarski // O definicjach i definiowaniu, pod red. J. Bartmińskiego, R. Tokarskiego. — Lublin: Wydawnictwo UMCS, 1993. — S. 47–61.
4. Bartmiński, J. Jak badać językowo-kulturowy obraz świata Słowian i ich sąsiadów / J.Bartmiński // Etnolingwistyka. — 2008. — № 20. — S. 11–27.
5. Bartmiński, J. Językowe podstawy obrazu świata / J. Bartmiński. — Lublin: Wydawnictwo UMCS, 2006. — 283 s.
6. Bartmiński, J. Tekstologia // J. Bartmiński, S. Niebrzegowska-Bartmińska. — Lublin: Wydawnictwo Naukowe PWN, 2011. — 382 s.
7. equinox. каментар да: “Цель 99”. Другасная пераапрацоўка смецця. 12.01.2018. — Рэжым доступу: http://polacki-xlopec.bloger.by/91015/ — Дата доступу: 20.06.2018.
8. euga. Гэта геніяльны тэкст. Каментар да: Вушача — uladzimer. 14.01.2008. — Рэжым доступу: https://uladzimer.livejournal.com/10061.html — Дата доступу: 18.06.2018.
9. INSITU 2003 — Слоўнік тыпу INSITU беларускай мовы: слоўнік, граматычны даведнік і збор тэкстаў для вывучаючых беларускую мову // А. І. Дабралюбаў [і інш.]. — Мінск: Беларуская навука, 2003. — 431 с.
10. ja. Каментар да артыкула: Дзьмітрый Булахаў (1960–2006). 11.09.2006. — Рэжым доступу: https://nn.by/?c=ar&i=3760 — Дата доступу: 19.06.2018.
11. Kashagrechka. Каментар да: Die Reise der Dilettanten by Bulat Okudzhava. 27.10.2016. — Рэжым доступу: https://www.goodreads.com/book/show/35786506-die-reise-der-dilettanten — Дата доступу: 17.06.2018.
12. Kuptsevich, I. Сябры! Даруйце за многа літар… 23.09.2016. — Рэжым доступу: https://www.facebook.com/Akapital/posts/1620238288269485 — Дата доступу: 15.06.2018.
13. Linde M. S. B. Słownik języka polskiego / M. S. B. Linde; wyd. 2. Lwów: Zakład Narodowy imienia Ossolińskich, 1854–1860. T. I–VI.
14. nohead87. Архітэктурны Інстаграм. Кастрычнік 2014. — Рэжым доступу: https://www.skyscrapercity.com/showthread.php?t=1820388 — Дата доступу: 17.06.2018.

15. Pawłowski T. Tworzenie pojęć i ich definiowanie w naukach humanistycznych / T. Pawłowski. — Warszawa: PWN, 1978.
16. Słownik języka polskiego / Oprac. A. Zdanowicz, M. B. Szyszka, J. Filipowicz, W. Tomaszewicz, F. Czepieliński, W. Korotyński. Z udziałem B. Trentowskiego. T. I–II Wilno: Wyd. M. Orgelbranda, 1861.
17. Słownik terminologii lingwistycznej (białorusko-rosyjsko-polski i polsko-rosyjsko-białoruski) / E. Jurowiec [i in.]. — Białystok: Zakład Filologii Wschodniosłowiańskiej Filii UW w Białymstoku, 1994. — 161 s.
18. Vinsent. — Рэжым доступу: https://be.wikipedia.org/wiki/Vinsent — Дата доступу: 16.06.2018.
19. Акудовіч В.: Чалавека няма. Будучыня ёсць. 18.05.2016. — Рэжым доступу: https://eurobelarus.info/special-project/god-belaruskaga-myslennya/2016/05/18/valyants-n-akudov-ch-chalaveka-nyama-buduchynya-ests-fota.html — Дата доступу: 20.06.2018.
20. Алмазава, Г. (Стаселька, К.). У Барысаве адбылася прэзентацыя рамана Кірыла Стаселькі «Marginalis». 18.03.2018. — Рэжым доступу: https://ex-press.by/rubrics/novosti-borisova/2018/03/18/u-barysave-adbylasya-prezentacyya-ramana-kiryla-staselki-marginalis-2018-03-18 — Дата доступу: 15.06.2018.
21. Арцімовіч, Д. Мяняем «Жызэль»… на «Жызэль» // Мастацтва. — 2012. — № 6. — С. 11.
22. Бабейкіна, Д. Н. Літаратурна-музычнае свята «Кандрат Крапіва — майстар слова і пяра». 02.04.2016. — Рэжым доступу: https://zenkov.schools.by/photoalbum/105651 — Дата доступу: 20.06.2018.
23. Байкоў, М. Беларуска-расійскі слоўнік / М. Байкоў, С. Некрашэвіч. — Менск: Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, 1925. — 356 с.
24. Баркоўскі, П. Канцэпт аўтара ды чытача ў сучаснай філасофіі і літаратуразнаўстве. Лекцыя 1. — Рэжым доступу: http://belcollegium.org/paval-barkoўski-kancept-autara-dy-chytacha-u-suchasnaj-filasofii-i-litaraturaznaustve/ — Дата доступу: 18.06.2018.
25. Барысевіч, Ю. Цела і тэкст / Ю. Барысевіч. — Мінск: БГАКЦ, 1998. — 162 с.
26. Бахарэвіч, А. Шабаны. Гісторыя аднаго знікнення. — Мінск: Галіяфы, 2012. — 272 с.
27. Блінава, Э. Д. Беларуская дыялекталогія / Э. Д. Блінава, Е. С. Мяцельская — Мінск: Вышэйшая школа. 1969 — 156 с.
28. Бразгуноў, А. Рэц. на: Zoltàn, A. Oláh Miklos «Athila» című munkájának XVI. századi lengyel és fehérorosz fordítása / Dimensiones Culturales et Urbariales Regni Hungariae 6 / Nyíregyháza, 2004. 554 p. («Атыла» Міклаша Олаха ў польскім і беларускім перакладах XVI ст.) // Беларускі Гістарычны Агляд. 2003. — Т. 10. — Сш. 1–2. — Рэжым доступу: www.belhistory.eu/zoltan-andras-olah-miklos-athila-cimu-munkajanak-xvi-szazadi-lengyel-es-feherorosz-forditasa-ales-brazgunoў/ — Дата доступу: 19.06.2018.
29. Брусевіч, А. // Воўкава, В. «Жывы голас жывой душы». Літаратурная імпрэза да дня нараджэння Дануты Бічэль адбылася ў Гродне. 03.12.2016. — Рэжым доступу: https://hrodna.life/articles/zhyivyi-golas-zhyivoy-dushyi-litaraturnaya-impreza-da-dnya-naradzhennya-danutyi-bichel-adbyilasya-u-grodne/ — Дата доступу: 20.06.2018.
30. Брусевіч, А. А. Фактары беларускай культуры ў творчасці Адама Міцкевіча / А. А. Брусевіч. — Гродна: ГрДУ, 2007. — 135 с.
31. Булыка, А. М. Слоўнік іншамоўных слоў. У 2 т, Т. 1. А–Л / А. М. Булыка. — Мінск: БелЭн, 1999. — 735 с. Т. 2. М–Я / А. М. Булыка. — Мінск: БелЭн, 1999. — 735 с.

32. Бунцэвіч, Н. Інтуітыўныя эксперыменты з імправізацыяй / Н. Бунцэвіч // Культура. — № 38 (906). — 19.09.2009 — 25.09.2009 г. — Рэжым доступу: http://www.kimpress.by/index.phtml?page=2&id=3047&mode=print — Дата доступу: 14.06.2018.
33. Бутэвіч, А. Загадкавыя кітабы. — Рэжым доступу: http://karotkizmest.by/пераказы/загадкавыя-кітабы.html — Дата доступу: 20.06.2018.
34. Бутэвіч, А. І. Званы Нямігі / А. Бутэвіч. — Мінск: ВТАА Кавалер Паблішэрс, 2002. — 32 с. (Сем цудаў Беларусі, ІІІ).
35. Бушлякоў, Ю. Кальвы, ляшчоткі, шляга, беларуннае адзеньне. 02.04.2014. — Рэжым доступу: https://www.svaboda.org/a/24852823.html — Дата доступу: 18.06.2018.
36. Бядуля, З. Чаму яшчэ няма беларускага рамана? (выд. 1-е // Беларускае жыццё. — 1920. — № 7). — Рэжым доступу: http://biadulia.ru/stories/135.htm — Дата доступу: 20.06.2018.
37. Вавілава, Н. Б. Прастора літаратурна-мастацкай крытыкі ў інтэрнеце / Н. Б. Вавілава // Веснік БДУ. Сер. 4. Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. — 2006. — №3. — С. 126–131.
38. Вайніцкі, П.: «Скульптура — рэч вельмі спецыфічная». 29.07.2010. — Рэжым доступу: http://budzma.by/asoba/pavyel-vaynicki-skulptura-rech-vyelmi-spyecyfichnaya.html — Дата доступу: 19.06.2018.
39. Васючэнка, П. В. Літаратурны твор як мастацкі шыфр і яго інтэрпрэтацыя / П. В. Васючэнка // Журналістыка-2004. Матэрыялы 6-1 Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. Вып. 6. / Рэдкал.: В.П. Вараб’ёў. — Мінск, 2004. — 389 с. — С. 73–74.
40. Васючэнка, П. Кампетэнтная думка. Литература как плантация. 11.08.2012. Советская Белоруссия. — Рэжым доступу: https://www.sb.by/articles/literatura-kak-plantatsiya.html — Дата доступу: 20.06.2018.
41. Веравойша. Каментар да артыкула: Рэпер Вожык записал трогательную песню для Евровидения по-белорусски. 16.09.2017. — Рэжым доступу: https://m.nn.by/ru/articles/197393/comments/ — Дата доступу: 16.06.2018.
42. Восточнославянский фольклор: Словарь научной и народной терминологии / Редкол.: К. П. Кабашников (отв. ред.) и др. — Минск: Навука і тэхніка, 1993. — 478 с.
43. Ганецкая, І. Рэц. на: Марзалюк, Ігар. Магілёў у XII-XVIII ст. Мінск, 1998. 258 с. // Беларускі гістарычны агляд. 1998 Т. 5 Сш. 1. — Рэжым доступу: http://www.belhistory.eu/tag/gistarychnaya-geagrafiya/page/2/ — Дата доступу: 20.06.2018.
44. Губкіна, А. Рэц. на: Гісторыя беларускага мовазнаўства (1918–1941): Хрэстаматыя для студэнтаў філалалагічнага факультэта. — У 2 ч.; уклад. С. М. Запрудскі, Г. І. Кулеш. Ч. 1. БДУ, Мінск 2005. — 213 с. Ч. 2. БДУ, Мінск 2008. — 259 с. / Губкіна, А., Зразікава, В. // Studia Białorutenistyczne. 2010. T. 4. S. 343–346.
45. Дварчанін, І. Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве; перакл. з чэш. Т. Кароткай. 1926. — Рэжым доступу: http://www.dyatlovo.info/avtory/export/html/1516 — Дата доступу: 20.06.2018.
46. Дзядова, А. С. Філалагічны аналіз тэксту. Метадычныя рэкамендацыі / А. С. Дзядова. — Віцебск: ВДУ імя Машэрава, 2017. — 43 с.
47. Дынько, А. Друкаваны тэкст: уплыў на грамадскае жыццё і мысьленне // Медыі і камунікацыя: Філасофія. Літаратура. Журналістыка. Навейшая гісторыя: Лекцыі // Ю.Барысевіч, А.Анціпенка, А.Дынько; пад рэд. А. Анціпенка, М. Жбанкоў. Вільнюс — Мінск: Бел. калегіюм, 2000. — 356 с.

48. Жбанкоў, М. Аркестр ружовых акуляраў. Марціновіч і прага абдымашак. 09.01.2018. — Рэжым доступу: https://belaruspartisan.by/print/?ID=411983 — Дата доступу: 20.06.2018.
49. Жук, І. В. Празаічны тэкст: дынаміка рытмавага існавання: Манаграфія / І. В. Жук; Установа адукацыі «Гродзенскі дзярж. ун-т імя Я.Купалы»; пад рэд. А. А. Лойкі. — Гродна: ГрДУ, 2003. — 234 с.
50. Законнікаў, С. Насустрач. Публіцыстыка, эсэ / С. Законнікаў. — Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2008. — 330 с.
51. Залеская, А. Майстар вострага пяра // Працоўная слава. 05.05.2017. — Рэжым доступу: http://psl.by/?p=23464 — Дата доступу: 18.06.2018.
52. Запрудскі, І. М. Метафізіка беларускай крытыкі. — Мінск: БДУ, 2013. — 220 с.
53. Зміцер Д. Каментар да артыкула: Псевдонаука: как в Беларуси профанацией становятся рецензируемые статьи и защита диссертаций. 12.02.2018. — Рэжым доступу: https://m.nn.by/ru/articles/204621/comments/ — Дата доступу: 20.06.2018.
54. Зразікава, В. Беларуская мова. Прафесійная лексіка для эканамістаў: вуч. дап. / В. А. Зразікава, А.В. Губкіна. — Мінск: Вышэйшая школа, 2016. — 383 с.
55. Кавалёў, С. Рэц. на: «Гамбурскі рахунак Бахарэвіча», Альгерд Бахарэвіч, Мінск 2012 // Studia Białorutenistyczne. 2013. — T. 7. — S. 284–290.
56. Кавалёў, С. Новая еўрапеізацыя, «Беларусь», 1991. — №7. — С. 7.
57. Кавалёў, С. Рэц. на: Альгерд Бахарэвіч. Бэзавы і чорны. Парыж праз акуляры беларускай літаратуры. Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2016. — 278 с. // Studia Białorutenistyczne. 2017. — T. 11. — S. 337–344.
58. Кавалёў, С. У жанры шляхецкай гавэнды. Рэцэнзія на кнігу Ігара Запрудскага // Дзеяслоў. 2015. № 1 (74). С. 304–309. — Рэжым доступу: http://dziejaslou.by/сяргей-кавалёў-№74/ — Дата доступу: 20.06.2018.
59. Караткевіч, В.І. «Няўжо я памру!» А. А. Асташонка як інтэртэкст: да пастаноўкі праблемы // Куляшоўскія чытанні: Матэрыялы Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. Магілёў, 26–27 кастрычніка 2007 г. — Магілёў: МДУ імя А.А.Куляшова, 2007. — С. 40–42.
60. Квяткоўскі, С. Падарунак для Адэлі: проза / С. Квяткоўскі. — Менск: Логвінаў, 2012. — 96 с.
61. Квяткоўскі, С. Чалавек піша важны, востры, захапляльны тэкст. 09.09.2009. — Рэжым доступу: https://abrykos.livejournal.com/431174.html — Дата доступу: 17.06.2018.
62. Клімус, А. «Калыханка» ад «Сьцяны». 10.11.2014. — Рэжым доступу: http://tuzinfm.by/performer/mp3/1416/kalychanka.html — Дата доступу: 20.06.2018.
63. Красней, В. Беларуская мова. Поўны школьны курс. Дапаможнік для вучняў старшых класаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі / В. Красней, Я. Лаўрэль. — выд. 8-ае. — Мінск: Аверсэв, 2017. — С. 247–254 (Тэкст).
64. Лазарук, М. А. Слоўнік літаратуразнаўчых тэрмінаў: дапам. для настаўнікаў / М. А Лазарук, А. Я. Ленсу. — Мінск: Народная асвета, 1983. — 191 с.
65. Лапкоўская, А. М., 2009, Беларуская мова. Прафесійная лексіка: вучэб. дапаможнік для студ. / А.М. Лапкоўская. — Гродна: ГрДУ, 2009. — 271 с.
66. Лекцыя Марціна Путны адбылася ў Мінску: рэпартаж. 08.05.2014. — Рэжым доступу: https://lit-bel.org/news/Lektsiya-Martsna-Putni-adbilasya--Mnsku-repartazh-4973/?sphrase_id=1849 — Дата доступу: 19.06.2018.

67. Лепешаў, І. Я. Лінгвістычны аналіз тэксту: вучэбны дапам. / І. Я. Лепешаў. — Мінск: Вышэйшая школа, 2009. — 287 с.
68. Лепешаў, І. Я. Слоўнік фразеалагізмаў. У 2 т. Т. 1 (А–Л) / І. Я. Лепешаў. — Мінск: БелЭн, 2008. — 672 с. Т. 2 (М–Я) / І. Я. Лепешаў. — Мінск: БелЭн, 2008. — 704 с.
69. Лепешаў, І. Я. Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў. У 2 ч. Ч. 2 / І. Я. Лепешаў. — Мінск: Народная асвета, 1993. — 200 с.
70. Лепіхава, Ю. // Супрацьстаяць стрэсу вучыліся журналісты ў Лунінцы. 26.05.2014. — Рэжым доступу: http://old.baj.by/ru/node/25235 — Дата доступу: 20.06.2018.
71. Літаратурная майстэрня Віктара Марціновіча. 21.12.2017. — Рэжым доступу: https://www.facebook.com/EHUOfficial/videos/літаратурная-майстэрня-віктара-марціновіча-дзень-2/1765251366827301/ — Дата доступу: 15.06.2018.
72. Лявоненка, С. У. Фарміраванне камунікацыйнай кампетэнцыі вучняў 6–8-х класаў па вучэбным прадмеце «Беларуская мова». — Рэжым доступу: http://www.academy.edu.by/files/e%20konf%20bel%202016/Levonenko%20bel.pdf — Дата доступу: 16.06.2018.
73. Ляшчынская, В. А. Тэкст на ўроках беларускай мовы: практычны дапаможнік для студэнтаў філалагічных спецыяльнасцей ВНУ / В. А. Ляшчынская. — Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2008. — 64 с.
74. Ляшчынская, В. А. Тэкст як аб'ект стылістычнага рэдагавання і карэктуры / Гомель: ГДУ імя Францыска Скарыны. В. А. Ляшчынская. — 2017. — Рэжым доступу: http://www.repo.gsu.by/bitstream/123456789/5950/1/Ляшчынская%20В.%20А.%20Тэкст%20як%20аб%27ект%20стылістычнага%20рэдагавання%20і%20карэктуры.pdf — Дата доступу: 20.06.2018.
75. Макарэвіч, А. «Ляўкоўскі цыкл» Янкі Купалы ў кантэксце гістарычнай рухомасці твораў / А. Макарэвіч // Białorutenistyka Białostocka. 2010. — Т. 2. — S. 21–35.
76. Малажай, Г. М. Лінгвістычны аналіз тэксту: вучэбны дапаможнік / Г. М. Малажай. — 2-е выд., дапрац. і дап. — Мінск: Вышэйшая школа, 1992. — 367 с.
77. Марозаў: «Чаму будынак нельга разглядаць як архітэктурны тэкст?» 08.02.2012. — Рэжым доступу: http://krewo.by/content/marozay-»chamu-budynak-nelga-razglyadats-yak-arkhitekturny-tekst« — Дата доступу: 17.06.2018.
78. Мартыненка, В. Шалкевіча без сюрпрызаў не бывае. 08.02.2012. — Рэжым доступу: https://news.tut.by/kaleidoscope/273047.html — Дата доступу: 20.06.2018.
79. Марціновіч, М. Сцюдзёны вырай. 34mag.net — 19.02.2011. — 302 с. У электронным варыянце. — Рэжым доступу: http://kamunikat.org/usie_knihi.html?pubid=17487 — Дата доступу: 14.06.2018.
80. Маршэўская, В. В. Беларуская мова. Прафесійная лексіка / В. В. Маршэўская, І. В. Піваварчык, А. С. Садоўская. — Гродна: ГрДУ. — 131 с.
81. Місько, П. Эрпіды на планеце Зямля П. Місько. — Мінск: Мастацкая літаратура. — 2007. — 175 с. — Рэжым доступу: http://knihi.com/Paval_Misko/Erpidy_na_planiecie_Ziamla.html — Дата доступу: 18.06.2018.
82. Місюкавец, Л. П. Тэкст як адзінка фарміравання маўленчай кампетэнцыі спецыяліста / Л. П. Місюкавец // Банковская система: устойчивость и перспективы развития: материалы четвертой международной научно-практической конференции по вопросам банковской экономики, УО «Полесский государственный универси-

тэт», г. Пинск16–17 мая 2013 г.; под ред. Шебеко К. К. — Пинск: ПолесГУ. — С. 228–229.
83. Мітрапаліт Іларыён выдаў першую кнігу сваёй фундаментальнай працы пра Хрыста. 22.09.2016. — Рэжым доступу: old.catholic.by/2/home/world/news/40-foreign/131906-pravaslaue.html — Дата доступу: 20.06.2018.
84. Міхаіл L. Нашто ўмуроўвалі жорны? 31.10.2015. — Рэжым доступу: https://fgb.by/viewtopic.php?p=73022&sid=19649736c6529b44037094376b9e1173 — Дата доступу: 11.06.2018.
85. Мішчанчук, М. На шляху да модульнага пісьма. Малая проза Максіма Гарэцкага / М. Мішчанчук // ЛіМ. — 15.04.2011. — №15. — С. 15.
86. Мудроў, В. Багун / В. Мудроў. Полацк: Полацкае Ляда, 2013. — 278 с.
87. Мускулатура тэксту. Як выпрацоўваць моцны стыль. 13.09.2013. — Рэжым доступу: http://mediakritika.by/article/1445/muskulatura-tekstu-yak-vypracouvac-mocny-styl — Дата доступу: 19.06.2018.
88. Несцяровіч, В. Свет гармоніі і прыгажосці ў творах Васіля Віткі / В. Несцяровіч // Роднае слова. 2011. — №5. — С. 15.
89. Падарожжа з Бартосікам. 06.04.2018. — Рэжым доступу: http://svaboda.org/a/29150054.html — Дата доступу: 12.06.2018.
90. Падгол, У. Рэц. на: Зміцер Дашкевіч, Чарвяк, Вільня 2013. — 164 с. // Новости НИСЭПИ (IISEPS news). Декабрь 2013. Вып. 4. — Vilnius — С. 46–48.
91. Падручны гістарычны слоўнік субстантыўнай лексікі. У 2 т. Т. 1. А–О / Нац. акад. навук Беларусі, Цэнтр даслед. беларус. культуры, мовы і літ., філ. «Ін-т мовы і літ. імя Якуба Коласа і Янкі Купалы» ; склад.: І. У. Будзько [і інш.] ; пад рэд. А. М. Булыкі. — Мінск: Беларус. навука, 2013. — 531 с. Т. 2. Р–Я / Нац. акад. навук Беларусі, Цэнтр даслед. беларус. культуры, мовы і літ., філ. «Ін-т мовы і літ. імя Якуба Коласа і Янкі Купалы» ; склад.: І. У. Будзько [і інш.] ; пад рэд. А. М. Булыкі. — Мінск: Беларус. навука, 2013. — 515 с.
92. Пазняк, Н.М. Літаратурная традыцыя і трамвай у сучаснай беларускай паэзіі / Н. М. Пазняк // Спадчына І. Я. Навуменкі і актуальныя праблемы літаратуразнаўства; вып. 3; пад рэд. І. Ф. Штэйнера. — Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2016. 248 с. — С. 136–140.
93. Паляшчук, Н., Рэц. на: Ігар Клімаў. Евангелле ў перакладзе Васіля Цяпінскага. БДУКМ — Мінск 2012. — 337 с. / Паляшчук, Н., Ярмоленка, Э. // Studia Białorutenistyczne. 2013. — Т. 7. — S. 277–284.
94. Паплаўская, А. …да наступнага Глінянага Вялеса. 24.09.2009. — Рэжым доступу: http://krytyka.by/by/page/works/natatki-tvory/359 — Дата доступу: 19.06.2018.
95. Пархоменка В. У. Фарміраванне камунікатыўнай кампетэнтнасці вучняў праз выкарыстанне тэкстацэнтрычнага падыходу на ўроках беларускай мовы. З вопыту работы настаўніка беларускай мовы і літаратуры. — Рэжым доступу: — Дата доступу: 16.06.2018.
96. Паўловіч, Мінск: Каментар да: Чатыры тарпэды. І ўсе міма. 01.02.2013 // Дракахруст, Ю. Сем худых гадоў. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2014. — 406 с. — С. 149.
97. Плотников, Б. А. Семиотика текста: Параграфемика / Б. А. Плотников. — Минск: Вышэйшая школа, 1992. — 191 с.

98. Плотнікаў, Б. А. Беларуская мова. Лінгвістычны кампендыум / Б. А. Плотнікаў, Л. А. Антанюк. — Мінск: Інтэрпрэссэрвіс, Кніжны Дом, 2003 — 672 с.
99. Плотнікаў, Б. А. Слоўнік цяжкасцяў беларускай мовы / Б. А. Плотнікаў, В. П. Трайкоўская. —Мінск: Кніжны Дом, 2004. — 544 с.
100. Плотнікаў, Б. А. Тэкст // Беларуская мова. Энцыклапедыя / пад рэд. А. Міхневіча. — Мінск: БелЭн імя П. Броўкі, 1994. — 656 с. — С. 566–567.
101. Праграма міжнароднай канферэнцыі «Тэкст у мове, маўленні, культуры». — Рэжым доступу: https://drive.google.com/file/d/0B5YBweukKvvVbGx5R1Uzb0RHYTA/view — Дата доступу: 13.06.2018.
102. Прыгодзіч, З. Постаці: «сэрца мільёнаў падслухаць біцця…» / З. Прыгодзіч. — Мінск: Выдавецкі дом Звязда. 2014. — С. 320.
103. Пульша, С. Справа Гайдукова разваліласяʼ (Алег Волчак). 20.06.2013. — Рэжым доступу: http://novychas.by/palityka/sprava_hajdukova_razvalilasia — Дата доступу: 18.06.2018.
104. Пытанні тэксталогіі беларускай літаратуры / Акад. навук Беларус. ССР, Ін-т літ. імя Я. Купалы ; пад рэд. С. А. Андраюк. — Мінск: Навука і тэхніка, 1980. — 190 с.
105. Рагойша, В. П. Літаратуразнаўчы слоўнік: тэрміны і паняцці для школьнікаў і абітурыентаў / В. П. Рагойша. — Мінск: Народная асвета, 2009. — 303 с.
106. Рагойша, В. П. Паэтычны слоўнік / В. П. Рагойша. — Мінск: Вышэйшая школа, 1979. — 320 с.
107. Рамза, Т. Р. Беларускае гутарковае маўленне: сучасны стан / Т. Р. Рамза. — Мінск: Вышэйшая школа, 2011. — 221 с. + электрон. апт. дыск: гук.
108. Рудак В. Каментар да: «Рогачевъ» — hety dzien u historyi… 23.11.2013. — Рэжым доступу: https://dzienn.livejournal.com/211864.html — Дата доступу: 15.06.2018.
109. Русецкая, Н. Рэц. на: Францыск Скарына і сучаснасць. Зборнік п’ес, склад. А. А. Суша. Мінск: Нацыянальная бібліятэка Беларусі, 2017. — 336 с. / Н. Русецкая // Studia Białorutenistyczne. 2017. — Т. 11. — S. 333–336.
110. Садоўскі, У. (yozas_gubka). Гарнізон у Геленова: горад у горадзе. 03.10.2012. —Рэжым доступу: https://yozas-gubka.livejournal.com/32396.html — Дата доступу: 17.06.2018.
111. Салавей, Л. М. Тэксталогія фальклорная // Беларускі фальклор. Энцыклапедыя ; пад рэд. Г. П. Пашкова. — У 2 т. Т. 2 (Л–Я). — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 2006. — 832 с. — С. 637–638.
112. Сачанка, Б. Літаратура — гэта голас народа. Гутарка Зіновія Прыгодзіча з Барысам Сачанкам // Дзеяслоў. — 2013. — № 6 (67). С. 210–232.
113. Севярынец, Г. Гісторыі: Ганна Севярынец пра дзве сям’і, кошт свайго прозвішча і пераход з бізнэсу ў школу. 15.04.2018. — Рэжым доступу: https://nina.nn.by/?c=lr&i=207753 — Дата доступу: 14.06.2018.
114. Скарнік. Тлумачальны слоўнік. — Рэжым доступу: https://www.skarnik.by/tsbm — Дата доступу: 20.06.2018.
115. Слоўнік лексічных формаў (сінонімы, амонімы, антонімы, паронімы, амографы, амафоны) / уклад. Я. І. Хвалей, У. В. Шарпіла. — Мінск: Парадокс, 2004. — 416 с.

116. Старажытнабеларуская літаратура. — Рэжым доступу: https://be.wikipedia.org/wiki/Старажытнабеларуская_літаратура — Дата доступу: 18.06.2018.
117. Старычонак, В. Дз. 150 сачыненняў па беларускай літаратуры: у дапамогу абітурыентам і школьнікам / В. Старычонак. — Мінск: Вышэйшая школа, 1999. — 485 с.
118. Строцаў, А. Пост дня. «Менск — гэта горад любові». 23.04.2014. — Рэжым доступу: http://kyky.org/places/post-dnia-miensk-gheta-ghorad-liubovi — Дата доступу: 13.06.2018.
119. Суполка ідэйных. Спачатку хацелася запіліць тэкст… 10.10.2014. — Рэжым доступу: https://vk.com/wall-1425614_27892 — Дата доступу: 19.06.2018.
120. Супрун, А. И. Исследования по лингвистике текста. Сборник статей А. И. Супрун. — Минск: БГУ, 2001. — 307 с.
121. Сцяцко, П. У. Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў / П. У. Сцяцко, М. Ф. Гуліцкі, Л. А. Антанюк, Мінск: Вышэйшая школа, 1990. — 222 с.
122. Тлумачальны слоўнік сайта «Родныя вобразы». — Рэжым доступу: http://rv-blr.com/dictionary/explanatory?letter=0&marker=&page=2375 — Дата доступу: 16.06.2018.
123. Тлумачальны слоўнік. — Рэжым доступу: http://slounik.org — Дата доступу: 14.06.2018.
124. ТСБЛМ Суднік, Крыўко — Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы / пад рэд. М. Р. Судніка, М. Н. Крыўко. — Выд. 2-ое (1-ае выд. 1996). — Мінск: БелЭн, 1999. — 784 с.
125. ТСБМ Баханькоў і інш. — Баханькоў, А. Я. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы / А. Я. Баханькоў, І. М. Гайдукевіч, П. П. Шуба, выд. 4-ае (1-ае выд. 1969?). — Мінск: Народная асвета, 1990. — 396 с.
126. ТСБМ Крапіва — Тлумачальны слоўнік беларускай мовы / Акад. Навук БССР, Ін-т мовазн. Імя Якуба Коласа ; пад рэд. Кандрата Крапівы (К. К. Атраховіча). — У 5 т. Т. 1 (А–В) Мінск: БелЭн, 1977. Т. 1 (А–В) Мінск: БелЭн, 1977. — 608 с. — Т. 2 (Г–К) Мінск: БелЭн, 1978. — 768 с. — Т. 3 (Л–П) Мінск: БелЭн, 1979. — 672 с.– Т. 4 (П–Р). Мінск: БелЭн, 1980. — 768 с. —Т. 5. Кн. 1 (С–У). Мінск: БелЭн, 1982. — 663 с. — Т. 5. Кн. 2 (У–Я). Мінск: БелЭн, 1984. — 608 с.
127. Туміловіч, Н. Даследчая праца «Бо яна для яго была сонцам…»: Інтымная лірыка Янкі Купалы як сродак фарміравання асобы сучасніка / Аддзел адукацыі, спорту і турызму Уздзенскага райвыканкама, Дзяржаўная ўстанова адукацыі «Нёманская сярэдняя школа імя І.Д. Гурскага» Уздзенскага раёна; кіраўн. Собаль Л. А. — Магільна, 2017. — 18 с. — Рэжым доступу: schoolnemansk.edu.minskregion.by/ — Дата доступу: 12.06.2018.
128. Тэкст. Тэма і асноўная думка тэксту. Загаловак. Часткі тэксту. План тэксту // Домашний учитель Радуга. — Рэжым доступу: http://raduga-sv.blogspot.com/p/blog-page_464.html — Дата доступу: 17.06.2018.
129. Уласевіч, В. І. Слоўнік новых слоў беларускай мовы / В. І. Уласевіч, Н. М. Даўгулевіч. — Мінск: ТэтраСістэмс, 2009. — 448 с.
130. Фаланстер Минск. І, не пройдзе і… 24.01.2017. https://www.facebook.com/falanster.by/posts/і-не-пройдзе-і-паловы-гады-як-вы-пабачыце-што-студэнцкімі-рукамі-вікіпедыя-папоў/1372244316168202/

131. Хай дурныя чытачы пстрыкаюць мышкай. 07.01.2013. — Рэжым доступу: http://mediakritika.by/article/565/hay-durnyya-chytachy-pstrykayuc-myshkay — Дата доступу: 16.06.2018.
132. Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі. Цэнтральная зона / НАН Беларусі, Ін-т мовы і літ. Імя Якуба Коласа і Янкі Купалы; уклад. В. Д. Астрэйка [і інш.] ; навук. рэд. Л. П. Кунцэвіч, В. М. Курцова. — Мінск: Беларуская навука, 2009. — 529 с.
133. Шведаў, С. М. Слоўнік сінонімаў беларускай мовы / С. М. Шведаў. — Мінск: Сучаснае слова. 2004. — 480 с.
134. Шчэрбін, С. М. Факультатыўны занятак па беларуская мове / С. М. Шчэрбін; 9 клас. — Тэма: Тэкст як сінтаксічная адзінка. Асноўныя прыметы тэксту. — 2016/2017. — Рэжым доступу: http://www.kalinroo.guo.by/uploads/b1/s/11/641/basic/2/309/Scherbin_SM.docx?t=1483017581 — Дата доступу: 15.06.2018.
135. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Т. 14. Т / уклад. І. І. Лучыц-Федарэц, Г. А. Цыхун, Н. С. Шакун; гал. рэд. Г. А. Цыхун. — Мінск: Беларуская навука, 2017. — 334 с.
136. Южык М. ЛіМаразм-115. Падвышаць дабрабыт. 30.03.2016. — Рэжым доступу: https://iuzhyk.livejournal.com/423077.html — Дата доступу: 12.06.2018.
137. Южык М. ЛіМаразм-23. Калі начальства патрэпле. 11.02.2015. — Рэжым доступу: https://iuzhyk.livejournal.com/355457.html — Дата доступу: 19.06.2018.
138. Южык, М. ЛіМаразм-67. Каб не было і духу. 29.05.2015. — Рэжым доступу: https://litkritika.by/categories/literatura/2370/2783.html — Дата доступу: 14.06.2018.
139. Юрэвіч, А. К. Стылістыка беларускай мовы: вучэб. дапам. / А. К. Юрэвіч. — 2-е выд. — Мінск: Вышэйшая школа, 1992. — 288 с.
140. Ярашонак, А. Краязнавец з Ільі выдаў трэцюю кнігу і піша чацвёртую. 22.10.2016. — Рэжым доступу: www.rh.by/2016/10/22/krayaznavets-z-ili-vydau-tretsyuyu-knigu-i-pisha-chatsvyortuyu/ — Дата доступу: 17.06.2018.

**Радаслаў Калета**
(Варшаўскі ўніверсітэт, Варшава, Польшча)

## ЧАСОПІС «БЕЛАРУСКАЯ МОВА ЯК ЗАМЕЖНАЯ» ЯК ПРЫКЛАД ПОЛЬСКА-БЕЛАРУСКАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА Ў ГАЛІНЕ ГЛОТАДЫДАКТЫКІ[1]

У Майстэрні беларусістычнай глотыдактыкі Кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта (пры падтрымцы даследчыкаў з розных замежных і беларускіх навуковых цэнтраў, у тым ліку з Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта, Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы,

[1] Тэкст падрыхтаваны на падставе артыкула [10].

Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі) аўтарам гэтага артыкула быў заснаваны навукова-метадычны часопіс «Беларуская мова як замежная», які заслугоўвае ўвагі як навуковая прастора для даследчыкаў, што захочуць абменьвацца думкамі і дзяліцца сваімі ідэямі ды досведам. Мэта часопіса — спрыяць пастаяннаму развіццю не толькі даследчыкаў, але таксама самой галіны навукі, якой з’яўляецца беларусістычная глотадыдактыка (у Беларусі больш папулярны тэрмін *лінгвадыдактыка*). Рэдактарамі часопіса з’яўляюцца прадстаўнікі розных універсітэтаў: Вольга Барысенка з Мінска (МДЛУ) і Радаслаў Калета з Варшавы (ВУ), а дапамагаюць ім Лідзія Сямешка (РІВШ), Надзея Старавойтава (БДЭУ) і Алег Гергіеў (МДЛУ). У навуковай радзе часопіса «Беларуская мова як замежная» засядаюць прадстаўнікі розных не толькі беларускіх і польскіх, але таксама ўкраінскіх, англійскіх і амерыканскіх навуковых асяродкаў: Генадзь Цыхун (Нацыянальная акадэмія навук Беларусі), Лідзія Сямешка (Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы), Сяргей Важнік (Інстытут нацыянальнай адукацыі Рэспублікі Беларусь), Людміла Сінькова (Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт), Таццяна Рамза (Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт), Ларыса Пісарэк (Польшча, Вроцлаўскі ўніверсітэт), Аляксандр Кіклевіч (Польшча, Вармінска-Мазурскі ўніверсітэт у Ольштыне), Алена Пацехіна (Польшча, Вармінска-Мазурскі ўніверсітэт у Ольштыне), Аляксандр Скапненка (Украіна, Нацыянальная акадэмія навук Украіны), Зінаіда Пахолак (Украіна, Луцкі інстытут развіцця чалавека Універсітэта «Украіна»), Джым Дынглі (Вялікабрытанія, Беларуская бібліятэка імя Францішка Скарыны ў Лондане), Арнольд Макмілін (Вялікабрытанія, Лонданскі ўніверсітэт), Курт Вулхайзер (ЗША, Брандайскі ўніверсітэт). Падобныя часопісы ёсць і ў іншых краінах.

Ідэя стварыць часопіс «Беларуская мова як замежная» ўзнікла яшчэ ў 2015 г., падчас працы VI Міжнароднага кангрэса беларусістаў у маі 2015 г. у Мінску. У праграме Кангрэса была адна з самых вялікіх секцыяў «Беларуская мова як замежная», пасяджэнне якой праходзіла ў кабінеце праф. Аляксандра Лукашанца (тагачаснага дырэктара Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі). У секцыі ўдзельнічалі прадстаўнікі розных навуковых асяродкаў Беларусі, Украіны, Польшчы і Японіі, у тым ліку Лідзія Сямешка, (з Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы), Вольга Барысенка і Аксана Семянькевіч (з Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта), Надзея Старавойтава (з Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта), якая тады выкладала беларускую мову ў Кіеўскім нацыянальным ўніверсітэце, Ларыса Станкевіч (з Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна), якая выкладала беларускую мову ў Будапешцкім ўніверсітэце імя Лоранда Этвеша, Сіёры Кіёсава (з Цукубскага ўніверсітэта ў Японіі), Міраслаў Янковяк (з Інстытута славістыкі Польскай акадэміі навук), Агнешка Гораль (з Люблінскага ўніверсітэта імя Марыі Кюры-Складоўскай). Мадэратарам секцыі быў Радаслаў Калета (з Варшаўскага ўніверсітэта), а

дыскутантам праф. Ларыса Пісарэк (з Вроцлаўскага ўніверсітэта). Даклады слухалі таксама госці, студэнты і навукоўцы, у тым ліку Алена Анісім (з Таварыства беларускай мовы) і Аляксандр Скапненка (з Нацыянальнай акадэміі навук Украіны).

Трэба падкрэсліць факт, што такая секцыя была створаная не ўпершыню, таму што на V Міжнародным кангрэсе беларусістаў у 2010 г. працавала падобная (хоць і не такая вялікая) секцыя. Цешыць факт, што навуковыя сустрэчы, прысвечаныя беларускай мове як замежнай адбываюцца даволі рэгулярна як ў Беларусі, так і ў замежжы. Напрыклад, у 2016 г. кафедрай сучаснай беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта была арганізавана міжнародная навуковая канферэнцыя «Мова — Літаратура — Культура (да 90-годдзя прафесара Льва Міхайлавіча Шакуна)» [14], дзе чыталіся даклады беларускіх, рускіх і польскіх даследчыкаў, прысвечаныя таксама выкладанню беларускай мовы як замежнай, а Надзея Старавойтава арганізавала падобную секцыю на Кангрэсе даследчыкаў Беларусі ў Каўнасе у 2016 г. і ў Варшаве ў 2017 г.

Беручы вышэйсказанае пад увагу, яшчэ больш радуе факт, што ў канцы канцоў можам запрапанаваць Чытачу два нумары міжнароднага навукова-метадычнага часопіса, прысвечанага менавіта беларускай мове як замежнай. Дата першага выпуску (2017 г.) не выпадковая, а вельмі сімвалічная — 500-годдзе беларускага кнігадрукавання, звязанае з кніжна-выдавецкай спадчынай беларускага асветніка Францыска Скарыны, які ў друкарні, заснаванай у Празе, выдаў у 1517 г. Псалтыр — першую друкаваную беларускую кнігу. Менавіта таму ў часопісе друкуюцца матэрыялы не толькі пра беларускую мову, але таксама пра беларускую літаратуру, культуру, значыць пра усё, што будзе цікава не толькі выкладчыкам беларускай мовы, але таксама і замежнікам, якія вывучаюць беларускую мову і хочуць яшчэ больш даведацца пра Беларусь. Менавіта таму некаторыя тэксты будуць паказваць Беларусь (яе мову, культуру, літаратуру) вачыма замежных гасцей і для замежных гасцей. Дзякуючы гэтаму часопіс можа не толькі папулярызаваць беларушчыну, але таксама быць візітоўкай Беларусі, якой могуць карыстацца, напрыклад, беларускія культурныя цэнтры пры пасольствах Рэспублікі Беларусь за мяжой. Прыклад гэтаму Культурны цэнтр Беларусі пры Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча, які падтрымаў ідэю выдаваць часопіс і быў спонсарам друку першага нумару.

У першым нумары часопіса «Беларуская мова як замежная» увазе Чытачоў прапануем артыкул прафесара Лондонскага ўніверсітэта Арнольда Макміліна, які сам выдаў пяць кніг, прысвечаных Беларусі, беларускай мове, культуры і літаратуры і адказвае на пытанне, што англічане думаюць пра беларускую мову і літаратуру. Вольга Барысенка у сваім артыкуле прэзентуе некалькі асноўных падручнікаў па беларускай мове як замежнай у дыяхранічным аспекце, напр.: *Fundamental Byelorussian — Беларуская мова* [32], [33], *Гаворым па беларуску* [25], *Беларуская мова? З задавальненнем!* [18]), *Белорусскій язык для стран СНГ* [16], *По-белорусски? Пожалуйста! = Па-беларуску? Калі*

*ласка!* [15]. Праблема падручнікаў — гэта вельмі актуальная тэма, асабліва таму, што падручнікі па БМЗ пішуцца не толькі ў Беларусі, але і за мяжой, у розных краінах, напрыклад у Японіі [20], Германіі [27], Венгрыі [24], Польшчы [6; 21; 26], Украіне [17] ці Расіі [3; 22] (параўн. [11; 12]).

Агата Ракава прэзентуе сваю вельмі цікавую і вартую шырэйшай папулярызацыі ідэю электроннага курсу па беларускай мове як замежнай (параўн. [7]). Аксана Семянькевіч дзеліцца досведам выкладання беларускай мовы як замежнай у Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце, паказвае задачы, якія неабходна вырашыць. Перш за ўсё трэба распрацаваць дзяржаўныя моўныя стандарты, парогавыя ўзроўні валодання беларускай мовай і стварыць Сертыфікацыйны цэнтр; варта таксама развіваць і ўдасканальваць навукова-метадычную базу дысцыпліны БМЗ (навуковыя канферэнцыі, навуковыя тэмы, курсавыя, дыпломныя, магістарскія і дысертацыйныя працы) і падрыхтоўваць педагагічныя кадры для забеспячэння рэалізацыі дысцыпліны БМЗ. Лідзія Сямешка знаёміць нас з гісторыяй правядзення Міжнароднай летняй школы беларусістыкі, якая рэкламавалася і ў Польшчы (гл. [29]), а Кацярына Канчэўская запрашае ўсіх у бязвізавы горад Гародня і падказвае, што і чаму варта паглядзець.

Дата другога выпуску (2018 г.) таксама вельмі сімвалічная — 100-годдзе першай граматыкі беларускай мовы. У другім нумары прапануем наступныя артыкулы:

*Ларыса Гедзімін* Да 100-годдзя «Граматыкі беларускай мовы» Браніслава Тарашкевіча

*Лідзія Сямешка* Міжнародная летняя школа беларусістыкі: мэты і матывы вывучэння беларускай мовы

*Ларыса Кныш* Праца з лексікай: адбор, спосабы ўвядзення і семантызацыі (пры навучанні беларускай мове як замежнай)

*Надзея Старавойтава* Выкарыстанне інтэрнэт-рэсурсаў у выкладанні беларускай мовы як замежнай

*Радаслаў Калета* Выбраныя матэрыялы па вывучэнні беларускай мовы як замежнай (1973 — 2017 гг.)

*Вольга Барысенка* Песня як тэкст для аўдыявання на занятках па беларускай мове як замежнай

*Алена Калечыц* З досведу выкладання беларускай мовы як замежнай (ва ўмовах падрыхтоўкі спецыялістаў па праграме «Усходнеславянскія мовы і культуры» ва Універсітэце імя Канстанціна Філосафа ў Нітры (Славакія))

*Арцём Тэадаровіч* Гісторыя і практыка арганізацыі размоўных клубаў (на матэрыяле працы Беларускага размоўнага клуба ў Кыеве)

*Сяргей Новікаў* Лагер смерці Трасцянец у еўрапейскай культуры памяці

*Віктар Корбут* Мінск. Спадчына сталіцы Беларусі

*Лідзія Сямешка* Аўтарская вучэбная праграма павышэння кваліфікацыі для выкладчыкаў беларускай мовы як замежнай і спецыялістаў па рабоце з

замежнымі студэнтамі *Беларуская мова як замежная ў кантэксце сучаснай культурна-філасофскай інтэрпрэтацыі мовы і кампетэнтнасці адукацыйнай парадыгмы*

Рэцэнзіі.

На старонках часопіса «Беларуская мова як замежная» закранаюцца разнастайныя праблемы беларускай мовы як замежнай (БМЗ, беларусістычнай глотадыдактыкі), напр.:

1) методыка выкладання — метады выкладання граматыкі, ведаў пра Беларусь; развіццё навыкаў вуснага маўлення, аўдыявання, чытання і пісьма; новыя тэхналогіі на занятках па беларускай мове; азнаямленне з літаратурнымі тэкстамі; выкарыстанне літаратурных тэкстаў у міжнародных, аднанацыянальных групах і ў (не)славянскіх групах і г. д.;

2) беларушчына замежнікаў — аналіз моўных памылак (напр. памылкі палякаў, якія вывучаюць беларускую мову [31]); даследаванне г. зв. пераходнай мовы (анг. *interlanguage*) і вымаўлення;

3) параўнальная глотадыдактыка — напр., беларуска-польская, беларуска-расійская, беларуска-нямецкая і г. д.; даследаванне падабенстваў і адрозненняў моў; параўнанне метадаў выкладання, праграмаў курсаў, цяжкасцяў моў, ролі выкладчыка і г. д.

4) гісторыя і сучаснасць выкладання беларускай мовы як замежнай — старыя і новыя падручнікі беларускай мовы як замежнай, спосабы прэзентацыі матэрыялу, тэматычная разнастайнасць;

5) мова і культура — пытанні культурнай лінгвістыкі (лінгвакраіназнаўства, лінгвакультуралогія, беларусазнаўства); міжкультурная камунікацыя, выкладанне мовы і культуры Беларусі; месца культуры ў выкладанні мовы; прымаўкі, прыказкі, фразеалогія, безэквівалентная лексіка, маўленчы этыкет; стэрэатыпы ў падручніках, ролі мужчыны і жанчыны; распаўсюджаныя імёны і прозвішчы, рысы характару беларусаў; табуізацыя некаторых тэм, такіх, як эротыка, смерць, рэлігія; ідэалізацыя герояў падручнікаў, іх сям'і;

6) моўная прагматыка — напр., прывітанне, развітанне, падзяка, прабачэнне, просьба;

7) праблемы сертыфікацыі ўзроўняў валодання беларускай мовай як замежнай;

8) беларуская мова як замежная ў Беларусі ды за мяжой;

9) прыклады матэрыялаў, практыкаванняў ды заняткаў па беларускай мове як замежнай;

10) праблемы адукацыі і працы выкладчыкаў беларускай мовы як замежнай у Беларусі і за мяжой, памылкі лектараў.

Матэрыялы часопіса даступны таксама ў Інтэрнэце, каб даследчыкі, студэнты і ўсе ахвочыя з розных куткоў свету маглі імі карыстацца. Нашым аўтарам прапануем закранаць разнастайныя тэмы, напр. можна пісаць пра беларускі тэатр ці беларускія гаворкі для спецыялістаў, або для не спецыялістаў напр.

для замежнікаў, якія вывучаюць мову і цікавяцца Беларуссю. Таму запрашаем усіх ахвотных дасылаць свае матэрыялы і дзяліцца сваім досведам з замежнікамі і такім чынам працаваць на карысць Беларусі. Мы хочам, каб часопіс быў міжнародным праектам, у якім удзельнічаюць розныя беларускія навуковыя цэнтры. У сённяшняй складанай сітуацыі беларускай мовы у Беларусі трэба, каб прадстаўнікі розных навуковых асяроддзяў аб'ядналіся для падтрымкі беларускай мовы і часопіса «Беларуская мова як замежная». На сённяшні дзень часопіс выдаецца у Варшаве, але вядуцца перамовы, каб наступны нумар быў падрыхтаваны ў сталіцы Беларусі пры падтрымцы Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы (РІВШ) (кантактная асоба: Наталля Клішэвіч klishevich.natali@gmail.com).

Мы лічым, што беларуская мова можа быць цудоўнай рэкламай Беларусі, яе гісторыі, культуры і спадчыны. Гэта пацвярджае прыклад Міжнароднай летняй школы беларусістыкі (гл. [13]), якая ладзіцца з 2015 г. Рэспубліканскім інстытутам вышэйшай школы. Маем надзею, што ў хуткім часе будуць створаныя яшчэ як навукова-метадычны цэнтр па беларускай мове як замежнай (а можа, нават універсітэцкая кафедра беларускай мовы як замежнай), так і міжнароднае таварыства выкладчыкаў беларускай мовы як замежнай (можа, напрыклад, у рамках Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў). Многія замежнікі хацелі б мець магчымасць атрымаць беларускі дзяржаўны сертыфікат, які пацвярджаў бы іхні ўзровень валодання беларускай мовай. Для такіх сертыфікацыйных экзаменаў неабходна падрыхтаваць тэсты, прыклады якіх былі ўжо паспяхова апрабаваныя (гл. [2]). Падобныя сертыфікаты прапануюць шматлікія краіны, у тым ліку дзяржавы-чальцы СНД, так што хочацца мець надзею, што неўзабаве і Беларусь будзе выдаваць моўныя сертыфікаты на дзяржаўным узроўні. Гэта пакуль што праекты, мары і планы на будучыню, але вельмі важна, што ёсць ясна акрэсленыя мэты, да якіх можна імкнуцца, якія можна падтрымліваць і ў неабходнасці якіх можна старацца пераканаць іншых. Самае важнае пачынаць з маленькіх крокаў, якія ўжо былі ўдала зроблены і могуць быць прыкладам для наступных. Беларуская мова — гэта мова беларускага народа. Без гэтай мовы можна пазнаёміцца з Беларуссю і зразумець яе толькі да нейкай ступені. Разумеюць гэта нават маладыя замежныя студэнты, якія звычайна нядрэнна валодаюць рускай мовай. Яны ведаюць, што ў сучасным шматмоўным свеце няма падзелу на лепшыя і горшыя мовы. Усе мовы — гэта багацце свету, спадчына чалавецтва (здаецца, разумеў гэта ўжо Францыск Скарына). Чым больш моў ведаеш, тым больш развіваешся, багацееш у духоўным плане, не гаворачы пра новыя шанцы, якія з'яўляюцца для цябе на рынку працы. Таму не існуе канфлікту паміж мовамі, няма штучнай канкурэнцыі. Вельмі радуюць маладыя людзі, якія заўсёды гатовы вучыцца новаму. Яны разумеюць, што жаданне вучыцца — гэта натура чалавека і праява жыцця. Хай нас не здзіўляюць тады замежнікі, якія шчыра хочуць вывучыць беларускую мову, не звяртаючы ўвагі на стэрэатыпы.

Усім зычым прыемнага чытання і запрашаем дасылаць свае матэрыялы для наступных нумароў часопіса «Беларуская мова як замежная».

## Літаратура


1. Барысенка, В. Праблемы выкладання беларускай мовы як замежнай у вышэйшай школе / В. Барысенка // Новае слова ў беларусістыцы. Мовазнаўства: матэрыялы V Міжнароднага кангрэса беларусістаў (20–21 мая 2010 года). — Мінск, 2012. — С. 392–394. (Belarusika=Albaruthenica; кн. 32).
2. Барысенка, В. Тэст па беларускай мове як замежнай. Пачатковы ўзровень. (Базавы ўзровень, Сярэдні ўзровень, Прасунуты ўзровень, Высокі ўзровень, Дасканалы ўзровень). Агульнае валоданне / В. Барысенка, Л. Кныш, У. Куліковіч, А. Літвіноўская, Т. Рамза, А. Семянькевіч. — Мінск, 2014.
3. Блешчык, А. Беларуская мова для рускамоўных : практыкум / А. Блешчык. — Екацярынбург, 2015.
4. Борисенко, О. В. Преподавание белорусского языка как иностранного. История и современность / О. В. Борисенко // Мова і культура. — 2011. — Вып. 14. — С. 334–337.
5. Важнік, С. А. Беларуская мова як замежная: сацыялінгвістычны, лінгваметадычны і ўласна лінгвістычны аспекты / С. А. Важнік // Язык и социум : Материалы VI Международной научной конференции (Минск, 3–4 декабря 2004 г.) / ред. Л. Н. Чумак и др. — Минск, 2004. — С. 19–24.
6. Грэсь, А. Беларуская мова. Дапаможнік па беларускай мове для студэнтаў рускай філалогіі / А. Грэсь. — Беласток, 2012.
7. Елісеева, В. Электронны навучальны рэсурс па беларускай мове для польскамоўных навучэнцаў пачатковага ўзроўню / В. Елісеева, А. Ракава // Беларуска-польскія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі: зб. арт. / пад рэд. І. Э. Багдановіч, М. І. Свістуновай. — Мінск, 2016. — С. 73–80. (Беларусіка=Albaruthenica; кн. 37)
8. Калета, Р. Беларуская мова як замежная ў Польшчы і ў свеце / Р. Калета // Мова — Літаратура — Культура: Матэрыялы VIII Міжнароднай навуковай канферэнцыі (да 90-годдзя прафесара Льва Міхайлавіча Шакуна), Мінск, 15–16 верасня 2016 г. У 2 ч. — Ч. 1. — Мінск, 2016. — С. 159–165.
9. Калета, Р. Об учебниках белорусского языка как иностранного / Р. Калета // Roczniki Humanistyczne. — Lublin, 2017. — Tom LXV, zeszyt 10. — S. 7–24.
10. Калета, Р. Часопіс «Беларуская мова як замежная» у даследаваннях беларусістычнай глотадыдактыкі / Р. Калета // Беларуская мова як замежная. — 2017. — № 1. — С. 7–12.
11. Куліковіч, В. І. Русско-белорусский разговорник=Руска-беларускі размоўнік / В. І. Куліковіч. — Санкт-Петербург, 2014.
12. Лазарева, Е. Л. Русско-белорусский разговорник=Расійска-беларускі размоўнік / Е. Л. Лазарева. — Москва, 2006.
13. Международная летняя школа белорусистики завершает свою работу в Республиканском институте высшей школы / СТВ [Электронный ресурс]. — Режім доступа: http://www.ctv.by/mezhdunarodnaya-letnyaya-shkola-belorusistiki-zavershaet-svoyu-rabotu-v-respublikanskom-institute. — Дата доступа: 10.10.2018.

14. Мова — Літаратура — Культура: Матэрыялы VIII Міжнароднай навуковай канферэнцыі (да 90-годдзя прафесара Льва Міхайлавіча Шакуна), Мінск, 15–16 верасня 2016 г. У 2 ч. — Мінск, 2016.
15. Мыцык Г. По-белорусски? Пожалуйста! / Па-беларуску? Калі ласка! / Г. Мыцык. — Мінск, 2015.
16. Павловская, Н. Ю. Белорусский язык для стран СНГ: учебник / Н. Ю. Павловская, О. В. Борисенко, П. В. Васюченко, Л. С. Кныш, О. В. Семенкевіч, Г. К. Чеховский. — Москва, 2012.
17. Півторак, Г. Білоруська мова. Підручнік / Г. Півторак. — Кіїв, 1997.
18. Рамза, Т. Р. Беларуская мова? З задавальненнем! Для замежных навучэнцаў / Т. Р. Рамза. — Мінск, 2010.
19. Рамза, Т. Р. Пазамоўная інфармацыя ў дапаможніках па беларускай мове для замежнікаў: ці ёсць крытэрыі адбору? / Т. Р. Рамза // Мова — Літаратура — Культура: Матэрыялы VIII Міжнароднай навуковай канферэнцыі (да 90-годдзя прафесара Льва Міхайлавіча Шакуна), Мінск, 15–16 верасня 2016 г. У 2 ч. — Ч. 1. — Мінск, 2016. — С. 172–174.
20. Рамза, Т. Спрабуйма! Азнаямяльна-пачатковы курс беларускай мовы для японцаў — 1. / Т. Р. Рамза, С. Кіёсава, Т. Усуяма. — Цукубскі ўніверсітэт, 2016.
21. Сегень, Л. Беларуская мова. Дапаможнік для студэнтаў беларускай філалогіі. Курс 1 / Л. Сегень. — Беласток, 2007.
22. Сомин, А. А. Белорусский язык. Самоучитель / А. А. Сомин. — Москва, 2017.
23. Сомін, А. А. Новы падручнік «Белорусский язык. Самоучитель»: праблемы і рашэнні / А. А. Сомін // Мова — Літаратура — Культура: Матэрыялы VIII Міжнароднай навуковай канферэнцыі (да 90-годдзя прафесара Льва Міхайлавіча Шакуна), Мінск, 15–16 верасня 2016 г. У 2 ч. — Ч. 1. — Мінск, 2016. — С. 189–192.
24. Станкевіч, Л. Дваццаць сустрэч з Беларуссю. Падручнік па беларускай мове для пачаткоўцаў / Л. Станкевіч, Ж. Каткіч / пад агул. рэд. Андраша Золтана. — Будапешт, 2006.
25. Сямешка, Л. І. Гаворым па беларуску. Вучэбны дапаможнік па беларускай мове для замежных навучэнцаў / Л. І. Сямешка, З. І. Бадзевіч, Ж. А. Белакурская. — Мінск, 1999.
26. Філіновіч, А. Беларуская мова. Дапаможнік для студэнтаў беларускай філалогіі. Курс 2 / А. Філіновіч. — Беласток, 2007.
27. Heyl, S. Weißrussisch. Lehrmaterial zum Kurs Weißrussische Sprache / S. Heyl. — Berlin, 2001.
28. Kaleta, R. Kilka uwag o nauczaniu Polaków języka białoruskiego jako obcego / R. Kaleta // Беларуска-польскія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі: Зборнік артыкулаў / пад рэд. І. Э. Багдановіч. — Мінск, 2015. — С. 69–78. (Беларусіка=Albaruthenica; кн. 36).
29. Kaleta, R. Nowa fala zainteresowana językiem białoruskim jako obcym (JBJO). Sprawozdanie z Międzynarodowej Letniej Szkoły Białorutenistyki w Mińsku / R. Kaleta // Białorutenistyka Białostocka. — 2015. — T. 7. — C. 467–469. — Pobrano z: https://depot.ceon.pl/handle/123456789/10431. — Dostęp: 10.10.2018.
30. Kaleta, R. Tematyka chrześcijańska na lektoratach języka polskiego i języka białoruskiego jako języków obcych / R. Kaleta // Studia Slavica. — 2016. — № XX/2. — C. 97–110.
31. Kaleta, R. Błędologia w glottodydaktyce białorutenistycznej / R. Kaleta. — Warszawa, 2018.

32. Pashkievich, V. Fundamental Byelorussian — Беларуская мова. Кніга 1 / V. Pashkievich.; ed. by A. Adamovich. — Toronto, 1974.
33. Pashkievich, V. Fundamental Byelorussian — Беларуская мова. Кніга 2 / V. Pashkievich.; ed. by A. Adamovich. — Toronto, 1978.

**Кацярына Любецкая**
(Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, Мінск, Беларусь)

## ДА ПРАБЛЕМЫ РАСПРАЦОЎКІ БЕЛАРУСКАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ Ў БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКАЙ ТЭРМІНАГРАФІІ XX СТ.

Першачарговую ролю ў адлюстраванні канкрэтных тэрмінасістэм, прэзентацыі стану іх развіцця, ступені ўпарадкавання, уніфікацыі і стандартызацыі, безумоўна, адыгрываюць тэрмінаграфічныя даведнікі. Варта звярнуць увагу на той факт, што даволі часта айчынная тэрмінаграфічная спадчына ў беларускім грамадстве ўсведамляецца ўсё яшчэ не належным чынам, і, як следства, творчыя магчымасці беларускай мовы як інструмента навуковага пазнання недаацэньваюцца. Навукоўцамі, разам з тым, канстатуецца, што «шмат у чым не маюць падстаў нараканні на нераспрацаванасць тэрміналогіі на беларускай мове, якія нярэдка гучаць з вуснаў тых, хто адмаўляе ў праве на жыццё беларускамоўнай навуцы і беларускамоўнаму навучанню, у тым ліку і ў ВНУ» [10, с. 6]. «Сапраўды, калі паглядзець на бібліяграфію тэрміналагічных слоўнікаў <…>, то высвятляецца, што шмат у якіх галінах маецца грунтоўная аснова для далейшай працы па сістэматызацыі і ўладкаванню беларускай тэрміналогіі» [10, с. 6]. Адметным выступае тое, што беларуская перакладная лексікаграфія на працягу XX ст. характарызуецца асіметрычнасцю: пераважаюць слоўнікі, рэестравую ці перакладную частку якіх складаюць словы і выразы з рускай мовы, у той час як іншамоўна-беларускіх і беларуска-іншамоўных слоўнікаў, дзе б другой мовай з’яўлялася не руская, значна менш. «Адным з найбольш істотных момантаў (поруч з моўнай сітуацыяй) з’яўляецца ўплыў традыцый рускага мовазнаўства: русістыка як была, так і застаецца адной з найбольш уплывовых у славістыцы (у тым ліку і для беларускага мовазнаўства), чым абумоўлена большая тэматычная і “жанравая” разнастайнасць беларуска-рускіх і руска-беларускіх слоўнікаў» [4, с. 62]. Даволі часта з-за адсутнасці належнай інфармацыі аб ажыццёўленай іншамоўна-беларускай практыкі ўдала распрацаваны лексічны матэрыял іншамоўна-беларускіх тэрміналагічных слоўнікаў знаходзіцца за межамі шы-

рокага навуковага ўжытку і сферы функцыянавання. Кантрастыўныя ўмовы супастаўляльных даведнікаў, разам з тым, спрыяюць не толькі вызначэнню міжмоўных тэрміналагічных адпаведнасцей, але і вылучэнню тэрміналагічных лакун, што ў цэлым не можа не стымуляваць далейшую працу па фарміраванні нацыянальнага тэрмінафонду і яго ўпарадкаванні згодна з узроўнем, дасягнутым у мовах з больш працяглай тэрміналагічнай традыцыяй.

Беларуска-польскія тэрмінаграфічныя даведнікі — гэта адзін з фрагментаў беларускай лексікаграфічнай практыкі з фіксацыяй спецыяльнай лексікі, які яшчэ не атрымаў сістэматызаванага апісання. Разам з тым можна меркаваць, што вывучэнне гэтага вопыту можа паспрыяць асэнсаванню захадаў у справе распрацоўкі беларускай тэрміналагічнай лексікі ўвогуле.

Вывучэнне слоўнікавых крыніц з уключэннем беларускага і польскага слоўнікавага матэрыялу дазваляе абагульніць некаторыя рысы, уласцівыя беларуска-польскай тэрмінаграфіі XX ст. Зразумела, што пералік такіх прымет застаецца адкрытым і можа быць дапоўнены.

Аглядаючы гісторыю развіцця беларуска-польскай тэрмінаграфічнай спадчыны, можна канстатаваць наяўнасць у ёй двух перыядаў, якія храналагічна суадносяцца з першай і другой паловай XX ст. і якім уласціва пэўная закончанасць, адноснае ўнутранае адзінства і новая лексікаграфічная якасць. З аднаго боку, яны адлюстроўваюць часавую паслядоўнасць у падрыхтоўцы слоўнікаў, а з другога, — удасканаленне лексікаграфічнай працы пры складанні лексіконаў. Кожны з этапаў адрозніваецца галоўным чынам характарам дзейнасці і ўзроўнем кваліфікацыі складальнікаў слоўнікаў, колькаснымі і якаснымі паказальнікамі саміх лексікаграфічных крыніц, а таксама мэтамі, якім падпарадкоўвалася праца па падрыхтоўцы таго ці іншага перакладнога даведніка. Гэтыя адрозненні абумовілі адметнасць у змесце і форме лексікаграфічных адзінак.

Адметнай рысай беларуска-польскага тэрмінаграфічнага ўзаемадзеяння выступае тое, што ўзаемаадносіны паміж лексічнымі сістэмамі моў насілі хутчэй нерэгулярны характар. Кантакт паміж мовамі быў у нейкай ступені выпадковы. Лексікаграфічныя матэрыялы рыхтуюцца скачкападобна і непаслядоўна.

На пачатку XX ст. часта пры адсутнасці адзінства ў поглядах на беларускую мову, калі яе схільны былі разглядаць то як дыялект, то як асобную самастойную мову, падрыхтоўка тэрміналагічнага даведніка [5] звязана найперш з практычнымі запатрабаваннямі — даць моўны дапаможнік, просты па змесце і форме. Выключна практычныя мэты абумовілі лексічны склад лексікона (найбольш ужывальныя спецыяльныя паняцці і выразы) і іх будову (рэестравая і перакладная часткі не перанасычаны лексікаграфічнай інфармацыяй). Распрацоўка беларускай тэрміналогіі ў гэты перыяд знаходзіцца на пачатковым этапе развіцця і перад складальнікам лексікону стаіць задача знайсці або стварыць беларускія адпаведнікі ўжо ўсталяваным і замацаваным

іншамоўным тэрмінам. У сувязі з гэтым у адносіны перакладу ўступаюць мовы з рознай ступенню распрацаванасці. Неабходнасць перакладу іншамоўных тэрмінаадзінак стымулюе, такім чынам, распрацоўку беларускай тэрміналогіі.

У слоўніках пазнейшых гадоў [1–3; 6–9; 12] змяняецца як знешняе фармальнае афармленне даведнікаў, так і ўскладняецца і павышаецца іх лексікаграфічная якасць. Наяўныя слоўнікі, як правіла, малога і сярэдняга памеру (каля 2266 слоў), прызначаюцца шырокаму колу карыстальнікаў: перакладчыкам, студэнтам, навуковым даследчыкам і г. д. Вызначальным з'яўляецца той факт, што ў значнай колькасці выпадкаў распрацаваныя лексіконы шматмоўныя, распрацоўка якіх тлумачыцца наяўнасцю сацыяльнага заказу, шырокага кола карыстальнікаў і практычнай запатрабаванасцю. Развіццё шматмоўнай слоўнікавай практыкі з уключэннем беларускага і польскага лексічнага матэрыялу адбылося, калі значна пашырыліся навукова-культурныя кантакты і ўзмацніліся інтэграцыйныя працэсы ў краінах СНД і Еўропы. Фарміраванне беларускай шматмоўнай лексікаграфіі пры гэтым адбывалася праз шырокае прыцягненне іншамоўных лексікаграфічных традыцый.

У канцы стагоддзя значна ўзрасла цікавасць і да вывучэння замежных моў, веданне якіх з'яўлялася істотным пры выездах у розныя краіны, для ажыццяўлення шырокіх кантактаў з іншымі народамі, для авалодання прафесіяй, службовых мэт і ўвогуле выступала неабходным атрыбутам адукаванага чалавека. Перакладныя матэрыялы другой паловы XX ст. маюць дакладна выражаную спецыялізацыю слоўнікавага складу. У якасці эквівалентаў да польскіх тэрмінаў прыводзяцца, як правіла, словы беларускай літаратурнай мовы або лексемы, замацаваныя ў сферы спецыяльнага функцыяніравання і сферы фіксацыі.

Калі весці гаворку аб функцыянальным прызначэнні тэрміналагічных даведнікаў, то перадусім неабходна спыніцца на выкананні імі функцыі інвентарызацыі і рэгістрацыі спецыяльнай лексікі. «Вынікам жа выканання тэрміналагічным слоўнікам сваёй нармалізатарскай або кадыфікацыйнай функцыі звычайна становіцца сістэматызацыя, уніфікацыі і ўпарадкаванне тых спецыяльных найменняў (тэрмінаў, наменклатурных назваў і прафесіяналізмаў), якія ў працэсе функцыянавання і нармалізацыі пастунова пашырылі свой ужытак у навуковых тэкстах і былі абраны спецыялістамі-прадметнікамі ў якасці асноўных абазначэнняў для дакладна вызначаных навуковых паняццяў, працэсаў і з'яў» [11, с. 101].

Тэрмінаграфічныя крыніцы фіксуюць тэрміны розных галін навукі. Тэрміналагічнай працай ахоплены такія сферы, як батаніка, археалогія, лінгвістыка, анамастыка, юрыспрудэнцыя, матэматыка, археалогія, бізнес. Умовы распрацоўкі перакладной крыніцы абумоўліваюць найперш адбор тэрмінаў для слоўніка. Пры гэтым аўтары беларуска-польскіх даведнікаў арыентуюцца на здабыткі ў галіне спецыяльнай лексікі больш прасунутай мовы. Відавочна,

што перакладныя слоўнікі спецыяльнай лексікі становяцца, як правіла, фрагментамі асобнай тэрмінагаліны, паколькі ў іх закладзены абмежаванні, што тычацца ўключэння ў слоўнік пераважна вузкаспецыяльных тэрмінаў. Разам з тым у тэрміназнаўстве прынята лічыць, што мяжа паміж вузкаспецыяльнымі і спецыяльнымі тэрмінамі можа быць рухомай у часе.

Асобна варта спыніцца на характары тлумачэння тэрмінаў. Пры раскрыцці значэння адзінкі спецыяльнай лексікі ў слоўнікавым артыкуле прадстаўляюцца больш-менш строгія дэфініцыі, выпрацаваныя спецыялістамі. У тэрміналагічным слоўніку пры раскрыцці паняцця або з'явы прапануецца мінімум інфармацыі, дастатковы для правільнага разумення і ўжывання тэрміна ў сферы спецыяльнай камунікацыі. Адметнасцю спецыяльных тэрміналагічных слоўнікаў пры гэтым з'яўляецца наяўнасць у іх тэрміналагічных апісанняў, найбольш адэкватных тым, як разумеюць гэты тэрмін прадстаўнікі адпаведнай сферы дзейнасці.

Падсумоўваючы вышэйсказанае, неабходна канстатаваць, што ў беларуска-польскіх даведніках знайшлі адлюстраванне спробы распрацоўкі беларускай тэрміналогіі. Прапанаваныя ў перакладных беларуска-польскіх даведніках падыходы да фарміравання беларускай часткі не заўсёды мелі дастатковае распаўсюджанне ў грамадстве і набывалі абавязковы характар. Лексічны матэрыял беларуска-польскіх перакладных даведнікаў часам не вызначаецца якой-небудзь сістэмай у падачы тэрмінаў розных галін ведаў. Разам з тым практыка іх стварэння садзейнічала развіццю беларускай спецыяльнай лексікі.

## Літаратура


1. Bekish, W. Białorusko-polsko-rosyjski słownik terminów lingwistycznych I leksyki specjalnej = Беларуска-польска-рускі слоўнік лінгвістычных тэрмінаў і спецыяльнай лексікі = Белорусско-польско-русский словарь лингвистических терминов и специальной лексики / W. Bekish, H. Fontański. — Katowice: Wydawnictwo Uniwersytetu Śląskiego, 1997. — 155 s. (Skrypty Uniwersytetu Śląskiego. № 532).
2. Glossarium archaeologicum. — Bonn–Warszawa, 1962–1965.
3. Slovník slovanské lingvistické terminologie = Словарь славянской лингвистической терминологии = Dictionary of slavonic linguistic terminology. — Praha, 1977–1979.
4. Важнік, С. Сучасная беларуска-польская лексікаграфія: традыцыі, актуальны стан, праблемы, перспектывы / С. Важнік // Мовазнаўства: Матэрыялы IV Міжнар. кангрэса беларусістаў «Беларуская культура ў кантэксце культур еўрапейскіх краін» (Мінск, 6–9 чэрвеня 2005 г.). — Мінск: Лімарыус, 2010. — С. 55–65.
5. Верас, З. Беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік / З. Верас. — Вільня: Выд. Газэты «Голас беларуса», 1924. — 76 с.
6. Мацюшэнка, В. В. Слоўнік беларуска-польскі, польска-беларускі матэматычны школьны / В. В. Мацюшэнка. — Мінск: Вылічальна-аналітычны цэнтр, 1996. — 80 с.
7. Основен систем и терминологија на словенската ономастика = Основная система и терминология славянской ономастики = Grundsystem und Terminologie

der slawischen Onomastik / Македонска Академија на науките и уметностите, Меѓународен комитет на славистите. Комисија за словенска ономастика. — Скопје — Скопье — Skopje, 1983. — 412 с.
8. Слоўнік тэрміналогіі лінгвістычнай: беларуска-расійска-польскі, польска-расійска-беларускі / Юравец, Насовіч, Панфілюк, Стэцка, Тарасюк. — Беласток, 1994. — 164 с.
9. Слоўнік юрыдычнай тэрміналёгіі: Беларуска-Расейска-Польскі / Апрац. А. Галяк. — Б.м., [1994]. — 80 с.
10. Цыхун, Г. Беларуская тэрміналогія ў тэрміналагічных слоўніках (1918–1998) / Г. Цыхун // Тэрміналагічныя слоўнікі (асобныя выданні) 1918–1998. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 2000. — С. 3–8.
11. Шчэрбін, В. К. Тэарэтычныя праблемы беларускай лексікаграфіі/ В. К. Шчэрбін. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 1996. — 140 с.
12. Ясіньска-Соха, Т. Малы практычны слоўнік бізнесмена / Т. Ясіньска-Соха, Н. Панасюк. — Варшава, 1995. — 116 с.

**Anna Berenika Siwirska**
(Instytut Slawistyki Polskiej Akademii Nauk,
Warszawa, Polska)

## POLSKIE SPOJRZENIE NA ODMIANY I STYLE JĘZYKA BIAŁORUSKIEGO

Poniższy artykuł będzie poświęcony refleksji nad znaczeniem i wzajemnymi relacjami poszczególnych odmian współczesnego języka białoruskiego. Główna część zostanie poprzedzona wstępem teoretycznym, dotyczącym języka polskiego. Polskie językoznawstwo zaczęło bowiem zajmować się wskazaną problematyką o wiele wcześniej niż językoznawstwo białoruskie. Przełożenie osiągnięć polskich językoznawców na grunt języka białoruskiego z pewnością wzbogaci dorobek białoruskiej nauki oraz może okazać się bardzo ciekawe i nowatorskie.

Wzajemne relacje poszczególnych odmian języka, zależą w dużym stopniu od przyjętej definicji najbardziej podstawowych terminów, a te w polskim językoznawstwie przez lata były rozumiane są bardzo różnorodne. Jerzy Bartmiński w pracy «Odmiany a style języka» zauważa, że *«obok terminu "język" używanego w rozmaity sposób, pojawia się co najmniej pięć terminów bliskoznacznych nazywających ogólnie wynik wewnętrznej dyferencjacji języka: wariant, odmiana, styl, typ i wersja języka, a także terminy pochodne od nich: odmianka, podstyl, podtyp»* [1, s. 53]. Zdaniem J. Bartmińskiego doprowadziło to wręcz do *chaosu*

*terminologicznego*. Aby przełożyć więc dorobek polskiego językoznawstwa na grunt języka białoruskiego, należy więc na początku przyjrzeć się jak ewoluowały definicje poszczególnych terminów w pracach kolejnych polskich językoznawców, a następnie uporządkować wszystkie pojęcia.

Powyższą analizę warto rozpocząć od poglądów Zenona Klemiensiewicza. Podstawowym terminem w jego pracach jest *język ogólny*, czyli język zrozumiały dla każdego członka narodu bez względu na wiek, płeć czy wykształcenie. Język ten dzielił się na trzy podgrupy: *język potoczny*, *literacki i gwary* [4, s. 186]. *Język potoczny* to język codziennej komunikacji, *język literacki* jest wzorcową formą języka, używaną przede wszystkim w literaturze, a *gwary* to regionalne odmiany języka polskiego. Te trzy osobne u Zenona Klemiensiewicza *języki* są elementami składowymi *języka ogólnego*. Każdy z tych *języków* może się dzielić na kolejne osobne *odmiany językowe i style*.

Polemikę z Zenonem Klemiensiewiczem podejmuje Karol Dejna w artykule *«Ile mamy języków polskich?»*. Autor, na pytanie zawarte w tytule odpowiada wprost: jest tylko jeden język polski . Należy jednak zaznaczyć, że autor ma na myśli język rozumiany zgodnie z definicją stworzoną przez Ferdinanda de Saussure jako system znaków (la langue), który jest istotną częścią składową mowy (la langage), realizującą się w toku ogromnej ilości jednostkowych aktów mówienia (la parole). Poszczególne akty mówienia (lub wypowiedzi bowiem autorka polskiego przekładu najczęściej tak tłumaczy używany w oryginale termin parole) są więc realizacją języka w konkretnym tekście. Sam system jako zbiór zasad jest jednak jeden. Błędem jest więc nazywanie każdego pełniącego osobną funkcję społeczną systemu znaku odrębnym językiem. Zdaniem K. Dejny nie uprawnione jest więc używanie terminów takich jak: *język potoczny i język literacki*, a tym bardziej bezzasadne jest tworzenie takich wyrażeń jak: *język mody, sportu czy Internetu*, chociaż można się z nimi spotkać nie tylko w rozmowach potocznych, ale i w naukowych pracach z zakresu językoznawstwa [2, s. 36].

Jak zauważa K. Dejna w związku z postępem cywilizacyjnym, rozwojem nauki, stosunków ustrojowych oraz gospodarczych, upowszechnieniem kultury i oświaty, uprzemysłowieniem kraju i wielu innymi czynnikami ewolucji społeczeństwa zmienia się i powiększa zasób słownictwa w mowie danego narodu czy poszczególnych jego warstw, ale to wszystko wcale nie znaczy, że tym samym równie prędko i intensywnie zmienia się język (system) tej mowy. Terminologia związana z konkretną dziedziną, neologizmy, i zapożyczenia wzbogacają więc mowę ale nie zmieniają języka [2, s. 37]. Szczególnie, że wcześniej wspomniany język sportu od języka mody różniłby się wyłącznie w warstwie leksykalnej. Nie ma więc języka mody, jest terminologia związana z modą i wyrażenia typowe dla danej sfery używania języka. Z resztą o modzie także można mówić w różny sposób, używając profesjonalnej terminologii lub słów potocznych. Ten sam komunika można przekazać używając leksem z różnego rejestru stylistycznego. Nie oznacza jednak to używania dwóch innych języków ponieważ zasady i normy, a

nawet znaczenie dwóch wypowiedzi, może być jednakowe, zmienia się jedynie dobór środków potrzebnych do realizacji danego aktu mowy.

Bezzasadne jest także wyodrębnianie języka jednostki. Analiza np. języka Wyspiańskiego jest sprzeczna z podstawową tezą językoznawstwa o społecznym, a nie indywidualnym charakterze języka. Podsumowując, język to system o charakterze społecznym, nie może więc być dwóch języków polskich. Na terenie Rzeczpospolitej można więc wydzielić jedynie język polski i funkcjonujących obok niego pięć gwar. Sam język można sklasyfikować ze względu na odmiany stylowe (potoczna, naukowa, urzędowa itd.). Ponadto, użytkownicy języka mogą korzystać z różnego zasobu słownictwa (powszechnego lub specjalistycznego). Poza tym można jeszcze wydzielić dwie techniki realizacji języka (pisana, mówiona) [2, s. 38].

K. Dejna, tak samo jak Z. Klemiensiewicz, zwraca uwagę na powszechne mylenie terminów język i styl [2, s. 35]. Z. Klemiensiewicz zauważa, że chociaż pojęcie języka i stylu powinno być traktowane jako dwie osobne kategorie, to w praktyce nieraz nazywa się odmiany językowe stylem, np. wymiennie używa się terminu język urzędowy i styl urzędowy. Zdaniem Z. Klemiensiewicza można mówić się wyłącznie o urzędowej odmianie języka, artystycznej odmianie języka itd., jednocześnie Z. Klemiensiewicz pisze jednak o *języku potocznym i literackim*. Karol Dejna, klasyfikując jedynie *styl potocznym, oficjalny i literacki,* nie zgadza się z tezą Klemensiewicza, że *język ogólny* dzieli się na kolejny język *potoczny lub literacki*. Jest to uzasadnione tym, że jak już zostało wcześniej omówione, język ogólnopolski (la langue) jest jeden i jest on istotną częścią składową mowy (la langage), która realizuje się w toku ogromnej ilości jednostkowych aktów mówienia (la parole). Poszczególne akty mówienia to realizacja języka w konkretnym tekście. Jednostkowe procesy stylowego formowania tekstu odbywają się więc na płaszczyźnie la parole, a nie la langue i dlatego są one odmianami mówienia, a nie odmianami języka.

Kolejny polski językoznawca, Tomasz Milewski, zgadzał się w tej kwestii z Karolem Dejną. Podobnie jak on dzielił język wyłącznie na polski język literacki i gwary. W obrębie języka polskiego funkcjonują osobne style (artystyczny, potoczny, oficjalny), ponadto z zasobów języka literackiego można wydzielić słownictwo specjalistyczne [8, s.408]. Warto zauważyć że Tomasz Milewski i Karol Dejna używają innych terminów, pierwszy pisze o *języku literackim*, drugi po prostu o *języku polskim*, ale uzasadnionym będzie założenie, ze obaj językoznawcy mają na myśli podobny przedmiot rozważań, tylko inaczej go nazywają bowiem funkcjonują w innej rzeczywistości, w innym czasie. *Język literacki* u Tomasza Milewskiego to nie jest odmiana języka polskiego wykorzystywana wyłącznie w literaturze, lecz język powszechnie zrozumiały na terytorium całego kraju, wzorcowa forma danego języka. Definicja ta jest więc zbliżona do sposobu rozumienia terminu *język polski* w pracach Karola Dejny.

Podobnie jak u Antoniego Furdala, kolejnego polskiego językoznawcy, który w swoich pracach oprócz języka literackiego (jednocześnie często nazywanego przez autora językiem ogólnym) wyodrębnił także *język ludowy i miejski*, które różnią

się między sobą cechami fonetycznymi, fleksyjnymi a także w pewnym zakresie składniowymi. Poziom niżej autor dzielił języki kolejno na potoczne, artystyczne i zawodowe (do tej grupy zaliczały się przede wszystkim języki naukowe) i ze względu na inny tym klasyfikacji na język pisany i mówiony [3, s.181–182].

Teresa Skubalanka dokonuje podziału języka na trzy podgrupy stylowe: *nieogólnopolski styl mówiony* (gwary, dialekty, styl folkloru), *ogólnopolski styl mówiony* (potoczny i retoryczny) i *ogólnopolski styl pisany* (artystyczny, naukowy, urzędowy i inny). Ponadto, polszczyzna ma dwie odmiany determinowane przez funkcję substancjalną: prymarną wersje ustną i sekundarną postać pisaną [7, s. 261].

Walery Pisarek dokonuje jeszcze innej klasyfikacji języka. Dzieli on język narodowy na *język ogólny* i *językowe odmiany: terytorialne, zawodowe, środowiskowe*. Ponadto język ogólny można podzielić na odmianę mówioną i pisaną, te z kolei na staranną i niestaranną. Co istotne Walery Pisarek konkretne realizacje odmian, w zależności od funkcji jaka realizują, nazywa różnymi *stylami funkcjonalnymi*. Na tej podstawie autor wydziela *styl informacyjno-naukowy, artystyczny itd*. [6, s. 407–408]. Bożena Witosz również definiuje *styl funkcjonalny jako funkcjonalną odmianę języka* i na tej podstawie wydziela styl potoczny, naukowy, kancelaryjno--prawny, artystyczny, religijny. Nieco obok tego podziału badaczka klasyfikuje także inne odmiany języka: odmianę mówioną i pisaną, które mogą wystąpić w wariancie starannym lub swobodnym [10, s. 193].

Termin odmian funkcjonalnych pojawia się także w pracach Aleksandra Wilkonia, który dokonuje podziału języka polskiego na *język ogólny i gwary*, na drugim poziomie na *język pisany i mówiony,* a na trzecim poziomie swojej typologii autor wydziela poszczególne *odmiany funkcjonalne,* które nazywa także odpowiednimi *stylami*. Zgodnie z przedstawionym założeniem *język ogólny* można podzielić na odmianę *artystyczną, naukową, oficjalną, kulturalną, potoczną*, a *język gwarowy* na *odmianę potoczną* i *odmianę charakterystyczną dla utworów folklorystycznych* [9, s. 57].

*Język ogólny* w założeniu prezentowanym przez Aleksandra Wilkonia to typ języka, który dziś jest używany przez wszystkich użytkowników języka polskiego. Wcześniej funkcjonował on w ograniczonych kręgach społecznych, był on używany przede wszystkim przez warstwy inteligenckie, ziemiańskie i mieszczańskie, w związku z czym często język ten był określany jako typ języka kulturalnego, a wzorcem dla niego był język literatury pięknej, retoryki i piśmiennictwa naukowego. Stąd też zrodził się termin *język literacki,* którym określano wzorcową formę języka polskiego. Terminu tego używa się do dziś, chociaż nie przystaje on do typu polszczyzny którą opisuje. Dzieje się tak z dwóch powodów. Po pierwsze: polszczyzna ogólna ma już niewiele wspólnego z językiem literatury. Literackie teksty pisane używają zdecydowanie odmiany języka specyficznej wyłącznie dla tej sfery funkcjonowania. Po drugie, język literatury uległ daleko idącym przeobrażeniom, że w wielu przypadkach przestał już być wzorcem poprawnej polszczyzny [9, s. 27]. W związku z tym lepiej zastąpić termin *język literackim* terminem *język*

*ogólny*, oraz mówić wyłącznie o stylu artystycznych charakterystycznym dla dzieł współczesnej literatury.

Termin *język ogólny* wydaje się być tym zasadniejszy, że dzisiejsza polszczyzna na terenie całej Polski ma naprawdę powszechny zasięg i charakter, w tym znaczeniu, że mogą się nią posługiwać wszystkie warstwy społeczne we wszystkich regionach. Ten ogólny typ polszczyzny jest powszechnie zrozumiały dla każdego użytkownika języka polskiego i funkcjonuje na terenie całego kraju.

Obok typu *ogólnego* według Aleksandra Wilkonia funkcjonują typy *nieogólne*, czyli *gwary wiejskie i miejskie,* które nie są zrozumiałe na terenie całej Polski i których używanie jest ograniczone przestrzennie. Język ogólny w zestawieniu z gwarami charakteryzuje się większym zróżnicowaniem socjolektalnym, stylistycznym i genologicznym, szerokim uzusem niedefiniowanym przez czynniki geospołeczne, dużą ekspansywnością, znacznym stopniem kodyfikacji, bogactwem form językowych i leksykalnych oraz szeroką odmiennością w zakresie środków i form przekazu [9, s. 28]. Dla współczesnej polszczyzny charakterystyczne jest jednak to, że użytkownicy gwar rozumieją język ogólny, gwary jednak często nie są powszechnie zrozumiałe na terenie w którym nie występują i ich używanie stopniowo jest ograniczane.

Powyższa skrótowa analiza omawianego zagadnienia potwierdza dużą różnorodność w dorobku polskich językoznawców. Terminy i wzajemne relacje miedzy poszczególnymi pojęciami, rzeczywiście różnią się w zależności od tego, który językoznawca się nimi zajmuje. Z przedstawionego materiału nie wyłania się jednak chaos. Widać w nim raczej stopniową ewolucję definicji *języka, stylu i odmiany*. Wydaje się, że A. Wilkoń w zaprezentował najpełniejszą klasyfikacje poszczególnych odmian języka polskiego i to ta praca wydaje się kluczowa i najlepsza do przełożenia na warunki białoruskie. Klasyfikacja A. Wilkonia powstała jednak w odniesieniu i w oparciu o dorobek innych polskich językoznawców, dlatego też nie można było ich pominąć w niniejszym artykule.

W białoruskim językoznawstwie język dzieli się przede wszystkim na **język literacki i gwary, które uznaje się za terytorialne odmiany języka**. Jednocześnie podkreśla się jednak, że język literacki ukształtował się w oparciu o gwary i jest on wzorową formą języka.

To ostatnie założenie sugeruje niejako poprawność jako immanentną cechę języka literackiego i tym samym dyskwalifikuje wszystkie zjawiska językowe, które nie kwalifikują się jako wzorowe użycie języka białoruskiego. Wynika to prawdopodobnie z historii rozwoju języka białoruskiego. Pierwotnie, w wersji ustnej funkcjonował on głównie w odmianie gwarowej. Gwara służyła Białorusinom do zaspokajania codziennych potrzeb komunikacyjnych. Język literacki funkcjonował przede wszystkim w wersji pisanej, w literaturze i publicystyce. Nie był on szeroko wykorzystywany w wersji ustnej, dlatego też używanie terminu «literacki» było jak najbardziej uzasadnione.

Jak już wcześniej zostało to opisane, podobnie wyglądało użycie analogicznego terminu na gruncie języka polskiego, jednak m.in. w pracach wspomnianego

A. Wilkonia praktyka ta została zakwestionowana. Wydaje się, że stanowisko A. Wilkonia postulujące **zastąpienie terminu *język literacki,* terminem *język ogólny*** oraz mówienie wyłącznie o stylu artystycznym charakterystycznym dla dzieł współczesnej literatury, który jest jedną z wielu odmian stylowych *języka ogólnego*, jest najbardziej uzasadnione i prawdziwe oraz powinno się je przełożyć na warunki białoruskie. Współcześnie stale zmniejsza się liczba osób na co dzień posługujących się gwarami, język białoruski funkcjonuje we wszystkich sferach komunikacyjnych i można w nim zaspokoić każdą potrzebę komunikacyjną, w tym także tę najprostszą, jaką jest codzienna komunikacja. Język białoruski nie jest też zarezerwowany wyłącznie dla jakiejś grupy społecznej, można więc mówić o jego powszechnych charakterze. W codziennej komunikacji nigdy nie funkcjonuje jednak wzorowa forma języka białoruskiego, w prywatnych rozmowach najczęściej dominuje potoczny styl wypowiedzi. Dlatego też o wiele lepiej, odnosząc się do języka białoruskiego także stosować termin *język ogólny*.

Zastąpienie terminu *język literacki* terminem *język ogólny* pozwala także na szerszą klasyfikację wszystkich zjawisk językowych współczesnej białoruszczyzny i pełniejszą klasyfikację wszystkich odmian stylowych. W tradycyjnym ujęciu style *języka literackiego* są mocno osadzone w tradycji pisemnej i charakteryzują się dużą poprawnością i znacznym stopniem skodyfikowania. Białoruskie językoznawstwo klasyfikuje właściwie wyłącznie style, które funkcjonują zarówno w wariancie pisemnym, jak i ustnym i są to kolejno style: *naukowy, oficjalno-urzędowy, publicystyczny, artystyczny i potoczny [*m.in. 11 i 12*]*. Analizie poddana jest jednak przede wszytki wersja pisemna wymienionych stylów, a specyfika wariantów mówionych białoruszczyzny jest często pomijana w literaturze przedmiotu. Jest to duże zaniedbanie, ponieważ każda z odmian stylowych różni się w zależności od ustnego lub pisemnego sposobu realizacji. Ten sam referat, uprzednio przygotowany na piśmie, na głos zostanie przedstawiony w nieco zmienionej formie. Będzie się ponadto charakteryzował dodatkowymi środkami stylistycznymi, takimi jak zmiana tempa i głośności wypowiedzi, powtórzeniami (zamierzonymi lub nie), pauzami w odpowiednich miejscach itd. Każda odmiana ustna ma własne środki stylistyczne, częściowo niedostępne dla pisemnej realizacji danego komunikatu i odwrotnie, w komunikacie ustnym nie jesteśmy w stanie przekazać niektórych łatwych do zapisania treści. Dlatego też należy osobno rozpatrywać każdy sposób realizacji poszczególnych odmian stylistycznych.

Ponadto, konsekwentne stosowanie terminu *język literacki* w stosunku do języka białoruskiego wręcz negatywnie odbija się na statusie języka w społeczeństwie. Termin ten zakłada jednak wzorowość, której w codziennej komunikacji raczej brakuje. Stąd też zapewne wzięło się nieuzasadnione, a jednak często powtarzane stanowisko, że język białoruski nie uformował do tej pory własnego stylu potocznego, że funkcjonuje on jedynie w wersji literackiej, którą posługuje się inteligencja i tzw. trasiance, którą posługują się osoby mniej wykształcone. Sytuacja ta jest jednak nierealna, bowiem osoby białoruskojęzyczne, które na co

dzień używają języka białoruskiego, muszą posługiwać się w codziennej komunikacji stylem potocznym. Nikt, nawet inteligencja, nie mówi tak, jak pisane są książki. Odmawianie językowi białoruskiemu umiejętności sformułowania stylu potocznego bierze się prawdopodobnie z błędnego rozumienia samego terminu stylu potocznego, który jest kojarzony przede wszystkim z brakiem poprawności, kolokwializmami, wyrażeniami slangowymi, a nawet wulgarnością. Jednak nie w tym tkwi istota stylu potocznego. **Sednem stylu potocznego, jak i każdego innego stylu funkcjonalnego, jest sfera, w której jest wykorzystywany**. Antoni Furdal w pracy «Językoznawstwo otwarte» definiuje styl potoczny przede wszystkim jako ***styl o najbardziej uniwersalnym charakterze, którym posługujemy się na co dzień*** [3, s. 186–187] jest więc to podstawowy instrument, w którym zaspokajana jest większość potrzeb komunikacyjnych. W związku z tym osoby wykształcone, które na co dzień posługują się językiem białoruskim nie mówią z pewnością językiem lub stylem literackim, lecz prawdopodobnie posługują się **kulturalną formą stylu potocznego** [5, s. 259], osoby mniej wykształcone mogą posługiwać się stylem potocznym charakteryzującym się większą liczbą kolokwializmów, ponieważ sam styl potoczny także obejmuje bardzo szerokie spektrum zjawisk językowych. Niemniej, oznacza to, że język białoruski wykształcił również osobną potoczną odmianę stylową, którą nosiciele języka powszechnie posługują się w życiu codziennym.

Ze względu na tę powszechność stylu potocznego niektórzy językoznawcy, m.in. Jerzy Bartmiński, uważają go za ***centrum każdego języka***, styl podstawowy lub nawet nadrzędny, będący bazą dla derywacji innych stylów [1, s. 55], które mogą funkcjonować wyłącznie na jego tle. Z pewnością szerokie spektrum zjawisk językowych, które obejmuje sty potoczny, charakteryzuje się ogromną różnorodnością. Cechą immanentną dla wszystkich pozostałych stylów, poza potocznym, jest założenie, że dany styl funkcjonuje w sferze publicznej, co w różnym stopniu wpływa na ostateczny kształt wypowiedzi lub tekstu. Styl tekstów i wypowiedzi prezentowanych publicznie cechuje się zdecydowanie większa starannością, kulturalnością i oficjalnością niż styl wypowiedzi prywatnych. Jednak, nie oznacza to, że styl potoczny jest zupełnie pozbawiony wymienionych cech. Stopień staranności i oficjalność w stylu potocznym jest uwarunkowany przede wszystkim stopniem zażyłości rozmówców. Rozmowy z przyjaciółmi i najbliższą rodziną charakteryzują się mniejszym stopniem staranności, niż rozmowy z nieznajomymi. Codzienna konwersacja o pogodzie w windzie z szefem i kolegą z pracy, chociaż dotyczy tego samego tematu i należy ją zakwalifikować jak styl potoczny, będzie zdecydowanie różnić się w formie, stopniu staranności i wyborze środków stylistycznych w zależności od interlokutora Styl potoczny jest wykorzystywany najczęściej ze wszystkich stylów funkcjonalnych, w bardzo różnorodnych sytuacjach komunikacyjnych, jest więc bardzo zróżnicowany, również pod względem formy, pozostaje jednak stylem potocznym.

Wewnętrzna dyferencjacja pozostałych stylów, pod tym względem, jest zdecydowanie mniejsza. Ponieważ funkcjonują one z założenia w sferze publicznej, z zasady więc, charakterystyczne jest dla nich zachowanie większej staranności, kulturalności i oficjalności. Jednakże, wszystkie style funkcjonalne charakteryzują się dużą dyferencjacja wewnętrzną w zależności od sytuacji komunikacyjnej i formy gatunkowej, w której są wykorzystywane. Dzisiejsze gatunki stylu artystycznego to zarówno dzieła literackie, poetyckie i dramaty, które poruszają bardzo szeroką tematykę i wykorzystują bardzo różnorodne środki stylistyczne. Styl publicystyczny to zarówno materiały o charakterze propagandowo-agitacyjnym, jak i materiały informacyjne; inna jest więc nie tylko forma, ale i cel poszczególnych odmian omawianego stylu. Styl naukowy można podzielić głownie na teksty stricte naukowe, dydaktyczne i popularno-naukowe. Każda z odmian poszczególnych stylów funkcjonalnych różni się od innych odmian tego stylu ze względu na inny aspekt, cechę, nie wyklucza to jednak jej przynależności do danego stylu. Zagłębiając się w wewnętrzny podział stylów funkcjonalnych na kolejnych poziomach, granice między zjawiskami językowymi stają się coraz mniej wyraźne, zaczynają się wzajemnie przenikać, aż w końcu stopniowo zacierać. Dokładna charakterystyka poszczególnych stylów funkcjonalnych współczesnego języka białoruskiego powinna być tematem osobnego artykułu. Poniższy artykuł jest poświęcony podziałowi języka na poszczególne style oraz odmiany, i w tym momencie, wystarczającym wydaje się stwierdzenie, że wszystkie style funkcjonalne są wewnętrznie bardzo różnorodne. Dotyczy to w równym stopniu stylu potocznego, który może również funkcjonować w formie bardziej starannej. W takiej odmianie dominuje on w rozmowach białoruskojęzycznej inteligencji, pozostając przy tym stylem potocznym. **Twierdzenie więc, że język białoruski nie uformował osobnego stylu potocznego jest bezzasadne**.

Reasumując, zasadnym wydaje się używanie wyłącznie terminu *język białoruski* w znaczeniu ‘powszechna odmiana języka białoruskiego’ oraz *gwary* w znaczeniu ‘terytorialnie ograniczone odmiany języka białoruskiego’. Zarówno odmiana ogólna, jak i gwary mogą funkcjonować w wersji pisanej i ustnej oraz odmianach stylowych. Dla gwar charakterystyczny jest styl potoczny i artystyczny (styl utworów folklorystycznych), odmianę ogólną można podzielić na styl potoczny, artystyczny, naukowy, oficjalny, urzędowy. Każda z odmian charakteryzuje się również wewnętrzną dyferencją, w zależności od gatunku, sytuacji komunikacyjnej i wykorzystania odpowiednich środków stylistycznych. Ponadto, z zasobów języka ogólnego można wydzielić słownictwo, którego użycie jest ograniczone sferą wykorzystania czyli słownictwo specjalistyczne, slangowe, żargonowe. Istnieje jednak tylko jeden współczesny język białoruski, nie ma osobnego języka potocznego lub artystycznego, bezzasadne jest też wydzielanie osobnego języka literackiego, który byłby wzorcową formą języka bowiem powszechny język białoruski mieści w sobie całe szerokie spektrum zjawisk językowych, tych wzorcowych i tych charakteryzujących się mniejszą poprawnością.

## Bibliografia

1. Bartmiński, J. Odmiany a style języka / Warianty języka, pod red. J. Bartmiński, J. Szadura — Lublin, 2003.
2. Dejna, K. Ile mamy języków polskich?/ Warianty języka, pod red. J. Bartmiński, J. Szadura — Lublin, 2003.
3. Furdal, A. Językoznawstwo otwarte — Opole, 1977.
4. Klemensiewicz, Z. O różnych odmianach współczesnej polszczyzny — Warszawa, 1953.
5. Najnowsze dzieje języków słowiańskich „Беларуская мова», pod. red. А. Лукашанец, М. Прігодзіч, Л. Сямешка — Opole, 1998.
6. Pisarek,W. Encykopedia wiedzy o języku polskim — Wrocław, Warszawa, Kraków, Gdańsk, 1978.
7. Skubalanka, T. Założenia analizy stylistycznej / Problemy metodologiczne współczesnego literaturoznawstwa, red. H. Markiewicz i J. Sławiński — Kraków, 1976.
8. Taszycki, W., Milewski, T. Polski język literacki powstał w Małopolsce. cz. II / Pochodzenia polskiego języka literackiego, red. M. R. Mayenowa — Wrocław, 1956.
9. Wilkoń, A. Typologia odmian językowych współczesnej polszczyzny — Katowice, 1987.
10. Witosz, B. Dyskurs i stylistyka — Katowice, 2009.
11. Кузьміч, В. А. Практычная і функцыянальная стылистыка беларускай мовы — Minsk, 2008.
12. Цікоцкі М.Я. Стылістыка беларускай мовы: Вучэб. дапам. для фак. журналістыкі. — 2-е выд., перапрац. і дап. — Мінск, 1995.

---

**Наталля Снігірова**
(Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, Мінск, Беларусь)

# ФЛЕКСІЙНА-СЛОВАЎТВАРАЛЬНАЯ МАДЭЛЬ НА *-ISTA/-YSTA, -ISTY/-YSTY* Ў ПОЛЬСКАЙ І БЕЛАРУСКАЙ МОВАХ: АСАБЛІВАСЦІ РЭАЛІЗАЦЫІ

Выкарыстанне фармантаў *-ista/-ysta, -isty/-ysty* (у складзе такіх лексем, як, да прыкладу, *wodnisty*, *kamienisty*, *basista(-y)*, *cymbalista(-y)*, *ewangelista*, *kapitalista*, *organista(-y)*, *maszynisty…*) у польскай дыялектнай мове мае выразную геаграфію пашырэння: яны актыўна запатрабаваны амаль выключна ва ўсходняй частцы Польшчы [42, с. 162–163]. Абмежаванае ўжыванне назоўнікаў на *-ista* ў сучаснай польскай літаратурнай мове прымушае прыглядзецца да згаданай з’явы ў параўнанні з тыпалагічна падобнымі фактамі суседніх

моў. Вядома, што на тэрыторыі Беларусі назоўнікавыя ўтварэнні з фармантамі *-іста/-ыста*, *-істы/-ысты* адзначаюцца спарадычна, пераважна на захадзе, і складаюць адметны пласт лексікі [34, с. 45; 35, с. 198]. Арэальны малюнак размеркавання ізаглос сведчыць пра характэрны паралелізм у функцыянаванні прыметнікавай флексіі назоўнікавых утварэнняў у беларускай і польскай мовах. Каб вызначыць магчымы кірунак беларуска-польскіх узаемаўплываў у галіне ўтварэння і распаўсюджання назоўнікавых форм на *-іста/-ыста*, *-істы/-ысты (-ista/-ysta*, *-isty/-ysty)*, па-першае, неабходна высветліць, ці з аднолькавай інтэнсіўнасцю развіваліся флексійныя інавацыі ў назоўніках на *-іста/-ыста*, *-істы/-ысты (-ista/-ysta*, *-isty/-ysty)* у кожнай з гэтых моў; па-другое, трэба ўстанавіць прычыны, якія выклікалі флексійныя змены словатворчага характару, звязаныя з пашырэннем ад'ектыўных фармантаў, на ўсходнеславянскім фоне.

Лінгвагеаграфічны аналіз беларускамоўных назоўнікавых утварэнняў з фармантамі *-іста/-ыста*, *-істы/-ысты* паказвае, што назоўнікі мужчынскага роду адзіночага і множнага ліку з прыметнікавым фармантам *-істы/-ысты* тыпу *арганісты*, якія маюць парадыгму скланення прыметнікаў, ужываюцца пераважна на Гродзеншчыне, у тым ліку ў Астравецкім, Зэльвенскім, Мастоўскім, Навагрудскім, Воранаўскім раёнах, а таксама ва Уздзенскім раёне, і ў беларускіх гаворках у Літве (*арганісты*, *арганістый*, *арганіста*, *гарманісты*, *кларнятысты*, *бубеністы*, *кавалярысты*, *сыгналісты*, *камуністы*, *машыністы*, *трактарысты*, *трахтарыстыя*…) [37, с. 51–52]. Адметна, што назоўнік *камуніста* мужчынскага роду адзіночнага ліку зафіксаваны ў Мастоўскім раёне на пачатку XXI ст.: *«Дзе там злая камун**іста**?»*[1]. У той жа час фармант *-іста* ў сучасных беларускіх дыялектах прадстаўлены адзінкавымі словамі: *любіць — любіста* 'любізнік' [36, с. 79], *ліпа — ліпста*, *ліпіста* 'ліпняк' [36, с. 207], *служб**іста*** 'выслужваючыся' («*Пынаська пачынаў службіста, тады неік астыў, ну ў парцію прабіўся*»), *служб**іста**сць* 'выслужванне' [39, с. 154] і інш. У параўнанні з суфіксам *-іста* фармант *-іст(ы)/-ыст(ы)* выступае больш актыўна. Да прыкладу, у гаворках Касаўшчыны ён адзначаецца ў слове *службісты* са значэннем 'які любіць выслужыцца' [6, с. 212], на Мсціслаўшчыне ў прыметніку *службістый* 'той, хто любіць выслужвацца' [38, с. 82]. У Чачэрскім р-не зафіксаваны назоўнік *баржыст* 'чалавек, які працаваў на баржы' [10, с. 25]. Лексемы *галасістый*, *какацістый*, *балоцістый*, *задзірыстый* запісаны П. А. Растаргуевым з «северска-беларускай» гаворкі [33, с. 74], *румянистый*, *кастистый*, *бядристый* — з гаворак Смаленшчыны [32, с. 144].

Паводле вынікаў даследавання А. Р. Хромчанкі, помнікі старабеларускай пісьменнасці фіксуюць лексемы з фармантамі *-іста/-ыста*, *-іст/-ыст* з дру-

[1] Запісана ад М. Ф. Коласава, 1923 г. н., в. Лунна, Мастоўскі р-н, Гродзенская вобл., 2003 г.

гой паловы XIV ст., аднак з улікам гістарычных умоў яны маглі пранікаць у мову і значна раней [37, с. 54]. Такія кампаненты засведчаны даследчыцай выключна ў лексіцы, што абазначала назвы асоб паводле канфесійнай дзейнасці: *евангелиста*, *органиста*, *ольтариста* (*олтариста*). У старажытнапольскай мове гэтыя намінатыўныя сродкі былі таксама нешматлікія. Відавочна, працэс засваення іншамоўнай лексікі з фармантам *-іста/-ыста* да XVI ст. у беларускай і польскай мовах праходзіў незалежна: як вядома, на тэрыторыі ВКЛ ужо ў другой палове XIV ст. працавалі школы з лацінскай мовай выкладання [37, с. 54]. Разам з тым у беларускай мове паралельна з *-іста/-ыста* пад уплывам царкоўнаславянскіх традыцый засвойваўся і фармант *-іст/-ыст*. У XVI–XVIII стст. колькасць назоўнікавых утварэнняў на *-іста/-ыста* ў беларускай і польскай мовах павялічылася ў сувязі з імклівым развіццём палемічнай, рэлігійнай і свецкай літаратуры [37, с. 54]. Як піша А. Р. Хромчанка, «у старабеларускай мове яны датуюцца больш познім часам, чым адпаведныя словы ў старапольскай. Гэта дае падставы меркаваць, што ў далейшым працэс засваення лексікі на *-іста/-ыста*, *-іст/-ыст* у беларускай мове адбываўся не толькі шляхам запазычвання з моў-арыгіналаў, але і апасродкавана — праз мовы польскую і рускую» [37, с. 55]. У адпаведнасці з чым, назоўнікавыя формы на *-іста/-ыста* ў польскай і беларускай мовах даследчыца інтэрпрэтуе як агульнаславянскую інавацыю і датуе яе прыкладна XIV ст.

Згодна з меркаваннем П. В. Вярхова, словы з суфіксам *-истъ* былі запазычаны беларускай мовай яшчэ ў старажытны перыяд з заходнееўрапейскіх моў, пераважна праз пасрэдніцтва польскай [4, с. 119]. Але, як сцвярджае вучоны, «у беларускай мове ўжо існаваў адэкватны гукавы комплекс *-іст-*, які ўжываўся для ўтварэння кароткіх і поўных формаў якасных прыметнікаў ад іменных і дзеяслоўных асноў, таму запазычаны фармант *-іст-* для ўтварэння асабовых назоўнікаў цалкам адпавядаў структурным асаблівасцям старажытнай беларускай словаўтваральнай сістэмы. Да гэтага трэба дадаць, што беларускай мове, у якой пачаў ужывацца гэты фармант, былі ўласцівы і прыметнікавыя субстантывы на *-истъ*. Усе адзначаныя вышэй акалічнасці дзейнічалі ў напрамку патэнцыяльнай марфалагічнай дыферэнцыяцыі запазычаных *іста*вых лексем на ўтваральную аснову і суфікс, а гэта ў сваю чаргу набліжала іх да назоўнікавай структуры беларускай мовы і садзейнічала запазычванню фарманта *-истъ(а)*» [4, с. 123–124].

Ва ўкраінскай дыялектнай мове, у параўнанні з літаратурнай, у адпаведнасці з дадзенымі Я. В. Закрэўскай, утварэнняў з суфіксам *-іст*, *-ист* значна менш і пашыраны яны неаднастайна [7, с. 58]. Асаблівасцю функцыянавання назоўнікаў з суфіксам *-ист*, *-іст* у паўднёва-заходніх украінскіх гаворках з’яўляецца тое, што яны могуць ужывацца з прыметнікавай флексіяй *-ий*: *бубністий*, *бояністий*, *машиністий*, *роверистий*, *мотоциклістий*, *басиситий*, *басістий*, *цимбалистий*, *цимбалістий*, *бубнистий*, *бубністий*, *капелістий*, *органістий*; радзей з флексіяй *-а*: *басиста*, *басіста*, *цимбалиста*, *цимбалі-*

*ста*, *бубниста*, *бубніста*, *органіста* (бойкаўскія гаворкі), *цимбаліста*, *машиніста* (верхнеужанскія закарпацкія гаворкі) і інш. [7, с. 58]. Згодна думцы Я. В. Закрэўскай, паўднёва-заходнія ўкраінскія гаворкі прымаюць флексію -*а* пры суфіксе -*іст-а*, які ў названых гаворках функцыянуе паралельна з -*іст* (*цімбаліст* // *цімбаліста*, *басіст* // *басіста*, *бубнист* // *бубнистый*), пад уплывам суседніх усходнеславянскіх моў [7, с. 58]. А. Абрэмбска-Яблоньска таксама ўказвае на адметнасць паралельнага функцыянавання ва ўкраінскіх дыялектах утварэнняў на -*ista* і на -*ist* [1, с. 23].

Найбольш раннія прыклады ўтварэнняў на -*іст* у помніках старажытнарускай мовы адносяцца да XIII–XIV стст. (*вечистое*, *камянисто*, *речистъ*…), у перыяд да XVIII ст. адзначаны таксама такія рускія вытворныя ад старых асноў на **ŏ* м. р., як *бережиста*, *възористъ*, *голосистъ*, *скатистые*, *ребристы*, *рожаистъ*, *плечиста*… [8, с. 244]. У адпаведнасці з версіяй Н. П. Звяркоўскай, у далейшым развіўся яшчэ адзін, ад'ад'ектыўны, тып утварэнняў на -*іст*- — ад асноў прыметнікаў са значэннем 'які характарызуецца наяўнасцю ч.-н.' або 'падобны да таго, што вызначана ў аснове зыходнага прыметніка' (параўн. сучасныя дыялектызмы *быстристый* 'хуткаплынны', *верховистый* 'пра голуба: які падымаецца на значную вышыню', *гордистый* 'поўны гордасці', *материстый* 'параўн. мацёры', *понуристый* 'параўн. пануры'…) [8, с. 246]. Паводле высновы, зробленай даследчыцай у выніку вывучэння фармантаў з прыметай «*т*» у рускай мове, суфіксы -*ist*- і -*ast*-, якія з'яўляюцца мадэфікацыямі суфіксаў -*it*- і -*at*-, былі славянскімі або балта-славянскімі новаўтварэннямі і замацаваліся ў шэрагу славянскіх моў [8, с. 242]. У сучасным мовазнаўстве суфікс -*іст* інтэрпрэтуецца часцей за ўсё як інтэрнацыянальны фармант [9, с. 8–9], які вельмі прадуктыўны ва ўсходнеславянскіх мовах [3, с. 137].

У адрозненне ад іншых славянскіх моў запазычанні на -*іста*/-*ыста* ў беларускай мове прайшлі свой адметны шлях развіцця. А. Р. Хромчанка датуе пачатак працэсу ад'ектывізацыі назоўнікавых утварэнняў у беларускай мове канцом XVII ст. на аснове храналогіі, засведчанай помнікамі пісьменнасці [37, с. 55–56]. Паводле гіпотэзы А. Абрэмбскай-Яблоньскай, у беларускай мове, як і ва ўкраінскай, пачатак працэсу ад'ектывізацыі, які адбываецца ў сферы запазычаных слоў на -*ista*, -*ist*, верагодна было б датаваць другой паловай XIX ст. [1, с. 23]. Пануючай формай у гэтай групе запазычанняў хутчэй з'яўляюцца словы на -*ista*, чым на -*ist*: *атэіста*, *алтарыста*, *артыста*, *евангеліста*, *матэрыяліста*, *клярнэціста*, *басэтліста*, *гутарыста* і г. д. [1, с. 23–24]. Пазней фармант -*іст(а)* у складзе назоўнікаў знаходзіць адлюстраванне на старонках газеты «Наша Ніва»: *«Убіўца грэк, мае 40 гадоў, кажэ, што ён соціал****іста*** *і не шкадуе свайго паступку»* [21, с. 4], *«Уніён****іст****ы ўжо даўно зразумелі небеспечнасць для Англіі з боку Немеччыны»* [14, с. 133].

Аднак у беларускай мове ўтварэнне назоўнікаў на -*isty* было больш прадуктыўным, асабліва ў першыя паслярэвалюцыйныя гады XX ст., калі адбывалася фарміраванне публіцыстычнага стылю, выпрацоўка і засваенне новай тэрміналогіі для абазначэння новых рэалій у жыцці беларусаў. Гэта

славаўтваральная мадэль грунтуецца на пашырэнні лексем з фармантам *-істы*, *-ага* замест рускага суфікса *-ист*, *-а* і польскага *-ista*, *-y*: *сантымэнталісты* (адз. л., м. р.), *комуністы* (адз. л., м. р.), *лінгвісты* (адз. л., м. р.), *рэалістых* (мн. л., родн. скл.), *марксысты* (адз. л., м. р.), *букіністы* (адз. л., м. р.), *гітарысты* (адз. л., м. р.), *гарманісты* (адз. л., м. р.) [1, с. 23–24; 31, с. 99; 31, с. 390]. У пачатку XX ст. фармант *-іст(ы)/-ыст(ы)* надзвычай прадуктыўна выкарыстоўваўся для ўтварэння прыметнікаў, прыслоўяў і назоўнікаў у мастацкім і публіцыстычным стылі, пра што сведчаць матэрыялы газеты «Наша Ніва»: *«І калі, чытаючы страніцы нашай гісторыі, у каторых апісываецца агн**іст**ая вера і старое «благачэсце» беларусоў, адвернем вочы на сучаснае палажэньне нашаго народу, то сумна нам стане за той упадак да якога мы дайшлі»* [17, с. 2], «*Чутно было ... замкнутую ў сабе самой душу беларуса з ляс**іста**-балоц**іст**ай старай нашай бацькаўшчыны...»*[14, с. 124], *«Сваю я песьню зноў сьпеваю Табе, сьвятл**іст**ая зара»* [30, с. 2], *«Чыстай шкл**іст**аю вадзіцай Змыў-бы сон-траву»* [16, с. 3], *«О, у Спірыдона вуха арав**іст**ае: ён чуў арт**ыст**оў — цыганоў і сам сьпеваў раманцы»* [28, с. 2], «*Само неба маець колер мутнаго бяльм**іст**аго вока сьляпога жэбрака»* [24, с. 1], *«Відаць пакорнасць кас**іст**ай асобы разжаліла яго і прымусіла звярнуць увагу»* [23, с. 2], *«Сіваваронка, снуючы каля таўшчэразнаго жэрл**іст**аго дуба, ў каторым было яе гняздо, трэшчала, бы тая трашчотка»* [29, с. 2], «*Злій сьлезою брылянц**іст**ай»* [15, с. 385], *«Ўецца срэбн**іст**ай зьмейкай дарожка»* [13, с. 97], *«Пазлац**іст**ые на пальцы Персьцямі ўздзевалі»* [25, с. 2], *«Дзе ўстрэпянулісь дубы густал**іст**ые І на курганах нямоўчна гудуць»* [19, с. 1], «*У аб'ём**іст**ым зборніку (260 стр. вялікаго фармату) лепей, як у асобных творах, выяўляецца творчэская сіла і талент Купалы»*[22, с. 2], *«Праменьнямі сонца Сьвятл**іста** зірні»* [18, с. 3], «*Мірон не хацеў каб на вясельлі зяць выглядаў не фарс**іста**»* [26, с. 2], *«Хор с студэнтоў і курс**іста**к нягорш прапеяў беларускіе песьні...»* [20, с. 4], «*Акадэм**іста**мі называюць сябе чорнасоценцы студэнты»* [27, с. 3].

Адназоўнікавыя і адпрыметнікавыя найменні з суфіксам *-іст*, *-ыст* адносяцца да прадуктыўнага тыпу словаўтварэння і ў сучаснай беларускай літаратурнай мове [2, с. 233]. Такія назвы абазначаюць асоб па іх адносінах да аб'екта, па занятках або сферы дзейнасці (*баяніст*, *бандурыст*, *журналіст*, *карыкатурыст*, *машыніст*, *танкіст*), па адносінах да грамадска-палітычнага, навуковага або рэлігійнага кірунку (*ідэаліст*, *пацыфіст*, *футурыст*), па дзеянні або схільнасці (*аферыст*, *байкатыст*, *гумарыст*, *скандаліст*, *шантажыст*), па прыналежнасці да грамадскай або навуковай установы, да групоўкі (*архівіст*, *гімназіст*, *чэкіст*, *актывіст*, *кавалерыст*), паводле аб'екта вывучэння, названага імем уласным (*балгарыст*, *іраніст*, *кітаіст*, *пушкініст*) [2, с. 109]. У спецыяльнай тэрміналогіі пашыраны адпрыметнікавыя ўтварэнні, якія называюць асоб паводле ўласцівасцей, поглядаў, сферы заняткаў (*спецыяліст*, *акураціст*, *архаіст*, *баталіст*, *фігурыст*) [2, с. 234].

З вышэйвыкладзенага вынікае, што назоўнікавыя ўтварэнні на *-істы/-ысты* пашыраны ў (заходне)беларуска-ўкраінска-руска-польскім арэале, які

прымыкае да балцкай тэрыторыі. Але кампактна такія найменні лакалізуюцца ў зоне распаўсюджання беларускіх гаворак, дзе адзначана значна больш прыкладаў, чым у суседніх мовах. Характэрнай прыметай названай групы назоўнікаў у беларускіх, украінскіх і польскіх гаворках з'яўляецца, па-першае, тое, што яны скланяюцца па тыпе прыметнікаў на *-істы*, па-другое, у працэс словатворчай актыўнасці з фармантам *-істы/-ысты* трапілі запазычаныя словы на *-іста/-істы,* якія выяўляюць семантычную ўзаемазалежнасць назваў выканаўцаў па назвах іх прылад працы або называюць чалавека паводле роду яго заняткаў (часта гэта назвы музыкаў у залежнасці ад інструмента) [1, с. 23; 37, с. 52].

Польскамоўны наяўны матэрыял аб назоўніках з суфіксам *-ista* паказвае, што ў выніку экспансіі прыметнікавых канчаткаў (maszyn*isty*, maszyn*istego*, maszyn*istemu*), якія пранікаюць нават у формы мн. л. (родн. скл. organ*istych*, дав. maszyn*istym*), адбываюцца змены ў змешанай назоўнікава-прыметнікавай парадыгме тыпу *sędzia*, *rządca* (sędzi*ego*, rządc*ego*, sędzi*emu*, rządc*emu*). Але яны не ахопліваюць цалкам склонавую парадыгму. Выключэнне складаюць формы тв. і месн. скл.: тв. скл. адз. л. *sędzią*, *rządcą*, месн. скл. о sędz*i*, о rządc*y* [1, с. 22; 44, s. 45–47; 45, s. 52–53]. Больш падрабязна гэты аспект словаўтварэння даследаваўся І. Вінклер-Ляшчынскай [46] і К. Дэйнам [40]. На думку польскіх вучоных, атрыманыя з індаеўрапейскай мовы суфіксы *-at*, *-it*, якія ўзніклі са спалучэння фарманта *-t-* з адпаведнай галоснай *-a-*, *-o-* або *-i-* замыкаюць аснову слова (ад якой гэтыя суфіксы ўтваралі прыметнік), развіліся на славянскай глебе, па меншай меры, у пэўных пазіцыях ці словах, у *-ast*, *-ist-*. З'яўленне ў суфіксах *-ast-*, *-ist-* і падобнае расшырэнне іншых славянскіх фармантаў, напрыклад, *kop-yto — kop-ystь*, *kor-yto — kor-ystь* або літоўскага *-ta //-sta*, *-tis//-stis*, *-ti//-sti*, было славянскай інавацыяй, выкліканай, магчыма, рэдуплікацыяй зычнага ў суфіксах **-att-*, **-itt-*, якая магла даць *-st-* [40, с. 200]. Стымуляванае гэтым або нейкім іншым чыннікам чаргаванне *-at- // -ast-*, *-it- // -ist-* прыжылося, відаць, ва ўсіх славянскіх мовах. Распаўсюджанне фарманта *-ity-* адбылося амаль што паслядоўна на лужыцкай, чэшскай і паўднёваславянскай тэрыторыях. Суфікс *-ity* запанаваў пераважна або выключна на перыферыі гэтага абшару: *wodnity*, *piaszczyty*, *kamienity*, *mączyty*. Перавага ў функцыянаванні такіх найменняў назіраецца ў гаворках заходняй Польшчы. Суфікс жа *-isty* замацаваўся ў кашубскім, мазавецкім, малапольскіх дыялектах, а таксама ва ўсходнеславянскіх і балгарскай мовах [40, с. 201]. Е. Рэйхан сярод прыкладаў ізалексаў, што ахопліваюць вялікі моўны абшар і падзяляюць славянскую тэрыторыю нязгодна з адміністрацыйнымі падзеламі моў, называе арэал выключнай частотнасці ўжывання суфікса *-ity*, тлумачачы гэта адсутнасцю або спарадычнасцю суфікса *-isty* [43, с. 238].

Паколькі ў выпадках накшталт *organisty*, *гарманісты* змена флексійнага тыпу адбываецца на глебе флексійна-словаўтваральных мадэлей, асноўным імпульсам узнікнення такіх форм можна лічыць фактары словатворчага характару [1, с. 23–24]. Іншамоўныя суфіксы *-ista*, *-ist* (грэка-лацінскі і італьян-

скі -*ista*, французскі -*iste*, нямецкі -*ist*), далучаныя да дэрывацыйных асноў іншамоўнага паходжання, аказваюцца ўцягненымі ў сферу дзеяння свайго ўласнага і вельмі прадуктыўнага суфікса -*isty*. У працах Л. Шнэйдара, І. Вінклер-Ляшчынскай, М. Фасмера, Г. Більфельдта паказана, што ў старарускіх гаворках паступова адбываўся працэс актывізацыі суфікса -*ist* і заняпаду -*it*, вынікам чаго стала вельмі значная перавага прыметнікавага суфікса -*isty* над -*ity* ў рускай мове [1, с. 25].

Вялікую прадуктыўнасць фарманта -*isty* таксама ў беларускай мове ў адносінах да разнастайных семантычных груп адзначае акадэмічная «Граматыка беларускай мовы» (1962). Беларускія прыметнікі на -*isty* ўтвараюцца нават ад асноў неславянскага паходжання (*басісіты*, *брыльянцісты*, *ганарысты*, *фанабэрысты*), таму і назоўнікі тыпу *лінгвісты* таксама маглі атрымаць шырокае распаўсюджанне [5, с. 204–205]. Больш таго, тэндэнцыя да «асіміляцыі іншамоўных суфіксаў уласнымі словатворчымі структурамі ў беларускай мове можа ў пэўнай меры прыводзіць да ўзнікнення назоўнікавых утварэнняў прыметнікавага тыпу на -*aty*, такіх, як *араты*, *важаты*, *прыганяты*, *баранаваты*» [1, с. 25].

Згодна з гіпотэзай В. У. Мартынава, утварэнні тыпу *араты*, *памагаты*, *арганісты*, *гарманісты*, *кавалярысты* і г. д. узніклі аналагічным чынам ад nomina agentis на -*tajь* з наступным прыпадабненнем да суфіксацыі прыметнікаў на -*істы*. На думку даследчыка, балцкі ўплыў на інавацыі мае апасродкаваны характар, аднак іх геаграфія і сам факт наяўнасці ў адным радзе з квазіпрыметнікамі тыпу *араты*, *памагаты* робяць гэта меркаванне дастаткова абгрунтаваным [12, с. 95]. Спецыфіка знешняга аблічча падобных слоў прымусіла даследчыкаў задумацца над іх граматычным статусам. Так, Я. Лёсік характарызаваў словы з суфіксам -*іст* (*арганісты*, *алтарысты*, *гімназісты*, *артысты*, *камуністы*…) як прыметнікі са значэннем назоўніка або як назоўнікі-прыметнікі, відаць, беручы пад увагу фактары іх семантычнай прыроды [11, с. 142].

На думку А. Р. Хромчанкі, «апрача дзеяння словаўтваральнага прыметнікавага суфікса -*істы* тут мог паўплываць і працэс семантычнай кандэнсацыі, калі формы тыпу *арганісты*, *гарманісты* маглі ўжывацца як прыметнікі ў спалучэнні з назоўнікам *чалавек* (*арганісты чалавек*, *гарманісты чалавек*) аналагічна субстантываваным прыметнікам *калекі*, *убогі* (*калекі чалавек*, *убогі чалавек*). Маючы досыць выразную характарыстыку асобы паводле пэўнага роду дзейнасці, занятку, словы гэтыя з часам субстантываваліся, захаваўшы граматычныя формы прыметніка і набыўшы парадыгму прыметнікаў на -*істы/-ысты*» [37, с. 56]. Аднак спалучэнні *гарманісты чалавек* і пад. і іх наступная кандэнсацыя з’яўляюцца не зусім праўдападобнымі па форме (параўн. кандэнсацыю ў выразах *чорныя ягады* → *чарніцы* або руск. *земная ягода*, *ягода*, *стелющаяся по земле* → *земляника*). Разам з тым цалкам правамерна інтэрпрэтаваць адпрыметнікавыя назоўнікі на -*істы/-ысты* як

тыпова беларускія ўтварэнні. У адпаведнасці з высновамі А. Р. Хромчанкі, такія канструкцыі «дэманструюць адаптацыю слоў іншамоўнага паходжання на беларускай глебе, г. зн. уласна беларускую інавацыю, што магла зарадзіцца ў XVII ст. і пашырыцца на пэўную частку паўночна-заходняй моўнай прасторы, выцясняючы старажытныя царкоўнаславянскія і неславянскія запазычанні на *-іст/-ыст*, *-іста/-ыста*» [37, с. 56].

Адзначаныя вышэй факты на карысць уплыву прыметнікавых утварэнняў з суфіксам *-isty* на назоўнікі іншамоўнага паходжання на *-ista, -ist* не дазваляюць пагадзіцца з меркаваннем А. Абрэмбскай-Яблоньскай адносна паўночнапольскіх рэгіяналізмаў тыпу *organisty*, *cymbalisty*, *maszynisty*: на думку А. Абрэмбскай-Яблоньскай, менавіта яны сталі стымулам, які выклікаў далейшую словастваральную рэакцыю ў беларускай мове [1, с. 25]. Безумоўна, беларускай мове была ўласціва тэндэнцыя да засваення новых разрадаў запазычаных слоў шляхам уключэння іх ва ўласную сістэму лексічных структур, аднак, думаецца, больш спрыяльную глебу для гэтага магла падрыхтаваць не польская, а руская мова. У XIX і XX стст. праз пасрэдніцтва рускай мовы ў беларускую лексіку пранікалі словы на *-ist*, якія спрыялі нараджэнню інавацый тыпу *рэалісты*, *лінгвісты* (адз. л., м. р.) і г. д. Па словах А. Абрэмбскай-Яблоньскай, «многа акалічнасцей спрыяла распаўсюджанню рускіх утварэнняў на *-ist*» [1, с. 26]. Акрамя фактараў экстралінгвістычнага характару на працэс пашырэння форм на *-ist* уплывала і сама сістэма мовы: «пры суфіксе *-ist* флексійная парадыгма І скланення, куды адносяцца назоўнікі мужчынскага роду з нулявым канчаткам, аказваецца больш простай, чым пры наяўнасці суфікса *-ista,* змяненне якога ў адз. л. дапускае побач з канчаткам назоўнікаў жаночага роду на *-a* канчаткі І скланення ва ўскосных склонах» [1, с. 26].

Верагодна, што на тэрыторыі Беларусі ў сферы запазычаных назоўнікаў на *-іста/-ыста*, *-іст/-ыст* адбылося своеасаблівае накладванне розных моўных сістэм — лацінскай і царкоўнаславянскай, а пазней — польскай і рускай [37, с. 55]. Да прыкладу, такія словатворчыя мадэлі з аднолькавай функцыяй і сферай ужывання, як *арганіста*, *арганіст*, *арганісты*, відаць, адлюстроўваюць двухбаковую інфільтрацыю іншамоўных слоў падчас працэсу нармалізацыі беларускай літаратурнай мовы. Калі *арганіст* магло быць запазычана з рускай мовы, то *арганіста* магло запазычыць грэка-лацінска-італьянскі суфікс *-ista* праз польскую літаратурную мову, дзе лацінска-італьянскія фарманты атрымалі значнае пашырэнне. Прадуктыўнасць *-ista* можна патлумачыць тым, што амаль усе старапольскія назоўнікі тыпу *organista*, *brona*, *matka* калі і пераймалі лацінскую парадыгму, то з першага скланення, да якога належаць лацінскія назоўнікі ж. або м. роду, якія таксама заканчваюцца на *-a*. Чыннікамі, якія адыгрывалі галоўную ролю пры выбары адпаведнай лацінскай парадыгмы, былі канчаткі наз. скл. адз. л., характар асновы і род пэўнага назоўніка. На практыцы найменшая розніца выяўляецца ў катэгорыі роду, паколькі род

у лацінскай мове ў параўнанні з польскай, з'яўляецца катэгорыяй у большай ступені сінтаксічнай і семантычнай і менш флексійнай [41, с. 94–95]. Такім чынам, пры ўжыванні лацінскай флексіі *-ista* ў старапольскіх назоўніках можна прасачыць пэўную тэндэнцыю да універсалізму. Пры фарміраванні інавацый быў запатрабаваны фармант *-іста*, які ў многіх неславянскіх лексемах выцясняўся праз *-істы/-ысты*. Цэнтральны характар узнікнення гэтай з'явы на беларускамоўным абшары дазваляе меркаваць аб яе пашырэнні на поўдзень і захад, дзе ад'ектыўныя назоўнікі на *-істы/-ысты* адчуваюць беларускі ўплыў і ствараюць значную лінгвагеаграфічную спецыфіку славянскага кантынуума.

## Літаратура


1. Абрэмбска-Яблоньска, А. Да гісторыі нармалізацыі беларускай літаратурнай мовы / А. Абрэмбска-Яблоньска // Беларускае і славянскае мовазнаўства: да 75-годдзя акад. АН БССР К.К. Крапівы / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа ; пад агул. рэд. М.Р. Судніка. — Мінск, 1972. — С. 21–26.
2. Беларуская граматыка: у 2 ч. / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа ; рэд. М. В. Бірыла, П.П. Шуба. — Мінск: Навука і тэхніка, 1985. — Ч. 1: Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. — 431 с.
3. Булахов, М.Г. Сербско-хорватские имена прилагательные на -аст и их эквивалеты в русском и белорусском языках / М. Г. Булахов // Избранные труды по языкознанию: русистика, белорусистика, славистика. / М. Г. Булахов. — Минск: Право и экономика, 2009. — 583 с.
4. Вярхоў, П. В. Запазычаныя назоўнікавыя суфіксы ў беларускай мове / П. В. Вярхоў // Вес. АН БССР. Сер. грамад. навук. — 1973. — № 6. — С. 118–127.
5. Граматыка беларускай мовы: у 2 т. / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэд. К. К. Атраховіч (К. Крапіва), М. Г. Булахаў. — Мінск: Выд-ва АН БССР, 1962. — Т. 1: Марфалогія. — 540 с.
6. Зайка, А. Ф. Дыялектны слоўнік Касаўшчыны / А. Ф. Зайка. — Слонім: Слонімская друкарня, 2011. — 272 с.
7. Закревська, Я. В. Нариси з діалектного словотвору в ареальному аспекті / Я. В. Закревська ; АН УРСР, Ін-т сусп. наук. — Київ: Наукова думка, 1976. — 163 с.
8. Зверковская, Н. П. К истории формантов с приметой «т» в русском языке. Суффиксы -ит-, -овит-, -ист- / Н. П. Зверковская // Общеславянский лингвистический атлас: материалы и исслед., 1979 / АН СССР, Ин-т рус. яз. ; редкол.: Р. И. Аванесов (отв. ред.) [и др.] — М., 1981. — С. 242–246.
9. Из истории русских слов: словарь-пособие / А. Е. Аникин [и др.] ; Ин-т рус. яз. Рос. акад. наук. — М.: Школа-Пресс, 1993. — 224 с.
10. Курцова, В. М. З гаворкі вёскі Залессе Чачэрскага раёна (матэрыялы да ідыялектнага слоўніка) / В. М. Курцова // Беларуская дыялекталогія. Матэрыялы і даследаванні. Зборнік навуковых артыкулаў. Вып. 2. Да 100-годдзя з дня нараджэння Ю. Ф. Мацкевіч / рэд. В. М. Курцова, Л. П. Кунцэвіч, Т. М. Трухан. — Мінск: «Беларуская навука», 2012. — С. 19–33.
11. Лёсік, Я. Граматыка беларускай мовы: марфалогія / Я. Лёсік. — Мінск: Дзяржвыд Беларусі, 1927. — 190 с.

12. Мартынаў, В. У. Адказы на анкету па праблеме «Беларуска-польскія ізалексы» / В. У. Мартынаў // Беларуска-польскія ізалексы: матэрыялы для абмеркавання / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа ; рэдкал.: Г. А. Цыхун (адк. рэд.) [і інш.]. — Мінск, 1975. — С. 92–99.
13. Наша Ніва. — 1910. — № 6.
14. Наша Ніва. — 1910. — № 8.
15. Наша Ніва. — 1910. — № 26.
16. Наша Ніва. — 1912. — № 1.
17. Наша Ніва. — 1912. — № 4.
18. Наша Ніва. — 1912. — № 23.
19. Наша Ніва. — 1912. — № 27.
20. Наша Ніва. — 1913. — № 8.
21. Наша Ніва. — 1913. — № 10.
22. Наша Ніва. — 1913. — № 16–17.
23. Наша Ніва. — 1913. — № 21.
24. Наша Ніва. — 1913. — № 28.
25. Наша Ніва. — 1913. — № 29.
26. Наша Ніва. — 1913. — №42.
27. Наша Ніва. — 1914. — № 14.
28. Наша Ніва. — 1914. — № 15.
29. Наша Ніва. — 1914. — № 25.
30. Наша Ніва. — 1915. — № 9.
31. Працы акадэмічнае канфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (14–21 лістапада 1926 г.) / Ін-т беларус. культуры ; пад рэд.: С. Некрашэвіча, У. Ігнатоўскага. — Менск: Выд. Інбелкульта, 1927. — 432 с.
32. Расторгуев, П. А. Говоры на территории Смоленщины / П. А. Расторгуев ; Акад. наук СССР, Ин-т рус. яз. — М.: Изд-во Акад. наук СССР, 1960. — 208 с.
33. Расторгуев, П. А. Северско-белорусский говор: исследование в области диалектологии и истории белорусских говоров / П. А. Расторгуев ; Ин-т белорус. культуры. — Л.: Изд-во Инбелкульта, 1927. — 224 с.
34. Снігірова, Н. А. Назоўнікавыя ўтварэнні з фармантамі -іста/-ыста, -істы/-ысты ў беларускай і польскай мовах / Н. А. Снігірова // Беларуская лінгвістыка. — 2012. — Вып. 69. — С. 45–55.
35. Снигирёва, Н. А. Реализация флексийно-словообразовательной модели на -ista/-ysta, -isty/-ysty в польском и белорусском языках / Н. А. Снигирёва // Yearbook of Eastern European Studies. — 2013. — № 2. — S. 198–213.
36. Сцяцко, П. У. Беларускае народнае словаўтварэнне: афіксальныя назоўнікі / П. У. Сцяцко ; рэд. М. В. Бірыла. — Мінск: Навука і тэхніка, 1977. — 320 с.
37. Хромчанка, А. Р. Паўночна-мастоўскія гаворкі: арэальная, генетычная і тыпалагічная характарыстыка / А. Р. Хромчанка. — Мінск: Беларус. дзярж. ун-т, 2004. — 147 с.
38. Юрчанка, Г. Ф. Народнае вытворнае слова: з гаворкі Мсціслаўшчыны: у 3 т. / Г. Ф. Юрчанка. — Мінск: Навука і тэхніка, 1981–1985. — 3 т.
39. Юрчанка, Г. Ф. Сучасная народная лексіка: з гаворкі Мсціслаўшчыны: слоўнік: у 3 ч. / Г. Ф. Юрчанка. — Мінск: Беларус. навука, 1998. — 3 ч.

40. Dejna, K. Dialekty polskie / K. Dejna. — Wrocław [etc.]: Zakł. Nar. im Ossolińskich, 1973. — 283 s., 70 s.: m.
41. Kucała, M. Łacińska fleksja rzeczowników polskich w tekstach średniowiecznych / M. Kucała // Pr. Komis. Językoznawstwa / PAN, Oddz. w Krakowie. — Kraków, 1974. — № 37: Studia indoeuropejskie. — S. 91–96.
42. Podlawska, D. Gramatyka historyczna języka polskiego z elementami gramatyki języka staro-cerkiewno-słowiańskiego i dialektologii / D. Podlawska.– Słupsk: Pomorska Akad. Ped. w Słupsku, 2003. — 318 s.
43. Rejchan, J. Związki słowotwórcze dialektów polskich z innymi dialektami i językami słowiańskimi / J. Rejchan // Z polskich studiów slawistycznych ; Seria 9. Językoznawstwo: pr. na XII Międzynar. kongr. slawistów w Krakowie, 1998 / kom. red.: H. Dalewska-Greń [et al.] ; Kom. Słowianoznawstwa, Kom. Językoznawstwa PAN. — Warszawa, 1998. — S. 237–240.
44. Taszycki, W. Odmiana rzeczowników typu sędzia, sędziego… w perspektywie historycznej / W. Taszycki // Zeszyty nauk. Uniw. Jagiellońskiego. Pr. Językoznawcze. — 1964. — Z. 9. — S. 45–47.
45. Turska, H. Język Jana Chodźki: przyczynek do historii języka polskiego na obszarze północno-wschodnim Rzeczypospolitej / H. Turska. — Wilno: Wydaw. Koła Polonistów Słuchaczów Uniw. St. Batorego, 1930. — 99 s. — (Biblioteka prac polonistycznych ; № 3).
46. Winkler-Leszczyńska, I. Sufiksy przymiotnikowe -ity, -isty, -aty, -asty w języku polskim na tle ogólnosłowiańskim / I. Winkler-Leszczyńska. — Wrocław [etc.]: Zakł. Nar. im. Ossolińskich, 1964. — 100 s., 7 m.

---

**Юрый Чарнякевіч**
(Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт
імя Максіма Танка, Мінск, Беларусь)

# МОВАЗНАЎЧАЯ СПАДЧЫНА ПОЛЬСКАГА ДЫЯЛЕКТОЛАГА Ю. ТАРНАЦКАГА І СУЧАСНЫЯ БЕЛАРУСКІЯ РЭГІЯНАЛЬНЫЯ ЛІНГВАГЕАГРАФІЧНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ

Уякасці адной са сваіх асноўных задач арэальная лінгвістыка вызначае стварэнне лінгвістычных атласаў. На працягу XX ст. лінгвістамі быў назапашаны велізарны досвед па складанні як нацыянальных (ДАБМ [8], ЛАБНГ [12], АУМ [2], ДАРЯ [7] і інш.), так і наднацыянальных атласаў (АЛА [14], ЛАЕ [22] і інш.), якія дазваляюць на аснове супастаўляльнага вывучэння ізаглос розных моўных узроўняў вызначыць від і арэальнае раз-

мяшчэнне кожнай моўнай з’явы паасобку, атрымаць важныя сведчанні для вывучэння гісторыі моў свету і іх дыялектаў, устанавіць этнагенетычныя і тыпалагічныя моўныя сувязі і г. д.

Як вядома, першыя ва ўсходнеславянскім мовазнаўстве атласы або нават асобныя лінгвістычныя карты складаліся звычайна не калектывам аўтараў, а адным чалавекам. Напрыклад, у 1903 г. Я. Ф. Карскі ў першым томе працы «Беларусы» змясціў дзве карты: «Этнаграфічная карта беларускага племені» і «Этнаграфічная карта беларускага племені. Беларускія гаворкі». А П. А. Бузук у 1928 г. апублікаваў манаграфію «Спроба лінгвістычнай геаграфіі Беларусі. Ч. І. Фанетыка і марфалогія. Вып. 1. Гаворкі цэнтральнай і ўсходняй Беларусі і суседніх мясцовасцей Украіны і Вялікарасіі ў першай чвэрці 20 в.» [5].

Але пальму першынства ў рэгіянальнай лінгвагеаграфіі на ўсходнеславянскай тэрыторыі, як заўважае М. І. Талстой, варта ўсё ж аддаць польскаму даследчыку Юзафу Тарнацкаму, які яшчэ ў 1939 г. выдаў працу — атлас «Studia porównawcze nad geografia wyrazów (Polesie-Mazowsze)» [17, с. 247].

Тое, што польскія навукоўцы былі ў гэтай важнай справе першымі, — невыпадкова. Як вядома, у 1930-я гг. польская лінгвагеаграфічная школа мела вялікія дасягненні: акрамя атласа Ю. Тарнацкага, можна згадаць работу З. Шцібера «Izoglosy gwarowe na obszarze województw Łęczyckiego i Sieradzkiego. Monografie polskich cech gwarowych» (1933), першы ў славістыцы рэгіянальны атлас М. Малэцкага і К. Нітча «Atlas językowy polskiego Podkarpacia» (1934) і некаторыя іншыя работы [1, с. 15].

Атлас Юзафа Тарнацкага выйшаў з друку яшчэ перад пачаткам ІІ Сусветнай вайны і, як адзначае той жа М. І. Талстой, даволі поўна адлюстраваў устаноўкі школы знакамітага польскага даследчыка К. Машынскага. Пры складанні гэтага палескага рэгіянальнага атласа выкарыстоўваўся апытальнік па матэрыяльнай культуры В. Дарашэўскага і этнаграфічны апытальнік К. Машынскага [16, с. 239].

У атласе Ю. Тарнацкага прадстаўлена лексіка дзесяці тэматычных груп, пры гэтым кожная група мае падрабязнае апісанне, а ў шэрагу выпадкаў ілюструецца малюнкамі [16, с. 239]:

1) будаўніцтва (карты № 1–22),
2) адзенне (№ 23–45),
3) прылады працы (№ 46–85),
4) посуд і начынне (№ 86–98),
5) камунікацыя і транспарт (№ 99–119),
6) земляробства (№ 120–127),
7) ежа (№ 128–133),
8) расліны (№ 134–155),
9) звяры (№ 156–179),
10) featuresрознае (№ 180–185).

Тут цалкам дарэчы будзе згадаць, што, паводле слоў Е. Бартміньскага, ужо згаданы М. І. Талстой сам прызнаваў сябе прадаўжальнікам кракаўскай школы К. Машыньскага, які выступіў у 1930-х гадах ініцыятарам даследаванняў беларуска-ўкраінскага Палесся [3].

На жаль, пасля выдання атласа Ю. Тарнацкага на тэрыторыі Беларусі амаль паўстагоддзя не праводзіліся рэгіянальныя лінгвагеаграфічныя даследаванні, калі не лічыць працу над стварэннем «Лінгвістычнага мікраатласа Тураўшчыны», якая пачалася яшчэ падчас збірання матэрыялаў для «Тураўскага слоўніка» (1970-я гады), пасля перапынілася, а паспяхова завяршылася толькі нядаўна, у 2016 г. [13].

Новы штуршок у сваім развіцці беларуская рэгіянальная лінгвагеаграфія атрымала ў канцы XX — на пачатку XXI ст. Так, у 1990-я і 2000-я гады ў Беларусі былі выдадзены адразу 4 рэгіянальныя атласы: «Атлас гаворак Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці» [10], «Атлас гаворак Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці і сумежжа (Верхняга Над'ясельддзя)» [4], «Атлас гаворак паўночна-ўсходняй Брэстчыны» [19] і «Атлас гаворак Выганаўскага Палесся» [15]. Усе гэтыя атласы ствараліся па асобных, часта не звязаных паміж сабой, праграмах-апытальніках, маюць розны аб'ём, тэрыторыю картаграфавання, адрозніваюцца прынцыпамі падачы матэрыялу і г. д. [9; 20].

Думаецца, невыпадкова, што ўсе гэтыя найноўшыя рэгіянальныя атласы ў якасці тэрыторыі свайго даследавання абралі таксама тую тэрыторыю, якую ў свой час даследаваў і Ю. Тарнацкі ў 30-я гады мінулага стагоддзя. Справа ў тым, што менавіта ў Брэсцкай вобласці навукоўцы звычайна праводзяць мяжу паміж асноўным масівам беларускіх гаворак і заходнепалескімі гаворкамі. Апошнія з названых гаворак, як вядома, з'яўляюцца «часткай дыялекту беларуска-ўкраінскага нацыянальнага сумежжа» (паводле А. А. Крывіцкага). А такія тэрыторыі, як правіла, характарызуюцца разнастайнымі дыялектнымі ўзаемаўплывамі і адметнымі гібрыднымі з'явамі, што ўяўляе асаблівую цікавасць для даследчыкаў, прычым як айчынных, так і замежных (у першую чаргу, украінскіх і польскіх) [18, с. 3, 13; 21, с. 32, 35].

Такім чынам, дзякуючы выхаду ў свет сучасных рэгіянальных лінгвагеаграфічных работ, сёння можна прасачыць не толькі сінхранічныя, але і дыяхранічныя аспекты ў гаворках з гэтай тэрыторыі. Тым больш, што паміж часам выдання атласа Ю. Тарнацкага і апошняга беларускага рэгіянальнага атласа, у якім адлюстраваны асаблівасці шэрагу гаворак, даследаваных польскім дыялектолагам, мінула больш за 70 гадоў.

У якасці ілюстрацыі прааналізуем некаторыя карты атласа Ю. Тарнацкага (у пераважнай большасці тыя, якія адлюстроўваюць тэматыку будаўніцтва і земляробства) і параўнаем іх з картамі атласаў, што з'явіліся на Беларусі цягам апошняга 20-годдзя.

**Карта 13. Czeluść (Паднябенне ў печы).** Паводле карты 13, на ўсёй тэрыторыі Заходняга Палесся (Беларускага і Украінскага), што даследаваў

Ю. Тарнацкі, часцей за ўсё сустракаецца назва *у/стье*. І толькі на Падляшшы (ці ў Мазовіі, паводле тэрміналогіі Ю. Тарнацкага) і некаторых гаворках Ганцавіцкага, Лунінецкага і Столінскага раёна, а таксама на тэрыторыі сучаснай Украіны, сустракаецца слова *чэ/люсць(-це)* [23, с. 13, карта 13].

Паводле ж «Атласа гаворак паўночна-ўсходняй Брэстчыны», — крыніцамі для якога паслужылі матэрыялы, сабраныя ў палявых умовах у 64 населеных пунктах на тэрыторыі Брэсцкай (Івацэвіцкі, Баранавіцкі, Ляхавіцкі, Пружанскі, Бярозаўскі, Пінскі, Ганцавіцкі раёны), Гродзенскай (Слонімскі і Зэльвенскі раёны) і Мінскай (Клецкі раён) абласцях [18, с. 5] — на тэрыторыі гаворак з оканнем (Бярозаўскі, Пінскі, Ганцавіцкі і Івацэвіцкі раёны Брэсцкай вобласці), а таксама ў адзінкавых гаворках з аканнем (Івацэвіцкі раён) сустракаецца слова *ву/сце (у/сце, гу/сце)*.

Ва ўсіх астатніх гаворках з аканнем прадстаўлены словы *пе/люсце, со/лам'е (со/лам'я)* і *чале/снік* [19, с. 226, карта 307]. Слова *пе/люсце* (а не *чэ/люсць(-це)*, як у Ю. Тарнацкага) сустракаецца ў гаворках Бярозаўскага і Пружанскага раёнаў Брэсцкай вобласці. Такім чынам, сучасныя даследаванні пацвярджаюць арэальнае размежаванне дыялектных арэалаў *чэ/люсць(-це), пе/люсце — ву/сце (у/сце, гу/сце)*, зробленыя Ю. Тарнацкім на вызначанай тэрыторыі. Што да слоў *со/лам'е (со/лам'я)* і *чале/снік*, дык яны зафіксаваны не на ўласнапалескай тэрыторыі, а на яе перыферыі — у асобных гаворках Ляхавіцкага, Івацэвіцкага, Баранавіцкага раёнаў, а таксама ў наваколлях Слоніма [19, с. 226, карта 307].

Некаторыя сумненні ўзнікаюць толькі наконт лексемы *чэ/люсць* (пар. пол. czeluść — чалеснікі [6, с. 87]), а не *пе/люсце*, зафіксаванай Ю. Тарнацкім на ўсходзе даследаванай ім тэрыторыі. Выкажам меркаванне, што, мажліва, на карце адлюстраваны не ўсе фанетычныя варыянты слова, запісаныя падчас тагачасных палявых даследаванняў. Акрамя таго, варта згадаць, што лексема *чэ/люсць* была спарадычна адзначана на захадзе Брэсцкай вобласці: у гаворцы в. Луткі Столінскага раёна Брэсцкай вобласці (пункт 114), а таксама ў гаворцы в. Дзяржынск Лельчыцкага раёна Гомельскай вобласці (пункт 134) таксама і збіральнікамі матэрыялаў для «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак» яшчэ ў 1970-я гады XX ст. [12, т. 4, карта 78].

Такім чынам, ужо праз 40 гадоў пасля запісаў Ю. Тарнацкага тэрыторыя ўжывання лексемы *чэ/люсць* у Заходнім Палессі значна скарацілася. Таму сучасныя запісы, якія не адлюстроўваюць гэтага слова ў гаворках, калісьці даследаваных Ю. Тарнацкім, фактычна пацвярджаюць тэндэнцыю знікнення (страты) наймення *чэ/люсць* ў маўленні мясцовых жыхароў. Названая тэндэнцыя пачалася, відаць, адразу пасля 1939 г., у сувязі са зменамі грамадска-палітычнай сітуацыі ў гэтым рэгіёне.

**Карта 18. Wierzeje (Вароты).** Сярод назваў варотаў, як адзначае на карце 18 сваёй працы Ю. Тарнацкі, сустракаюцца найменні *двэ/ры*, *воро/та*, *вэрэйі/* [23, карта 18]. Найбольшае пашырэнне мае першая з прыведзеных лексем,

слова *воро/та* зафіксавана рэдка, пераважна ў гаворках Украінскага Палесся, а назва *вэрэйі/* — рэдкаўжывальнае (прыведзены адзінкавыя выпадкі).

Паводле сучасных даследаванняў, у прыватнасці — «Атласа гаворак паўночна-ўсходняй Брэстчыны», — у гаворках Івацэвіцкага, Бярозаўскага, Ганцавіцкага, Пружанскага раёнаў Брэсцкай вобласці распаўсюджана слова *варо/ты (варо/та)*. Слова *дзве/ра (двэ/ра)* ужываецца радзей і сустракаецца пераважна ў Пінскім і Ганцавіцкім раёнах Брэсцкай вобласці, а лексема *вэрэйі/* не зафіксавана [19, с. 231, карта 318].

Адсутнічае назва *вэрэйі/* і на карце № 131 ЛАБНГ. Паводле яе звестак, на ўсім Заходнім Палессі паслядоўна ўжываецца назва *варо/та*, зрэдку — разам са словам *бра/ма*. Часам у гэтым значэнні адзначаны словы *ко/варат* і *дзве/ры* [12, т. 4, карта 131].

Як бачна, з часу даследавання Ю. Тарнацкага ў гаворках Заходняга Палесся значна пашырылася лексема *варо/та*, найменне *дзве/ра* паступова страчвае сваё дамінантнае становішча ў маўленні мясцовых жыхароў, а паланізм *вэрэйі/*, хутчэй за ўсё, сёння ўжо ў гаворках не ўжываецца ці з'яўляецца дастаткова рэдкім словам.

**Карта 22. Furtka (Калітка, варотцы).** Брамка для выхаду на двор, паводле Ю. Тарнацкага мае ў гаворках Заходняга Палесся наступныя назвы: *двэ/рца*, *фу/ртка*, *ворі/тцэ*, *бра/мка*, *калі/тка*. Найбольш пашырана першая назва, а ўсе іншыя кампактных арэалаў не ўтвараюць [23, карта 22].

Паводле «Атласа гаворак паўночна-ўсходняй Брэстчыны» на тэрыторыі гаворак Івацэвіцкага, Бярозаўскага, Пінскага, Ганцавіцкага раёнаў Брэсцкай вобласці шырока ўжываецца слова *дзве/рца (двэ/рца).* Таксама адзначаны лексемы *варо/тцы*, *калі/тка* і *ве/сніцы (ве/снічкі)*, а паланізм *фу/ртка* (пар. *furtka* — фортка, брамка, веснічкі [6, с. 165]) увогуле не адзначаны [19, с. 231, карта 317]. Дарэчы, не адзначана лексема *фу/ртка* і збіральнікамі матэрыялаў для ЛАБНГ: паводле карты 130, на Заходнім Палессі пераважаюць найменні *дзве/рцы*, *варо/тцы (варо/цечка)*, часам сустракаюцца словы *калі/тка* і *ве/сніцы (ве/снічкі).* Слова *ворі/тца* адзначана ў пунктах 109, 95, 96 і 103 — у вёсках Сіманавічы Драгічынскага раёна, Пяркі Кобрынскага раёна, Ласіцк Пінскага раёна і Дружылавічы Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці [12, т. 4, с. 59, карта 130].

Як бачна, паланізм *фу/ртка* за гэтыя гады ў гаворках страціліся (ці з'яўляецца рэдкаўжывальным), магчыма, у сувязі са зменай грамадска-палітычнага ладу на гэтых тэрыторыях.

**Карта 55. Matyka (Матыка).** Матыку, паводле Ю. Тарнацкага, у гаворках Заходняга Палесся называюць па-рознаму: *копа/чка (копані/ца)*, *моты/ка*, *грац*, *клю/ка* [23, карта 55]. Першае найменне мае найбольшае пашырэнне, іншыя кампактных арэалаў не ўтвараюць, акрамя слова *моты/ка*, якое адзначана на Падляшшы, у гаворках Украінскага Палесся, а таксама на паўночным усходзе даследаванай тэрыторыі.

Што да сучасных лінгвагеаграфічных даследаванняў, дык на Пружаншчыне значнае пашырэнне маюць словы *маты/ка (моты/ка)* і *гак (га/чка*, *гако/ўка)*. Слова *гра/ца (грацо/ўка)* утварае невялікі арэал на поўдні ад г. Пружаны [4, с. 62, карта 139]. Паводле «Атласа гаворак паўночна-ўсходняй Брэстчыны», словы *га/чка* і *маты/ка* маюць найбольшы арэал пашырэння (першае — на захадзе, другое — на ўсходзе даследаванай тэрыторыі), а ў раёне Выганаўскага возера пераважаюць лексемы *клю/ка* і *ко/пачка*. Таксама ў гаворках адзначаны невялікі арэал слоў *драпа/ч* і *трохзу/бка* [19, с. 208, карта 272].

Такім чынам, звесткі Ю. Тарнацкага ў асноўным пацвярджаюцца і сучаснымі лінгвагеаграфічнымі даследаваннямі. Праўда, арэал лексемы *ко/пачка* значна звузіўся, і адзначаецца не так часта, як у 1930-я гады мінулага стагоддзя. Мажліва, гэта адбываецца ў сувязі з большым распаўсюджваннем слоў *маты/ка* і *га/чка*, якія пранікаюць у гаворкі Заходняга Палесся з іншых мясцовасцей Беларусі.

**Карта 97. Kolyska (Калыбель).** Сярод назваў калыскі Ю. Тарнацкі адзначае такія як *калы/ска*, *калюбе/ль* і *нэ/нька* [23, карта 97]. Першае найменне сустракаецца пераважна на тэрыторыі Падляшша. На поўначым усходзе даследаванай тэрыторыі зафіксавана слова *калюбе/ль*, на паўднёвым захадзе — *нэ/нька*.

Сучасныя рэгіянальныя лінгвагеаграфічныя даследаванні вылучаюць назвы калыска *(колы/ска*, *колы/шка)*, *калюбе/ль*, *лу/бка*, *лю/лька*, а найменне *нэ/нька* на картах рэгіянальных атласаў не зафіксавана [10, с. 95, карта 54; 19, с. 322, карта 299].

Так, паводле «Атласа гаворак Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці» лексема *лю/лька* зафіксавана ў некаторых гаворках на самым поўдні Бярозаўскага раёна, а таксама ў гаворках з аканнем Івацэвіцкага раёна [10, с. 95, карта 54]. У астатніх гаворках пераважнае пашырэнне мае найменне *колы/шка* ці *колы/ска*. У Іванаўскім раёне, а таксама ў раёне азёр Спораўскае і Чорнае (Бярозаўскі раён) зафіксаваны арэал назвы *калюбе/ль*. Выкажам меркаванне, што слова *лю/лька* пашыраецца ў гаворках, магчыма, пад уплывам беларускай літаратурнай мовы.

На карце «Атласа гаворак паўночна-ўсходняй Брэстчыны» у раёне г. Івацэвічы і на поўдні ад г. Слоніма зафіксаваны невялікі арэал лексемы *лу/бка*, а на ўсёй астатняй тэрыторыі пашыраны найменні *калубе/ль* і *калы/ска* [19, с. 322, карта 299]. Як бачна, больш шчыльная сетка апорных населеных пунктаў, чым у атласе Ю. Тарнацкага, дазволіла зафіксаваць лексему *лубка* на тэрыторыі Івацэвіцкага раёна, не адзначаную польскім даследчыкам у 1930-я гады мінулага стагоддзя.

Адзначым таксама, што найменне *лу/бка (лу/пка)* зафіксавана і збіральнікамі «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворкак» у в. Козікі Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці і Масілавічы Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці (пункты 101 і 99 адпаведна). Слова *нэ/нька* адзначана ў ЛАБНГ на

самай паўднёва-заходняй ускраіне Брэсцкай вобласці [12, т. 3, карта 179]. Такім чынам, у параўнанні з картай Ю. Тарнацкага, арэал слова *нэ/нька* на тэрыторыі Беларусі значна звузіўся і адзначаецца ў адзінкавых выпадках на памежнай з Украінай тэрыторыі.

**Карта 103. Drabiny (Драбіны).** На карце 103 пазначаны варыянты назваў лесвіцы: у маўленні мясцовых жыхароў гэта *драбі/ны*, *рабры/на*, *страмы/ны*, *хлябі/ны*, *вутры/ны*. [23, карта 103]. Першае найменне пашырана ў гаворках Падляшша і на самым усходзе даследаванай тэрыторыі, лексема *страмы/ны* ўжываецца ў гаворках у наваколлях Пінска, а слова *рабры/на* зафіксавана пераважна на тэрыторыі Украінскага Палесся. Назвы *хлябі/ны* і *вутры/ны* прадстаўлена ў гаворках даволі рэдка.

Сучасныя лінгвагеаграфічныя даследаванні паказваюць крыху іншы малюнак пашырэння гэтых лексем. Так, паводле «Атласа гаворак паўночна-ўсходняй Брэстчыны», на тэрыторыі Пружанскага, Івацэвіцкага, Пінскага, Ганцавіцкага і іншых раёнаў Брэсцкай вобласці пераважае слова *драбі/ны*, а лексема *страмі/ны (страбі/ны)* адзначана толькі ў наваколлях г.п. Целяханы і ў Пінскім раёне Брэсцкай вобласці [19, с. 225, карта 306]. У «Атласе гаворак Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці» на ўсёй тэрыторыі Бярозаўскага раёна адзначана лексема *драбі/на (драбі/ны)*, назва *страмы/на (страбы/на)* зафіксавана ў Драгічынскім і Іванаўскім раёнах Брэсцкай вобласці [10, с. 92, карта 51].

Такім чынам, можна канстатаваць, што праз 70 гадоў лексічны арэал слова *драбі/на (драбі/ны)* значна пашырыўся, выцікнуўшы з ужытку лексемы *рабры/на*, *вутры/ны* і *хлябі/ны.* Так, апошнія два найменні ў рэгіянальных атласах увогуле не адзначаюцца, а слова *рабры/на* зафіксавана ў адзінкавых выпадках, у в. Лукомер Бярозаўскага раёна і в. Боркі Кобрынскага раёна [10, с. 16; 4, с. 14]. Гэтая выснова пацвярджаецца і адпаведнай картай ЛАБНГ, дзе слова *рабры/на* адзначана толькі на паўднёвым захадзе Брэсцкай вобласці, у гаворках, якія мяжуюць з Украінай, а словы *вутры/ны* і *хлябі/ны* адсутнічаюць нават у пераліку адзінкавых назваў [12, т. 4, карта 71].

**Карта 136. Czerwonka (Падасінавік).** На карце 136 прадстаўлены назвы падасінавіка: *красноголо/вік*, *красню/к* і *совя/к* [23, карта 136]. Першыя дзве лексемы распаўсюджаны на ўсёй тэрыторыі Заходняга Палесся, якую даследаваў Ю. Тарнацкі, а лексема *совя/к* адзначана спарадычна ў адзінкавых гаворках, утвараючы, праўда, невялікі арэал на паўднёвым усходзе даследаванай тэрыторыі, у гаворках Украінскага Палесся.

Гэтыя даныя пацвярджаюцца і сучаснымі рэгіянальнымі даследаваннямі. Так, у «Атласе гаворак Бярозаўскага раёна» агульнае пашырэнне ў мясцовых гаворках маюць словы *красню/к* і *красноголовік*, адзначаны невялікі арэал лексемы *красноголо/вэц*, а найменне *совя/к* увогуле не зафіксавана [10, с. 63, карта 22]. Прыкладна такую ж карціну можна назіраць і на Пружаншчыне:

паводле «Атласа гаворак Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці і сумежжа (Верхняга Над'ясельддзя)» у гаворках адзначаны лексемы *красню/к* і *красноголовік*, а таксама зафіксаваны арэалы пашырэння слоў *красноголо/вэц (красноло/вэц)* і *красшо/к*. Слова *совя/к* збіральнікамі матэрыялаў не падаецца [4, с. 39, карта 94].

Высновы рэгіянальных атласаў пацвярджаюць і матэрыялы ЛАБНГ. Так, на карце 282 бачна, што ў межах Заходняга Палесся шырока прадстаўлены словы *краснагало/вік*, *краснагало/вец*, *красню/к*, а лексема *савя/к* тут ужо не сустракаецца: зафіксавана толькі ў адзінкавых выпадках у вёсках Дзяржынск і Маркоўскае Лельчыцкага раёна Гомельскай вобласці (пункты 134 і 137 адпаведна) і ў некаторых гаворках Міншчыны [12, т. 1, карта 282].

**Карта 137. Żyto kvitnie (Жыта красуе).** Даволі складаны малюнак пашырэння дзеяслова красавацца, красаваць (пра збожжа), паказаны на карце 137 Атласа Ю. Тарнацкага. Так, на карце пададзены такія дзеясловы як *жыто квіту/е*, *красу/е*, *ру/ныть*, *ро/быть*, *ро/сыть*, *ігра/е*, *ма/е* [23, карта 137]. Прычым, дзеяслоў *квіту/е* прадстаўлены пераважна ва ўкраінскай частцы Заходняга Палесся, слова *красу/е* ўтварае амаль суцэльны арэал у паўночна-ўсходняй частцы даследаванай тэрыторыі, а найменне *ру/ныть* сустракаецца пераважна на Падляшшы. Іншыя лексемы ўтвараюць невялікія кампактныя арэалы ў заходняй частцы абследаванага Ю. Тарнацкім рэгіёна.

Рэгіянальны «Атлас гаворак паўночна-ўсходняй Брэстчыны» падае толькі лексемы *красу/е* і *расу/е*, прычым першае найменне ўжываецца амаль ва ўсіх гаворках на тэрыторыі Івацэвіцкага, Ганцавіцкага, Пружанскага раёнаў, а слова *расу/е* фіксуецца ў гаворках Пінскага і Бярозаўскага раёнаў Брэсцкай вобласці [19, карта 248, с. 196].

А вось у ЛАБНГ адлюстраваны фактычна той самы складаны малюнак пашырэння дзеясловаў *красавацца*, *красаваць* (пра збожжа), што і на карце Ю. Тарнацкага. Так, у Брэсцкай вобласці зафіксаваны словы *жыта красу/е*, *расу/е*, *цвіце/*, *квіту/е*, *руні/ць*, *гра/е* [12, т. 2, карта 161 ]. Акрамя таго, у атласе «Лексіка гаворак Беларускага Прыпяцкага Палесся» да гэтых лексем дадаюцца яшчэ і словы *ма/іць* і *рабі/ць* [11, карта 52].

Такім чынам, можна з высокай доляй верагоднасці сцвярджаць, што дзеяслоў, які абазначае працэс красавання жыта, у гаворках Заходняга Палесся сёння мае прыкладна той жа самы арэальны малюнак пашырэння, які адлюстраваны і ў працы Ю. Тарнацкага.

**Карта 146. Kartofle (Бульба).** На карце 146 паказана пашырэнне арэалаў слоў *бу/льбы* і *карто/плі*. Паводле Ю. Тарнацкага, *бу/льбы* ўжываецца пераважна ва ўсходняй частцы рэгіёна. Ва ўсіх астатніх гаворках прадстаўлена назва *карто/плі*, хоць спарадычна адзначаецца і слова *бу/льбы* [23, карта 146].

Паводле «Атласа гаворак Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці і сумежжа (Верхняга Над'ясельдзя)», на тэрыторыі Пружаншчыны, у арэале гаворак з

оканнем, пераважае найменне *карто/плі*. Слова *бу/льба* ўжываецца ў гаворках у наваколлях Ружан, а таксама ў Івацэвіцкім, Камянецкім, Кобрынскім раёнах Брэсцкай вобласці, Свіслацкім і Слонімскім раёнах Гродзенскай вобласці [4, с. 44, карта 84].

На карце атласа «Лексіка гаворак Беларускага Прыпяцкага Палесся» пад нумарам 83 паказаны больш складаны малюнак пашырэнне назваў бульбы. Так, у Заходнім Палессі адзначаны арэал пашырэння слоў *бу/льба і бу/льва* (пераважна ў наваколлях Пінскага, Лунінецкага і Столінскага раёнаў (г. зн. прыкладна там, дзе і на карце Ю. Тарнацкага), а таксама на Пружаншчыне. На ўсёй астатняй тэрыторыі ў большасці выпадкаў зафіксавана слова *карто/плі*. Акрамя таго, у накірунку на поўнач ад Маларыты зафіксаваны невялікі арэал найменняў *карду/п (кардо/пля)* і *барабо/лі*, *барабо/ля*, *барбо/ля* [11, карта 83].

Такім чынам, сучасныя лінгвагеаграфічныя даследаванні абазначанай тэрыторыі ў цэлым пацвярджаюць высновы Ю. Тарнацкага, хоць і паказваюць на значна большы арэал лексемы *бу/льба (бу/льва)* у Пружанскім раёне Брэсцкай вобласці. Магчыма, пашырэнне гэтай назвы ў гаворках адбываецца пад уплывам беларускай літаратурнай мовы.

**Карта 158. Zrebię (Жарабя).** Сярод найменняў жарабя Ю. Тарнацкі адзначае лексемы *жэрэбя/* і *лоша/* [23, карта 158]. Першае найменне пашырана на ўсёй тэрыторыі даследавання, а другое пераважае ў гаворках, размешчаных на тэрыторыі Украінскага Палесся.

У сучасных рэгіянальных атласах фіксуюцца назвы *жарэ/бчык*, *жарабя/*, *двухго/дак* [19, карта 181]. Такім чынам, сёння, у параўнанні з даследаваннямі 70-гадовай даўніны, на Палессі пашыраецца лексема *двухгодак*, якая выцясняе ранейшую *жарабя (жарэбчык)*.

Гэтае меркаванне пацвярджаюць і ранейшыя агульнарэспубліканскія лінгвагеаграфічныя даследаванні. Так, на карце 43 ЛАБНГ лексема *жарабя/* адзначана толькі ў вёсцы Хатынічы Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці (пункт 106). Ва ўсіх астатніх гаворках Заходняга Палесся ўжываецца словы *траця/к*, *двухле/так*, *жарабу/к* і інш. [12, т. 1, карта 43].

Што да лексемы *лоша/*, дык адпаведнае ёй слова *лаша/к* адзначана збіральнікамі матэрыялаў для ЛАБНГ у пунктах 113 і 133 — вв. Сінкевічы Лунінецкага раёна і Струга Столінскага раёна Брэсцкай вобласці адпаведна, якраз непадалёк ад мяжы з тэрыторыяй Украіны. Заўважым, што ў многіх населеных пунктах Беларусі, у тым ліку — і ў Заходнім Палессі, — дыялектолагамі ўвогуле не зафіксавана такой рэаліі [12, т. 1, карта 43]. Магчыма, гэта звязана са змяншэннем колькасці коней (і, адпаведна, іх прыплоду) у асабістых хатніх гаспадарках краіны.

Такім чынам, можна зрабіць некаторыя **высновы**:

1. Карты Ю. Тарнацкага дасюль не страцілі свайго навуковага значэння: на іх адлюстраваны як арэалы лексем, што і сёння маюць значнае пашырэнне на тэрыторыі Заходняга Палесся (як Украінскага, так і Беларускага) і Падляшша

(*маты/ка*, *ву/сце*, *двэ/рца* і інш.), так і тыя, што ў сучасных рэгіянальных атласах адзначаюцца рэдка ці ўвогуле не зафіксаваны (*грац*, *вутры/ны*, *хлябі/ны* і г. д.), зрэдку — па прычыне знікнення самой рэаліі (*ло/ша*). Па гэтай прычыне айчынным дыялектолагам варта больш актыўна ўводзіць у навуковы зварот тыя звесткі, што прадстаўлены ў даследаванні Ю. Тарнацкага. Тым больш, што абследаваны польскім навукоўцам рэгіён закранае і гаворкі на тэрыторыі сённяшніх Украіны і Польшчы, а айчынныя лінгвагеаграфічныя выданні, як вядома, абмяжоўваюцца толькі тэрыторыяй Беларусі.

2. Сучасныя лінгвагеаграфічныя работы не фіксуюць ці адзначаюць значнае звужэнне арэалаў некаторых паланізмаў, адлюстраваных на картах Ю. Тарнацкага (*чэ/люсць*, *вэрэйі/*, *фу/ртка* і г. д.). Магчыма, гэты працэс адбыўся ў гаворках у сувязі са зменамі грамадска-палітычнага ладу на тэрыторыі Брэсцкай вобласці з канца 1930-х гадоў. Таксама ў некаторых выпадках можна гаварыць і пра звужэнне арэалаў слоў, якія маюць украінскае паходжанне *(нэ/нька)*.

3. У параўнанні з канцом 1930-х гадоў, у гаворках Беларускага Заходняга Палесся пашыраюцца лексемы, якія з’яўляюцца нарматыўнымі ў сучаснай беларускай мове (*бу/льба*, *лю/лька* і інш.), што сведчыць пра некаторы ўплыў літаратурнай мовы на дыялекты. Акрамя таго, сучаснымі рэгіянальнымі атласамі зафіксаваны шэраг найменняў, не адлюстраваных Ю. Тарнацкім (*лу/бка*, *драпа/ч* і інш.), што тлумачыцца наяўнасцю больш шчыльнай сеткі апорных населеных пунктаў, чым у атласе 1939 г.

## Літаратура


1. Ананьева, Н. Е. Профессор С. Б. Бернштейн и польская славистика / Н. Е. Ананьева // Филологический сборник памяти профессора С. Б. Бернштейна: к пятилетию со дня кончины / под ред. доц. В. П. Гудкова и доц. С. С. Скорвида. — М., 2002. — С 13–18.
2. Атлас української мови: у 3 т. / редкол.: І. Г. Матвіяс (голова) [та ін.]. — Київ: Наукова думка, 1984–2001. — 3 т. — АУМ.
3. Бартминский, Е. Польско-российские встречи на поле этнолингвистики / Е. Бартминский // Славянская этнолингвистика: комиссия по этнолингвистике при Международном комитете славистов [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://ethnolinguistica-slavica.org/index.php?option=com_content&view=article&id=83:2011-10-27-16-15-23&catid=4:2008-12-13-17-04-25&Itemid=3 — Дата доступа: 18.06.2018.
4. Босак, А. А. Атлас гаворак Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці і сумежжа (Верхняга Над’ясельддзя): лексіка / А. А. Босак, В. Н. Босак ; адк. рэд. Ф. Д. Клімчук. — Мінск: ІВЦ Мінфіна, 2006. — 124 с.
5. Бузук, П. А. Спроба лінгвістычнае географіі Беларусі / П. А. Бузук. — Мінск: Ін-т беларус. культуры, 1928. — Ч. 1: Фанетыка і марфалогія, вып. 1.: Гаворкі Цэнтральнай і Ўсходняй Беларусі і суседніх мясцовасцей Украіны і Вялікарасіі ў першай чвэрці XX ст. — 111 с.

6. Волкава, Я. В. Польска-беларускі слоўнік=Slownik polsko-bialoruski: звыш 40000 слоў / Я. В. Волкава, В. Л. Авілава ; пад рэд. Г. А. Цыхуна. — 2-е выд. — Мінск: Беларус. Энцыкл., 2005. — 877 с.
7. Диалектологический атлас русского языка. Центр Европейской части СССР. Выпуск I-III: Фонетика. Морфология. Синтаксис. / Под ред. Р. И. Аванесова, С. В. Бромлей, О. Н. Мораховской. — М.: Наука, 1986, 1989, 1996. — ДАРЯ.
8. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы: у 2 ч. / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа ; пад рэд. Р. І. Аванесава [і інш.]. — Мінск: Выд-ва АН БССР, 1963. — Ч. 1: Карты. — 350 с. — ДАБМ.
9. Леванцевич Л. В. Региональная лексикография и лингвогеография Брестчины (Беларусь) / Л. В. Леванцевич // Лексический атлас русских народных говоров (Материалы и исследования) 2015 / Ин-т лингв. исслед. РАН. — СПб, 2015. — С. 352–369.
10. Леванцэвіч, Л. В. Атлас гаворак Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці: Лексіка: дап. для студ. філал. спец. ВНУ. / Л. В. Леванцэвіч. — Брэст: Брэсц. дзярж. пед. ін-т, 2001. — 135 с.
11. Лексіка гаворак Беларускага Прыпяцкага Палесся: атлас, слоўнік / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы ; укладальнікі: Г. Ф. Вештарт [і інш. ]. ; рэдактары: Ф. Д. Клімчук, У. А. Кошчанка, І. І. Лапуцкая. — Мінск: Права і эканоміка, 2008 г. — 353 с.
12. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: у 5 т. / Акад. навук Беларусі, Ін-т мовазнаўства ; рэд.: М. В. Бірыла, Ю. Ф. Мацкевіч. — Мінск: Фонд фундамент. даслед. Рэсп. Беларусь, 1993–1998. — 5 т. — ЛАБНГ.
13. Лінгвістычны мікраатлас Тураўшчыны / А. А. Крывіцкі [і інш.]; уклад.: Ф. Д. Клімчук [і інш.] ; навук. рэд. Г. А. Цыхун. — Мінск: Беларуская навука, 2016. — 275 с.
14. Общеславянский лингвистический атлас = Atlas linguistique slave: вступ. вып.: общ. принципы, справоч. материалы / Т. И. Вендина [и др.]. — 2-е изд., испр. и доп. — М.: Наука, 1994. — 181 с. — АЛА.
15. Самуйлік, Я. Р. Атлас гаворак Выганаўскага Палесся / Я. Р. Самуйлік. — Брэст: БрДТУ, 2013. — 322 с.
16. Толстой, Н. И. Некоторые вопросы соотношения лингво- и этнографических исследований / Н. И. Толстой // Избранные труды: в 3 т. — М., 1997. — Т. 1. Славянская лексикология и семасиология. — С. 223–242.
17. Толстой, Н. И. Об изучении полесской лексики / Н. И. Толстой // Избранные труды: в 3 т. — М., 1997. — Т. 1. Славянская лексикология и семасиология. — С. 244–260.
18. Чарнякевіч, Ю. В. Агульнасць і арэальная дыферэнцыяцыя беларускіх пераходных гаворак паўночна-ўсходняй Брэстчыны: дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Ю. В. Чарнякевіч. — Мінск, 2017. — 355 л.
19. Чарнякевіч, Ю. В. Атлас гаворак паўночна-ўсходняй Брэстчыны / Ю. В. Чарнякевіч. — Мінск: Тэхналогія, 2009. — 255 с.
20. Чарнякевіч, Ю. В. Да праблемы стварэння рэгіянальнага мікраатласа: некаторыя пытанні тэарэтычнага характару / Ю.В. Чарнякевіч, П.А. Міхайлаў // Поліські зворини: зб. пам’яті професора М. В. Никончука / Житомир. держ. ун-т. — Житомир, 2007. — С. 103–111.

21. Чарнякевіч, Ю. В. Некаторыя асаблівасці пераходных гаворак поўдня Беларусі // Ю. В. Чарнякевіч // Актуальныя праблемы мовазнаўства і лінгвадыдактыкі (да 80-годдзя з дня нараджэння прафесара Г. М. Малажай): зб. навук. арт. У 2 ч. / Брэсц. дзярж. ун-т імя А. С. Пушкіна ; рэдкал.: В. М. Касцючык [і інш.]. — Брэст, БРДУ, 2018. — Ч. 2. — С. 32–35.
22. Atlas linguarum Europae / Ist. Poligrafico e Zecca dello Stato ; red. M. Alinei [et al.]. — Assen ; Maastricht: Van Gorcum, 1983–1990. — Vol. 1: Commentaries: premier fasc. — 1983. — 177 s. ; Vol. 1: Cartes: premier fasc. — 1983. — 19 c. ; Vol. 1: Commentaries: deuxième fasc. — 1986. — 230 p. ; Vol. 1: Cartes: deuxième fasc. — 11 c.
23. Tarnacki, J. Studia porównawcze nad geografią wyrazów (Polesie-Mazowsze) / J. Tarnacki. — Warszawa: Fund Kultury Nar., 1939. — 101 s.

# ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

**Алесь Бразгуноў**
(Інстытут літаратуразнаўства імя Янкі Купалы Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, Мінск, Беларусь)

## МАЛЕНЬКІ ЧАЛАВЕК НА ВЯЛІКАЙ ВАЙНЕ: «НАРАЧАНСКІЯ ХРОНІКІ» МЕЧЫСЛАВА ЛІСЕВІЧА

Мечыслаў Лісевіч — лётчык, пісьменнік, паэт. Нарадзіўся 28 студзеня 1887 г. у Львове. Журналіст, літаратар і кіраўнік львоўскіх гарадскіх тэатраў. Аўтар мноства твораў (у т. л. «Нарачанскія хронікі», «Дзе сэрцы б'юцца гарачэй», «З памятных дзён. Успаміны ад'ютанта», п'ес і вершаў, у тым ліку і для дзяцей. У эміграцыі часоў ІІ Сусветнай — афіцэр-пасланнік МУС у Парыжы), штабны ад'ютант генерала Уладзіслава Сікорскага, затым у камандаванні Польскіх паветраных сіл у Вялікабрытаніі. Памёр 2 верасня 1975 г. у Лондане. Рукапіс «Нарачанскіх хронік» ацалеў дзякуючы жонцы М. Лісевіча, якая, адбыўшы колькі гадоў у бальшавіцкім канцлагеры ў Расіі, праз Палестыну і Паўднёвую Афрыку выехала ў Англію, дзе праз тры гады пасля сканчэння ІІ Сусветнай вайны сям'я ўз'ядналася.

Твор, пра які пойдзе гаворка, у асноўнай сваёй частцы не мае ніякага дачынення да тэмы І Сусветнай вайны. У сухім іранічным тоне аўтар распавядае пра сваю мару зрабіцца ўласнікам маторнай лодкі, пра няўдалыя спробы купіць і аднавіць адну з іх. Аднак пры канцы «Хронік» змешчаны тры навелы, якія ў рэтраспекцыі ўзнаўляюць падзеі, звязаныя з т. зв. Нарачанскай аперацыяй сакавіка 1916 г. (18 сакавіка — 30 сакавіка 1916 г. па старым стылі) — «Гадоў таму з дваццаць тры», «Вершы на снезе» і «Як трагедыя, уваліўся ў гразь».

Як вядома з шэрагу гістарычных крыніц, пасля пачатку нямецкага наступу пад Вердэнам галоўнакамандуючы французскай арміяй Жофр звярнуўся да расійскага камандавання з просьбай нанесці па немцах удар, які адцягнуў бы іхнія сілы з французскай мяжы на расійскі фронт. Расійская стаўка, ідучы насустрач пажаданням хаўрусніка, вырашыла да пачатку агульнага наступу войскаў Антанты, прызначанага на май 1916 г., правесці ў сакавіку наступальную аперацыю на паўночным крыле Заходняга фронту. 24 лютага ў

Стаўцы адбылася нарада па аператыўных пытаннях. На ім Заходняму фронту (камандуючы Эверт, герой адной з навел) паставілі задачу нанесці моцны ўдар па германскіх войсках, сабраўшы дзеля гэтага магчыма вялікія сілы.

16 сакавіка генерал Аляксееў аддаў дырэктыву аб пераходзе ў наступ. 2-я армія на поўдзень ад возера Нарач уклінілася ў абарону 10-й германскай арміі на 2–9 км. Жорсткія атакі расійцаў з цяжкасцю стрымліваліся супернікам. Аднак немцы падцягнулі да раёна наступу значныя сілы і адбілі наступ. Абедзве арміі панеслі цяжкія страты. Падлік стратаў расійскага боку за ўсю аперацыю дае лічбу 78000 (110 000 па падліках нямецкага боку), нямецкіх — 20 000 (па падліках нямецкага боку; (па падліках расійскага боку — блізу 40 000) [2, с. 152–153]. Па сутнасці гэтая аперацыя была тактычным манеўрам, улетку нямецкае камандаванне чакала асноўнага ўдару на гэтым фронце, а расійскае правяло т. зв. Брусілаўскі прарыў на аўстрыйскім фронце, што прынесла каласальны поспех і паставіла Аўстра-Венгрыю на мяжу ваеннай паразы.

Аднак у вышэйназваных навелах у цэнтры ўвагі аўтара — не перыпетыі вайны, вялікай і бязлітаснай, а лёс чалавека, малога і безабароннага перад гэтай усёзнішчальнай махінай.

Ужо напачатку першай навелы («Гадоў таму з дваццаць тры») М. Лісевіч, які ў даваенны час быў аўтарам шэрагу імпрэсіяністычных вершаў, атаясамлівае вайну з чорнай непрагляднай ноччу, якая для звычайнага чалавека ў першую чаргу асацыюецца з небяспекай: *«Жаўнеры на парогах зямлянак жагналіся тройчы і са страхам глядзелі ў чорную мазь, якая атачала іх навокал. У гэтай нябачнасці вухкалі выбухі, зрушваў паветра глухі трэск або чутныя былі як бы лапатанні велізарных птушыных чарод»* [4, с. 174].

Дзеля надання твору дакументальнасці аўтар падае дакладную дату дзеяння — 28 лютага 1916 г. (г. зн. яшчэ да пачатку Нарачанскай аперацыі), нават гадзіну — шостая вечара, лічбу ўдзельнікаў — 40 жаўнераў, з якіх два афіцэры, адзін селянін-праваднік, рэшта — шараговыя, а таксама лакальную прывязку — возера Нарач, мястэчка Кабыльнік, вёскі Наносы, Пасынкі, Шэметаўшчына, Урлікі, Канстанцінава, Камароўская пушча. Аднак гэта чыста знешні прыём, бо асноўнае дзеянне адбываецца нават не на зямлі, а на лёдзе возера Нарач, па якім групе ў 40 чалавек неабходна прайсці ў начной цемры практычна навобмацак, пазбягаючы шматлікіх палонак, утвораных разрывамі снарадаў, абмінаючы тры лініі калючага дроту і нямецкія пасты, каб апоўначы аказацца на беразе і схавацца ў ляску пад Кабыльнікам. Справа ўскладняецца тым, што немцы практычна бесперапынна запускаюць ракеты, ад святла якіх *«вельмі выразна выступаў кожны сілуэт, нават ляжачага чалавека. Пад кожнай ракетай возера адразу ператваралася ў увагнуты, шырокі срэбраны паднос, на якім была відна кожная пылінка»* [4, с. 176].

Група амаль дасягае берага, як стаецца неспадзяванае: казак Сямёнаў, падаючы ў снег ад святла чарговай ракеты, адскоквае ўбок і трапляе ў ледзь прыцярушаную снегам палонку, паспяваючы зачапіцца ружжом за яе край.

Пэўны час, пакуль узлятаюць ракеты, ён вымушаны заставацца па шыю ў ледзяной вадзе. Пасля таго, як Сямёнава выцягнулі з вады, становіцца зразумела, што далей ісці ён не можа. Таму адзін з падафіцэраў, татарын Галан, спрабуе запхнуць яму ў рот ампулу з цыяністым каліем. Сямёнаў супраціўляецца; не ўхваляе намеру Галана і латыш Петэрс, паручнік выведкі сібірскай дывізіі, які, аднак, кіруецца не так гуманнымі, як практычнымі мэтамі: *«Яму наогул не было справы да Сямёнава. Проста не хацеў пакідаць за сабой труп, які маглі б знайсці немцы»* [4, с. 177]. Таму і аддае Сямёнаву загад вяртацца назад. Той, праслізнуўшы праз калючы дрот, кідаецца подбегам, ведаючы, што неўзабаве акажацца сярод сваіх, пры цёплай печы. Аднак у паветра зноў узлятаюць ракеты, і Сямёнаў кожнага разу вымушаны падаць у мокры снег і мерзнуць яшчэ больш.

Тут М. Лісевіч звяртаецца да матыву, які аб'ядноўвае названыя навелы, — матыву наканаванасці, прадвызначанасці лёсу герояў. На сцэну выходзіць яго вялікасць Выпадак, які скіроўвае далейшую ходу падзей, паказвае, як няправільныя, недарэчныя, непрадуманыя ўчынкі або звычайны збег абставін вырашаюць лёс героя.

Так, пасля таго, як немцы перасталі запускаць светлавыя ракеты, Сямёнаў чамусьці вырашае, што збіўся са шляху, бо вецер, па якім кіраваўся герой, раптоўна аціх, а ракеты, што раней былі ззаду, пачалі завісаць проста над ім высока ў паветры і свяціць ва ўсе бакі адначасова. Герою здаецца, што ён рухаецца ў бок немцаў, а таму абірае процілеглы кірунак.

Даволі пераканаўча з псіхалагічнага боку апісаны адчуванні і паводзіны Сямёнава, які замярзае: *«Уласна, ён і не адчуваў, ці наогул мае ногі. Штосьці там расло ніжэй кален, праклятыя драўлякі. У галаве моцна гуло (...) — О святая Казанская! Замерзну! Загіну ў снезе! — ад таго страху адразу ачомаўся (...). Здаралася, бачыў такіх, што заснулі на пасту і потым нават укласці ў труны іх было немагчыма. Прабаваў шчыкаць сябе за рукі, але і рукі неяк ацвярдзелі (...). Замерзну! Напэўна замерзну! Ах, лепей было тую ампулу!.. Яшчэ раз сабраўшы ўсе сілы і ўсю прагу жыцця, кінуўся бегчы, але снег ператварыўся цяпер у нейкую клейкую масу, што ліпла на боты і не пускала наперад»* [4, с. 181]. Урэшце, упаўшы чарговым разам у мокры снег, знясілены Сямёнаў згодны, нават прагне аказацца ў нямецкім палоне, дзе яго накармілі б, дазволілі абсохнуць і пераапрануцца. У перадсмяротным трызненні бачыць ён родную станцыю Грышава Сяло, жонку Анну Восіпаўну і цягнік, што імкліва насоўваецца на яго двума вялікімі, як колы млына, ліхтарамі: *«Гром, трэск. Вось полымя моцна ахоплівае яго і пачынае грызці. Прагрызае да сэрца, прапальвае да глыбіні істоты... няма Сямёнава... няма Сямёнава... няма...»* [4, с. 182].

Рэшта атрада на чале з Петэрсам і Галанам, пераадолеўшы ўсе перашкоды, дасягае лесу і спыняецца на прывал. Тым часам немцы з рэдута на Выспе, называнай імі Stutzpunkt Heligoland, заўважаюць на лёдзе возера падазроны

аб’ект (цела Сямёнава), пры якім знаходзяць сапёрскі ладунак уключна з выбухоўкай. Камендант дакладвае пра інцыдэнт свайму начальніку Кольману, яго данясенне супадае з двума іншымі, з чаго немцамі робіцца выснова, што пад прыкрыццём ночы расійскія шпегі спрабавалі ў некалькіх месцах перайсці нямецкія лініі. У выніку аблавы ў палон трапляюць 38 чалавек з 40 (акрамя Петэрса, які атруціўся цыянідам, і беларускага селяніна, які незразумелым для немцаў чынам здолеў выйсці з акружэння): *«Закон ёсць закон. Нягледзячы на прызнанне адвагі гэтых людзей нямецкі палявы суд мог выдаць толькі адзін вырак. Усіх расстралялі каля могілак у Маздоку… Магілы іх пры самым плоце, без крыжоў»* [4, с. 184].

Другая навела — *«Вершы на снезе»* — распавядае пра лёс нямецкага студэнта Вілі Ноймана, бязлітаснай воляй бога вайны закінутага ў глухі кут Еўропы — на возера Нарач. Твор складаецца са своеасаблівай аўтарскай прадмовы і пасляслоўя, а таксама адрасаваных якойсьці Луізе фон Рэнінг ад імя Вілі нататак і лістоў, быццам бы знойдзеных М. Лісевічам у свірне садоўніка са Старога Мядзела. Нойман — юны рамантык-ідэаліст, які свой страх перад вайной хавае за ўдаванай брутальнасцю, што выяўляецца ў такіх сентэнцыях героя, як: «Вайна для нас, немцаў, святы абрад. Страшны, грозны, суровы абрад перад алтаром айчыны», «Вайна — гэта вандроўка. На месцы застаюцца толькі могілкі». Чуйная натура хлопца напоўніцу раскрываецца толькі ў сузіранні прыроды, хаця і пакалечанай вайной, але па-свойму прыгожай: *«З дна святляных лысін алавянага неба аплывала невыразнае прасвятленне. Убачыў тады я на возеры гранне святла, якое цяжка апісаць: блакітнаваты снег нечакана заружовіўся тым водбліскам, які мае часам апал, калі яго разглядаць на святло. Гэта была не выразная фарба, а хутчэй яе цень».* У гэтую ідылію, аднак, уносіць свае «фарбы» і вайна: *«Затым ружовасць прапала, снег змярцвеў, на сумётах праступілі зеленаватыя трупныя плямы»* [4, с. 188].

Падзеі ў навеле адбываюцца паміж 22 лютага і 18 сакавіка 1916 г. (апошні дзень т. зв. Нарачанскай аперацыі). Вілі згадвае свае размовы з дзяўчынай пра эстэтыку геройства ў прыродзе і прызнае, што цяпер, маючы досвед вайны, задумваецца, што прыгажэй: «кёльнскі сабор ці снарад, які ў яго цаляе?», «той, хто здольны адважна знішчыць, ці той, хто перад знішчэннем абараняецца?».

Жыццё, аднак, і на фронце мае розныя адценні, і не толькі чорнага або белага. Чалавек звыкаецца з франтавым бытам, які робіцца як бы неад’емным, натуральным элементам чалавечага існавання. Так, калі знясільваючую цішыню праразае далёкі стрэл, усе ўздыхаюць з палёгкай: прынамсі хоць нейкая прыкмета жыцця ў свеце, «ператвораным у шклянку смятаны, а на самым дне — я». Нават варожая артылерыя стае блізкай сэрцу кожнага салдата, для якога кожная батарэя — амаль як чалавек — валодае непаўторным характарам: *«І пры тым дадаецца: “заўсёды страляе паміж 5-й і 7-й”, зусім так, як быццам бы гаварылася: “знойдзеш яго ў цукерні паміж 12-й і 1-й”»* [4, с. 191]. (Падобную псіхалагічную рэакцыю выяўляе Лявон Задума ў запісках

М. Грэцкага «На імперыялістычнай вайне»: *«Падыходзячы да батарэі, я заўважыў, што агонь зрабіўся як бы лягчэйшы, ці, лепей кажучы, выясніўся і стаў нармальным, прызвычайным»* [1, с. 98].)

Апошні раз мы сустракаем Вілі ў шутцпункце Heligoland, згаданым у папярэдняй навеле. Прагнучы схавацца ад расійскіх снарадаў, Вілі вырашае прабрацца акопамі ў бліндаж, але натыкаецца на абезгалоўленае снарадам цела Ліхтыга, жаўнера свайго ўзвода. Моцна ўражаны такім кантактам з ваеннай рэальнасцю, ён, дагэтуль беззаганны салдат, адзначаны баварскім ордэнам, а цяпер працяты страхам блізкага знішчэння, адчувае самоту і роспач ад немагчымасці ўцячы адтуль, адкуль выйсця не існуе: *«Гэта быў бунт асуджанага перад шыбеніцай, калі натура марным высілкам волі пратэстуе супраць гвалту»* [4, с. 194].

Як і ў папярэднім творы, лёс героя вырашае недарэчная выпадковасць: адчуўшы ў роце смак мёду, а навокал сябе грушавы пах, Вілі вырашае, што расійскі бок прымяніў газавыя снарады, і з крыкам «газы!» зрываецца з месца. Ад сябе аўтар дадае, што Нойман надарма ўсхапіўся і зрабіў тыя пару крокаў, якія скончылі з яго існаваннем на зямлі: звычайныя снарады ўзрушылі неглыбокае дно возера і вызвалілі балотны газ, які ў тумане захоўвае свой спецыфічны пах і не рассейваецца так хутка, як на чыстым паветры.

Такім чынам, у цэнтры ўвагі разгледжаных навел — індывідуальны лёс чалавека на вайне (рускага казака Сямёнава, нямецкага студэнта ВіліНоймана), дзе ён у многім залежыць не так ад асабістых якасцей (валявы сібірак Сямёнаў, флегматычны баварац Нойман), як прадвызначаецца збегам неспрыяльных абставінаў (страта арыентацыі ў прасторы, паніка, галюцынацыі, неспрыяльнае надвор’е).

У трэцяй навеле — *«Як трагедыя, уваліўся ў гразь»* — акцэнт змяшчаецца да калектыўнага лёсу салдацкіх масаў як з расійскага, так і з нямецкага бакоў, лёсу, які нават у найменшай ступені не мае прыкмет індывідуальнага выбару. *«Даводжу да ведама маіх войскаў, што рэзерв і артылерыя маюць загад скіроўваць агонь па ўсіх, хто затрымаецца хоць бы на хвіліну падчас наступу. Лёгка параненыя адразу па аказанні дапамогі вяртаюцца на поле бою. Трэба давесці да ведама салдат, што жандармерыя пільнуе ўсе дарогі, што вядуць з фронту так, што ўцякач не здолее прабіцца праз кардон жывы»* [4, с. 197], — аддае загад генерал Рагоза за два дні да наступу войска. (Дарэчы, загад гэты да болю нагадвае сумнавядомую сталінскую дырэктыву пра стварэнне заградатрадаў.)

Воляй лёсу эпіцэнтрам расійскага контрнаступу 18 сакавіка 1916 г. становіцца возера Нарач. Моцны туман, які акрыў мясцовасць ранкам названага дня, павінен быў, на думку расійскага камандавання, значна палегчыць войску задачу і застаць ворага знянацку ва ўмацаваннях на востраве. Аднак нямецкі бок нечакана пачынае артылерыйскую атаку, ад разрываў снарадаў трэскаецца лёд, што прадвызначае лёс 7-й сібірскай стралковай дывізіі. «Паводле

нямецкіх крыніц патанула тады, 18 сакавіка 1916, паміж 8-й і 12-й гадзінамі раніцы, дванаццаць тысяч людзей», — скупа паведамляе аўтар. (Па дадзеных М. Падарожнага, уся 2-я армія ў гэты дзень панесла наступныя страты — 183 афіцэры і 15 139 жаўнераў [2, с. 95].) Захапіўшы, урэшце, «перавагай густой людской масы» востраў, уначы расійскія аддзелы вымушаны зноў адступіць пад націскам немцаў і засесці ў балотах. Да ўсяго ранкам пачынаецца дождж, які не спыняецца тры дні, размываючы збудаваныя зімой на падмоклых і балоцістых мясцінах брустверы, траверсы, умацаванні, равы, флангавыя пазіцыі і злучальныя хады, ператвараючы ўсё ў шлам і гразь, што расплыліся, як лава: *«Шлам паглынаў як параненых, так і памерлых, а таксама жывых. Усё, як кінуць вокам, ператварылася ў рудую, клейкую і ўсёпаглынальную масу плюхкай гразі»* [4, с. 201–202]. Гэта — яскравы вобраз вайны, што, як той шлам і гразь, паглынае ўсё на сваім шляху: індывідуальныя і народныя лёсы, чалавечыя жыцці, культуру, прыроду, эканоміку, гаспадарку, пазбаўляючы навакольны свет колераў радасці і жыцця.

Здавалася б, такая параза павінна была прымусіць камандаванне прынамсі змяніць тактыку, аднак не такі генерал Рагоза: услед за 7-й сібірскай ён адпраўляе яшчэ чатыры дывізіі, кідае ў бой астатнія, «пакуль на дзясяты дзень не былі спынены марныя высілкі змагання з прыродай» [4, с. 202]. На вышэйшым узроўні гэта выявілася ў адмове генерала Аляксеева ад ранейшага плану наступальнай аперацыі, хаця ні хто іншы, як сам названы генерал дацягнуў аперацыю «да вясны, да часу паводкі, калі ва ўказаным ім балоцістым раёне сталі немагчымымі баявыя дзеянні» [2, с. 129].

Будучы не толькі вайскоўцам, які многае бачыў падчас І Сусветнай вайны на ўласныя вочы, але і творцам, аўтарам вядомых у міжваенны час лірычных вершаў, Мечыслаў Лісевіч сваімі «Нарачанскімі хронікамі» стварае не толькі велічны гімн хараству прыроды гэтага краю, але і прыадкрывае яго трагічную гісторыю перыяду зімы-вясны 1916 г., што ў многім лучыць яго твор з запіскамі «На імперыялістычнай вайне» (1915–1926) М. Гарэцкага, раманамі «Агонь» (1916) А. Барбюса і «На Заходнім фронце без зменаў» (1929) Э.-М. Рэмарка. Як і згаданыя творы, навелы з «Нарачанскіх хронік» яшчэ раз пацвярджаюць, што вайна гэта не магчымасць адважна паслужыць радзіме, а звычайная бойня, у якой няма нічога тераічнага і чалавечага. Гэта хутка зразумелі Пауль Боймер, Альберт Кроп, Мюлер, Леер, Франц Кемерых з «На Заходнім фронце без зменаў», калектыўны герой рамана «Агонь», Лявон Задума з запісак «На імперыялістычнай вайне» … На фоне гэтых твораў «Нарачанскія хронікі» вылучаюцца адсутнасцю больш-менш глыбокага паказу псіхалогіі герояў, выяўленне якой зводзіцца, фактычна, да ўзроўню фізіялагічнай рэакцыі. А ў выпадку Вілі Ноймана відавочная інфантылізацыя аўтарам псіхікі героя як выніку нежадання апошняга процістаяць абставінам. За ўдаванай адвагай Вілі (адсюль яго псеўдафіласофскія сентэнцыі, кшталту: «Вайна для нас, немцаў, святы абрад. Страшны, грозны, суровы абрад перад

алтаром айчыны») хаваецца звычайны — і нармальны ва ўмовах вайны — страх салдата за сваё жыццё, які знаходзіць, усё ж, выяўленне ў сцэне, калі Вілі натыкаецца на абезгалоўленае снарадам цела свайго таварыша, Ліхтыга.

Безумоўна, устаўка трох прысвечаных І Сусветнай вайне навел у мастацкую канву настальгічнага ў цэлым твора, прысвечанага міламу сэрцу пісьменніка куточку зямлі, была выклікана не толькі прадчуваннем набліжэння новага ліхалецця (па прызнанні М. Лісевіча, твор быў скончаны на пачатку жніўня 1939 г.), але і веданнем, што мір на гэтай зямлі патрабуе ад людзей чуйнасці і абачлівасці. Паклаўшы ў аснову названых навел мясцовыя легенды, пачутыя ім за пяць гадоў падчас колькімесячнага летняга побыту ў ваколіцах возера Нарач [3, с. 7], М. Лісевіч не толькі надае ім мастацкае абагульненне, але і жыццясцвярджальны змест, наступным чынам абгрунтоўваючы эстэтычны пафас свайго твора: *«Пакольку цяпер самы час, можа стацца, што гэтая бясконцая матэрыя літоўскіх лясоў і азёр дазволіць некаторым з нас усвядоміць, за што ён змагаецца і чаму ён змагаецца (...) Мэта гэтай барацьбы не ёсць персанальная мэта. Мы змагаемся за права на ясны, бясхмарны ранак або вячэрняе маленне разам са звярамі, зямлёй, аблокамі і вадой — на многія пакаленні. Вось чаму мы, на каго выпала задача вярнуць гісторыі свету яе звычайны парадак, вярнуць мір, не павінны адмаўляцца ад горкай чашы»* [3, с. 9].

Менавіта кожны з нас паасобку (т. зв. маленькі чалавек) у стане спыніць тую жудасць, якая завецца вайной, а пры патрэбе і аддаць жыццё, каб працягвалася чыёсьці, новае. У такім аспекце становіцца зразумелы жыццесцвярджальны падтэкст польска-нямецкага верша М. Лісевіча, «прыпісанага» ім свайму герою Вілі Нойману (чыё прозвішча, дарэчы, перакладаецца як «новы чалавек»), за якім, аднак, праглядваецца зборны вобраз шараговага салдата Першай сусветнай:

| | |
|---|---|
| Nie mam pomnika wśród kipiących<br>miast,<br>tablic mi nikt nie żłobi,<br>lecz jeśli padnę w świętym ogniu walk<br>z tobą żyć będę i w tobie.<br>Ty nosisz w sercu wiele z moich słów,<br>bo żyłaś ze mną mym życiem:<br>radością wesel, troską moich trosk,<br>zachwytem moich zachwyceń.<br>Więc choćby pocisk w moje serce wpadł,<br>w tobie swe życie otrzymam.<br>Ty będziesz świat cały, cały piękny świat<br>memi oglądać oczyma… [4, c. 185] | Ich habe kein Denkmal im Häusermeer,<br>es kundet kein Buch von mir,<br>doch wenn ich einst falle im heiligen<br>Krieg<br>dan leb’ ich in Dir.<br>Du trugst meine Worte in Herzen tief<br>du lebtest mein Leben mit<br>Dein Auge glänzt, wenn ich fröhlich war,<br>du weintest, wenn ich litt.<br>Wenn einst eine Kugel mein Herz zerreist<br>in Dir kann nimmer vergeh’n.<br>Stets wirst du die Welt, die schöne Welt<br>mit meinen Augen seh’n… [4, c. 195] |

Не будзе мне помнікаў у гарадах,
ні нават пліты нада мною;
як лягу ў змаганні святым на вайне —
жыць буду ў табе і з табою.
Ты носіш у сэрцы мой мудраслоў:
жылі мы адзінствам тхнення,
радасці, клопатаў, многіх турбот
і духам маіх захапленняў.
Каб нават снарад маё сэрца прабіў,
майму ў тваім жыць магчыма.
На гэты свет цэлы, гэты пекны свет
ты глянеш маімі вачыма[1].

## Літаратура

1. Гарэцкі, М. На імперыялістычнай вайне / М. Гарэцкі // Гарэцкі, М. Збор твораў. У 4-х т. Т. 3. На імперыялістычнай вайне ; Віленскія камунары. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1985. — 399 с.
2. Подорожный, Н. Е. Нарочская операция в марте 1916 г. на русском фронте мировой войны / Н. Е. Подорожный. — Москва: Гос. воен. изд-во НКО Союза ССР, 1938. — 180 с.
3. Lisiewicz, M. Chronicles of Lake Narocz ; transl. by A. Maitland-Chuwen / M. Lisiewicz. — Glasgow, 1945. — 224 p.
4. Lisiewicz, M. Kroniki Naroczańskie / M. Lisiewicz. — Glasgow, 1943. — 221 s.

**Ірына Бурдзялёва**
(Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт,
Мінск, Беларусь)

# ЖАНРАВЫ СІНКРЭТЫЗМ У РАМАНЕ Э. Т. МАСАЛЬСКАГА «ПАН ПАДСТОЛІЦ»

Раман Э. Т. Масальскага «Пан Падстоліц» выдаваўся асобнымі томікамі з 1831 па 1833 год у Вільні і Пецярбургу. Адразу ж з’явіўся яго пераклад на рускую мову, зроблены Паўлам Гаеўскім. Такім чынам, раман амаль аднлачасова стаў вядомым і айчыннаму чытачу, якому наўпрост адрасаваўся

[1] Пераклад на беларускую мову Алеся Бразгунова.

твор, і рускай публіцы, ад імя якой высокую ацэнку даў В. Бялінскі. Сучасныя расійскія літаратуразнаўцы найчасцей прыгадваюць твор Э. Т. Масальскага ў сувязі з «Іванам Выжыгіным» Ф. Булгарына і «Мёртвымі душамі» М. Гогаля. Пераклад рамана Э. Т. Масальскага на беларускую мову, здзейснены М. Хаўстовічам у 2015 г.[1], актуалізаваў гэты твор і падштурхнуў да гаворкі пра жанравую разнастайнасць літаратуры Беларусі XIX стагоддзя.

Незвычайнасць і жанравую арыгінальнасць твора падкрэслівае аўтарскае вызначэнне яго як адміністратыўнага рамана. Рускі пераклад меў падзагаловак «уездный роман». Само па сабе такое жанравае ўдакладненне мае на ўвазе крытычна-аналітычны агляд функцыянавання ўсёй гаспадарчай і адміністратыўнай сістэмы і рацыяналістычныя прапановы па яе паляпшэнню. Сапраўды, на пачатку Э. Т. Масальскі стварае малюнак сацыяльнага і гаспадарча-эканамічнага тупіка, у якім апынулася Беларусь-Літва, а потым у апошніх частках рамана, якія маюць аднолькавую назву «Ідэалы», прэзентуе чытачу ўзорную, сістэмна скаардынаваную гаспадарку пана Падстоліца з практычнымі рэкамендацыямі па яе рэальнаму ажыццяўленню. Апазіцыйнасць частак рамана адлюстравана і ў яго поўнай назве — «Пан Падстоліц, альбо Чым мы ёсць і чым быць можам», і з аднаго боку, мае на ўвазе крытыку недасканалай рэчаіснасці, а з другога — імкненне проціпаставіць ёй ідэальную грамадскую супольнасць, самаарганізаваную праз ідэю ўсеагульнага дабра ў пэўнай сацыяльнай арыентацыі.

Масальскі выступае тут галоўным чынам у постаці прагрэсіўнага эканаміста-рэфарматара, зарыентаванага на найноўшыя дасягненні ў гэтай галіне, а каб захапіць сваімі ідэямі як мага большую чытацкую аўдыторыю, выкарыстоўвае жанр рамана з нескладаным любоўным сюжэтам: *«Жадаючы зрабіць сваю кнігу даступнаю для ўсіх чытачоў, якім яна прызначана, аўтар вырашыў падаць яе не ў паважным навуковым выглядзе, а ў форме рамана, каб наблізіць яе і да не вельмі адукаваных, і да тых нават, якім хапае часу чытаць толькі дзеля забавы»* [с. 6].

Такім чынам, навуковае і мастацкае пераплецены ў рамане, але мастацкае адыгрывае тут падначаленую ролю. Дарэчы будзе адзначыць, што сам талент Масальскага мае сінтэтычную прыроду і вылучаецца разнапланавасцю праяў. Ён выпускнік Віленскага ўніверсітэта, былы філарэт, магістр права і філасофіі, аўтар шэрагу артыкулаў па эканоміцы сельскай гаспадаркі, разам з тым, ён аўтар вышэй названага рамана, змястоўных мемуараў, рэдактар сатырычнага часопіса «Баламут». Навукова-практычная скіраванасць паяднана ў яго постаці з творчым патэнцыялам пісьменніка. Польскія навукоўцы

[1] Масальскі, Э. Т. Пан Падстоліц, альбо Чым мы ёсць і чым быць можам: прадм., пер. з польскае мовы і камент. М. Хаўстовіча / Э. Т. Масальскі. — Варшава, 2015. — 384 с. Цытаты далей прыведзены паводле гэтага выдання.

звяртаюць увагу на тое, што раман Масальскага, які выявіў рэалістычныя тэндэнцыі ў літаратуры, пісаўся прыблізна ў той жа час, што і трэцяя частка міцкевічавых «Дзядоў». Абодва творы сведчаць, якімі рознымі шляхамі ішлі далей філамацка-філарэцкія творчыя пошукі.

Першыя тры часткі рамана «Селянін», «Шляхціц» і «Горад» вытрыманы ў стылі сатырычнага рамана нораваў, бо перш чым захапіць чытача ідэямі пераўтварэння рэчаіснасці па разумных і справядлівых правілах, трэба паказаць крызісны стан наяўнай сітуацыі. Кампазіцыйна першыя часткі рамана складаюцца з шэрагу таленавіта напісаных мікрасюжэтаў, у якіх у сатырычным плане падаюцца ілюстрацыі заняпаду маральнасці і эканамічнай бязглуздзіцы. Яны нанізаны на постаці двух галоўных герояў — каментатара пана Падстоліца і яго слухача, Уладзіслава. Абодва героі выступаюць не як індывідуалізаваныя персанажы, а хутчэй як функцыі: пан Падстоліц з'яўляецца прамым выказнікам аўтарскай крытычнай думкі, Уладзіслаў патрэбны ў такой сітуацыі як слухач, які раз-пораз задае Падстоліцу пытанні і інспірыруе таго на разгорнутыя тэарэтычна-дыдактычныя выказванні. Па чарзе паўстаюць ў рамане вобразы гаротных сялян і дэградаванай шляхты, беспрынцыповых мясцовых урадоўцаў і чыноўнікаў, купцоў, рамеснікаў, мяшчан. Такім чынам аўтар імкнецца панарамна паказаць праблемны стан усіх слаёў грамадства, смела і рашуча выпяціўшы на першы план самыя брыдкія і адмоўныя бакі.

Варта падкрэсліць грамадзянскую смеласць і мужнасць аўтара, які на прыкладзе сям'і бедака Тадэвуша праўдзіва апісаў стан сялянства, самадурства і бесчалавечнасць прыгоннікаў. Сустрэўшыся з нечаканай дабрынёй Падстоліца ў маленькага сына Тадэвуша адбываецца разрыў шаблону:

*– Тата, а ці гэта пан?*

*– Пан, сынку, — адказаў Тадэвуш.*

*– А чаму ён добры, тата?*

*– А тата казаў, што няма добрых паноў, што ўсе яны нашу кроў п'юць, — працягвае далей малы* [с. 28].

Каб абвострана паказаць нялюдскасць прыгонніцтва, пісьменнік уводзіць асобны раздзел «Гісторыя Маланкі», устаўную меладраматычную гісторыю, у якой апавядаецца пра трагічны лёс старэйшай дачкі Тадэвуша і яе каханага Амальяна. Іх гаспадары, панства Харунжых, дбаюць толькі пра грошы на модныя рэчы, тым часам як уласная гаспадарка знаходзіцца ў поўным заняпадзе. Дачуўшыся, што за чалавечыя валасы даюць някепскія грошы, яны, як здзекліва паказвае аўтар, гатовы да прамой рэалізацыі метафары «стрыгчы сялян як баранаў». З іроніяй і абурэннем аўтар піша пра фальшывую «Ласку Божую», як па-фарысейску называюць клопат паноў пра сваіх падданых. Пісьменнік параўноўвае забітага беларускага селяніна з *«мурынам, які канае*

*ад здзекаў крывавага наглядчыка ў капальнях Новага свету. Гэтакая шляхецкая “Ласка”»* [с. 46].

У постацях шляхты, гасцей пана Харунжага, назіраецца тыпізацыя заган гэтага саслоўя. Харунжы — увасабленне жорсткасці і сквапнасці, беспрынцыповасці і цемрашальства. Ён шчыра ўпэўнены, што *«навука — гэта людская выдумка... і што без усялякае навукі можна быць урадоўцам, гаспадаром, архітэктарам і ўсім, чым толькі чалавек быць можа»* [с. 63]. Маршалак поўны амбітных планаў і фанабэрыі, Капітан — узор спешчанасці і марнатраўства. Няма сімпатыі і да паніча Астольфа, які, можа, і правучыўся некалькі курсаў ва ўніверсітэце, але застаўся пустазвонам і бавіць час на паляванні. Іх мова персаналізавана, насычана словамі-маркёрамі і характэрнымі выразамі, дыялогі надзвычай ілюстратыўныя і малююць норавы дэградаванай шляхты. Некаторыя мікрасюжэты набываюць фарсавы характар, напрыклад, купля-латэрэя капялюшыка, калі пад маскай дабрачыннасці хаваецца рабунак і вымагальніцтва. *«Абыякавасць да лёсу краю, гультайства, марнатраўства, бязладдзе і тытуламанія — гэта спадчына амаль кожнае сям’і»*, — канстатуе хранічныя хваробы шляхты пан Падстоліц [с. 140].

Масальскі паказвае пагарду шляхты да асветы і адукацыі, грамадзянскую пасіўнасць, адсутнасць асабістай зацікаўленасці ў рэформах. На прапановы Падстоліца наконт спосабаў ажыўлення гаспадарчага жыцця той самы Маршалак абураецца: *«Васпан дабрадзей жадаў бы, каб высакародны шляхціц, нашчадак тых, хто быў уганараваны правам на трон, выкінуўшы сёння з лона памяці веліч сваіх прывілеяў, папсаваў бы генеалагічнае дрэва, прычапіўшы на ягоныя галіны шыльду рамесніка ці гандляра?»* [с. 93].

У рамане няма замілаванасці старой шляхецкай вольнасцю і старасвецкім традыцыяналізмам, якую мы знойдзем ў многіх пісьменнікаў-сучаснікаў Э. Т. Масальскага. Аўтар не сімпатызуе сарматызму, ён цалкам еўрапейскі і сваім крытычным пафасам нацэлены ў будучыню, да радыкальных перамен, якія здатны разварушыць сацыяльна-эканамічнае жыццё краю і надаць новы імпульс яго развіццю. Сярод гасцей паноў Харунжых нейкую сімпатыю выклікае адзіны пан Каморнік, небагаты патрыярхальны шляхціц, якога Падстоліц далучыў да «няшкодных абывацеляў». Але ж і карысці ад яго ніякай. Гэта тып кансерватыўнай патрыярхальнай шляхты, пазбаўленай энергіі, крэатыўнасці, вітальнай сілы, якая забяспечвае рух наперад. У якасці ўзору грамадскай і эканамічнай актыўнасці, імклівага развіцця прамысловасці, аўтар некалькі разоў прыводзіць ЗША: *«Прыклад шмат якіх амерыканскіх правінцый даводзіць, як хутка і шчаслівa можа змяніцца край, калі ўвесь народ прыкладзе дзеля гэтага намаганні»* [с. 195]. А ў каментарах пазначае: *«З 1809 г. пачалася тая цудоўная эпоха. Паўсюль у Паўночнай Амерыцы ствараліся мануфактуры і адкрываліся багатыя крыніцы заможнасці... Агая 20 гадоў таму была пустыняю, заселенаю дзікімі плямёнамі, у 1810 г. праз некалькі гадоў пасля таго, як з’явіліся тут першыя перасяленцы, ужо выпрадукавала 2.000.000*

*ярдаў суконных, баваўняных і льняных тканінаў; выгнала 1.000.000 галонаў гарэлкі, 13.000.000 фунтаў цукру і г. д.»* [с. 207–208]

Побач з падобнымі прыкладамі прамысловага прагрэсу камічна глядзіцца таксама досыць сімпатычная, але безнадзейна маральна састарэлая постаць пана Бурмістра, даўняга сябра Падстоліца. Гэты апісаны з мяккай іроніяй «няшкодны абывацель» таксама застаўся ў мінулым, ва ўспамінах далёкай маладосці, а яго мову аўтар удала насычае шматлікімі лацінізмамі і выказваннямі, узятымі з Альвара. Як паказвае пісьменнік, большая частка шляхты і мяшчан захрасла ў шматлікіх забабонах, і нават «няшкодныя абывацелі» не бачаць сябе ні ў прамысловасці, ні ў гандлі, ніяк не зацікаўлены ні ў навацыях ва ўласнай гаспадарцы, ні ў зменах ў прывычным ладзе жыцця.

У падобным сатырычным рэчышчы паказвае Масальскі жыццё заняпалага правінцыйнага горада, які месціцца на беразе Нёмана. Горад у рамане безыменны, але, безумоўна, гэта зборны вобраз літоўска-беларускіх гарадоў і мястэчак. Як адзнака былой славы ў цэнтры рынку стаць ратуша — *«аднапавярховы драўляны будынак, скрыўлены ад старасці. З кожнага яго боку трохкутная фац'ята мела на сваім лоне герб горада і павету»* [с. 155]. Жыццё ў горадзе замерла, і толькі раз на год пад час кірмашу ён становіцца цэнтрам прыцягнення. Пан Падстоліц выконвае функцыю назіральніка гарадскога жыцця і каментатара яго заган, наведвае мясцовую карчму, дзе бавяцца месцічы, і правакуе іх на розныя выказванні аб стане рамесніцтва і гандлю. Тут, як і ў шляхецкіх фальварках, бачыцца паўсюдная дэградацыя і выраджэнне. Мяшчане лічаць рамесніцтва непрыбытковым і непрэстыжным заняткам, а адукацыю дзецям даюць толькі дзеля набыцця за грошы шляхецтва.

На рэдуце, дзе сабралася вышэйшае грамадства, аўтар падкрэслівае пышнасць і раскошу дамскіх убранняў, якія не адпавядаюць маёмаснаму становішчу ўладальнікаў фальваркаў. Раздзел насычаны найменнямі шматлікіх ганаровых пасадаў: тут пані Шамбяляніха і пані Чашнічыха, пані Ротмістрава, Суддзіха, Кашталянічыха, Бурмістрава ды іншыя. Тут і асобы ўрадоўцаў, якія надзелены рэальнай уладай і магчымасцямі: паны Гараднічы, Страпчы, Саветнік, Спраўнік. Імёны ў іх адпаведныя расійскай традыцыі — Кірыла Кузьміч, Іван Парфімавіч, Макар Сцяпанавіч. Апрача ўласнай карысці і ўзбагачэння рускіх чыноўнікаў нічога не цікавіць.

Масальскі называе гарады *«сядзібамі розных відаў рамесніцтва»* [с. 197], але заняпалы млявы горад, паказаны ў рамане, не падпадае пад такое вызначэнне. Убоства думкі, пагарда да асветы, кансерватызм, фанабэрыя, сляпое следаванне старым традыцыям, якія не адпавядаюць імклівасці бегу гісторыі, робяць нашы гарады аўтсайдэрамі еўрапейскай прамысловасці і гандлю. Хаця малюнак гарадскога кірмашу дазваляе Э. Т. Масальскаму зрабіць агляд тых багаццяў, якія маглі б вабіць іншаземных купцоў, і патэнцыяльна, пры разумным гаспадаранні і арганізацыі прамысловага жыцця, актывізаваць эканоміку

краю. Да гонару Э. Т. Масальскага, ён ці не першым звярнуў увагу на геапалітычнае становішча краіны, гаворачы, што з яе можна атрымаць немалую выгоду ў гандлі: *«Наша геаграфічнае становішча робіць нас пасярэднікамі паміж Паўночнай Еўропай і Азіяй; з дапамогай нашых рэк і каналаў, якія ўжо ёсць, а таксама новых, можна мець такія ж выгоды, якія маюць ваколіцы Александрыі, размешчаныя паміж трыма часткамі свету»* [с. 195].

Раман мае арыгінальную структурна-кампазіцыйную арганізацыю. Трапныя мізансцэны і дынамічныя дыялогі, сітуацыйныя замалёўкі і апісанні з'яўляюцца мастацкімі ілюстрацыямі для доўгіх дыдактычных заўваг і каментароў пана Падстоліца. Мастацкія выяўленчыя сродкі падаюцца пісьменніку замалымі, ён выходзіць за сюжэтныя межы, набывае функцыю публіцыста, навукоўца-практыка, эканаміста, сацыёлага і выкладае патрэбныя дадатковыя звесткі ў Заўвагах да кожнай часткі рамана, якія выглядаюць як грунтоўныя інфармацыйна-даведачныя блокі. Яны насычаны статыстычнымі дадзенымі, спасылкамі на пазітыўны вопыт еўрапейскіх краін, звесткамі пра навукова-тэхнічныя вынаходніцтвы, прапановамі па ўдасканальванні земляробства, прамысловасці і гандлю. У рамане Масальскі вядзе дыялог з прызнанымі аўтарытэтамі эканамічнай і сацыялагічнай думкі свайго часу: яго Заўвагі напоўнены велізарнай колькасцю прозвішчаў слынных айчынных, заходнееўрапейскіх, амерыканскіх навукоўцаў, філосафаў, грамадскіх дзеячаў, утрымліваюць апеляцыі на іх працы, на іх досвед. Можна сцвярджаць, што па ідэйнай скіраванасці, кампазіцыйных асаблівасцях, інфармацыйнай змястоўнасці, сінтэзу мастацкага і навуковага мыслення раман Э. Т. Масальскага стаіць асобна ў літаратуры Беларусі XIX стагоддзя.

Паказаўшы татальны заняпад усіх сфер грамадства, пісьменнік нарэшце падводзіць да разумення неабходнасці рашучых перамен і падрыхтоўвае чытача да ўспрыняцця двух апошніх частак твора, дзе на прыкладзе ўладанняў пана Падстоліца паказвае ідэальную прастору, створаную на прынцыпах рацыяналізму і гуманізму. Э. Т. Масальскі прапануе сваё бачанне ідэалу і супрацьпастаўляе яго існуючай рэчаіснасці, таму апошнія дзве часткі твора выглядаюць як выпраўлены люстэркавы адбітак дэфармаванай рэальнасці. Калі першая палова рамана дэманстравала цэлую галерэю адмоўных тыпажоў з розных саслоўяў, а сяляне паўставалі гаротнымі і забітымі, то ва ўтопіі Падстоліца ўсё наадварот. Мы бачым ідэальных паноў, святароў, мяшчан, рамеснікаў, настаўнікаў, дактароў, шчаслівых і поўных самапавагі сялян. На пачатку рамана прыгонныя пана Харунжага жывуць у гнілых хатах, хварэюць, а смяротнасць сярод дзяцей жахлівая; ва ўладаннях пана Падстоліца сяляне жывуць у асобных дамках, пабудаваных у грэцкім, англійскім, швейцарскім, маўрытанскім стылях, часам трымаюць парабкаў, а ўсім дзецям робяцца прышчэпкі. Калі пад час апісанага на пачатку рамана гарадскога балю паненкі зласліва пляткараць, інтрыгуюць, ацэньваюць строі канкурэнтак, то ў доме

Падстоліца маладыя шляхцянкі, выпускніцы гаспадарчай школы, за кубачкам гарбаты абмяркоўваюць удасканаленне працэсу вырабу крухмалу, новыя спосабы кліматычнай адаптацыі экзатычных раслін і іншыя вынаходніцтвы. *«Аніводная дама нават слова не сказала пра крой каптуркоў, аніводная не іранізавала з вадаў адсутных тут суседак»* [с. 345]. Калі знаёмства з сядзібай пана Харунжага пачыналася з панарамнага агляду яго заняпалых уладанняў, то частка чацвёртая «Ідэалы» прапануе дасканалую гаспадарку і камфортны дом сямейства Падстоліца.

Апошнія часткі рамана Масальскага з’яўляюцца ўтопіяй, якая ўвабрала ў сябе асобныя праявы рэальнай існуючай на той час практыкі, развіваючы літаратурную традыцыю сядзібных утопій. Э. Т. Масальскі піша: *«Прыемна аўтару заявіць, што ўсё тое добрае, пра што тэма дазваляе згадаць ці ўкласці ў вусны пану Падстоліцу, узятае з рэчаіснасці, з учынкаў альбо выказванняў руплівых і адукаваных суайчыннікаў»* [с. 7]. М. Хаўстовіч, перакладчык рамана «Пан Падстоліц», у прадмове да твора называе аднаго з прататыпаў вобраза галоўнага героя — Даменіка Манюшку, які ў маёнтку Раткаўшчына на Ігуменшчыне правёў мясцовую аграрную рэформу, заснаваў земляробчую школы і пансіянат для сялянскіх дзяцей, лабараторыі, батанічны сад і правёў шэраг іншых істотных пераўтварэнняў.

Такія прыклады суайчыннікаў-рэфарматараў, бясспрэчна, маглі паслужыць у якасці правобраза-першаасновы сядзібы пана Падстоліца, але Э. Т. Масальскі ідзе далей за рэальнасць, ён даводзіць такую рэфармаваную прастору да абсалюту, да ідэалу. Пісьменнік дапаўняе існуючую рэчаіснасць, увасабляючы ва ўтапічным топасе рамана, мабыць, увесь вядомы яму перадавы вопыт гаспадарання, паказвае рэалізацыю найноўшых еўрапейскіх навукова-тэхнічных дасягненняў і прагрэсіўных сацыяльна-эканамічных ідэй, прыстасаваўшы іх да айчыннай глебы. Сядзіба Падстоліца — гэта мастацкі вобраз ідэальнага свету, наколькі ён можа быць мастацкім ва ўтопіі, пакліканай не столькі эмацыянальна, колькі інтэлектуальна ўздзейнічаць на чытача.

Ствараючы ў рамане карціны ўтапічнага свету, Э. Т. Масальскі задзейнічае як багаты вопыт заходнееўрапейскай літаратурнай утопіі, так і традыцыі польскамоўнай літаратуры Асветніцтва з папулярнай канцэпцыяй класавага салідарызму і ідэяй добрага пана. Можна ўзгадаць творы Ф. Багамольца «Пан добры», Ф. Карпінскага «Чынш», М. Радзівіла «Агатку», дзе пан выступаў справядлівым і мудрым уладаром сваёй сядзібы-дзяржавы. Гэтая ж ідэя ляжыць у аснове дыдактычнага рамана Ігнацыя Красіцкага «Пан Падстоліч», дзе пісьменнік намаляваў ідэальнага пана і яго рацыянальна арганізаваную гаспадарку. Прэзентуючы галоўнага героя на пачатку твора, Э. Т. Масальскі прама ўказвае на генетычную сувязь свайго рамана з творам І. Красіцкага. Пан Падстоліц па тэксце з’яўляецца літаратурным «сынам» пана Падстоліча, гэта дазваляе пісьменніку абаперціся на літаратурную традыцыю і развіваць сядзібную ўтопію далей, у адпаведнасці з рэаліямі і патрэбамі новага часу.

Сюжэтаствaральныя магчымасці ўтопіі вельмі абмежаваныя, бо ва ўтапічнай прасторы няма ўнутраных канфліктаў, якія б забяспечвалі сюжэтнае развіццё і надавалі б дынаміку дзеянню. Сядзібная ўтопія ў рамане Э. Т. Масальскага таксама носіць пераважна апісальны характар. Тут знікае сатыра, якой былі насычаны першыя часткі, бо крытыка немагчыма з-за адсутнасці заган. Утопія ніколі не брала пад увагу супярэчлівасць і ірацыянальнасць чалавечай прыроды, і шматлікія персанажы, якімі запоўнена ўтапічная прастора рамана Э. Т. Масальскага, аднамерныя і не індывідуалізаваныя: яны з'яўляюцца ілюстрацыяй аўтарскіх ідэй і выконваюць чыста прагматычныя функцыі. Асаблівасці паэтыкі жанру вынікаюць з таго, што мастацкі кампанент твора з'яўляецца другасным у адносінах да яго сацыяльна-філасофскага зместу.

Першае знаёмства з уладаннямі пана Падстоліца адбываецца праз уражанні яго госця, Уладзіслава. Малады чалавек цешыцца цудоўнымі краявідамі, якія скіроўваюць *«у свет фантазій пра шчаслівую нявіннасць першабытных жыхароў»* [с. 212]. Аднак далей аўтар паступова падае апісанні менавіта рукатворнага раю, які ўзнік за дваццаць год руплівай і паслядоўнай працы пана Падстоліца. Калісьці тут *«была глухамань, зарослая адным пустазеллем ды хмызняком, і ўражвала душу сваёй мёртвай неабжытасцю»* [с. 213]. Пан Падстоліц выступае як тут творца, які з хаосу і бязладдзя сфарміраваў спарадкаваны свет, *«дзе па волі аднаго абывацеля разгортвалася нязнаная дагэтуль краса жыцця, дзе людзі былі з іншымі пачуццямі, адукацыяй, светапоглядам, благаславёныя Небам, захопленыя дабрадзейнасцю, чалавечай годнасцю і міласэрнасцю»* [с. 247].

Ідэальная прастора, куды трапляе Уладзіслаў, здаецца мінікраінай з размытымі прасторавымі межамі, куды ўваходзіць не толькі маёнтак Падстоліца, але і сядзібы навакольнай шляхты, якая пераняла яго пераўтварэнні, фермерскія пасяленні сялян і нават горад з даволі вялікай колькасцю мануфактур. Гэта мінікраіна існуе як адно гарманічнае цэлае, часткі якога знаходзяцца ў цеснай узаемасувязі і гаспадарчым узаемадзеянні. Пісьменнік у якасці ўзору прапануе чытачу сапраўдную прамысловую гаспадарку, дзе задзейнічаны найноўшыя методыкі і тэхналагічныя распрацоўкі. Шматлікія мануфактуры працуюць на мясцовай сыравіне, якая таксама вырошчваецца пры дапамозе інавацыйных спосабаў, тут квітнеюць разнастайныя рамёствы і вядзецца актыўны гандаль, сяляне пад працэнты кладуць грошы ў ашчадны банк і на назапашаныя працэнты купляюць фальваркі і паляпшаюць свой дабрабыт. Тут усё спрыяе развіццю прадпрымальніцкай ініцыятывы.

Як пісьменнік-навуковец, Э. Т. Масальскі робіць выразны ўхіл у бок эканомікі, але не абыходзіць увагай і пытанні сацыяльныя і маральна-этычныя. У яго ідэальным свеце ў адно злучыліся веды, навука і дабрачыннасць. Ён апісвае шчаслівае жыццё мясцовых насельнікаў, якія карыстаюцца безліччу сацыяльных прэферэнцый. Тут існуе пральня, сталовая, бальніца, бібліятэка, дзіцячыя яслі, сельскагаспадарчыя школы, дзейнічае іпатэка і страхавая каса,

ёсць свае судовыя інстытуты, так званыя «палюбоўныя суддзі парафіі». Жыццё розных саслоўяў напоўнена актыўнай, дзейснай, узаемавыгаднай працай і здаровым прагматызмам. Па-сутнасці Масальскі паказаў у сваім рамане асветніцкую буржуазную ўтопію, прыстасаваную да навукова-тэхнічных рэалій XIX ст., сапраўдны буржуазны рай, толькі заснаваны на гуманістычных прынцыпах маральнага раўнапраўя ўсіх членаў супольнасці.

Праз свайго героя, пана Падстоліца, пісьменнік выказвае і свае погляды наконт гарманічных міжчалавечых стасункаў у сям'і, паміж гаспадарамі і слугамі, прапануе прынцыпова новую мадэль адукацыі для шляхецкіх і сялянскіх дзяцей. Дзякуючы зноў такі вельмі грунтоўным і падрабязным апісанням і каментарам, усё гэта падаецца цалкам рэальным для ажыццяўлення на практыцы, была б на гэта толькі добрая воля землеўласніка. У рамане Э. Т. Масальскі не адмаўляе сацыяльнай дыферэнцыяцыі. «Розніца станаў у грамадстве не прыніжае аднаго чалавека перад другім, а з'яўляецца толькі ўстаноўленаю формай парадку,» — сцвярджае пан Падстоліц [с. 265]. Пісьменнік заклікае да абнаўлення сацыяльных адносін і імкнецца паказаць у створанай ім ідэальнай грамадскай супольнасці розныя пласты грамадства, — землеўласнікаў, сялянства, рамесніцтва, купецтва, — як аднолькава значныя і паважаныя сацыяльныя групы. Адно з дыдактычных павучанняў пана Падстоліца гучыць наступным чынам: *«Шчаслівым робіць чалавека стараннае выкананне абавязкаў, а ўзвышае над іншымі больш высокая ступень тае карысці, якую ён прыносіць»* [с. 355].

У ідэальным маёнтку свайго героя Э. Т. Масальскі яднае праявы розных эпох: калі гаспадарча-эканамічная дзейнасць у маёнтку мае капіталістычны характар, то ў сваім знешнім выражэнні, у адносінах паноў да сялян, твор нагадвае архаічную патэрналісцкую ўтопію. Адна з сялянак назвала пана Падстоліца за яго дабрачыннасць — «намеснік Бога на зямлі». Мудрае бацькоўскае панаванне над прыгоннымі, паказанае ў сядзібе Падстоліца, — гэта прыклад таго, з чаго павінна пачаць шляхта. На першапачатковай стадыі рэформ пісьменнік не адмаўляе прыгону, маючы на ўвазе высокі грамадзянскі абавязак і велізарныя магчымасці шляхты. *«Перш-наперш павінны мы зрабіць іх людзьмі, а потым вольнымі»*, — сцвярджае герой рамана [с. 49]. Асноўнымі рэгулятарамі ў сядзібным супольніцтве з'яўляюцца прынцыпы сямейных стасункаў, заснаваныя на ўзаемапавазе і любові. Ідылічны малюнак прапануецца пісьменнікам у сцэне святкавання Дажынак, калі расчуленыя, *«дзеці рынуліся ў абдымкі сваіх бацькоў, слугі — у абдымкі паноў, і першы, можа, раз на зямлі сяляне шчыра абдымаліся са сваімі панамі»* [с. 333].

Стварэнне ўтапічнай сядзібы пана Падстоліца прадыктавана імкненнем аўтара супрацьпаставіць кансерватыўнасці і інертнасці гаспадарчага жыцця, сацыяльным шаблонам прамінулых гадоў мадэль ідэальнага свету, якая дала б чалавеку і грамадству стымул для самаразвіцця, паказала магчымыя спосабы выхаду з эканамічнага тупіка і мадэрнізацыі архаічных сацыяльных адносін.

Раман Э. Т. Масальскага «Пан Падстоліц», спалучаючы жанры дыдактычнага рамана нораваў і літаратурнай утопіі, з'яўляецца сінтэзам навуковага і мастацкага, дзе навуковае вызначае форму ўвасаблення ідэйна-тэматычнага зместу.

---

**Катажына Дрозд**
(Варшаўскі ўніверсітэт, Варшава, Польшча)

## НЕКАЛЬКІ ЗАЎВАГ ПРА «ШАБАНЫ» АЛЬГЕРДА БАХАРЭВІЧА

Зпачатку XX ст. у беларускай літаратуры на кожным новым этапе яе развіцця з рознай інтэнсіўнасцю з'яўляецца тэма горада[1]. Перш за ўсё, як апазіцыя «вёска — горад», якая апісваецца героем праз параўнанне ўмоў жыцця ў вёсцы і ў горадзе. У далейшым параўнанне умоў змянілася на захапленне горадам.

Горад — галоўная тэма творчасці пісьменнікаў «філалагічнага пакалення»[2], напрыклад, у прозе Міхася Стральцова. А ў створаным на хвалі нацыянальнага адраджэння ў канцы XX ст. таварыстве «Тутэйшыя» зварот да гарадской тэматыкі быў адным з пунктаў праграмы [3; 5] Тэма горада выступае ў творах такіх аўтараў, якія належаць да таварыства «Тутэйшыя», як Ігар Бабкоў [1] і Андрэй Федарэнка [8; 9]. Несумненна, радыкальныя палітычныя змены, якія адбываліся ў 90-я гады XX ст., спрыялі змене ўліку гарадскіх праблем у беларускай літаратуры. Горад набыў новыя рысы, на якія дагэтуль не звярталася ўвага. Варта ўзгадаць тут раман Артура Клінава «Малая падарожная кніжка па Горадзе Сонца», у якім прысутнічае сувязь «улада — горад — чалавек» [6].[3]

Сярод твораў на гарадскую тэму, напісаных ў апошняе дзесяцігоддзе, асабліва вылучаецца кніга Альгерда Бахарэвіча «Шабаны. Гісторыя аднаго знікненьня» [2]. Варта звярнуць увагу на загаловак твора, які выражае галоўную тэму кнігі. З аднаго боку, Шабаны — мікрараён Мінска; у творы займае

---

[1] Тэму горада можам знайсці ў творах розных пісьменнікаў, між іншым — «Дзве душы» М. Гарэцкага, «Апавяданні» Л. Калюгі, «Сястра» К. Чорнага.

[2] «Філалагічнае пакаленне» — пісьменнікі 1930–1939 гадоў нараджэння, так званыя дзеці вайны [4, с. 187].

[3] На тэму горада гл. таксама «Менск-Мінск адзіны горад» А. Масквіна [7].

асноўнае месца прастора, якая ўплывае на чалавека. З другога — падзея, якая зарысоўвае сітуацыю — знікненне чалавека. Трэба яшчэ адзначыць, што твор вылучаецца пабудовай, дзе паралельна чаргуюцца ўспаміны аўтара, які жыў у Шабанах, і выдуманая гісторыя[1]. Абодва моманты спалучае месца. Такім чынам, трэба адказаць на пытанні: Як прастора ўплывае на героя, яго ўспрыняцце свету і жыццёвыя выбары? Якія адносіны паміж прасторай і чалавекам мы можам прасачыць? Ці прастора падпарадкаваная чалавеку, ці гэта дзеянне ў абодвух напрамках? Якімі мастацкімі сродкамі карыстаецца аўтар, каб паказаць узаемаадносіны месца і чалавека?

Вельмі цікава гучаць фрагменты кнігі, дзе пра Шабаны расказвае сам аўтар. А. Бахарэвіч вяртаецца ў гады свайго маленства. Вачыма дзіцяці ён апісвае месца свайго жыхарства, а таксама, ужо з перспектывы дарослага мужчыны, ён прыгадвае іншыя месцы, у тым ліку па-за межамі Беларусі.

У першым раздзеле аўтар выкарыстоўвае прыём непасрэднага звароту да Шабаноў, дзякуючы якому раскрывае свае асабістыя адносіны да месца свайго жыхарства:

*Шабаны вы мае, Шабаны, дайце зараз я вас пацалую. Гэта будзе асаблівы пацалунак. Так асцярожна дакранаюцца вуснамі да лба нябожчыка, так пачціва тыцкаюцца ў ражочак сьцяга* [2, с. 3].

Персаніфікацыя прасторы з’яўляецца ў творы некалькі разоў. Дзякуючы ёй аўтар падкрэслівае значэнне апісанага месца, звяртае ўвагу на эмацыянальную сувязь з ім. Супастаўляе пацалунак і асцярожнасць, якая прысутнічае ў адносінах да памерлых, а таксама прыводзіць прыклад дакранання да рогу сцяга, нібыта размывае рысы прасторы, спецыфіку якіх немагчыма дакладна вызначыць: існаванне паміж вёскай і горадам. Кантраст, які ўзнікае праз спалучэнне вобраза нябожчыка і сцяга — сімвала суверэннай дзяржавы, адносіцца да палітычных аспектаў, даволі часта закранутых Алгердам Бахарэвічам. Такое спалучэнне можа сведчыць пра пасіўнасць грамадзян.

У ходзе апавядання аўтар некалькі разоў робіць спробы характарыстыкі Шабаноў. Аднак гэтыя спробы зводзяцца да апісання таго, чаго ў гэтым месцы не існуе, ці таго, што не звязана з гэтым месцам:

*Шабаны — гэта ня вёска. Але Шабаны — гэта й ня горад. Шабаны — як бардаўская песьня, якая не дацягвае ні да сапраўднай музыкі, ні да сапраўднай літаратуры, яны — укаранёная недарэчнасьць, афіцыйна прызнаная няіснасьць, вечна новае адзеньне даўно ўжо мёртвага караля* [2, с. 104].

У вышэй прыгаданым фрагменце аўтар ставіць пад сумненне загадзя прызначаныя атрыбуты, якія выразна вызначаюць як гарадскую, так і вясковую прастору. Адсюль вынікае, што ўключэнне Шабаноў у адміністрацыйныя

[1] У ходзе апавядання гэты парадак парушаны толькі адзін раз, пасля 20-га раздзела наступны таксама адносіцца да выдуманай гісторыі.

межы горада было толькі фармальнасцю. Аднак афіцыйны акт змены статуса месца выклікаў страту яго ідэнтычнасці. Нельга назваць іх зараз вёскай.

Для таго, каб цалкам раскрыць асаблівасці апісанай прасторы, Альгерд Бахарэвіч сканцэнтраваўся на асобных яе элементах. Такім чынам ён адносіцца да будынкаў, што знаходзяцца ў Шабанах, як жылых, так і грамадскіх. У выпадку будынкаў адміністрацыйнага прызначэння або месцаў рэлігійнага пакланення аўтарам падкрэсліваюцца адметныя рысы:

*Гэта цяпер у Шабанах месьцяцца ўсе гэныя піраміды, гэта цяпер тут тырчыць самы высокі ва Ўсходняй Эўропе мячэт і гэта цяпер тут самая глыбокая станцыя падземкі* [2, с. 3].

Вельмі цікавым з'яўляецца параўнанне прасторавых адносін: самая высокая мячэць і самая глыбокая станцыя метро. Кантраст вызначаецца вертыкальна: ад найвышэйшага да найніжэйшага пункту ў прасторы. Шабаны на першым плане, у індывідуальным парадку разглядаецца кожная функцыя, згаданых вышэй будынкаў.

Увага аўтара скіравана таксама на жыхароў Шабаноў. Ён робіць спробу падкрэсліць іх поўную характарыстыку, паказвае тыповыя сітуацыі падчас звычайных паўсядзённых спраў: дарога на працу, пакупкі, хатнія абавязкі. У сваім творы аўтар дае апісанне характарыстык ад найбольш агульнага да падрабязнага, вылучае на першы план змены, якія мелі месца ў адносінах «жыхар — прастора». Раней было так, што гэта месца неяк выбірала насельнікаў, зараз — наадварот. Жыхар Шабаноў самастойна прымае рашэнне жыць у гэтым месцы, тым самым акрэслівае свае адносіны да жыцця. Неспакой можа выклікаць толькі матывацыя патэнцыяльных жыхароў пасяліцца ў Шабанах, для якіх гэты раён з'яўляецца ідэальным сховішчам ад цэнтра горада. Тут чалавек можа дазволіць сабе поўную свабоду і адсутнасць гатоўнасці да дзеяння:

*Цяпер тут селяцца не таму, што гэтае месца выбрала цябе, а таму, што ты па старой пляжнай звычцы адшукаў у распаленым горадзе куток, дзе можна ўтыркнуць парасон, парэзаць на кавалкі кавун і ні пра што ня думаць* [2, с. 4].

У ходзе апавядання значная ўвага адводзіцца сэнсарнаму адчуванню Шабаноў. Вельмі часта аўтар прыгадвае гукі, характэрныя для цягніка і аўтамабіляў. Нягледзячы на аддаленае палажэнне, у раёне Шабаноў добра чуваць чыгунку, асабліва ў начны час. Па гукавай інтэнсіўнасці руху цягніка аўтар паказвае прасторавыя адносіны:

*Там, дзе канчаліся Шабаны, пачыналася чыгунка. Яе начны грукат лепш за ўсё было чуваць у кватэры Роша; у кватэры Сала яна чулася як далёкі, бясьпечны звон недзе ня ў нашай, у суседняй вёсцы; Бэн часам прачынаўся на досьвітку ад яе гукаў — яму сьнілася, што камусьці вялікаму і нямому рвуць зубы* [2, с. 9].

Рытмічныя гукі цягніка, якія сведчаць пра яго рух, зачароўвалі аўтара ў час яго юнацтва. Гэты гук прыцягваў хлопцаў да станцыі. Ён вяртае да

ўспамінаў, якія ў творы паўтараюцца некалькі разоў. Таксама, як гук аўтамабіляў, якія рухаюцца па шашы. Нягледзячы на тое, што ў дзіцячыя гады аўтара не было такога трафіку як сёння, гук, які чуваць ад дарогі, у творы выкарыстоўваецца для арыентацыі ў прасторы Шабаноў. Такім чынам, гук цягніка і аўтамабіляў — гэта кропкі адліку, якія дазваляюць вызначыць, што гэта за частка Шабаноў.

Не засталіся без увагі візуальныя ўражанні аўтара з часоў, калі ён жыў у Шабанах. Найбольш запомніўся зялёны лес, дзе хлопцы часта гулялі ў вайну. Тут асаблівая ўвага звяртаецца на гульню святла, якую ствараюць машыны, што едуць па дарозе, нібы спыняецца змрок.

У мемуарнай частцы асаблівай увагі заслугоўвае прыгаданае аўтарам вяртанне дадому з цэнтра Мінска ў начы 1995 года. Аўтар апісаў горад, выкарыстоўваючы сінэстэзію. Ён звяртаецца да пачуцця зроку праз цемру ночы і рассейванне ім святла ліхтара. Ноч дазваляе па-іншаму зірнуць на добравядомае месца. Выключае пэўныя стымулы, такія як, напрыклад, гоман вуліцы. У цішыні ночы добра чуваць водгукі, якія незаўважальныя кожны дзень, як рэха ўласных крокаў, гукі, якія выдаюць жывёлы, што вядуць начны лад жыцця. Цішыня ў начны час стварае ўражанне, што чалавек знаходзіцца на вуліцы адзін. Такі досвед немагчымы ўдзень з-за чалавечага натоўпу, уласцівага метраполіям. Можна таксама пачуць горад праз халаднаватае паветра, якое пяшчотна пагладжвае скуру. Начны час спрыяе абвастрэнню нюху. Несумненна, гэта прыемныя пахі, такія як водар выпечанага хлеба. Тут пах хлеба звязаны з домам, да якога аўтар вяртаецца, крочачы па горадзе ў начны час:

*Паветра было такое чыстае, сьвежае і халоднае, што я ўжо не шкадаваў пра сваё выгнаньне. Ліхтары гарэлі так запрашальна, нібы за кожным у ценю хавалася кавярня. З боку хлебазаводу ліўся водар толькі што сьпечанага хлеба. (...) На кожны мой крок двор адгукаўся звонкім рэхам, дарогу перабягалі каты, нейкія бліскуча-залацістыя ў сьвятле ліхтароў, на самай сярэдзіне яны на імгненьне спыняліся, глядзелі на мяне недаверліва і потым зьнікалі ў цёмным кустоўі. З другога боку дома пагрымеў трамвай — зусім пусты, мяркуючы па ягоным вясёлым ляскаце. Я пасьпеў яшчэ ўбачыць ягоныя агні, што дагаралі, калі выйшаў на прыпынак — гэта быў апошні трамвай* [2, с. 34].

Адзінства з прасторай у вышэйпрыведзеным апісанні задавальняе чалавека. Як гэта ні парадаксальна, яно дазваляе адкрыць для сябе невядомы бок добра вядомага месца. Тое, што адкрываецца ноччу, дапаўняе апісанне горада. У адрозненне ад народных уяўленняў, ноч у апавяданні — саюзнік чалавека. Праз прызму ночы чалавек успрымае прастору як нешта гарманічнае і супольнае з яго сутнасцю.

У ходзе апавядання Альгерд Бахарэвіч прыгадвае невытлумачальныя гісторыі, якія маюць характар злачынства. Успамінае пра іх, вяртаючыся да гадоў дзяцінства і маладосці. Нягледзячы на тое, што разам з узростам і часам

змяняецца перспектыва апісаных падзей, аўтар пакідае іх у кантэксце твора[1]. Загадкавыя гісторыі, якія адбываюцца ў Шабанах, з аднаго боку падкрэсліваюць унікальнасць месца, а з другога — уяўляюцца як вельмі тыповыя для большасці гарадоў. Дзякуючы гэтаму Шабаны ўпісваюцца ў характарыстыку сярэднееўрапейскага горада:

*Да шашы хадзіць баяліся — у народзе жыла вера ў дзядзьку на чорным «Масквічы», які спыняецца каля тых, хто ідзе па ўзбочыне, запрашае ў машыну — і ніхто ня можа адмовіцца, а потым дзядзька закатвае чалавечыну ў слоікі з-пад агуркоў і прадае на клгасным рынку. «Масквічоў» чорнага колеру на дарогах тады было не сустрэць, і гэта надавала вобразу дзядзькі асаблівую злавеснасьць. Казалі, неяк да дзядзькі ў машыну села цэлая апэратыўная група, накіраваная, каб яго злавіць, — і зьнікла* [2, с. 9].

Аналізуючы прасторавыя адносіны «чалавек — месца», нельга ігнараваць тапаніміку. Назвы вуліц прыкметна адлюстроўваюць дамінацыю ўлады над прасторай. Праблема прасторы, як поле барацьбы, таксама абмяркоўваецца Альгердам Бахарэвічам.[2] Тым не менш аўтар падышоў да гэтай праблемы даволі незвычайна. Ён ставіць пад сумнеў асаблівасць тапанімікі як выражэнне панавання ўлады. Таму можна меркаваць, што ўласныя імёны не замінаюць цяперашнім пакаленням і не маюць ніякага значэння:

*Вядома, што назвы вуліц маюць на людзей, якія жывуць на іх, дзіўны, містычны ўплыў. Назву сваёй вуліцы не выбіраеш — зь ёй нараджаешся і паміраеш. (...) Гэтыя назвы даўно ўжо ня маюць сэнсу, ніхто ня памятае, чаму вуліцы называюцца так, а не інакш, засталіся толькі гукі, дыфузныя працоўныя выкрыкі, зь якіх можа атрымацца ўсё што заўгодна* [2, с. 46–47].

Пацвярджэннем вышэйзгаданага назірання з’яўляюцца паводзіны жыхароў Шабаноў, якія для арыентацыі ў прасторы не выкарыстоўваюць назвы вуліц, а вызначаюць напрамкі паводле інтуіцыі. Пытанні асоб звонку пра канкрэтныя вуліцы выклікаюць страх і перапыненне размовы:

*Сафіі падабалася і гэтае іхняе кранальнае няведаньне ўласнае тапаграфіі — нешматлікія шабаноўскія вуліцы: Сал (Сяліцкага), Бэн (Бачылы), Рош (Ротмістрава) існавалі толькі ўмоўна, большая частка шабаноўцаў ня ведала дакладна, дзе яны жывуць, і ня надта давярала пошце, якая спрабавала навесьці тут недарэчны парадак; калі ў людзей пыталіся, дзе знаходзіцца той ці іншы дом, яны намагаліся як найхутчэй уцячы ці правесьці размову на нейкую іншую, не такую сьлізкую тэму* [2, с. 128].

---

[1] Падобныя гісторыі з крымінальным адценнем можна знайсці і ў творы Артура Клінава «Малая падарожная кніжка па Горадзе Сонца» [6].

[2] Больш пра тапаніміку як поле барацьбы гл.: Elżbieta Rybicka, «Pamięć i miasto. Palimpsest vs. pole walki» [10]; яе ж, «Geopoetyka. Przestrzeń i miejsce we współczesnych teoriach i praktykach literackich» [11, s. 320–321].

У ходзе апавядання Альгерд Бахарэвіч ставіць пытанні, звязаныя з прасторай з пункту гледжання не толькі «макра», але і «мікра». Апошняе, несумненна, з’яўляецца месцам, дзе чалавек, як правіла, праводзіць вялікую частку часу — кватэра. Аўтар паказвае дынамічныя адносіны, падкрэслівае, што найбліжэйшае асяроддзе мае непасрэдны ўплыў на нашае жыццё. Знікненне галоўнага героя, Сіманенкі, з’яўляецца стымулам, які выклікае перамену яго жонкі ў дачыненні да месца: ад утульнага кутка з пачуццём бяспекі да прасторы невядомай, нават варожай. Таму Сафія вырашае зрабіць рамонт. Агульная змена знешняга выгляду кватэры з’яўляецца спробай сцерці сляды мінулага жыцця разам з мужам. Рамонт кватэры — арганізацыя новай прасторы і вяртанне ўлады над ёй чалавеку.

На успрыняцце прасторы чалавекам мае ўплыў яе арганізацыя, у тым ліку прадметы. Разам са з’яўленнем брата галоўнага героя, Данілы, праз некалькі дзён у кватэры з’яўляецца халадзільнік. Аднак гэта тэхнічная прылада не выкарыстоўваецца па прызначэнні, а выступае неабходным элементам у акце мастацкай дэструкцыі, які захоўваецца ў пакоі і змяняе яго характарыстыкі. Не ўпісваецца ў навакольнае асяроддзе, а стварае кантраст з іншай мэбляй, пазбавіўшы іх **бягучых** рысаў. Халадзільнік становіцца сімвалам пераменаў у жыцці Сафіі і поўнай адсутнасці кантролю над імі:

*Лядоўня адразу ж прынесла ў кватэру дух няўтульнасьці і заняпаду. Сафія, прабіраючыся ў сваю спальню, старалася не глядзець на яе. Старцаўская лядоўня месца займала няшмат, але было такое адчуванне, што яна імкнецца завалодаць усёй прасторай залі — побач зь ёю неяк адразу ўцягвалі аксамітныя жываты фатэлі, апускалі свае лакаваныя бліскучыя патыліцы камода і невялікая кніжная шафа, заціскаўся ў кут тэлевізар, расплывалася бездапаможна над галавою і ішла расколінамі столь; месца ў залі, дый ува ўсім шматпакутным жытле Сафіі ўраз стала неяк менш, нібы лядоўня ўсмоктвала ў сябе ў дзень па квадратным мэтры <…> Лядоўня ўсё навокал рабіла часовым, хісткім, ператварала кватэру ў правізорыюм — а сама стаяла так, нібы яна тут надоўга* [2, с. 96–97].

Аўтар як дасведчаны чалавек сцвярджае, што любы еўрапейскі горад, які ён наведваў, мае свае Шабаны. Гэта дзіўная прастора, не падпарадкаваная ніякай класіфікацыі. Адначасова яна моцна дзейнічае на чалавека, уплывае на жыхароў і ў пэўным сэнсе пастаянна звязвае з сабой:

*Куды б я ні паехаў, куды б ні паляцеў, Шабаны сустракаліся мне па ўсім кантынэнце. У Бэрліне й Любляне, у Празе і Кёльне, у Львове і Парыжы, у Варшаве і Гамбургу, у Брусэлі і Рыме, у Грацы і Вільні я бачыў іх, яны паказваліся не адразу, паволі выпаўзаючы з-за сярэднявечных пабудоваў, з-за ўсіх гэтых замкаў і палацаў, цэркваў і фартэцый, заводаў і аэрапортаў, гатэляў і мастоў, з-за чыгункі, па якой ад мяне ўцякаў горад* [2, с. 12].

Здаецца, што добра вядомая прастора павінна даць чалавеку пачуццё бяспекі. Тым не менш, нягледзячы на гады, праведзеныя ў Шабанах, Альгерд

Бахарэвіч, з аднаго боку, падкрэслівае ўзаемную памяркоўнасць у дачыненні да адносін «прастора — чалавек».

Жыхары фактычна спрабуюць функцыянаваць, нягледзячы на прысутныя ў раёне і падкрэсленыя ў ходзе апавядання падрыўныя гукі, характэрныя для непасрэднай блізкасці дарогі, абмежаваную палітру колераў. З іншага боку, усе гэтыя элементы перашкаджаюць поўнай гармоніі чалавека з гэтым месцам. Тое, што дапускалася ў адносінах да дзяцінства, у дарослым жыцці выклікае пачуццё адзіноты:

*І калі я трапляю ў варшаўскія, гамбурскія або львовскія шабаны, у мяне няма адчуваньня, што я у сваёй стыхіі, што я апынуўся ў сваім дзяцінстве — толькі разгубленасьць, толькі дэзарыентацыя, толькі ногі становяцца мяккія, як тварог* [2, с. 13].

У заключэнні Альгерд Бахарэвіч паказвае шматгранныя адносіны чалавека і прасторы як на макраўзроўні — горад, так і на мікра — жыллё. У абодвух выпадках прастора дамінуе над чалавекам, для якога кіраванне ёю абмежавана.

## Літаратура


1. Бабкоў, І. Хвілінка. Тры гісторыі / І. Бабкоў. — Мінск: Логвінаў, 2013.
2. Бахарэвіч, А. Шабаны. Гісторыя аднаго зьнікненьня / А. Бахарэвіч. — Мінск: Галіяфы, 2012.
3. Бязлепкіна, А. Разам і паасобку: Таварыства «Тутэйшыя»: Гісторыя. Асобы. Жанры / А. Бязлепкіна. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 2003.
4. Бязлепкіна, А. 100 слоў пра сучасную беларускую літаратуру / А. Бязлепкіна. — Мінск: Лімарыус, 2012.
5. Кісліцына, Г. Культурны градыент. Ідэі, маніфесты, кірункі беларускай літаратуры на мяжы XX–XXI стагоддзяў / Г. Кісліцына. — Мінск: Права і эканоміка, 2015.
6. Клінаў, А. Малая падарожная кніжка па Горадзе Сонца / А. Клінаў. — Мінск: Логвінаў, 2008.
7. Масквін, А., Менск-Мінск адзіны горад / А. Масквін // Дзеяслоў. — 2011. — № 52. — С. 264–268.
8. Федарэнка, А. Гісторыя хваробы: аповесць, апавяданні / А. Федарэнка. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1990.
9. Федарэнка, А. Рэвізія / А. Федарэнка // Нёман: літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс. — 2010. — № 6. — С. 4–34.
10. Rybicka, E. Pamięć i miasto. Palimpsest vs. pole walki / E. Rybicka // Digital Repository of Scientific Institutes. — Pobrano z: http://rcin.org.pl/Content/48426/WA248_65486_P-I-2524_rybicka-pamiec.pdf . — Dostęp: 10.09.2018.
11. Rybicka, E. Geopoetyka. Przestrzeń i miejsce we współczesnych teoriach i praktykach literackich / E. Rybicka. — Kraków: Universitas, 2014.

**Ігар Запрудскі**
(Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, Мінск, Беларусь)

# ПАЭМА «ТАРАС НА ПАРНАСЕ»: ПРАБЛЕМЫ ГІСТОРЫКА-ЛІТАРАТУРНАГА КАМЕНТАРЫЯ

Кагнітыўны вопыт сучаснага чытача, аб'ём і змест яго базавых ведаў, агульная недастатковасць чытацкіх кампетэнцый уяўляюць цяжкасці ў адэкватным успрыняцці тэксту ўнікальнага твора беларускай літаратуры сярэдзіны XIX ст. паэмы «Тарас на Парнасе». І гэта не толькі таму, што ў камунікатыўным трыадзінстве «аўтар — твор — чытач», па сутнасці, рэальна мы вымушаны лічыцца з наяўнасцю ўсяго двух кампанентаў — «твор — чытач». У такой сітуацыі, калі аўтар выключаны з камунікатыўнага працэсу, гэта не азначае, канешне, што ён «памёр», што ўслед за Раланам Бартам, Крысцевай і іх паслядоўнікамі можна канстатаваць «смерць аўтара», бо імя яго і, адпаведна, светапогляд нам па-прosту невядомы.

Не выпадае спрачацца з наступным слушным меркаваннем аўтарытэтнага філолага і матэматыка-лінгвіста Р. Піятроўскага: «…Следует иметь ввиду, что атрибуция анонимного текста или произведения сомнительного авторства требует сопоставления атрибутируемого текста с текстами-образцами, бесспорно принадлежащими тому автору, из-под пера которого вышло вероятнее всего данное произведение. Если таких образцов нет, атрибуция становится невозможной» [21, с. 4]. Паколькі дагэтуль ніводнага твора, які бясспрэчна належаў пяру Канстанціна Вераніцына, не выяўлена, ён сёння можа лічыцца толькі адным з верагодных аўтараў паэмы «Тарас на Парнасе», якую правамерна адносіць да ананімных твораў.

Таму і паўстаюць зразумелыя цяжкасці пры інтэрпрэтацыі тэксту твора, бо прысутнасць аўтара застаецца выяўляць толькі ў ім самім, улічыўшы свядомы выбар рэальнага аўтара быць нятоесным не толькі з галоўным героем, але і з апавядальнікам, які нібыта выступае толькі ў функцыі простага фіксатара расказаных ключавым персанажам падзей. Не выклікае сумнення, што, ствараючы карціну персанажа, малюнкі фантастычнай (віртуальнай) рэальнасці, убачанай нібыта галоўным героем, рэальны аўтар відавочна не арыентаваўся на так званага наіўнага ці непадрыхтаванага чытача, што само па сабе зафіксавала ў тэксце, адкрытым для інтэрпрэтацый, аўтарскія інтэнцыі.

Увогуле, застаюцца амаль не асэнсаванымі прычыны таго, чаму твор, заснаваны выключна на вымысле, мастацкай фантазіі, што рэзка кантраставала з масай тагачасных побытаапісальных, сацыяльна ці палітычна ангажаваных беларускамоўных твораў, не застаўся на перыферыі чытацкіх сімпатый, а набыў вялікую, можна сказаць, усенародную папулярнасць. Пры гэтым зразумела, што аўтар мусіў прысутнічаць у тэксце ў двух іпастасях:

так званага традыцыйнага «вобраза аўтара» і імпліцытнага аўтара, г. зн. створанага ў свядомасці чытачоў у працэсе ўспрыняцця тэксту, незалежна ад волі творцы і без якой бы там ні было суаднесенасці з канкрэтнай асобай.

Інтэрпрэтацыя тэксту «Тараса на Парнасе» ўяўляецца няпростай і ў сувязі з тым, што аўтар паэмы відавочна займаўся эксперыментатарствам, таму і «расшыфроўваць» сэнсы твора надзвычай складана. Семантыка тэксту паэмы «Тарас на Парнасе» павінна выяўляцца не толькі праз аналіз архітэктонікі і выкарыстаных творцам кампазіцыйных прыёмаў, абумоўленых прынцыповым аўтарскім адборам спосабаў данясення яе да патэнцыяльных чытачоў, але і, не ў апошнюю чаргу, праз моўныя сродкі, напрамую звязаныя з выяўленнем светапогляду аўтара, яго творчай ідэі, апрыёры карэлюючай з ідэалагічнай пазіцыяй пісьменніка.

Адным з асноўных метадаў тэксталогіі з'яўляецца каментаванне — навукова абгрунтаваны аналіз тэксту, які спрыяе лепшаму яго разуменню і вытлумачэнню. Яно мусіць мець шматвектарны характар і заключаць у сабе не толькі агульныя гісторыка-літаратурныя звесткі пра твор, падзеі і асобаў, згаданых у ім, неабходныя лінгвістычныя тлумачэнні, але і асэнсаванне крытычных ацэнак, раскрыццё ідэйна-мастацкіх інтэрпрэтацый твора, выяўленне падтэксту і інш.

Беларускае літаратуразнаўства назапасіла пэўны вопыт падрыхтоўкі асобных выданняў паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», якія суправаджаюцца каментарыямі. Яны пабачылі свет у 1945, 1952, 1982 гг. У 2009 г. з'явілася асобнае літаратурна-мастацкае выданне: К. Вераніцын «Тарас на Парнасе: паэмы» (укладанне з тэксталагічнай падрыхтоўкай і каментарыямі Ю. Пацюпы). Тэксты паэм шмат разоў з каментарыямі друкаваліся ва ўсіх профільных хрэстаматыях, анталогіях і зборніках.

Вывучэннем славутых беларускіх паэм XIX ст. актыўна займаліся дзясяткі айчынных даследчыкаў, сярод якіх асобна трэба назваць імя Генадзя Кісялёва (1931–2008). Дзякуючы яго шматгадовай працы, у гісторыю беларускай літаратуры ў дачыненні «Тараса на Пранасе» са статусам найбольш верагоднага аўтара паэмы **ўведзена** імя Канстанціна Вераніцына. Складаны лёс быў наканаваны паэмам «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе». Таму пытанне іх далейшага вывучэння, асэнсавання і падрыхтоўкі адпаведных сённяшняму дню каментарыяў стаіць востра.

**Рахманы.** Звяртае на сябе ўвагу тая акалічнасць, што паэма «Тарас на Парнасе» пачынаецца ў духу беларускай народнай казкі са станоўчай характарыстыкі героя Тараса:

Штож? Чалавек ен быў рахманый,
Гарэлки-й у губу ен ни брау;
За тож и у ласцэ быу у пана,
Яго пан дужа шанавау.

Любила тож Тараса и паня,
Ни разу и урадник ни сбрыхау;
Зато-ж Тарас балота зраньня
Да цемнай ночы пильнавау [24, с. 236].

Падзяляючы меркаванні Г. Кісялёва, што спіс паэмы з матэрыялаў А. Рыпінскага — «даволі акуратны тэкст, які можна разглядаць як блізкі да аўтарскага» [14, с. 291] і Ю. Пацюпы, што рэдакцыя паэмы, якая грунтуецца на спісе А. Рыпінскага, з’яўляецца «максімальна набліжанай да імавернага арыгінала» [6, с. 54], цытуем тэкст паводле навуковай публікацыі ў гісторыка-літаратурным зборніку «Шляхам гадоў» (1990).

Падобны пачатак характэрны не толькі для паэмы «Энеіда навыварат» *(«Жыў-быў Эней, дзяцюк хупавы, // Парнюк няўвошта украсіў, // Хоць пан, а ўдаўся нелукавы, // Даступен, весял, неспясіў»* [15, с. 3]), але і для некаторых аўтарскіх друкаваных твораў тагачаснай беларускай літаратуры. Так, В. Дунін-Марцінкевіч аналагічна пачынае з ідэалізаванага партрэта свае апублікаваныя «Вечарніцы» (1855), у якіх *«Ананія наш вясёлы»*, *«стары»*, *«бедны і голы»*, паўстае як шанаваны ўсімі і богабаязны майстар *«казкі лгаць»* [11, с. 412]. Усе трое герояў — вартыя павагі людзі. У дадатак палясоўшчык Тарас яшчэ зусім не п’е гарэлкі і падкрэслена характарызуецца як *рахманы* чалавек, а г. зн. памяркоўны да іншых, згаворлівы, дабрадушны, лагодны, да таго ж за цвярозасць і адданасць працы ён выступае як панскі фаварыт-улюбёнец. Але ці мог быць *рахманым* Тарас ва ўзаемаадносінах з сялянамі-аднавяскоўцамі?

Пры супастаўленні з характарыстыкай гаротнай долі лесніка ў паэме Якуба Коласа «Новая зямля» сам выраз *рахманы палясоўшчык* успрымаецца як аксюмаран, бо спалучае нібыта лагічна несумяшчальнае (*«Дык і не дзіва, што Міхала / У нас любілі вельмі мала. / Міхал сам гэта чуў і ведаў, / Ды што ты зробіш? Так з прадзедаў / Было-вялося і вядзецца…»* («На першай гаспадарцы»)). Міхал *«ранютка»* ідзе ў лес і на свята. Пра немагчымасць служыць леснікам *«спусціўшы рукавы»* ідзе спрэчка яго з сямейнікамі ў раздзеле «Раніца ў нядзельку». Такога ж увішнага, як і Міхал, героя-лесніка з апавядання І. Чыгрынава «Маці» (у першапублікацыі «У ціхім тумане») *«мужыкі — клялі і не адзін раз спрабавалі пацэліць з ружжа ў яго шырокую спіну»*. Мабыць, не без іроніі спраўным і шчырым служакам напачатку малюецца і палясоўшчык Тарас, да якога няма прэтэнзій нават ва ўрадніка.

**Урадnік.** У выданні паэмы 2009 г. гэтая пасада пракаментавана так: «*Урадnік* — у Расійскай імперыі ніжэйшы ранг павятовай паліцыі. У некаторых рэдакцыях паэмы заміж *урадnік* пішацца *войт* — асоба, якая назірала за працай прыгонных сялян і выкананнем іх абавязкаў» [6, с. 68]. Першы сказ тут фігуруе недарэчы, памылкова. У тым, што ў каментарыі мае месца фактычная недакладнасць, пераконвае кніга Ю. Федасюка «Што незразумела ў класікаў,

або Энцыклапедыя рускага побыту XIX стагоддзя»: «В 1878 году становые пристава получили в свое распоряжение **урядников** — сельских полицейских. Их не надо путать с урядниками — унтер-офицерами казачьих войск, к которым они не имели никакого отношения» [25, с. 73]. Пасада паліцэйскага ўрадніка была ўведзена ў імперыі толькі напрыканцы 1870-х гг. Стасоўны каментарый да адпаведнага слова змяшчае «Слоўнік беларускай мовы» (1870) І. Насовіча: «УРЯДНИКЪ… Прикащикъ въ имени, управляющій. Идзи до урядника» [20, с. 665]. У Беларусі *ўраднік* — гэта сінонім ужываным у творах В. Дуніна-Марцінкевіча пасадам *аканома*, *камісара*.

І. Бас, які ў 1960 г. апублікаваў параўнальны спіс паэмы «Тарас на Парнасе», для якога выкарыстаў 16 друкаваных тэкстаў і 2 рукапісныя варыянты твора, адзначыў: «Змены ў тэксце тлумачацца і тым, што спісы паэмы рабіліся ў розны час, у розных мясцовасцях. У аснову твора былі пакладзены адны і тыя ж вобразы, матывы і г. д., але ў кожнай сацыяльнай групе насельніцтва некаторыя эпізоды, вершы перарабляліся, выяўляючы ў пэўнай меры яе інтарэсы і густы. Так, у віцебскіх выданнях паэмы слова “**войт**” (у радку “І войт ні разу не збрахаў”) заменена другім — “**ураднік**”» [3, с. 215]. Адсюль напрошваецца, здавалася б, лагічны вывад: ужыванне слова «**ўраднік**» магло быць больш характэрна для паўночна-ўсходніх рэгіёнаў Беларусі. Аднак яго ўжыванне, прычым у вельмі цікавым кантэксце, фіксуецца і ў ананімнай «Гутарцы Данілы са Сцяпанам», тэкст якой меў пашырэнне на Міншчыне і Гродзеншчыне [Гл.: 15, с. 1050].

Антыпрыгонніцкая «Гутарка Данілы са Сцяпанам» магла ўзнікнуць толькі ў кароткі прамежак з 1857 па 1861 год, а г. зн. у перыяд блізкі да напісання паэмы «Тарас на Парнасе». Змест «Гутаркі…» пераконвае, што для паднявольнага сялянства *ўраднік* быў значна страшнейшым за *цівуна* і *войта*, менавіта ён параўноўваецца з чортам, лаецца «па-свойму» (відавочна, па-польску) і мае звычку да мардабойства, значыць, яго найбольш і баяліся. Выкарыстаны ў «Тарасе…» гістарызм *ураднік* дае не так і мала для лепшага разумення духу часу, каларыту эпохі. М. Хаўстовіч у каментарыі да слова *ўраднік* са спісу «Гутаркі Данілы са Сцяпанам», запісаным на Навагрудчыне для М. Федароўскага, адзначае: «Тут ідзе гаворка не пра паліцэйскага ўрадніка, інстытут якіх быў уведзены ў Расейскай імперыі ў 1879 г. Ураднікам у даўняй беларускай традыцыі называлі звычайна г. зв. *oficjalista* — прызначанага панам-памешчыкам кіраўніка маёнтку, інакш — аканом. Выкарыстанне гэтага слова ў творы сведчыць пра тое, што яго аўтарам быў чалавек сталага веку (падкр. намі. — *І. З.*)» [26, с. 205]. Даследчык не прыводзіць аргументы на карысць свайго сцвярджэння, таму ў такім разе, на яго думку, па аналогіі асобай «сталага веку» трэба лічыць і аўтара паэмы «Тарас на Парнасе», які таксама выкарыстаў названае слова. А такая выснова з лагічнага пункту гледжання супярэчыць гіпотэзам, паводле якіх сёння найбольш верагоднымі аўтарамі паэмы з’яўляюцца Канстанцін Вераніцын (1834 г. н.) і Ялегі Вуль

(1835 г. н.), якім падчас узнікнення «Тараса…» было каля 20 гадоў, што аніяк не стасуецца са «сталым векам».

**Кузьма-Дзям'ян.** У паэме «Тарас на Парнасе» дакладна акрэсліваецца час асноўнага дзеяння: *«– На самаго Кузьму-Дзим'яна / Пашоу я у наспы мижы мхоў…»* [24, с. 237]. У энцыклапедыі «Беларускі фальклор» У. Васілевіч прыводзіць такія звесткі: «Кузьма і Дзям'ян, прысвятак *народнага календара* (14 ліпеня і 14 лістапада н. ст.). У асобах святых народ бачыў апекуноў і дарадцаў сваім галоўным справам: улетку — сенакосу і падрыхтоўцы да жніва, увосень — малацьбе. У фальклоры К. і Дз. малююцца прыземленымі, з тымі самымі клопатамі, што і простыя людзі. <…> У нар. легендзе К. і Дз. маглі выступаць як кавалі. <…> Гэты дзень асабліва шанавалі і незамужнія дзяўчаты, бо верылі, што святыя К. і Дз. спрыяюць вяселлям. <…> Да К. і Дз. звярталіся ў *вясельных песнях* з просьбаю "скаваць свадзьбу крэпкую, даўгавечную, на векі неразлучную"» [5, с. 736]. Значыць, прыгода-падзея, што здарылася ў жыцці Тараса, акрэсленая аўтарам у метафарычным радку *«Бида у бару яго спаткала…»* [24, с. 236], адбылася, хутчэй, на схіле восені (калі палявалі на цецерукоў), у дзень свята праведнікаў, адаптаваных да народных уяўленняў, максімальна спрошчаных, дэмакратызаваных дабразычліўцаў вясковага люду.

Я. Карскі, пераказваючы змест паэмы «Тарас на Парнасе», падае важную этнаграфічную дэталь: «Отправившись однажды очень рано по обычаю в обход леса (это было на самого Кузьму-Демьяна, когда, по народному представлению, могут померещиться разные страхи и небылицы), он (Тарас. — І.З.) присел на пень и незаметно для себя задремал. Ему показалось, что он куда-то провалился, и когда пришёл в себя, то очутился в необычной, незнакомой обстановке» [13, с. 307]. На жаль, натрапіць на інфармацыю ў фалькларыстычнай літаратуры, што на Кузьму-Дзям'яна могуць адбывацца неверагодныя здарэнні, пакуль не давялося. Тым не менш невыпадковасць паведамлення акадэміка Я. Карскага, на нашу думку, можна, хоць і ўскосна, пацвердзіць наяўнасцю у беларускай мове дзеяслова *падкузьміць*. У «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» фіксуецца: «Падкузьміць…; *зак.*, каго-што. *Разм.* Паставіць у няёмкае становішча; падкусіць. [*Давідзюк:*] — *Я без жартаў кажу табе: артыкул мне падабаецца, хоць ты і падкузьміў рэдакцыю.* Сабаленка» [23, с. 538]. Датаванне ў творы падзей, якія адбыліся якраз на Кузьму-Дзям'яна, у значнай ступені адпавядае зместу паэмы: аўтар нібы папярэджвае чытачоў, што іх *падкузьміць, падманіць, ашукае, абвядзе вакол пальца, абуе ў лапці*.

У «Слоўніку…» І. Насовіча зафіксавана: «Кузьма и Дземьян два Лицвины, принешли горшочек боцвиння. *Из песни*» [20, с. 31]. У рэчышчы нашай гаворкі вельмі важная не толькі пазнака *з песні*, але і яшчэ больш этнічная ідэнтыфікацыя персанажаў, што ў фальклоры ўвогуле з'яўляецца рэдкасцю. Таму можна зрабіць папярэдні вывад: у асяроддзі карэнных жыхароў Бела-

русі, носьбітаў і захавальнікаў народнай культуры, Кузьма і Дзям’ян нейкі час асацыіраваліся і з этнічным самавызначэннем.

**Маладзік.** Вядома, якое вялікае значэнне для высвятлення часу і падзей, апісаных у ананімных творах, мае адлюстраванне ў іх нябесных аб’ектаў. Класічны прыклад дае «Слова пра паход Ігара». З матэрыялаў энцыклапедычнага слоўніка «Слово о полку Игореве» в литературе, искусстве, науке» М. Булахава вынікае, што В. Тацішчаў у няскончанай працы «История Российская с самых древних времён» падае пераказ-пераклад летапіснай аповесці пра паход Ігара Святаславіча 1185 года на полаўцаў. У ім ёсць наступныя радкі: «И тако продолжал путь свой к Донцу. На вечер же маия 1-го дня увидели затмение солнечное, которого осталась часть, яко луна трёх дней. В рогах его яко угль горясчий был, звёзды были видимы и в очах было зелено» [Цыт. па: 4, с. 214]. І тое, што сапраўды ў гэты час, увесну 1185 года, адбылося ў той мясцовасці частковае сонечнае зацьменне, стала важкім аргументам на карысць аўтэнтычнасці помніка і рэальнасці адлюстраваных у ім падзей.

Звернемся да таго катрэна паэмы «Тарас на Парнасе», у якім гаворыцца пра шчаслівае завяршэнне прыгодаў героя-палясоўшчыка:

Нясьли на крыльях быць як вецир,
И проста прынясьли у наш лес.
Гляджу я…цемна…мусиць вечэр,
И маладзик на неба узлез… [24, с. 245].

Этнографы і фалькларысты XIX стагоддзя неаднойчы падкрэслівалі асаблівае стаўленне беларускага сялянства да маладзіка. Так, адзін з іх сведчыў: «Час змены квадраў месяца прыкмячаецца ў народзе вельмі старанна. Яны называюцца па-мясцоваму квадрамі. Але ўласна сялян цікавіць не астранамічны час чатырох відазмяненняў месяца, а толькі калі настае маладзік, поўны і стары. <…> І калі хто з сялян не заўважыў, як настаў маладзік, то абавязкова аб гэтым спытае ў іншых. <…> Невядома, чаму маладзік выклікае ў народзе нейкую глыбокую забабонную павагу да яго. Як толькі сяляне ўпершыню ўбачаць сярпок маладзіка, адразу хрысцяцца і вітаюць яго <…>. Акрамя маладзіка мала што прыцягвае ўвагу народа на небасхіле, хіба незвычайнае з’яўленне каметы або зацьмення, якія, па павер’ях, прадвяшчаюць нешта нядобрае, найчасцей вайну» [12, с. 322–323].

Паводле інфармацыі ў электронных рэсурсах у Беларусі маладзік на восеньскія Кузьму-Дзям’яна ці 14 лістапада ўвечары можна было назіраць у наступныя гады — 1841, 1849?, 1852, 1860, 1863?, 1868?. Цікава, што 14 лістапада 1852 года, а гэта была нядзеля [16], маладзік якраз толькі з’явіўся на вячэрнім небасхіле, нібы сапраўды «на неба узлез».

**Харэміна-мядзведзь.** Ва ўсіх вядомых спісах «Тараса на Парнасе», пра што сведчыць параўнальны спіс паэмы, падрыхтаваны І. Басам, фігуруе

«харoміна-мядзведзь» [гл.: 3]. Пасля неспадзяванай сустрэчы з ім у лесе перапалоханы палясоўшчык няўдала паспрабаваў ускочыць на зламаную лясіну. У выніку, паслізнуўшыся, ён падае ў нейкую прорву і такім чынам здзяйсняе хуткае перамяшчэнне з зямной рэчаіснасці на той свет. Як правіла, усе публікатары пакідаюць тэкст гэтага фрагмента без каментарыяў, хоць мядзведзь у дадзеным выпадку выконвае канкрэтную функцыю праважніка ў іншую тагасветную рэальнасць. І тут належыць прыгадаць, што аналагічную ролю, толькі значна больш па-мастацку развітую, выконвае мядзведзь у сне Таццяны, гераіні рамана Пушкіна «Яўгеній Анегін». *«И снится чудный сон Татьяне»* [22, с. 263], што яна ў зімовым лесе і няма каму дапамагчы перайсці праз ручай. Далей *«большой, взъерошенный медведь»* [22, с. 264] падтрымлівае гераіню, суправаджае яе, а затым, перш чым знікнуць, прыносіць напаўпрытомную дзяўчыну ў шалаш, дзе Анегін у кампаніі з рознымі пачварамі перад абуджэннем гераіні забівае доўгім нажом прыйшоўшага з Вольгай Ленскага.

**Марс з Геркулесам.** Перад сучаснымі даследчыкамі дагэтуль стаяць сур'ёзныя рэцэптыўныя цяжкасці ў адэкватным прачытанні ідэйнага зместу і сэнсавай нагрузкі тых кампазіцыйных частак паэмы, якія адлюстроўваюць падзеі, звязаныя непасрэдна са знаходжаннем Тараса сярод антычных багоў. Склалася традыцыя інтэрпрэтаваць вобразы антычных багоў і герояў на Парнасе цалкам абагульнена, акцэнтуючы ўвагу ледзь не выключна на агрубленні іх вобразаў. Аднак нават гранічнае абстрагаванне ў творчасці не можа не адлюстроўваць гістарычна-канкрэтных, рэальна існуючых фактаў грамадскага жыцця. Таму, на нашу думку, паэма «Тарас на Парнасе» мусіць быць насычана дастатковай колькасцю схаваных і яўных цытат і, яшчэ ў большай ступені, алюзій на злабадзённыя праблемы рэчаіснасці, разуменне сутнасці якіх натуральна ўяўляе цяжкасць для сучасных чытачоў. Аднак такой цяжкасці магло не быць перад адукаванымі сучаснікамі аўтара. Звернем увагу на наступны катрэн паэмы:

Вось б'етца Марс и з Гаркулесам,  
А Гаркулес, як быць мядзьведзь;  
Штоб цешыць самаго Завеса,  
За чуб ен лоука Марса мнець [24, с. 241].

Верагодна, што ў гэтых радках заключаўся намёк на ход Крымскай вайны (1853–1856), няўдалай для Расіі, праціўнікам якой выступала кааліцыя Брытанскай, Французскай і Асманскай імперый. Саюзнікі паспяхова высадзіліся ў Крыме і нанеслі расійскай арміі шэраг паразаў, у выніку якіх была захоплена частка Севастопаля. У вершы Г. Дзяржавіна «Восень у час асады Ачакава» (1788) ёсць радкі: *«Российский только Марс, Потемкин, / Не ужасается зимы…»* [9]. У 1801 г. у Пецярбургу быў адкрыты помнік А. Сувораву, які ўвасабляў сімвалічны вобраз генералісімуса ў алегарычным

абліччы Марса ў антычнай вопратцы, з мячом і шчытом у руках. Да сярэдзіны XIX ст. у Расіі склалася традыцыя асацыіравання сваіх палкаводцаў, як і расійскага мілітарызму ўвогуле, з антычным богам вайны Марсам, якому ў беларускай паэме невыпадкова «дастаецца» ад Геркулеса.

Крывавую даніну Крымскай вайне заплаціла і Беларусь. Яе жахі знайшлі адлюстраванне нават у падцэнзурнай паэме В. Каратынскага «Таміла» (1858). Радасныя і балючыя пасляваенныя рэаліі закранаюцца і ў забароненых да друку «Быліцах. Расказах Навума» (1857) В. Дуніна-Марцінкевіча. Для жыхароў тагачаснай Беларусі крымскія падзеі былі злабадзённай рэчаіснасцю, на факты якой мог адгукнуцца аўтар паэмы «Тарас на Парнасе». Спецыфіка адлюстравання вобразаў антычных багоў і герояў у творы магла мець не толькі культуралагічны, але і канкрэтна-гістарычны кантэкст.

**Геба.** Аднак, ідучы па шляху выяўлення названага канкрэтна-гістарычнага кантэксту і вышуквання ў мастацкіх творах сацыяльнай вастрыні, беларускія літаратуразнаўцы савецкай пары, часам, дазвалялі сабе відавочны інтэрпрэтацыйны валюнтарызм. Так, В. Барысенка ў манаграфіі «Францішак Багушэвіч і праблема рэалізма ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя» (1957) адзначаў: «Шляхам парадыравання вобразаў міфалагічных багоў у паэме не толькі дыскрэдытуюцца варожыя аўтару твора літаратурныя густы, але і досыць востра крытыкуюцца асобныя заганы феадальна-прыгонніцкай сістэмы. Цікавым у гэтым сэнсе з'яўляецца вобраз Гебы. Яе становішча на Алімпе як-бы падкрэслівае класавы падзел тагачаснага грамадства» [2, с. 64]. Такі вывад даследчыка нібыта пацвярджаецца наступнымі радкамі пра Гебу:

Ина у страпухи узят[а] у неби,
Штоб есьць варыць и плацьця мыць;
(Нябось на цяжким жывець хлеби, —
Ци штука-ж стольких накармиць?..) [24, с. 241].

Тут не было падстаў гаварыць ні пра «заганы феадальна-прыгонніцкай сістэмы», ні пра «класавы падзел тагачаснага грамадства». Вывад напрошваецца значна больш стрыманы: аўтарам паэмы быў чалавек так званага разначыннага ідэйна-псіхалагічнага складу, дэмакрат, якому не імпанавала свецкасць як атрыбут штодзённага жыцця.

У канцы XVIII — першай палове XIX ст. згадванне багіні Гебы мела месца не толькі ў творах рускай паэзіі, але і ў прозе, напрыклад, у «Беднай Лізе» (1792) М. Карамзіна. «**Геба (Гебея)**, греч. — богиня юности, дочь *Зевса* и *Геры*. На Алимпе Г. подносила богам *нектар* и *амброзию* <…>. Иносказательно, шутливо: Г. — трактирщица, официантка» [17, с. 50], — канстатуецца ў «Міфалагічным слоўніку». Як Арэс-Марс быў сімвалам вайны, Афрадыта-Венера — прыгажосці і кахання, так Геба адназначна выконвала функцыю слугавання на застоллях, на чым і акцэнтавалася ўвага ў літаратурных творах.

Невыпадкова, што і ў беларускай паэме яна часцей за іншых багоў з’яўляецца на сцэне, а ў фінале па загаду бацькі корміць і Тараса:

Киўнуў Зявес, и мигом Гэба
Крупени у миску налила,
И добрую краюшку хлеба,
Сказаушы: «еш», мне падала [24, с. 244].

У лютым 1855 г. «першы пушкініст» П. Аненкаў выдаў «Матэрыялы для біяграфіі Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна», якія склалі першы том «Сачыненняў Пушкіна». У ім было засведчана, што верш Пушкіна «Да мастака» («К живописцу») быў перакладам з французскай мовы вядомага верша Эварыста Парні (1753–1814) «Мастак! Няхай Геба будзе тваёй мадэллю» («Peintre! Qu’Hébé soi ton modèle») [гл.: 1, с. 36]. Аўтар паэмы «Тарас на Парнасе» мог быць знаёмы з гэтым гучным пушкіназнаўчым выданнем. У Пушкіна нямала перакладаў і наследаванняў Э. Парні, імя якога згадваецца ў «Яўгеніі Анегіне». Творы французскага паэта перакладаліся на рускую мову Крыловым, Бацюшкавым, Вяземскім і інш. У 1799 г. Э. Парні стварыў іроікамічную паэму «Вайна багоў», у якой апісаны прыход хрысціянскіх багоў на змену багам язычніцкай антычнасці і якая мела выключны поспех не толькі ў Францыі. Таму ёсць сэнс шукаць крыніцы рэмінісцэнцый для беларускага паэта не толькі ў рускай паэзіі і прозе. Пры гэтым абавязкова варта ўлічыць аўтарытэтнае, хоць, у нейкай ступені, і суб’ектыўнае, меркаванне сучасніка М. Дабралюбава, які ў артыкуле «Французскія кнігі» (1858) пісаў: «У нас греческая мифология известна очень мало, да и нет особенной надобности наполнять ею голову детей. По крайней мере нам кажется, что вовсе не следует сожалеть о том времени, когда в нашу литературу, с легкой руки французов века Людовика XIV, вторгались было зевсы, пегасы, буцефалы, минервы, купидоны и многие сотни их собратий. Поэтому мы вовсе не признаем необходимости и пользы изучения мифологии в детском возрасте и, нисколько не задумавшись, готовы осудить всякого воспитателя, заводящего детей на Парнас и Олимп…» [10, с. 759]. Для рускай літаратуры этап захаплення міфалагічнай вобразнасцю крытык лічыў пройдзеным. Аднак у беларускай літаратуры сітуацыя была іншай, таму французскі, як і нямецкі (Ф. Шылер і Г. Гейнэ), вектары ў выяўленні фактаў магчымага міжнацыянальнага літаратурнага ўзаемадзеяння застаюцца перспектыўнымі.

**Гармонік.** Аўтар «Тараса…» выявіў схільнасць да паказу светлых малюнкаў жыцця. Багі на Парнасе жывуць прывольна. Хоць некаторыя з іх паказаны ў працы, але большасць вясёла бавіць час у атмасферы бяздзейнасці і паказнога гультаявання. Напрыклад, паводзіны бога кахання:

Амур усе з дзеуками жартуиць,
Ну проста смех ажна глядзець;
То ен знецейка пацалуиць,
То шмотку з галавы здзярэць.

То адным вокам ен миргаиць,
Як быццам-бы каго завець,
То у гармонику зайграиць,
То Нимхвам песню запяець [24, с. 241].

Тэкст паэмы адлюстроўвае новыя рэаліі ў краёвым народным жыцці. Даследчыца беларускіх музычных інструментаў І. Назіна канстатуе: «Гармонік <…> Прыйшоў на Беларусь з Расіі ў 2-й пал. 19 ст., спачатку на Віцебшчыну, у 20 ст. пашырыўся на астатняй тэрыторыі» [19, с. 144]. У яе ж манаграфіі «Беларускія народныя музычныя інструменты» дата ўдакладняецца: «Наиболее ранние упоминания о его (гармоніка. — І. З.) появлении в Белоруссии встречаются в этнографической литературе начиная с 60-х годов XIX в. Так, М. Дмитриев отмечал, что в Белоруссии на гулянках наряду со скрипкой, дудой и цимбалами используется "гармоник, игре на котором белорусская деревня учится у солдат или бродячих русских мужиков"» [18, с. 123]. Прыведзеная інфармацыя дазваляе зрабіць шэраг важных вывадаў. Па-першае, пацвярджаецца сувязь паэмы менавіта з Віцебшчынай. Па-другое, з'яўленне гармоніка ў Беларусі трэба датаваць, прынаймней, сярэдзінай 50-х гадоў XIX ст. Па-трэцяе, сродкам дасягнення камічнага эфекту ў прыведзеным фрагменце выступае тое, што гарэзлівы Амур, які заляцаецца і фліртуе з дзяўчатамі, паказаны без сваіх атрыбутаў — лука і стрэл, затое ў руках яго з'яўляецца гармонік, створаны толькі ў 1820-я гады, тагачаснае ноўхаў. Зразумела, што напачатку дазволіць сабе такую музычную раскошу маглі толькі прадстаўнікі прывілеяваных пластоў насельніцтва, бо ручныя гармонікі выраблялiся і набываліся не ў краі, а за яго межамі. І толькі пазней яны пачалі з'яўляцца і ў вёсках. Звяртае ўвагу і тое, што ў сцэне гулянкі багі танчаць пад традыцыйную для Беларусі дуду, таму ігра на гармоніку падкрэслівала сацыяльны і маёмасны статус Амура, як гламурнага героя.

Цікава, што пасля гармоніка Амур пазней будзе іграць на значна больш дэмакратычнай свірэлцы (дудцы):

Хапнуушы келишэк гарэлки
Амур яшчо пависялеу:
Играть пачау ен у сьвирэлку,
И песьни дзеукам стройны пеу [24, с. 243].

Такім чынам, у паэме Амур выступае не ўсемагутным боствам кахання, ад акрутнай волі якога цярпелі як людзі і героі, так і багі, у тым ліку Зеўс / Юпітэр, а як вясковы весялун, залётнік, музыка і спявак.

**Любіў ён цешыць грэшна цела.** Заўважана, што не адзін з вобразаў парнаскіх багоў надзелены тымі ці іншымі атрыбутамі, звязанымі з эратызмам: Бах (Дыяніс-Вакх) у сцэне ўсеагульнай забавы-гулянкі вызначыўся, напрыклад, спяваннем фрывольных прыпевак. Аднак звернем увагу на іншае. Характарызуючы мову паэм, Л. Шакун адзначыў: «Некаторыя звароты нават супадаюць у паэмах: ***любіў ён цешыць грэшна цела****, дзявухна па нутру была* — у паэме “Энеіда навыварат”, а ў паэме “Тарас на Парнасе”: ***любіў ён цешыць грэшна цела*** *ды часам лоўка падгуляць*; у паэме “Энеіда навыварат” *Эол лапці лыкам падплятаў* — у паэме “Тарас на Парнасе” *Сатурн падвіркай лапці падплятаў* і г. д.» [28, с. 410]. У такой сітуацыі мы не маем справу з выпадковым выкарыстаннем тэкстуальных элементаў-рэмінісцэнцый з «Энеіды…» у «Тарасе…», бо гэта быў, без сумнення, свядомы выбар аўтара.

Фрагмент «Энеіды навыварат» быў упершыню апублікаваны ў 1845 г. у часопісе «Маяк» праз два гады пасля таго, як на старонках гэтага ж выдання ў 1843 г. І. Цытовіч надрукаваў артыкул «Слова два пра мову і пісьменнасць Белай Русі», у якім зноў жа ўпершыню прагучаў заклік пісаць на роднай мове для «бедных беларусцаў» і як узор быў змешчаны ананімны верш «Чалом, чалом, ацец, татулька!». Выдавец часопіса С. Бурачок публічна дзякаваў І. Цытовічу і выказваў гатоўнасць друкаваць «падобныя рэчы, разумныя, цудоўныя і неабходныя». Аднак рэальных аўтараў у той перыяд яшчэ бракавала, бо ў «Маяку», які спыніў сваё існаванне ў тым жа 1845 г., сярод матэрыялаў з Беларусі пераважалі не мастацкія творы, а фалькларыстычныя і этнаграфічныя публікацыі. Паказальна, што рэдакцыя «Маяка», які выдаваўся ў Пецярбургу ў 1840–45 гг., прытрымлівалася афіцыйных і кансерватыўных пазіцый, на старонках часопіса рэзка крытыкаваліся і Пушкін, і Лермантаў, і Гогаль, якія неўзабаве ўзыдуць на літаратурную вяршыню ў «Тарасе на Парнасе». Не выклікае сумнення, што, ведаючы самы вялікі і, галоўнае, даступны мастацкі тэкст на беларускай мове, надрукаваны ў першай палове ХІХ ст. — «Энеіду навыварат», — аўтар «Тараса…» ўступіў у палеміку не столькі з папярэднікам-літаратарам, колькі з кансерватыўнай пазіцыяй рэдакцыі часопіса, якая надрукавала твор. Гэта пацвярджае выключную ролю паэмы В. Равінскага ў гісторыі беларускай літаратуры.

Пасля адносна невялікага часавага прамежка (10 гадоў) «Энеіда…» паслужыла творчым раздражняльнікам-імпульсам для аўтара «Тараса…». Яго непасрэдная рэакцыя заключалася ў тым, што, аддаючы даніну папярэдніку, ён уступіў у спаборніцтва-гульню з ім. Таму паміж двума творамі іназіраецца такая выразная тэкстуальная камунікацыя не толькі на вобразным і матыўным узроўнях, але і на ўзроўні інтэртэкстуальным. Закладаючы абсалютна новы ідэйны змест ва ўжо паспяхова выкарыстаную В. Равінскім форму, аўтар

«Тараса…» не палічыў заганным прадэманстраваць сваё знаёмства з «Энеідай…» шляхам прамога цытавання. Вось па якой прычыне ўяўляе цікавасць для літаратуразнаўства наступнае чатырохрадкоўе:

Хоць ни мае то прауда дзела
Ня сьлед-бы можа мне й казаць,
Любиу ен цешыць грэшна цела,
Часами й добра падгуляць! [24, с. 243].

Галоўнае тут не канстатацыя вядомага з міфалогіі факта шматлікіх любоўных інтрыг авантурнага мужа Геры, а ступень выяўлення аўтарскай прысутнасці ў тэксце, майстэрская імітацыя ўласнай няўпэўненасці, як элементу літаратурнай гульні. Выпадак унікальны ва ўсіх беларускіх мастацкіх творах XIX ст., які пацвярджае выключны талент аўтара.

**Вось.** У пачатку XX ст. было абгрунтавана меркаванне, што для характарыстыкі індывідуальнага стылю найбольшую вагу маюць не звязаныя з тэмай і зместам твораў службовыя словы. З таго ж часу пачалі шырэй даследаваць лексічны склад мовы пісьменнікаў. Нельга не звярнуць увагу на тое, што ў тэксце спісу А. Рыпінскага ўказальная часціца *вось* ужываецца 17 разоў. Прывядзём шэраг прыкладаў:

Вось як казаў нам сам Тарас [24, с. 236].
Аж вось аткулитка зьявиуся [24, с. 238].
Вось перад люстрам задкам мелиць [24, с. 241].
Вось разам у дуду зайграли [24, с. 242].
Дак во як некали Тарас [24, с. 245].

Як бачым, у тэксце часціца *вось*, выражаючы дадатковыя сэнсавыя, мадальныя і эмацыянальна-экспрэсіўныя адценні, пераважна ўжываецца для ўказання на паслядоўнасць змены падзей, або ўказанне на персанажаў ці рэаліі, якія знаходзяцца побач. Найперш у гэтым бачыцца не столькі стылістычная неапрацаванасць тэксту, колькі сцэнічнасць мастацкага бачання аўтара.

Рыгор Бярозкін слушна адзначаў, што адраджэнскія чыннасць і творчасць Алаізы Пашкевіч (Цёткі) сталі каталізатарам для паскарэння развіцця беларускай літаратуры. Выкарыстоўваючы гэтае ўдалае параўнанне, сцвердзім услед, што паэма «Тарас на Парнасе» была рэальным каталізатарам поступу айчыннага прыгожага пісьменства: пасля першапублікацыі («Минский листок», 1889) да 1920 г. розныя спісы яе тэксту былі надрукаваны ў многіх гарадах (Смаленск, Віцебск, Гродна, Магілёў, Вільня, Мінск, Коўна) больш за тузін разоў, у тым ліку асобнымі выданнямі. А чуйная да вобразнага слова і «пачцівая» да даробку папярэднікаў Цётка лісты 1914 г. да Браніслава Тарашкевіча, улічваючы прозвішча адрасата, пачынала так: *«Тарас, чаго сядзіш на Парнасе? Злазь! А то лазы ад Цёткі дастанеш»*; *«Тарас, не сядзі на Парнасе!*

*Чаго маўчыш, як вады ў губы ўзяўшы?»* [27, с. 217]. Пра папулярнасць твора сведчыў і М. Гарэцкі: «Надта любіла дэкламаваць яго дробная беларуская шляхта, а пазней — беларуская мужыцкая інтэлігенцыя. У самыя астатнія гады хадзіў гэты твор па Беларусі ў спісках сярод школьнай моладзі цэлымі тысячамі» [7, с. 175]. «Выдатны твор дагэтуль мае нязменны поспех, служыць як бы своеасаблівай візітоўкай Беларусі. Гэта адзін з першых твораў новай беларускай літаратуры, які выйшаў за межы Беларусі, атрымаў вядомасць у суседзяў» [8, с. 251], — падкрэсліў Г. Кісялёў у апошняй па часе выданні акадэмічнай гісторыі літаратуры.

Такім чынам, сёння перад айчыннай філалагічнай навукай паўстае задача падрыхтоўкі навуковага, а затым і акадэмічнага выдання паэмы «Тарас на Парнасе», твора, які, прайшоўшы праверку часам, з'яўляецца агульнапрызнаным шэдэўрам нацыянальнай класікі.

## Літаратура


1. Анненков, П. В. Материалы для биографии Александра Сергеевича Пушкина / П. В. Анненков; послесл. М. Филина. — М. : ТЕРРА–Книжный клуб, 2007. — 464 с.
2. Барысенка, В. В. Францішак Багушэвіч і праблема рэалізма ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя / В. В. Барысенка. — Мінск: Выд-ва АН БССР, 1957. — 366 с.
3. Бас, І. С. Друкаваныя і рукапісныя варыянты паэмы «Тарас на Парнасе» / І. С. Бас // Беларуская літаратура: даследаванні і публікацыі / Акад. навук БССР, Ін-т літ. імя Я. Купалы. — Мінск, 1960. — [Т.] 3. — С. 213–233.
4. Булахов, М. Г. «Слово о полку Игореве» в литературе, искусстве, науке: Краткий энциклопедический словарь / М. Г. Булахов; под ред. Л. А. Дмитриева. — Минск: Университетское, 1989. — 247 с.
5. Васілевіч, У. А. Кузьма і Дзям'ян / У. А. Васілевіч // Беларускі фальклор: Энцыклапедыя: У 2 т. Т. 1: Акапэла–Куцця / Рэдкал.: Г. П. Пашкоў і інш. — Мінск: БелЭн, 2005. — С. 736.
6. Вераніцын, К. Тарас на Парнасе: паэмы / К. Вераніцын, уклад. з тэкст. падрыхт. і камент. Ю. Пацюпы, прадм. Я. Янушкевіча. — Мінск: Маст. літ., 2009. — 79 с.
7. Гарэцкі, М. Гісторыя беларускае літаратуры / М. Гарэцкі; уклад. і падрыхт. тэксту Т. С. Голуб. — Мінск: Маст. літ., 1992. — 479 с.
8. Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў. У 2 т. Т. 2. Новая літаратура: другая палова XVIII–XIX стагоддзе / НАН Беларусі, Ін-т літ-ры імя Я. Купалы; навук. рэд. тома У. І. Мархель, В. А. Чамярыцкі. — Мінск: Беларус. навука, 2007. — 582 с.
9. Державин, Г. Р. Осень во время осады Очакова / Г. Р. Державин [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://rvb.ru/18vek/derzhavin/01text/024.htm. — Дата доступа: 08.08.2018.
10. Добролюбов, Н. А. Собрание сочинений. В 3 т. Т. 1: Статьи, рецензии и заметки 1853–1858 гг. / Н. А. Добролюбов; сост., вступ. статья Ю. Буртина; примеч. Е. Буртиной. — М.: Худож. лит., 1986. — 876 с.

11. Дунін-Марцінкевіч, В. Збор твораў. У 2 т. Т. 1. Драматычныя творы, вершаваныя аповесці і апавяданні / В. Дунін-Марцінкевіч; уклад. з тэкст. падрыхт., прадм., перакл. і камент. Я. Янушкевіча. — Мінск: Маст. літ., 2007. — 494 с.
12. Земляробчы каляндар: Абрады і звычаі / Уклад., класіф., сістэм. матэрыялаў і камент. А. І. Гурскага; Уступ. арт. А. І. Гурскага, А. С. Ліса; Рэдкал.: А. С. Фядосік (гал. рэд.) [і інш.]. — Мінск : Навука і тэхніка, 1990. — 405 с.
13. Карский, Е.Ф. Белорусы: В 3 т. Т. 3, кн. 2. Очерки словесности белорусского племени / Е.Ф. Карский; коммент. Т. И. Вабищевич, В. М. Казберука, О. П. Кричко. — Минск: БелЭн, 2007. — 704 с.
14. Кісялёў, Г. В. Ад Чачота да Багушэвіча: Праблемы крыніцазнаўства і атрыбуцыі беларускай літаратуры XIX ст. / Г. В. Кісялёў; навук. рэд. В. А. Чамярыцкі. — 2-е выд. — Мінск: Бел. навука, 2003. — 426 с.
15. Літаратура першай паловы XIX стагоддзя / уклад. і камент. М. В. Хаўстовіча; навук. рэд. С. Л. Гаранін.– Мінск: Маст. літ., 2012. — 1086 с. — (Залатая калекцыя беларускай літаратуры; т. 3).
16. Лунный календарь 1852 года. Календарь лунных фаз в Беларуси [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://calendarby.ru/moon/1852-lunar-calendar.html. — Дата доступа: 08.08.2018.
17. Мифологический словарь / М. Н. Ботвинник и др. — Минск: Университетское, 1989. — 255 с.
18. Назина, И. Д. Белорусские народные музыкальные инструменты: Самозвучащие, ударные, духовые / И. Д. Назина; [Ред. М. Я. Гринблат]. — Минск: Наука и техника, 1979. — 144 с.
19. Назіна, І. Дз. Гармонік / І. Дз. Назіна // Этнаграфія Беларусі: Энцыклапедыя / Рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) і інш. — Мінск: БелСЭ, 1989. — С. 144.
20. Насовіч, І. І. Слоўнік беларускай мовы / І. І. Насовіч. — Мінск: Беларус. Сав. Энцыклапедыя, 1983. — 792 с.
21. Пиотровский, Р. Г. Предисловие // Ермоленко Г. В. Анонимные произведения и их авторы: На материале русских текстов второй половины XIX–нач. XX в. / Г. В. Ермоленко; науч. ред. Р. Г. Пиотровский. — Минск: Университетское, 1988. — С. 3–7.
22. Пушкин, А. С. Сочинения. В 3 т. — Т. 2. Поэмы; Евгений Онегин: Роман в стихах; Драматические произведения / А. С. Пушкин. — Минск: Маст. літ., 1986. — 527 с.
23. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: У 5 т. Т. 3. Л — П / [Рэд. тома П. М. Гапановіч]. — Мінск: Гал. рэд. Беларус. Сав. Энцыклапедыі, 1979. — 672 с.
24. Узьлезши на Парнас, што видзиу там Тарас? // Шляхам гадоў: Гісторыка-літаратурны зборнік / Уклад. Г. Кісялёў. — Мінск: Маст. літ., 1990. — С. 236–245.
25. Федосюк, Ю. А. Что непонятно у классиков, или Энциклопедия русского быта XIX века / Ю. А. Федосюк. — 10-е изд. — М.: Флинта: Наука, 2007. — 264 с.
26. Хаўстовіч, М. Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў. Творы невядомых аўтараў. Том другі / М. Хаўстовіч. — Warszawa: Katedra Białorutenistyki Uniwiersytetu Warszawskiego, 2016. — 300 с.
27. Цётка. Выбраныя творы / Цётка; прадм. В. Коўтун; камент. С. Александровіча і В. Коўтун. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 2001. — 336 с.
28. Шакун, Л. М. Парадыйна-сатырычныя паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе» / Л. М. Шакун // Беларуская мова: Энцыкл.; Пад рэд. А. Я. Міхневіча; Рэдкал.: Б. І. Сачанка (гал. рэд.) і інш. — Мінск: БелЭн, 1994. — С. 409–410.

**Уладзімір Кароткі**
(Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, Мінск, Беларусь)

# УНІКАЛЬНЫ ПОМНІК ЭПІСТАЛЯРНАЙ СПАДЧЫНЫ: СУПРАСЛЬСКАЕ ВЫДАННЕ «OBRONCA WIARY S. KATOLICKIEY HIPACYUSZ POCIEY» 1768 Г.

Другі ўніяцкі мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі Іпацій (Адам Львовіч) Пацей у даволі сталым узросце звярнуўся да літаратурнай творчасці. Сын Льва Пацея, найвышэйшага пісара караля Жыгімонта І, падскарбія Вялікага Княства Літоўскага, нарадзіўся ў 1541 г. на Падляшшы. І, відаць, у яго жыццёвых планах не было запраграмавана духоўнае служэнне.

Адам Львовіч хутка мяняў веравызнанні ў залежнасці ад палітычнай кан'юнктуры (праваслаўе — кальвінізм — праваслаўе — уніяцтва), што было даволі характэрна для беларускай арыстакратыі эпох Рэфармацыі, Контррэфармацыі і Контрправаслаўя. Вучоба ў Нясвіжскай пратэстанцкай школе, на факультэце свабодных мастацтваў Кракаўскага ўніверсітэта забяспечылі яму хуткі кар'ерны рост.

З 1580 г. яго жыццё звязана з Бярэсцем. Спачатку Адам Львовіч прызначаны берасцейскім суддзёй, а ўжо ў 1589 г. становіцца берасцейскім кашталянам. Менавіта апошняя пасада забяспечыла яму месца ў сенаце Рэчы Паспалітай абедзвюх дзяржаў.

Смерць жонкі, няўдалае сватанне да маладой арыстакраткі карэнным чынам змянілі яго жыццёвыя планы. У 1592 г. ён прымае пострыг ад праваслаўнага Луцкага ўладыкі Кірыла Цярлецкага ў Супрасльскім манастыры, а на пачатку 1593 г. па хадайніцтве праваслаўнага князя Канстанціна Канстанцінавіча Астрожскага, пасля смерці Уладзіміра-Берасцейскага епіскапа Мялеція Храптовіча, займае свабодную кафедру. У сувязі з прыняццем берасцейскай царкоўнай уніі ў 1596 г. Іпацій Пацей разам з іншымі праваслаўнымі іерархамі пераходзіць ва ўніяцтва. Пасля смерці першага ўніяцкага мітрапаліта Міхаіла Рагозы, у 1599 г., ён быў пасвечаны ў сан уніяцкага мітрапаліта.

Біяграфія Іпація Пацея даволі глыбока вывучана сучаснымі даследчыкамі. Аднак, што датычыцца творчай спадчыны яго як пісьменніка, не ўсе творы ў аднолькавай ступені даследаваны літаратуразнаўцамі. Такія помнікі, як «Унія…» (1595), «Справядлівае апісанне Берасцейскага сабора…» (1597), «Гармонія…» (1608) найчасцей узгадваюцца ў працах па гісторыі беларускай літаратуры. Асобны артыкул Івана Саверчанкі, прысвечаны Іпацію Пацею, змешчаны ў першым томе «Гісторыі беларускай літаратуры XI–XIX стст.» (2006) [1]. У 2001 г. убачыла свет манаграфія беларускага філосафа Сямёна Падокшына «Іпацій Пацей. Царкоўны дзеяч, мысліцель, пісьменнік» [2].

Разам з тым, эпісталярная спадчына Іпація Пацея яшчэ не знайшла свайго даследчыка. Да літаратурна-публіцыстычнай дзейнасці Іпацій Пацей звярнуўся толькі пасля пострыгу, стаўшы на шлях духоўнага служэння. І яго першыя творы — эпісталы, лісты, пасланні да вядомых дзяржаўных дзеячаў, а таксама вышэйшых дзяржаўных і рэлігійных іерархаў: Крыштафа Радзівіла, Канстанціна Астрожскага, Міхаіла Рагозы. Акрамя таго, да эпісталярнай спадчыны пісьменніка адносяцца разнастайныя пасланні да святарства і вернікаў, пераважна на старабеларускай мове.

Прыватны ліст афіцыйнай асобы або іерарха ў эпоху Барока набываў значэнне грамадска-палітычнай падзеі, навуковага або рэлігійна-палемічнага трактата. Прыватныя лісты таксама нярэдка публікуюцца як сведчанне той ці іншай гісторыі, прыводзяцца ў якасці тых ці іншых аргументаў у палемічнай літаратуры.

Класічнымі ў гэтым плане з'яўляюцца лісты не толькі Іпація Пацея, але і яго малодшага сучасніка Мялеція Сматрыцкага. Апошні паклаў пачатак так званаму «дакументальнаму» спосабу палемікі ў сваёй «Верыфікацыі невінаватасці» (1621), а ў «Апалогіі перэгрынацыі» (1628) апублікаваў і шэраг сваіх прыватных лістоў.

У 1605 г. Іпацій Пацей таксама апублікаваў грамату, а, па сутнасці, ліст Мітрапаліта Міхаіла 1576 г. да рымскага Папы Сікста IV. Іпацій заяўляў, што ён знайшоў гэты ліст у Крэве, таму да сённяшняга дня гэтая публікацыя выклікае спрэчкі даследчыкаў адносна яе аўтэнтычнасці.

Адным з найменш даследаваных твораў з'яўляецца эпісталярны помнік пісьменніка «Respons…», або «Ліст у адказ» Іпація Пацея Александрыйскаму Патрыярху Мялецію ад 1601 г. Гэты твор не страчвае сваёй актуальнасці на працягу амаль двух стагоддзяў і, несумненна, павінен заняць годнае месца ў сённяшнім літаратуразнаўчым дыскурсе.

Першае перавыданне «Ліста…» ажыццявіў у 1714 г. прафесар рыторыкі і філасофіі, доктар тэалогіі, уладыка Уладзімірска-Берасцейскі, а з 1728 г. уніяцкі мітрапаліт Леў Кішка ў аднoўленай Супрасльскай друкарні. Другое перавыданне — супрасльскі рарытэт 1768 г., які ўтрымлівае як вышэй названы «Ліст…» Іпація Пацея, так і «Ліст» Александрыйскага Патрыярха Мялеція (абодва — на старапольскай мове). Як адзначана на тытульным лісце гэтага выдання, яно было зроблена «*na usilnie prośby wielu osób*».

«Ліст» Александрыйскага Патрыярха Мялеція датуецца 15 кастрычніка 1599 г., а месца напісання пазначана як «Егіпет, Александрыйскі патрыярхат». Трэба адзначыць, што на берасцейскім праваслаўным саборы 1596 г. Іпацій Пацей, як і іншыя ўладыкі, якія прынялі унію, былі адлучаны ад праваслаўя. Нягледзячы на гэта, патрыярх Мялецій звяртаецца да Іпація з належнай этыкетнай пашанай: «*…do Hipacyusza Pocieja Biskupa Włodzimirskiego y Brzeskiego, Protothronego Metropolii całey Rusi*» [3, s. 3].

Нагодай для напісання ліста патрыярха Мялеція было вяртанне да яго тады яшчэ архімандрыта, а пазней Канстанцінопальскага патрыярха Кірыла Лукарыса з Вялікага Княства Літоўскага, які выказаў патрыярху Мялецію свае ўражанні ад сустрэчы з Іпаціем Пацеем. Мялецій пісаў у сваім лісце:

*<…> o twoiey też ludzkości powiadał, mieniąc cię bydź człowiekiem uczonym, y takim ktorybyś mogł urząd Biskupstwa dość uczciwie sprawować, gdyby cię nie oszukano chytremi wymysłami, Akademickiey Theologiey* [3, s. 1].

Александрыйскі патрыярх лічыць, што Іпацій Пацей не па сваёй волі і не ў выніку свядомага выбару пакінуў праваслаўе, а быў ашуканы каталіцкімі вучонымі-тэолагамі, якія, на яго думку, абылгалі святое набажэнства Усходняй Царквы, што было законным і непарушным. Менавіта яны, даводзіць аўтар, прывялі сваім красамоўствам слабых людзей да змены веры. У гэтую пастку, лічыць Мялецій, трапіў і Іпацій Пацей: «*<…> a przecie, podług naszey ludzkiego stanu słabości, i ciebie ludzkiey mądrości iędzy oszukały, y do swego zdania, niechętnego, przywiedły*» (а зрэшты, паводле слабасці нашай чалавечай прыроды, цябе таксама ашукалі ведзьмары чалавечай мудрасці; яны цябе, хоць і супраць тваёй волі, схілілі да сваёй думкі. — Тут і далей пераклад наш. — *У. К.*) [3, s. 4].

У сваім адказе патрыярху Мялецію Іпацій Пацей, як і большасць беларускіх пісьменнікаў-палемістаў, выкарыстоўвае такі публіцыстычны прыём, як reductio ad absurdum (давядзенне да абсурду). Нагодай для выкарыстання гэтага прыёму ў «Лісце» да Мялеція паслужыла Іпацію Пацею субскрыпцыя патрыярха: «*Melecyusz z Boskiego miłosierdzia Papież y Patryarcha Alexandryiskiey stolicy* etc.» [3, s. 3]. Іпацій Пацей даказвае, што Папам можа называцца толькі адна духоўная асоба, а менавіта Рымскі Папа. «*Pychy żadney*, — сцвярджае пісьменнік, — *w powszechnym nie widzę pasterzu, pod zmyśloney raczey Waszey miłości pokorą Grecka przebiia się na początku listu nadętość*» [3, s. 117]. Спасылаючыся на другую частку сачынення «Ethymologia hominis…» Бракцыя, Іпацій Пацей згадвае пра рымскі сінод пры Папе Грыгорыю XVII, які пастанавіў, што тытул Папа можа насіць толькі адзін хрысціянскі іерарх — Рымскі. Тут жа прыводзіцца яшчэ адно вельмі рэдкае ў палемічнай літаратуры сведчанне апанента хрысціянства, мусульманіна Абубакра Хабасіда:

*Słysząc biskupi, że Patryarchowie Rzymskiego Biskupa nazywają Abba Oycem, rzekli w sobie: «Jeżeli my Patryarchę nazywamy Abba Oycem, słusznie należy, abyśmy Rzymskiego Papierzem nazywali Biskupa, y ztąd nazwany iest Rzymski, tym imieniem nad wszystkie inne, u wszystkich wiary chrześciańskiej Chwalcow»* [3, s. 117].

Толькі аднаго з александрыйскіх патрыярхаў, як сведчыць грэчаскі гісторык Нікіфар Каліст, Святога Кірыла Александрыйскага, называлі Рымскім Папам, паколькі на Эфескім саборы ён замяняў Рымскага Папу са згоды апошняга. Пазнейшых александрыйскіх патрыярхаў (тут Іпацій Пацей спа-

сылаецца на Яўціхія Александрыйскага) называлі «*Babami, a nie Papami abo Papierzami*» [3, s. 118]. Тут жа прыводзяцца і словы самога Патрыярха:

*Jeżeli my Biskupa nazywamy Abba Oycem, a Biskup nazywa Patyarchę Abba Oycem, trzeba aby my nazywali Patryarchę Baba Dziadem, a tak od czasów Herakliusza Aleksandryjskiego, Patryarcha Babą, to iest Dziadem iest nazwany* [3, s. 118].

Пасля падобных цытаванняў Іпацій Пацей рэзюмуе, звяртаючыся да Патрыярха Мялеція: «*Za coż Miłość Wasza miasto Baby, Papy lub Papierza przywłaszcza nazwisko, nie bez znaczney hardości!*» [3, s. 118].

Іпацій Пацей ганарыцца сваім духоўным санам: біскупства і мітраполія яму дасталіся ад Рымскай сталіцы. Ён супрацьпастаўляе свой духоўны сан у праваслаўі і ўніяцтве: «*naiemnikiem niestetyż przy Grecyi byłem, Pasterzem przy Rzymie zostałem <…>, Apostołem Rusi, nie Apostatą zostałem <…>*» [3, s. 136].

Уніяцкі мітрапаліт, знакамітая асоба Рэчы Паспалітай абедзвюх дзяржаў, пераконвае чытача (чытачоў) у тым, што яго пераход у духоўны стан быў свабодным выбарам і ніякія матэрыяльныя каштоўнасці не могуць параўнацца з душэўнымі набыткамі:

*Nie uwiodły mię so stanu duchownego, a do poznania w nim prawdy skoro przemiiaiące maiętności, y owszem Senatorskiego, które w świecie miałem, postradałem krzesła, aby, drogę Rusi błędney do Apostolskiey pokazał stolicy* [3, s. 132].

Паколькі «Respons» Іпація Пацея сінкрэтычны ў жанравых адносінах, то ён, зразумела, утрымлівае элементы споведзі, разваг, вучонага трактата, дагматычнай палемікі і інш. Як найвышэйшы іерарх уніяцкай царквы Іпацій Пацей не змог не закрануць такіх важных на той час палемічных аспектаў веравызнання, як тэзіс пра паходжанне Святога Духа, пра цэлібат, пра праснак і кіслы хлеб. Аднак, як і ў сваіх творах «Унія» ці «Гармонія», уніяцкі мітрапаліт не імкнуўся да абвастрэння гэтых пытанняў. Пры дапамозе шматлікіх цытат з сачыненняў айцоў царквы або са Свяшчэннага Пісання ён даказваў блізкасць дагматычных уяўленняў абедзвюх Цэркваў. Прывяду прыклад даволі тонкага вырашэння праблемы пра прычасце пад адным або пад двума відамі:

*Kommunią Lud moy pod dwiema bierze osobami, y równe całego, iako i ten, który pod iedną kommunikuią postacią, do serca prowadzi Chrystusa; ani się ten nazwać na poły chreścianinem może, ktoryby i pod iedną odrobiną przenaydroszey użył Swiątości* [3, s. 122].

Ён лічыць, што менавіта Грэцыя распаўсюджвала забабоны:

*<…> ty raczey odszczepiona Grecyo smiesznie wymyślasz zabobony, za nie omylną w Xięgach opisuiąc prawdę, że przy łamaniu drogiey Hostyi, z Nożami, mieczami, Kieliszkami, Szklenicami, Aniołowie z Niebios zstępuią, y Nożami kolą, mieczami od kości odrywaią ciało Chrystusa, a krew w kieliszki i szklenice sączą* [3, s. 122].

Для Іпація Пацея важным аспектам пераканаўчасці думкі з'яўляецца яе навуковая абгрунтаванасць. Эпоха Рэфармацыі выпрацавала даволі вытанчаныя спосабы вядзення палемікі, якія грунтаваліся не толькі на глыбокіх ведах адпаведнай літаратуры, багаслоўскай канкрэтыкі, але і на ўменні бездакорнага рытарычнага выкладу. На думку Іпація Пацея, «невучоная Грэцыя» не зможа навучыць «вучоны Рым». Звяртаючыся да Мялеція, уніяцкі мітрапаліт абвінавачвае патрыярха ў нежаданні спасцігаць новае:

*Nie macie widzę oprócz słów krasomowskich, od starodawnych Athen Pogańskich zarażeni Grecy, nic więcey innego, za tórego się kąta węgieł porwiecie, ten z wami leci, na którym się wesprzecie, z tym na szyię lecicie; słowy a nie rzecą, krasną mową, a nie dowodami, wymysłow broniąc upartych, a na dobitkę, świętych sromocąc zachodnich, wiarę bluźniąc, Papieża łaiąc, y całą Wiarę na zgwałcenie cudzey sławy zakładaiąc, iakoby ten naylepiey wygrał, kto kogo dobrze połaiał* [3, s. 80].

Тагачаснае жыццё, у першую чаргу рэлігійнае, патрабавала і абгрунтаваных тэалагічных уяўленняў. На працягу XVI ст. як каталікі, так і прадстаўнікі рэфармацыйных цэркваў не раз дакаралі праваслаўных у адсутнасці духоўнай навукі, кніг для рэлігійнага навучання. Іпацій Пацей нагадвае Александрыйскаму патрыярху:

*Tey prawdy szukał Rossyiski narod w rozległych Grecyi krainach, ale nie znalazł, biegał po Athenach mądrych, y nieznałazszy dowcipnych Licyniuszów, nauczycielów niegdy, iasnych Cerkwe Wschodniey pochodni Bazylego y Nazeanzena, same tylko, y to niezupełne, zburzonych szkoł w Athenach, z nieutolonym płaczem oglądał rozwaliny. Pytał się o Atanazym w Aleksandryi, o Janie Złotoustym w Konstantynopolu, o Cyryllu w Jerozolimie, ale miasto oycow Bogu miłych do szczęsliwey przeniesionych wieczności, w Aleksandryi Kalwina, w Konstantynopolu Lutra, Zwingliusza w Jerozolimie znalazszy, a z głębokości serca nad upadłą westchnąwszy Grecyą, aby się tak stogiemi nie zazał Herezyami, a udawszy się na Zachód, zrzódło żywota, studnicę prawdy, niezmazaną wiarę, rząd bez nagany, posłuszeństwo bez mruczenia, czystość bez naruszenia oglądał* [3, s. 50].

Захад, заходняя культура, каталіцкая рэлігія — адстойвае свае думкі Іпацій Пацей — мае перспектывы. Заходнія каралеўствы і імперыі не гінуць, а наадварот, пашыраюць свае межы і распаўсюджваюць хрысціянства на новаадкрытых землях і кантынентах:

*Zachodnie zaś Krolestwa nie giną, Państwa nie niszczeią, ani w doł idzie monarchia Rzymska, y owszem po nieznaiomych Amerykach, po niedawno wynalezionych Antypodach, po obszernych krzewi się y rozszera Indiach* [3, s. 104].

Такі поспех каталіцызму, лічыць Іпацій Пацей, забяспечвае інстытут папства, які без усялякіх падстаў крытыкуюць у першую чаргу рэфарматары. У сваёй палеміцы ўніяцкі мітрапаліт звяртаецца да даволі смелых і нечаканых параўнанняў:

*Bluźni Luter, beszta Kalwin, łaie Mieleciusz, coż z tego? Są te wiesci y mowy podobne szczękaniu na pełny Xiężyc, w biegu swoim dla szczękania nie zahamowany* [3, s. 104].

Часам Іпацій Пацей адыходзіць ад навуковай палемікі і звяртаецца да так званых правідэнцый. Ён лічыць, што менавіта Сын Божы пакараў Грэцыю за непрызнанне догмату filioque. Свае развагі ён падмацоўвае адпаведнай цытатай з Кнігі Прарока Ісаі:

*Ktoż tu nie widzi iawnego, ale sprawiedliwego nad utrapiną Grecyą gniewu Bożego? Uięła Grecya dostoieństwa Synowi Bożemu, ganiąc od niego przedwieczne Ducha pochodzenie! Odięła nad Cerkwiami wschodniemi Namieśnikowi Chrystusowemu należącą od założenia Cerkwi władze! Odiął też Bóg Państwo nad światem Grecyi, y harde nogi w kaydany, pyszną głowę w niewolą potrącił, Isai 19: Podał w ręce Panow okrutnych, a król mocny panuie nad niemi, gdzież teraz są mędrcowie twoi* [3, s. 98].

Зразумела, «Ліст» (менавіта так вызначае свой адказ александрыйскаму патрыярху Мялецію ўніяцкі мітрапаліт) утрымлівае шмат палемічных момантаў, якія зневажаюць сучасны яму ўсходнехрысціянскі свет. Гэта тлумачыцца ўплывам ідэй Контррэфармацыі і Контрправаслаўя, якія грунтаваліся на платформе прызнання любога іншага веравызнання як ерэтычнага. Вось чаму Іпацій Пацей на працягу ўсяго ліста засяроджвае ўвагу на кальвінізме, лютэранстве або цвінгліянстве, якія, на яго думку, паглынулі духоўны свет праваслаўя.

## Літаратура


1. Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў: у 2 т. / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т літ. імя Я. Купалы. — Мінск: Белар. навука, 2006. — Т. 1: Даўняя літаратура: XI — першая палова XVIII стагоддзя / [аўт. кал.: С. Л. Гаранін, І. В. Саверчанка [і інш.]; навук. рэд. В. А. Чамярыцкі]. — 909 с.
2. Падокшын, С. А. Іпацій Пацей — царкоўны дзеяч, мысліцель, пісьменнік на пераломе культурна-гістарычных эпох / С. А. Падокшын. — Мінск: Белар. навука, 2001. — 118 с.
3. [Hipacyusz Pociej]. Obronca wiary s. katolickiey Hipacyusz Pociey… — Suprasl, 1768. — 139 s.

**Вадзім Корань**
(Інстытут літаратуразнаўства імя Янкі Купалы Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, Мінск, Беларусь)

# «ТОРБА СМЕХУ…» К. ЖЭРЫ — ПОМНІК ШМАТМОЎНАЙ ЛІТАРАТУРЫ БЕЛАРУСІ ДРУГОЙ ПАЛОВЫ XVIII СТ.

«Торба смеху…» Караля Жэры — цікавы, арыгінальны, змястоўны, але маладаследаваны ў беларускай гуманітарнай навуцы гумарыстычны зборнік другой паловы XVIII ст. Першым з айчынных даследчыкаў звярнуў увагу на «Торбу смеху…» А. Мальдзіс, які ўбачыў у творах беларускія асаблівасці [5, с. 39–50][1]. «Торба смеху…» таксама была згадана і ў манаграфіі А. Мальдзіса «На скрыжаванні славянскіх традыцый» [4, с. 298–299], аднак мэты, якія ставіў перад сабою аўтар у даследаванні, а таксама вялікая колькасць твораў, што разглядаліся і аналізаваліся ў працы, не далі магчымасць зрабіць вычарпальны аналіз зборніка. Пазней да «Торбы смеху…» звярталіся М. Хаўстовіч [6; 7], В. Карнейчык [3; 8], В. Дзегцярэнка [2], А. Білюценка [1] і інш., аднак, улічваючы мастацкія, этнаграфічныя, гумарыстычныя вартасці зборніка, увага айчынных даследчыкаў, звернутая на яго, усё ж падаецца недастатковай.

«Торба смеху…» К. Жэры стала вядомай яшчэ ў канцы XIX ст., калі ў 1893 г. вядомы польскі этнограф і энцыклапедыст З. Глогер апублікаваў варыянт зборніка пад назвай «Ze starych szpargałów śp. Karola Żery. Fraszki i opowiadania» [11]. На пачатку выдання была змешчана прадмова ўкла-

---

[1] А. Мальдзіс у адным са сваіх нарысаў з кнігі «З літаратуразнаўчых вандраванняў» так згадваў працу з рукапісам «Торбы смеху…»: «Аднойчы ў аддзеле рукапісаў Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе ўвагу маю прыцягнуў тоўсты, у 416 лістоў зборнік, які значыўся пад лацінскай літарай Q і лічбамі XV, 3. Лацінска-польская назва была па-барочнаму доўгая і квяцістая: “Процьма рэчаў, торба смеху, гарох з капустай, а кожны сабака з іншай вёскі, або Кніга, якая ўключае ў сябе збор розных цікавых і мудрых, дасціпных і забаўных, сэнсоўных і сентыментальных твораў, пытанняў і адказаў, без ладу і ніякага парадку ўкладзеных дзеля ўцехі і забавы, а часам служыць кожнаму і для выратавальнага павучання, нядаўна распачатая, а да сканчэння свету не завершаная. Хто яе распачаў, таго знойдзеш у наступных радках”. А далей ішоў макаранічны польска-лацінскі верш, папацеўшы над якім з гадзіну, я расшыфраваў прозвішча аўтара: Жэра! Аднак, перагарнуўшы наступную старонку, на якой красаваўся старанна вымаляваны родавы герб Жэраў (Дубна), я зразумеў, што пацеў дарэмна<…>» [5, с. 39–40].

дальніка-выдаўца, у якой коратка распавядалася пра аўтара-складальніка зборніка і гісторыю рукапісу. У прадмове адзначалася, што З. Глогер знайшоў апраўлены ў чырвоны скураны пераплёт з раменьчыкамі для звязвання рукапіс, «пераглядаючы скрыню са старымі паперамі на паддашшы аднаго з наднарвянскіх маёнткаў» [11, с. 1]. Доўгі час гэта была адзіная публікацыя «Торбы смеху…», якая ў пэўным сэнсе з’яўлялася кананічнай, паколькі іншыя спісы не былі вядомыя.

У 1960 г. Ю. Кшыжаноўскі і К. Жукоўская-Біліп падрыхтавалі грунтоўную анталогію польскай сатыры і гумару XVI — XVIII стст. «Dawna facecja polska» [9, с. 485–536]. Сярод іншых аўтарскіх і ананімных твораў азначанага перыяду былі змешчаны 55 асобных апавяданняў з «Торбы смеху…» К. Жэры, выбар якіх быў абумоўлены, хутчэй за ўсё, літаратурным густам укладальнікаў. Гэтая публікацыя была зроблена паводле раней невядомага спіса зборніка (менавіта пра яго згадваў А. Мальдзіс), які быў адшуканы ў тагачасным Ленінградзе ў Публічнай бібліятэцы імя Салтыкова-Шчадрына (цяпер — Расійская Нацыянальная бібліятэка ў Санкт-Пецярбургу). У 1980 г. К. Жукоўская завяршыла працу, распачатую яшчэ 20 гадоў таму: яна падрыхтавала і выдала «Торбу смеху…» паводле «ленінградскага» рукапісу, аздобіўшы выданне грунтоўнымі прадмовай і каментарамі. Гэтая, зробленая з наяўнага рукапісу публікацыя была найбольш поўнай і дакладнай, паколькі рукапіс, якім карыстаўся З. Глогер падчас падрыхтоўкі выдання 1893 г., лічыўся страчаным.

Аднак у Нацыянальным архіве ў Кракаве быў выяўлены яшчэ адзін рукапіс «Торбы смеху…», з якім айчынныя даследчыкі фактычна не працавалі (для зручнасці назавем яго Кракаўскім). Хутчэй за ўсё, гэты рукапіс не быў вядомы і К. Жукоўскай, бо ў адваротным выпадку, без сумнення, ён быў бы згаданы ў прадмове і каментарах пры падрыхтоўцы публікацый 1960 і 1980 гг., а, магчыма, і выкарыстаны ў якасці асноўнага тэксту. Гэты цікавы рукапіс амаль цалкам паўтарае «ленінградскі», але, што істотна, працягваецца далей. У выданні «Торбы смеху…», якое падрыхтавана К. Жукоўскай, змяшчаецца 233 празаічныя і паэтычныя творы. А. Мальдзіс, які працаваў з рукапісам, згадвае, што «ўсяго ў ленінградскі рукапісны зборнік, датаваны прыблізна 1773–1798 гадамі, уключаны 233 пацешныя і павучальныя гісторыі» [5, с. 49]. У Кракаўскім рукапісе змешчана 459 асобных, пранумараваных аўтарам твораў, што ўдвая больш, чым у «ленінградскім» спісе. На вялікі жаль, у рукапісе адсутнічае пэўная колькасць старонак. Так, пры ўважлівым разглядзе можна ўбачыць, што апавяданні пранумараваныя да 286-га, а наступная старонка пачынаецца ўжо з № 353. Зробленая пазней бібліятэчная нумарацыя старонак паслядоўная, таму можна зрабіць выснову, что частка рукапісу, а ў прыватнасці, 65 апавяданняў (з 287 да 352), на вялікі жаль, страчана і ўзнавіць іх на сённяшні дзень няма аніякай магчымасці. Акрамя гэтага, Кракаўскі спіс можа лічыцца больш поўным і таму, што ў ім сустракаюцца апавяданні, прапушчаныя ў «ленінградскім» рукапісе (напрыклад, апавяданне № 110 і інш.). З гэтага спіса, відаць, і была зроблена «ленінградская» копія зборніка,

а пропуск апавяданняў, хутчэй за ўсё, звязаны з няўважлівасцю капііста або, у меншай ступені, з яго пэўнай рэдактарскай дзейнасцю.

Пры дэталёвым параўнанні трох вышэй згаданых варыянтаў «Торбы смеху…» лёгка заўважыць, што два з іх, «ленінградскі» і Кракаўскі, амаль ідэнтычныя, а выданне, якое было падрыхтавана З. Глогерам, моцна ад іх адрозніваецца як паводле паслядоўнасці тэкстаў, так і паводле зместу. У свой час даследчыкі, маючы толькі дзве наяўныя публікацыі 1893 і 1980 гг., спрабавалі высветліць прычыну такой розніцы. Так, напрыклад, К. Жукоўская выказала меркаванне, што «Торба смеху…» — гэта «жывая кніга», якую працягваў пісаць кожны наступны ўладальнік, і адзначыла, што «розніца паміж тэкстам, апублікаваным Глогерам, і ленінградскім рукапісам была такой значнай і ўключала столькі разначытанняў, што іх нельга патлумачыць толькі ўмяшаннем выдаўца» [13, с. 6–7], а В. Карнейчык зазначыла, што «глогераўская версія больш нагадвае сапраўдную silva rerum, у якую запісвалася ўсё: гісторыі пра знаёмых, анекдоты, урыўкі з пропаведзяў ксяндзоў, песенькі, загадкі. Другі ж варыянт (публікацыя К. Жукоўскай 1980 г. — *В. К.*) уяўляе сабой кнігу са стройнай кампазіцыяй» [3, с. 127] і вылучыла цікавую гіпотэзу: «згаданыя выданні — гэта аўтарскія варыянты адной кнігі. Магчыма, першы з іх (публікацыя З. Глогера 1893 г. — *В. К.*) К. Жэра пісаў проста для сябе, занатоўваючы, на яго думку, вартае захавання, другі ж — аўтарская апрацоўка, зробленая, магчыма, па чыёйсьці парадзе ці просьбе» [3, с. 128].

Сапраўды, маючы два розныя паводле зместу варыянты зборніка, можна было меркаваць, што гэта асобныя спісы «Торбы смеху…» і спрабаваць вытлумачыць прычыны такога непадабенства, паколькі рукапіс, якім карыстаўся З. Глогер, лічыўся страчаным і не было аніякай магчымасці параўнаць паміж сабою само «глогераўскае» выданне і рукапіс, з якога яно рабілася. Аднак цяпер, калі стаў даступным трэці спіс зборніка, варта паставіць пытанне наконт адпаведнасці выдання, апублікаванага З. Глогерам, арыгінальнаму спісу, створанаму манахам-францысканцам К. Жэрам. Істотна адзначыць, што гэты трэці варыянт быў адшуканы менавіта ў зборы З. Глогера і без сумнення выкарыстоўваўся самім даследчыкам/публікатарам. Знешняе апісанне рукапісу, якое падаецца ў прадмове да выдання 1893 г., цалкам супадае з апісаннем рукапісу, які быў адшуканы ў ягоным зборы. Таму справядлівым падаецца пытанне: чаму выданне, падрыхтаванае і апублікаванае З. Глогерам, гэтак радыкальна адрозніваецца ад жэраўскага арыгінала, які меў у наяўнасці даследчык?

Можна заўважыць, што некаторыя апавяданні з глогераўскага выдання ў пэўным сэнсе змянялі сваё аблічча. Напрыклад, апавяданне «Co usłyszał imć p. Kozieł od garbarza»: па-першае, дыялог адбываўся непасрэдна паміж панам Казлом і гарбаром, які спрабаваў яго падмануць, у той час як у «ленінградскім» і Кракаўскім спісах пан Казёл стаяў непадалёк і чуў размову гандляра

з іншым пакупнікам; па-другое, «глогераўскае» апавяданне усечанае і не мае працягу, які маецца ў астатніх спісах, што відаць на прыкладзе:

| Публікацыя З. Глогера (1893) | Публікацыя К. Жукоўскай (1980) | Кракаўскі спіс (са збору З. Глогера) |
|---|---|---|
| – Kiep i kozioł przeciw tego barana.<br>Pan Kozieł śmiał się potem opowiadając to, co usłyszał od owego garbarza<br>[11, с. 138]. | – Kiep i kozioł przeciwko hetaho barana.<br>Takowe acerbum posłyszawszy pan Kozieł, jako rozumna osoba, usunął się na stronę, jakoby tego nie słyszał, i uśmiechając się rzekł:<br>– Strzelono tu koło mnie, ale nie we mnie<br>[12, с. 264]. | – Kiep y kozioł przeciwko hetoho barana.<br>Takowe enkomium posłyszawszy pan Kozioł, jako rozumna osoba, usunął się na stronę, jakoby tego nie słyszał, y uśmiechając się rzekł:<br>– Strzeloną to koło mnie, ale nie we mnie [10, арк. 31 адв. (65 адв.)]. |

У якасці падобнага прыкладу таксама можна прывесці апавяданне, якое ў выданні 1980 г. называецца «Jako to weprz nieżywy żywego Moskala powesił», а ў публікацыі З. Глогера — «Jak weprz powesił cygana» (у рукапісах назвы апавяданняў адсутнічаюць). Паводле зместу абодва апавяданні вельмі падобныя паміж сабою: аднойчы ўзімку чалавек вырашыў скрасці ў гаспадара вепрука, якога той закалоў, абвязаў адным канцом вяроўкі сябе, другім — сваю здабычу, якую перакінуў праз высокі мураваны плот, але не змог разлічыць цяжар. І такім чынам павіслі з аднаго боку плоту чалавек, а з другога — япрук. Скончылася справа дрэнна — чалавек змерз на вялікім марозе. Аднак і тут паміж гэтымі варыянтамі ёсць значныя розначытанні: па-першае, у З. Глогера злодзей — цыган, а ў выданні К. Жукоўскай і рукапісе — маскаль (магчыма, ва ўмовах палітычнага жыцця канца XIX ст. З. Глогер паправіў «маскаля» на «цыгана», каб яго публікацыя прайшла цэнзуру, што, зважаючы на штамп «Дозволено Цензурою» ў пачатку кнігі, яна паспяхова зрабіла); па-другое, апавяданне зноў мае ўсечаны выгляд, што можна ўбачыць на прыкладах:

| Публікацыя З. Глогера (1893) | Публікацыя К. Жукоўскай (1980) | Кракаўскі спіс (са збору З. Глогера) |
|---|---|---|
| ------------ | W r[oku] 1772 czyli 1773 przyszła do Kowna ciekawa wiadomość z Warszawy, że wieprz nieżywy, zabity, oprawiony powesił żywego Moskala. A to takowym miałoby się stać sposobem: <…><br>[12, с. 277]. | W roku 1772 czyli 1773 przyszła do Kowna ciekawa wiadomość z Warszawy, że wierprz nieżywy, zabity, oprawiony powesił żywego Moskala. A to takowym miałoby się stać sposobem: <…> [10, арк. 33 адв. (70)]. |

| | | |
|---|---|---|
| ------------ | A tu pomnieć trzeba na przysłowie: «Wszystkiego się zarzekaj, a wisieć się nie zarzekaj», gdyż rzadko kogo niosą do grobu, a najwięcej na sznurach w dół spuszczają, a tak, choć na pecierz, po śmierci musi powisieć. A nawet i ci, których po śmierci niosą do grobu, to oni za życia bardzo długo wisieli na pasach jeżdżąc karetami i kolaskami, a do tego i w kolebce długo się wisi. Skąd wnios[ek], że każdy podobno człowiek «wisielnik» [12, с. 278]. | A tu pomnić trzeba na przysłowie: «Wszystkaiy się zarzekiy, a wiseć się nie zarzekiy», gdyż rzadko kogo niosą do grobu, a naywięcej na sznurach w doł spuszczają, a tak, choć na pecierz y po śmierci musi powiśić. A nawet y ci, ktorych po smierci niosą do grobu, to oni za życia barzo długo wisieli na pasach jeżdząc karetami y kolaskami, a do tego i w kolebce długo się wisi. Zkąd wnośić: że każdy podobno człowiek «wisielnik» [10, арк. 33 адв. (70)]. |

Параўноўваючы гэтыя варыянты аднаго твора, складваецца ўражанне, што З. Глогер пераказаў змест сваімі словамі. Прычыну гэтага цяжка патлумачыць, улічваючы тое, што ён карыстаўся арыгінальным рукапісам К. Жэры. Разам з тым, з «глогераўскага» выдання зборніка амаль зніклі лацінамоўныя выразы, якія ў вялікай колькасці ўжываюцца на старонках двух астатніх варыянтаў «Торбы смеху…», а таксама вершы і апавяданні, напісаныя з выкарыстаннем лацінскай мовы (абавязкова трэба памятаць, што аўтар быў адукаваным чалавекам — манах-францысканец, які вучыўся ў езуіцкай школе і быў выкладчыкам у сенненскім канвенце, таму выдатна валодаў лацінскай мовай, а разам з тым польскай і беларускай, выкарыстоўваючы іх у сваім зборніку). Адсутнічаюць у выданні 1893 г. лаціна-польская макаранічная аўтабіяграфія К. Жэры (яе па-польску пераказаў З. Глогер у прадмове да кнігі) і вершаваная прадмова да чытача.

Варта адзначыць, што ў сваёй прадмове З. Глогер звярнуў увагу, што гумарыстычная і этнаграфічная вартасці зборніка схілілі яго да рэдагавання і скарачэння «для магчымасці яго выдання» [11, с. 4]. Цяпер жа, маючы магчымасць параўнаць глогераўскі зборнік з абодвума рукапісамі, можна казаць не толькі пра рэдагаванне і скарачэнне, але і пра дапаўненне іншымі матэрыяламі (апавяданнямі, прыказкамі, казаннямі святароў), бо інакш нельга патлумачыць з’яўленне твораў, якія адсутнічаюць у арыгінальным зборніку. З. Глогер фактычна ахвяраваў зместам арыгінальнай «Торбы смеху…» і дадаў іншыя цікавыя творы, што, на яго думку, дапоўняць выданне і зробяць яго больш багатым і цікавым у літаратурным і этнаграфічным плане. На вялікі жаль, падчас глогераўскага рэдагавання/перапрацоўкі зніклі беларускія асаблівасці, якіх дужа багата ў рукапісах «Торбы смеху…» і якія рабілі зборнік больш жывым, дадавалі яму квяцістасці, каларыту, арыгінальнасці і дазвалялі

бачыць за творамі як асобу аўтара/складальніка, так і эпоху, у якую той жыў і ствараў.

У выданні 1893 г. яўна прасочваецца ўдалая спроба З. Глогера лакалізаваць зборнік у пэўных геаграфічных межах і зрабіць месцам дзеяння апавяданняў, змешчаных у ім, выключна Падляшша. Сапраўды, зборнік у варыянце З. Глогера ўспрымаецца як своеасаблівая падляшская гумарыстычная хроніка: Візна (Візская зямля), Цэхановец, Замбрув, Дарагічын (Дарагічынская зямля), Ломжа (Ломжынская зямля), Браньск, Бельск (Бельская зямля) і інш. Усе гэтыя населеныя пункты знаходзяцца ў непасрэднай блізкасці адзін ад другога. Магчыма, гэта звязана з месцам нараджэння як аўтара зборніка (К. Жэра нарадзіўся ў вёсцы Тварогі Выпыхі на Падляшшы), так і самога З. Глогера (нарадзіўся ў вёсцы Тыборы-Камянка на Падляшшы). Гэтыя вёскі маюць паміж сабою адлегласць каля 50 кіламетраў, што не так далёка адна ад другой. Магчыма, гэтая акалічнасць і зацікавіла З. Глогера: ён убачыў у падляшскім паходжанні аўтара і ў самім зборніку магчымасць па-мастацку апісаць сваю малую радзіму. Адсюль, відаць, паходзяць назвы раздзелаў з прыказкамі, прымаўкамі і загадкамі, якім укладальнік даў назвы «Przysłowia o zagrodowej szlachcie podlaskiej i mazowieckiej», «Przysłowia od imć panów Kaspra Doliwy podsędka wizk[iego], Wojciecha Rydzewskiego stol[nika] wizk[iego], Kaspra Morawskiego komor[nika] nurs[kiego] i Andrzeja Downarowicza czes[nika] wizkiego», «Przysłowia zapisane tu od starych ludzi» і «Zagadki od białogłów zapisane tu». Са зместу зборніка відаць, што «запісаныя тут» — гэта менавіта ў пэўнай мясцовасці на Падляшшы. Беручы пад увагу гэтыя акалічнасці, перамяшчэнне З. Глогерам падзеяў твораў у пэўную геаграфічную прастору падаецца праяўленнем своеасаблівага рэгіянальнага патрыятызму.

Для ілюстрацыі прывядзем некалькі прыкладаў з твораў па трох вядомых спісах «Торбы смеху…»:

| Публікацыя З. Глогера (1893) | Публікацыя К. Жукоўскай (1980) | Кракаўскі спіс (са збору З. Глогера) |
|---|---|---|
| 1. Napis na bramie<br>Jeden ziemianin w powiecie Zambrowskim, choć malej fortuny dziedzic, ale skrzętny i zasobny, wymalował na swojej bramie człowieka młócącego snop zboża i dał taki napis:<br>Gdy własny snop cepem walę,<br>Nie dbam o bogacza wcale<br>[11, с. 36]. | 1. Prszypowieść ruska<br>U lichoho bartnika i med horkij.<br>W Pińskim jeden szlachcic mający rozum, z jaki taki mająteczek, kazał na swojej bramie odmalować człowieka z cepem młócącego snop żyta i pod nim dał taki napis:<br>Nasieru bohaczu,<br>Koli swoj snop mołoczu<br>[12, с. 106]. | 1. Prszypowiesc ruska<br>U lichoho bartnika y miod horkij.<br>W Pińskim jeden szlachcic mający rozum y jaki taki mająteczek, kazał na swojey bramie odmalować człowieka z cepem młocącego snop żyta y pod nim dał taki napis:<br>Niesieru bohaczu,<br>Koli swoy snop mołoczu<br>[10, арк. 13 (27)]. |

| | | |
|---|---|---|
| 2. Do jednej gospody na trakcie z Węgrowa do Drohiczyna zajechał na nocleg imć pan Bykowski [11, c. 11]. | 2. Do jednej karczmy przyjechał na nocleg pan Bykowski [12, c. 217]. | 2. Do jednej karczmy przyiachał na nocleg Pan Bykowski [10, арк. 26 (53)]. |
| 3. U pana Jeziorkowskiego, podwoiewodzego nurskiego, widziałem parawan, na którego jednym składzie odmalowane były dwie ręce, złożone w górę jak modlitwy, i pod niemi napis: Deo sic, czyli do Boga tak [11, c. 111]. | 3. Mieszkając ja w Pińsku byłem w dworze wielmożnego Frąckiewicza eks-postarosty, a potem szambelana J.K.M., i postrzegłem na składanym parawanie takowe odmalowania. Na jednym składzie parawana odmalowano dwie rąk złożonych w górę podniesionych i pod nimi taki napis: Deo sic! [12, c. 175]. | 3. Mieszkając ja w Pińsku byłem w dworze wiel(możnego) Frąckiewicza ex-postarosty, a potym szambelana J.K.Mci, y postrzegłem na składanym parawanie takowe odmalowania. Na jednym składzie parawana odmalowano dwie rąk złożonych w gore podniesionych i pod niemi taki napis: Deo sic! [10, арк. 20 адв. (42)]. |

Аднак разам з тым істотна адзначыць, што З. Глогер, магчыма, разумеючы, што яго выданне не з’яўляецца у поўным сэнсе дакладнай копіяй арыгінальнага зборніка, даў яму альтэрнатыўную назву — «Ze starych szpargałów śp. Karola Żery = Са старых запісаў святой памяці Караля Жэры».

Такім чынам, на сённяшні дзень вядомыя тры варыянты «Торбы смеху…» К. Жэры. Найбольш поўным з’яўляецца Кракаўскі спіс са збора З. Глогера, які адшуканы і захоўваецца ў Нацыянальным архіве ў Кракаве. Вельмі верагодна, што з яго ў XIX ст. была зроблена скарочаная «ленінградская» копія (цяпер знаходзіцца ў Санкт-Пецярбургу), на што паказвае розная колькасць апавяданняў, а таксама пропускі, зробленыя ў «ленінградскім» спісе. Паводле гэтага спіса К. Жукоўскай былі падрыхтаваны дзве публікацыі: выбраныя апавяданні ў польскай анталогіі сатыры і гумару XVI–XVIII стст. «Dawna facecja polska» (1960) і ўласна «Торба смеху…» (1980). У святле двух вышэй згаданых спісаў варыянт «Торбы смеху…», падрыхтаваны і апублікаваны З. Глогерам у 1893 г., выклікае пытанні, бо зусім адрозны ад іх паводле зместу і структуры. Асновай гэтага выдання, безумоўна, з’яўляецца той сапраўдны спіс «Торбы смеху…» К. Жэры, які быў у свой час адшуканы даследчыкам, потым лічыўся страчаным і, у рэшце рэшт, выяўлены ў глогераўскім зборы ў Нацыянальным архіве ў Кракаве. Разам з тым можна канстатаваць, што гэтае выданне з’яўляецца скарочаным і моцна і бязлітасна адрэдагаваным выдаўцом варыянтам «Торбы смеху…», пра што яскрава сведчаць рукапісы зборніка, якія захаваліся да нашага часу.

## Літаратура

1. Билютенко, Е. И. Романтическая шляхетская гавэнда в польской прозе XIX века: монография / Е. И. Билютенко ; науч. ред. С. Ф. Мусиенко. — Гродно: ГрГУ, 2008. — 135 с.
2. Дзегцярэнка, В. У. Літаратурныя і фальклорныя традыцыі ў творчасці Караля Жэры і Юзафа Бакі / В. У. Дзегцярэнка // Весці БДПУ. Сер.1. — 2006. — № 4. — С. 100–103.
3. Карнейчык, В. Два выданні «Торбы смеху» Караля Жэры / В. Карнейчык // Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта: навук. зб. — Мінск, 2003. — Вып. 4. — С. 125–128.
4. Мальдзіс, А. На скрыжаванні славянскіх традыцый / А. Мальдзіс. — Мінск: Навука і тэхніка, 1980. — 352 с.
5. Мальдзіс, А. «Торба смеху» Кароля Жэры / А. Мальдзіс // З літаратуразнаўчых вандраванняў: нарысы, эсэ, дзённікі — Мінск, 1987. — С. 39–50.
6. Жэра, К. З «Торбы смеху» // Беларуская літаратура XVIII–XIX стагоддзяў: зб.тэкстаў / склад. і аўтар камент. М. В. Хаўстовіч. — Мінск, 2000. — С. 43–55.
7. Жэра, К. З «Торбы смеху» Караля Жэры / Прадм. і пер. з польск. М. Хаўстовіча // Шляхам гадоў: гісторыка-літаратурны зборнік. — Мінск, 1993. — С. 118–125.
8. Жэра, К. Фрашкі і апавяданні / К. Жэра ; пер. з польск. і паслясл. В. Карнейчык // Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта: навук. зб. Вып. 5. — Мінск: ВТАА Права і эканоміка, 2004. — С. 139–143.
9. Dawna facecja polska (XVI–XVIII w.) / opracowali J. Krzyżanowski i K. Żukowska-Billip. — Warszawa: MCMLX Państwowy Instytut Wydawniczy, 1961. — 647 s.
10. Vorago rerum. Torba śmiechu. Groch z kapustą. A każdy pies y innej wsi… // Archiwum Narodowe w Krakowie. — 29/678 — Zbiór Zygmunta Glogera. — № ZZG 804.
11. Ze starych szpargałów śp. Karola Żery. Fraszki i opowiadania. / wyd. Z. Gloger. — Warszawa, 1893. — 257 s.
12. Żera, K. Vorago rerum. Torba śmiechu. Groch z kapustą. A każdy pies y innej wsi… / K. Żera ; wstęp, koment. i oprac. Kazimiera Żukowska. — Warszawa: Państwowy Instytut Wydawniczy, 1980. — 299 s.
13. Żukowska, K. Żera, czyli u źródeł autentyku gawędy szlacheckiej / K. Żukowska // Vorago rerum. Torba śmiechu. Groch z kapustą. A każdy pies y innej wsi… / K. Żera. — Warszawa: Państwowy Instytut Wydawniczy, 1980. — S. 5–22.

**Таццяна Лаўрык**
(Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, Мінск, Беларусь)

# АДЛЮСТРАВАННЕ ЭПОХІ ПРАЎЛЕННЯ ЖЫГІМОНТА ІІІ ВАЗЫ Ў РАМАНЕ Л. ДАЙНЕКІ «ПРА ЛІСОЎЧЫКА, ЗЛОГА ХЛОПЧЫКА»

Чарада ваенных канфліктаў, у якую Рэч Паспалітая была ўцягнута ў часы праўлення дынастыі Вазаў, доўжылася да пачатку XVIII ст. Цяжкім асабліва быў перыяд XVII ст. у часы праўлення Жыгімонта Вазы III — вайна са Швецыяй, міжусобныя войны магнатаў, частка якіх не прымала палітыку караля, падтрымка Лжэдзімітрыя I і II, да якіх з мэтай дапамогі ўсталявання на пасадзе выйшлі войскі Рэчы Паспалітай.

Кароль паходзіў са Швецыі і быў сынам шведскага караля. У барацьбе за карону перамог другога прэтэндэнта, аўстрыйскага эрцгерцага Максіміляна, які таксама быў абраны каралём часткаю шляхты. Аднак на сойме не было прадстаўнікоў ВКЛ. Каб замацаваць свае пазіцыі сярод беларуска-літоўскіх магнатаў і шляхты, 28 студзеня 1588 г. у Кракаве выдаў прывілей, які зацвярджаў Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 г., а таксама прапанаваў Рэчы Паспалітай землі, занятыя шведамі, што абярнулася вайной з гэтай краінай за Інфлянты. У 1587 г. шведскі прынц Жыгімонт Ваза стаў вялікім князем літоўскім і каралём польскім. Пазней, пасля смерці бацькі, ён атрымаў і шведскую карону. Кароль акружыў сябе езуітамі, чужаземцамі і вузкім колам магнатаў, гэта выклікала незадавальненне пратэстанцкай эліты Швецыі, таму ў 1595 г. суродзіч Жыгімонта Карл захапіў уладу і стаў каралём Швецыі Карлам IX. Гэтыя падзеі паклалі пачатак канфлікту паміж Рэччу Паспалітай і Швецыяй, які атрымаў назву «Бітва за Інфлянты» (Лівонію), альбо Першая Паўночная вайна. Вайна была распачата Жыгімонтам Вазай, які разглядаў правінцыю Эстлянд як сваю спадчыну, а Карла IX — як узурпатара.

Беларускі пісьменнік Леанід Дайнека ў рамане «Пра лісоўчыка, злога хлопчыка» (2010) паказвае перыяд праўлення Жыгімонта III Вазы, які прыпаў не толькі на час найбольшага росквіту Рэчы Паспалітай, але і на пачатак заняпаду яго, а таксама становішча шляхты ў гэты час, уклад жыцця насельніцтва Рэчы Паспалітай. Аўтар разважае пра вайну са Швецыяй, якой папярэднічалі шматлікія войны і міжусобіцы на зямлі, што калісьці належала Полацкаму княству: «Яшчэ на самым пачатку трынаццатага стагоддзя ўвесь Рубон (Дзвіна) да самага ягонага вусця, дзе ўліваецца ён у Балтыйскае мора, належаў Полацкаму княству. Гэта быў водны шлях палачанаў у Еўропу. Лівы і леты, што жылі на берагах ракі, плацілі Полацку даніну, прызнавалі верхавенства полацкага князя. Але прыплылі з захаду ў гэты край рыцарымечаносцы, і ўспыхнуў агонь вайны, які, калі зірнуць на падзеі ўважлівым

вокам і, па магчымасці, бясстрасным вокам, гарэў, ніколі не тухнучы. Шмат жыццяў узяў ён. Згарэў у гэтым суровым агні князь Вячка, гераічна абараняючы свае гарады Кукейнос і Юр'еў, якія пад жалезнай пятой мечаносцаў сталі называцца Кокенгаўзенам і Дарптам (аўтар згадвае героя свайго першага гістарычнага рамана — *Т. Л.*). Гарэў агонь бязлітаснай вайны (на гэты раз паміж Рэччу Паспалітай і Швецыяй) і цяпер — у верасні 1605 года. Швецыя імкліва набірала сілу. Ёй было цесна ў сваіх скандынаўскіх межах. І ўрэшце рэшт сіла гэтая штармавіта выплеснулася на ўсходнееўрапейскія абшары» [2, № 2, с. 68–69].

У сувязі з сітуацыяй са Швецыяй, адчуваючы магчымасць умяшацца ва ўнутраныя справы Маскоўскага царства, якое зможа дапамагчы яму ў антышведскай кааліцыі, Жыгімонт Ваза пасля раптоўнай смерці цара Барыса Гадунова падтрымлівае царэвіча Дзмітрыя — сына Івана IV, які лічыўся забітым ў 1591 г. Так пачынаецца перыяд «самазванства» на Маскоўскіх землях. З гэтым перыядам ў Маскоўскай дзяржаве звязана і праўленне Жыгімонта III, які паспрабаваў ўмяшацца ва ўнутраныя справы аслабленай дзяржавы. Адной з прычын з'яўляецца непрыняцце новага князя, якім стаў сын Івана Жахлівага — Фёдар Іванавіч.

Аўтар перадае стаўленне ўлады да новага князя праз словы Льва Сапегі, які быў правай рукой Жыгімонта III. У часе яго аўдыенцыі склалася ўражанне пра маладога цара: «Вялікі князь малы ростам; кажа ён ціха і вельмі павольна; клёку ў ягонай галаве небагата, або, як іншыя кажуць і як я сам заўважыў, зусім няма. Калі ён пад час аўдыенцыі сядзеў на троне ва ўсіх сваіх царскіх упрыгожаннях, дык, пазіраючы на скіпетр і на дзяржаву, усё смяяўся» [2, № 2, с. 43].

Аўтар адзначае заканамернасць і зменнасць гістарычных падзей. Наколькі моцны, падобны на крывавы вулкан, быў Іван Жахлівы, а пасля яго на змену прыходзіць яго ціхі і палахлівы сынок. Таму Леў Сапега выказаў Стэфану Баторыю думку пра заняпад краіны, пра магчымасць далучыць да Рэчы Паспалітай Северскае і Смаленскае княствы.

Упершыню вобраз Льва Сапегі паказвае Гальяш Пельгрымоўскі — вядомы дзяржаўны дзеяч, дыпламат і пісьменнік, што ўваходзіў ў склад дэлегацыі Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага, якая вяла перамовы з прадстаўнікамі Маскоўскай дзяржавы ў 1600–1601 гг. пад кіраўніцтвам Льва Сапегі. Уражанні ад гэтай паездкі паслужылі асновай да стварэння «Пасольства Льва Сапегі да вялікага князя Маскоўскага» (1603). У творы аўтарам паказана хада дыпламатычнай місіі, больш апісана спрэчак паміж Львом Сапегам, баярамі. Аднак у заключнай гутарцы канцлера з Вялікім Князем Барысам Гадуновым мы прасочваем адносіны, якія былі паміж гэтымі людзьмі:

Князь да Канцлера цёплай любасцю праняўся
(Сябраваў з ім калісьці, таварышыў, знаўся):

«Можа помніш, мой дружа, як служыў я пану
Швагру Фёдару? Быў ты сябра мой каханы,
Сэрцам цэлым любіў я, Леў, цябе душою;
І цяпер справы пойдуць сцежкаю старою» [1, с. 513].

Словы, якія прамаўляе Князь да Канцлера, вызначаюць дакладнае стаўленне да былога сябра: *«Чалавеча, ты — слаўны й моцы немалое…»* [1, с. 513].

У нямецкага паэта Шылера ў няскончанай драме «Дзмітрый» (1805) Л. Сапега паўстае як мудры і разважлівы палітык, сапраўдны інтэлектуал сваёй эпохі. Ён засцерагае паслоў сойма супраць злоўжывання, маніпулявання дэмакратычнымі прынцыпамі, бо будзе парушацца мірны дагавор, падпісаны з Масковіяй [6, с. 58].

Юзаф Крашэўскі ў аповесці «Апошняя са слуцкіх князёў» паказаў вобраз канцлера Льва Сапегі — міратворцы, чалавека скупога на пачуцці, якога паважалі і пабойваліся магнаты. «Леў Сапега — высокага росту, мужны, прыгожы, стройны, твар упрыгожвалі вусы і невялікая бародка; негустыя валасы на галаве былі акуратна падстрыжаны.<…> Ён заўсёды памяркоўна вырашаў справы, кожны раз шукаў спосабы для прымірэння і трымаўся гэтага, не ставіўся ні на чый бок, выступаў за згоду і паразуменне; ён быў нібы створаны для ролі пасрэдніка» [4, с. 201–202].

Леанід Дайнека ў рамане «Пра лісоўчыка, злога хлопчыка» звяртаецца да дзіцячых гадоў Льва Сапегі, каб растлумачыць, у якіх умовах складваўся характар героя. На хлопчыка паўплывала адно здарэнне ў дзяцінстве, калі ліс, трапіўшы ў сіло, не захацеў памерці ў палоне, ён перагрыз сваю лапу і вызваліўся. Пасля гэтага выпадку, які вельмі ўразіў хлопчыка, ён прыняў рашэнне: «Я буду мудрым і хітрым, як ліс.<…> Колькі буду жыць, буду адстойваць сваю волю, чаго б гэта ні каштавала» [2, № 2, с. 43]. Такім чынам, пісьменнік растлумачыў сімвалічнае значэнне назвы герба «Ліс», якім карыстаўся род Сапегаў з часоў Гарадзельскай уніі 1413 г. і які сімвалічным чынам уплываў на жыццё Льва Сапегі.

Аўтар звяртае ўвагу на асобныя рысы героя, так ён становіцца больш жывым і зразумелым, чым створаны ў аповесці Ю. Крашэўскага. Адзначаецца яго патрыятызм: «Канцлер Вялікага Княства Літоўскага з сямейных паданняў ведаў, што Сапегі, гэтак жа сама, як Радзівілы, як Пацы, паходзяць ад самога рымскага сенатара Палемона, які ратуючыся ці то ад Нерона, ці ад крыважэрных бязлітасных гунаў, прыплыў некалі ў гэты край і стварыў між лясоў і азёраў новую дзяржаву. І мэтаю свайго жыцця малады Леў Сапега зрабіў вернае служэнне гэтай дзяржаве, захаванне і ўмацаванне яе, гарманічнае і ўсебаковае развіццё законаў, па якіх яна павінна развівацца» [2, № 2, с. 43].

Ён не падтрымлівае напачатку паход Лжэдзімітрыя І, бо у 1600 г. у час пасольства ў Маскву, якое ўзначальваў Леў Сапега, падпісаў мірнае пагадненне з Маскоўскай дзяржавай на 20 год, для яго гэты чалавек дзіўны, не

падобны на Івана Жахлівага, якога лічаць яго бацькам: «Разумны. Адукаваны. Са сваім поглядам на жыццё. Ведае некалькі еўрапейскіх моваў. Кароль і вялікі князь Жыгімонт ІІІ Ваза, арцыбіскуп гнезненскі, шляхта на сойме ў Кракаве, Мнішкі, бацька з дачкою, — усе, як адзін, падтрымалі яго. Я ж быў напачатку супраць» [2, № 2, с. 45]. Такім чынам, аўтар адзначыў, што царэвіча прыняў кароль, які спадзяецца на дапамогу Маскоўскага княства ў будучым. Леў Сапега гаворыць пра кіраванне новага князя: распусціў казацкае войска, каб спыніць рабункі; кіруе добра, але «не на карысць ляхаў», бо не аддаў ім абяцаных земляў за падтрымку. Зыходзячы з гэтага, Леў Сапега разумее, што гэта сапраўды самазванец, бо ён зусім не падобны на яго бацьку — Івана Жахлівага, і прадбачыць будучыя змены, якія яшчэ закрануць Маскоўскую дзяржаву. Бо ў свой час яна нанесла шмат шкоды Рэчы Паспалітай, якая цяпер павінна накіраваць гэтыя змены на сваю карысць.

Вызначаюць некалькі прычын паразы, якой скончылася праўленне Лжэдзімітрыя І. Адной з прычын было тое, што Масква была запружана войскамі Рэчы Паспалітай. Вось што піша пра гэтыя падзеі Юльян Нямцэвіч — пісьменнік і гісторык: «Каля 4000 палякаў налічыць можна было ў Маскве. Гэты тлум разбэшчанай, добра ўзброенай моладзі напаўняў горад страхам і падазрэннямі. Не імкнуліся палякі памяркоўнасцю і добрымі паводзінамі ўлагодзіць нянавісць і зайздрасць.<…>Не аднойчы, разагрэтая віном моладзь, страціўшы розум, бадзялася па вуліцах сталіцы, сваволячы, збіваючы гараджан, выбіваючы дзверы, зневажаючы цнатлівых дзяўчат» [7, с. 276].

Леанід Дайнека ў творы апісаў смерць Лжэдзімітрыя, якога пакараў раз’юшаны натоўп. Шмат у кіраванні новага цара не падабалася народу, нягледзячы на тое, што напачатку яго падтрымлівалі. Аднак пасля гвалтоўнай смерці, якой памёр гэты чалавек, над яго трупам ўначы ззяла святло, а на грудзях ў забітага сядзеў белы голуб, але калі варта падыходзіла бліжэй, то святло тухла, а голуб знікаў. Пасля яго смерці на Масковію ў траўні месяцы наваліўся люты мароз і голад. Людзі тлумачылі сабе, што ва ўсім быў вінаваты самазванец-растрыга Грышка Атрэп’еў, які і пасля смерці прыносіў шкоду. Паказваючы гэту гвалтоўную смерць, сімвалічныя знакі, якія адбываліся пасля яе, можна адзначыць, што пісьменнік карыстаўся гістарычнай манаграфіяй Мікалая Кастамарава, бо гісторык таксама апісаў незвычайнасць падзей пасля смерці Лжэдзімітрыя І: «Яго кінулі ў яму, куды складалі жабракоў, якія замёрзлі ці апіліся. Але раптам па Маскве разнесліся чуткі, што цела яго невядомай сілай выйшла з зямлі і апынулася на пясторным месцы; над ім бачылі двух галубкоў; толькі-толькі падыдуць да яго, галубкі знікаюць. Загадалі зарыць глыбей у зямлю. Прайшло сем дзён, і цела забітага цара апынулася непашкоджанае на могілках, у чатырох вёрстах ад убогага дома» [3, с. 444].

Па ўсёй Рэчы Паспалітай у гэты час квітнела мода на сарматызм — пакланенне продкам-сарматам, якія прыйшлі калісьці ў Еўропу з усходніх спякотных стэпаў і зрабіліся ваяўнічай гераічнай шляхтай. Сарматызм — шляхецкая

ідэалогія, якая дамінавала ў Рэчы Паспалітай ў XVI–XIX стагоддзях, яна вызначала шматлікія асаблівасці культуры знаці. Сарматызм аддзяляў шляхту ад сялян. Сармат павінен быў быць рыцарам і ваяром, добрым гаспадаром-магнатам. Вызначалася таксама своеасаблівая мода ў апратцы — «усходні» стыль параднага адзення (канфедэратка, жупан, слуцкі пояс, шабля). Элементы сармацкай культуры паказаны ў творы пісьменніка.

Напрыклад, пры апісанні ваеннага выезду войска Януша Патоцкага, з якім сустракаецца Аляксандр Лісоўскі і Іван Мастоўскі, аўтар звяртае ўвагу на апісанне параднага адзення вершнікаў, якое так зачаравала герояў. Бо апранута войска было вельмі пышна, быццам і не на вайну выпраўлялася: «…Адзенне іх нагадвала сабой персідскае — такое ж залататканае з кветкавым узорам, з аксаміту самых яркіх і разнастайнейшых расфарбовак. І ўсё гэта было падбіта каштоўнымі футрамі: спінкамі собаляў і пантэраў. Чым больш кружкоў налічвалася на шкуры пантэры, тым багацейшым пачуваў сябе валадар гэткай раскошы. Пад плашчамі — даламанамі іскрыліся жупаны, амаль цалкам выштукаваныя з золата, срэбра і шоўка…» [2, № 2, с. 17]. Пісьменнік паказвае парадны касцюм магнатаў, адзначае багацце зброі, моцных коней, гатоўнасць змагацца з любым ворагам, што яшчэ раз падкрэслівала веру ў несакрушальнасць, магутнасць войска Рэчы Паспалітай. Аднак на герояў у творы гэта прыгажосць зусім па-іншаму паўплывала. Яны адчулі, што таксама належаць да шляхты, хай не такой багатай, але маюць тыя ж правы, што і багатыя магнаты, таму роўныя ім.

Пісьменнік апісвае некаторыя традыцыі, якія выкарыстоўваліся ў сармацкай культуры магнатаў Рэчы Паспалітай. «Уладарыў культ апрашчэння, набліжэння да прыродных каранёў. Вось чаму пыхлівыя магнаты са сваімі капрызлівымі распешчанымі жонкамі на некалькі дзён ператвараліся ў звычайных хлопаў і хлопак, апраналі хлопскае адзенне, старанна хадзілі за плужком, выганялі ў поле скаціну, жылі ў маленькіх драўляных хатках» [2, № 2, с. 74–75]. Магнаты добра ведалі, хто яны на самой справе, аднак па модзе называлі сябе пейзанамі. Радзівіл Сіротка адправіў свайго сына, які меў правіну перад бацькам, у Альбу — загарадную рэзідэнцыю Радзівілаў. Юрый Радзівіл згадзіўся, бо думаў, што будзе там бесклапотным пейзанам, аднак у гневе бацька прапануе свінапасу зрабіць княжыча яго падпаскам.

Асноўнай рысай сарматаў была ваяўнічасць, яны былі славутыя сваімі поспехамі ў вайсковай справе. Гэта адпавядала агульнапрынятаму ідэалу шляхціца. Вельмі важна было шанаваць старажытнасць традыцый і свае герб і род. Так выхоўвалася маладая шляхта, і таму менавіта ў гэты перыяд і з’яўляюцца такія героі як палкоўнік Лісоўскі.

Аляксандр Язэп Лісоўскі — адзін з цэнтральных герояў твора. Ён ўзначаліў лёгкую беларускую кавалерыю, таму яго ваяры называлі сябе лісоўчыкамі. Яны ўваходзілі ў склад ліцвінскага войска, падтрымалі Лжэдзімітрыя II, ства-

рыўшы Маскоўскую канфедэрацыю, спрабуючы адваяваць трон Маскоўскага княства, на які ўжо ўзышоў Васіль Шуйскі.

Пра харугвы Аляксандра Лісоўскага пісалі польскі гісторык Генрык Віснер, выйшла кніга расійскага гісторыка Аляксандра Зорына «Лисовчики. Александр Юзеф Лисовский и его полк в истории Смутного времени» (2017).

Гісторыкі, якія прадстаўляюць розныя нацыянальныя і каштоўнасныя пазіцыі, ацэньваюць яго па-рознаму. Напрыклад, у апісанні да кнігі А. В. Зорына чытаем пра палкоўніка: гэта быў паляк (нарадзіўся Аляксандр Лісоўскі пад Вільняй, таму хутчэй літоўскі шляхціч, бо род яго перасяліўся ў ВКЛ з Польшчы), які праславіў сябе ў якасці самазванца; шляхціч, які быў пазбаўлены гонару сеймам; салдат, які бунтаваў супраць камандавання; палкаводзец, які прайграваў буйныя бітвы і адраджаўся пасля паразаў, адважны змагар, «бацька-атаман» для казакаў і «дзяржаўны ваявода» для рускіх служылых людзей. Яго біяграфія злілася з буйнымі падзеямі эпохі, якія зрабілі яго героем, а, магчыма, і антыгероем у гэты гістарычны перыяд. Расійскі гісторык з пазіцыі гісторыі сваёй краіны адзначае адмоўнае стаўленне да гэтай асобы.

Польскі гісторык Генрык Віснер у сваёй манаграфіі паказаў заслугі войска Лісоўскага, праўда, звяртаючы ўвагу і на свавольства і распушчанасць войска, якое жыло за кошт мірнага насельніцтва, рабуючы і забіраючы апошняе, бо жалавання яны не атрымлівалі. Таму сярод цывільнага насельніцтва харугва Аляксандра Лісоўскага заслужыла пагарду за колькасць учыненых гвалтаў — рабаўніцтваў, забойстваў.

З пазіцый нацыянальнай рамантычнай гістарыяграфіі прадстаўляе вобраз лісоўчыкаў і іх палкоўніка Вацлаў Ластоўскі, які ў часопісе «Крывіч» размясціў пераклад урыўка з польскай паэмы «Władysław IV król Polski i Szwedzki» (1649):

> Лесоўчыкі
> Лесоўчык ваюе, што пажар бушуе,
> Бы вясной паводка, ён усё раўнуе… [5]

Як адзначаў Ластоўскі, «Лесаўчыкі — называньне лёгкай беларускай кавалерыі-казацтва, якое ў адрозненне ад Украінскага, нізавога казацтва (“Нізаўчыкоў”), насіла названьне — “Лесаўчыкі”. Польскія гісторыкі выводзяць названьне гэтай кавалерыі ад імяні аднаго з галасных у пачатках XVII ст. атаманаў Лесаўчыкоў, беларускага шляхціца Аляксандра-Язэпа Лісоўскага-Яновіча — таленавітага военачальніка, беларускага шляхціча з Віленшчыны. У часе бунту Зэбржыдоўскага Лесаўчыкі сталі супраць караля Жыгімонта III, за што яны, разам з атаманам, былі асуджаны на выгнаньне» [5, с. 24–25]. Згадвае пра лісоўчыкаў і Уладзімір Арлоў, адзначаючы іх ваярскае майстэрства і нястрымны напор, які зведалі Францыя, Італія, Нямеччына, Чэхія і

Вугоршчына, дзе нашы кавалерысты ваявалі пазней як найміты германскага імператара.

Л. Дайнека пісаў у прыватнай перапісцы: «Вобразамі лісоўчыкаў <…> я паказваю чытачу, што беларускі народ несмяротны» (з архіваў аўтара — *Т. Л.*). Такім чынам, у сваіх адносінах да гэтага неадназначнага вобраза Леанід Дайнека найбольш набліжаны да пазіцыі Вацлава Ластоўскага, блізка яму і стаўленне да Лісоўскага Генрыка Віснера.

У рамане створаны вобраз смелага ваяра Аляксандра Язэпа Лісоўскага, які ўжо з маладых гадоў вызначаўся непаслухмянасцю, разбэшчанасцю, прагай да лёгкай нажывы. «Было адчуванне, што ён здатны на ўчынкі, якія не па сіле звычайнаму чалавеку» [2, № 2, с. 23], — пісаў пісьменнік. За заслугі ў бітве пад Кірхольмам Лісоўскі быў узнагароджаны Жыгімонтам Вазай III, яму надалі чын каралеўскага палкоўніка. Пасля бунту Зэбржыдоўскага супраць караля, ужо асуджаны на выгнанне, Аляксандр Лісоўскі ўступае ў войскі самазванага караля пад кіраўніцтва Яна Сапегі. Тут за свае заслугі ён становіцца палкоўнікам і ўзначальвае харугву, колькасць людзей пад яго кіраўніцтвам увесь час змянялася, бо далучаліся жыхары Маскоўскай дзяржавы, таму налічваюць да 3000 асоб. Аднак у першую чаргу вызначаюць 100 асоб, з якімі ён прыбыў з Кароны. Аўтар звяртае ўвагу на тое, што ў Рэчы Паспалітай да Лісоўскага далучаліся прадстаўнікі розных саслоўяў — шляхта, мяшчане, сяляне. Для іх гэта быў сродак жыць з вайны, быць вольнымі, стаць ваярамі, як патрабавала сармацкая культура, якая распаўсюджвалася ў той час у Рэчы Паспалітай, а таксама атрымаць шляхецтва за ваенныя заслугі, што назіралася не толькі ў харугве Лісоўскага. Для палкоўніка было галоўнае — смеласць, мужнасць яго ваяроў, таму ён не глядзеў на саслоўе сваіх салдат.

Найбольшую ўвагу надае аўтар апісанню аблогі войскамі Яна Сапегі, куды ўваходзіў і полк Лісоўскага, Троіца-Сергіевай лаўры, якая з'яўлялася асяродкам змагання супраць Лжэдзімітрыя і рымска-каталікоў, адсюль паступалі клічы да змагання за святую веру. Аднак аўтар тлумачыць аблогу манастыра тым, што там хавалі святыні Ордэна Святога Палемона — Залаты Човен Палемона і Ключ ад Трох Рэкаў, які прапанаваў адбіць і з гэтай мэтай увайшоў у войска Аляксандра Лісоўскага Марцін Жабыка-Жэмба — сцяганосец лісоўчыкаў.

Не згадваецца пісьменнікам з гістарычнай дакладнасцю эпізод ў аблозе, які паказаў жорсткасць і самаўпраўства палкоўніка Лісоўскага. Бачым і адрозненне ў паказе гістарычных падзей польскім гісторыкам Віснерам і Леанідам Дайнекам. Віснер піша, што, перахапіўшы абоз з порахам, які ішоў да манахаў на дапамогу, Лісоўскі прапанаваў пазбавіць галавы дваццаць палонных, якія былі ў абозе, гэта рабілася без ведама Сапегі. У выніку абаронцы таксама на вачах ў нападнікаў вывелі дваццаць палонных палякаў і пасеклі іх мячамі [8].

Л. Дайнека, адступаючы ад рэальных падзей, рамантызуе вобраз лісоўчыкаў, надае ім рысы нацыянальных змагароў. Пісьменнік гаворыць пра казакаў

пад кіраўніцтвам атамана Астанкава ў абозе, якіх выразалі і пераапрануліся ў іх адзенне, каб трапіць у лаўру з адзінай мэтай — забраць святыні палеманістаў.

Аднак непараўнаныя ў кавалерыйскіх сечах і безагляднай мужнасці, лісоўчыкі вылучаліся таксама жорсткасцю, авантурызмам і прагаю здабычы. Можна знайсці асобныя эпізоды ў рамане, дзе паказваецца крыважэрнасць і бесчалавечнасць Лісоўскага. Пры захопе горада Каломны Лісоўскі разам з бліжэйшымі паплечнікамі гвалціць баярыню, якая ў свой час здзекавалася з сваіх прыгонных служанак. Гэты ўчынак не ўхваляюць некаторыя яго ваяры. Таму гісторыкі называюць лісоўчыкаў — беззаконнымі, бо, трапіўшы ў гэтыя войскі, ваяры пераймалі дрэнныя звычаі і станавіліся аднолькавымі [8].

Як і ў кожным творы, для пісьменніка важны асобныя дэталі, якія адлюстроўваюць ідэі, ствараюць вобраз эпохі. Аўтар спыняецца на паказе горада Вільні, якой яна выглядала ў часы праўлення Жыгімонта Вазы. Гэта быў прыгожы багаты горад. Важную ролю адыгрывае апісанне шыбеніцы і слупа ганьбы, якія размяшчаліся побач з ратушай і адлюстроўвалі недаўгавечнасць чалавечага жыцця ў гэтую эпоху, калі яно магло абарвацца ў любую хвіліну. Вакол іх — кола гандлёвых крамаў, дзе чалавек мог набыць усё. Побач з ратушай, у цэнтры горада — шмат пастаялых двароў і бедных брудных корчмаў, дзе ўначы жыццё кіпела. У горадзе былі храмы ўсіх веравызнанняў. Але разам з тым паказваецца аўтарам проціпастаўленне беднаты, жабрацтва і багацця, бо чым глыбей уязджаеш у горад, сустракаецца больш багатых палацаў: «Палацы Хадкевічаў, Сапегаў, Пацаў, Вішнявецкіх. Велічныя. З граніту і мармуру. У атачэнні густых зялёных садоў. Сапраўдны зямны рай. Нават ён, магутны ўсясільны ўладар Нясвіжа (Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка — *Л. Т.*), ліцвінскі Крэз, прыцмокваў языком ад здзіўлення» [2, № 2, с. 42].

Акрамя гарадскога жыцця аўтар апісвае становішча, у якім аказаўся просты люд у час ваеннай аблогі, голаду, які спустошваў наваколлі. Як на тэрыторыі Рэчы Паспалітай, так і ў Масковіі было страшна спыняцца з абозам у чыстым полі, бо можна было чакаць нападу. А напасці мог хто заўгодна: пан са сваімі дворнымі людзьмі, найміты з Польшчы, Маравіі ці Сілезіі, пушкары, якія служылі ў замках Вялікага Княства і выраблялі зброю. Але з-за таго, што грошы ім выплачвалі дрэнна, яны выходзілі на навакольныя дарогі і рабавалі падарожнікаў, каб хаця б з гэтага пражыць. Аўтар, адлюстроўваючы вобраз крамешніка, з якім пазнаёміліся Гарткевіч з панам Залівакам на начлезе, згадвае полымя, якое асвяціла твар яго чырвоным, які здаўся крывавым. Гэтая дэталь падказвае чытачу, што гэта за чалавек. І сапраўды гэта быў адзін з людажэраў, які забівае падарожны люд. З прычыны голаду на Маскоўшчыне людзі шукалі, дзе здабыць ежу, таму было вельмі небяспечна спыняцца ў незнаёмых мясцінах: маглі не толькі абрабаваць, але і забіць. Аказаўся крамешнік Чорным Маскалём, пра якога хадзілі жахлівыя чуткі, нападаў ён уночы, магчыма, таму і атрымаў такую мянушку. Калісьці

служыў апрычнікам у Малюты Скуратовіча, таму зрабіўся бесчалавечным, трымаў у страху ўсю Масковію.

Леанід Дайнека паказаў змены ў адносінах да жанчыны, якія пачалі адбывацца ў часы праўлення караля Жыгімонта III. Раней да жанчыны ставіліся як да пяшчотнага, слабага стварэння, дэкаратыўнай кветкі, што вырошчваецца ва ўмовах раскошы і бяздзейнасці, якой можна ганарыцца, паказваючы яе саноўным гасцям у час баляў і прыёмаў. Такой ва ўяўленні нашых продкаў павінна была быць шляхцянка. Але ўжо ў XVI ст., якое ўвайшло ў гісторыю як «залаты век» мастацтва і культуры Рэчы Паспалітай, з’яўляюцца актыўныя жанчыны — каралевы, якія займаюцца палітыкай, гаспадарчымі справамі: Бона Сфорца, Ганна Ягелонка. У XVIII ст. становішча жанчын зусім змянілася.

Такія разважанні аўтара пра становішча жанчыны сустракаем ў творы, што гаворыць, магчыма, пра яго жаданне звярнуць увагу чытача, калі з’яўляюцца першыя незалежныя жанчыны ў гісторыі: «У Вялікім Княстве Літоўскім, як і ва ўсёй Рэчы Паспалітай жанчына на той час усё часцей пачала выходзіць з душных цьмяных пакояў, пакойчыкаў і кухняў на залітую яркім святлом авансцэну жыцця, дзе да гэтага ўладарнічалі адны мужчыны. Няхай такое надаралася толькі ў Вільні і Кракаве, між радавітай магнатэрыі, прыдворных, але паступова гэты звабны свежы вецер усё больш імкліва залётваў у аддаленыя маёнткі і маёнтачкі, туды, дзе на прадзедаўскай зямлі спрадвеку сядзела каранёвая шляхта. У жанчыне раптам убачылі тое, чым можна ганарыцца, што патрэбна абагаўляць» [2, № 2, с. 59].

Аўтар расказвае пра Сафію Даўгую, якая ў 1547 г. падчас рыцарскага турніру, зладжанага каралём Жыгімонтам Аўгустам, апранула баявыя даспехі і змагалася супраць шляхціцаў Гербута і Лашча. Створаны аўтарам вобраз перагукаецца з вобразам Жанны Д’арк. Менавіта на яе хоча быць падобнай Эльвіра Скаблінская — адна з гераіняў рамана. Яна смелая, рашучая амазонка, збегла з дому, каб наладзіць сваё асабістае шчасце, кахае Вітаўта Гарткевіча — беднага шляхціца, удаўца. Аднак бацька планаваў выдаць яе за былога суддзю — падкаморыя, старога Язэпа Кушлейку. Але дзяўчына пакахала маладзейшага, толькі з ім бачыць сумеснае жыццё, таму і ідзе насуперак бацькоўскай волі. Разам з Вітаўтам яна трапляе ў войска Лісоўскага. «Чаму між нашага народа не можа быць сваёй Жанны Д’арк і сваёй амазонкі», — гаворыць Аляксандр Лісоўскі [2, № 2, с. 63]. І паводзіць сябе Эльвіра не так, як шляхцянкі: зухавата скача на кані, махае бізуном, можа ўжыць грубае мужчынскае слова.

Адлюстроўваючы вобраз эпохі часоў Жыгімонта Вазы III, Леанід Дайнека звярнуўся да гістарычнага перыяду, які амаль не адлюстраваны беларускімі празаікамі. Гэты час заставаўся белай плямай у гісторыі. Аўтар паказаў неадназначны вобраз Аляксандра Язэпа Лісоўскага, да якога ставіліся ці як да антыгероя Смутных часоў у Маскоўскім княстве ці да жорсткага атамана казакаў. Пісьменнік прытрымліваецца пазіцый нацыянальнага рамантызму,

паказваючы палкоўніка смелым ваяром, які ўзначальваў войска беларускай кавалерыі-казацтва. Леанід Дайнека перадае палітычную сітуацыю, якая назіралася ў гэты час у Рэчы Паспалітай і Маскоўскім княстве, таму выразна адлюстраваны ўклад жыцця мірнага насельніцтва, якое мірылася з палітычнымі канфліктамі, што ахоплівалі Рэч Паспалітую і Маскоўскае княства, моцным голадам у Маскоўскім княстве, які пачаўся пасля смерці Барыса Гадунова. Па ўсёй Рэчы Паспалітай у гэты час квітнеў сарматызм, таму пісьменнік паказаў элементы гэтай культуры, звярнуўшы ўвагу на адзенне, выхаванне шляхты, традыцыі.

## Літаратура


1. Анталогія даўняй беларускай літаратуры, XI — першая палова XVIII ст./ Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т літ. імя Я. Купалы; [падрыхт.: А. І. Богдан і інш.; навук. рэд. В. А. Чамярыцкі]. — Мінск: Беларус. навука, 2003. — 1014 с.
2. Дайнека, Л. М. Пра лісоўчыка, злога хлопчыка: раман / Л. М. Дайнека // Дзеяслоў.– 2010.– № 1.– С. 15–75; № 2.– С. 13–76; № 3.– С. 13–66.
3. Костомаров, Н. И. Исторические монографии и исследования Николая Костомарова / Н. И. Костомаров. — Т. 1 Названый царь Дмитрий; Т.4: Смутное время Московского государства в начале XVII столетия 1604–1613. — Изд. 3-е, испр. и доп. — СПб: Изд. товар. М. О. Вольф.– 1883.– 446 с.
4. Крашэўскі, Ю. Кароль у Нясвіжы. 1784; Апошняя са слуцкіх князёў: гістарычныя аповесці / Ю. Крашэўскі. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2009. — 333 с. — (Скарбы сусветнай літаратуры).
5. Ластоўскі, В. Лесаўчыкі / В. Ластоўскі // Крывіч.– 1923.– № 1.– С. 24–25.
6. Праневіч, Г. Літоўскія Статуты і духоўная спадчына Льва Сапегі ў літаратуры і грамадска-палітычнай думцы Беларусі XIX — першай трэці XX стст. / Г. Праневіч // Вялікі канцлер Вялікага княства: (да 450-годдзя з дня нараджэння Льва Сапегі). — Мінск: І. П. Логвінаў, 2007. — С. 56–89.
7. Niemcewicz, J. U. Dzieje panowania Zygmunta III, króla polskiego, wgo xięcia litewskiego, ruskiego, pruskiego, mazow., knows., wołyńs., podols., podlas., smoleńs., siewiers., inflantsk. i czerniechowskiego, dziedzicznego króla szwedów, gotów i wandałów: z wizerunkami/ przez J. U. Niemcewicza. — Wytłoczono w Warszawie: Drukiem Zawadzkiego i Węckiego Uprzywileiowanych Drukarzy i Księgarzy Dworu Króla JMci Polskiego, 1819. — T. 2. — 1819. — 608 s.
8. Wisner, H. Lisowczycy / H. Wisner. — Warszawa, 1995. — 153 s.

**Наталля Русецкая**
(Універсітэт імя Марыі Складоўскай-Кюры, Люблін, Польшча)

# «NARODNY ALBOM»: БЕЛАРУСКАЯ І ПОЛЬСКАЯ РЭЦЭПЦЫЯ

24 студзеня 2018 г. пайшоў з жыцця Міхал Анемпадыстаў — беларускі мастак, дызайнер, паэт, культуролаг, мастацтвазнавец. Міхал Анемпадыстаў за сваё кароткае жыццё паспеў выдаць асобнымі кніжкамі два паэтычныя зборнікі «Атэкстацыі» (1998) і «Глыбока-глыбока на дне філіжанкі кавы» (2014), альбом «Колер Беларусі» (2017) і ў суаўтарстве з Лявонам Вольскім — п'есу «Narodny Albom» (2000, 2008). Але значнасць асобы творцы вымяраецца не толькі пералічанымі публікацыямі: усё жыццё ён нястомна ствараў «Каралеўства Беларусь» — тэкстамі песняў і перакладаў, культуралагічнымі эсэ, карцінамі, фотаздымкамі, паштоўкамі, плакатамі, вокладкамі кніг, выставамі. Акрамя ўсяго Міхал чытаў лекцыі, вёў аўтарскую калонку «Простыя рэчы» (2013) на сайце грамадскай арганізацыі «Будзьма беларусамі» і майстэрню «DIII: Дызайн як сродак камунікацыі» (2015), актыўна папулярызаваў беларускую культуру за мяжой, найперш у Польшчы.

На адкрыцці выставы Міхала Анемпадыстава «Колер Беларусі» (вясна 2017) этнакультуролаг і мастак Тодар Кашкурэвіч сказаў наступнае: «У 70-х — 80-х гадах мы мысьлілі культуралягічнымі праектамі. Гэта ўнікальнае пакаленьне, якое рэалізавалася ў літаратуры, культуралёгіі ды многіх іншых дысцыплінах. Міхал Анемпадыстаў — адзін з найбольш яскравых і вядомых прадстаўнікоў таго, нашага пакаленьня» [3].

На мяжы 80–90-х гг. ХХ ст. гэтыя культурныя і грамадскія праекты пачалі рэалізоўвацца. Развал Савецкага Саюза прынёс новыя спадзяванні і актывізаваў творчыя памкненні ініцыятыўных груп. Дастаткова згадаць таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», Таварыства вольных літаратараў, незалежніцкую арганізацыю моладзі «Талака», Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны, згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» — многія з іх істотна паўплывалі на культурнае жыццё Беларусі. У гэты ж час фарміруецца таксама беларуская рок-музыка, з'яўляюцца новыя радыёстанцыі, тэатральныя праекты.

На пытанне журналістаў: «Хто ён?», Міхал Анемпадыстаў адказваў: «Я перадусім дызайнер. Бо дызайн — гэта сінтэтычны від дзейнасці, які дапускае пранікненне ў іншыя віды дзейнасці. Нават калі я пішу, я шмат у чым застаюся дызайнерам. Праца дызайнера ўключае ў сябе і працу графіка, і працу з тэкстам, і безліч усяго іншага» [4].

Сярод гэтай «безлічы ўсяго іншага» Міхал актыўна ствараў тэксты для беларускіх рок-гуртоў, і яшчэ ў 1996 г. на «Рок-каранацыі» атрымаў узнагароду

«За асабісты ўклад у беларускую рок-музыку», а ў 2006 г. быў прызнаны «чалавекам года» на інтэрнэт-партале «TuzinFM». З 1997 г. Міхал Анемпадыстаў вядомы як аўтар культавага праекта «Narodny Albom», абранага «Альбомам года» на «Рок-каранацыі». Песні на словы паэта выконвалі такія гурты як «Новае неба», «N.R.M.», «IQ48» і інш.

Ідэя «Narodnaha Alboma» нарадзілася яшчэ ў 1994 г. Тады Міхал актыўна супрацоўнічаў з Касяй Камоцкай, салісткай «Новага Неба», але тэксты, якія пачалі з'яўляцца ў той перыяд, па словах самога аўтара, не надта пасавалі да стылістыкі гурта. Тады да праекта далучыўся Лявон Вольскі, адразу ўзнікла і назва. Да ўдзелу запрасілі таксама музыкаў з гурта «N.R.M.», «KRIWI» і інш.

Запіс альбома адбываўся на радыё «101.2», якое выходзіла ў эфір усяго 13 месяцаў, і ў верасні 1996 г. было закрыта, а студыя на пэўны час стала месцам сустрэч творчых людзей, захопленых ідэяй нацыянальнага адраджэння — музыкаў, літаратараў, журналістаў. Пад канец 1997 г. праца над праектам была завершана, фірма «Ковчег» выдала касету «Narodny Albom», а 28 снежня на сцэне Тэатра юнага гледача адбылася прэм'ера.

Усе ўдзельнікі праекта вельмі хваляваліся перад прэм'ерай, бо акрамя таго, што гэта быў першы публічны выступ, артысты прапаноўвалі гледачам містыфікацыю: тэксты альбома прадстаўляліся, як песні, якія спяваліся ў Заходняй Беларусі ў 1918–1939 гадах, а зусім нядаўна былі знойдзеныя ў сшытку на гарышчы старога дома. Аўтары і выканаўцы нібыта вырашылі вярнуць беларусам «згубленую спадчыну», тую частку музычнай культуры, якая ў савецкія часы была пад забаронай.

Хваляванні творцаў былі дарэмныя: песні-замалёўкі з жыцця міжваеннай Беларусі вельмі палюбіліся слухачам і трывала ўвайшлі нават у сямейныя рэпертуары. У тэкстах «Narodnaha Alboma» выступаюць прадстаўнікі розных слаёў грамадства: настаўнік, карчмар, кантрабандыст, музыка, паляўнічы, шпегі, вайскоўцы і інш. Побач з беларусамі прадстаўлены іншыя народы: палякі, рускія, габрэі — створаны шматкультурны і разнастайны свет Заходняй Беларусі, спадкаеміцы ВКЛ, які ў міжваенныя часы дажываў свае апошнія дні. У праект была ўключана старая габрэйская балада «Lomir zich iberbetn», аўтэнтычная пасляваенная застольная песня «Надзенька», якая выконвалася на рускай мове, але з беларускім вымаўленнем, і кароткая песенька на польскай мове. Актуальная для таго часу эміграцыйная тэма прагучала ў «Аргентынскім танга».

Па-майстэрску створаны вобраз несавецкай Беларусі быў прадуманы аўтарам-дызайнерам і прадэманстраваны ў праекце на розных узроўнях, у тым ліку і на графічным — на вокладцы назва альбому была напісана лацінкай. Сучаснаму спажыўцу культуры ненавязліва нагадвалася, што новая беларуская літаратура пачыналася з тэкстаў, друкаваных менавіта лацінкай — творчасць Францішка Багушэвіча і пазнейшых аўтараў, у дзвюх версіях выходзіла «Наша

Ніва», некаторыя часопісы і газеты ў Заходняй Беларусі, а пазней у эміграцыйных колах беларусаў у розных краінах свету, таксама друкаваліся лацінкай.

Яшчэ адным істотным момантам у гэтай прыдуманай Анемпадыставым Беларусі было тое, што ролю цэнтра выконвала памежнае мястэчка, у той час як Варшава, Мінск і Вільня заставаліся на перыферыі, у свеце амаль недасягальным, амаль нерэальным (краіне мараў), а тут — у цэнтры — бурапеніла жыццё: людзі сустракаліся і расставаліся, кахаліся, мелі інтарэсы, марылі пра нешта, рэхам ваенна-палітычных падзей праз мястэчка праходзілі атрады вайскоўцаў то ў адным, то ў другім накірунку.

Праект «Narodny Albom» быў наскрозь прасякнуты тым духам, ушчэнт вынішчаным савецкай уладай, які жыў калісьці ў шляхецкіх фальварках і невялікіх мястэчках, і нават сама назва была ў савецкія часы заменена «пасёлкам гарадскога тыпу» дзеля вынішчэння з народнай памяці мястэчка як элемента мяшчанскай буржуазнай культуры, з салонамі і новай на тыя часы формай тэатральнага жыцця — кабарэ, якая зараджалася ў міжваеннай Польшчы.

Уласна гэтую тэатральнасць і кабарэтнасць «Narodnaha Albomu» заўважыў рэжысёр Мікалай Пінігін і прапанаваў аўтарам праекта напісаць сцэнарый з мэтай стварэння на сцэне Купалаўскага тэатра музычнага спектакля. Такім чынам, у 1998 г. Міхал Анемпадыстаў і Лявон Вольскі напісалі п’есу «Narodny Albom», якая з розных прычын так і не з’явілася на купалаўскай сцэне. Аматарскую пастаноўку ажыццявіў у 2001 г. Уладзімір Колас разам з вучнямі Гуманітарнага ліцэя.

Варта адзначыць, што да ідэі пастаноўкі тыповага міжваеннага кабарэ Мікалай Пінігін вярнуўся пазней, натхніўшыся спектаклем «Perły kabaretu Mariana Hemara» варшаўскага тэатра «Rampa». Так, у рэпертуары «купалаўцаў» у 2012 г. з’явілася «Местачковае Cabaret» на падставе перакладзеных на беларускую мову тэкстаў Мар’яна Хемара, Юльяна Тувіма і інш. Стылістычна «Местачковае Cabaret» вельмі блізкае да «Narodnaha Alboma», нават запрошаны да ўдзелу ў спектаклі гродзенскі бард Віктар Шалкевіч нагадвае постаць «самотнага актора» ў выкананні Лявона Вольскага.

Адразу пасля прэм’еры ў 1997 г. артысты выступалі з «Narodnym Albomam» у Кіеве, Беластоку, Познані, Кракаве, Вільні, Ля Рош-Сюр-Ёне. Асобнай кнігай п’еса «Narodny Albom» выйшла ўпершыню ў Беластоку ў 2000 г. у дзвюхмоўнай версіі — па-беларуску і ў польскім перакладзе Аліны і Мікалая Ваўранюкоў [5]. У Беларусі тым часам выступы артыстаў адбываліся ўсё радзей, прозвішчы ўдзельнікаў пачалі трапляць у «чорныя спісы», некаторыя выехалі за мяжу, рэшта працягвала існаваць ва ўмовах «унутранай эміграцыі». П’есу «Narodny Albom» удалося выдаць у Мінску толькі ў 2008 г. накладам прыватнага выдавецтва «Медысонт» [1], а прэзентацыя кнігі і канцэрт з гэтай нагоды адбыліся ў мінскім клубе «Графіці» 19 чэрвеня таго ж года.

Яшчэ праз восем год 4 верасня 2016 г. «Narodny Albom» прагучаў у Падляскай філармоніі ў Беластоку ў рамках фестывалю «Wschód kultury / Inny

wymiar»; канцэрт быў запісаны тэлебачаннем «Белсат» і выйшаў у эфір у навагоднюю ноч. Арыгінальныя касцюмы для выступлення артыстаў з нагоды 20-годдзя праекта стварыла мастачка Алена Ігруша (заўважым, што менавіта яна распрацоўвала касцюмы і для спектакля «Местачковае Cabaret»). Пазней, таксама пры падтрымцы тэлеканала «Белсат», Сяргей Будкін зняў дакументальны фільм «“Narodny Albom”. Ненаўмысны шэдэўр».

У размове пра тое, як нараджалася ідэя праекта, Міхал Анемпадыстаў пералічваў такія крыніцы натхнення, як фільм Юліуша Махульскага «Vabank», канцэрт згаданага вышэй барда Віктара Шалкевіча, творчасць якога ўся наскрозь местачковая і заходнебеларуская з элементамі польскай і габрэйскай культуры, праект «Tata Kazika» польскага гурта «KULT», а таксама жыццё і творчасць польскага пісьменніка Сяргея Пясецкага. Аднойчы нехта з журналістаў запытаў Анемпадыстава, ці будзе які-небудзь працяг «Narodnaha Alboma», і аўтар адказаў, што такім працягам можна лічыць пераклад на беларускую мову і выданне твораў Сяргея Пясецкага («Запіскі афіцэра Чырвонай Арміі» 2005 г., пераклад Алеся Астраўцова; «Каханак Вялікай Мядзведзіцы» 2009 г. (1984), «Пяты этап» 2012 г., пераклад Фелікса Янушкевіча; «Жыццё раззброенага чалавека» 2014 г., пераклад Руслана Равякі; «Багам ночы роўныя» 2015 г., пераклад Алеся Пяткевіча; «Яблычак» 2018 г., пераклад Віктара Шукеловіча). Сваю місію творцы «Narodnaha Alboma» бачылі акурат у абуджэнні цікавасці беларусаў да праўдзівай гісторыі свайго краю, да скрэсленай савецкай уладай культурнай спадчыны несавецкай Беларусі.

Дарэчы будзе прыгадаць цытату з размовы Міхала: «Па-першае, “Народны альбом” — гэта любоў. Не проста ж так на вокладцы сэрца. Гэта любоў да свайго і тых цудаў, якое нясе ў сабе жыццё. Мэтай альбома было задаць перспектыву і каштоўнасць любові як стваральнага фактара. Гэта альтэрнатыва змагарству дзеля змагарства і таму негатыву, які вакол нас існуе, а часам намі ж самімі і ствараецца. Па-другое, вывесці людзей з дэпрэсіі і прапанаваць эмацыйную альтэрнатыву, замест дэпрэсіі — надзею. “Народны альбом” аптымістычны і вітальны. Па-трэцяе, “Народны альбом” паказаў, якой можа быць несавецкая Беларусь» [2].

Адным з першых тэкстаў, якія ўвайшлі ў «Narodny Albom», быў верш «Болек і Лёлек». Сярод іншых тэкстаў ён трапіў і ў перакладную польскую анталогію новай беларускай паэзіі «Za niebokresem Europy» (Białystok, 1998). Зборнік прапаноўваў польскаму чытачу наступныя вершы Міхала Анемпадыстава: «Радыё Сталін», «Пан Крот» (I) і (II), «Гадаванне Гадо» ў перакладах Яна Максімюка, укладальніка анталогіі. Дарэчы будзе згадаць, што дызайн вокладкі для анталогіі рабіў таксама Міхал Анемпадыстаў. «Пан Крот (I)» і «Радыё Сталін» былі вядомы ў той час беларускім слухачам як песні ў выкананні Касі Камоцкай, а ў беларускім перыядычным друку «Гадаванне Гадо», «Пан Крот (II)» і шэраг іншых вершаў Міхала з’явіліся на старонках «Нашай

Нівы» ці не ў першы і апошні раз у 1995 г. (№ 5, с. 4), калі рэдактарам быў Сяргей Дубавец.

Пра складанасць перакладу вершаў Анемпадыстава мы паразважаем у нашым артыкуле на прыкладзе дзвюх вядомых на сёння польскіх версій тэксту «Болек і Лёлек». Верш не мае рыфмаў, і гэта, з аднаго боку, значна палягчае працу перакладчыку, але з другога боку, варта памятаць, што гэта — песня, таму абсалютна неабходна ў мове перакладу захаваць рытмічны малюнак тэксту.

Прывядзем тэксты абодвух перакладаў цалкам:

Jesteśmy polskimi szpiegami,
*Bolek i Lolek, Lolek i Bolek,*
**Właśnie takie imiona mamy,**
*Bolek i Lolek, Lolek i Bolek.*

*W naszych kieszeniach mapy i lupy,*
*W naszych kieszeniach* zapałki i noże,
*W naszych kieszeniach fałszywe wizy,*
*W naszych kieszeniach* **podróbki wąsów,**

*W naszych kieszeniach* zatrute *cukierki,*
*W naszych kieszeniach mauzer z koltem,*
*W naszych kieszeniach* listy *partyjnych,*
*W naszych kieszeniach plany* zakładów,

*Uparcie kroczymy* **piaszczystym** *traktem*
**Z napadem, gwałtem, terroru aktem,**
*Patrzymy uważnie na mapy przez lupę*
Bo chcemy was *trafić* **dokładnie** *w dupę*
**Ogniową serią z dwóch luf.**

(Wawrzeniukowie)

My jesteśmy polscy szpiedzy,
*Bolek i Lolek, Lolek i Bolek,*
**Nierozłączni z nas koledzy,**
*Bolek i Lolek, Lolek i Bolek,*

*W naszych kieszeniach mapy i lupy,*
*W naszych kieszeniach* noże, *zapałki,*
*W naszych kieszeniach fałszywe wizy,*
*W naszych kieszeniach* przylepne *wąsy.*

*W naszych kieszeniach cukierki* z trucizną,
*W naszych kieszeniach mauzery, kolty,*
*W naszych kieszeniach* spisy *partyjnych,*
*W naszych kieszeniach plany* zakładów.

**Przed nami prosty piaszczysty gościniec:**
**Atakiem na atak, sińcem na siniec!**
*Patzrymy na mapy przez nasze lupy,*
By *trafić* **wrogom dokładnie** w ich dupy
**Ognistą salwą błyskawic niechybnych.**

(Maksymiuk Jan)

Дзеля таго, каб было бачна наглядна, курсівам вылучаны даслоўны пераклад, звычайным шрыфтам надрукаваны нязначныя адхіленні ў форме, парадку слоў, тлустым — не зусім трапны, ці нават зусім далёкі ад арыгіналу пераклад, падкрэслена там, дзе абсалютна не пасуе да рытмічна-музыкальнага малюнку, то бок праспяваць гэта немагчыма.

Цяпер па-парадку. У першым радку перакладчыкам давялося ахвяраваць лічэбнікам «два», патлумачыць гэта можна неабходнасцю ўжываць у польскай мове дзеяслоў «быць» у цяперашнім часе, што абсалютна нехарактэрна мове беларускай: *Мы — два польскіх шпіёны [my jesteśmy dwójką polskich szpiegów] / Jesteśmy polskimi szpiegami / My jesteśmy polscy szpiedzy*. Магчыма, можна было

пакінуць *два*, але выкінуць *польскіх*, тым больш, што тэкст перакладаецца на польскую мову, а Болек і Лёлек — постаці з польскай культурнай прасторы.

Наступны радок, на які варта звярнуць увагу ў арыгінальнай версіі, выглядае наступным чынам: *Запомніце нашы імёны*. У ім выяўлены зварот да пэўнага адрасата: дзеяслоў *запомніць* ужыты ў загадным ладзе, за кошт чаго актуалізуецца міжасабовая інтэракцыя герояў верша з умоўнымі адрасатамі. Што замест гэтага мы маем у польскіх перакладах? *Właśnie takie imiona mamy* — звычайная канстатацыя факту: вось такія ў нас імёны. У той час, як беларускі арыгінал заклікае запомніць імёны, што гучыць як папярэджанне, і ўказвае на наяўнасць магчымай небяспекі. У варыянце *Nierozłączni z nas koledzy* цалкам губляецца характар «пагрозлівага звароту-папярэджання», і ён гучыць як дзіцячая песенька, што, безумоўна, адсылае нас да мультыплікацыйнага фільма пра прыгоды Болека і Лёлека. У той час як камічны эфект беларускага верша трымаецца на выразнай антанімічнасці постацяў: смешныя героі дзіцячага мультфільма «ператвараюцца» ў небяспечных шпіёнаў. Гэты элемент пераўвасаблення падтрыманы таксама выразам *вусы-самаклейкі*. Адразу заўважым, што ў польскіх перакладах лепш выглядае версія *przylepne wąsy*, бо варыянт *podróbki wąsów* увогуле не ўжываецца.

Далей можна адзначыць, што перакладчыкі мелі клопат з *пыльным трактам*, замяніўшы яго *piaszczystym*, пры гэтым Ваўранюкі захавалі больш ваяўнічы ў самім гукапісе *тракт*, а Максімюк выкарыстаў слова *гасцінец*, больш лагодны і нават «вяскова-ідылічны» не толькі на гукавым, але і на семантычным узроўні.

Наступным складаным для перакладу аказаўся радок — *Напад за нападам, тэракт за тэрактам*. У версіі Ваўранюкоў замест двойчы паўтораных нападаў і тэрактаў, якія нібыта ідуць адзін за другім, выкарыстаны дапоўнены *гвалтам* шэраг-пералік: *Z napadem, gwałtem, terroru aktem*. Дзякуючы гэтай замене тэкст набывае большую «ваяўнічасць» у параўнанні з арыгіналам, дзе напады і тэракты мелі хутчэй гумарыстычнае гучанне. Дэкларацыя пра напады і тэракты польскіх шпіёнаў з такімі імёнамі як Болек і Лёлек не можа гучаць цалкам усур’ёз (зрэшты, сам тэкст мае сатырычны характар), а выкарыстоўваецца лірычнымі героямі хутчэй з мэтай «застрашыць». Чытач / слухач разумее законы гульні і ўспрымае гэтыя «злачынствы» на роўні з «вусамі-самаклейкамі», разумее, што героі верша больш «здаюцца» небяспечнымі, чым «з’яўляюцца» насамрэч. Максімюк жа прапаноўвае амаль біблійны варыянт «вока за вока»: *Atakiem na atak, sińcem na siniec!*, прыўносячы ў тэкст перакладу актыўную прысутнасць другога ваяўнічага боку (які ў наступных радках вербалізуецца ў *ворагаў*), але збольшага гэта не выглядае занадта сур’ёзна і крыху нагадвае дзіцячыя бойкі.

Тым не менш, у арыгінальным тэксце «ворагі» адсутнічаюць на лексічным узроўні. Можна хіба што здагадацца, што напады і тэракты будуць

Праўленне БСС выбранае ў лютым 1927 г. было адмененае ў новым акадэмічным годзе — 20 лістапада. Старшынёй стаў Тодар Куніцкі — студэнт медыцыны[1]. 13 сакавіка 1928 г. падаўся ў адстаўку. Заступіў яго Ігнат Гагалінскі і ў праўленні зноў паявіўся А. Бартуль [26]. 20 кастрычніка 1928 г. новым старшынёй БСС стаў Міхась Тулейка (студэнт права), а Аўген Бартуль — скарбнікам[2]. Вясной 1929 г. праўленне БСС поўнасцю абнавілася, а ў выбарах 11 мая 1930 г. старшынёй стаў Кастусь Глінскі, а сакратаром — А. Бартуль[3]. Наступныя выбары адбываліся 3 мая 1931 г, калі А. Бартуль скончыў ужо навуку ў Віленскім універсітэце. Старшынёй БСС стаў тады Барыс Арэнь з матэматыка-прыродазнаўчага факультэта[4]. У БСС бачны стаў ідэалагічны падзел — на частку хадэцкую і левую. Расказваў пра гэта Вінцук Склубоўскі, пісалі ва ўспамінах былыя студэнты [35].

Разглядаючы дзейнасць БСС варта згадаць, што перыяд 1928–1931 быў надзвычай плённы. У гэтым часе выйшла 7 нумароў часопісу «Студэнская думка», у якім свае вершы публікаваў таксама А. Бартуль. Часта паяўляліся яны на першай старонцы. 20 снежня 1927 г. у арганізаванай рэдакцыйнай калегіі «Студэнскай Думкі» апынуўся побач з Ігнатам Гагалінскім, Міхасём Тулейкам, Г. Вялецкім і Янам Шутовічам [25].

28 лютага 1928 г. у сядзібе БСС адбыўся літаратурны вечар, на якім сваю творчасць прадстаўлялі маладыя паэты, між іншымі: А. Бартуль, Усевалад Шыран, Міхась Тулейка, Міхась Васілёк [26]. У 1930 г. студэнты пачалі святкаваць угодкі Слуцкага паўстання 1920 г. З гэтай нагоды А. Бартуль напісаў верш «Бура». Святкаваліся ўгодкі Беларускай народнай рэспублікі, адбываліся лекцыі. 23 лістапада 1930 г. у актавай зале Снядэцкіх урачыста святкавалі 10-ыя ўгодкі БСС — А. Бартуль прадставіў гісторыю студэнцкага беларускага руху ў Віленскім універсітэце. На здымках БСС з 1928–1931 з лёгкасцю можна прыкмеціць А. Бартуля. На здымку БСС з 1930 г., якога ніколі не бачыла, Анна Бартуль адразу знайшла свайго бацьку — сядзіць трэці злева ў цэнтральным радзе.

Чаму так раптоўна пазней падзяліўся і заняпаў беларускі студэнцкі рух? Ці прычынай маглі быць падзеі, звязаныя з працэсам Беларускай сялянска-работніцкай «Грамады» і зменай курсу польскіх уладаў да беларусаў у Польшчы? Існавалі ўрэшце непаразуменні і амбіцыі паміж дзеячамі БСС і розныя ўплывы з розных бакоў.

Легальнасць выбару новых уладаў БСС 3 мая 1931 г. была абвержана часткай студэнтаў, якія напісалі пратэст да куратара БСС — прафесара Стані-

---

[1] LCVA, F. 175, Ap. 1 (IA), B. 556, L. 313.

[2] LCVA, F. 175, Ap. 1 (IA), B. 556, L. 299.

[3] LCVA, F. 175, Ap. 1 (IA), B. 556, L. 288.

[4] LCVA, F. 175, Ap. 1 (IA), B. 556, L. 287.

слава Владычкі з патрабаваннем адхіліць важнасць сходу. Сярод падпісантаў пратэсту былі: Аўген Бартуль, К. Глінскі, Станіслаў Станкевіч, Міхась Маркевіч, Ян Зэнюк, Зоя Каўшанка [10, ч. 1, с. 63]. Прафесар Владычка аднак не прызнаў ані сходу, ані выбараў нелегальнымі. Тады паўстала думка пра новую студэнцкую арганізацыю — апалітычную і беспартыйную, з моцнымі унутранымі сувязямі паміж членамі.

Так 19 мая 1931 г. заснавалася карпарацыя «Скарынія» («Scorinia»), зарэгістраваная 12 чэрвеня [31, с. 138]. Першапачаткова ў ёй было 22 члены. 16 чэрвеня 1931 г. адбыўся сход заснавальнікаў карпарацыі дзеля перавыбараў уладаў. Старшынёй стаў К. Глінскі, а А. Бартуль — сакратаром праўлення [31, с. 138]. Студэнты, якіх адсунулі ад улады ў БСС, знайшлі месца ў новай карпарацыі. Падтрымлівалі іх дзеячы Цэнтрасаюзу: Антон Луцкевіч, Радаслаў Астроўскі і Антон Нэканда-Трэпка. Апошні з іх нават сцвярджаў, што карпарацыя была заснаваная Цэнтрасаюзам — Цэнтральным саюзам культурных і гаспадарчых арганізацый, заснаваным у сярэдзіне 1930 г., які спрабаваў шукаць кампрамісу з польскімі санацыйнымі уладамі [31, с. 138].

Тамаш Блашчак і Патрык Тамашэўскі ў артыкуле пра карпарацыю «Scorinia» сцвярджаюць, што «dodatkowym impulsem do powołania korporacji miało być wynegocjowanie przez R. Ostrowskiego porozumienia z polskimi władzami w sprawie zatrudnienia kończących studia prawników Białorusinów w polskich instytucjach państwowych» [31, с. 138].

Нягледзячы на сапраўдную прычыну заснавання, мэтай карпарацыі «Scorinia» меў быць яе пазапартыйны характар, у якой члены былі б больш інтэграваныя арганізацыйна. Так прынамсі ўспамінаў адзін з заснавальнікаў — Леанід Галяк [10, ч. 1. с. 63]. Пісаў ён таксама, што да непаразуменняў у БСС дайшло на фінансавым грунце: БСС знаходзілася пад уплывам Р. Астроўскага (дырэктара Віленскай беларускай гімназіі і члена Цэнтрасаюза), атрымлівала штомесячную фінансавую падтрымку ад Центрасаюза на дапамогу бедным студэнтам. У сувязі з тым, што патрабуючых было больш, чым сродкаў, на гэтым фоне даходзіла да канфліктаў у БСС. Фінансава падтрымлівала БСС таксама Магдалена Радзівіл са Швейцарыі. Паводле Леаніда Галяка, яе ліст з інфармацыяй пра перасланыя грошы, выпадкова знойдзены ў БСС, выклікаў найбольшую буру сярод студэнтаў [10, ч. 1. с. 62]. Гэтая справа шмат разоў вярталася на сходах, але не была канчаткова выяснена, а грошы не знайшліся, хаця меліся іх атрымаць ў 1930 г. С. Станкевіч і А. Бартуль. Гаварылася тады, што яны «прагулялі іх па кнайпах» [10, ч. 1. с. 62].

У карпарацыі «Scorinia» знайшліся актыўныя студэнты, перадусім з Факультэта права і грамадскіх навук Віленскага ўніверсітэта. У пачатку 1931–32 вучэбнага года ў прэзідыуме карпарацыі былі: К. Глінскі як старшыня, а А. Бартуль як яго наменнік [31, с. 140; 32, с. 33]. Лозунгам іхняй ідэалогіі было: «Labor omnia vincit» — «Праца ўсё пераможа» [31, с. 140].

Прэсавым органам карпарацыі стаў часопіс «Novaja Varta», які выдаваўся лацінкай. У першым нумары за 1931 г. былі прадстаўленыя мэты: «Naša časapiś — heta časapiś maładych, maładych nia tolki fizyčna, ale i duchova. <...> Duch musić adnak-ža panavać nad materyjaj, praca ŭ imia mo' dalokich rezultataŭ, u imia mo' dalokich ideałaŭ musić ažyciaŭlać studenstva ahułam, a tym bolš studenstva biełaruskaje, prad jakim jašče na paradku dnia staić praca nad realizacyjaj ideałaŭ Biełaruskaj Nacyj i jakoje musić bolš uporysta vieści baraćbu za panavańnie Ducha suprać ahulnaje materjalizacyi biełaruskaha hramadzianstva. Nieabchodnaść hetaha vielmi vostra ŭstaje pierad nami i dziela taho jašče, što z paza niedalokaha savieckaha kardonu čas ad času danosiacca da nas atrutlivyja pavievy, jakija zaražajuć dušu našaje moładzi, tvoračy duchovych invalidaŭ, zhublenych dla biełaruskaj spravy. Z hetym źjaviščam treba zmahacca, i voś prad studentam biełarusam ustaje problema samavychavańnia na zdarovych asnovach. Prad nami vialikaja i šeraja praca. Dziela hetaha biełaruskaja studenskaja korporacja Scorinia uziała za svoj deviz skaz starych rymlanaŭ: «Labor omnia vincit!» A nieabchodnaść tvorčaje, razumna pradumanaje pracy mocna adčuvajecca siańnia na biełaruskaj nivie, u chvilinu ciažkaha kryzysu, ahulnaha časovaha zaniapadu i źniavierańnia. <...> Biazzumoŭna vartaść maje tolki dobra zarhanizavanaja adzinka, a takoj źjaŭlajecca jakraz na studenskim hruncie korporacyja: jana, dziakujučy specyfičnym arhanizacyjnym formam, daje šyrokija mahčymaści da hramadzkaha zdyscyplinavańnia, vyrableńnia charaktaru, pačućcia salidarnaści i abaviazku miž siabrami. <...> Zadaniem studenta naahuł, a biełarusa tym bolš, źjaŭlajecca, vyniaści z universytetu, paza čysta navukovymi vartaściami, hramadzkaje vychavańnie, zdolnaść da samadzielnych vyvadaŭ, da sužyćcia z inšymi adzinkami, da pačućcia ŭłasnaje hodnaści i pašanavańnia inšych. <...> Studenskaja arhanizacyja pavinna zakinuć u dušu svajho siabry ziarno kanstruktyŭnaha elementu žyćcia, — pačućcio salidarnaści, sacyjalnaje ŭzajemazaležnaści, jak maralnaje idei, i dać jamu abapiortuju na hetaj idei systemu hramadzkaha sužyćcia ŭ imia supracoŭnictva adzinak, hrupaŭ i hramadzkaściaŭ na padstavie razumnaje i šlachotnaje kankurencyi pracy. U hetym kirunku i musić pajści praca našaj arhanizacyi, kab dać u budučyni biełaruskamu hramadzianstvu i dziaržavie vartaściovuju adzinku, śviedamuju svaich pravoŭ i abaviazkaŭ i lojalnuju da sucelnaści ŭ svaich imknieńniach i pracy. <...> Studenskija arhanizacyi musiać supracoŭničać sa svaim starejšym hramadzianstvam, a tym bolš biełaruskija. Starejšaje hramadzianstva musić dać nam svajo žyćciovaje daśviedčańnie: my budziem vučycca ad ich, na ich dasiahnieńniach i ich pachibach. <...> Z inšymi biełaruskimi studenskimi arhanizacyjami my budziem utrymovyvać ciesnuju łučnaść u imia supolnych nacyjanalnych ideałaŭ, a taksama budziem utrymovyvać i tavaryski kantakt z studenskimi arhanizacyjami inšych nacyjanalnaściaŭ, dobraje voli ŭ adnosinach da nas, supracoŭničajučy z imi ŭ ramach supolnych intaresaŭ. A ahułam na pytańni, jakija pastavić prad nami žyćcio, pastarajemsia adkazać našaj pracaj, adkidajučy ŭsialakaje palitykanstva, vychovyvajučy najmałodšych

i pracujučy nad samavychavańniem i vytvareńniem miž maładoj biełaruskaj intelihencyjaj ciesnaje braterskaje suviazi, etyčnaści ŭ pastupkach i ŭzajemnaha zrazumieńnia, nia hledziačy na mahčymuju i całkom zrazumiełuju ŭ radoch studenskaj moładzi rožnicu śvietapahladaŭ» [30].

А. Бартуль напісаў гімн карпарацыі, да якога музыку склаў Альбін Стэповіч:

Da pracy, braćcia, jak adzin
I śvietłaj budučyni dni
Pryjduć ŭ adkaz na tvorčy ŭzdym,
Skavanyja ŭ śviatym ahni.
Dla biełaruskaje ziamli
Nia straša šerań pracy nas, —
My siły addadziem svaje
Za pieramohi śvietły čas.[1]

Заснаванне карпарацыі негатыўна прынялі ўлады БСС, якія пазбавілі сяброўства ў арганізацыі карпарацыяністаў. Закідалася ім алкагалізм, прадажніцтва і разбіванне студэнцкай арганізацыі. Да гэтага спрычыніліся яшчэ персанальныя канфлікты, пра якія ўспамінаў Л. Галяк. Быццам бы А. Бартуль зняважыў Станіслава Станкевіча на ганку Віленскай беларускай гімназіі, што знайшло адлюстраванне ў гумарыстычным вершы:

Жэня даў па твары,
А Стасеньку сьніцца,
Што яго цалуе
Мілачка С.....а.
Эх ты, Стасік, Стасік,
Якая-ж ты баба.
Скажа «сэндзя гродзкі»:
«Білі вас заслаба» [10, ч. 1, с. 75].

А. Бартуль, які падпісваў свае вершы «Auhień Bartul» або «A. B.» быў прыняты на Факультэт права і грамадскіх навук Віленскага універсітэта 12 кастрычніка 1927 г. 30 чэрвеня 1931 г. стаў магістрам права (АБ, Dyplom). Тое, што на працягу чатырох гадоў навукі закончыў права, дзейнічаючы актыўна на студэнцкай і літаратурнай ніве, ёсць доказам, што да навукі адносіўся дастаткова сур’ёзна — магчыма таму, што самая блізкая сям’я была за мяжой — у Латвіі і не было на каго спадзявацца. З яго дзейнасцю ў беларускім студэнцкім руху звязаная таксама літаратурная творчасць, якая публікавалася ў беларускіх часопісах у Вільні. Ён миж іншым пераклаў на

[1] Novaja Varta. — 1931. — № 1. — С. 1.

беларускую мову «Gaudeamus» [7, с. 180]. У часопісе «Студэнцкая думка» на тытульнай старонцы быў змешчаны яго верш «Бацькаўшчыне»:

Для Цябе збудаваў я аўтар ў сваім сэрцы,
У вопратку казак прыбраў я яго,
Для цябе, што стагнала ў чужой паняверцы,
Што зьнявагі цярпела й ад сына свайго.

Прад абліччам Тваім я схіліўся ў пакоры,
Прад вяліччам Тваім, прад цярпеньнем Тваім,
І душа бунтавала, як хвалі на моры,
Дый сьпявала ўскрашэньню Твайму, Маці, гымн.

Даражэйшае шчасьце Тваё мне за волю,
За ўсялякія скарбы зямлі, за жыцьцё,
Бо і што-ж мне жыцьцё ў параўнаньні з Табою,
Ты ўладар майго сэрца, маё багацьцё.

І я вырву бунтарнае сэрца ў ахвяру
Дый злажу я яго на Твой слаўны аўтар.
Потым вып’ю спакойна прызначаньня чару,
Дык прыймі маё сэрца, вазьмі яго ў дар! [4]

Гэтыя поўныя патрыятызму словы былі своеасаблівым жыццёвым крэда маладога 20-гадовага студэнта А. Бартуля. Прыкладам патрыятызму быў таксама верш «25.III.18 — 25.III.28», напісаны з нагоды 10-ых угодкаў Беларускай народнай рэспублікі:

Завіхрылася буйна мяцеліца,
Віхры з посьвістам уздымаліся
І чырвоная ймгла ўсюды сьцеліцца,
Песьні вольныя раздаваліся.
Бура коціцца; віхар гудам гудзе.
Зямля-матанька ўздрыганулася,
А мяцеліца адно знае, мяце;
Сіла вольная скалыхнулася.
Ўжо народаў турма развалілася,
Над краінамі, над прасторамі,
«Воля вольная ўсім»! Пракацілася,
Загудзела яна над разорамі.
Воля вольная завітала для ўсіх
І будуюцца зруйнаваныя.

Беларусе, уставай! не адстань ад усіх.
Уставайце, браты катаваныя! [3]

У чэрвеньскім нумары «Студэнскай думкі» за 1930 г. была змешчаная наступная інфармацыя: «У восені сёлятняга году прыпадаюць пятыя ўгодкі паэтыцкае творчасьці <…> Аўгена Бартуля. Да гэтага вялікага для нас і для яго сьвята ўжо друкуецца зборнік яго найлепшых мастацкіх твораў. Зборнік займець каля 250 старонак друку» [24, с. 37]. Аднак па нейкай прычыне такі зборнік не паказаўся друкам.

Хутка грамадска-палітычная рэчаіснасць пачала ўплываць на далейшы лёс А. Бартуля. Адносіны польскіх уладаў да беларусаў не мяняліся на лепшае. Наадварот — беларуская інтэлігенцыя, заангажаваная ў беларускі рух, пазбаўлялася працы або мела праблемы з яе атрыманнем. У выпадку А. Бартуля можна ставіць пытанні наконт яго вернасці ідэалам маладосці, асабліва калі ўзяць пад увагу канкрэтныя грамадска-палітычныя абставіны II Рэчыпаспалітай, а пасля — перыяду ваеннага і пасляваеннага. Яны найбольш уплывалі на жыццёвыя лёсы, пакідаючы бацькаўшчыну выключна ў сэрцы і да гэтага часта толькі на ўласную ўнутраную патрэбу. Шмат беларусаў з вышэйшай адукацыяй, якія актыўна дзейнічалі на беларускай ніве яшчэ ў II Рэчыпаспалітай, заставалася без працы, трапляла пад арышт.

А. Бартуль як студэнт Віленскага ўніверсітэта меў расійскае грамадзянства. 29 верасня 1931 г. ён склаў прашэнне ў Віленскае гродскае староства, каб пазбавіцца яго і атрымаць польскае грамадзянства (АБ, Oświadczenie E. Bartula do Starostwa Grodzkiego Wileńskiego, z dn. 29.09.1931 r.). Пісаў у ім, што ён польскага паходжання і лічыць сябе грамадзянінам польскай дзяржавы. 15 кастрычніка 1931 г. атрымаў акт прызнання грамадзянства (АБ, Akt uznania obywatelstwa E. Bartula, z dn. 15.10.1931 r.). Гэта адкрыла яму дарогу да кар'еры юрыста яшчэ ў міжваенны перыяд. 27 жніўня 1937 г. атрымаў пашпарт (АБ, Dowód osobisty E. Bartula z dn. 27.08.1937 r.).

Паводле службовага спіску А. Бартуля, захаванага ў хатнім архіве Анны Бартуль, 17 лютага 1932 г. старшыня Апеляцыйнага суда ў Вільні прызначыў яго нештатным суддзёй-стажорам (аплікантам) у Вільні (АБ, Wykaz stanu służby E. Bartula z dn. 13.091939 r.). 15 лістапада быў ён перанесены на платны штат Акруговага суда ў Вільні (з 1 снежня 1932 г.), а пастановай ад 10 кастрычніка 1933 г. — у Акруговы суд у Пінску — у аддзел у Брэсце над Бугам (з 1 лістапада 1933 г.). У днях 8–10 красавіка 1935 г. А. Бартуль здаў судовы экзамен перад Экзаменацыйнай камісіяй пры Апеляцыйным судзе ў Вільні на выдатна (celująco). Пастановай старшыні Апеляцыйнага суда ў Вільні ад 16 мая 1935 г. А. Бартуль быў перанесены 1 чэрвеня на штат Акруговага суда ў Вільні — на становішча сакратара Гродскага суда ў Свянцянах (АБ, Wykaz stanu służby E. Bartula z dn. 13.091939 r.).

19 мая 1936 г. Міністр справядлівасці паклікаў яго на судовага асэсара ў акрузе Апеляцыйнага суда ў Вільні. 3 чэрвеня 1936 г. ён стаў спаўняць абавязкі акруговага следчага суддзі ў Ашмяне, а 28 снежня 1936 г. — Гродскага суддзі ў Яшунах. Там таксама 12 студзеня 1937 г. быў прызначаны да кіравання Гродскім судом. 26 чэрвеня 1937 г. яму даручылі выкананне абавязкаў акруговага суддзі следчага ў Вільні (АБ, Wykaz stanu służby E. Bartula z dn. 13.091939 r.). 29 ліпеня 1937 г. прэзідэнт Рэчыпаспалітай прызначыў А. Бартуля суддзёй Гродскага суда ў Лунінцы, а 3 лютага 1938 г. старшыня Апеляцыйнага суда ў Вільні прызначыў яго на пасаду кіраўніка Гродскага суда ў Лунінцы.

Варта згадаць, што 23 кастрычніка 1934 г. у Бернардзінскім касцёле ў Вільні судовы аплікант А. Бартуль ажаніўся з Аннай Райчонак, народжанай 22 ліпеня 1906 г. у Паставах (АБ, Parafja Rzym-katolicka Kościoła Bernardyńskiego w Wilnie. Wyciąg z Księgi Ślubów, Wilno 24.10.1934 r.). Вядома, што яна была настаўніцай (па ўспамінах Б. Васыньчук, май 2017 г.).

Судовая аплікантура значна паменшыла актыўнасць А. Бартуля на беларускай і літаратурнай ніве, хаця надалей заставаўся ён у коле дзеячаў Цэнтрасаюза, якія ў 1932 г. заснавалі Таварыства беларускай асветы (ТБА) — 31 сакавіка 1935 г. стаў членам Рэвізійнай камісіі ў ім (гл.: Гадавы сход ТБА, 31.03.1935 [22, с. 4]).

У 1933 г. Хведар Ільляшэвіч, які вёў у часопісе ТБА «Родны край» «Літаратурны куток», пісаў: «Літэратурны Куток» у сувязі з «зацішшам» у поэтыцкай дзяльнасьці Аўгена Бартуля пытае яго зьдзіўлена: што з Вамі? і запрашае да супрацоўніцтва ў «Кутку». Ці-ж «ліра разьбітая»? [21, с. 8]

А. Бартуль тады якраз практыкаваўся ў Брэсце над Бугам і пераслаў рэдакцыі толькі некалькі вершаў. Тады таксама пачаў супрацоўнічаць з часопісам беларускай інтэлігенцыі «Калоссе», якое з 1935 г. рэдагаваў Ян Шутовіч. Публікаваў там публіцыстычныя артыкулы, падпісваючы іх «А. Бужанскі» або «А. Б-скі». З 1937 г. быў у складзе рэдакцыйнай калегіі як А. Бужанскі побач з Мар'янам Пецюкевічам, Хведарам Ільляшэвічам, Станіславам Грынкевічам, Адольфам Клімовічам, Міхасём Машарай, Анатолем Бярозкай, Міколам Шкялёнкам [16, с. 64]. Яго артыкулы мелі дачыненне да беларускай грамадска-палітычнай рэчаіснасці і да літаратурнага жыцця. У 1937 г. А. Бартуль пішучы пра М. Машару, сцвярджаў: «Усход ягонае зоркі прыпадае на пару дэзэрцыі Аўгеня Бартуля з нашага літаратурнага фронту. Быў час, калі Бартуля залічалі да авангарду, гэта быў кандыдат на народнага паэта. <...> Нядарма крытыка ставіла яго побач Уладыслава Бранеўскага. <...> Жыцьцёвыя нягоды ў форме легіону «młodych» і судовае аплікантуры адцягнула яго ад беларускага творства. І гэты без пары памёршы (для беларускай справы) паэт пакінуў сучасным толькі элегійны настрой і асірацелую «Князёўну» [9, с. 104].

Пачатак ІІ Сусветнай вайны застаў А. Бартуля, праўдападобна, у Лунінцы. Як падаваў у пасведчанні, выстаўленым 13 лютага 1941 г. Народным

камісарыятам унутраных спраў Літоўскай ССР, у Вільню прыбыў 15 верасня 1939 г. з Паставаў — з роднай мясцовасці ягонай жонкі (АБ, Удостоверение № 004815). Калі так было сапраўды, дык перад 17 вераснем 1939 г. спярша пакінуў Лунінец, а пасля Паставы, каб уцячы ад савецкіх уладаў у Літву. Тады яшчэ Літва была самастойнай дзяржавай і ніхто не думаў, што хутка стане яна савецкай рэспублікай. А. Бартуль падаваў, што у Вільні працаваў як канцэлярыст (АБ, Удостоверение № 004815).

У афіцыйным жыццяпісе з 1961 г. пісаў, што працаваў як гродскі суддзя ў Лунінцы да 17 верасня 1939 г., а пасля перанёсся ў Вільню да сваякоў і пэўны час працаваў там як рабочы. Далей пісаў: «Mając brata w Generalnym Gubernatorstwie w 1941 r. wyjechałem z Wilna i zamieszkałem początkowo u brata na terenie powiatu garwolińskiego, następnie przeniosłem się w 1942 r. do Krakowa i tam pracowałem w charakterze tłumacza» (АБ, Życiorys. Lębork, 14.09.1961 r.).

У хатнім архіве А. Бартуль захаваўся фрагмент ліста ад 20 лістапада 1941 г., пісанага да Анны і Аўгена Бартуляў з Вільні. На жаль, невядомым застаецца аўтар ліста, але з яго зместу вынікае, што была гэта асоба блізкая для А. і А. Бартуляў, з якой звязаныя былі іх віленскія лёсы ў гг. 1939–1941: «Kochani Hanko i Żeńka! Wczoraj otrzymałem od Was kartkę. Dzisiaj do mnie do biura zgłosił się p. Stephan z Katowic, który przed wojną wspólnie ze mną pracował, z kartką od p. Hindersina, żeby do Was napisać obszerny list, następnie dowiedzieć się o niektórych osobach, czy są w Wilnie. W kartce nie chciałem wymieniać, że NKWD Was szukało, a napisałem tak, żeby Wy mogli domyśleć się, że tylko o Was chodzi. Dnia 14.6. rozeszła się pogłoska po całym Wilnie, że przyjechał specjalny Oddział NKWD z Białorusi w celu wywożenia ludzi z Litwy. Niektórzy wierząc temu zaczęli się chować, w domach nie nocować. Tak już 13.6. pogłoska stała się faktem — NKWD o godz. 3 rano zaczęło dobijać się do naszej bramy, usłyszałem ja pierwszy. Otworzyłem trochę okiennicę. Widzę Oddział NKWD, wówczas zacząłem w mieszkaniu wszystkich budzić. Zaraz słyszę dzwonek do naszego mieszkania. Wyparli bramę. Sabina, gdy otworzyła drzwi, zapytuje: czego chcecie, a oni, kto tu żyje, wymienia nazwisko, trochę się uspokoili. Weszli do mieszkania, sprawdzili osobiste dokumenty u wszystkich obecnych. Następnie wybrali akta, dość grube, zaczęli się pytać o Was, powiedziałem, że wyjechali do Warszawy. Zaczęli uśmiechać się coś między sobą, spisali akt, przeprosili, że przerwali sen, a Sabina na to powiedziała, że wy nas «очень напугалі». A oni w śmiech: «Да чего пугаться». Całe szczęście, że nie zapytali, czy my jesteśmy krewnymi, bo mogli nas zatrzymać do wyjaśnienia sprawy. Tego dnia idąc po Wilnie, można było spotkać na każdym kroku ludzi przy samochodach, którzy żegnają się ze łzami w oczach ze swojemi krewnymi i sąsiadami może ostatni raz. Okropnie przygnębiające robiło wrażenie. Za dwa tygodnie mieli jeszcze więcej wywieźć ludzi, ale do tego czasu ledwie sami uciekli» (АБ, Ліст да А. і А. Бартуляў, Wilno, 20.11.1941 r.).

Далей аўтар ліста пісаў пра сітуацыю ў Вільні ў пачатку нямецкай акупацыі: «Niedawno Marysia wspólnie z Hajdukową przysłała nam z Postaw paczkę

(1½ puda mąki żytniej, 1 kg słoniny i kurę) przez szofera ze starostwa, który przyjechał do Wilna w sprawach służbowych. Pisze, że często choruje, ale naogół wszyscy żywi i zdrowi. W Postawach w porównaniu z Wilnem jest o 50% taniej, póki co produkty żywnościowe można tam dostać. Tylko najgorzej nie można tam pojechać. Po pierwsze wymagają przepustkę, a po drugie kolei od Podbrodzia do Królewszczyzny jeszcze nie uruchomiono. W Wilnie wszystko jest na kartki, chleba dają ¼ kg na osobę, ale teraz od 2 tygodni w Wilnie wcale nie ma chleba; masła 20 dk na tydzień, cukru 5 dk i inne produkty, wszystko nie więcej jak na (…. — нечыт.), po cenie za czasów waszych, licząc od 100% do 300% drożej. Prywatnie kupić po kryjomu u spekulanta — trzeba zapłacić za 1 kg masła albo słoniny mniej więcej 100 rub., za 1 kg chleba 10–12 rub., a teraz z powodu braku chleba na kartki dochodzi cena za chleb do 30 rub. za kg. Myśmy jakie mieli zapasy już wyczerpali. Dla zaspokojenia żołądka pozostaje tylko kartofel, zrobiłem dość duży zapas, brakuje tłuszczu, a prywatnie kupować nie wystarcza poborów. Pracuję w Głównej Dyrekcji w buchalterji, otrzymuję 850 rub., czyli 85 RM miesięcznie, ma w tych dniach wprowadzona nowa ustawa uposażeniowa — nie wiem ile będę otrzymywać. Język urzędowy niemiecko-litewski...» (АБ, Ліст да А. і А. Бартуляў, Wilno, 20.11.1941 г.) А. і А. Бартулі дзякуючы гэтаму лісту ведалі пра сітуацыю ў Вільні.

У 1961 г. А. Бартуль у афіцыйным жыццяпісе пісаў, што «w sierpniu 1943 roku byłem zmuszony rozpocząć ukrywanie się przed okupantem, zmieniłem nazwisko na «Zenon Wilczyński», przeniosłem się do Warszawy i tam pracowałem początkowo w D/H bracia Chodorowscy i S-ka, a następnie w Kopalnianej Spółce Opałowej w charakterze magazyniera. Cały okres Powstania przebyłem w stolicy, pracując w Rejonowej Delegaturze Rządu Warszawa Śródmieście-Południe w Dziale Świadczeń Wojennych. W dniu 5 października 1944 r. opuściłem Warszawę i zostałem wywieziony do obozu w Pruszkowie. Po wydostaniu się z obozu w Pruszkowie do wyzwolenia przebywałem w Krakowie pracując w charakterze furmana w Szkole Rolniczej w Bronowicach Wielkich» » (АБ, Życiorys. Lębork, 14.09.1961 г.).

На колькі сапраўдныя звесткі пра сябе падаваў А. Бартуль пасля вайны, цяжка даказаць. У хатнім архіве Анны Бартуль знаходзяцца дзве нямецкія «кенкарты» (распазнавальныя карты) — адна выстаўленая 17 снежня 1942 г. у Кракаве на А. Бартуля, народжанага 13 лютага 1908 г. у Ленінградзе, другая — 29 ліпеня 1943 г. на Зянона Вільчынскага, народжанага 13 жніўня 1906 г. у Даргелеве » (АБ, Kennkarte. Karta rozpoznawcza E. Bartula, Krakau, 17.12.1942 г.; Kennkarte. Karta rozpoznawcza Z. Wilczyńskiego, Garwolin 29.07.1943 г.). Чаму А. Бартуль скрываўся пад прозвішчам З. Вільчынскага і ці была гэта рэальная асоба, якая загінула падчас вайны? Даргелева знаходзіцца ў Латвіі. Сярод дакументаў па А. Бартулю знаходзіцца выпіска аб нараджэнні З. Вільчынскага, выдадзеная 20 лістапада 1940 г. пробашчам касцёла ў Прыдруйску і выпіска часовага пасведчання, выдадзенага 1 ліпеня 1931 г. Дэканатам Факультэта

права і грамадскіх навук Віленскага ўніверсітэта, пра заканчэнне навукі магістрам права З. Вільчынскім (АБ, Odpis wierzytelny. Odpis z metrycznej księgi Przydrujskiego R.Katolickiego parafialnego Kościoła o urodzonych za rok 1906, Przydrujsk na Łotwie, 20.11.1940 r.; Odpis. Świadectwo tymczasowe, Wilno, 1.07.1931 r.). З гэтага вынікае, што А. Бартуль і З. Вільчынскі былі з Латвіі, разам закончылі таксама права ў Вільні. Праўдападобна, пазней таксама падтрымлівалі між сабой кантакты. Магчыма, што былі яны нават сям'ёй. Магчыма да яго А. і А. Бартулі выехалі з Вільні ў 1941 г. Канчаткова нешта здарылася з З. Вільчынскім, калі ў канспіратыўных мэтах яго тоеснасць узяў сабе А. Бартуль.

У захаваным страховачным пашпарце, выдадзеным ў лістападзе 1942 г. З. Вільчынскаму, працуючаму з 1 кастрычнік 1942 г. у суполцы Яна Хадароўскага ў Варшаве, знаходзіцца здымак А. Бартуля, падпісаны яго характарам пісьма (АБ, Legitymacja ubezpieczeniowa Nr. 1108242 Wilczyński Zenon, listopad 1942 r.). Падобна таксама ў дзвюх кенкартах, хаця выстаўленых на дзве розныя асобы, знаходзяцца здымкі А. Бартуля. Можна дадумвацца толькі, што падчас нямецкай акупацыі ён існаваў пад дзвюма прозвішчамі. Напэўна карыстаўся кенкартай на прозвішча З. Вільчынскага 27 ліпеня 1945 г. у Кракаве, каб атрымаць дапамогу вышынёй 300 злотых у Ваяводскім аддзеле Дзяржаўнай рэпатрыяцыйнай управы (АБ, Kennkarte. Karta rozpoznawcza Z. Wilczyńskiego, Garwolin 29.07.1943 r.). Магчыма, гэтыя дзве кенкарты ўратавалі яму жыццё падчас вайны. Як З. Вільчынскі з 17 сакавіка 1944 г. працаваў у Варшаве ў Kopalnianej Spółce Opałowej.

Як пасля вайны сведчыў Людвік Лазарэвіч з Сопату, А. Бартуль браў «czynny udział w Powstaniu Warszawskim (pseudo Zenon Wilk). Jako pracownik Działu Świadczeń Wojennych Rejonowej Delegatury Rządu Warszawa Śródmieście Południe zabezpieczał on między innymi żywność, prowadził kolumny transportowe z zaopatrzeniem i był jednym z łączników Delegatury z Kwatermistrzostwem AK» (АБ, Oświadczenie L. Łazarewicza). Магчыма, такое і было, толькі што падчас вайны мужчыны не зналіся, бо Л. Лазарэвіч быў знаёмым другой жонкі А. Бартуля, якую той пазнаў у 60-ыя гады. Але ў пасляваенны перыяд шмат людзей добразычліва сведчыла пра розныя лёсы, пацвярджаючы гэта ранейшай знаёмасцю. А. Бартуль як юрыст быў свядомы адносна патрэбы дакументаў, якія пацвярджалі б яго ваеннае мінулае — на ўсякі выпадак, калі б нехта схацеў яму закінуць калабарацыю з немцамі.

У 1980 г., успамінаючы ваенны перыяд, гаварыў: «Zawierucha wojenna zagnała mnie do Warszawy. Tam brałem udział w powstaniu, a potem trzeba było zmieniać zawód, fałszować dokumenty, by ujść poszukiwaniom gestapo» [41].

Канец вайны застаў А. Бартуля ў Кракаве. У 1961 г. пісаў у жыццяпісе: «Po wyzwoleniu pracowałem początkowo w Krakowskim Urzędzie Wojewódzkim, a następnie w dniu 22 sierpnia 1945 roku zgłosiłem się do służby w wymiarze sprawiedliwości i zostałem mianowany sędzią grodzkim i kierownikiem Sądu w

Lęborku, woj. gdańskie» (АБ, Życiorys, Lębork, 14.09.1961 г.). У 1980 г. успамінаў: «Wolność zastała mnie w Krakowie. Tutaj 17 stycznia 1945 roku wstąpiłem do PPS. Miałem na stałe zostać w Krakowie, ale wezwano mnie do Warszawy i kazano organizować sądownictwo. Do Lęborka trafiłem przypadkiem. Tak wskazał mój ówczesny przełożony, wodząc... palcem po mapie i powiadając: O tu, mamy jeszcze jedną z „białych plam». Praca w Lęborku miała mieć charakter tymczasowy...» [41].

Сярод захаваных дакументаў знаходзіцца дзвюхмоўная (польска-руская) службовая камандзіроўка Міністэрства Справядлівасці ад 24 жніўня 1945 г. (СБ, Польская Республика Министерство Юстиции, Командировачное удостоверение, Варшава, 24.08.1945 г.) у Лембарк і ліст Міністра справядлівасці Lęborka: «Na prośbę z dnia 20 sierpnia 1945 r. przenoszę Obywatela na stanowisko Sędziego Sądu Grodzkiego w Lemborku w okręgu Sądu Apelacyjnego w Gdańsku. Jednocześnie powierzam Obywatelowi organizację oraz kierownictwo tegoż Sądu» (АБ, Rzeczpospolita Polska Ministerstwo Sprawiedliwości, Do Ob. Eugeniusza Bartula, Warszawa 24.08.1945 г.). У верасні пачаў працу ў Лембарку: «Nie było gdzie rozpocząć działalności, brakowało papieru, nie mówiąc już o todze, czy insygniach sędziowskich» [41]. Яго першай працай быў допыт чыноўніка канцэнтрацыйнага лагера ў Штутаве. А. Бартулю трэба было ўзяцца за арганізацыю працы суда і яго абсталяванне, удзельнічаць у акцыі ўвядзення парадку, судзіць шабраўнікоў і бандытаў.

Жыў з жонкай у доме па вуліцы Варыньскага 6 (тады Францысканскай), недалёка ад суда. А. і А. Бартулі былі бяздзетным сужонствам і таму маглі бязмежна аддавацца прафесійнай і грамадскай працы. На пераломе 40-ых і 50-ых ХХ ст. у Польшчы панаваў сталінізм. Праследаванні дайшлі і да асобы А. Бартуля. У партыйных дакументах пра сітуацыю ў Лембарку пісалася: «W aparacie sądowniczym siedzą dotychczas tacy ludzie jak: tow. Bartul Eugeniusz Kierownik Sądu Grodzkiego w Lęborku, który po rewolucji październikowej w Związku Radzieckim zwiał z Leningradu na tereny Wileńszczyzny, a po wkroczeniu Wojsk Radzieckich na Wileńszczyznę uciekł w okolice Krakowa, gdzie wstąpił do Z.W.Z., a następnie do A.K. w stopniu kpt. i nie ujawnił się w czasie amnestii, ponadto utrzymuje kontakt z byłymi członkami S.N. i W.I.N. Na terenie powiatu Lęborskiego uważany jest za aktywistę partyjnego i używany jest do robót partyjnych» (АБ, фрагмент (с. 17) машынапіснага невядомага партыйнага дакумента, у якім мова пра А. Бартуля).

Такая негатыўная ацэнка А. Бартуля партыйнымі органамі не паспрыяла яму. Хаця Міністэрства справядлівасці 14 снежня 1950 г., пераносіла яго — суддзю Гродскага суда з 1 студзеня 1951 г на становішча суддзі Павятовага суда ў Лембарку. 3 студзеня 1951 г. старшыня Апеляцыйнага суда ў Гданьску прызначыў яго намеснікам старшыні Павятовага суда ў Лембарку да часу паклікання старшыні таго ж суда. Што раптоўна магло здарыцца, калі А. Бар-

туль дэкрэтам Міністра справядлівасці ад 5 студзеня 1951 г. быў перанесены ў адстаўку (stan spoczynku) з 5 лютага 1951 г. і звольнены са службовых абавязкаў з 28 лютага 1951 г. (АБ, Pismo Prezesa Sądu Wojewódzkiego w Gdańsku z dn. 24.02.1951 r. o zwolnieniu E. Bartula od obowiązków służbowych).

1 сакавіка 1951 г. яго паклікалі на пасаду натарыуса ў Дзяржаўным натарыяльным бюро ў Лембарку, хаця такую намінацыю атрымаў ужо 11 мая 1946 г.: «powierzam pełnienie obowiązków notariusza w Lęborku» (АБ, Pismo Ministerstwa Sprawiedliwości z dn. 11.05.946 r.). А. Бартуль працаваў натарыусам амаль да канца свайго прафесійнага жыцця. У «Głosie Pomorza» ад 20 сакавіка 1980 г. можна прачытаць, што «w 1951 r. zmogła go ciężka choroba i na jakiś czas rozstał się z pracą zawodową. Jednakże niedługo potem wrócił do pracy by tym razem objąć funkcję notariusza. Praca była spokojniejsza, ale obowiązków nie ubywało: 30 tysiącom ludzi trzeba było odtworzyć dokumenty osobiste, metryki. W natłoku zawodowych obowiązków znajdował jeszcze czas na działalność społeczną. W sumie przez 25 lat był radnym powiatowej i miejskiej rady narodowej w Lęborku. Pełnił funkcje przewodniczącego i zastępcy MRN» [41].

У працы натарыуса дапамагала яму жонка Анна. Іхняя маладзейшая супрацоўніца і сяброўка Брыгіда Васыньчук успамінае А. і А. Бартуляў як вельмі згоднае сужонства: «Przyjeżdżało wówczas wielu repatriantów ze Związku Radzieckiego, wszyscy przychodzili z dokumentami do Notariatu. Pan Bartul, zamykał się gabinecie i pracował. Był także tłumaczem przysięgłym z języka rosyjskiego. Żona zbierała te dokumenty i mu przekazywała do tłumaczenia. Tego naprawdę było bardzo dużo».

А. і А. Бартулі не мелі ў Лембарку ніякай сям'і. Сябравалі з доктарам Аркадзем Махонькай, які ў 1951 г. прыехаў з Медыцынскай акадэміі у Гданьску на пасаду дырэктара Павятовага шпіталя ў Лембарку. Злучала іх супольнае мінулае — навука ў Віленскім універсітэце і дзейнасць у БСС. А. Махонька быў на 4 гады малодшы — нарадзіўся 26 кастрычніка 1912 г. у Юркаўшчыне Браслаўскага павету. У 1933 г. закончыў гімназію ў Дзісьне і пачаў навуку на Лекарскім факультэце Віленскага ўніверсітэта. Там уключыўся ў дзейнасць БСС, у якім раней дзейнічаў А. Бартуль. Дыплом лекара атрымаў у 1939 г. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у шпіталі ў Баранавічах. Пасля вайны асеў у Гданьску — быў асістэнтам у прафесара Карнэля Міхейды ў Хірургічнай клініцы Медыцынскай акадэміі (Успаміны Б. Васыньчук, май 2017 г.). Застаецца загадкай, ці раней яны ведалі адзін аб другім, ці выпадкова сустрэліся ў Лембарку.

У архіўных дакументах Інстытута нацыянальнай памяці ў спіску для пошукаў беларусаў у Польшчы знаходзяцца прозвішчы аднаго і другога[1].

---

[1] IPN BU 00231/228/3, к. 6, 23 (CD — с. 12, 29), Spis osób figurujących w sprawie.

Нават сярод аператыўных заданняў Службы дзяржаўнай бяспекі планавалася выкарыстаць А. Бартуля, каб дайсці да А. Махонькі. Магчыма, было гэта ўжо тады, як доктар жыў у Лембарку. А. Махонька быў там ардынатарам хірургічнага аддзялення і пададдзялення дзіцячай хірургіі. У 1961 г. выехаў ён у Познань, дзе ў 1966 г. пад кіраўніцтвам прафесара Рамана Дрэвса абараніў кандыдацкую дысертацыю ў галіне агульнай хірургіі. Памёр у Познані 20 снежня 1999 г. [33; 34, с. 67]. Пра сяброўства А. Бартуля з А. Махонькам успамінае Б. Васыньчук. Былі яны тады прадстаўнікамі эліты Лембарка. Пра А. Махоньку ўспамінае таксама дачка А. Бартуля, народжаная ў 1970 г., калі Махонькі жылі ўжо ў Познані.

12 снежня 1965 г. у сям'і А. і А. Бартуляў здарылася няшчасце — у выніку аўтамабільнай аварыі загінула Анна Бартуль. Як успамінае Б. Васыньчук «Pan Bartul bardzo to przeżył — bardzo kochał swoją żonę. W jego domu na honorowym miejscu zawsze wisiał jej portret, nawet jak po kilku latach ożenił z Jolantą Teresą Sadowską. Pogrzeb żony odbył się w Gdańsku, gdyż Bartulowie w Lęborku nie mieli żadnej rodziny, a w Gdańsku ktoś tam był, kto mógłby się opiekować grobami» (Успаміны Б. Васыньчук, май 2017 г.). Успамінала яна, што «Pan Bartul nie miał zamiaru zakładać nowej rodziny, ale potrzebował kogoś do pomocy w notariacie. Zwrócił się do Jadwigi Sadowskiej (urodzonej w 1910 r.), pracującej w sądzie, by mu pomogła. Jadwiga Sadowska nie chciała tam przejść, ale zaproponowała mu do pomocy swoją córkę Jolantę Teresę, urodzoną 1 stycznia 1940 r. w Kobryniu. Jej mąż Tadeusz zginął w Katyniu, a ona po zesłaniu do Kazachstanu po wojnie przyjechała z córką do Polski i osiadła w Lęborku» (Успаміны Б. Васыньчук, май 2017 г.). Іаланта Садоўская пачала працаваць у натарыяце. Праз некалькі гадоў, нягледзячы на розніцу ва ўзросце, яны ажаніліся. 22 ліпеня 1969 г. бралі шлюб у рыма-каталіцкім касцеле ва Уладыславове, а грамадзянскі — у Ястжэмбяй Гуры над морам. Абое не хацелі сенсацыі ў сваім горадзе. Шлюбныя пярсцёнкі купляла ім сяброўка Б. Васыньчук. Сведкам на шлюбе быў прафесар Вацлаў Давідовіч — сябра А. Бартуля з Гданьска, які таксама закончыў права на Віленскім універсітэце. 26 студзеня 1970 г. у І. і А. Бартуляў нарадзілася дачка Анна (АБ, Książka meldunkowa domu № 6 przy ul. Waryńskiego, lokal 1, w Lęborku). Б. Васыньчук успамінае, што «Pan Bartul oszalał na jej punkcie. Miał już prawie 62 lata!» (Успаміны Б. Васыньчук, май 2017 г.). Дачка атрымала імя ў гонар яго памералай жонкі. Пасля агульнаадукацыйнага ліцэя ў Лембарку вучылася інфарматыкі ў Гданьскай палітэхніцы, а пазней закончыла права ў Гданьскім універсітэце. Яна нічога не ведала пра беларускі перыяд дзейнасці свайго бацькі — ані пра літаратурную, ані пра нацыянальную дзейнасць. Наўрад ці пра тое ведала яго другая жонка. А. Бартуль з лёгкасцю распазнала свайго бацьку на групавых здымках БСС з 1928–1931 гг.. Успамінала, як нехта ў яе дзяцінстве хацеў напісаць кнігу пра яе бацьку, але той выкінуў аўтара з хаты. Яна гэта вельмі перажывала, таму

што ёй вельмі імпанавала, што хтосьці хоча напісаць кнігу пра яе бацьку. Не магла зразумець, чаму ён так непрыхільна аднёсся да аўтара.

Пераглядаючы хатні архіў А. Бартуль, удалося ў ім знайсці машынапісныя вершы на польскай мове. Магчыма, што іх напісаў А. Бартуль пасля смерці сваёй першай жонкі:

* * *

Uśmiechnięte,
Zadziorne, szczęśliwe,
niebieskie,
darzące pogodą
i szczęściem nawzajem.
Jakieby słowa znaleźć,
by mówić o Was ot tak po prostu,
mówić, mówić... tak bez patosu.
Mówić o Waszym blasku,
o Waszej zadumie,
o Waszym smutku
i Waszej radości,
o Was moje najmilsze
najdroższe
na zawsze zamknięte
OCZY.

* * *

Jeszcze jedna próba pogoni
szczenięca próba pogoni
za własnym, zwełnionym ogonem.
I krótki żałosny pisk,
bo to boli, boli nadal,
chyba źle się zrosło.
Łeb w łapy
i ciche, jękliwe skomlenie,
takie jak wówczas,
gdy w ciemnym kącie klęską się dyszało
i się wyło, cicho wyło
nad biednymi przetrąconymi łapami.
One już się zrosły,
lecz klęska jest klęską
jak pisk opon, zgrzyt hamulców

brzęk szkła
i trzask
pękającej blachy.

**«Verbleibe!»**

*Goethe*

Zbędny trud.
Nikt czasu nie zatrzyma umierania.
Z oblicza ziemi znika wszystko
to co żyje.
Pogódź się z naturą
i zacznij wolno wrastać w ziemię.
Minął czas kwitnienia.
Pomyśl...
Jakże żałosne kwiaty
na jabłoni w burym szumie
spadających liści na jesieni.
Żyć. Chcesz żyć.
Cóż — to nie odkrycie.
Doktor Faust się kłania
z kart pożółkłych.
Stare dzieje, ale one też się kończą.
Jaki sens ma opór.
Mówisz — dla zasady.
Łżesz!
Chcesz żyć. Za wszelką cenę.
Słuchać rytmu zwarjowanego serca
i krwi szumu narastającego burzą.
Śmieje się Mefisto: cha, cha, cha...
Spróbuj. Może ci się uda.
Przecież ktoś, może kiedyś...
Może akurat ty...
. . . . . . . . . . . . . .
Łżesz, Mefisto!
Krew powoli stygnie, ale stygnie.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Nikt czasu nie zatrzyma umierania.

Kuszenie
Odchodzimy kolejno

w czerń, w samotność i pustkę.
Popieleje krwi czerwień
i gasną płomienie.
Na zawsze łączymy się z ziemią.
Znika — ja —
Czyżby nicość?..
. . . . . . . . . . . . . .
Krótki rozbłysk
w głębiach kosmosu...
Patrz — gwiazda spada...
A przecież — nic się nie stało
choć to zmarł świat,
zgasło jakieś nieznane
życie.
I tak kolejno gasną w rozbłyskach
istnienia... nadzieje... tęsknoty.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Czy warto istnieć?..,
Szepce ktoś wątpiący.
Zgaś świecę nim się sama spali,
wejdź w ciemność.
Życie — przecież to rozbłysk
gasnącej gwiazdy i nic więcej.
Zniknij w wirze odwiecznym
wiecznej materii.
Z niej powołano Cię — więc
wróć do macierzy.
To takie proste.
Spróbuj...
I wracać nie zechcesz. Nie wrócisz.
Cóż... Może warto spróbować?...[1]

У 1980 г. у «Głosie Pomorza» напісана пра А. Бартуля: «Nic, czym żyło miasto i jego społeczeństwo, nie było mu obce. W każdym etapie społeczno-gospodarczego i kulturalnego rozwoju miasta miał swój swoisty udział i zasługi. Nie chce dziś o tym mówić, choć skoroszyt z dyplomami, pismami gratulacyjnymi, podziękowaniami, dowodami nadania odznaczeń państwowych za społeczną i zawodową robotę — jest opasłą dokumentacją jego życiorysu. Chętnie natomiast dzieli się wspomnieniami z czasów, gdy Lębork leczył wojenne blizny, a także refleksjami na temat dnia dzisiejszego miasta. — Tamte lata, a ten czas, to ogromny

[1] Вершы з хатняга архіва А. Бартуль.

skok we wszystkich dziedzinach — wspomina E. Bartul. — Proszę sobie na przykład wyobrazić, że pierwszym nowym budynkiem miasta, wybudowanym w 10 lat po wojnie była... portiernia szpitala miejskiego. Pamiętam, jak piętnaście lat temu (у 1965 г. — *Л. Г.*) wybudowano przy ul. Orzeszkowej drugi nowy budynek. Nie miało to przedsięwzięcie tzw. tytułu inwestycyjnego. Omal nie doszło do sprawy karnej» [41]. Успомненая папка сапраўды сведчыць пра надзвычай актыўную дзейнасць у пасляваенны перыяд жыцця А. Бартуля ў Лембарку: дыпломы, узнагароды, легітымацыі раднага, юрысконсульта, сябры Лембарскага паляўнічага гуртка, кіраўніка Дзяржаўнага натарыяльнага бюро, пасведчанне аб грамадзянстве ад 1 верасня 1948 г., намінацыі на розныя пасады.

31 ліпеня 1974 г. А. Бартуль адышоў на пенсію, хаця яшчэ актыўна працаваў прафесійна як юрысконсульт ў Ваяводскім прадпрыемстве каапературыўнага гандлю (WPHS) у Лембарку, у Заводзе № 2 у Лембарку Камбіната камунальнага будаўніцтва ў Слупску, у Каапературыве Інвалідаў «Перамога» («Zwycięstwo») у Лембарку. У пачатку 80-ых гг. яшчэ служыў грамадскасці ведамі вопытнага юрысконсульта, заверанага перакладчыка рускай мовы, дзейнічаў на грамадскай ніве.

У хатнім архіве А. Бартуль захаваліся таксама сямейныя дакументы прыватнага характару, м.інш.: карэспандэнцыя з часоў І Сусветнай вайны і пасляваенная. У Латвіі ў Русакове застаўся брат А. Бартуля — Валянцін. Калі яны знайшліся пасля ІІ Сусветнай вайны? У 1966 г. упершыню прыехаў ён у Лембарк з дачкой Рэгінай (АБ, Książka meldunkowa domu № 6 przy ul. Waryńskiego, lokal 1, w Lęborku). Пасля ў 1976 г. А. Бартуля адведала сям’я брата Валянціна — яго сыны Аўген і Уладыслаў з дзецьмі (АБ, Książka meldunkowa domu № 6 przy ul. Waryńskiego, lokal 1, w Lęborku). Ці А. Бартуль ездзіў у Савецкі Саюз, у якім да 1991 г. знаходзілася Латвія, дачка не прыпамінае.

А. Бартуль памёр у Лембарку 22 чэрвеня 1992 г. [37, с. 2]. Пахавалі яго пры галоўнай алеі на могілках, як належыць заслужанаму грамадзяніну горада. На пахаванні было шмат людзей. Жонка перанесла з Гданьска магілу яго першай жонкі і помнік, на якім быў надпіс на лацінскай мове: «Libere noc domine».

А. Бартуль памёр у дзень перад падпісаннем польска-беларускага трактата 23 чэрвеня 1992 г. Ці цікавіўся падзеямі ў Беларусі і яе адраджэннем на пераломе 80-ых і 90-ых гг. ды польска-беларускімі адносінамі? Цікава, што думаў на гэты конт? Магчыма, што быў настаўлены скептычна, як у 1936 г, калі крытычна пісаў пра беларускі нацыянальны рух і беларускую ментальнасць, якой закідаў «скромнасць» і палахлівасць: «У рэзультаце “скромнасьці” і нейкай палахлівай ментальнасьці піянераў адраджэньня 12-мільённага народу прайшло незаўважаным, тады, як прыкладам, вызвольны рух македонцаў, народу малога, знайшоў водклік у цэлым сьвеце. Найгоршым было тое, што нашаніўцы не навучылі беларуса распірацца локцямі, на нацыянальную рахманасьць — найбольш ад’емны бок беларускага характару — не зьвярнулі ні-

якай увагі» [8, с. 244]. Тады лічыў, што палякі ігнаруюць беларусаў перадусім з увагі на недахоп нацыянальнай салідарнасці: «1935 год. Польскія палітыкі беларускую справу знялі цалкам з афішы. У палітычных нэгацыяцыях беларусы ў рахунак не бяруцца» [8, с. 245]. Відаць А. Бартуль як праўнік выбраў прагматычны падыход да жыцця. Магчыма, вопыт яго вялікага заангажавання ў беларускі нацыянальны рух у гады яго найбольшага развіцця ў II палавіне 20-ых гг. XX ст. навучыў яго дыстанцыі да розных плыняў і спробаў беларусаў у змаганні за свае правы. І мабыць прагматычна палічыў, што не было спрыяльных умоваў дзеля ангажвання ў беларускую дзейнасць ў тадышняй рэчаіснасці. Падчас нямецкай акупацыі і пасля яе было яшчэ горш.

Па А. Бартулю мабыць не засталася належная яму памяць, але засталася яго паэзія, проза і адважная публіцыстыка. Шкада, што доўга яна была ў забыцці і толькі праз чверць стагоддзя пасля яго смерці дайшла ў зборніку да беларускага чытача, хаця А. Бартуль меў сур'ёзны шанс стаць класікам беларускай літаратуры. І не меў рацыі Максім Танк, калі ачарняў у сваіх «Лістках календара» двух авангардных беларускіх паэтаў А. Бартуля і Х. Ільляшэвіча. Іх творчасць сведчыць пра іх трываласць і прыгажосць, як напр. фрагменты паэтыцкай прозы А. Бартуля, напісанай у 1929 г. у гонар Івана Луцкевіча, якія зараз вельмі падыходзяць да яго самога: «...І ўспамінаецца той, хто ціха сьпіць у магіле, у сырое зямліцы. Цені памёршых снуюць прад вачыма, цені часамі так блізкія, родныя, цені людзей адышоўшых ад нас. Там, гэй далёка ў чужыне, у цёмнай магіле сьпіць Ён, змагар зямлі Беларускай і вецер асеньні напэўна дзьмухне ў магілу Ягоную, уздыхам радзімага Краю, песьню яму запяе аб Айчыне, песьню змаганьняў, мучэньняў і болю, песьню надзеі на лепшыя дні. <...> Раскажа Яму вецер асеньні ў песьні жудлівай, як цяжка яшчэ нам жывецца, раскажа, як шэрань, імгла спавівае прасторы, паскардзіцца ціха Яму» [1, с. 4]. Можна толькі шкадаваць, што ненайлепшыя польска-беларускія адносіны ў 1930-ыя гг. прычыніліся да засакрэчвання А. Бартулем сваёй беларускай творчасці дзеля спакойнай кар'еры юрыста. Пасля II Сусветнай вайны можна было толькі марыць пра правы беларусаў у Польшчы. Асабліва даваенныя і ваенныя беларускія дзеячы, якія апынуліся ў Польшчы, вымушаныя былі адрачыся ад сваёй нацыянальнасці, або нават дзеля выжывання супрацоўнічаць з органамі дзяржаўнай бяспекі. Паўстанне ў 1956 г. Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку не прыцягнула да сяброўства ў ім даўніх дзеячаў, такіх як А. Бартуль. Створанае Міністэрствам унутраных спраў Польшчы, служыла таксама яго мэтам, а для маладых дзеячаў беларускіх стала на доўгія гады (да 1990-ых гг.) адзіным магчымым форумам дзейнасці на беларускай ніве ў Польшчы.

## Архівалii

**АБ —** Хатні архіў А. Бартуль.

**IPN BU** — Archiwum Instytutu Pamięci Narodowej w Warszawie. — 00231/228/3, Spis osób figurujących w sprawie, k. 6 (CD, k. 12).

**LCVA** — Lietuvos Centrinis Valstybės Archyvas. — F. 175, Ap. 2(VICa)556, L. 21, Kwestjonarjusz.

## Літаратура


1. А. Б. Памяці Івана Луцкевіча / А. Б. // Студэнцкая думка. — 1929. — № 1(12). — С. 2–4.
2. Аўген Бартуль [Электронны рэсурс] . — Рэжым доступу: https://be- https://be-tarask.wikipedia.org/wiki/%D0%90%D1%9E%D0%B3%D0%B5%D0%BD_%D0%91%D0%B0%D1%80%D1%82%D1%83%D0%BB%D1%8C. — Дата доступу: 12.06.2018 г.
3. Бартуль, А. 25.III.18 — 25.III.28 / А. Бартуль // Студэнцкая думка. — 1928. — № 2. — С. 1.
4. Бартуль, А. Бацькаўшчыне / А. Бартуль // Студэнцкая думка. — 1928. — № 1. — С. 1.
5. Бартуль, А. Князёўна / А. Бартуль. — Мінск, 2017.
6. Бартуль, А. Разаб’ю я ліру маю... / А. Бартуль // Студэнцкая думка. — 1928. — № 3. — С. 16–17.
7. Белая, С. Да роднага ганку / С. Белая. — Мінск, 2009.
8. Бужанскі, А. Недахопы «айцоў» (Аб направе нацыянальнай мэнтальнасьці) / А. Бужанскі // Калосьсе. — 1936. — № 4. С. 244–250.
9. Бужанскі, А. Паэмы Міхася Машары / А. Бужанскі // Калосьсе. — 1937. — № 2. С. 104–108.
10. Галяк, Л. Успаміны / Л. Галяк. — Ч. І. — ЗША, 1982; Ч. 2. — ЗША, 1983.
11. Гісторыя беларускай савецкай літаратуры 1917–1940 / Пад рэд. М. А. Лазарука і А. А. Семяновіча. — Мінск, 1981.
12. Гісторыя беларускай савецкай літаратуры. У 2 т. Т. 1 (1917–1941 гг.). — Мінск, 1964.
13. Глагоўская, Л. Пасьляслоўе / Л. Глагоўская // Paznavajma historyju biełaruskaha narodu / J. Najdziuk. — Biełastok–Inaurocłau, 2010. — С. 295–306.
14. Глагоўская, Л. Язэп Найдзюк — аўтар, выдавец і друкар двух народаў / Л. Глагоўская // Беларуская кніга ў кантэксце сусветнай кніжнай культур: матэр. міжнар. навук.-практ. канф., 7–8 лютага 2006 г., Мінск: у 2 ч.; пад. рэд. Т. А. Дзем’яновіч, Л. І. Доўнар, Т. А. Самайлюк. — Мінск, 2006. — Ч. 1. — С. 135–142.
15. Ильин, А. Приватизированный поэт Евгений Бартуль / А. Ильин [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://brama.brestregion.com/anons/artic03.shtml. — Дата доступа: 12.06.2018.
16. Калосьсе. — 1939. — № 1.
17. Крывіцкія руны: зборнік / уклад., прадм., каментар М. Казлоўскага, С. Панізьніка. — Вып. 2: Беларускі культурны мацярык у Латвіі. — Мінск, 2017.
18. Ліс, А. Літаратура Заходняй Беларусі / А. Ліс // Гісторыя беларускай літаратуры. XX стагоддзе (20–50-я гады) / Пад рэд. М. А. Лазарука і А. А. Семяновіча. — Мінск, 2000. —С. 66–87, 128–152.

19. Ліс, А. Максім Танк: На разломе эпохі // Gloria victis: Збор твораў / А. Ліс. — Мінск, 2010. — С. 213–230.
20. Ліс, А. Мастацкая літаратура Заходняй Беларусі // Gloria victis: Збор твораў / А. Ліс. — Мінск, 2010. — С. 231–284.
21. Родны край. — 1933. — № 10 — 13 мая.
22. Родны край. — 1935. — № 8(60). — 26 крас.
23. Салагуб, А. Літаратурны фронт Заходняй Беларусі / А. Салагуб // Літаратура і мастацтва. — 1932. — 26 лют.
24. Студэнцкая думка. — 1930. — № 2(13).
25. Хроніка // Студэнцкая думка. — 1928. — № 1(8). — С. 30.
26. Хроніка // Студэнцкая думка. — 1928. — № 2(9). — С. 31.
27. Чыгрын, С. Паэт быў духам малады / С. Чыгрын // А. Бартуль. Князёўна. — Мінск, 2017. — С. 3–8.
28. Чыгрын, С. Паэт быў духам малады / С. Чыгрын // Czasopis. — 2017. — № 3. — С. 45–47.
29. Чыгрын, С. Прыгадаем Аўгена Бартуля / С. Чыгрын // Ніва. — 2000. — № 5. — 30 студз. — С. 5.
30. Ad redakcyi // Novaja Varta. — 1931. — № 1. — С. 2–4.
31. Błaszczak, T. Białoruska Korporacja Akademicka «Scorinia» w Wilnie w latach 1831–1934 / T. Błaszczak, P. Tomaszewski // Białoruskie Zeszyty Historyczne. — 2013. — Z. 40.
32. Chronika // Novaja Varta. — 1931. — № 1. — С. 33.
33. Fąferek, K. Ludzie naszego osiedla. Arkadiusz Stefan Machońko / K. Fąferek // Kurier Ogrodowy (Biuletyn Rady Osiedla Ogrody w Poznaniu). — 1999. — № 6 (12). — S. 1–2.
34. Głogowska, H. Białorusini na Wybrzeżu Gdańskim / H. Głogowska. — Toruń, 2003.
35. Głogowska, H. Materiały do historii Białoruskiego Związku Akademickiego (Biełaruskaha Studenckaha Sajuzu) (1921–1939) / H. Głogowska // Pogranicze polsko-litewsko-białoruskie. Źródła historyczne — stan badań; pod red. M. Kietlińskiego. — Białystok, 2003. — S. 142–149.
36. Głogowska, H. Zawikłane losy Eugeniusza Bartula / H. Głogowska // Czasopis. — 2017. — № 6. — S. 36–41; № 7–8. — S. 28–34.
37. Głos Słupski. — № 148 (26.06.1992).
38. Jankowiak, M. Gwary białoruskie na Łotwie w rejonie krasławskim. Studium socjolingwistyczne / M. Jankowiak. — Warszawa, 2009.
39. Krahel, T. Ks. Julian Cimaszkiewicz (1890–1941) / Ks. T. Krahel. — Pobrano z: http://www.bialystok.opoka.org.pl/czas/nr136/art/krahel.htm. — Dostęp: 03.06.2018.
40. Rudzińska-Froelichowa, M. Uwagi nad literaturą białoruską / M. Rudzińska-Froelichowa. — Warszawa, 1936.
41. Żywa encyklopedia grodu na Łebą // Głos Pomorza. — № 64 (20.03.1980). — S. 1.

